АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа

# ТУРАЎСКІ СЛОЎНІК

ТОМ 4

П—Р

Складальнікі
А. А. Крывіцкі, Г. А. Цыхун,
І. Я. Яшкін, П. А. Міхайлаў

МІНСК «НАВУКА І ТЭХНІКА» 1985

ББК 81.2. Бел-4
Т86

Рэдактар
А. А. Крывіцкі

Рэцэнзенты:
І. К. Германовіч, Ф. Д. Клімчук, В. Б. Хацкевіч

**Тураўскі** слоўнік. У 5-ці т. Т. 4/ [Склад. А. А.
Т86 Крывіцкі, Г. А. Цыхун, І. Я. Яшкін, П. А. Міхайлаў].— Мн.: Навука і тэхніка, 1985.— 360 с.

У пер.: 1 р. 60 к.

У чацвёрты том уключаны словы на літары П—Р (4405 арт.). Падаецца, як і ў папярэдніх трох тамах, уся традыцыйная лексіка гаворкі. Слоўнікавыя артыкулы змяшчаюць звычайныя для дыялектных слоўнікаў звесткі аб адпаведных словах, а таксама тэкставыя ілюстрацыі іх ужывання ў мясцовай гаворцы.

Разлічан на моваведаў, фалькларыстаў, этнографаў, работнікаў культуры, аматараў роднай мовы.

**4602020000—153**
**Т ——————— падпісное** **ББК 81.2. Бел -4**
**М316—86**

## АД РЭДАКТАРА

Чацвёрты том слоўніка мае 4405 слоўнікавых артыкулаў. Пры падрыхтоўцы тома былі выкарыстаны ў дадатак да асноўнай картатэкі матэрыялы, сабраныя групай слоўніка ў час знаходжання на Тураўшчыне ў 1982 і 1983 гг. Рукапіс тома прагледзеў М. А. Саскевіч. Ён дадаў да некаторых слоўнікавых артыкулаў ілюстрацыі.

У заключным раздзеле слоўніка змешчан працяг апавядання пра традыцыйны вясельны абрад у в. Пагост у запісе М. А. Саскевіча.

Слоўнікавыя артыкулы распрацавалі на літару П — А. А. Крывіцкі (ПА — ПОГЭТЫЛЯ), Г. А. Цыхун (ПОД — ПОМ'ЯЦЬ), П. А. Міхайлаў (ПОНАБЕГАЦЬ — ПОСІЦЕВЕЦЬ), І. Я. Яшкін (ПОСКІДАЦЬ — ПЯЦЬ), на літару Р — Г. А. Цыхун. Тэксты падрыхтавалі П. А. Міхайлаў і А. А. Крывіцкі. Т. М. Трухан удзельнічала ў падрыхтоўцы тома да здачы ў выдавецтва.

# П

ПА *выкл.* Спаць (пры размове з дзецьмі). *По́йдом па, сыночок.* Запясочча.

ПА́ВА *ж.* Самка паўліна. Запясочча. △ У па́ву. Ткацкі ўзор (на посцілках). *У па́ві.* Сямігосцічы.

ПА́ГОЛІЦЬ *незак.* Вельмі цікавіцца, хацець, вельмі ганяцца. *Шоб вон за дзеўкамі паголіў, то не́.* Старажоўцы.

ПА́ГОНЬ *ж.* Ганенне. *Так і шукае пагоні на себе́!* Крэмна.

ПА́ГУРОК *м.* Пагорак. *Пагуркі торчаць, вода спа́ла.* Луткі. *От этое горы́ да́лей пагурок, урочышчы Ліпкі.* Буразі.

ПАД *м.* Мядовая раса, падзь. *Пад такі паў на ліст солодкі, то пчолы і беруць ёго.* Мачуль.

ПА́ДАНКІ *мн.* Апалыя яблыкі, апад. *Ох, сколько паданок нападало под я́блонею!* Сямігосцічы. *Яблокі паданкі у чыгун да варымо свіньям.* Там жа.

ПА́ДАНЫ *прым.* Апалы (пра яблыкі). *Паданые яблука позбірай.* Хачэнь.

ПА́ДАЦЦА *незак.* Падаць. *Цыганкі цвёрдые, шчэ церэз недзелю будуць падацца.* Луткі.

ПА́ДАЦЬ *незак.* 1. Падаць, абрывацца ўніз. *Глену́ ўніз да ўжэ падаю!* Луткі. *Жар падаў з лучыны.* Кароцічы. *Як рвануў, то мне ані падаць, ані стояць.* Сямігосцічы. 2. Апускацца, сядаць. *Я бачыў, дзе качкі падаюць, шыроке таке озеро.* Сямігосцічы. *Бувае, так квокче квоктуха, да не падае ў кубло.* М. Малешава. *Як отчыню хату, то мухі падаюць, ек у вулей.* Хачэнь. 3. Заходзіць, трапляць. *Весною по тры кілограмы карпу́ у жакі падалі.* Луткі. 4. Ісці, падаць (пра снег, дождж). *Зімою трэ, коб снег падаў.* Луткі. *Дошч як не падае, то не падае, а як почне, то почне!* М. Малешава. *Ну і град, прамо кры́ж'е падало!* Старажоўцы. 5. Хацець да знямогі. *Вам додзе́ло се́дзя весь дзень, а я то падаю сесці, ногі боляць.* Цераб-

лічы. *Хто падае, той ма́е* (прыказка). В. Малешава. 6. Спадаць. *За́ра заліло́ ўсе, а потом падае вода да сухо зробіцца.* Дварэц. 7 *перан.* Здыхаць. *Падаюць тые поросята, шо малы́е да без молока.* Запясочча. △ П а́ д а ц ь н а н о́ г і. Захворваць на ногі. *На ногі свіньня падаюць.* Запясочча. С н е г у в о ч ы н е п а д а е. Пра тое, што яшчэ жыве, не нябожчык. *Нішчо́ ему, старому, слабы́, але ж снег у вочы не падае!* Луткі.

ПАДЗЮ'ЧЫ *прым.* △ П а д з ю ч а б о л е з н ь. Эпілепсія. Альшаны.

ПАДЗЬ *ж.* Падзь, мядовая раса. *Падзь бувае на дубі, бі роса, мед пчолы бэру́ць.* Хотамель.

ПА'ДКІ *прым.* Вельмі ахвочы. *Баба була падка і за грыбамі і за я́годамі.* Луткі. *Сама і дзеці падкі до роботы.* М. Малешава.

ПАДЛІ'НА *ж.* Падла, здыхляціна. *Нехай падліна там лежыць, шоб не воняло.* Дварэц.

ПА'ДЛО *н.* 1. Падла, здыхляціна. *Падло воняе.* Запясочча. *Сало і м'ясо порціцца ў лёсе, падло робіцца.* Хачэнь. 2 *перан.* Абразлівая назва чалавека, жывёліны. *Шо мне старэ тэ падло!* М. Малешава. *Падло, продала́ козу́ негодзяшчу за добру!* Хачэнь. *Падло казалі на корову, коня, шо худэ.* Запясочча.

ПАДЛЮ'КА *ж. груб.* Абразлівая назва чалавека. *Я ей во́кна поб'ю, падлюка подколодная!* Верасніца.

ПА'ДЧОРКА *ж.* Падчарка. *Пачорка мне вона.* Хачэнь. *Му суткі булі ў молоцілцы з тою бацьковою пачоркою.* Там жа.

ПА'ДЧЭРЫЦА, ПА'НЧЭРЫЦА *ж.* Тое ж. *Вона панчэріцу свою оддала замуж.* Хотамель.

ПАЁВА'ЦЬ *незак.* Талаваць, нішчыць. *Гусі паюють на городзі, шкоду робяць, пропалі соткі!* Аздамічы. *Паюють грушу дзеці!* Там жа.

ПАЗ *м.* Паз, вузкае паглыбленне. *Паза́ трэба зробіць бо́льшого, бо вельмо тоўсты́ лес.* Верасніца. *Як повела по шчэцэ, так паз і зробі́уса.* М. Малешава. *Паза́ зробіла корова рогом.* Дварэц. Памянш. п а з о к. *Ла́памі пазкі поробяць медзведзі на дзерэві, як лезуць.* Хачэнь.

ПА'ЗБІШЧЭ, ПА'ЗВІШЧЭ *н.* Паша. *На пазбішчэ пойдзе да обломіць копу́то.* М. Малешава. *Пазвішчэ на той еру́зе.* Мачуль.

ПАЗО'ЛКІ *мн.* Луг пасля мыцця бялізны. *Пазолкі спусцім, выма́ём шма́цье і пе́рым.* Луткі. Попел з-пад лугу. *Попел со жлукта называюць пазолкі.* Луткі.

ПА'ЗОЛЫ *мн.* Попел з-пад лугу. Альпень.

ПА'ЗУР *м.* Кіпцюр. *Лапы у коценят с такімі пазура́мі гострымі.* Луткі.

ПА'ЗУХА *ж.* Вараток, манішка ў сарочцы. *Пазуха у сороццы рошчэпіласа.* Луткі. *У шыпшыны у серэ́дзіне як вошы, як за пазуху закінуць, от свербіць!* Запясочча. *Матка порве пазуху, хаваўшы дзеці, а дзеці порвуць пазуху, хаваўшы от маткі* (прымаўка). Там жа.

ПАЙ *м.* Выбітае, вытаптанае месца (на лузе, у полі і інш.). *Коровы́ стояць! Што там е? Пай, спаёвалі, нема нічого!* Аздамічы. *Мо ужэ пай у сенях куры да свінья зробілі?* Там жа.

ПА'ЙКА *ж.* Доля, частка. *Бо́льша пайка було болото тут.* Луткі. *Трэцю пайку далі мне картошкі з мого участка.* В. Малешава. *На тры пайкі трэ роздзеліць тую рыбу.* Мачуль. *Памянш.* п а́ ё ч к а. *Як умрэ дзіця, то кажуць, што маці паёчку дзіцячу з'ела.* Луткі.

ПАК 1 *часц.* Гэта, вось. *От пак такі вон і не вутрымаў. Чому пак іх досюль немашэка?* Тураў. *От пак смачне!* Цераблічы. 2 *м.* Пук, вязанка. *Кінуў пак голья́, вонэ ж не горыць, вонэ ж сырэ́.* В. Малешава. *Кран пак лесу берэ і грузіць на ба́ржу.* Пагост.

ПА'КАЦЬ *незак.* Пыхкаць. *Седзіць да пакае ту люльку.* Цераблічы.

ПАКЕ'ЛЬНЯ *ж.* Патэльня. *Зовом пакельня, бо пако́м на ёй.* Мачуль.

ПАКОВА'ЦЦА *незак.* Забірацца, улазіць. *Кот у печ пакуецца — холодно́ будзе.* Сямігосцічы. *У зоўзулі кубла́ нема. Дзе хто кубло зробіць, то вона туды пакуецца.* Там жа.

ПАКОВА'ЦЬ *незак.* Пакаваць, напіхваць, набіваць шчыльна. *У коцёл пакуюць бе́рэст з берозы і гоняць дзёгоць.* Пагост. *Вот тобе пара ко́ней, воз, пакуй багаства, сколько тобе нада.* Кароцічы.

ПА'КОСЦЬ *ж.* Паскудства. *Уся́ка пакосць у лесе — і сліман называюць, вон короткі, але то́ўсты.* Луткі.

ПА'КОЦЬ *ж.* Атрэп'е з ільну, пакулле. Хотамель.

ПАКУЛІ'НА *ж.* Валаконца з ільну. *От то́ненько прадзе, по одной пакуліне.* Луткі.

ПА'КУЛЬ *ж.* Атрэп'е з ільну, пакулле. *Пакуль пропадае, за ею ніхто не следзіць.* Дварэц.

ПАЛА'ЦЬ *незак.* 1. Палаць, шугаць. *Дрова палаюць, аж полом'е з печы ў комін!* Луткі. *Аж з рота палае, так куріў!* Альшаны. 2 *перан.* Гарэць, пячы. *Зяць наш лю-*

*біць, шоб як еў, да ў році палало* (ад перцу). М. Малешава. 2. Палаць, веяць у начоўках. *Шоб песку не було, то зерно палалі начбўкамі.* М. Малешава.

ПАЛЕ′Й *ж.* Падпальшчык. *Колісь много було злодзеёў да палеёў. От прыдзе ўночы да цебе запаліць, да згорыць і хата і худоба, усе на свеці.* Старажоўцы.

ПАЛЕ′НІНА *ж.* Апечанае месца на целе. *На руцэ паленіна схопіцца, як опаліш.* Альшаны.

ПАЛЕНІ′ЦА *ж.* Праснак з кіслага цеста. *Знаеш шо, хозяйко, ты мне спечы паленіцу або подпалка, бо ехаць трэба.* Луткі. *Паленіца з цеста. На сковороду лопне, дзіркі наробіць, да паленіца.* Кароцічы.

ПА′ЛЕЦ *м.* 1. Палец. *Чуць-чуць я не отморозіў пальцы.* Тураў. *Колі я ее розрэзала, а ў ее на два пальцы сала!* Пагост. *Загнаў трэску ў палец.* Цераблічы. *Нема нічого пальца колісь обвернуць* (пра беднасць). Луткі. *Одным пальцэм і вузла не завяжэш* (прыказка). Старажоўцы. 2. Выступ, які заходзіць у паз. *У тым колесе косые пальцы* (пра драўляную шасцярню ў млыне). Запясочча. △ І п а́ л е ц н а п а́ л е ц н е п о к л а д з е́. Пра бяздзейнасць чалавека. М. Малешава. П р о б і́ ц ь п а́ л ь ц а н е м о́ ж н о. Пра скапленне людзей. Запясочча. О с т а́ ц ц а о д н о м у́ я к п а́ л е ц. Застацца зусім без родных і блізкіх. Старажоўцы.

ПАЛЕ′ЧНІК *м.* Палец у рукавіцы. *У руковіцы палечніка робяць.* Цераблічы.

ПАЛЁВА′НЬЕ *н.* Паляванне. *Прыеждаў на палёванье у тые лесы́ князь.* Альпень.

ПАЛЁВА′ЦЬ *незак.* Тармазіць калком хвост плыта. *Перэдні дае команду «палюй», то той вускоквае на берэг і чэпляе того колка́ за берэг.* Цераблічы.

Калок утыкаецца пад вуглом у дно або бераг.

ПАЛЁНІК *м.* Абгарэлая бульбіна. *У жар попаў картопель, то й палёнік зробіўса.* Пагост.

ПАЛЁНКА *ж.* Абпаленая цэгла. *Печ з палёнкі не робілі.* Цераблічы.

ПА′ЛІК *м.* Укапаны слупок. Альпень. 2. Завостраны кіёк у дзіцячай гульні *у палікі. Одзін коло паліка́ стоіць, а тые кідаюць палкамі.* В. Малешава.

ПАЛІ′ЦЬ *незак.* 1. Спальваць, разводзіць агонь, запальваць. *Людзі самі палілі свое хоро́мі да ў корчы уцекалі.* Сямігосцічы. *Кугі паляць на рэцэ ку́гошнікі.* Дварэц. *Я ў печы не паліла, госцей я не ждала.* Сямурадцы. 2 *перан.* Прагнуць. *Его па́ліць туды, дзе жонка молодая.*

Верасніца. *Паліць воды на косовіцы, ведро вупій бы!* Аздамічы. 3 *перан.* Ляскаць, страляць. *Покладзе косу на бабку і паліць молотком по ёй.* Сямурадцы. *Шо то таке, што так з вінтовок паляць?* Дварэц.

ПА'ЛКА *ж.* Палка. *Падворушы палкою дрова.* Верасніца. *Ек бусько на кубло носіць палкі, то будзе дождж.* Там жа. △ Петрова палка. Сузор'е Лебедзь. Аздамічы. Палка-застукалка. Дзіцячая гульня. Кароцічы. *Памянш.* па́лочка. Верасніца.

ПА'ЛНУЦЬ, ПА'ЛЬНУЦЬ *зак.* 1. Ляснуць, стрэліць, успыхнуць, бліснуць ярка. *Палні по вороняках!* Дварэц. *Сухіе дрова палнулі дай нема.* Запясочча. 2 *перан.* Уджаліць, секануць, балюча ўдарыць. *Як пальне шэршэнь за голову, то аж голова заболіць!* Бярэжцы. *Як пальнуў його бізуном!* Аздамічы. *Як пальнулі, так і око вон!* Луткі.

ПА'ЛУЗЕНЬ *м.* Апоўзіна. *Почэпляю палузні, да пошлі.* В. Малешава.

ПА'ЛУ'ЗІНА *ж.* Тое ж. *Як озьму эту палузіну да як ошэшэлю!* Луткі. *Палузіна.* Велямічы.

ПА'ЛУЗЬЕ *н. зб.* Апоўзіны. *Палузье положы на стога.* Сямігосцічы.

ПА'ЛЬЧЫКІ *мн.* △ Божа мáці пáльчыкі. Прымула. *Божа маці пальчыкі, воно, як снег сойдзе, цвіце.* Хачэнь.

ПАЛЬЧЫКОВА'ЦЬ *незак.* Вельмі дагаджаць. *Як вон пальчыкуе, годзіць ей!* Цераблічы. *Вона перэд ім пальчыковала, хоцела, коб узяў.* В. Малешава.

ПАЛЮ'ШКА *ж.* Праснак. *Я колісь торбу с палюшкамі беру і іду к цэркві старцам даваць.* Тураў.

ПА'ЛЯ, ПАЛЬ *ж.* Паля, швая, слупок у межавым капцы. *Крэжы у мосце кладуцца на дубовые палі.* Дварэц. *Як чэрпалка копала, то дзерэўяные палі оказаліса под песком.* Пагост. *Коморнік палі ставіў.* Цераблічы. *Поміж чоўноў прыставай, там наша паль, шо лодку прымукаём.* Пагост.

ПАЛЯ'ЦЬ *незак.* 1. Страляць. *Як сталі паляць! Страх!* Луткі. *Воны з наганаў паляюць, а вон у кусты да уцёк.* Верасніца. 2. Сцябаць. *А другому коню паляй, паляй, а вон і не дбае.* В. Малешава. 3. Рэзка і балюча пячы. *От нешчо лезе да паляе ў грудзях.* Дварэц. 4 *перан.* Выкрыкваць недарэчнасці, лаянку, моцна выказвацца. *Што ты паляеш так його?* Тураў.

ПАМЕТА'ЦЬ, ПАМЯТА'ЦЬ *незак.* Памятаць. *Не па-*

*метáю уже, старá.* Запясочча. *Дзед шчэ ніколаеўску войну памятае.* Пагост.

ПАМЕТКІ′ *прым.* З добрай памяццю. *Воны такіе паметкіе, усе добро помняць.* Хачэнь.

ПА′МЕТЛІ′ВУ *прым.* Тое ж. *Вона паметліва нáгле моцно.* Дварэц. *От, бра, паметліва у цебе голова!* В. Малешава.

ПА′МЕЦЬ *ж.* Памяць. *Потому ў памяцé та хвоя, шо вона сілно стрóйна.* Верасніца. *Шчэ за мое пáм'яці було сéмдзесят хаточэк.* В. Малешава. *Вона богато чого знае, таку памець лоўку мае.* Дварэц. △ П р ы ц í к п á м е ц і. Апрытомнець. *Она ледво к памеці прышла, му ўжэ і спужаліса булі.* Азяраны.

ПАМЁНКА *ж.* Памятка. *Беры, будзе памёнка тобе про нас!* Цераблічы.

ПА′МОРОКА *ж.* Абмарачэнне. *Шоб на цебе нашла паморока ека!* Запясочча.

ПАМПУ′ХА *ж.* Поўны чалавек. *От пампуха мордáта!* Лутківі.

ПАМПУХОВА′ТЫ *прым.* Поўны, круглатвары. В. Малешава.

ПАМПУ′ШКА *ж.* Невялікія пшанічныя піражкі з кіслага цеста. *Спёк бу ладку ці млінца, ці пампушку еку.* М. Малешава. *Памянш.* п а м п у ш э ч к а. *У мене цеперэка такіе добрэнькіе пампушэчкі ўдаліса, беленькіе, ек снег.* Кароцічы. *Пампушэчкі попекуць, да як молодую везуць, то сыплюць под ногі, да дзеці збіраюць.* Луткі.

ПАМ'ЯТУ′ШЧЫ *прым.* Памятлівы, з добрай памяццю. *Ганька пам'ятушча, вона ўсе знае.* Альпень. *Я неграмотны, але пам'ятушчы.* Мачуль.

ПАН *м.* 1. Пан. *Ці дома ваш пан господар?* (зварот на шчадрэц). В. Малешава. *Наш пан баран не пускае домоў зарáнь. А пані овечая дзéржыць нас до вечэра. Да ўжэ сонцэ за грýшамі да пускай, пане, з душамі* (з песні). Верасніца. *Прыгожы, ек пан.* Старажоўцы. *Ці пан, ці пропаў, пойду на отчаенносць.* М. Малешава. *Седзіць пан на ганку, корпае ў поганку* (загадка). *Чоловек і люлька* (адгадка). Хачэнь. 2. Нячысцік. Цераблічы. *Памянш.* п á н е й к о. Сямігосцічы.

ПАНЕ′НКА *ж.* 1. Гатунак груш. Луткі. Гатунак яблыкаў. Дварэц. 2. Паненка, маладая пані, панскае дзіця. Хачэнь.

ПАНЕНЯ′ *н.* Вельмі прыгледжанае дзіця. *Кажу:*

*Оленька, на яблуко, а вона смеіцца, бу тое паненя.* Луткі.

ПАНЁНКА *ж.* Тое ж. *Твоя унýка панёнка!* Цераблічы.

ПА'НІ *ж.* Паня, багатая або ўладарная жанчына. *Колісь нейка пані Ю'га ехала, да вукопалі колодезь, і от вода хорóша вельмі там.* Бярэжцы.

ПАНІ'ЦЦА *незак.* Строіць з сябе паню (пана). *Прыехала да шчэ паніцца!* Запясочча.

ПАНІ'Ч *м.* 1. Паніч. *Прышоў паніч да до паненкі.* Хачэнь. 2. Чорт. *Паніч вуходзіць з болота у чорном жупанé з блiскучымі гузáмі.* Луткі. *Той паніч ездзіць на коне убраны, як жэніх.* Бярэжцы. △ У п а н і ч ы. Узор вышывання ў выглядзе чалавечых постацей. Луткі.

ПАНОВА'ЦЬ *незак.* Панаваць. *Шо ёй жыць, она пануе за хозяіном.* Бярэжцы. *Горуй, небожэ, то й бог поможэ, хто горуе, той пануе* (прыказка). Сямігосцічы. *Под обед і ложка пануе* (прыказка). М. Малешава.

ПА'НСКІ, ПА'НСЬКІ, ПА'НЬСКІ *прым.* Панскі. *Двор панскі буў у Бурэзях.* Хачэнь. *Залóз—то буў панські двор, вонэ шчыталосо паньске.* Альгомель. *Попаўса жучку у паньску ручку* (прымаўка). Луткі.

ПАНТАЛЫ'К *м.* △ З б і ц ц а с п а н т а л ы́ к у. Страціць паслядоўнасць у разважаннях, дзеянні. М. Малешава.

ПАНТЫ'КІ *мн.* Апоркі. Запясочча.

ПАНУ'РЫ *прым.* Пануры, змрочны. *Панурая свіньяглыбокі корэнь копае* (прыказка). Мачуль.

ПАНЧО'ХА *ж.* Панчоха. *Як е панчохі, то нема тáпок!* М. Малешава.

ПАНЧО'ШЫШЧЭ *н. пагардл.* Тое ж. *Панчошышча отó, з імі коло коровы ходжу.* М. Малешава.

ПА'НШЧЫНА *ж.* 1. Паншчына, праца на пана пры прыгоне. *Ек ослободзілі от паншчыны, то у Мáлешові було шэснанцаць надзелоў.* В. Малешава. 2. Месца панскай сядзібы. *Там, у Бýрэзях, паншчына, там пан жыў, вельмо там без зав'ёўса.* В. Малешава.

ПА'НЬКАЦЦА *незак.* Цацкацца. *Шо ты панькаесса с этой коровою!* Хачэнь.

ПА'НЮХНА *ж.* *Паня* (пры звароце з павагай). *Панюхно, однэ перэшло на пóплаў!* Сямігосцічы.

ПА'ПА *ж.* Хлеб (у размове з дзецьмі). *Не есі папі, не хочэш, сынок?* В. Малешава. *Не плач, я папу дам.* Запясочча.

ПА-ПА′ *выкл.* Бывай! (пры размове з дзецьмі). *Бабо, па-па, я іду к Веры.* Луткі.

ПА′-ПА′-ПА′ *выкл.* Дзякуй! (пры размове з дзецьмі). *Скажы: па-па-па, дзядзё!* В. Малешава.

ПА′ПКА *ж.* Хлеб (у размове з дзецьмі). *У чужой варэньцы не хлеб, да папка* (прымаўка). Сямігосцічы.

ПА′ПЛЮСКА *ж.* Рабро ў кошыку. Альшаны. Папярэчка ў возе. Запясочча.

ПА′ПОРОЦЕНЬ *ж.* Папараць. Запясочча.

ПА′ПОРОЦЬ *ж.* Тое ж. *Папороць цвіце у мінуту — о туг цвіце і одпаў!* Луткі. *Папороць, кажуць, цвіце сінім цветом, да ніхто не бачыў.* Д.-Гарадок. *Там, дзе папороць, усе зверэ́ збіраюцца на купального Івана.* Пагост. *Гово́раць, шчоб з папароці цвет зорваў, то ўсе б знаў, што куры сокочуць.* Луткі.

ПАПУ′ХА *ж.* 1. Скрутак тытунёвых лістоў. Луткі. 2. Почкі на дрэвах, бутоны кветак. *Вот ужэ начынаюць папухі на лозе набрыня́ць.* Сямігосцічы. *Памянш.* п а п у́ ш к а. *Шчэ наш зяць пару папушок скурыў.* Луткі. *Папушкі набрыняюць на сліўках.* Сямігосцічы.

ПА′РА *ж.* 1. Двое, два. *Пара волоў запрэгалосо.* В. Малешава. *Мо сто пар ве́дзер воды прынесеш у хату да вульеш, штоб тую подлогу помуць!* Хачэнь. *Чорт ее пару знае!* (праклён, пра карову). Там жа. *Бог сіроту любіць, да ему пары не дае* (прымаўка). Старажоўцы. *Була пара ні ў пана, ні ў ца́ра* (прымаўка). Там жа. 2. Вадзяны пар, дух. *Дзеды́ тые парою пітаюцца, што ідзе з горшка* (пра продкаў). Цераблічы. *Вона леціць з усее́ па́ры!* Хачэнь. *Шоб с цебе сырцэ́м пару вуперло!* Запясочча.

ПА′РКА *ж.* Двайны колас, спарыш. Кароцічы.

ПАРНО′ *прысл.* Душна, горача і вільготна. *Парно, ек у мешку!* Мачуль.

ПАРНО′ТА *ж.* Парнасць, гарачыня і вільготнасць. *Була парнота коліся, а мо́шкі було гібель!* Цераблічы. *Там жэ, у том коройніку, парнота, што нема чым дыхаць.* Хачэнь. *После дождж́а бувае парнота.* Цераблічы.

ПАРНЯ′ *ж.* Парня, памяшканне з печчу, дзе гнуць абады, дугі. *У Городку була парня.* Цераблічы. *Закла́дае у ту парню не одну дубіну, а дваццаць.* Там жа.

ПАРОБКОВА′ЦЬ *незак.* Служыць парабкам. *Век свой вон паробковаў.* Бярэжцы.

ПА′РОБОК, ПА′РУБОК *м.* Парабак. *Пасці коровы́*

*наймалі паробка, а бувае і зімуе вон.* Луткі. *Наймічка у попа була, і парубок у его буў.* Пагост.

ПАРОВА'ЦЦА *незак.* Аб'ядноўвацца ў пары. *Як багаты, то багатого шукае, а як бедны, то бедного шукае, так воны паруюцца.* Старажоўцы.

ПАРОВА'ЦЬ *незак.* 1. Быць пад папарам. *Дзе поле паровало, то лу́ччэй родзіць.* Луткі. 2. Знаходзіцца ў парнасці. *Посціскаемса мокрые да паруем там.* Луткі. *Цёплы дождж ідзе, да паруе.* Сямурадцы.

ПАРО'НКІ *мн.* Паронка. *Рэпу неку сеялі, два чугуны напарым да емо дзень, звалі паронкі.* Дварэц.

ПАРО'НЫ, ПА'РЭНЫ *прым.* Параны. *Паронэ молоко піць здоро́ўшэ.* Дварэц. *Парэны квас з яблук.* Там жа.

ПА'РОСТОК *м.* Парастак, адростак. *Вотмолодзь пошла, пень паросткі пусціў.* Запясочча. *Паростка одрэзаў од вазона да посадзіў.* Цераблічы.

ПАРЦІЗА'НШЧЫНА *ж.* Партызанскія атрады, партызанскія падзеі. *Парцізаншчына у нас була ў войну́.* В. Малешава. *Нікого ані не було у селе, усе уцеклі ў парцізаншчыну.* Там жа.

ПА'РЦІЯ *м.* Група, брыгада (рыбакоў, плытнікаў і інш.). Запясочча.

ПАРШ *м.* Струп. *Як му́ляе чо́бот, то па́ршы на ногах робяцца ззаду.* В. Малешава. *Напалі на голоўку ему па́ршы.* Альшаны. *Від рознесло і ўсюды парша́мі пошло од укуса шэршня.* Верасніца.

ПАРШУ'К *м.* Тое ж. *Паршук на носі не сходзіць доўго, помажу ёго ве́рхом.* М. Малешава. *Дзеры, корпай, зробіш паршука́ у носі!* Запясочча. *Свінья у паршукох, чухаецца.* Пагост.

ПАРШУКОВА'ТЫ *прым.* Струпаваты, пакрыты струп'ем, засохлымі болькамі. *Картоплі паршуковатые.* Сямігосцічы. *Ці будзе та паршуковата дзеўка?* Верасніца.

ПАРШЫ'ВУ *прым.* Пакрыты болькамі, струп'ём. *З паршывою головою не лезь у дух* (прыказка). Аздамічы. *У нашое дру́жкі паршывые ручкі, іс кішэні не вуймае, нашых грошэй не прымае* (вясельная прыпеўка). М. Малешава. *Як паршывэ порося, то і ў Петровіцу не нагрэецца* (прыказка). Старажоўцы.

ПАРЫКОВА'ЦЦА *незак.* Знаходзіць сабе пару, сябра, дружбака. *Воны парыкуюцца ўдвоіх.* Луткі.

ПАРЫКОВА'ЦЬ *незак.* Аб'ядноўваць, групаваць па-

рамі. *Як іграюць у карты, то парыкуюць валет з валетом, даму з дамой.* Цераблічы.

ПАРЫ'ЛО *н.* Вятроўнік. *Паріло зацвіло — вужэ́ ў одрыны поўзуць.* Бярэжцы. *Паріло — зелье таке, што змеі его не любяць. Дзе паріло, то там смело бером ягоды. Бук жоўтым цветом росцвітвае на том зелье́.* Пагост. *Парыло клалі у одрыну, чэплялі на сценку, да вужы не лезуць.* М. Малешава. *Парылом засыпаюць рану, як посечэш. Посушаць, да росціраюць, да посыпаюць.* Луткі.

ПА'РЫНА *ж.* Папар. М. Малешава.

ПА'РЫНІНА, ПА'РЭНІНА *ж.* Тое ж. *Поле лепш зародзіць, трэ ў парыніну пусціць.* Аздамічы. *Парэніна.* Кароцічы.

ПА'РЫЦЦА *незак.* 1. Знаходзіцца пад парам. *Надзел не сеяны, парыцца — это парына.* М. Малешава. 2. Прапарвацца. *Полотно парыцца ў жлу́кці, да дзірочку затыкаюць да цэлу ноч так і стоіць.* Запясочча.

ПА'РЫЦЬ *незак.* Парыць, прапарваць. *Проківу парацьот поносу.* М. Малешава. *У нас просо парылі, а хто перэпускаў церэз огонь, шоб сажы не було.* Хачэнь. *Парыць, як у котле!* Запясочча. *Па́раць молоко тому, хто не гож.* Дварэц.

ПАРЫ'ЦЬ *незак.* Зыходзіць парам, цяплом. *Земля парыць послі дождж́у.* Запясочча. *Остала́са одна чэ́ча, а з ее парыць.* Цераблічы.

ПАРЭ'НДЖЫ *мн.* Поручні на мосце. *На парэнджах нейкіе птушкі поселі.* Тураў.

ПАРЭ'ЦЬ *незак.* Знаходзіцца пад папарам. *Поле парэ́е.* Кароцічы.

ПАС *м.* 1. Стужка, пісяг. *Така целушка кра́сна, а посерэ́дзіне белы пас, бы на́меткой абвя́зана.* Луткі. *Вужовые яйца белые, а посерэдзіне пас чырвоны.* Там жа. *Пасо́ў насаджаў на спіну пугою.* Цераблічы. *Па́са продрала ро́гом корове.* Там жа. 2. Доўгі плыт, які складаецца з ланцуга асобных звязак лесу. Хільчыцы.

ПАСА'ТЫ *прым.* Паласаты. *О́кунь пасаты, судак тэж тако́е ма́сці.* Запясочча.

ПА'СВІЦЬ *незак.* Пасці. *Подпасыч ідзе с хаты, ек ко́ней пасвілі.* Цераблічы.

ПА'СВІШЧЭ *н.* Паша. *Жэнуць коровы́ на пасвішчэ.* Луткі.

ПА'СЕКА *ж.* Невялікая купа дрэў або гай у полі

(дубняк, алешнік і інш.). *Пасекі булі по полю, такімі кучугурамі дубу́ рослі. Пасек чотыры було.* Чэрнічы.

ПА'СКА *ж.* 1. Вялікдзень. *Я була у Гомелі перэд паскою.* Запясочча. 2. Святочны пірог. *Паску пекуць у́ місе і свецяць.* Чэрнічы. *Паску пеклі на хмелю і на жыці.* Аздамічы.

ПАСКОВА'ТЫ *прым.* Паласаты. *Булі тут п'я́у́гі такіе пасковатые, на людзей чэпляліса.* Мачуль.

ПАСКУ'ДСТВО *н.* Брыдота. *На огня вонэ е́те мне паскудство!* Запясочча. *Паскуство, кіш з-за стола́!* (на дзяцей). Верасніца.

ПА'СМА *ж.* 30 нітак асновы пры снаванні красён. *По тры ніткі дзесецъ раз — пасма.* Хотамель.

ПА'СМО, ПА'СЬМО *н.* Тое ж. *Бердо е дзесецъ па́сом.* Хотамель. *Тры тро́сці — пасмо.* Бярэжцы. *Пасьмо.* Кароцічы.

ПАСОВА'ТЫ *прым.* Паласаты. *Е чорна, е раба́, е пасовата п'еу́га. Чорна — то конска.* Талмачава. *Уюны пасоватые, ек вужы.* Запясочча. *Бабка белая, е і пасовата.* Цераблічы.

ПА'СОК *м.* Стужка, вузкі пояс. *Споднiцу з паска́мі одзела.* Пагост. *Наметка это до́у́га, ек ручнік, на кончыках паскі.* Запясочча. *У паскі — то дынька.* Аздамічы. *Памянш.* п а́ с о ч о к. Кароцічы.

ПА'СТВА *ж.* Утрыманне статка на пашы. *Эта корова добра і на паству.* М. Малешава. *Покорміу́ гусей екіх ме́сецоу́ тры зімой, а там пусціу́ на паству.* Пагост.

ПА'СТВО *н.* Тое ж. *Нешчасліве вашэ паство — цэлы дзень дождж.* Тураў.

ПАСТУ'Х *м.* Пастух. *Пастухі прышлі вечэрацъ.* М. Малешава. *Свой пастух у Туроу́ського попа буу́ і тры наймочкі.* Дварэц. *Памянш.* п а с т у ш о́ к. М. Малешава.

ПА'СЦВІЦЬ *незак.* Пасвіць. *На поплаву́ гонілі пасцвіць товар.* Тураў. *Колісь товар пасцвіла у́ Ся́драх.* Пагост.

ПА'СЦІ *зак.* Упасці, асесці. *Го́лосом я пала.* Хачэнь. *Дымом пала пчола, да і годзе.* Альпень. *Шоб ты пала і ногі задрала!* (з дзіцячай лічылкі). В. Малешава.

ПАСЦІ' *незак.* Пасвіць. *Эдзік пожэне товар пасці.* Сямігосцічы. *Прося пасла́ коней уно́чы.* Верасніца. *Пасці товар малэ воно, гэто лето хай погуляе.* Луткі.

ПАСЦІ'СА *незак.* Пасвіцца, карміцца на пашы. *Добрэ пасецца товар!* Запясочча. *Пасецца дзве козе́ на*

*болоці.* Луткі. *Попрэ, попрэ пену з рота дзён два, а на трэці дзень пасецца* (пасля ўкусу гадзюкі). Цераблічы.

ПА'СЦІЦЦА *незак.* Пасвіцца. *Не хочэ пасціцца товар.* Запясочча.

ПА'СЦІЦЬ *незак.* Пасвіць. *Му пасом целята з бацьком.* Хачэнь. *Ёй гнаць пасціці.* Запясочча. *Колісь коні пасцілі чэргамі.* Верасніца.

ПА'СЦІШЧЭ *н.* Паша. *Вугон, таке пасцішчэ, е у нас.* В. Малешава.

ПАСЦЮ'ШКА *ж.* Доўгая пуга. Тураў.

ПАСЫНКОВА'ЦЬ *незак.* Пасынкаваць. *Пасынковала свое помідоры.* Кароцічы.

ПА'СЫНОК *м.* Парастак. *Коб пасынкоў на капусці не було, то бо́льша голоўка була б.* М. Малешава. *Раз пусціў пасынок, ужэ вусохне* (пра ясень). Сямігосцічы. *От, бра, пасынок! Будзе пара лапцей, правіна́ без сука́, без нічого!* Запясочча. Адростак рога ў ляся. *Налічыў колько пасынкоў у венку ў лося? П'яць?* Альшаны. 2. Пасынак, няродны сын. *Ее пасынок буў у го́родзі.* Запясочча. 3. Падстаўка пад слуп. *У нас цепер стоўбў на дзерэўяных пасынках поробілі.* Цераблічы. *Памянш.* пасыночок. Хачэнь.

ПА'ТЛЫ *мн. груб.* Непрыбраныя доўгія валасы. *Прыберы́ патлы, а то лецяць усю́доюю.* Верасніца.

ПА'ТОЧ ж. Моль, маленькія чарвячкі. *Паточ поела пшэніцу.* Кароцічы.

ПА'ТРЫ *мн.* Пацеркі. *Патрі большы́е, ясные, с тоненького шкла.* Альшаны.

ПАТО'ЛЕЯ *ж.* Патоля, палёгка, вольнасць. *Думала, шо сын прыедзе да дасць некую патолею, ра́ду моей жытцы.* Верасніца.

ПА'ТОШЫЦЬ *незак.* Знішчаць, руйнаваць. *Патошаць куры огород.* М. Малешава.

ПАУ'К, ПАВУ'К *м.* Павук. *Як паука затро́шчыш і па́уць порвеш, то голова будзе болець* (павер'е). Луткі.

ПАУЦІ'НЬЕ, ПАВУЦІ'НЬЕ *н.* Павуціннe. *Поздымай тэ павуціньe, а то сором людзей.* Верасніца.

ПА'УЦЬ, ПА'ВУЦЬ *ж.* Тое ж. *Пауць у вокнах позаводзіласа.* Хачэнь. *Не было б паукоў — не було б і пауці.* Цераблічы. *Павуці у клубі у кожном вугле.* М. Малешава.

ПА'УЦЬЕ, ПА'ВУЦЬЕ *н.* Тое ж. *Павуцьем замуровалі окна паукі.* Тураў.

ПА'ЎЗІНЫ *мн., адз. паўзіна.* Апоўзіны на стозе, на страсе. *На стóга трэба паўзіны прыкласці, шоб вецёр не рознёс сено.* Запясочча. *Як звезаў дубцэ́, то пара — одна паўзіна.* Цераблічы.

ПА'ЎЗЬЕ *н. зб.* Тое ж. *На стога восем пар паўзья вешаюць.* Цераблічы.

ПАХ *м.* Пах. *Кажны́ грыб свой пах мае.* Запясочча. *Для пáху грэчка мне хорóша.* В. Малешава.

ПАХА'ЦЬ *незак.* Разводзіць, сеяць, атрымліваць. *Горох не пашэмо мы.* Старажоўцы. *Нідзе больш не пахалі меду, як у Кóлках.* Луткі. *Дýрнеў не сеюць, не пашуць, а воны сáмі ростуць.* Цераблічы.

ПАХВА' *ж.* Пахвіна. *Под пахвою села нека могула.* Тураў.

ПАХВО' *н.* Тое ж. *Лось чорны-чорны, а пахвá белые.* Хачэнь.

ПА'ХКАЦЬ *незак.* Пыхкаць (пра курэнне). *Хлопцу петнатцэць год, а вон пахкае!* Мачуль.

ПА'ХМУРНЫ *прым.* Хмарны. *А ў пахмурны дзень не йдуць пчолы.* Луткі.

ПА'ХМУРОК *м.* Воблака (летам у добрую пагоду). *Ходзяць пахмуркі по небу.* Буразі.

ПА'ХНУЦЬ *незак.* Пахнуць. *Пахлі так яблука, шчо хто поўз хату ідзе, кажэ: дзеду, у цебе яблука пахнуць.* Хачэнь. *Тэ сало, то вонэ гусíма і пахне.* Сямурадцы. *Недалеко село — варэнікі пахнуць* (прымаўка). Аздамічы.

ПАХНЮ'ЧЫ *прым.* Пахучы. *Полы́нь пахнючы.* Пагост.

ПАХО'ЛОК *м.* Парабак. Кароцічы.

ПАХОЦЕ'ЦЬ *незак.* Моцна пахнуць. *Пахоціць у хаці духамі!* В. Малешава.

ПА'ХОЦЬ *ж.* 1. Ворная зямля. *Колько у його сенокосу, колько пахоті!* Альпень. 2. Вялікі пах. *Тые олéі пахоць!* Запясочча.

ПАХУ'ЧЫ *прым.* Пахучы. *Вы мо любіце, то вонэ вам пахучэ, а мне воняе.* Луткі. △ П а х у ч ы п л е ш н і к. Аір. Хачэнь.

ПА'ХЦІ *незак.* Пахнуць. *Ужэ начынае пахці, а пахне воно лоўко увéчор* (пра мацыёлу). Старажоўцы.

ПАЦ *м.* Пацук. *Пацы́ под подлогою пікаюць, с кота на велічы́нкі.* Цераблічы. *У мене сцéну проелі пацы.* Хачэнь. *А кот пáца боіцца.* Пагост. *Пацы́ і крысы е: тые сíвуе, а тые чорные.* Старажоўцы.

ПАЦАНЕ'Ц *м.* Хлапец. *Этые дзеці, пацанцы́, лазяць.* Запясочча.

ПА'ЦЕЖ, ПАЦЕЧ *ж.* Прамывіна ў лёдзе на стрыжні ракі. Альпень. *Пацеч.* Альшаны.

ПАЦЕРКІ', ПАЦЁРКІ *мн.* Пацеркі, бусы. *Пацеркі.* Альпень. *Пацёркі.* Мачуль.

ПА'ЦКАЦЦА *незак.* Пэцкацца. *Буду я тут з імі пацкацца!* В. Малешава.

ПА'ЦНУЦЦА *зак.* Стукнуцца, трэснуцца. *Едзе аўтобус, да як пацнецца у вёрбу!* В. Малешава.

ПА'ЦНУЦЬ *зак.* Трэснуць, ляснуць. *Шоб не пацнулі, то закрывалі окна.* В. Малешава.

ПАЦУ'К *м.* Пацук. *Дзе пацук у под попадзе́, там мыша́м места не будзе.* В. Малешава. *Спіш, спіш да прокінесса, то мокры, бы пацук.* Цераблічы. *У мене пацукі е, шо кот не возме.* Старажоўцы. *Памянш.* п а ц у ч о́ к. Хачэнь.

ПАЦУЧЭНЯ' *н.* Пацучаня. *Вукінуў кубло пацукоў, і пацучэнята ўжэ е.* В. Малешава.

ПА'ЧКА *ж.* Група, груд. *І мене прымі ў пачку.* Цераблічы. *Развелі́са зноў пачкамі чэрві.* Дварэц. *То гэта зберэцца тая пачка коло мага́зіна да п'юць.* В. Малешава.

ПА'ША, ПА'ЖА *ж.* Трава на папасе. *На попасі на том пашы цепер!* Запясочча. *Коро́ві сена давалі, а пашы не давалі.* Дварэц. *Гусі ўжэ не по́йдуць на пашу, як іх хлебом кормі́.* Хачэнь. *А чому ж такая у іх паша росце, бу сеянка?* Луткі. *После кашы нема другое пашы* (прыказка, каша — заключная страва на стале). Пагост. *Па́жа.* Рубель.

ПАШНІ'ЦА *ж.* Збожжа. *Дзе корогод ходзіць, там жыто ро́дзіць, і жыто, і пшоніца, і ўсякая пашніца* (з песні). Верасніца.

ПАШНЯ' *ж.* Тое ж. *Рабочэ урэм'е за́рэ — будуць убіраць пашню́.* Мачуль. *Одноє́ю зарэ пашнею жывуць коровы́!* Луткі. *Лу́ччэй пашня будзе на шчы́ж'е.* Альшаны. *Пашня — і ярэ і озімэ.* Запясочча.

ПЕ'ВЕНЬ *м.* 1. Певень. *Певень коло курэй колесу́е.* Старажоўцы. *От змалку певень дзёўбне́, то пот старосць очу́чыцца* (прымаўка). Бярэжцы. *Под вечор певень стане пець — на ліху́ по́ру* (прыкмета). Луткі. *Як молодые пеўне́ пеюць, так і попоў паробок выспіцца* (прымаўка). Аздамічы. *Родзіўса пророк із белых косто́к, як стаў пророковаць, сталі людзі ўставаць* (загадка). *Певень* (адгад-

ка). Хачэнь. 2. След (трэшчына) на тонкім лёдзе ад удару. *Ек ударыш доўбешкою, то на льду схапваюцца пеўне́.* Верасніца. *Памянш.* п е́ ў н і к. *Ку́ра вувела дзве курочкі і пеўніка.* Хачэнь. *Як урэжэшса об лёд, то кажуць: пеўнік схопіўса.* Мачуль.

ПЕЙСА′ТЫ *прым. пагардл.* Валасаты. *Пейса́тые етые студзенты прыехалі.* М. Малешава.

ПЕЙСА′ХА *ж. пагардл.* Жанчына з непрыбранымі валасамі. Пагост.

ПЕЙСА′Ч, ПЕЙСМА′Ч *м. пагардл.* Хлопец з доўгімі валасамі. *Подбегло трох пейсачоў да за нашы су́мочкі!* В. Малешава. *Этых пейсмачоў я не хочу́ браць у хату.* Там жа.

ПЕ′ЙСЫ *мн. пагардл.* Доўгія валасы. *За пейсы хлопца отцягаў.* Запясочча. *Молодые зарэ пейсы носяць.* Хотамель.

ПЕ′КАНКА *ж.* Печаная на вуголлі рыба. Запясочча.

ПЕ′КАР *м.* Дзіцячая гульня. Кароцічы.

ПЕ′КАЦЦА *незак.* Петаваца, мець вялікія і цяжкія турботы. Сямурадцы.

ПЕ′КІВО *н.* Выпяканне. *Хлеб свого пеківа.* В. Малешава.

ПЕ′КЛІ′ЦА *мн.* Прыстасаванне для вялення ўюноў у печы (на кастры). *Такія пекліца робілі, кладуць меткі, ек на дробіну.* Лутکі. *Пеклі́ца.* Верасніца.

*Пекліца* — дзве падстаўкі з зарэзамі, на якія клаліся папярэчкі з нанізанымі ўюнамі.

ПЕ′КЛО *н.* 1. Пекла. *Ці я ў раю на краю, ці ў пекле посередзіне* (прымаўка). Пагост. 2. Паўкруг каля кону пры дзіцячай гульні ў чорта. В. Малешава.

ПЕ′КНУЦЬ *зак.* Ударыць, грукнуць, ляснуць, сцёбнуць. *Конь як пекнуў во́ўка копу́том!* М. Малешава. *Пекнула по голове ковене́й і ўсе!* Луткі. *По палцы серпом ек пекну!* Верасніца. *Пекне ножа ў грудзі, і рука не задрожыць!* В. Малешава. *Бувае, як пекне у кого гром!* Альшаны. *Як пекну з руж'я, то зара́з п'яць вутоў!* Мачуль.

ПЕ′КУН *м.* Кулік. *Як седзіць у болоці пекун, то пое: «Штэ́ку-штэку-штэку».* Мачуль. *Той пекун рэмжэ, рэмжэ да і ўніз.* Альпень.

ПЕ′КУР *м.* Тое ж. *Пекур жыве на болоці, несе только дзве ейцэ́.* Пагост.

ПЕКУ′ЧЫ *прым.* Пякучы. *Пекуча жыжка, печэцца моцно.* Луткі.

ПЕКУЧЫ′ *дзеепрысл.* Пекучы. *Свечку змазала, ладкі пекучы.* Бярэжцы.

ПЕКЦІ′ *незак.* 1. Пячы, гатаваць. *Цяпер ужэ вувелі тую моду коровай пекці.* Хачэнь. *Ладкі пеком на сыро́водцы.* Луткі. *Печы еешню, зяць прыехаў!* М. Малешава. *Нема Пушка́* (сабака), *трэ оладкі пекці на помінкі* (жарт). В. Малешава. 2. Пячы, паліць, прыпякаць. *Печэ мороз огнем!* Запясочча. *Ето ж пекціме ёд!* Там жа. *Шчо печэ без жары́ны?* (загадка). *Со́нцэ* (адгадка). Бярэжцы. 3 *перан.* Страляць. *Воны пекуць, пекуць, тые немцы, а му голосім!* Рычоў. *З пулемётоў пекуць, то хату не проб'е, му под ла́вою седзелі!* Сямурадцы. 4 *перан.* Моцна прагнуць. *Мене печэ туды, гвалт!* Запясочча. *Печэ воды!* Аздамічы.

ПЕКЦІ′СА *незак.* 1. Пячыся, гатавацца. *Окром печэцца коровай.* Луткі. 2. Пячыся, балюча паліць. *Шо не печэцца, то глуха́ проківа.* Любавічы. *Як печэцца на серцы, то так і кажуць: печэцца.* В. Малешава.

ПЕЛЕМІ′ЦА *ж.* Вялікая хустка. Альшаны.

ПЕ′ЛЕНА *ж.* Прыпол. *Пошлі ро́су собіраць упора́ну у пелену* (жарт). Запясочча. *Набрала поўну пелену яблук.* Луткі. *Насыпала ей у пелену конопель.* Хачэнь. △ Узяць пелену ў зубы. Стаць дарослай дзяўчынай. *Ты ужэ не мала́я, от зарэ возмеш пелену ў зубы!* Луткі.

ПЕЛЕНІ′ЦА *ж.* Праснак. *Еслі е каменіцы, то ужэ будуць і пеленіцы.* Сямурадцы.

ПЕЛЁНКА *ж.* Пялёнка. *У пелёнкі сповіваюць дзіця.* Аздамічы.

ПЕ′ЛЬКА *ж.* 1. Палонка. Пагост. 2. Уваход у жак або ў кош. Аздамічы. 3. Вульва. Альпень.

ПЕЛЮ′ТКА, ПЕЛЮ′СТКА *ж.* 1. Палавіна качана, гарбуза. *Пелютку гарбу́зы зварыла.* Дварэц. *Цэлу пелютку ў печ садзімо гарбу́зы с корою. Она спечэцца, таке лоўке.* Луткі. *Порэжэ качаны наполам, то пелюткі.* Цераблічы. 2. Вульва. Луткі. 3. Ягадзіца. *У пелютку далі́ ўкола.* М. Малешава. *Пелю́стка.* Чэрнічы.

ПЕ′НА *ж.* Пена. *Прышоў домой под пеною, так уцекаў.* В. Малешава. *Молоча́й такі молоды, ек пена!* М. Малешава.

П'ЕНЕ′ЗНЫ *прым.* Вельмі п'яны. *Прыця́гса поздно, а п'енезны!* Пагост.

ПЕ′НІЦЦА *незак. метаф.* Злавацца, кіпець, гарачыцца. *Шо ты пенісса!* Аздамічы.

ПЕ′НІЦЬ *незак.* Пускаць пену, брацца пенаю. *Пеніць масло, нехорóшэ.* Запясочча. *Корова з'ела место, то плохо, пеніц.* Там жа.

П'ЕНКІ′ *прым.* Хмельны. *П'енке піво, як коўтні, то п'яны зробішса.* Хачэнь.

ПЕ′НТАХ *м.* Дзіця, якое злуецца, кіпіць. Аздамічы.

ПЕ′НЦІК, ПЕ′НЬЦІК *м.* Божая кароўка. *Это — сонейко. У нас шчэ кажуць на ёго пеньцік, ці колóда.* Рыдча. *Пéнцік.* Запясочча.

ПЕ′НЧЫК *м.* Хвосцік у яблыку, грушы. *Оторвецца яблуко, то й пенчыка нема.* Луткі.

ПЕНЬ *м.* 1. Пень. *Пень этой ужэ зогніў.* В. Малешава. *Шчо говорыце пню, шчо ему* (пра глухога). Луткі. *Нема сем'е — одзін, як пень.* Старажоўцы. *Пока выкорчоваў пень, то пройшоў дзень* (прымаўка). Сямігосцічы. *Даў бог душу — ні ў пень, ні ў грушу* (прымаўка). Старажоўцы. 2 Дрэва (пры ўліку). *Поломалосо п'яць пней сліў.* Хачэнь. *Осталóса тры пне яблука.* Кароцічы. *І шчэ я помню, багато на том полі стояло пней саду.* Хачэнь. △ Глухі пень. Глухмень. *Глухі пень, а чому? Бо вон без голья.* Верасніца. На пні. Не ўбраны. *Мое коноплі на пні.* Луткі. *Стоіць шчэ на пні уся збожынá.* Запясочча. *Памянш.* пянёк, пенёчок. *Сяду на пенёчку, напраду на сорочку, вуведу нітку вороб'ю на світку* (з песні). Сямігосцічы.

П'ЕНЮ′ГА *м. зневаж.* П'яніца. *От зобраліса ўжэ п'енюгі коло магáзіна!* Запясочча. △ П'енюга без свéту. Безнадзейны алкаголік. *То ж буў п'енюга без свету, не було дня, коб буў цверозы.* Хачэнь.

П'ЕНЮ′ЖНО *н. груб.* Тое ж. *От яке п'енюжно ты!* М. Малешава.

П'ЕНЮ′ШЧЫ *прым.* Вельмі п'яны. *Прыехаў дзед п'енюшчы і поўеўса у косікі!* Цераблічы.

ПЕ′НЯ *м.* і *ж.* Гарачы, запальны чалавек. Аздамічы.

ПЕ-ПЕ′ *выкл.* Фэ, фу. *Пе-пе, гідота умурзана!* Старажоўцы.

ПЕ′ПЕНКА, ПЕ′ПЕЛЬКА *ж.* Пепінка (сорт яблыкаў). *Натрусі госцям пепенок.* Верасніца. *Пéпелька.* Дварэц.

ПЕ′ПЛЕЦЦА *незак.* Паволі рабіць. *Пеплесса ты коло тоé верэнькі!* Мачуль.

ПЕ′ПЛІЦЬ *незак.* Марудзіць. Мачуль.

ПЕРВА′К *м.* Пяршак. *Чырвону мохомору ў первак*

*і закопаць проці порога на дзевець дней, то для націраня добрэ.* Сямурадцы.

ПЕРВА′Ч *м.* Тое ж. *Это, тато, первач, не смех!* Луткі.

ПЕРВОЦЁЛКА *ж.* Карова першым цялём. Запясочча.

ПЕ′РВУ *прым.* Першы. *Я от цебе чую первы раз.* Цераблічы. *Мне первому участок далі.* В. Малешава. *Коля як-бутто первi віхóдзіў?* М. Малешава. *У нас жэ кінуў бомбу ў село, перву, перву!* Пагост. *Памянш.* п é р в е н ь к і. Там жа.

ПЕРГА′ *ж.* Перхаць. *Змувалі і чэсалі ее, ту пергу, лучаем змувалі.* Хачэнь.

ПЕ′РГОЦЬ *ж.* Тое ж. Хачэнь.

ПЕ′Р'Е *н.* 1. Пярына. *У пер'е завернула дзецей.* М. Малешава. *Робілі пер'я колісь одзеваццa.* Луткі. 2 *зб.* Пер'е цыбулі. *То шчо, вона пер'е ела?* Хачэнь.

ПЕ′РКА *ж.* Лекавая лясная расліна. Альшаны.

ПЕРКАЛЁВУ *прым.* Паркалёвы. *Наволочкі перкалёвуе дзеруцца.* Сямурадцы.

ПЕРКАЛЁЎКА, ПЕРКЕЛЁЎКА *ж.* Жаночая сорочка з тонкага палатна (звычайна з вышываннем). *А я свою перкалёўку положыла і не ношу.* Верасніца. *Перкелёўка.* Пагост.

ПЕ′РКА′ЛЬ *м.* Паркаль. *Пéркаль белый, а сіцец цветовáтый.* Запясочча. *То вона нам ужэ, эта цётка, шыла с перкáлю такее мешэчкі на пальцы. Да так і прадом.* Хачэнь.

ПЕРКАЛЮ′ХА *ж.* Жаночая сарочка з тонкага палатна (звычайна з вышываннем). *Перкалюха — сорочка така колісьня.* Верасніца.

ПЕ′РНІК *м.* 1. Пернік. *Пернікі пеклі дзéцям на веселы.* М. Малешава. 2. Перапляценне на перакрыжаваннях абручоў у кошыку (гняздо для рэбраў). *Кошэль мае дужку, рэбра, пернікі.* Дварэц. 3. Скрутачак з пяра цыбулі. *Дзеці коліся робілі пернікі с цыбулі.* М. Малешава. △ У п е р н і к і. Ткацкі ўзор. *У пернікі е перэтыканье.* Запясочча. *Памянш.* п е р н і ч о к. Запясочча.

ПЕРО′ *н.* 1. Лапатка ў вясле. Запясочча. 2. Перыстая трава. *Петрó накосіў колеснік сена, одно перо!* 3 *мн.* Плаўнікі ў рыбы. *Пера навек торчаць, як бегае кожушок.* Кароцічы. *Я ў рыбу пера отрэзваю.* Тураў. *Памянш.* п é р ц э. Сямігосцічы.

ПЕ'РСЦЕНЬ *м.* Пярсцёнак. *Персцень з очком.* Альшаны. *У нас тут выкопвалі персні.* Пагост.

ПЕРСЦЕ'Ц *м.* Яма на тарфянішчы пасля пажару. Велямічы.

ПЕРСЦЁНОК *м.* Пярсцёнак. Луткі.

ПЕ'РСЦІ *мн.*, ПЕРСЦЬ *ж.* Грудзі, грудныя мышцы. *Малы́ хамут персці натрэ.* Верасніца. *Як опар, у персця́х коню проколвалі, заволо́ку робілі.* Дварэц. *Под персця́мі ў паршука́ свербіць, хочэ почухацца.* Пагост. *Персць у коня, дзе роздзеляецца грудзь.* Запясочча.

ПЕРУ'Н *м.* Нячысцік. *Перун поцвельвае Ілью: «Ты мене не уб'еш, я под грэшного чоловека схава́юса». Ілья Пророк кажэ: «Грэхі ему, тому чоловеку, прошчаюцца, а я цебе усе раўно уб'ю».* Бярэжцы.

Расказваюць, што *перуна́* ўвесь час імкнецца знішчыць Ілья-прарок. Ён стараецца дастаць яго маланкай. Таму куды сягае маланка, там хаваецца *перу́н.* Бярэжцы.

ПЕ'РЦІ *незак.* 1. Несці цяжкае. *Перла ношку сена, цэлу копіцу!* Бярэжцы. 2 *неадабр.* Прыходзіць. *Толькі роспрануласа — ужэ чорт іх прэ!* М. Малешава.

ПЕ'РЦІСА *незак.* Ісці напрамік, напралом, нахабна. *Куды вон прэцца!* Запясочча. *Прамо прэцца воўк к ко́ням.* Дварэц. *Прэцца, коб наперо́д ступіць.* Аздамічы.

ПЕРЧЫКОВА'ЦЬ *незак.* Перчыць, класці перац у страву. *Перчыкуйце супчык!* В. Малешава.

ПЕРШ *прысл.* Перш, спачатку. *Перш кажуць пойдуць, а пото́м не йдуць.* Запясочча. *Перш потрэбовай, а потом уцекаеш.* М. Малешава. *Тобе перш трэбо хату полепіць.* Сямурадцы. *Перш буў пошоў у парцізаны, а далей у армію.* Бярэжцы.

ПЕРША'К *м.* Пяршак. Запясочча.

ПЕРША'ЧКА *ж.* Карова першым цялём. *Першачка у мене цепер.* Крэмна.

ПЕРШ-НА'ПЕРШ *прысл.* У першую чаргу. *Перш-наперш хлеб трэба.* Аздамічы. *Шчэ перш-наперш пошла туда, да седзіць там хорошы такі грыб!* Хачэнь.

ПЕРШОБУ'ТНІК *м.* Старажытны чалавек. *Першые колішніе людзі — так зовуцца першобутнікі.* Хачэнь. *Як вода, то людзі жывуць, як першобутнікі.* Сямурадцы.

ПЕРШОБУ'ТНЫ *прым.* Старажытны, даўні. *Дурные ко́лісь булі першобутные людзі, дзень і ноч робілі.* Пагост.

ПЕ'РШЫ *прым.* Першы. *Побá, Саша першы з'еў.* Сямурадцы.

ПЕ'РШЭ *прысл.* Перш, першы раз. *Першэ бачу ёго.* Запясочча. *Пеленае першэ баба пупорэзна.* М. Малешава.

ПЕРЫ'НА *ж.* Асобнае пяро. Сямурадцы. *Памянш.* п е р ы́ н к а. *Дае ему перынку цыбулі* (з казкі). Сямурадцы.

ПЕРЫ'НЫ *мн.* Пярыны. *Цыганчáта лежаць у перынах.* Верасніца. *І собе перын наробіла і мацеры.* Хачэнь.

ПЕ'РЫЦЬ *незак.* Біць, лупцаваць. *Мой хлóпец шчэ боіцца мене. Іншы раз так отпéру его, шо аж просіцца.* Верасніца.

ПЕРЭБЕГА'ЦЬ *незак.* Перабягаць, пераходзіць. *Там воны перэбегаюць, сáмэ іх перэбеганье у Дубрóву.* Луткі.

ПЕРЭБЕ'ГЦІ *зак.* 1. Перабегчы ў іншае месца. *Корова ў другé стадо перэбегла, там бугай.* Пагост. 2. Перасячы бягом. *Чорны кот перэбег дорогу, коб ёго ліхо!* Пагост. 3. Прайсці хутка. *Перэбег дождж, да хоць пул прыбіў.* Пагост.

ПЕРЭБЕ'ЖЧЫК *м.* Той, хто пакінуў адну жонку і пайшоў да другой. Запясочча.

ПЕРЭБІВА'НЬЕ *н.* Каласы, саломка, што змяталі з вымалачанага зерня. *Перэбіванье білі поціхоньку!* Хачэнь.

ПЕРЭБІВА'ЦЬ *незак.* 1. Перабіваць у гаворцы. *Не перэбівай, зара докажу, тоды і ты.* Пагост. 2. Абабіваць яшчэ раз. *Б'е лён, да только ёго трóшчыць, то перэбіваю.* Пагост.

ПЕРЭБІ'РАНКА *ж.* Дзяруга, якую ткалі ўдзвюх, набіраючы складаны і прыгожы ўзор. *Вуткала я перэбіранку, да ее узелі на вустоўку.* М. Малешава. *Перэбіранку ў тры ніты ткуць.* Верасніца. *Ткала я і перэбіранкі, тые дзеругі, цветамі разнымі.* Сямігосцічы.

ПЕРЭБІРА'ЦЬ *незак.* 1. Перабіраць. *Перэбіраць гуркі — воны, а полоць не зналі!* Сямігосцічы. 2. Набіраць складаны ўзор уручную пры тканні. *Булі скацерцé тканые у цветы, палочкамі перэбіраюць, як ткуць.* Луткі.

ПЕРЭБІ'ЦЬ *зак.* 1. Перабіць, пераламаць ударам. *Упала з вýшок да руку перэбіла.* Запясочча. *Вон перэбіў одэтты перэнóсье ложкою дзерэўянною.* Пагост. 2. Перабіць, выбіць пыл. *Трэ пóсцель перэбіць, і скоро спаць.*

Дварэц. 3. Абстукаць. *Дохтур мене узяў перэбіў усю!* Аздамічы.

ПЕРЭБО'Й *м.* Падарункі ад кумоў у час хрысцін. *Кум перэд кумом на перэбой ідзе, ек б'юць кашу.* М. Малешава.

ПЕРЭБО'Р *м.* Перабіранне. *За перэбор бог дае боль* (прымаўка). Старажоўцы. *Куколь і метліца — перэбор пшэніца* (прымаўка). Хачэнь.

ПЕРЭБО'РА *м.* Зяць, які перабраўся жыць ад сваіх бацькоў да жончыных. *Ежэлі пожыве ў бáцька і перэбраўса, то кажуць: перэбора.* Альшаны.

ПЕРЭ'БОРДЗЬ, ПЕРЭ'БОРЦЬ *ж.* Драўніна з чаргаваннем здаровых і гнілых праслоек. *Перэбордзь—сітоватэ дзерэво.* Бярэжцы. *Перэборць — хвоя, е местамі слое смолные і порохнявуе, помешана смольнэ і оболона у ей.* Сямурадцы.

ПЕРЭБОРСА'ЦЬ *зак.* Перабарсаць. *Перэборсаем лапці да зноў пошлі.* Луткі.

ПЕРЭБРА'НЕЦ *м.* Перасяленец. *Перэбранец—той, шо перэбрáўса з жонкою жыць у нашэ село.* Луткі.

ПЕРЭБРА'ЦЦА *зак.* Перабрацца. *Вáлы такіе, шо не перэберэсса!* (пра пакосы). Хачэнь. *Швагер перэбраўса у его хату.* Дварэц.

ПЕРЭБРА'ЦЬ *зак.* 1. Моцна забраць (пра хваробу). *Жывот перэбрало ее, вона і есці не можэ.* Хачэнь. *Ек перэберэ́, то кажэцца, хоць у ледóўню!* (пра малярыю). Верасніца. 2. Забраць да сябе ад іншага. *Вона перэбрала на себе усю віну.* Цераблічы. 3. Забраць і перавезці. *Дохтор зробіў хату да перэбраў чэшчу дай жывуць.* Запясочча. 4. Узяць больш чым трэба. *Торгóўшчыца перэбрала дваццаць капéёк.* Бярэжцы.

ПЕРЭБРО'ДЗІ'ЦЬ *незак.* Перабрыдаць, пераходзіць уброд. *Тамака буў перэмéл, тамака перэбрóдзяць.* Хачэнь. *Ву рэчку перэбрóдзілі?* М. Малешава.

ПЕРЭБРУСЦІ' *зак.* Перабрысці, перайсці ўброд. *Рэка мелкая, ее можно перэбрусці.* М. Малешава. *Перэбрудзе і ловае рыбу у тых корчах.* Луткі. *От тут глубоко, шо й не перэбрудом.* Тураў.

ПЕРЭБУВА'ЦЬ 1 *незак.* Перажываць, жыць больш за іншага. *Як з ім жыць да его перэбуваць, то лýччэй я сама.* Луткі. 2 *зак.* Перабыць, прабыць многаму чаму. *А ўжэ перэбувало ўсёго!* Бярэжцы.

ПЕРЭБУРЫ'ЦЬ *зак.* Перастаць моцна, з вялікай сі-

лай дзьмуць (пра вецер). *Буў буран, да перэбурыло.* Луткі. *Перэбурыць вецёр да зноў холод.* Сямурадцы.

ПЕРЭБУ'ЦЦА *зак.* Абысціся, пражыць. *Жонку не продасі, трэба так перэбуцца.* Цераблічы. *Дома перэбудзецца, а ў дорогу трэ усе хорошчэ браць.* М. Малешава.

ПЕРЭБУ'ЦЬ *зак.* Пералжыць, закончыць знаходжанне ў пэўных абставінах. *Ешчо там перэбула тыждзень.* Бярэжцы. *Прынесом в'язку сена, два дні перэбудом.* Там жа. *Ходзём да перэбудом тэ буракі да одчэпімса.* Луткі.

ПЕРЭВА'БІЦЬ *зак.* Перавабіць, прывабіць іншым. Бярэжцы.

ПЕРЭВА'РАНЫ *прым.* Кіпячоны. *У вагоні вода перэварана.* Луткі. *Воды не давалі не перэварэнае.* Мачуль.

ПЕРЭВА'РВАЦЬ *незак.* Кіпяціць, ператорліваць. *А гэтой воск ужэ перэварваеш опослі.* Дварэц.

ПЕРЭВАРЫ'ЦЬ *зак.* Перакіпяціць, ператапіць. *Перэварымо воду, то вона трошкі інача.* Луткі.

ПЕРЭВЕЗЦІ' *зак.* Перавезці. *Одам, перэвезі мене на ту сторону, то поймаеш рыбіну.* Луткі. *А ў чым я цебе перэвезу? Моя лодка у вірку.* М. Малешава.

ПЕРЭВЕРНУ'ЦЦА *зак.* Перавярнуцца, абярнуцца, перакуліцца. *Бацько і сын перэвернуліс і потâлі.* Сямігосцічы. *Не садзіцеса на борт, бо перэвернецца лодка.* Запясочча.

ПЕРЭВЕРНУ'ЦЬ *зак.* 1. Перавярнуць, перакуліць. *Чорненьке, маленьке, хоч еку колоду перэверне* (загадка). *Блоха* (адгадка). Луткі. 2. Перадаць. *Гэту усадзьбу перэвернулі дзецям.* М. Малешава.

ПЕРЭВЕРЦЕ'НЬ *м.* Заверцень у санях. Аздамічы.

ПЕРЭВЕ'СІЦЬ *зак.* Перавесіць. *Чорны кот перэвесіў хвост церэз плот* (загадка). *Гарбуза* (адгадка). Запясочча.

ПЕРЭ'ВЕСЛО *н.* Перавясла, жгут з саломы для звязвання збажыны ў сноп. *На ярыну робілі перэвесла.* Хачэнь. *Перэвесло круцяць да в'яжуць лён.* Запясочча. *Памянш.* п е р э в е с л е ч к о. *Снопок перэвеслечком заўязаны.* Хотамель.

ПЕРЭВЕСЦІ' *зак.* 1. Перавесці. *Перэведзі дзіця церэс вуліцу, а то вонэ гусей боіцца.* Пагост. 2. Знішчыць, зрабіць так, каб не было. *Голдун стараецца корову перэвесці. Вон можэ молоко одобраць, а можэ корова здох-*

*ці.* Аздамічы. *Перэвелі чоловека такого хорошого!* М. Малешава.

ПЕРЭВЕСЦІ'СА *зак.* Перастаць вадзіцца, прапасці, памерці. *Як перэведзе́цца чоловек, то сеюць ма́ком могілу, шчоб вон не ходзіў домоў.* М. Малешава.

ПЕРЭВІВА'ЦЬ *незак.* Пераверчваць. *Перэвівала рану чыстым бінтом.* Пагост.

ПЕРЭ'ВІТКА *ж.* Скручаны дубец, якім перавязваюць калы́ ў прасле. Луткі.

ПЕРЭ'ВІТОК *м.* Тое ж. Кароцічы.

ПЕРЭВІ'ЦЬ *зак.* Перавіць. *Нехто поглуміў рэмезо́, то перэвіла́ птаха і жыве.* Пагост.

ПЕРЭВО'ДЗІНЫ *мн.* Адно з вясельных застолляў. *Одно старшы сват спраўляе перэводзіны.* Луткі. *Перэводзіны после весельня.* Альпень.

ПЕРЭВО'ДЗІЦЬ *незак.* Пераводзіць. *Дзіцяя саме́ церэз вуліцу не пускай, перэводзь.* Пагост.

ПЕРЭВО'ДЫ *мн.* Адно з вясельных застолляў. *На трэці дзень перэводы роб'яць.* Запясочча. *Перэводы на четво́рты дзень, ік хросной мацер ішлі.* Верасніца.

ПЕРЭВО'З *м.* Перавоз, месца на рацэ, дзе перавозяць. *Тут только перэвоз буў, там лодкі стоялі.* Запясочча.

ПЕРЭВО'ЗІЦЬ *незак.* Перавозіць. *Перэвозімо сено з-за рэкі ло́дкамі, а до хаты — возка́мі.* Пагост.

ПЕРЭВОЗІ'ЦЬ *зак.* Перавазіць, закончыць вазіць. *Перэвозілі усю солому у колхозны двор.* Пагост.

ПЕРЭВО'ЗНІК *м.* Перавозчык. Запясочча.

ПЕРЭ'ВОРОЦЕНЬ *н.* Чалавек, які змяніў погляды, веру. *Перэвороцень — буў праваслаўны, а стаў католік.* Альпень.

ПЕРЭГАРТОВА'НЫ *дзеепрым.* Перапалены. *Гладышка перэгартована.* Верасніца.

ПЕРЭГАРТОВА'ЦЬ *зак.* Перапаліць. Верасніца.

ПЕРЭГЛЕДЗЕ'ЦЬ *зак.* Агледзець. *Врач мене перэгледзеў.* Аздамічы.

ПЕРЭГНА'ЦЬ *зак.* 1. Перагнаць (з аднаго месца ў другое). *Худо́бу эту перэгене́м на той бок.* М. Малешава. 2. Перагнаць (гонячы звыш меры). *Перэгнаць коня можно, колі так будзеш гнаць.* Луткі. 3. Перабіць, прагнаць (пра якую-небудзь ахвоту). *Под'есці не под'еў, а голод перэгнаў.* Запясочча.

ПЕРЭГОВОРА'ЦЬ *незак.* Пераказваць. *Перэговора́юць, шчо як буў молоды, то трам понёс.* Дварэц. *То*

*есць некоторые, шо й перэговораюць мене.* Там жа. *Шоб не перэговоралі, што скупая, не дала.* Чэрнічы.

ПЕРЭГОВО'РВАЦЦА *незак.* Перагаворвацца. *Перэговорваюцца удвох, як гусі.* Пагост.

ПЕРЭГОВО'РШЧЫК *м.* Перакладчык. *Вон жэ перэговоршчыком буў пры тых немцах.* Цераблічы.

ПЕРЭГОВОРЫ'ЦЬ *зак.* 1. Абгаварыць. *Жыто поехалі молоціць, да перэрывайса с тым обедом, шчоб не перэговорылі бáбу!* Дварэц. 2. Перамагчы ў гаворцы, загаварыць. *Вон кого хоч перэговорыць, езык доўгі.* Пагост.

ПЕРЭГОМІ'ЦЦА *зак.* Супакоіцца, перастаць. *Ані-ні на часіночку не перэгомілосо на тройцу.* Цераблічы. *Було трохі перэгомілосо, а зарэ зноў дождж.* Запясочча. *Е такі, шо перэгоміцца некоторое урэм'е і не п'е.* Старажоўцы.

ПЕРЭГО'Н *м.* 1. Тое, што застаецца пасля перагонкі. *Вон на тракторы перэгон возіць.* Запясочча. *Перэгон даюць свіньям.* Чэрнічы. *Перэгон з горэлкі робяць.* М. Малешава. 2. Перыяд (пра дождж). *Цэлы дзень дождж перэгонамі ідзе да годзі.* В. Малешава.

ПЕРЭГОРА'ЦЬ *незак.* Перагараць, страўляцца. *У вўтву перэгорае ўсе як бач!* Пагост.

ПЕРЭГОРО'ДЖВАЦЬ *незак.* Перагароджваць. *Перэгороджваем одрыну праслом.* Сямігосцічы. *Колісь не перэгороджвалі хáты.* Верасніца.

ПЕРЭГОРО'ДЖЭНЫ *дзеепрым.* Перагароджаны. *Хлеў перэгороджэны.* Дварэц.

ПЕРЭГОРОДЗІ'ЦЬ *зак.* Перагарадзіць. *Недзе там Прыпець перэгородзілі, ворóта для ее зарэ малы́е* (пра разлівы). В. Малешава.

ПЕРЭГОРЭ'ЦЬ *зак.* 1. Перагарэць. *Перэгорэў лес, то земля, ек іней, ступіць не можно!* Хачэнь. 2. Адцвісці (пра агуркі). *Гуркі перэгорэлі, да ужэ будуць гуркі.* Цераблічы.

ПЕРЭГРЫМЕ'ЦЬ *зак.* Адбыцца грымотам. *Хрэн до грому копалі, а ўжэ як перэгрыміць, то ўжэ вон крэпосці не мае.* Запясочча.

ПЕРЭГУ'КВАЦЦА *незак.* Абменьвацца крыкамі ў лесе. *Жонкі перэгукваюцца ў лесі.* Цераблічы.

ПЕРЭГУ'СНУЦЬ *зак.* Стаць густой звыш меры. *Перэгусла та нефць у канаві.* В. Малешава.

ПЕ'РЭД 1 *м.* Перад. *Корова перэд ведзе і вона з звонком.* Запясочча. *По самом перэдў ечмень спее.* Ста-

ражоўцы. 2 *прыназ.* *Перэд ногі летають коты, бо прывуклі к свежому молоку.* М. Малешава. *Назбіраемо пўру остопкоў, да запалім, да скачом перэд огонь.* Пагост. *Перэд рукамі поўзае жаба.* Луткі. *Перэд ліхом не ўмўдрышса* (прымаўка). Запясочча.

ПЕРЭДАВА'ЦЬ *незак.* Перадаваць. *Як у дзверы несуць небожчыка, то хмель у хату сыплюць і хлеб перэдають.* Хачэнь.

ПЕРЭДА'ЦЦА *зак.* Перабрацца. *Ужэ дзед перэдаўса на грудок.* Кароцічы. *Перэдадўцца як-небудзь озёрамі.* Дварэц. *Не можно було перэдацца з-за Прыпеці.* Сямігосцічы.

ПЕРЭДА'ЦЬ *зак.* 1. Перадаць (пераслаць, зрабіць перадачу). *Я ў суд перэдам.* Запясочча. 2. Даць звыш меры. *Соды перэдала трохі, то млінцы неўкусные.* Хачэнь.

ПЕРЭДЗЕРЖА'ЦЬ *зак.* Ператрымаць. *Коб летось, то перэдзержалі б, а цепер не перэдзе́ржымо* (пра дзвюх кароў). М. Малешава.

ПЕРЭ'ДЗІСТЫ *прым.* З магутным перадам. *А перэдзісты такі воўк!* Запясочча.

ПЕРЭДНЁВА'ЦЬ, ПЕРЭДНОВА'ЦЬ *зак.* Пераднявацць. *Яка та жызня — перэночуеш да перэднюеш!* Сямурадцы. *Перэднюй на той заедзі, то нічого не хочэш.* Там жа. *Перэночоваў, перэдноваў і пошоў на пором.* Чэрнічы.

ПЕРЭ'ДНІ *прым.* Пярэдні. *Перэдня хата прыбрана.* Луткі.

ПЕРЭ'ДОЙКА *ж.* Карова-ялаўка. *Перэдойка ў одного чоловека два гóды не доіласа.* Верасніца. *Не погуляла, то перэдойкою була.* М. Малешава.

ПЕРЭДО'К *м.* Пярэдняя частка. *У перэдок садзіліса мушчыны, а бáбу — ззадзі.* Верасніца. *Свінячые перэдкі до чобóт.* Запясочча.

ПЕРЭДО'Л *м.* Даліна. *Перэдолом поехаў.* Аздамічы.

ПЕРЭДОСТА'ЦЦА *зак.* Перабрацца, пераправіцца. *Трэ перэдостацца чэрэз Сцвігу.* Запясочча.

ПЕРЭДПЕ'ЧНЫ *прым.* Які перад печчу. *Перэдпечне окно просто печы.* Запясочча.

ПЕРЭДЫ'Х *м.* Перадышка. *По прокосу вумахаемо, перэдых зробімо.* Пагост.

ПЕРЭЕ'ДА *ж.* 1. Нерваванне. *Нашчо мне гэта перэеда з ею? Мне трэ спокойна жытка.* Хачэнь. 2. Той, хто

нервуе, раздражняе. *Докуль ты мене будзеш перэедаць, перэеда?* Пагост. 3. Абжора. *Ета перэеда топчэ у себе, покуль лезе.* Пагост.

ПЕРЭЕДА′ЦЦА *незак.* Нерваваццa, нерваваць адзін аднаго, злаваць, раздражняць. *А вона перэедаецца з ей.* М. Малешава. *Як пойці за этого п'яніцу да перэедацца, то луччэй самой жыць.* Сямурадцы.

ПЕРЭЕДА′ЦЬ *незак.* 1. Нерваваць, раздражняць, злаваць. *Заўсёгды гэты месец, шчо пройшоў, навек гнóіць усе, перэедае людзей.* Хачэнь. *Не перэедай сэрцэ, не цвелі.* Бярэжцы. 2. Раз'ядаць, разбураць. *Ведро цынковое і то перэедае.* Бярэжцы.

ПЕРЭЕ′ДЛІВУ *прым.* Нервовы, раздражняльны, злосны. *Вона була перэедліва, сердзіта!* Верасніца.

ПЕРЭЕЖДА′ЦЬ *незак.* Пераязджаць. *Перэеждаў чэрэз рэ́ку да ўтопіўса.* Запясочча.

ПЕРЭЕ′СЦІ *зак.* 1. Раз'есці, растварыць. *М'ясо трэбо, шоб ёго соль перэела.* Сямурадцы. 2. Перагрызці. *Воўк этые жылы у коня ззаду у нозе перэесць.* Бярэжцы. 3. Крыху з'есці, перакусіць. *Іванко, ідзі перэеж на дорогу.* В. Малешава. *Вона дала мне дзве яблучка і хлеба перэесці.* Старажоўцы.

ПЕРЭЕ′СЦІСА *зак.* Перанервавацца. *У больніцы так перэеласа — людзі крычаць да тэ, да се!* Луткі.

ПЕРЭЕ′ХАЦЬ *зак.* Пераехаць. *С Парэбрóд перэехало людзей много!* Хотамель. *Лоткою перэехала доліну, а там пешкі пошла.* М. Малешава.

ПЕРЭЖО′ЎВАЦЬ *незак.* Пеpажоўваць. *Корова стоіць і жуйку перэжоўвае.* Цераблічы.

ПЕРЭЖЫВА′ЦЬ *незак.* Перажываць. *От перэжывалі, ужэ коб не бачыць этого!* Пагост.

ПЕРЭЖЫ′ТКА *ж.* Перажыванне. *Вон дзіця мое ні нáвочы, так незлюбіў. Шо було перэжыткі!* М. Малешава.

ПЕРЭЖЫ′ТОЧНО *прысл.* Цяжка, хвалюючa. *Трэці раз жэ́нiцца, перэжыточно ўсе гэто.* М. Малешава.

ПЕРЭЖЫ′ТЫ *дзеепрым.* Такі, які шмат перажыў. *Я чоловек пережыты, мого бáцька забралі тогды!* М. Малешава. *Вельмі перэжыта баба.* Запясочча.

ПЕРЭЖЫ′ЦЦА *зак.* Пеpажыць, перанесці. *Усёго перэжылóсо — і добрá і ерунды.* Старажоўцы.

ПЕРЭЖЫ′ЦЬ *зак.* Перажыць. *Як перэжывом этэ, то остáномса жывые.* Пагост.

ПЕРЭЗІМОВА′ЦЬ *зак.* Перажыць зіму. *Перэзімо-*

*вала она ў нас, побула она от осені до весны.* Кароцічы.

ПЕРЭЗО′Ў *м.* Гасціны ў хроснага бацькі пасля вяселля. Пагост.

ПЕРЭЗ'Я′НКА *ж.* Дружка маладой на вяселлі. *За дзеўкою, то перэз'янкі.* Цераблічы.

ПЕРЭЙМА′ЦЬ *незак.* Пераймаць. *Хлопчыкі, ідзіце перэйміце мое коровы́.* Луткі. *Весе́льніка дадуць тым, шо перэймаюць.* В. Малешава. *Бач, курэнята ўжэ перэймае.* Дварэц.

ПЕРЭЙНА′ЧЫЦЦА *зак.* Зрабіцца інакшым. *Усе перэйначылосо ўжэ.* Бярэжцы.

ПЕРЭЙЦІ′ *зак.* Перайсці. *А вецёр, шо не можно мо́ста перэйці!* Дварэц. *Перэйці доліну, а там і лес.* Луткі. Прамінуць. *Мо месец перэйшло, прыходзіць зноў.* Дварэц. *Петнаццаць годоў перэйшло, не ведала, дзе сестра.* Там жа. *Жысць провесці — не поле перэйці* (прымаўка). В. Малешава. Абысці. *У Малешове усіх бабо́ў перэйшоў.* М. Малешава.

ПЕРЭЙЦІ′СА *зак.* Перавесціся. *Яблука за дзве недзелі перэ́йдуцца.* Дварэц. Перакасіцца. *Дзверы перэйшліса, не хочуць зачыняцца.* Альшаны.

ПЕРЭКАЗА′ЦЬ *зак.* 1. Передаць у спадчыну. *Перэкажэ сыну ўсе.* Запясочча. 2. Пераказаць, назваць у пэўным парадку. *Дзед наперэчот перэказаў тэ сёла.* Хачэнь.

ПЕРЭКА′ЗВАНЬЕ *н.* Пераказ. *С перэказванья старых людзей во́змеце.* Запясочча.

ПЕРЭКА′ЗВАЦЬ *незак.* 1. Перадаваць у спадчыну. Пагост. 2. Перадаваць словамі. *Ну, ужэ ж перэказвайце замову, хай воны спішуць.* Сямурадцы.

ПЕРЭКІДА′ЦЦА *незак.* Куляцца, перакульвацца. *Вербовіе дубі перэкідаюцца, як вецёр.* Сямігосцічы. *Дзеці перэкідаюцца на траве.* Запясочча. *Думала, чорна ку́ра перэкідаецца, думала, машына зарэзала.* Луткі. Перакочвацца. *Доліна така, бачымо, нешчо перэкідаецца.* Луткі. Кульгаць. *Ішла да перэкідаласа, да звалі ее гуска.* Дварэц. Пераўвасабляцца. *У нас расказвалі, шчо буў одзін да перэкінуўса во́ўком, а пото́м другі чоловек знайшоў у гумне заты́каны нож да вунеў его, да той не мог перэкінуцца, бо хвост оставаўса, бувало, ў штаны ледзь утопчэ той хвост.* Луткі. Перабівацца. *Трэба ж жыць, трэба ж перэкідацца мо як.* М. Малешава. Пераварочвацца. *У мене богато перэкі-*

*далосо людзей у хаці.* Луткі. *Там много перэкідаецца людзей, там усе чужые.* Старажоўцы.

ПЕРЭ'КІДКА *ж.* Ход у дзіцячай гульні ў камянцы. Сямігосцічы.

ПЕРЭ'КІДОМ *прысл.* Кумільгам. *Носок удырыўса у баржу, да ўсе перэкідом, і лотка ўверх дном.* В. Малешава.

ПЕРЭ'КІДЫ *мн.* Ход у дзіцячай гульні ў класы (кіданне каробачкі цераз сябе). Запясочча.

ПЕРЭКІ'НУЦЦА *зак.* 1. Перакуліцца. *Воз перэкінуўса.* Запясочча. *Перэкінулосо гусеня да меле ногамі.* Цераблічы. *У нас одзін перэкінуўса з лодкі ў воду і потаў.* Сямурадцы. 2 *перан.* Змяніцца. *Колькі іх, уласцей, перэкінулосо за мою памецьǃ* Мачуль. △ П е р э к і н у ц ц а б у с ь к а (б у с ь к о м). Перакуліцца цераз галаву. *Як прылетае бусько, то это ж радосць, дзеці перэкідаюцца буська.* Сямігосцічы.

ПЕРЭКІ'НУЦЬ *зак.* 1. Перакуліць. *О, шчо вы робіце, мене перэкінецеǃ* Кароцічы. 2. Перакінуць. *А вон узяў да перэкінуў церэз курэнь.* Бярэжцы.

ПЕРЭ'КЛАД *м.* 1. Кладзь на сохах (у пабудове) або перакладзіна на сошках (над кастром). Запясочча. 2. Два палены пад кладкай дроў у печы. *Як на перэклад кладзеш, то скоро загорацца дрова.* Дварэц. *Под перэкладом ложаць лучыну і поттопваюць.* Луткі.

ПЕРЭКЛАДА'ЦЬ *незак.* Перакладаць, перамяшчаць. *Ты не перакладай грошы?* Пагост. *Обернуўса стог од ветру, то перекладаёмо.* Там жа.

ПЕРЭКЛЕ'ТКА *ж.* Перагародка паміж клеткамі. *У голове е много перэклеток, а ў іх мозгі.* Запясочча.

ПЕРЭКЛЕ'ЦЬ *ж.* Перадклецце, шырокі ганак з навесам перад дзвярамі ў клець. *Посядом на перэклець да поём, дзесець ці дванаццаць дзевок посядуць.* В. Малешава.

ПЕРЭКЛУ'БІЦЦА *зак.* Схіліцца набок, апусціцца адным бокам. *Ужэ перэклубілас машына на дорозі.* Аздамічы.

ПЕРЭКЛУ'БІЦЬ *зак.* Скрывіць у адзін бок, зрабіць аднабокім, крывым. *На старосць перэклубіць і перэкорчыць.* Сямігосцічы.

ПЕРЭКЛЯ'ЦЬБІЦЦА *зак.* Перабраць меру ў клятвах. *Перэкляцьбіласа, шо еле ходзіць.* М. Малешава.

ПЕРЭКОНА'ЦЦА *зак.* Пераканацца, упэўніцца. *Я ўжо перэконаласа, шчо прайда.* Сямігосцічы.

ПЕРЭКОПА'ЦЬ *зак.* Перакапаць, перарэзаць канавай. *Старáя рэка есць, але перэкопалі прамікá.* В. Малешава.

ПЕРЭКРА'СЦІ *зак.* Украсці ўкрадзенае. *Одзін украдзе, а другі перэкрáдзе ў його!* Верасніца.

ПЕРЭКРО'ПЛІВАЦЬ *незак.* Апырскваць яшчэ раз. *Шчэ трэба перэкроплівацъ тых жукóў.* В. Малешава.

ПЕРЭ'КРУТ *м.* Завіток на крута спрадзеных нітках. Альпень.

ПЕРЭКРЫВА'ЦЬ *незак.* 1. Перакрываць, мяняць пакрыццё страхі. *Перэкрывáціму хату, бо крыша од войны шчэ, да погнілá.* Пагост. 2. Перакрываць, загароджваць праезд, цячэнне. *Шлюзом перэкрываюць Сцвігу, да ўжэ пускаюць моль, да вона плуве за водою.* Пагост.

ПЕРЭКРЫ'ЦЬ *зак.* 1. Перакрыць, замяніць пакрыццё страхі. *Перэкрыў хату шыфером да холодней стала.* Пагост. 2. Перакрыць, загарадзіць праезд, цячэнне. *Перэкрылі канаву, шоб вода вýшэй подняласа.* Пагост.

ПЕРЭКРЭ'СНЫ *прым.* Перакрыжаваны. *Ідзі, ідзі, то будзе перэкрэсна дорога.* Сямігосцічы.

ПЕРЭКРЭ'СТОК *м.* Перакрыжаванне. *Перэкрэсток — бойкая мéсціна.* Тураў.

ПЕРЭКУ'ЛЬВАЦЦА *незак.* Перакульвацца. *Малыé крычаць, перэкульваюцца, ек первы раз бачаць бýська.* Луткі.

ПЕРЭЛА'З *м.* Пералаз у плоце (з прыступкамі з двух бакоў). *Ступеньку зробіў церэз перэлаз.* Аздамічы. *Чого на колкі лезці, перэлаз же е.* Пагост.

ПЕРЭЛА'ЗНІК *м.* Тое ж. Запясочча.

ПЕРЭЛЕ'ЖАНЫ *прым.* Пералежаны, пакінуты пад папар (пра поле). М. Малешава.

ПЕРЭЛЕЖА'ЦЬ *зак.* Сапсавацца пры вылежванні. *Перэлежалі яблука, трухлые зробіліса.* Пагост.

ПЕРЭЛЕКА'ЦЦА *зак.* Перапалохацца. Хільчыцы.

ПЕРЭЛЕКА'ЦЬ *зак.* Перапалохаць. *Колісь мэне пэрэлекаў войк.* Рубель.

ПЕРЭЛЕ'ТОВАЦЬ *зак.* Пражыць год. *Мо шчэ перэлетую.* Аздамічы.

ПЕРЭЛІВА'ЦЦА *незак.* Пераліваецца, мяняць інтэнсіўнасць, колер. *Ек плам'е перэліваецца, мігáе у вочах.* В. Малешава. *Я прышла, горэло, перэлівалосо, так вот горыць, горыць і больш, і больш і больш!* Бярэжцы.

ПЕРЭЛІВА'ЦЬ *незак.* 1. Пераліваць, выліваць з ад-

ной пасудзіны ў другую. *Перэліваю молоко з гладышо́к у пляшкі, на сено во́зьмемо.* Пагост. 2. Пераліць, наліць звыш меры. *Шо ты не бачыш, шо перэліваеш, ужэ чэчэ́.* Пагост.

ПЕРЭЛІ'ЎКІ *мн.* △ Не перэліўкі. Не паласа, нічога добрага не чакай. *Я церэбіў, церэбіў, а далей бачу — не перэліўкі, трэба канчаць!* М. Малешава.

ПЕРЭЛІ'ЦЬ *зак.* Пераліць. *Не лі больш, а то перэльеш.* Пагост.

ПЕРЭЛО'ГА, ПЕРЭЛО'ГІ *мн.* Ліхаманка (часцей у праклёнах і іншых зваротах як выказ нежадання, злосці і г. д.). *Перэлогі ўзелі корову!* Лутқі. *На перэлогу вона мне!* Тураў. *Перэлога іх знае!* Запясочча. *Ліха вашэй мацер, да ека вам там перэлога зробіласа?* Верасніца. *Еко́е перэлогі вам у такі дождж рыбу ловіць!* Пагост. *Шоб цебе перэлогі з'елі!* М. Малешава. *Бало, ек перэлогі, то тры дні чоловек побудзе да ўмірае.* Запясочча.

ПЕРЭЛО'ЖНЫ *прым.* Хворы на ліхаманку (і як абраза). *Ее чоловек перэложны.* Верасніца. *Усюды свою перэложну мусу усадзіць!* Бярэжцы. *От перэложна това́рына коза! Цягае этэ бодылье, а траву не есць.* Хачэнь.

ПЕРЭЛОЖЫ'ЦЬ *зак.* Пакласці звыш меры. *Оддалі коня друго́му, а вон на ёго перэложыў.* Рэмель.

ПЕРЭЛО'М *м.* Пералом. *От боліць на перэломі моя нога!* Старажоўцы.

ПЕРЭЛОМА'ЦЬ *зак.* 1. Паламаць на часткі. *Об колено перэломай да ў гру́бу.* Пагост. 2. Паламаць усё. *Перэломала тых го́лок на етой машыні колько!* Пагост.

ПЕРЭМЕ'Л *м.* Мель на рацэ. *Ідзі тудою, там перэмел.* Хачэнь. *Перэмел — ідзе мелко, а дзе вір, круча, там глыбо́ко.* Там жа. *На перэмел ходзё́м, там помелело, мелко.* Бярэжцы. *Там перэмел буў, перэброджвалі по колені.* Лутқі.

ПЕРЭМЕ'НА *ж.* Перамена, змяненне. *Пое́ певень з ве́чора — будзе перэмена погоды* (прыкмета). Лутқі. *Оставілі на перэмену пару соро́чок, а ўсе закопалі.* Там жа. *Голова на перэмену погоды боліць.* В. Малешава. *Сонцэ купаецца разнымі перэменамі — і сіне зробіцца і вішнёвеньке.* Там жа.

ПЕРЭМЕНІ'ЦЬ *зак.* Змяніць. *Я свое мовы не перэменю.* Дварэц. *Я перэменіў патроны.* Мачуль.

ПЕРЭМЕНІ'ЦЦА *зак.* Перамяніць, змяніць. *Добрэ й перэменіцца дзе, а ему не ложы нішчо ў чамадан!* Луткі.

ПЕРЭМЕ'НКА *ж.* Змена, змяненне. *Будзе перэменка нека, пеўне пелі, як смеркало.* Пагост. *Нідзе не зосталосо ні трапочкі, ні перэменкі, згорэло.* Сямурадцы.

ПЕРЭМЕ'НЬВАЦЦА *незак.* Падменьваць. *Му торбу с хлебом несом да і то перэменьваемса сто раз.* Запясочча. Змяняцца. *Перэменьваецца погода.* Аздамічы.

ПЕРЭМЕНЯ'ЦЬ *зак.* Змяняць. *Вон умее голос перэменяць.* Запясочча.

ПЕРЭМЕША'ЦЬ *зак.* Перашкодзіць. *Вон перэмешаў тому стрэльцў стрэліць.* Верасніца.

ПЕРЭМЛЕ'ЦЬ *зак. метаф.* Моцна напалохацца. *Старые людзі булі прамо перэмлелі от тое тучы!* Старажоўцы.

ПЕРЭМНО'ЖВАЦЬ *незак.* Пераўвялічваць. *Не перэмножвай ты нічого, у меру трэ казаць.* Сямурадцы.

ПЕРЭМОГЦІ' *зак.* Перамагчы. *Як фашысты ні біліса, а рускі Іван перэмог.* Азяраны.

ПЕРЭМОЛОДЗЕ'ЦЬ *зак.* Амаладзіцца. *Коб я перэмолодзела, то б я й ночовала на полі.* Сямігосцічы.

ПЕРЭМО'ТА *ж.* Памылка пры снаванні кроснаў. *Снуёш і на одзін колóк два раз положыш, то гэто перэмота.* Луткі.

ПЕРЭМО'ТЫ *мн.* Перапляценне передка ў санях. Запясочча.

ПЕРЭМО'ЎВАЦЦА *незак.* Перамаўляцца. *Перэмоўваюцца нішком однэ з другім.* М. Малешава.

ПЕРЭМО'ЦІЦА *ж.* Памылка пры снаванні кроснаў. М. Малешава.

ПЕРЭМУВА'ЦЬ *незак.* Перамываць. *Перэмувалі му у той хаці.* Кароцічы.

ПЕРЭМУ'ЛІЦЬ *зак.* Перамацаць. *На колéнах усе перэмуліла, перэмацала на подлозі.* Хачэнь.

ПЕРЭМУ'ТЫ *дзеепрым.* Перамыты. *Буракі чыстые, ні зеліны, як перэмутые!* В. Малешава.

ПЕРЭМУЦІ'ЦЦА *зак.* Перахварэць на панос пасля адкідання ад маткі (пра парасят). *Як перэмуцяцца поросята, станyць правіцца.* Хільчыцы.

ПЕРЭМУ'ЦЬ *зак.* Перамыць. *Перэмула посуд кропом.* Пагост.

ПЕРЭНЕСЦІ' *зак.* Перанесці. *Мо вéцёр перэнесе дождж.* Хачэнь.

ПЕРЭНОСІ'ЦЬ *незак.* Пераносіць. *Віхор перэносіць сено церэз рэку.* Верасніца.

ПЕРЭНО'СЧЫК *м.* Пераносчык, пляткар. *Шчэ інсціітут кончыў, а слухае ды перэказвае, шчо бабі говораць, перэношчык!* Сямігосцічы.

ПЕРЭНО'СЬЕ *н.* Пераносіца. *Ох, еке сіне перэносье!* М. Малешава. *Да руж'ем як дзеўбенўў у перэносье!* Верасніца.

ПЕРЭНОЧОВА'ЦЬ *зак.* Пераначаваць. *Перэночуем, то больш почуем!* (прыказка). Запясочча.

ПЕРЭНЯ'ЦЬ *зак.* Пераняць, завярнуць. *Стары побачыў да перэняў курэня.* Дварэц. *Бежы перэймі і гоні іх у хлеў.* Кароцічы.

ПЕРЭОБУВА'ЦЦА *незак.* Пераабувацца. *Сеў бацько перэобувацца у сухе.* Цераблічы.

ПЕРЭОБУ'ЦЦА *зак.* Пераабуцца. *Трэба перэобуцца, чоботы процекаюць.* Пагост.

ПЕРЭОДЗЕНУ'ЦЦА *зак.* Перамяніць адзенне. *Чэргу пасціў, памочыўса да перэодзенуўса.* Хачэнь.

ПЕРЭОДОЛЯ'ЦЬ *незак.* Пераадольваць. *Перэодоляюць цепер жонкі мушчын больш.* Альшаны.

ПЕРЭОРА'ЦЬ *зак.* Перааараць. *Ужэ перэорай картоплёнье.* Луткі. *Перэгораць.* Хотамель.

ПЕРЭО'РВАЦЬ *незак.* Пераворваць. *Перэорваюць на зіму картопліштэ.* М. Малешава. *Межы не перэорвай, не тронь ее.* Там жа.

ПЕРЭПА'ДВАЦЦА *незак.* Згінацца ў пояс. *Хай жэруць, шчэ буду перэд імі перэпадвацца.* Бярэжцы.

ПЕРЭПА'ДВАЦЬ *незак.* Прагінацца. *Шчоб не перэпадвало полотно, то не качалі ў дзве сталкі.* Дварэц.

ПЕРЭПА'РЫЦЦА *зак.* Перапрэць. *На зіму оруць, шоб перэпарылосо корэнье.* М. Малешава.

ПЕРЭПА'СЦІ *зак.* Выпасці. *Песок перэпадзе на дно.* Бярэжцы.

ПЕРЭПА'ТОШЫЦЬ *зак.* Знішчыць, павыталаваць. *Перэпатошылі усе на свеці.* Буразі.

ПЕРЭПЕЛІ'ЦА *ж.* Перапёлка. *Вона, як кура, перэпеліца.* Хачэнь. *Памянш.* п е р э п е л і ц к а. *Перепеліцкі ведуцца ў пшэніцы, богато еечэк несуць.* Запясочча.

ПЕРЭПЕ'ЧКА *ж.* Пірог сярэдняй велічыні. *Колі ў недзелю перэпечкі печэш, нельга на лісту саджаць* (павер'е). Кароцічы. *На Петра перэпечку спекла, а на Лью пойну печку налью.* Хачэнь.

ПЕРЭП'Е'ЛКА *ж.* Перапёлка. *Перэп'ёлка у пашне*

*жыве.* Цераблічы. *Перэп'ёлкі на лёт слабые. Перэп'ёлкі крычаць под подо́м, а потом — на поду́!* (пра збожжа да жніва і пасля жніва, калі яно складзена ў стажкі на пады). Мачуль. △ У перэп'ёлку. Дзіцячая гульня. *Колісь у перэп'ёлку гулялі. Поберуцца ў ко́ло, а ў серэдзіне ў ко́лі седзіць, а тые ходзяць да спеваюць: «У нашое перэп'ёлкі голоўка боліць...»* Лугкі.

ПЕРЭПІВА'ЦЬ *незак.* Даравацъ на вяселлі маладым. *Перэпіва́ю грошы, коб булі дзеці хорошы! Перэпіваю козу у лесу́, споймайце да і пользу майце!* Мачуль. *Перэпівалі на горэлцы ці на квасу́.* Хачэнь. *Цепер крама, а раней на́метку о такую перэпіваюць.* Верасніца. *Ек овечку перэпіваюць, то бекаюць.* Дварэц.

ПЕРЭПІНА'ЦЬ *незак.* Перапінаць. *Неводом перэпінае рэку несколько чоловек.* Дварэц.

ПЕРЭПІ'ЦЬ *зак.* Падарыць маладым на вяселлі. *Больш за тысечу рублей перэпілі.* В. Малешава. *Бацько корову перэпіў, а матка куфра.* Альшаны. *У нас не було індыкоў, то з Толмачова «перэпілі» гэто шчасцье.* Дварэц.

ПЕРЭПЛА'ВІЦЦА *зак.* Пераплысці на чым-небудзь. *На колодзі перэплавіўса, багром пхайса.* Пагост.

ПЕРЭПЛА'ВІЦЬ *зак.* Перагнаць або перавезці ўплаў. *І ко́ней перэплавілі на той бок, хай там пасуцца.* Пагост.

ПЕРЭПЛАЎЛЕ'НЬЕ *н.* Традыцыйнае веснавое свята. *Од перэплаўленья можно купацца, чоловек не простуджваецца.* Цераблічы.

ПЕРЭПЛАЎЛЯ'ЦЦА *незак.* Пераплываць на чым-небудзь. *Му перэплаўляліса ду́бом чэрэз Прыпець.* Запясочча.

ПЕРЭПЛАЎЛЯ'ЦЬ *незак.* Пераганяць уплаў. *І коней перэплаўлялі, і лес перэплаўлялі, не було ж моста́.* Пагост.

ПЕРЭПЛЕСЦІ' *зак.* Пераплесці (закончыць плесці па аснове). *Перэплеце плецень це́сненько дубцамі.* Сямігосцічы.

ПЕРЭПЛЕ'ТАЦЬ *незак.* Пераплятаць (плесці па аснове, абвіваць). *О так воло́кі перэплетаю.* Цераблічы.

ПЕРЭПЛЁТЫ *мн.* Абмоткі трысцін у бёрдзе. Хотамель.

ПЕРЭПЛО'ЎВАЦЬ *незак.* Перапраўляць уплаў, пе-

раплываць. *Му пры немцах товар церэз рэку перэплоўвалі.* В. Малешава. *Вон перэплоўвае сам.* Запясочча.

ПЕРЭПЛУСЦІ′ *зак.* Пераплысці. *Покі перэплоў рэку, то змерз.* Пагост.

ПЕРЭПНУ′ЦЦА *зак.* Перапнуць. *Село дрота́мі перэпнецца, будзе электрыка.* Лутկі.

ПЕРЭПНУ′ЦЬ *зак.* Тое ж. *Перэпне озеро сеткою на ноч.* Цераблічы. *Іванко, бего́м перэпном молодых!* (пра перагароджванне дарогі вясельнаму поезду). Альшаны. *Хай поставяць коней у хлеве́ і перэпнуць жэрдкою.* Старажоўцы.

ПЕРЭПОГО′ДЗІЦЦА *зак.* Перамяніцца на іншае надвор'е. *Трошкі, бог даў, перэпогодзілосо.* Цераблічы.

ПЕРЭПОЁВА′ЦЬ *зак.* Знішчыць, выкараніць. *Перэпоёвалі весь горо́д куры!* Буразі.

ПЕРЭПО′Й *м.* Абдорванне маладых на вяселлі. *У нас перэпой пры ўсём народзі, то я не хочу тоé золото перэпіваць.* Чэрнічы. *Як на веселы дараць, то даровізніна, перэпой.* Хотамель. *Берэш того корова́я дай перэпой кладзеш.* Цераблічы. *Корова — перэпой, а посага— грошы.* В. Малешава.

ПЕРЭПОЛА′СКАЦЬ *незак.* Перапаласкваць. *Перэпола́скаюць плацье.* Бярэжцы.

ПЕРЭПОЛО′СЫ *прым.* Рабы. *Перэполосы конь буває, поло́сесты такі вон.* М. Малешава.

ПЕРЭПОЛУ′ДНОВАЦЬ *зак.* Перакусіць у полудзень. *Ходзе́м перэполуднуем.* Бярэжцы.

ПЕРЭПО′ЎЗАЦЬ *незак.* Перапаўзаць. *Лёд тонкі, то на жывот да перэпо́ўзаю.* Пагост.

ПЕРЭПОЎЗЦІ′ *зак.* Перапаўзці. *Гарбу́зы ужэ перэпоўзлі чэрэз гранку.* М. Малешава.

ПЕРЭПРАГА′ЦЬ, ПЕРЭПРЭ′ГАЦЬ *незак.* Перапрагаць. *Я сам перэпрэгаю коня.* Пагост. *Трэ у другі воз перэпрэгаць коней.* Там жа.

ПЕРЭПРАГЦІ′ *зак.* Перапрэгчы. *Трэба перэпрагці коня ў брычку.* Сямігосцічы.

ПЕРЭПРА′ДВАЦЬ *незак.* Перапрадваць. *Перэпрадваеш кло́чье — то то́ўста пража.* Запясочча.

ПЕРЭПРА′ЖЫЦЬ *зак.* Перапражыць, перасмажыць. *Выточкі перэпра́жом.* Альшаны.

ПЕРЭПРА′СЦІ *зак.* Перапрасці. *Сколько лёну мы перэпралі, перэткалі полотна!* Сямігосцічы.

ПЕРЭПРОСІ′ЦЬ *зак.* Перапрасіць, папрасіць дара-

ваць. *Вона хочэ перэпросіць брата, помырiцца з ім.* Дварэц.

ПЕРЭПРО′ХВАЦЬ *незак.* 1. Перапрошваць, прасіць даравацъ. *Не буду перэпрохваць ёго!* М. Малешава. 2. Апытваць. *Пойду перэпрохваць жонок, ці не йдзе хто ў ягоды.* Пагост.

ПЕРЭПРЭ′БОВАЦЬ *зак.* Перабраць на спробу. *Такі голо́сны гармонь вубраў, не дну перэпрэбоваў.* Пагост.

ПЕРЭПРЭ′ГВАЦЬ *незак.* Ператопліваць. *Усякіе обрэзкі перэпрэгвае ў банкі.* Хачэнь.

ПЕРЭПРЭГЦІ′ *зак.* Перапражыць. *Олей перэпрэго́м с цыбулькою.* Сямігосцічы.

ПЕРЭПРЭ′ЦЬ *зак.* Добра ўварыцца, упарыцца. *Перэпрэў суп, аж красны!* М. Малешава.

ПЕРЭПУ′Д *м.* Перапуд. *Ку́ра с перэпуду здохла!* Бярэжцы.

ПЕРЭПУЖА′ЦЦА *зак.* Перапалохацца. *Рукі і ногі не воло́далі, мо́ перэпужаўса.* Дварэц.

ПЕРЭПУНІ′ЦЬ *зак.* Пераняць. *Перэпуні людзей, хай не йдуць.* М. Малешава. *У жыто йдзе раба́, перэпуні.* Пагост.

ПЕРЭПУНЯ′ЦЬ *незак.* Пераймаць. *Перэпуняй товар, шоб не ўворва́ўса ў шкоду.* М. Малешава.

ПЕРЭПУСКА′ЦЬ *незак.* Запускаць за край. *Закры́льніцы прыбіваюць к латам, екіе перэпускаюць за шчыта́.* В. Малешава.

ПЕРЭ′ПУСТ *м.* Вугал, які выступае з-пад страхі, дошка над варотамі. *Перэпуст по верху́ над воро́тамі ставіцца.* Цераблічы.

ПЕРЭПУСЦІ′ЦЬ *зак.* Перагнаць. *Перэпушчу на во́ду сало. Песок перэпадзе на дно, а сало — наве́рх.* Бярэжцы. *Перэпусцілі мед.* Аздамічы.

ПЕРЭП′Я′ТЫ *дзеепрым.* Перагароджаны. *Сеткою перэп'ята канава.* Альшаны.

ПЕРЭП′Я′ЦЬ *зак.* Перапяць. *Верэўкою перэп'яці вуліцу трэба.* Сямігосцічы.

ПЕРЭ′РВА *ж.* Нерваванне, клопат, турботы. *Шо это ва перэрва напала на мою го́лову!* М. Малешава. *От мне перэрва з вамі, бушуеце цэлы дзень!* Там жа. *От, Куліна, тобе перэрва гэты горо́д.* Луткі.

ПЕРЭРВА′ЦЦА *зак.* Разнервавацца. *Перэрвалаcа з гэтымі курмі.* Дварэц. *Перэрвацца от клопоту горш можно, як от роботы.* Там жа. *Перэрвалаcа, ходзечы за*

*ёю*. Хачэнь. *А то я затоб перэрваласа ужэ, шо цебе доўго нема*. В. Малешава.

ПЕРЭРВА'ЦЬ *зак*. Разнерваваць. *Я цебе перэрву добрэ!* (да суседа). Луткі.

ПЕРЭРОБІ'ЦЦА *зак*. Напрацавацца звыш меры, запрацавацца. *Там вон не перэробіўса с конём*. Дварэц.

ПЕРЭРОБІ'ЦЬ *зак*. Перарабіць, зрабіць нанава. *Печ я перэробіла ні к чому!* В. Малешава.

ПЕРЭРУБА'ЦЬ *зак*. Перасячы. *Анічого не робіў, палкі не перэрубаў на дворэ!* Старажоўцы.

ПЕРЭРЫВА'ЦЦА *незак*. Нервавацца. *Ты лежыш, а я тут перэрываюса!* Луткі. *Чоловечэ, не перэрывайса, я с того пшэнішного зроблю горш яшного* (жарт, пра няўмелую гаспадыню). Дварэц. *Мама, годзе перэрываласа, я збрыю вўсы*. Любавічы.

ПЕРЭРЫВА'ЦЬ *зак*. Нерваваць, выводзіць з раўнавагі. *Мой большый хлопец так мене перэрывае, шчо я ўжэ не вытрымаю*. Тураў. *Не перэрывайце мне дзіця!* Хачэнь.

ПЕРЭРЫ'Ў *м*. Перапынак. *Бес перэрыву лецяць і носяць этые палкі і яку эту траву, і это зробілі за ноч собе хату* (пра буслоў). Хачэнь.

ПЕРЭСАДЗІ'ЦЬ *зак*. Перасадзіць. *На другіе ногі нельга перэсадзіць*. Аздамічы.

ПЕРЭСЕДА'ЦЬ *незак*. Засядаць пры глытанні. *Груша мне перэседае ў горлі*. Луткі.

ПЕРЭСЕДЗЕ'ЛЬНІК *м*. Церассядзёлак. *Перэседзельнік вўшэй потцягні, то тужэй отосы будуць*. М. Малешава.

ПЕРЭСЕ'ДЗЕЦЬ *зак*. 1. Адседзець. *Перэседзеў ногу, суторга схопіла*. Буразі. 2. Перасядзець. *Перэседзелі ноч да дня дождалі*. Бярэжцы.

ПЕРЭСЕКА'ЦЬ *незак*. Апрацоўваць матыкай (буракі, бульбу), ссякаць зелле. *Ходзець перэсеком картоплі*. Луткі.

ПЕРЭСЕКЦІ' *зак*. Працяць. *Мене тожэ було перэсекло гэтым радзікулітом*. В. Малешава.

ПЕРЭСЕЛЕ'НЕЦ *м*. Перасяленец. *А ў О'глемле цэла вуліца перэселенцоў, цэлы посёлок*. Бярэжцы.

ПЕРЭСЕЛІ'ЦЬ *зак*. Перасяліць. *Думалі Рўдню перэселіць, то воны не схоцелі*. Дварэц.

ПЕРЭСЕЛЯ'ЦЬ *незак*. Перасяляць. *Перэселяюць молодых, а старых не ўговораць*. Пагост.

ПЕРЭСЕ'СЦІСА *зак.* Перайсці. *Шчоб на тобе перэселосо!* (праклён). Альшаны.

ПЕРЭСІЛОВА'ЦЬ *зак.* Пабароць. *Ты хітрая, а я цебе перэсілую.* Хачэнь.

ПЕРЭСКОЧЫ'ЦЬ *зак.* Пераскочыць. *Перэскочыло нешчо, ек собака.* Кароцічы. *Перэмоту зробіла. Ек сновала, то чэрэз колкі перэскочыла.* М. Малешава. *Пока не перэскочыў, не кажы гоп* (прыказка). Сямігосцічы.

ПЕРЭСНО'Ў *м.* Лішнія ніткі ў аснове (што не ўваходзяць у бёрда). Кароцічы.

ПЕРЭСОКЕ'РЫЦЬ *зак. метаф.* Перагаварыць. *Её не перэсокерыш!* Аздамічы.

ПЕРЭСО'Л *м.* Перасол. *Недосол на стол, а перэсол под стол* (прымаўка). Альпень. *Недосол на столе, а перэсол на голове* (прымаўка). Старажоўцы.

ПЕРЭСОЛІ'ЦЬ *зак.* Перасоліць. *Перэсоліла, шчо есці не можно.* Хотамель.

ПЕРЭСО'Ў *м.* Шост для адзення ў хаце. *От сцены до печы ідзе перэсоў.* Запясочча. *Стоўп буў, шчоб перэсоў дзержаўса.* Чэрнічы. *На перэсові вісёлі коліся кожухі.* Луткі. *На перэсоў вешалі шмáцье.* М. Малешава.

ПЕРЭСПА'ЦЬ *зак.* 1. Правесці час у сне. *Перэспі ету ноч у нас.* Пагост. 2. Паспаць залішне. *Перэспаў, то недобрэ.* Пагост.

ПЕРЭСПЕ'ЦЬ *зак.* Пераспець. *Перэспелі ягоды, сталі горкіе.* В. Малешава.

ПЕРЭСТА'ВІЦЬ *зак.* Пераставіць. *Мо хто тычку перэставіў?* Хачэнь.

ПЕРЭСТА'РЫЦЦА *зак.* Не выйсці замуж у пару. *Дзеўка, котора перэстарыцца, то возілі по сёлах і крычалі — поспела.* Цераблічы.

ПЕРЭСТА'ЎКА *ж.* Гаць са шчыткоў, якой перагароджвалі канавы, каб не пусціць рыбу ў рэчку. Пагост.

ПЕРЭСТА'ЎЛЕНЫ *дзеепрым.* Перастаўлены. *Бачнó тэ место, не перэстаўлено колка!* Хачэнь.

ПЕРЭСТАЎЛЯ'ЦЬ *незак.* Перастаўляць. *Перэстаўляёмо шкап з сеней у хату, а то там сыросць да вон гніе.* Пагост.

ПЕРЭСТА'ЦЬ *зак.* Перастаць, спыніцца. *Вуціснеш, да перэстане болець.* Запясочча. *Перэстаў снег іці, пошоў дождж с перэгонамі.* Луткі.

ПЕРЭСТО'ЕНЫ *дзеепрым.* Перастаялы. *Рэдзіска трухла, перэстоена ўжэ.* М. Малешава.

ПЕРЭСТОЯ'ЦЬ *зак.* Перастаяць. *Перэстояло жыто, осыпаецца колос.* Пагост.

ПЕРЭСТРАЎЛЯ'ЦЬ *незак.* Перастраўляць. *Вўтва перэстраўляе жолудзіну хутко.* Мачуль.

ПЕРЭСТРЭ'ЦЬ *зак.* Выйсці насустрач, пераняць. *Воўкі мене перэстрэлі.* В. Малешава.

ПЕРЭ'СТУП *м.* Расліна, якая, падобна да хмелю, абвівае платы ў агародах. *Перэступ по горо́дах росце, невусокі, як хмель на плот лезе. У его, як у бу́льбіны (бручкі), корэнь, его даюць, як корова спорціцца. Перэступ корові нарэжуць, то корова молока дае больш.* Хачэнь.

ПЕРЭСТУПА'ЦЬ *незак.* Переступаць. *Не перэступай, бо больш не выросце* (павер'е). Лутки. *Малы, толькі поро́га перэступае.* Там жа.

ПЕРЭСТУПА'ЮЧЫ *дзеепрым.* Пераступаючы. *Бразнуўса, церэз порог перэступаючы.* Пагост.

ПЕРЭСТУПІ'ЦЬ *зак.* Пераступіць. *Поко́са не перэсту́піш, добра трава.* Старажоўцы. *Як кого перэступіш лежа́чого, то больш не вуросце* (павер'е). Луткі.

ПЕРЭ'СТЫ *прым.* Стракаты. *У перэстой сороццы вон.* Луткі.

ПЕРЭСУ'ШВАЦЦА *незак.* Перасушвацца. *Кажуць, шо этэ золото, шо ў земле, перэсушваецца* (з легенды). Бярэжцы.

ПЕРЭСЦЕРО'ГА *ж.* Перасцярога. *Жэрэбец перэсцерогу таку дасць — коні ўсе у кучу.* Любавічы.

ПЕРЭСЦЁЛ *м.* Праслойка. *Сало с перэсцёлом смачнейшэ за жырнэ.* Цераблічы.

ПЕРЭСЦІЛА'ЦЬ *незак.* Насцілаць прамежкавую праслойку. *Просо перэсцілай соломою, коб не потрухло.* Хотамель.

ПЕРЭ'СЦІЦЬ *незак.* 1. Секчы дубцом. *Вон пугоўем перэсціць по том кошэ!* Запясочча. 2. Лаяць. *А той давай ее перэсціць усякімі слова́мі!* Луткі.

ПЕРЭСЫ'ПАЦЬ *зак.* 1. Перасыпаць. *Подай бочку, перэсы́плем муку з мешкоў.* Пагост. 2. Перабраць бярвенні старой пабудовы і з лепшых зрабіць новую. *С тоэ́ старое хаты эту одрыну перэсыпала.* М. Малешава. Перабраць трысціны ў бёрдзе. В. Малешава.

ПЕРЭСЫПА'ЦЬ *незак.* Перасыпаць. *Перэсыпай у бочку, а то мешкі мушы попроедалі.* Пагост.

ПЕРЭТО'КА *ж.* Пратока. *Перэтока там е, не про́йдзеце.* Дварэц.

ПЕРЭТОМІ′ЦЦА *зак.* Станіцца. *От перэтомілаеа да шчэ перэрваласа, шо сын хворы.* Хачэнь.

ПЕРЭТО′МЛЕНЫ *дзеепрым.* Стомлены звыш меры. *Волы так перэтомлены, шо і не едзяць.* Бярэжцы.

ПЕРЭТО′П *м.* Топленае сала. *Сало то, перэтоп, год-два будзе стояць!* Сямурадцы. *Перэтоп понесла здаваць за молоко.* Дварэц. *Перэтоп намажу на хлеб і ем.* Хачэнь.

ПЕРЭТОПІ′ЦЬ *зак.* Ператапіць. *Перэтопіла молоко, коб не скіслосо.* Пагост.

ПЕРЭТО′ПВАЦЬ *незак.* Раствараць награваннем. *Мед перэтопвалі, оддзелялі од воску.* В. Малешава.

ПЕРЭТО′ПЛЕНЫ *дзеепрым.* Ператоплены. *Перэтоплена сметана.* В. Малешава.

ПЕРЭТО′ЧКА *ж.* Міжвузелле ў саломіне, у сцябліне расліны. *Перэточка з горпы́ трапіласа у боршчы.* Хотамель.

ПЕРЭТРУСІ′ЦЬ *зак.* Ператрэсці. *Хоцела посцель перэтрусіць.* Дварэц.

ПЕРЭТРУ′ХАЦЬ *незак.* Гнісці, трухлець. *Перэтру́хае дуб дайні, то бы вуго́ль робіцца.* Пагост.

ПЕРЭТРУ′ХНУЦЬ *зак.* Згнісці, струхнуць. Пагост.

ПЕРЭТРЭСЦІ′СА *зак.* Перакалаціцца. *Ох, ліхо твоей голове, у мене усе перэтрэслосо.* Старажоўцы.

ПЕРЭТЫКА′НЬЕ *н.* Вытканыя па краях каляровыя дарожкі (на канцах ручніка, па краю сарочкі і г. д.). *Серпа́нок, да шчэ с перэтыканьем чырвоным.* М. Малешава. *Рушнік у перэтыканья на образы́.* Лутkі.

ПЕРЭТЫКА′ЦЬ *незак.* Ткаць ніткамі рознага колеру. М. Малешава.

ПЕРЭЎБІРА′ЦЦА *незак.* Пераапранацца, пераадзявацца. *Перайбірайцеса, мушчыны, шчо вы ў этом пойдзеце?* Дварэц.

ПЕРЭЎЯ′ЗАНЫ *дзеепрым.* Перавязаны. *Рукі перэйязаны ў дзіця.* М. Малешава.

ПЕРЭЎЯЗА′ЦЬ *зак.* Перавязаць. *Парэўежы моцне́й веніка.* Пагост.

ПЕРЭЎЯ′ЗІСТЫ *прым.* Тонкі пасярэдзіне, перацягнуты. *Перэв'язістая оса, тылок і перэдок.* Мачуль. *Точка бы перэўязіста така.* Луткі.

ПЕРЭХАВА′ЦЬ *зак.* Перахаваць. *Трэ перэхаваць грошы, бо дзеці.* Сямігосцічы.

ПЕРЭХЛЯ′БІЦЦА *зак.* Схуднець, зрабіцца тонкім у

талії. *Да ўжэ перэхлябіцца, як ніяка стане.* М. Малешава.

ПЕРЭХО'Д *м.* Параход. *Перэход стаў коло берэга.* Пагост. *Перэходом ездзіла ў Мозыр.* Дварэц.

ПЕРЭХО'ДЖВАЦЬ *незак.* Пераходжваць. *Корова перэходжвае, бувае.* Запясочча.

ПЕРЭХО'ДЗІНЫ *мн.* Пачастунак у сувязі с перасяленнем са старой хаты ў новую. Аздамічы.

ПЕРЭХОДЗІ'ЦЦА *зак.* Перахварэць ходзячы. *Не ходзіў по дохтора, так перэходзілоса.* Пагост.

ПЕРЭХОДЗІ'ЦЬ 1 *незак.* Пераходзіць (з аднаго месца на другое, з аднаго стану ў другі і г. д.). *Вона з голіны на голіну перэхóдзіць і рве яблука.* Хачэнь. *Шополонікі, мабуць, перэходзяць у легушкі.* Дварэц. 2 *зак.* Перахадзіць (за тэрмін). *Перэходзіла корова дзве недзелі.* Запясочча. 3 *зак.* Папахадзіць. *Сколько вон перэходзіў до ее, хто знае.* В. Малешава.

ПЕРЭХОПІ'ЦЬ *зак.* Перахапіць; пазычыць на кароткі тэрмін; перакусіць крыху. *Перэхопіў недзе грошэй.* Цераблічы.

ПЕРЭ'ХРЫСТ *м.* Чалавек, які змяняе перакананні, погляды. *Эты перэхрыст у любу веру пойдзе!* Дварэц.

ПЕ'РЭЦ *м.* Перац. *З перцем, не з перцем, да просім шчырым серцэм, сваточкі!* (запрашэнне за стол). Чэрнічы. *Хочэ стáрцом буць і з перцэм есці!* (прымаўка). Верасніца.

ПЕРЭЦВІСЦІ' *зак.* Адцвісці. *Коб воны перэцвілí, тоб картоплі булі угé.* В. Малешава. *Перэцвілі белы налій, антоноўка да град повубіваў.* Дварэц. *Ліпа перэцвіла і ніхто не нарваў цвету.* Запясочча.

ПЕРЭЦЕГНУ'ЦЬ, ПЕРЭЦЕГЦІ *зак.* 1. Перацягнуць (волакам). *Перэцяг мене церэз рэ́ку на другі бок.* Бярэжцы. 2 *перан.* Ударыць. *Перэцегну по плéчах, моўчы!* Аздамічы.

ПЕРЭЦЕРПЕ'ЦЬ *зак.* Перацярпець, выцерпець. *Жонка перэцéрпіць, а чоловек не вутрымае.* Луткі.

ПЕРЭЦЕ'РЦІ *зак.* 1. Перацерці. *Нема чым перэрэзаць, то перэцёр.* Пагост. 2. Шмат нацерці. *Колькі того лёну перэцéрлі і перэтрэпалі!* Пагост.

ПЕРЭЦІРА'ЦЬ *незак.* Пераціраць. *У сінём кáмені перэціралі пшэніцу, шчоб сажы не було.* Луткі.

ПЕРЭЦІ'СНУЦЬ *зак.* Пераціснуць. *Гэто вон вам бóка перэціснуў.* Старажоўцы.

ПЕРЭЦЯ′ГВАЦЬ *незак.* Перацягваць. *Вода ўпала, трэ бáконы перэцягваць к серэдзіні.* Пагост.

ПЕРЭЧУ′ЦЬ *зак.* Дачуцца. *Перэчула по людзя́х, шо е вон там.* М. Малешава.

ПЕРЭША′РЫЦЬ *зак.* Перабраць, перамацаць. *Усю скрыню перэшарыў і не нашоў.* Запясочча.

ПЕРЭШАТАРЫ′ЦЬ *зак.* Парэзаць на труху. *Дзе добрэ сено, то перэшатарáць ёго мýшы.* В. Малешава.

ПЕРЭШНІ′ПОРЫЦЬ, ПЕРЭШНЫ′ПОРЫЦЬ *зак.* Перашукаць. *Перэшніпорылі усе.* В. Малешава. *Перэшны́порыць.* Дварэц.

ПЕРЭШЧЭ′ПАЦЬ *незак.* Перапрышчапляць. Альшаны.

ПЕСКОВУ′ *прым.* Пясчаны. *На борý пескова земля.* Кароцічы.

ПЕСКОЗО′Б *м.* Бычок. *Пескозобы, воны большынство шыюцца под лесом, дзе вон потáў.* Пагост.

ПЕСКО′ЎКА *ж.* Сорт яблыкаў. *Наша пескоўка вельмі зародзіла, аж гольé гнецца.* М. Малешава.

ПЕ′СНЯ *ж.* Песня. *Такіх пéсень не подпевайце, бо за серцэ беруць моцно.* М. Малешава. *Вот і песня ўся, спечы, маці, порося* (прымаўка). Хачэнь.

ПЕСНЯ′К *м.* △ Гнуць песнякá (жарт). Пець песню. Альшаны.

ПЕСО′К *м.* Пясок. *У песку жыто добрэ росце.* В. Малешава. *Дзе песку намула круча, там у нас зовуць песок — Бéчанскі песок, у Каліноўлесі песок е, называецца Лобáч.* Там жа.

ПЕ′СТОВАЦЦА *незак.* Няньчыцца. *Годуеш дзіця, пестуешся з ім, шоб не плакнýло.* Мачуль.

ПЕ′СТОВАЦЬ *незак.* Няньчыць, забаўляць дзіця. *Узяў тые блізнята да ходзіць, пéстуе.* Сямігосцічы. *Не беры дзіця на рукі, мы ёгó не пéстуем.* Там жа.

ПЕСТУ′ШКА *ж.* Пястуха. *Моя хороша пестушка, ходзі на ручкі!* Запясочча.

ПЕСЧУГА′ *ж.* Вялікі, сыпучы пясок. *Песчуга — сáмэй песок, не можно пройці.* Альпень. *Там у іх пешчуга, у Ольшанах!* Сямігосцічы. *Пашчуга — то пасок, шчо нічого не росце, сáмэ ігрышчэ.* Мачуль.

П′ЕТА′ *ж.* 1. Пятка нагі. *Дзерэвіна под п′ету далá.* Пагост. *Боты новые, а п′яты голые* (пра басаножкі). Старажоўцы. 2 *перан.* Пятка ў касе, у сасе і інш. Аздамічы. 3. Межавы знак на вугле поля. *П′ета — пáля, дзе залом поля.* Аздамічы.

ПЕТЛІ'ЦА *ж.* Пятля. *Памянш.* петліцка. *Зробіў петліцку і зацегнуў вероўчыну.* Дварэц.

ПЕТЛЯ' *ж.* Пятля. *Загорні петлю.* Лутки. *Пятлі поробіў з дроту.* Там жа. *Узяўса за ету петлю.* Запясочча.

ПЕТНА'НЦАЦЬ *ліч.* Пятнаццаць. *На петнанцаць год я молодша.* Аздамічы. *Петнанцаць рублей далі ёй.* М. Малешава.

ПЕТНА'ЦЦАЦЕРО *ліч. зб.* Тое ж. *У нас, у Хачэні, у одного було петнаццацеро дзецей.* Старажоўцы.

ПЕ'ТОВАЦЬ *незак.* Прыкладаць вялікія намаганні. *Буду петоваць ту пожню цэлы тызьдзень.* Луткі. *Як сечэш дзерэво і ніяк не можэш, то кажуць — от петую, петую і нічого не получаецца.* Аздамічы.

ПЕТРО'ВІЦА *ж.* Пост у пачатку лета (перад рэлігійным святам Пятра і Паўла). *У петровіцу сено добрэ ранне.* Аздамічы. *Цепер не петровіца, по два раз не говорыцца* (прымаўка, пра неабходнасць увагі). Сямурадцы.

ПЕТРО'ЎКА *ж.* Белы наліў (сорт яблыкаў). *Петроўкі — такіе кісловатые яблука да вельмі ранніе.* М. Малешава. *Шкода мне дзёвочок, хоця б я ім петровок назбірала.* В. Малешава.

ПЕТРО'ЎШЧЫНА *ж.* Гасцінец пастуху ад гаспадароў жывёлы. *На Петра петроўшчыну давалі пастуху — сыр, перэпечку, поверх платы давалі.* В. Малешава.

ПЕ'ТРЫК *м.* Божая кароўка. Аздамічы.

ПЕ'ТРЫЦЬ *незак.* 1. Цяміць, усведамляць. *Нічого ж не петрыць, а суне свой нос сюды.* Верасніца. 2. Біць. *Шо ты петрыш свою корову?* Аздамічы.

П'ЕЎГА' *ж.* П'яўка. *Е чорна, е і раба́ п'еўга.* Луткі. *Мо п'еўгу́ бусько есць?* Там жа.

П'ЕЎЖНІ'К *м.* Ракавіна слімака. *У п'еўжнікў п'еўга заво́джваецца.* Луткі. *П'еўжнік круглы і гострэнькі, а то чэрэпу́шка.* Там жа.

ПЕ'ЎНЕ *прысл.* Пэўна, сапраўды. *Пеўне то по ёго́ прышлі.* М. Малешава. *Пеўне нема ёго.* Запясочча. *Пеўней пусціць з бородою.* Там жа.

ПЕ'ЎНЫ *прым.* Пэўны, сапраўдны. *Ужэ так наеўса, шо пеўны на два дне.* Луткі.

ПЕХОТО'М *прысл.* Пешшу. *Вон пехотом прышоў.* Пагост. *Колісь жонка чоловека ў Кіеў пехотом направіла.* Знаменка.

ПЕХОТО'Ю *прысл.* Тое ж. *Пехотою трэба у Мале-*

*шоў ходзіць по хлеб.* В. Малешава. *Давай пойдом пехотою.* Пагост.

ПЕХОЎЕ′ *н.* Драўляная ручка у пяшні. Аздамічы.

ПЕЦЕРНЯ′ *ж.* 1. Пяцьдзесят снапоў. Запясочча. 2 *метаф.* Рука. *Сало напрагуць на сковородзе, і мочай пецернею!* Любавічы.

ПЕЦЕРУ′К *м. метаф.* Рука. *Пецеруком лезе ў м'ясо!* Аздамічы.

ПЕЦЁРКА *ж.* Пяцёрка, пяць рублёў. Пагост. *Памянш.* пецёрочка. *Дайце мне хоця пецёрочку золота, я еку хаціну куплю* (з казкі). Пагост.

ПЕ′ЦКАЦЦА *незак.* Пэцкацца. *Пецкаецца, усе того экскаватора строіць.* Пагост. *Я не буду доўго пецкацца з котамі.* Хачэнь.

ПЕ′ЦКАЦЬ *незак.* Пэцкаць. *Кажын не хочэ рук пецкаць.* Хачэнь. *Пецкаюць куры на вушках сено.* Там жа.

ПЕЦЬ *незак.* Спяваць. *Гологуцкі певень громко пое.* Буразі. *Коб чуць подпіў, то й пое і пое той дзед.* Луткі. *Под вечор певень пое — на ліху пору* (прыкмета). Аздамічы. *Кура пое — чоловека с хаты згоняе* (павер'е). Альпень.

ПЕЦЬДЗЕСЯ′Т *ліч.* Пяцьдзесят. *Пецьдзесят рублёў мне пенсія.* Пагост.

ПЕЧ *ж.* Печ. *На пече добро сохне.* Запясочча. *Печ жэнілі, як зроб'яць. Трэба ілі боб ілі горох першы раз варыць. Это закон такі буў, шоб була багата печ.* Тураў. *Ох, жонка, гладзезна, як печ!* Старажоўцы. *Бела коза гліну везла* (загадка). *Печ* (адгадка). Запясочча. *Маці — тоўстуха, дочка — краснуха, а сын — перэбор, вўбраўса на двор* (загадка). *Печ, огонь, дым* (адгадка). Хачэнь. △ Н а г о л у п е ч. Не ўсадзіўшы хлеб. *Не йдзі с хаты на голу печ.* Дварэц.

Калісьці печ у хаце рабілі такім спосабам. Тоўстую калоду абкладалі глінай і выпальвалі. Мачуль.

ПЕ′ЧА *ж.* Рана ад апёку. *Печа не гоіцца і боліць.* Запясочча.

ПЕЧА′ЛЬ *ж.* Гора, бяда, смутак. *От печаль, як хто помрэ.* Запясочча. *Печаль іх ведае, шо робіць!* (пра разгубленасць). М. Малешава. *А екое печалі воны сюды ішлі?* Сямігосцічы.

ПЕ′ЧКА *ж.* Печ. *Трэба мазаць ужэ печку і грубу.* Сямурадцы. △ П е ч к і-л а ў к і. Сапраўдны прытулак, родная хата. *Там, брат, у ёго печкі-лаўкі!* Сямігосцічы.

*Печкі-лайкі булі его ў мене, а цепер нос верне.* Мачуль.

ПЕЧКА'Р *м.* Пячнік. *Нанелá печкарá дай построіла печ.* Хачэнь. *Шо лéпіць печ — печкар.* Цераблічы. *От покомандовай, як печкар печкарыхою!* (пра недарэчныя распараджэнні). Лутві.

ПЕ'ЧКАЦЦА *незак.* Пэцкаць. *Жэні курэй, воны печкаюцца, уся солома негодзяшча будзе.* Хачэнь.

ПЕЧКУ'Р *м.* 1. Пячкур (рыба). *Печкур — дзіцяча рыба.* Тураў. *Печкурэ́ светленькіе.* Хачэнь. 2. Ластаўка-берагавулька. *Васё, погледзі, колькі печкуроў у примóлі!* Верасніца. 3. Ахвотнік вылежвацца на печы. *Усе дзеці на спýскалцы дайно, а ты, печкур, на печэ́ і вýўёўса!* Верасніца.

ПЕЧЛЯ'ВО *прысл.* Сумна і горка. *Печляво ему, шо сам.* Аздамічы.

ПЕЧО'НІКІ *мн.* Печаная бульба. *Огню роскладзі да напечы печонікоў.* Запясочча. *Як наеўса печонікоў, то й завой получыўса.* Хачэнь. *Як не посеюць поле, то грэх пекці печонікі.* Там жа.

ПЕЧО'НКА *ж.* △ П о й ц í н а п е ч ó н к у. Наведацца на свежаніну. *Пошлі к ему на печонку, вон свінью зарэзаў.* В. Малешава.

ПЕЧО'НЬЕ *н. зб.* Згусткі крыві. *Кроў печоньем полілáса.* Запясочча.

ПЕЧО'РА, ПЕШЧО'РА, ПЕШЧЭ'РА *ж.* Пячора, нара. *У печорах менькі жывуць.* Цераблічы. *Залазіць вон рукою ў пешчоры і достае рáкоў. Палку заложыш у пешчору, то рак учэпіцца.* Лутві. *Пешчэ́ра.* Аздамічы.

ПЕЧУРЫ'ЦА, ПЕЧЭРЫ'ЦА *ж.* 1. Шампіньён. *Печурыцы такіе белые.* Хачэнь. *Нашукалі печэрыц за рэчкой і гусей погледзелі.* Дварэц. 2. Ластаўка-берагавулька. Хачэнь.

ПЕ'ЧЫВО, ПЕ'КІВО *н.* 1. Печ (як мера). *Засталосо мукі на однэ печыво, одзін хлеб спекці.* Лутві. *Печыво дроў.* Там жа. 2. Выпечка. *Это хлеб своґó пеківа.* В. Малешава.

ПЕЧЫ'НА *ж.* Абломак поду ў печы. *Печына ў печэ́, ек отпадзе кусочок кірпіча ці гліны. У нас ек едуць венчацца, то беруць гэту печыну, уголінку і дробок солі, заўязваюць у онучку беленьку і кідаюць церэз голову на расхóдніх дорогах, а для чого, то не ведаю.* Лутві. *Шчоб не буць не гожым, скажы ім: «Соль да печына да чорт с твоімі очыма!»* Хачэнь.

ПЕ'ЧЭНІ *мн.* Вантробы. *У серэдзіне у свінье печэні.* Сямігосцічы.

ПЕ'ЧЭНЫ *прым.* Печаны. *Грушы нагле смачные, як печэные.* Верасніца. *Пелютку гарбу́зы печэной дала́ мне поёсць.* М. Малешава.

ПЕ'ЧЭНЬ *м.* Печань. *Этэ зелье от печэня.* Бярэжцы. *Нарыў буў на печэні.* Хачэнь.

ПЕ'ШКІ *прысл.* Пехатой. *Пешкі зайдзе у Туроў і на плёчах ношка с цыбулею.* М. Малешава. *По то жалованье надо іці у Мо́зыр пешкі.* Там жа. *За кусок кішкі сем міль пешкі* (прымаўка). Запясочча. *Бедна сестра пешкі ідзе, а богата коньмі едзе* (прымаўка). Сямурадцы.

ПЕШКО'М *прысл.* Тое ж. *Росторопа — ні пешком, ні возом.* Аздамічы. *Это пешком прышлі ці ехалі?* Кароцічы.

ПЕШНЕВІ'НЬЕ *н.* Тронак у пешні. *А дзе ты поставіў пёшню? Зорвалоса пешневінье у ее.* Сямігосцічы.

ПЕ'ШНЯ' *ж.* Інструмент для выдоўбвання сярэдзіны ў калодах. *Пешней найбольш вульё высекалі.* Альшаны.

ПЕШЧО'РЫНА *ж.* Пячора, нара. *Вода пешчорыну вукруціла.* Луткі.

ПЕШЧО'ХА *ж.* Песта. Альпень.

ПЕ'ШЫ *прысл.* Пехатой. *Пташкі у по́ўрэй лецяць, а драчы пешы ідуць.* Дварэц.

ПЕШЭКА' *прысл.* Тое ж. *Назад пешэка ішоў.* Любавічы.

ПЁРКА *ж.* Травяністая расліна з вузкімі лістамі. *Пёрка менша росце, а м'ела́ бо́льша, вона і скоро сохне за косою.* Сямігосцічы.

ПІВА'К *м.* Піток. *От півакі му, шо одзін коўць — і доволі!* Луткі.

ПІ'ВО *н.* Піва. *Не дорого піво, а дорого дзіво* (прыказка). Бярэжцы.

ПІВО'НІЯ, ПІНЁНА, ПІЁНІЯ *ж.* Півоня. *Ту півонію куры здоўблі. Такіе зелёные булі, хорошые!* Луткі. *Пупышкі е шчэ на пінёнах.* Запясочча. *Піёнія.* Д.-Гарадок.

ПІ'ЗІКІ, ПІ'ЗІ, ПІ'СІКІ, ПІ'СІ *мн.* △ Пізікі пуска́ць (попуска́ць, пусціць). Плакаць. *Шо ты пізікі пускаеш?* Буразі. *Шо вона пізікі попусціла, шчо участка доброго не даў?* В. Малешава. *Пізі пусціла.*

Рыдча. *Пісікі ўжэ попусціла, конóзіцца.* Запясочча. *Пісі шось попускалі, мо вас нехто набіў.* Тураў.

ПІК *м.* Вар, бітум. *Горачэ жэлезо піком замажэ, то не ржавее.* Запясочча. Косны мозг. *Вубіваюць с косці пік, воно м'якке таке, жырнэ.* Лутúкі.

ПІ'КА *ж.* 1. Пачак, стос. *Веліка трэба піка грóшэй.* Хільчыцы. 2. Вар, бітум. *Вон пікою тою залівау стрэ́ху.* Дварэц.

ПІ'КАЛО *н.* Расліна званец. *Пікало шамочыць.* Аздамічы.

ПІ'КАЦЬ *незак.* Піскаць, пішчаць. *Пацы́ под подлогою пікаюць, с кота на велічынкі.* Цераблічы. *Сцепа, не пікайце на крэсле!* Альшаны. *Толькі пікае вон, без здороўя ужэ.* М. Малешава.

ПІ'КНУЦЬ *зак.* Піскнуць. *Цепер ніхто ні пікні.* Цераблічы.

ПІ'КОЮ *прысл.* Стралою. *Шуляк пікою ідзе на муш.* Цераблічы.

ПІ'КОТ *м.* Пісканне. *Чутнó, там такі пікот!* (пра ўюноў у лавушцы). Цераблічы.

ПІКУ'Н *м.* Кулік. Альшаны.

ПІЛА' *ж.* Піла. *У пілы е дзве вухі з дзіркáмі.* Хотамель. *Ела, ела дуб, дуб, вуломала зуб, зуб, як мене зовуць?* (загадка). *Пілá* (адгадка). Хачэнь. *Я маю тры піле: адна — поперэчна, друга — подоўжна, а трэтя — жонка* (жарт). Альпень.

ПІЛІ'КАЦЬ *незак.* Пілікаць. *Нейкі скрыпач грае трохі, пілікае да му танцуем.* Кароцічы.

ПІЛІ'ПОЎКА *ж.* Піліпаўка. *У піліпоўку руяцца воўкі.* Бярэжцы.

ПІЛІ'ЦЬ *незак.* Пілаваць падоўжнай пілой. *Онно лес пілім на хату, а то усе рэжом.* Кароцічы. *Будом дошкі пиліць.* Аздамічы.

ПІ'ЛНО, ПІ'ЛЬНО *прысл.* Пільна, вельмі. *Коб так ужэ трэ було пілно, пошла б.* Хачэнь. *Мо не так пілно трэба чóботы?* Дварэц. *Лупіце картоплі назáўтрэй, ек трэба пільней.* Сямурадцы. *Памянш.* п і л ь н е н ь к о. *Вон, бедны, так ужэ пільненько узіраецца, ек му емó.* Сямурадцы.

ПІЛНОВА'ЦЬ, ПІЛЬНОВА'ЦЬ *незак.* Сцерагчы, сачыць уважліва. *Ек бу не пілновалі, вороб'і б просо ўсе спілі.* Лутúкі. *Дзеці пілнуюць, дзе стары, абы адышоўса, дак воны ў яблочка.* Мачуль. *Я чую, крычыць: «Пілнуй, пілнуй, на цебе ідзе!»* Там жа.

ПІЛОТО'Ч *м.* Тачыльшчык піл. Старажоўцы.

ПІ'ЛЬШЧЫК *м.* Той, хто пілуе дошкі ўручную. *Одзін верхні пільшчык і два ніжніе.* Аздамічы.

ПІЛЯ'ЦЬ *незак.* Моцна кусаць, джгаць. *Мусколь, его не бачно́, а ўсе одно піля́е.* Рыдча. *Як будзе той спас, то будуць мухі пілящь.* Там жа.

ПІНА'ЦЬ *незак.* Настаўляць лавушку на птушак або звера. *Сілца піналі на ка́чок.* Велямічы. *І на свіньє піналі пружыну.* Цераблічы.

ПІНДЖА'К *м.* Пінжак, лёгкае верхняе адзенне. В. Малешава.

ПІНДЖАРНО', ПІНЬДЖАРНО' *н. груб.* Тое ж. *Узела свое пінджарно і пошла.* М. Малешава. *Озьмі піньджарно одзень, погода плохая.* Старажоўцы.

ПІНЖАЧЫ'ШЧЭ *н. пагардл.* Тое ж. *Прыберуцца ў пінжачышча этакіе!* М. Малешава.

ПІ'ПА *ж.* Вада (у размове з дзецьмі). *Не йдзі, дочэнько, на двор, а то піпа падае на дворыку* (пра дождж). В. Малешава. *Не йдзі, там піпа, то ўтопісса!* Там жа. *Піпу хочэш? От смашна вода, а?* Луткі. *Памянш.* п і п к а. *Піпкі не хочэш, до́чко?* Альшаны.

ПІРО'Г *м.* Піроr, хлеб з пшанічнай мукі. *У пірогі наб'ём еец да положымо сметаны, а як нема докла́ду, то і не спечэш пірога.* Мачуль. *У тыждзень после весельля зовуць на пірогі.* Альпень. *На варвары пірог з маком пастуху давалі.* Сямігосцічы. *Памянш.* п і р о ж э́ ч о к. *Гу, весна, гу, красна́, што ты нам прынесла́, ці по пірожэчку, ці по еечку?* Любавічы.

ПІ'САНКА *ж.* Кіёк з узорамі, арнаментам. *Ек удасца полотно, то кажэ — от хорошэ полотно, ек пісанка!* М. Малешава.

*Пі́санкі* рабілі з арэшыны, крушыны, алешыны і інш. Рыхтавалі іх звычайна да свята.

ПІ'САР *м.* Той, хто водзіць пры дзіцячай гульні *ў пісара.* Гульня, падобная да гульні *ў пікара.* Запясочча.

ПІСА'ЦЬ *незак.* Пісаць. *Еж кашу, не пішы, годзі ты пісаў!* В. Малешава. *Ну, там мало шчо було пісаць, але хай, запішыце.* Пагост.

ПІСКО'РА *ж.* Від дзікай качкі. Альшаны.

ПІСНУ'ЦЬ *зак.* Чыркнуць, зрабіць рыску. *Вот след, вот тры штукі піснуло карцечыны.* Мачуль.

ПІСЬМО' *н.* Ліст. *Получаць пісьма кожны любіць, а пісаць іх — не ўсякі.* Тураў. *Баце, мо пісьмо було?* Сямурадцы. *Пісьмо нейкім дзедом послаў.* Бярэжцы.

ПІСЯ́Г *м.* Пісяг, шрам, паласа. *Пісягоў насажаў на коні.* В. Малешава. *Пісягі — як корова пісягне рогамі.* Запясочча. *От этты пісягі булі, так нарэзаў хлопца.* М. Малешава. *Усе пісягі на пёчы знаць будуць.* Запясочча.

ПІСЯГНУ́ЦЬ *зак.* Парнуць рогам, секануць пугай і інш. *Корова пісягнула другў корову рогом!* Луткі.

ПІТА́ *ж.* Пітво. *Раз ходзяйство, то і піта і еда е.* Запясочча.

ПІТНЫ́ *прым.* Піццявы. *Квас пітны варылі.* Запясочча.

ПІТУ́ЛЬКА *ж.* Газніца. *Прыходзілосо і урокі вучыць пры пітульцы.* Тураў. *Седзіць, прадзе к пітульцы.* М. Малешава. *Памянш.* п і т у́ л е ч к а. *Пітулечка горыць, гозулька така, у бутылку ўставяць кноцік з фланелі.* Пагост.

ПІТУ́ЛЯ *ж.* 1. Тое ж. Запясочча. 2 *перан.* Скупая жанчына. *Прожыла́ пітуля жызнь, шо й чобота доброго не зносіла, усе грошы складвала.* Верасніца.

ПІ́ЎКАЦЬ *незак.* Ціўкаць. *Чого ты уже ўсе піўкаеш?* (пра гусяня). Сямурадцы.

ПІХЕНУ́ЦЬ *зак.* Піхнуць. *Ты нашчо его піхенула?* Хачэнь.

ПІЦЕ́НЬЕ *н.* Пітво. *Светы спас, отжэні воробейка од нас, леціце на лозу, там вам піценье і едзенье* (з замовы ад вераб'ёў). Хачэнь.

ПІЦЕ́Ц *м.* Піток. *Вон у мене такі плохі піцец.* Пагост.

ПІ́ЦЦА *незак.* Піцца. *После рыбу вода п'ецца.* Хачэнь. *Вода будзе піцца од сала.* Сямігосцічы.

ПІЦЬ *незак.* 1. Піць. *Мы воду піцімо, мо менш хлеба з'емо́* (жарт). Хотамель. *Компот пёце, на лаве.* Сямігосцічы. *Не п'ю, нашчо мне тая горэлка!* Дварэц. *Не пець, мое сыночкі, не пець богато!* (пра гарэлку). Хачэнь. *У нас воду п'юць, то кажуць: «Здоро́ва піла!» А друга ей: «Дзякуй тобе».* Дварэц. *І светы б піў, коб хто купіў* (прымаўка). Там жа. *Одзін не п'е, бо ніхто не дае, другі не п'е, бо грошэй нема, а трэці не п'е, то гэто сова. Вона днём не бачыць, а уночы магазін не робіць* (жарт). Там жа. 2. Склёўваць зерне ў каласах (пра птушак). *Нема цепер ім проса піць, тым вороб'ям.* Сямігосцічы. *Вороб'е просо п'юць і коноплі.* Луткі.

ПІЦЬЕ́ *н.* Піццё. *Ну, шчо гэто за піцье холоднэ!* Луткі.

ПІШЧА'ЦЬ *незак.* Пішчаць, рыпець. *От пішчалі возы колісь!* Хачэнь. *Мушы пішчаць.* Бярэжцы.

ПЛА'ВАЦЬ *незак.* Плаваць. *Гусі знаюць, дзе ім плаваць, самі.* Пагост. *Ужэ по́хмаркі плаваюць.* Аздамічы.

ПЛАВЕ'Ц *м.* Плывец. *Коб плавец, то плоў бы, а вон не умеў ані!* Сямігосцічы.

ПЛАВІ'СТЫ *прым.* Дрыгвяністы. *Таке плавістэ место ў болоці!* Запясочча.

ПЛА'ВІЦЬ *незак.* Сплаўляць (пра лес). *А туда плавяць лес, тудою, этой Скрыпіцэю самою.* Пагост. *Караваны плавілі до самого Кіева.* Запясочча. Перапраўляць уплаў. *Достава за рэку плохая, то ж трэба коня плавіць, во́за.* Сямігосцічы. *Плавяць коней весною за рэку.* Дварэц.

ПЛАВО'К *м.* Паплавок. *Не бачыш уночэ, дзе той плавок.* Луткі. *Мой плавок і не ворухнецца.* Тураў. Пучок з сітніка, які падкладалі пад сябе пры пераплыванні ракі. *На плаўку́ поплуве той, хто ўмее і не ўмее плаваць.* Сямігосцічы.

ПЛАЗ м. △ Н а п л а з. На плашку. *Опчэ́шэ на плаз колоду і цягне.* Цераблічы.

ПЛА'ЗКІ *прым.* Адхоністы, гладкі. *Стрэха́ плазка.* Луткі. *Оболона плазка.* Аздамічы.

ПЛА'ЗМА, ПЛА'ЗЬМА *прысл.* Плашмя. *Поклалі плазма цэглу.* Дварэц. *Шоб во́лок плазма не лежаў, его подоткнеш знізу.* Аздамічы. *Положы до́ску плазма.* Там жа. *Стрэха́ зусім плазьма лежыць.* Луткі.

ПЛАЗОВА'ТЫ *прым.* Адхонны (пра страху). *Крыша е стро́мка і е плазовата.* Альшаны.

ПЛА'КАЦЦА *незак.* Быць у стане плачу. *Не плакаў бі, вонэ самэ́ плачэцца.* Сямігосцічы.

ПЛА'КАЦЬ *незак.* Плакаць. *Я ўпаду і не плачу навек.* Цераблічы. *Сова плачэ, ек дзіця, ноч!* Хачэнь. *Окно плачэ, мо ўжэ похолодало.* Луткі. *А Якоў плакаў, да ўсе однако* (прымаўка). Аздамічы. *Хоць за Кра́кова, абы не плакала* (прымаўка). Луткі. *Хай ек ла́пець, абу за ім не плакаць* (прымаўка). Старажоўцы. *Як дзіця не плачэ, то маці не знае* (прымаўка). Там жа. △ П л а́ к а ц ь п л а ч о́ м (п л а к о́ м). Моцна плакаць, плакаць горкімі слязамі. *А моя сестра стоіць да плачэ плачом!* Хачэнь. *Плаком плачэ, не хочэ іці замуж!* Луткі. *Чугуна́ ста́ўлею у печ, то голошу́, плаком плачу — ногі болящь.* Хачэнь.

ПЛАКУ'Н *м.* Плакун-трава. *Плакун уно́чы цвіце, а*

*днем от сонца повéрнецца і плачэ, а ўнóчы весёлы. Бабу казалі, вон як у чоловека журбá.* Хачэнь.

ПЛАМЕ′ТА, ПЛАНЕ′ТА *ж.* Лёс, прадвызначэнне. *С такой пламетой чоловек народзіўса.* Мачуль. *Не знаю, ека планета набегла на ёго, шчо вон побіўса.* Запясочча. *Нейка така пламета набягае, што по ўсім дзерэўням дождж.* Старажоўцы.

ПЛАМЕ′ТНЫ *прым.* Псіхічна хворы. Луткі.

ПЛАН *м.* Жыццёвы парадак, спосаб грамадскага жыцця. *Коб подняў старыкоў на гэты план, то не паверылі б.* В. Малешава.

ПЛАСТ *м.* Пласт (сена). *Занесеш пласт сена да дасі корові.* Сямігосцічы. *От шчэ пластоў тры сена будзе.* Верасніца. *Пласт на вілкі, а рукамі берэш, то аберэмок.* Луткі.

ПЛА′СТАЦЬ *незак.* Плёхаць, шлёпаць. *По водзе пласталі у лáпцях.* Сямігосцічы.

ПЛАСТО′М *прысл. перан.* Неадчэпна. *Я несу свіньям, а дочкá пластом за мною!* В. Малешава.

ПЛАСТО′ЎЕ *н.* Вялізныя сняжынкі. *От пластоўе падае!* Верасніца.

ПЛА′ТА *ж.* Аплата. *Берэ плату наперод.* Аздамічы.

ПЛАТА′ЦЬ *незак.* Разварочваць тушкі рыбін для прасушкі. *Бач, як у нас кожýшкі платаюць.* М. Малешава. *Беры ножа і ідзі платáй карасікоў.* Запясочча.

ПЛА′ТНО *прысл.* Выгадна. *Жонцы той платно, штоб вон ночоваў.* Запясочча.

ПЛАТО′К *м.* Хустка. *Хорошы платок, прігодзіцца бабі Настасі.* Бярэжцы.

ПЛАЎ *м.* 1. Багна, прыкрытая зверху дзярнінай расліннасці. *На озеры плаў плавае, да на ём корч олёшніку.* Мачуль. *Булі такіе плавы́, шо і дна не було.* В. Малешава. *А там ужэ ек дождж, то плаў.* Дварэц. 2. Смецце, хлам, які наносіць вада. *Нанесло плáву на сенокос.* М. Малешава. *Плáву нагнала вода.* Сямігосцічы.

ПЛА′ЎКІ′ *прым.* 1. Багаты тлушчам. *З нашое свіньі плаўкé сало.* Сямігосцічы. *Плаўкé такее з сéмені масло.* Там жа. *Вускаркі малы́е, ек плаўкé сало.* Луткі. 2. Слізкі, гладкі. *З дуба полоз плаўкі, не так зрэзваецца.* Любавічы. *Спуст клёнові плáўкі.* Сямігосцічы.

ПЛАЎКІ′ *мн.* Майнік. *Коні едзяць плаўкі.* Сямурадцы.

ПЛА′ЎКО *прысл.* Гладка, лёгка. *Так ужэ плаўко заходзіць.* Мачуль.

ПЛА'ЎНЫ' *прым.* △ Плаўная сець. Рыбалоўная сетка, якая сплаўляецца па цячэнню ракі. Альшаны. Плаўны мост. Мост на паплаўках. Старажоўцы.

ПЛА'ХА *ж.* 1. Шырокі кавалак поля; пласт сала і інш. *Загон, то вузкі, а плахі, то шырозные!* М. Малешава. *Засыпаем плаху сала солью, шоб не жоўцело.* Цераблічы. 2. Плашка. Аздамічы.

ПЛА'ХАРЭМ *прысл.* Плашмя. *Плахарэм упаў.* Аздамічы.

ПЛАХВІ'НА *ж.* Пляц. *Здорóву плахвіну зодрáў.* Цераблічы.

ПЛАЦІ'НКА *ж.* Абрэзак матэрыі. *Плацінка остаецца от шыцья.* Верасніца. *На тобе плацінку і замотай палца.* Тураў.

ПЛАЦІ'ЦЬ *незак.* Плаціць. *Тогды плацяць, як заробіш.* Аздамічы. *Людзі з Вóшчата плацілі податок і робілі паншчыну.* Дварэц. *За подрыўнік плаціць трэба, бо як не заплаціш, то не уросце на другі год. Дзе урвеш, там положыш крошку хлеба.* Луткі.

ПЛА'ЦЬЕ *н.* Бялізна. *Цепер і заўтра у мене плацье: трэба ўвечэры позоліць, а заўтра іці на берэг отпіраць.* Тураў. *У жлукці плацье золяць.* Бярэжцы. *Плацье — то сорóчкі зовóм.* Цераблічы.

ПЛАЧ *м.* Плач. *С плачу зробілосо.* Запясочча. *Очэрэдзь, плач да труб, людзей колько!* Там жа. *Завелі мальчукá у завор цепер, то вон дойдзе с плачý.* Мачуль.

ПЛА'ШКА *ж.* 1. Шырокі кавалак (сала, поля і інш.). *Плашкі сала лежаць.* Дварэц. 2. Плашка (дроў). *Як росколяць бервено, то плашка.* Запясочча. *Плашка смóльна осталáса, будзе много лучыны.* Хачэнь.

ПЛА'ШКОЙ *прысл.* Плашмя. *Плашкоў упаў у рэку.* Аздамічы.

ПЛЕВА'ЦЬ *незак.* Пляваць. *Не трэба, Манько, дочушко, плевапь.* Бярэжцы.

ПЛЕ'ВЕНЬ *ж.* Погань, нечысць, якая ўсё знішчае, з'ядае. *Плевень — вусень така чэрэвата, зелена.* Запясочча. *От этой плевені нагодовалоса! Засыпае очы* (пра камароў). Буразі. *Шо ужэ е плевень эта вýтва!* Верасніца. *Дзеці, эта плевень, сады об'едаюць.* Пагост. *Жукі колорацкіе — это плевень!* В. Малешава. *От плевень — не дасць поспаць* (пра дзяцей). Аздамічы.

ПЛЕВУ'ЖЫЦЬ *незак.* Моцна ліць. *От плевужыць трое суток дождж!* Запясочча.

ПЛЕВУ'ЗКАЦЬ, БЛЕВУ'ЗКАЦЬ *незак.* Плявузгаць. *Годзі тобе плевузкаць!* Тураў. *Брэхун ты, плевузкаеш обы-шчо.* Запясочча. *Хто богато говорыць, да екой не-прайды, то кажуць — годзі ты плевузкай!* Лутківі. *Не плевузкай тэ, шо не трэба.* Аздамічы. *Шо ты блевуз-каеш? Ну, до чого то?* Сямігосцічы.

ПЛЕВУ'ЗКНУЦЬ *зак.* Плявузгнуць. *Плевузкнуў тое, шо не следуе.* Буразі.

ПЛЕ'ЙТУХА *ж.* 1. Пляткарка. *Плейтухі плелі немаў-гады шчо.* В. Малешава. 2 *мн.* плёйтухі. Доўгія касмылі на галаве. *Для чого носіць такіе плейтухі на голове?* Старажоўцы.

ПЛЕ'М'Е *н.* Род. *Вона трохі бі з нашого племені.* Хотамель. *По племені замуж беруць.* Там жа.

ПЛЕМЕ'ННІЦА *ж.* Пляменніца. *А шо, вона твоя пле-менніца?* Запясочча.

ПЛЕМЕ'НСТВО *н.* Радня, родзічы. *Хай бы знали на-шые, племенство, дзе дзед лежыць.* М. Малешава. *У нас чэцьвёртэ поколенье ужэ не мóжэ росказаць свое пле-менство.* Цераблічы.

ПЛЁ'МЕНЬ *ж.* Род. *Ее племень нічога!* Альшаны.

ПЛЁМЕЎСТВО' *н.* Радня, родзічы. *Ге, дзе мое пле-меўство?* (жартоўна пра дзяцей). Цераблічы.

ПЛЕ'НА' *ж.* Трэшчына ляза касы, сякеры і інш. *Коса, бувало, лопнула, то кáгуць, плену зробіў, у соке-ры трошкі лопнуло, то тоже плена.* В. Малешава.

ПЛЕНІ'ЦА *ж.* Звяно ў плыце, плоце і інш. *По п'яць злотых пленіцу плацілі колісь* (плытагонам). Велямічы. *Одну пленіцу загородзіў.* Аздамічы. *Цэла пленіца золо-тых зубоў!* Дварэц.

ПЛЕ'СКАНКА *ж.* Скварка сала, падсмажаная на ражончыку на кастры. Запясочча.

ПЛЕСКА'ТЫ *прым.* Плоскі. *Голова була плескатá.* Верасніца. *Хвост такі плескаты у бобрá.* Сямурадцы.

ПЛЕСКА'ЦЦА *незак.* Пляскацца. *Воды хапае, пле-шчыса!* Хачэнь.

ПЛЕСКА'ЦЬ *незак.* 1. Пляскаць. *А вон по плечу ее плёшчэ.* М. Малешава. *А воны шчэ і ладкамі плешчуць!* Цераблічы. *Об шлях вода плескала, шчо толькі дзержы-са!* В. Малешава. *Брэхун, плешчэ, шо не було!* Там жа. 2. Смажыць сала на ражончыку на кастры. *Плескалі са-ло на рожну.* Дварэц. *Дзеці любяць плескаць сало на рожну на огне — дзержыць лусту хлеба і капае тым салом.* Пагост.

ПЛЕ'СНЕЦЬ *незак.* Плеснець. *Квас плеснее.* Бярэжцы.

ПЛЕСНІ'ВУ *прым.* Шараваты, пакрыты светлымі плямачкамі. Альшаны.

ПЛЕ'СНЯ *ж.* Плесня. *Плесня на молоцэ бувае.* Хачэнь.

ПЛЕСНЯ'ЎКА *ж.* Вялікае слінавыдзяленне ў дзіцяці. *Як у дітяті сліна іде, то плесняўка.* Альпень.

ПЛЕСЦІ' *незак.* 1. Віць вяроўкі. *Крукамі плетуць волокі.* Цераблічы. *З рогозу верэўкі плетуць.* Там жа. *У нас волокі плетуць, а ў Короцічах ўюць.* Аздамічы. 2. Плесці (лапці, кошыкі, пляцень). *Шчэ я буду лапці вучыцца плесці? Хай воно проваліцца!* М. Малешава. *Кошэ плетуць на картоплі.* Цераблічы. Вязаць (панчохі, рукавіцы). *А она одные рукавіцы плела і панчохі.* В. Малешава. *Сведры самі плетуць.* Бярэжцы. 3. Чапляцца нагамі адна за адну. *Ідзе і плеце ногамі.* Лyткі. 4 *перан.* Гаварыць абы-што. *Годзе ты плела шо не трэба.* М. Малешава. △ Плесці плóта бесколкóў. Гаварыць глупства, узводзіць паклёп. *Шо ты плота плецеш бес колкоў!* В. Малешава. Плесці кошэлé без дýжок. Гаварыць лухту. Запясочча.

ПЛЁТКА'РКА *ж.* Пляткарка. В. Малешава.

ПЛЕТНІ'ЦА *ж.* Асобная частка плятня. Запясочча.

ПЛЕТНЯ' *ж.* 1. Галлё, якім заплятаюць пляцень. *Плот плетнею плелі.* Сямігосцічы. 2. Плёткі, хлусня. *Ву не слухайце, шо вона говорыць, усе гэто плетня.* М. Малешава.

ПЛЕ'ЎКА, ПЛЁЎКА *ж.* Плеўка. *Не еж плеўкі, іцімеш замуж, да будзе дождж іці.* М. Малешава. *С перэгону тверда плеўка, а з молока смачненька.* Альпень. *Одзін сын одзінец, то на плеўках вірос.* В. Малешава. *Вулівок без лушпайкі, одно плеўка.* Бярэжцы. *Плёўка.* М. Малешава. *Памянш.* плéвочка. *Плевочку эдзерэ і есць.* Луткі. *Плевочка заведзецца на кулешу.* М. Малешава. *Плівочка подгорэла.* Кароцічы.

ПЛЕЦЕНІ'К *м.* Хлеў з плятнёвымі сценкамі. Цераблічы.

ПЛЕ'ЦЕНЫ *прым.* Вязаны. *Мама мне добру плецену хустку дала.* Пагост.

ПЛЕ'ЦЕ'НЬ 1 *ж.* Галлё, якім заплятаюць пляцень. *С плéцені зробіць хлевá, дай гусі перэзімуюць.* Цераблічы. 2. Пляцёнка. *Сплеці ў плéцень цыбулю, шчоб вона не гніла.* Сямігосцічы. 3 *м.* Плот з пераплеценых дубцоў

або сплецены з лазы. *Цеперэка плёценя нідзе не побачыш, усе плоты.* Кароцічы. *Плетуць плетня хворостом. Колкі убіваюць, а за колкі закладваюць хворост.* М. Малешава.

ПЛЕЦЁНКА *ж.* 1. Вязка. *Поплела ў плецёнкі цыбулю.* Мачуль. *Оснуе, а дале сплеце основу ў плецёнку.* Запясочча. *Кросна плетóм у плецёнку.* Хотамель. 2. Будынак з плеценымі сценкамі. *Плецёнка веліка була, дзе сено лежало.* Лутки. 3. Аплеценая бутля. *Ту плецёнку з корчóўкою ужэ стаўляе на стол.* Сямігосцічы.

ПЛЕ'ЦІВО *н.* Звіты ў некалькі столак верх пугаўя. Альшаны.

ПЛЕЧА'СТЫ *прым.* Плячысты. *Такі тоўсты, плечасты сын мой той.* Дварэц.

ПЛЕЧНЫ' *прым.* △ П л е ч н á с ц е н á. Сцяна ў хаце, дзе няма акон і дзвярэй. Аздамічы.

ПЛЕЧО', ПЛЕЧЭ' *н.* 1. Плячо. *Носіла на плёчах да зложыла стог.* Хачэнь. *Снімае с плечэй торбочку.* В. Малешава. *Добрэ плечэ і дубіною сечэ́* (прыказка). Кароцічы. *Плечы такіе у сомá шырокіе!* Запясочча. 2 *мн.* *п л ё ч ы.* Тарэц, зад. *Плечы́ма к тоей цёццы двор.* Хільчыцы. *Зайшлі ў плечы, а мы лежымó, место роўное.* Мачуль. *Сусед з-за плечэй у мене вубраўса, перэвёз хату.* Кароцічы. *С плечэй вульé проб'е жоўна.* Аздамічы.

ПЛЕЧОВУ' *прым.* △ П л е ч о в á с ц е н а. Сцяна ў хаце, дзе няма вакон і дзвярэй. Луткі. П л е ч о в э́ ш ý л о. Шула паміж прасценкаў. В. Малешава.

ПЛЕЧЫ'ЦА *ж.* Ключыца, сустаў у плячы. *Часто болелі каркі, плечыцы, то п'яўг прыстаўлялі.* Хачэнь. *Памянш.* п л е ч ы́ ц к о *н.* *Буду тобе плечыцко чухаць.* В. Малешава.

ПЛЕШ *м.* Плеш. *Это ж не плеш, а лысіна, плеш — это ж еслі паршук.* Верасніца. *Плеш, як жыто не поросце. Сеялі — да не поросло, замело песком чы шо. Шо там жаць було — одные плешы!* Бярэжцы.

ПЛЕ'ШКА *ж.* 1. Шапачка ў грыба. *Ножка у гры́ба згніла, осталáса одна плешка.* 2. Квадратнае перапляценне па баках у кошыку, куды закладваюць канцы рэбраў. *У кошэлях плешкі робяць бубніком такіе.* Сямігосцічы.

ПЛЕШНІ'К *м.* 1. Аер. *Это плешнік, шо едзяць.* Запясочча. *Я своёй корові накідаю плёшніку з вышок, дак вона поесць.* Дварэц. *Плешнік по тых сёлах едзяць, а ў нас не едзяць.* Пагост. Рагоз. *Хто плешнік обзывае, а хто*

*рогóз.* 2. Касач. *Плешнік, бувало, понарываём да несóм, то крычалі: не несéць у двор, бо куры подохнуць.* Хачэнь. △ К о́ н с к і п л е ш н і́ к. Касач. *Конскі плешнік, его товар есць.* Сямурадцы. С в о́ й с к і п л е ш н і́ к. Аер. *Плехá маленька, а свойскі плешнік велікі, пахучы той.* Старажоўцы.

ПЛЕШНЯ'К *м.* Аер. *Плешняк по-нашому, а лепехá, то ў западной кажуць.* Чэрнічы.

ПЛЕШЫ'ВУ *прым.* Пляшывы. *Насмеяўса голы с плешывого!* (прымаўка). Сямігосцічы.

ПЛЁСКЛЫ *прым.* Плоскі. *Лешчы такіе плёсклые, ек плашка.* Луткі. *У пральніка плёсклы бок і круглы.* Запясочча.

ПЛЁСНУЦЦА *зак.* Плюхнуцца. *Вон плёснуўса у вóду.* Аздамічы.

ПЛЁСО, ПЛЕ'СО *н.* Шырокае месца на рацэ (а таксама на лузе, у полі). *Там далей на рэцэ таке шыроке плёсо е.* Цераблічы. *Веліке плёсо скосілі, а сена мало.* Луткі. *Веліке плёсо жжалі.* Альшаны. *Плéсо.* Дварэц.

ПЛЁСТАЦЦА *незак.* Плёскацца. *Плёстаецца ў водзе, а вода холóдна, ек лёд!* М. Малешава.

ПЛЁТКА *ж.* 1. Бізун. *А воны его плёткамі, плёткамі!* 2. Ілжывая чутка. *Гэто плётка, гэто вон сам з себе вýплёў.* Старажоўцы.

ПЛЁХА *ж.* Той, хто вымачыўся, плёскаючыся ў вадзе. *Ох, плёхо, як ты вумакла!* Цераблічы.

ПЛЁХАЦЦА *незак.* Плёскацца. *Шо таке там плёхалоса у болоці?* Хачэнь.

ПЛЁХАЦЬ *незак.* Плёскаць. *Дождж, вода ў печ с коміна плёхае.* Дварэц.

ПЛІСАКІ' *мн.* Плытагоны. Пагост.

ПЛІ'СКА *ж.* Пліска (птушка). *Пліска — пташэчка така, шо хвосціком ківае. Вона ж і поселкова цётка.* Мачуль.

ПЛІ'СКАЦЦА *незак.* Пырскацца. *Ходзем пліскацца на канаву!* М. Малешава.

ПЛІ'СКАЦЬ *незак.* Пырскаць. *Ек стаў дзéвок пліскаць, а воны ек сталі вішчаць!* Пагост.

ПЛІ'СКІ *ж.* Пырскі. *Пліскі полецелі на ўсіх, усіх обліслі.* Запясочча. *Як мую подлогу, то пліскі на сцены.* Верасніца. *Як плёхнуў, аж пліскі пошлі.* В. Малешава. *От даў веслом, аж пліскі полецелі.* Цераблічы.

ПЛІСКОНІ'НА *ж.* Плёсканне, пырсканне. *Не муцье, а плісконіна.* Азяраны.

ПЛІ'СЫ *мн.* Стужкі на спадніцы, прышытыя папярок. *Мужычкі плісы прышывалі на сподніцы, а шляхта — фальгонкі.* Хачэнь. Планачкі на сцяне пад паліцай. Бярэжцы.

ПЛІТА' *ж.* Ссохлая луста зямлі, крыга. *Пліту розбі на кавалкі.* Цераблічы.

ПЛІ'ЦЬЕ *н. зб.* Ссохлыя лусты зямлі. *На горо́дзі вельмі пліцье велікое було.* В. Малешава. *Пліцье біці пойду на соткі.* Цераблічы. △ У п л і ц ь е. Дзіцячая гульня. Кожны выразае сабе дзярніну ў крузе і закладвае яе назад так, каб цяжэй было знайсці. Потым шукаюць. Цераблічы.

ПЛОВА'К, ПЛУВА'К, ПЛЫВА'К *м.* Плавец. *Хай екі пловак будзе, а затопіцца.* Дварэц. *Вон плувак буў, плувак, а потаў.* Хачэнь. *Усе плываке́ потопіліса.* Запясочча.

ПЛОД *м.* Расплод. *Му не повелі пло́ду с то́е целушкі.* Хачэнь. *Воны не пусцілі плоду с тое коро́ву, коб не зве́сціса* (звычай). Там жа.

ПЛОДЗІ'ЦЦА *незак.* Пладзіцца. *Людзі пло́дзяцца, а поле не прыбувае.* М. Малешава. *Плодзяцца мухі нешчотне.* Луткі. *У том болоці чэрці плодзіліса.* М. Малешава.

ПЛОДЗІ'ЦЬ *незак.* Пладзіць, выводзіць. *Дзеці пло́дзіць і дзяцёл.* Запясочча.

ПЛО'СКІ *прым.* Палогі. *Стромкі верх у стрэсе, а не плоскі.* Аздамічы.

ПЛО'СКУНІ *мн.* Маніцы. *Постронкі вілі с пенькі, а плоскуні ішлі на прадзіво, бо воны мекчэйшые.* Старажоўцы.

ПЛОТ *м.* Плот, агароджа. *Воўк перэско́чыў церэз плот да з'еў кабана ў двори́.* Хачэнь. *Плот плецецца с хворосту.* Аздамічы. *Бувае с колкоў плот.* Хотамель. *За поганым мужом, ек пуд плотом* (прымаўка). Запясочча. △ Г о р о д з і ц ь (п л е с ц і) п л о́ т а б е з к о л к о́ ў. Гаварыць глупства, нахабна брахаць. *Ой, шо ты городзіш мне плота без колкоў!* В. Малешава.

Рабілі плот для лоўлі ваўкоў у выглядзе спіралі. У цэнтры прывязвалі парася. Воўк праціскаўся ў цэнтр, але прайсці назад не мог. Пры адваротным руху ён натыкаўся на завостраныя спічакі, якія вытыркаліся са сценак плоту. Аздамічы.

ПЛО'ТКА *ж.* Плотка. *Нема пото́к, одные окуньцэ́.* Пагост. △ Л е ш ч о́ в а п л о́ т к а. Падлешчык. Луткі. К р а с н о п е́ р а п л о́ т к а. Краснапёрка. Там жа. Я з ё-

в а п л о́ т к а. Пад'язак. Там жа. К о с а́ я п л о́ т к а. Падлешчык. Альпень.

ПЛО'ТНІК *м.* Цясляр. *Плотнікі прыдуць робіць хату.* М. Малешава. *Такі хорошы плотнік, шо за его нема, шоб хто лепш зробіў.* Дварэц.

ПЛОТНІКОВА'ЦЬ *незак.* Цяслярыць. *Дзе твой Еўхім плотнікуе? На Урале?* В. Малешава. *Хто ўмее плотніковаць, той едзе на украіны.* Цераблічы.

ПЛО'ТНЫ *прым.* Добра складзены і моцны. *Гэта плотна, хоро́ша дзеўка, бач, як на ей прыстало.* Хачэнь. *Вона не чэрэвата, не гладка́, а плотна.* Запясочча.

ПЛОХВІ'НА *ж.* Пустая, неўрадлівая зямля. *Дзе яка плохвіна, то посеем просо.* Цераблічы.

ПЛО'ХІ *прым.* Слабы, бяссільны, дрэнны. *Пло́хіе вудары ву, браце!* Запясочча. *Я велмі ўжэ стары́ да пло́хі.* В. Малешава.

ПЛО'ХО *прысл.* Дрэнь, кепска. *Бачэ, шо дзело пло-хо.* В. Малешава. *Одна дзеўка вучылася добрэ, а друга́ плошэй.* М. Малешава.

ПЛОЦЕНЯ' *н.* Плотачка. *Нейке плоценя поймалі.* Цераблічы. *Памянш.* п л о ц е н я́ т к о. Луткі.

ПЛОЦЬ *ж.* 1. Плоткі. *Ю́хі с тое́ плоці наварыла, а кожушкі сфаршыровала.* М. Малешава. *За плоцью не відно́ тое землі на дне!* Луткі. 2. Цела. *От то була плоць! Махіные булі тые дзеды́!* Мачуль. *Гвозда подставіць под свою плоць і ходзіць!* (пра жаночы абутак на высокіх тонкіх абцасах). Сямігосцічы.

ПЛО'ЦЬЕ *н. зб.* Плоткі. *На плоцье сеці частые трэба.* В. Малешава.

ПЛОША'ЦЬ *незак.* Горшаць, слабець. *От того вон стаў плошаць.* Хачэнь.

ПЛО'ШЧЫК *м.* Прамы вузел. *Звезаў волоку на пло-шчык.* Луткі. *В'яжуць па́ўзье у плошчыка.* Цераблічы.

ПЛУГ *м.* Плуг. *Покінуў у плузі коні.* М. Малешава. *Коноплі сеялі плугом у концы огородоў.* Альшаны. *Вона с Ко́лкоў носіла ў Городок плуга строіць.* Цераблічы.

ПЛУСЦІ' *незак.* Плысці. *Хто ўмее плусці, перэпло́ў-ваюць по озеру.* М. Малешава. *Плоў бобер по канаве, і така дорожка по жаберу.* Луткі. *Як успомню я свое молодые го́ды, як колісь я жыла, то самі слёзы плувуць по мне, і не можно іх удзе́ржаць.* М. Малешава.

ПЛУ'ТАЦЦА *незак.* Блытацца, чапляцца. *Плутаецца, бы п'яны по коноплях.* Мачуль. *Ніткі плутаюцца.* Альпень.

ПЛУ'ТАЦЬ *незак.* Блытаць, чапляць адно за адно. *Плутае нога за нóгу.* Альпень.

ПЛУ'ТНЯ *ж.* Блытаніна. *Нема ніякого порадку, плутня с тым товаром.* Аздамічы.

ПЛЫ'ГАЦЬ *незак.* Скакаць. *Голуб не плыгае.* Бярэжцы. *Дарую целіцу, шо плыгае з печы на поліцу, а ву, молодые, не зевайце да целіцу ловайце!* (вясельнае пажаданне). Мачуль.

ПЛЫ'ГНУЦЬ, ПЛЫГЕНУ'ЦЬ *зак.* Скокнуць. *Плыгнула кошка с печы.* Запясочча. *Вон оттудака як плыгне!* Бярэжцы. *Плыгенуў угору вісóко.* Мачуль.

ПЛЫ'ТКА *ж.* Пласт сала, вялікі кавалак. *Плытка сала хоць на цэлого кабанá.* Запясочча.

ПЛЫТОНО'СІЦА *ж.* Дзікая качка з шырокай дзюбай. Альшаны.

ПЛЫ'ЦІНА *ж.* Вялікая дзярніна. *Порося мое, як плыціна!* Тураў.

ПЛЫ'ЦІЦЬ *незак.* Вязаць лес у плыт. *Я не умею гвоздзямі плыціць.* Аздамічы.

ПЛЫ'ЦЬЕ *н. зб.* Задзірванелыя скібы. *Зоралі горóда — одно плыцье!* Рыдча.

ПЛЮГА'ЎСТВО *н.* Паскудства. *Як дым ідзе, то гэтэ плюгаўство, комары, уцекае.* Сямігосцічы. *Собірае разное плюгаўство по селе!* Дварэц.

ПЛЮ'НУЦЬ *зак.* Плюнуць. *Прыйдзе йюнь, то або сей, або плюнь* (прымаўка). Хачэнь.

ПЛЮ'СКА *ж.* Вядучы пры гульні ў хованкі. Бярэжцы.

ПЛЮ'СКАЦЬ *незак.* Плюскаць, адкрываць і закрываць павекі. *Шоб я там очыма плюскаў? Не!* Мачуль.

ПЛЮ'СКЛЫ *прым.* Плоскі, сплюшчаны, зморшчаны. *Плюскла худобіна, бу лешч.* Аздамічы. *Дзесець плюсклых рыбок поймаў.* В. Малешава. *Побабелі рукі, у брыжэ̄чкі пobраліса, плюсклые зробіліса.* Тураў.

ПЛЮСНА', ПЛІСНА' *ж.* Пад'ём у назе. *Плюсна до косточкі опухла.* М. Малешава. *Пліснa у чоловека зверху на нозе.* Запясочча.

ПЛЮ'СЫ *мн.* Радоўкі. *Плюсы кучкою ростуць, як смажыць, дак такіе лоўкіе!* Тураў.

ПЛЮХА' *ж.* Аер; касач. *Сілосовалі плюху там, на гурпанчыку.* Любавічы.

ПЛЮ'ХАЦЦА *незак.* Плёскацца. *Дзеці ў водзе плюхаюцца з ранку до вечора.* М. Малешава.

ПЛЮХО'ТА *ж.* Макрата, гразь. *От, бра, не можно*

*вуйці на двор, плюхота така.* Запясочча. *Да дождж, да плюхота на дворэ!* В. Малешава.

ПЛЮ'ШКА *ж.* △ Г у л я́ ц ь  у  п л ю́ ш к і. Дзіцячая гульня ў хованкі. *У плюшкі одзін зажмурвае очы, а другіе ховаюцца.* Запясочча. *У плюшкі гуляем вечером.* Тураў.

ПЛЮШНЯ' *ж.* Аер. *Нанесом плюшні пахучое.* М. Малешава. △ Б у́ с ь к о в а  п л ю ш н я. Касач. М. Малешава.

ПЛЮШЧА'К *м.* Пустое насенне, зярняўкі ў коласе. *У гарбу́зах е таке хорошэ сем'е, а тэ пустэе, то плюшчаке́.* Запясочча. *Плюшчак не можно сеяць.* Кароцічы.

ПЛЮШЧАКО'М *прысл.* Прыжмурыўшыся. *Бабо, ты плюшчаком гледзіш на мене.* Цераблічы.

ПЛЮ'ШЧАНКА, ПЛЮ'ШЧЭНКА *ж.* △ У  п л ю ш ч а н к і. Дзіцячая гульня ў хованкі. *У плюшчанкі гуляем, то зав'яжуць очы да як до чого ідзе, то крычаць: «Огонь!»* В. Малешава.

ПЛЮШЧА'ТЫ *прым.* Сплюснуты, пляскаты. Альшаны.

ПЛЮ'ШЧЫЦЦА *незак.* Сплюшчвацца, рабіцца плоскім. *Галоўкі льна ужэ шамаюць, добрэ оббіваць, а ек мокры, то плюшчыцца.* М. Малешава.

ПЛЮ'ШЧЫЦЬ *незак.* 1. Прыплюшчваць, міргаць. *Плюшчыць очы да показвае на ее.* М. Малешава. 2. Вадзіць пры гульні ў хованкі. *Васіль, ты плюшчыш!* Бярэжцы. *Того, хто плюшчыць, да заведуць на порог да кажуць: На чом стоіш? — На камені.— Шчо п'еш? — Квас.— Лові чорто́ў, а не нас!* Цераблічы. *Хто плюшчыць да поймае кого, то стукае по голове і кажэ: «Чэрэпок масла, голова красна».* Там жа. 3. Значыць свойскіх птушак. *У нас плюшчаць ім знак, тым гуся́м.* Дварэц.

ПЛЯ'ЖКА, ПЛЯ'ШКА *ж.* Бутэлька. *Пля́жок дзве піва возьмі.* Буразі. *Сват поставіў гарцову пляжку гарэлкі.* М. Малешава. *Шо ж то Змітрова дочка́ носіць, як бу літрову пляшку?* Запясочча. *Узела дзве пляшкі воды-газоўкі.* Бярэжцы.

ПЛЯ'МА *ж.* Пляма. *У мухоморы красна голова й плямі белые по ём.* Сямігосцічы.

ПЛЯ'МКА *ж.* Клямка. *Наш Васілько ўжэ векікі вурос, шчо й до́ плямкі ў дзвера́х достае і оччыняе сам.* Кароцічы. *Плямка — ў дзверах така лопаточка.* Цераблічы.

*Кот царап-царап за тую плямку і отчыніць хату.* В. Малешава.

ПЛЯ'МКАЦЬ *незак.* Чвякаць. *Воны ўсе поелі, а ву плямкаеце ротом.* Хачэнь. *Есць і плямкае, бу свіньня.* Луткі.

ПЛЯ'СКАЦЬ *незак.* Пляскаць, ляскаць. *От у ладкі пляскалі ей!* Верасніца. *По водзе палкою пляскае.* Бярэжцы.

ПЛЯ'СНУЦЬ *зак.* Ляпнуць. *Не моцно плёснуў.* Аздамічы.

ПЛЯ'СТАЦЬ *незак.* Плёхаць. *Век плясталі ў лапцях, бало слюта, гразь, шчо нельзя і собакі выгнаць.* Мачуль.

ПЛЯ'ХІ *мн.* Складкі ў страўніку ў каровы. *Пляхі — то у жолудку коровы.* Запясочча. *Туроўцы на запесоцкіх кажуць пляхі. Воны ў Туроў ходзілі да пляхі куплялі с кароў. Моста поломалі — носілі пляхі!* Тураў. *Пляхі — кішкі, трыбух, мы іх вукідаем собаком.* Луткі. *Дала, шо пляхі вускочылі!* Альпень.

ПЛЯЦ *м.* Сядзіба, пляц. *На пляцу стоіць хата.* В. Малешава. *Поробілі пляцы, дзе було коліся поле.* Луткі.

ПНЕЦЬ *незак.* Гібець, карчэць. *Сама осталаса да пнею.* Хачэнь. *Як пнець мне з ім, то луччэй сама буду жыць.* Старажоўцы.

ПНУ'ЦЦА *незак.* Лезці, напружвацца. *Вон навек пнецца, а сілы нема.* Дварэц. *Шчэ пнецца, як жаба на купіну!* Тураў. *Я ўдовою так пнуласа, шоб дом зробіць.* М. Малешава. *Пнецца доказаць, шо вон багаты.* М. Малешава.

ПНУЦЬ *зак.* Штурхнуць. *Корова ее пнула.* Хачэнь. *А пóтом мене як шо пнуло.* Мачуль. *Той пнуў, а той упаў.* Запясочча.

ПО *прыназ.* 1. За, з мэтай. *Пойду по корову.* Дварэц. *Ходзем по рыбу.* Луткі. *Пошлі дзеўкі по грыбу, а хлопцы по пачурыцы* (з песні). В. Малешава. *Хлеб прывéзлі, по хлеб пошлі.* Аздамічы. 2. Па, уздоўж, ад пункта да пункта. *Поехалі по ездзе у озеро.* М. Малешава. *Коні брохаюць по водзе.* Там жа. *Меў такее дыханіе, шо пошоў по дну Прыпяці.* Мачуль. *Вілами по водзе пісано.* Хотамель. 3. Да пэўнай мяжы. *Там воды по шыю.* М. Малешава. *Ото, по этого дýба скосіце, а то остаўце.* Кароцічы. *П'яному морэ по колено* (прымаўка). Мачуль. 4. Пасля. *Мы ўжэ по робоці пошлі до свахі.* Луткі. *Молоко прышло ўжэ по траве.* Хотамель. 5. Па, у колькасці, у аб'ёме і інш. *Усім по наметцы дае молодзіца.* Сямігос-

цічы. *Каждое жэлезо по поўпуда* (капкан на выдру). Мачуль. 6. На. *По той бок, от дзе ву чэр'які копалі.* Луткі. *Стою по одзін бок порога, а вон по другі.* М. Малешава. *Сеў бу вон з вамі по конец стола да поговорыў бу.* Дварэц. 7. У адпаведнасці. *У кажного чоловека робота по собе.* Дварэц. *Кажны берэ кума по собе.* Хачэнь. *Пішу по своє грамотносці.* 8. Пра страту, знікненне, заканчэнне. *Ужэ по мотоцыклу — буў да нема!* Мачуль. 9. За, услед. *До того сладосць есць — ложка по ложцы, ложка по ложцы!* М. Малешава. 10. У час. *Шо по лету ногою, то зімою рукою* (прыказка). Сямурадцы.

ПОБАБЕ'ЦЬ *зак.* Пазморшчвацца (ад халоднай вады, холаду). *От попопрала плацье, шо шкура на руках побабела.* Запясочча. *Побабелі рукі мое, побелелі да поморхлі.* М. Малешава. *Холоднó, цело побабело ўсе.* Там жа.

ПОБАЗУ'РЫЦЬ *зак.* Пабузацёрыць. *Два гóды побазурыў своє, одгуляў.* Луткі.

ПОБАЛА'КАЦЬ *зак.* Паразмаўляць. *Поседзелі с Косарыхою да побалакалі.* Запясочча. *Хоць поседзім да побалакаем.* Верасніца.

ПОБА'НІЦЦА *зак.* Памыцца. Кароцічы.

ПАБА'НІЦЬ *зак. метаф.* Пабіць. *Ву шо, побанілі сынка, шо вон такі нехорошы?* Д.-Гарадок.

ПОБА'ЧЫЦЬ *зак., 2 ас. адз. заг. побá, побáч.* Пабачыць, паглядзець. *Пойду поросёнка побачу, мо дзе ў лозé вон.* М. Малешава. *Я на дорогу; бо як на дорозі гром уб'е, то нехто іціме да побачыць.* Хачэнь. *Поба, мо ведро стоіць на ганку.* В. Малешава. *От поба но, людзенькі!* Аздамічы. *У лесў не побачыце жонóк, одно голос — уў а оў!* Старажоўцы. *Побач, мо кура з ейцэм.* Кароцічы. △ Побáчыць светý. Акрыяць крыху пасля хваробы. *Помула — дай побачыў чоловек свету.* Луткі.

ПОБЕ'ГАЦЬ *зак.* Папаляваць (пра карову). *Коб побегала целушка, то мо добрэ було б.* Мачуль.

ПОБЕ'ГЛЫ *прым.* Шустры, хуткі. *Такі буў побеглы мой чоловек той!* М. Малешава.

ПОБЕГУ'ХА *ж.* Жанчына, якая любіць хадзіць па хатах. *Насця такая побегуха, шо за вечор п'яць хат обегае.* Верасніца.

ПОБЕ'ГЦІ *зак.* Пабегчы. *Уцёк не ўцёк, а побегці можно* (прымаўка). Аздамічы.

ПОБЕ'Л *м.* 1. Бяліла, пабелка. *Трэ мазаць печ побелом.* Рубель. 2. Палуда. Сямігосцічы.

ПОБЕЛЁНЫ *дзеепрым.* Луджаны, паліваны. *От хорошые саганы, у серэдзіне побелёные!* Сямігосцічы. *Каструля побелёна, да не прыгарвае.* Запясочча.

ПОБЕЛЕ′ЦЬ *зак.* Пабялець. *Вон от хворобу побелеў.* Лутকі.

ПОБЕЛІ′ЦЬ *зак.* Пабяліць. *У нас — покаліць, полешукі говорáць побеліць.* Бярэжцы.

ПОБЕ′РДЗІЦЦА *зак.* Страціць шчыльнасць. *Полотно побердзілосо.* Хотамель.

ПОБЕРЭ′СЦІЦЬ *зак.* Пакрыць зверху бяростаю. *Поберэсціў собе верэньку.* Кароцічы.

ПОБЕРЭ′ШЧВАЦЬ *незак.* Пакрываць бяростай. *Вэрэньку сплеце з лозы́ і бе́рэстом поберэшчвае зверху.* Мачуль.

ПОБЕРЭ′ШЧЭНЫ *дзеепрым.* Пакрыты зверху бяростай. *Поберэшчэна верэнька красіво.* Сямігосцічы.

ПОБІ′ЦЦА *зак.* 1. Пабіцца (на кавалкі). *Твое не побіліса пляжкі?* Цераблічы. 2. Пабіцца (адзін з адным). *От, сюд-туд, дай побіліса!* Луткі. *На месяцы е два браты, то кажуць, брат брата зарубаў, мо за зе́млю побіліса?* Старажоўцы. 3. Папаляваць (пра кабылу). Бярэжцы. 4. Пацерціся. *Потра с сена, як воно поб′ецца.* Луткі. △ П о б і ц ц а ў я б л у к а. Пакрыцца круглымі плямамі. *Бувае, конь у яблука поб′ецца.* Запясочча.

ПОБІ′ЦЬ *зак.* 1. Пабіць, пастукаць моцна. *На́ тобе мо́лота, мо поб′еш троха.* Запясочча. *На, побі ў бубен.* Азяраны. 2. Пааббіваць. *Ро́су побіў нехто, пошоў рано.* Сямігосцічы. 3. Папрыбіваць. *Варвары заварáць, а савы засаўляць, а Мікола гвоздзя́мі поб′е* (прымаўка). Хачэнь. 4. Забіць, знішчыць. *Коровы побіло на попасе.* Сямігосцічы. *Дзе-то побіў град жыто.* Там жа. 5. Пабіць, надаваць кухталёў. *Гэтак вон побіў ее, шо плачэ!* Дварэц. 6. Пакалоць на часткі. *Поб′ю на дро́ва того ву́лея!* Хачэнь. *Енды́чку шо́фер затоптаў, то й окна каменем ему побілі.* Цераблічы. 7. Пакрыць (пры гульні ў карты). *У ее думка, екою побіць картою.* Хачэнь.

ПОБЛУ′ТАЦЦА *зак.* Паблытацца. *Поблуталіса ніткі.* Сямігосцічы.

ПОБЛЫ′НДАЦЬ *зак.* Пабадзяцца. *А шчо там поблындаць за товаром! Яка то робота?* Сямігосцічы.

ПОБЛЯ′КНУЦЬ *зак.* Зрабіцца менш яркім, светлым, бліскучым. *Поблякло от сонца.* Бярэжцы.

ПОБОГА′ТО *прысл.* Замнога. *Побогато з′еў, понос такі зробіўса!* Луткі.

ПОБОЖА'ЦЬ *зак.* Пажадаць. *Моя стара побожала, шоб ты прышла.* Запясочча.

ПОБО'Й *м.* Траўма. *А гэты побой ему ўрэдзіць і цепер.* В. Малешава.

ПО'БОК *прысл.* Паўзбок. *Сцвіга соўсем побок ідзе.* Старажоўцы.

ПОБОЛЕ'ЦЬ *зак.* Пахварэць. *Я поболела с того.* Дварэц.

ПОБО'ЛЬВАЦЬ *незак.* Пабольваць. *Прыступаў нема, да побольвае.* М. Малешава. *Побольвае шчэ нога.* Любавічы.

ПОБО'ЛЬШАЦЬ *зак.* Павялічыцца, падрасці. *Була мала́ дзеўка, да побольшала.* Бярэжцы. *Дзень побольшэў, а ноч покорочала.* Цераблічы.

ПОБО'РАЦЬ *зак.* Пабароць, перамагчы. *Бувае, шчо і коня воўк поборае.* Чэрнічы.

ПОБОРОНОВА'ЦЬ *зак.* Пабаранаваць. *Колісь картоплі посеялі, побороновалі і ўсе, не розгонялі гранок.* Сямігосцічы.

ПОБОРО'ЦЬ *зак.* Пабароць, перамагчы. *Зноў схопіліса, да побороў вон.* В. Малешава.

ПОБОРСА'ЦЬ *зак.* Забарсаць. *Поборсалі лапці.* Пагост.

ПОБОРУКА'ЦЦА *зак.* Пабароцца. *Давай поборукаемса, хто здоровейшы.* Запясочча.

ПОБОТНЯ' *ж.* Бакавая вяроўка ва ўвязаным возе сена. *Поботнею обцягвалі, сено шоб не рострушвалосо.* М. Малешава.

ПОБО'ЧНЫ *прым.* Чужы, прыезджы. *От вў побочные у нас.* Старажоўцы.

ПОБОЯ'ЦЦА *зак.* Пабаяцца. *А мо побояўса да тожэ уцёк?* Кароцічы.

ПОБРА'ТЫ *дзеепрым.* Узяты. *Богато іх побрато там?* Запясочча.

ПОБРАЦІ'М *м.* Пабрацім. *Прыдуць куму й побраціму у чырвонай кармазіні, а ты, маці, у сермяжцы, да будзе сын у зневажцы* (з песні). Пагост.

ПОБРА'ЦЦА *зак.* Узяцца. *Поберуцца за рукі — да велікі круг!* Хачэнь. Пажаніцца. *Во́ны ўжэ побраліса.* Альпень.

ПОБРА'ЦЬ *зак.* Пазбіраць, пазабіраць. *Побралі там грыбу ўжэ, однэ корэнье лежыць.* Хачэнь. *Побралі ўсю пашню с поля.* Дварэц. *Поберы моіх дзецей на воз.* Пагост.

ПОБРОДЗІ'ЦЬ *зак.* Пахадзіць па вадзе. *Побродзі да поцегай крыгу, то ведацімеш рыбу!* Запясочча.

ПОБРО'ЗГЛЫ *прым.* Азызлы. *Вон боброзглы — мабуць, спаў.* Цераблічы.

ПОБРОХОТА'ЦЦА *зак.* Шумна пахадзіць па вадзе, паплюхаць. *Лешчы потруцца, поброхотаюцца, а после пошлі по сваіх дорогах.* Верасніца.

ПОБРУСЦІ' *зак.* Пайсці ўброд, прама (па высокіх пасевах). *Бабо, я прамо побруду.* Кароцічы. *От, побрула по жыту да ўросіласа по поес, бы русаўка.* Люткі.

ПОБРЫЖКОВА'ЦЬ *зак.* Пабалавацца, падурэць. *Нехай побрыжкуюць дзеці, то дзядзькі у гóрод заберуць.* Дварэц.

ПОБРЫ'ЧЭНЫ *дзеепрым.* Паголены. *Ему лепш побрычэному, без бороды.* М. Малешава.

ПОБРЭ'ІЦЦА *зак.* Пагаліцца. *Трэба побрэіцца, зарос.* Кароцічы. *Еўхім забыў побрэіцца.* Запясочча.

ПОБРЭХА'ЦЬ *зак.* 1. Пабрахаць. *Пропаў наш труд, і собака не побрэшэ.* М. Малешава. 2 *перан.* Зманіць. *Ета жонка не побрэшэ.* Запясочча.

ПОБУДЖА'НЬЕ *н.* Наведванне могілак на другі дзень пасля пахавання нябожчыка. *На побуджанье трэба сходзіць ўзаўтра.* Старажоўцы.

ПОБУДЖА'ЦЬ *незак.* 1. Узбуджаць, будзіць. *Богаство чоловека побуджáе, а голота прысыпае* (прымаўка). В. Малешава. 2. Наведваць могілкі на другі дзень пасля пахавання нябожчыка. *Пабуджаць ідуць на другі дзень, як схороняць.* Дварэц.

ПОБУДЛОВА'ЦЬ *зак.* Папаляваць (пра карову). Мачуль.

ПОБУНТОВА'ЦЬ *зак.* Перашкодзіць, перамяшаць. *Прошлі і побунтовалі нам рыбу ловіть.* Альпень.

ПОБУРКОВА'ЦЬ *зак.* Падрэзаць у гусей крылле. *Я ўжэ побурковаў — потсекаў крылье ім к чортовой мацеры!* Буразі. *Побурковала гусі, шоб не лезлі по городу.* Старажоўцы.

ПОБУРЛЯ'ЦЬ *зак.* Пашпурляць. *Пабурляла конверты, да чыстые!* В. Малешава.

ПОБУРЧА'ЦЬ *зак.* Пабурчаць. *Покрычы, побурчы, да свое ж дзеці!* Верасніца.

ПОБУ'РЫ'ЦЬ *зак.* Кінуць, шпурнуць. *Палку як побурыла у овéчок!* Люткі. *Ек кого дзе поймае, то побўрыць.* Люткі. *Так вон туды як побўрыў, то ек ляснуло!* Бярэжцы.

ПОБУСЯ'ЦЬ *зак. экспр.* Пацалаваць. Альпень.

ПО'БУЦЕНЬ *н.* Вяз у санях ад галовак да першага капыла. Хотамель.

ПОБУ'ЦЬ *зак.* 1. Пабыць. *Я там побула́ мо дзён тры.* Запясочча. *Коб прыехалі да з дзіцям побулі.* М. Малешава. *Бело́, не бело, ліш бы ў водзе побуло́* (прымаўка). Старажоўцы. 2. Пажыць. *Я шчэ доўжэй за цебе побуду, а ты помрэш.* М. Малешава.

ПО'БУЦЬЕ *н. зб.* Вязы ў санях ад галовак да першых капылоў (два). Хотамель.

ПОБУЯ'ЦЬ *зак.* Пабуяць. *Помідоры побуялі, бо гною багато положылі.* Сямігосцічы. *Моркоўка побуяла, у ботву пошла.* Там жа.

ПОВА'ГА *ж.* Павага. *Вона така модна, да ўсе так с повагою до ёго — Рома́нухно!* Сямігосцічы.

ПОВАЖА'ЦЬ *незак.* Паважаць. *Поважаюць чоловека, раз вон добры.* Аздамічы. *Поважаюць жонкі Матрунку.* Сямурадцы.

ПОВА'ЖНО *прысл.* Паважна. *Поважно робіць усе.* Цераблічы. *Памянш.* пова́жненько. *Поважненько ідуць.* Верасніца.

ПОВА'ЖЫЦЬ *зак.* Зважыць. Кароцічы.

ПОВА'Л *м.* Валежнік. *Найбольш, дзе повал, водзяцца чэрэпахі.* Луткі. *А та дорога так загачана лесом, повалом.* Хільчыцы.

ПОВАЛІ'ЦЦА *зак.* Паваліцца. *Трохі вецёр, то й поваліцца дзерэво.* Пагост.

ПОВАЛІ'ЦЬ *зак.* 1. Паваліць (дрэва і інш.). *Поваліло дубу́ ў Озера́нах, то му поехалі дай прывёзлі на штандары.* Дварэц. *Повалілі хвою, а там дзікіе пчолы ў дупле.* М. Малешава. 2. Зваляць (сукно, валёнкі і інш.). *Поткуць да у валюшу пова́ляць* (пра сукно). Верасніца.

ПОВА'ЛЬНО *прысл.* Павальна. *У нас повально ногі боляць.* М. Малешава.

ПОВА'ЛЬНЫ *прысл.* Павальны. *Повальны зло́дзей, ек не ўкрадзе́, то не жыў.* В. Малешава.

ПОВАЛЯ'ЦЦА *зак.* Паваліцца. *Стоўпэ поваля́юцца, то трэ новые.* Сямурадцы.

ПОВАЛЯ'ЦЬ *зак.* Паваліць. *От такі о оснік бобер поваляў, поперэкідаў.* Хачэнь.

ПОВАРЫ'ЦЦА *зак.* Паварыцца. *Усе ужэ поварылосо, бу́домо есці.* Пагост.

ПОВАРЫ'ЦЬ *зак. Поварыла усю вішню на варэнье.* Пагост.

ПОВЕ'ДАЦЬ *зак.* Даведацца, праведаць. *Пошоў поведаць сына.* Дварэц.

ПОВЕДЗЕ'НЦЫЯ *ж.* Звычай. *У нас такое поведзенцыі не було, шоб другім м'яць лён толокою.* В. Малешава.

ПОВЕДЗЕ'НЬЕ *н.* Тое ж. *Са́мому меньшому хозяйство оставалосо, поведзенье було такое.* Запясочча.

ПОВЕДЗЁНКА *ж.* Тое ж. *У нас і поведзёнкі нема такое, шоб на куру сказаць курыца.* Верасніца. *Як у вас, так і ў нас — одна повэдзёнка* (прымаўка). Мачуль.

ПОВЕЗА'ЦЬ, ПОЎЯЗА'ЦЬ *зак.* Павязаць. *Вужала траву да ў снопу́ поўязала.* М. Малешава. *Пашню напрост жнуць, то вона сухая, да поўяжуць снопу́ і кладуць у засторонкі.* Дварэц. *Повезалі рукі і ногі дзеці!* М. Малешава.

ПОВЕЗЦІ' *зак.* 1. Павезці. *Одзін вол за двух ко́ней повезе.* Хачэнь. *Дзеўку до жоно́к повезла во́лос вуліваць.* Там жа. *Беры, шо ты хоч, шоб колькі коні повезуць.* Кароцічы. 2. Пашанцаваць. *Ему у дзе́цях не повезло.* Запясочча.

ПО'ВЕЛІКІ *прым.* Велікаваты. *Повелікі чэрэвікі мне, то возьмі собе.* Луткі. *Е людзі, шо така голова трохі поведіка, то кажуць голуза.* Хачэнь.

ПО'ВЕЛІКО *прысл.* Велікавата, мнагавата. *Як мінут десять ілі п'ять, то ўжэ поведіко.* Рубель.

ПОВЕЛІКОВА'ТЫ *прым.* Велікаваты. *Нос твой поведіковаты.* Сямігосцічы.

ПОВЕРНУ'ЦЦА *зак.* Завярнуцца. *Трэба повернуцца, а тут не можно.* М. Малешава.

ПОВЕРНУ'ЦЬ 1. Завярнуць (назад, убок і інш.). *Ідзі просто, а там повернеш управо коло роўца́.* М. Малешава. *Ішоў з войны, а его повернулі на дзесцвіцельну службу.* Верасніца. 2. Перавярнуць. *Воны онё повернулі тэ сено.* Верасніца.

ПОВЕ'РХ *прысл.* Зверху, звыш. *Поверх платы давалі.* В. Малешава. *Поверх соломы зе́млю сыпалі.* Сямігосцічы. *Поверх травы вода пошла.* Аздамічы. *Напіліса да шчэ поверх гусь ўзялі.* М. Малешава.

ПОВЕ'РЫЦЬ *зак.* Паверыць. *Поверыце, шчо шкода було, але оддала.* Мачуль.

ПОВЕ'РЭНКА *ж.* Жонка пры нерэгістраваным шлюбе. *Будуць цебе зваць поверэнка, як на повер будзем му жыць.* Хачэнь.

ПОВЕСЕ′ЛЕЦЬ *зак.* Павесялець. *От як помулі добрэ долойку, аж у хаці повеселело.* Пагост.

ПОВЕ′СІЦЦА *зак.* Павесіцца. *Не йдзі на вóду — не утонеш, не йдзі до дуба — не повеѐісса* (прыказка). Сямігосцічы.

ПОВЕ′СІЦЬ *зак.* Павесіць. *Повесіў на крук шынéля.* Дварэц.

ПОВЕСНЕ′ЦЬ *зак.* Павярнуць на вясну. *От повеснее, шчэ снег кругом, а грач еты чорны ужэ прылетае з пóўрэя.* Пагост.

ПОВЕ′СТКА *ж.* Насланнё. *А невестка — то чортова повестка* (прыказка). Хачэнь.

ПОВЕСЦІ′СА *зак.* Пахіснуцца. *У мене голова слабá, я одразу поведуса да бух!* Хачэнь. *Зачэпіўса да пов'ёўса, то ў мене аж у п'яты закололо.* Пагост.

ПОВЕ′ТРА *мн.* 1. Пошасць. *А поветра ёго знае!* Запясочча. *Поветра его беры!* Там жа. *Бувае ветрэная восна, вот поветра.* Там жа. 2 *адз.* п о в é т р э. Паветра. *У хаце поветрэ сырэ.* Мачуль.

ПО′ВЕЦЕР *м.* Нячысцік, які мае выгляд дзіка. Бярэжцы.

ПО′ВЕЦЬ *ж.* Павець. *Озьмі онь у повеці сокеру да посечы дрóва.* Кароцічы. *Я зберу цыбулю да ўкіну ў повэць.* Мачуль.

ПОВЕЧЭ′РАЦЬ *зак.* Павячэраць. *Повечэралі і давай строіцца спаць.* В. Малешава.

ПОВЕЧЭРЭ′ЦЬ *зак.* Павечарэць, пацямнець. *Як повечэрэе, нічого не бачу.* Хачэнь. *Павечэрэло, зусім не віднó, хто йдзе.* Лукі.

ПОВЕ′ШАЦЬ *зак.* Повесіць. *Пучок з'яжэ да на сцéну повешае.* М. Малешава. *А сыр повешаюць і сушаць.* Старажоўцы.

ПОВЕ′ЯЦЬ *зак.* Звеяць. *Як намолоціш, то свое і повей.* М. Малешава.

ПОВІ′ВАЧ *м.* Спавівіч. *Повівач баба дае.* Запясочча. *Пошываюць такого повівоча. Дзіця сповіваць.* Старажоўцы.

ПОВІВА′ЦЬ *незак.* Сплятаць валасы маладой і маладога і прыпальваць пасмы. *Потóм молодого і молоду повіваюць.* Альшаны.

ПО′ВІДНУ *прысл.* Да цямна. Пагост.

ПОВІНШОВА′ЦЬ *зак.* Павітаць і павіншаваць. *Добры вечор, пане господáру, ці можно песню заспеваць,*

*ваш дом повіншовацъ?* (зварот шчадрэчнікаў). В. Малешава.

ПОВІТО′К *м.* △ С п о в і т к у́. З пялёнак. *С повітку ніяк не росце.* Кароцічы. *Памянш.* п о в і т о́ ч о к. △ У п о в і т о ч к у. У пялёнках. *І то́ўста, і дзіця ў повіточку.* Кароцічы.

ПОВІ′ТЫ *прым.* Пакручаны. *Бувае, шо хвоя косо дзерэцца, крутая, повітая.* Сямурадцы.

ПОВІХА′ *ж.* Павітуха, бярозка. *Повіха цвіце белым цветом.* Веляміч ы.

ПОВІХНУ′ЦЬ *зак.* Вывіхнуць. *Ногу повіхнуў да лежаў у больніцы.* Хачэнь. *Як ногу повіхнеш, то пошэпчэ і оттухáе.* Мачуль.

ПОВІ′ЦЦА *зак.* Звіцца. *Цыбуля у голо́ўкі поўецца.* Аздамічы. *Не повіласа капуста, одны́е шулякі.* Сямігосцічы. *От повілосо, ек лобу́зье!* Дварэц.

ПОВІ′ЦЬ *зак.* Звіць. *Повіў бацько волокі у хвойкі.* Сямігосцічы. *Повіла цыбулю у венок.* Любавічы. *Да екіе ку́бла мушы шчэ поўюць у буртах!* Сямігосцічы.

ПО′ВОД *м.* 1. Паўзучая сцябліна ў гарбузах, гурках. *Посадзілі гарбу́зы, поводы́ е, а гарбуз немашэка.* Пагост. *Коліся казалі, шчо усе трэба було с понедзелка робіць, огородніну сеяць ці шчо, шчоб на ўвесь повод росло.* Хачэнь. 2. Повад, кароткая вяроўка. *Сам пасе на поводзі корову.* Дварэц. 3 *перан.* Род, патомства. *У нашом поводзі етого не було.* Аздамічы.

ПОВОДА′ТОР *м.* Важак, павадыр. *Наш поводатор була та дзеўка.* В. Малешава. *Поводатор пово́дзіць волы.* Сямігосцічы. *Слепі слепому не поводатор* (прыказка). Там жа.

ПОВОДЗЕ′Ц *м.* Повад, кароткая вяроўка (для прывязвання каровы, для ўвязвання і інш.). *Она с поводцá спусціла да кажэ, не будзе біцца.* Хачэнь. *Поводзец ідзе церэз кулькі* (у сядзёлцы). Дварэц. △ У з я ц ь н а п о в о д з е ц. Узяць на повад. *Хай бы на поводзец узела да повела.* Хачэнь. *Ее ж не возьмеш на поводзец.— Чому? — Ро́га збіла.* Там жа. *Памянш.* п о в о д ч ы к. Кароцічы.

ПОВОДЗІ′ЦЦА *незак.* Выходзіць, атрымлівацца ў адпаведнасці з традыцыяй, звычаем. *У екой дзерэўні шо пово́дзіцца.* Дварэц. *У того пово́дзяцца злодзее, у того хозяіны.* Аздамічы. *Як у нас пово́дзіцца, так я і кажу.* Кароцічы.

ПОВО′ДЗІЦЬ *незак.* 1. Вадзіць. *Шчэ я волы поводзіла.* Запясочча. *Язя поводзіш, шоб вон утоміўса.* Лут-

кі. *Я поводзіў, а бацько ораў.* Хачэнь. 2. Вышываць. *Я свою сорочку поводзіла сама.* Аздамічы.

ПОВОДЫ'Р *м.* Павадыр. *Поводыр водзіў старца.* Запясочча. *Конь поводыр, шо ко́ней ведзе.* Мачуль. *А зарэ дзеўка́м не трэ ніякіе повыдырэ, по свету ездзяць.* Аздамічы.

ПОВО'ЗКА *ж.* Вазок. Аздамічы.

ПОВО'Й *м.* Павой. *Повой, ек сонцэ сходзіць, цвіце.* Луткі.

ПОВОЛОКЦІ' *зак.* Павалачы. *По молоку і ног не поволоку* (прымаўка). Сямурадцы.

ПОВОЛО'ЧЭНЫ *дзеепрым.* Зацягнуты рэдкімі хмарамі. *Поволочэнэ ужэ небо, кажуць, не будзе дождж́у.* В. Малешава.

ПОВОРО'Т *м.* Паварот. *У нас на повороці остановіцца трэ мінут на дзесяць* (як праводзяць на могілкі нябожчыка). Старажоўцы.

ПОВОРО'ТЛІВУ *прым.* Рухавы, паваротлівы. *У бацька удайса, поворотлівы.* М. Малешава.

ПОВОРОЧА'ЦЦА, ПОВЕРОЧА'ЦЦА 1 *незак.* Паварочвацца. *Ледво поворочаецца.* Аздамічы. 2 *зак.* Вярнуцца. *Му узелі да поворочаліса.* Бярэжцы. *Поверочáцца.* Пагост.

ПОВОРОЧА'ЦЬ *зак.* Паперакульваць. *Вода і хаты поворочала.* Рубель. *Усе у хаце поворочалі дзеці.* Аздамічы.

ПОВОРУШЫ'ЦЦА *зак.* Паварушыцца. *Абу чуць поворушыўса, то ў його сорочка мокрая.* М. Малешава. *Як боліць, то не можно поворушыцца.* Дварэц.

ПОВОРУШЫ'ЦЬ *зак.* Кранузь, парушыць, зачапіць. *Нічого і не поворушыло за дзень* (пра лоўлю рыбы). Луткі. *Ніхто не поворушыць цебе, седзі!* Альшаны. *Пацаны бегаюць, але воны нічого не поворушаць.* Цераблічы. *Кот поворушыў збанка.* Аздамічы.

ПОВОРУ'ШЭНЫ *дзеепрым.* Крануты. *А воны коб тобе поворушэные, цэлюсенькіе лежаць.* Луткі.

ПОВО'РЫ *прым.* Пакручаны, пагнуты. *Повора сосна.* Хотамель.

ПО-ВО'ЎЧЫ *прысл.* Па-воўчы. *Гледзіць вон нек повоўчы.* Верасніца.

ПОВО'Я *ж.* Павой. *Повоя цвіце сінім цветом.* Луткі.

ПОВУБЕГА'ЦЬ *зак.* Павыбягаць. *Людзі поўбегалі на вуліцу да гледзяць.* Бярэжцы.

ПОВУБІВА'НЫ *прым.* Павыбіваны. *Калеіны поўбіваны на дорозе.* Лутківі.

ПОВУБІВА'ЦЦА *зак.* Павыбівацца, павышчарблятца. *Застрой ток, бо поўбіваліса шчэрбіны.* М. Малешава.

ПОВУБІВА'ЦЬ *зак.* 1. Павыбіваць. *Потрэпáе лён, помне ногамі да повубівае, шоб не було пулу да кострыцы.* Запясочча. 2. Пазабіваць. *От троха поўбівала мухі, шо зарано поўлецелі у хату.* Хачэнь.

ПОВУБІРА'ЦЬ *зак.* Павыбіраць. *Об'едзі з ясель поўбірае і подкіне под корову.* Сямурадцы.

ПОВУБОРОНО'ЎВАЦЦА *зак.* Вывернуцца пры баранаванні. *Упоперэк не можно бороноваць, бо картоплі поўбороноўваюцца.* Лутківі.

ПОВУБРЫ'КВАЦЦА *зак.* Набрыкацца, набегацца, накідацца да зморы. *Танцовалі драпака, повубрыкваліса да есці хочом.* Запясочча.

ПОВУВО'ДЗІЦЦА *зак.* Павыводзіцца. *Бýські повуводзіліса.* Альшаны. *Лісы поўводзіліса ўжэ.* Лутківі.

ПОВУГНІВА'ЦЬ *зак.* Павыгніваць. *М'ясо поўгнівало у того раненого лося.* Дварэц.

ПОВУГОДО'ЎВАЦЦА *зак.* Павырастаць. *Птушкі поўгодоўваюцца і ў лес полецяць.* Тураў.

ПОВУГОЛО'ДЖВАЦЦА *зак.* Зрабіцца галодным. *І собака і кот повуголоджваліса.* В. Малешава.

ПОВУГОНЯ'ЦЦА *зак.* Павыганяць. *Акыша, шоб вас поўгонялоса!* Сямурадцы.

ПОВУГОНЯ'ЦЬ *зак.* Тое ж. *Сын поўгоняў іх с хаты.* Дварэц. *Поўна хата вороб'ёў, не можно повугоняць* (загадка). *Сукі у сцене́* (адгадка). Лутківі.

ПОВУГРЭ'БАЦЬ *зак.* Павыграбаць. *Лапамі поўгрэбаюць вороняки кукурузу.* В. Малешава.

ПОВУДЗІРА'ЦЬ *зак.* Павудзіраць. *Готові очы повудзірацъ, ек бітва.* В. Малешава. *Повудзіралі, попасу мало.* М. Малешава.

ПОВУДУ'БВАЦЬ *зак.* Навыцягваць, навырываць. *Пýр'ю поўдубвалі гуры на том полі!* Хачэнь.

ПОВУДУВА'ЦЬ *зак.* Павыдзімаць. *Вецёр поўдуўваў чэрэпкі на том гурпаку.* Хачэнь.

ПОВУДУМО'ЎВАЦЬ *зак.* Павыдумляць. *Самі ольшанцы повудумоўвалі слово лобкі на кожýшкоў.* Сямігосцічы.

ПОВУДЫХА'ЦЬ *зак.* Павыдыхаць. *Багато поўдыхало по долінах рыбу, вусохло.* Пагост.

ПОВУЕДА'ЦЬ *зак.* Павыядаць. *Медзведзь мед поў-*

*едаў.* Старажоўцы. *Думала, очы повуедае!* Бярэжцы.

ПОВУЖЫМА'ЦЬ *зак.* Павыціскаць. *От плацья поўжімала ворох! Поўжімала, а заўтра позолю́.* Кароцічы.

ПОВУКА'ЧВАЦЦА *зак.* Павыпадаць. *Не знаю, дзе дзеліса боро́даўкі, повукачваліса.* Старажоўцы.

ПОВУКА'ЧВАЦЬ *зак. метаф.* Выбавіць. *Усе було, пока я дзеці поўкачвала с того гора.* М. Малешава.

ПОВУКІ'ДАЦЬ *зак.* Павыкідаць. *Шчоб его косці с того свету поўкіда́ло!* (праклён). Луткі.

ПОВУКОЛУ'ПЛІВАЦЬ *зак.* Павыкалуплівацъ. *А позалетось з тоѐ храпы повуколупліваліі тые картоплі.* Верасніца.

ПОВУКО'ЛЬВАЦЬ *зак.* Панаколваць. *Та сорочка ўсе цело поўкольвае кострыцэю!* Бярэжцы.

ПОВУКО'ПВАЦЬ *зак.* Павыкопваць. *Го́ру за Туровом копалі, да нешчо повукопвалі.* Дварэц.

ПОВУКОРЧО'ЎВАЦЬ *зак.* Павыкарчоўваць. *Хорошые яблонкі поўкорчоўваў, а на́шчо!* Хачэнь.

ПОВУКО'ШВАЦЬ *зак.* Павыкошваць. *Усе краѐ поля поўкошваў.* Аздамічы.

ПОВУКРА'ШВАЦЬ *зак.* Выкрасіць. *Поўкрашваў і ворота і хвортку.* Дварэц.

ПОВУКРУ'ЖВАЦЬ *зак.* Выразаць укругавую. *Ножэ́м поўкружваў у картоплях ямкі.* Дварэц.

ПОВУКРУ'ЧВАЦЬ *зак.* Павыкруціць. *Ямкі повукручвало воспою на віду́.* В. Малешава.

ПОВУКУ'ПВАЦЬ *зак.* Пакупаць. *Дзеці поўкупвала да спаць поклала.* Луткі.

ПОВУЛА'ЗІЦЬ *зак.* Павылазіць. *Павулазілі тые с крылamі мурашкі.* Дварэц. *Косы поўлазілі.* Там жа. *Бачылі очы, шо купля́лі, а цепер хоць поўлазце.* В. Малешава.

ПОВУЛЕЗА'ЦЬ *зак.* Вылезці. *Му ужэ с того круга поўлезалі.* Бярэжцы. *Пока я помну тые коноплі, то ў мене й косткі повылезаюць з ног.* Кароцічы.

ПОВУЛЕ'ПВАЦЦА *зак.* Паабляпіцца, вымазацца. *Поўлепваліса, я не познала своіх поросят.* Буразі.

ПО-ВУ'ЛІЧНОМУ *прысл.* Па-вулічнаму. *По-вулічному цвеляць крыву́.* Любавічы.

ПОВУЛУ'ПВАЦЬ *зак.* Павылупіць, павыдзіраць. *І загородзь повулупваў.* Луткі. *Поўлупвала свое больные зубы.* М. Малешава.

ПОВУМА'ЗВАЦЬ *зак.* Павымазваць, пазапэцкваць. *Штаны поўмазваеш! Сядзь на колодочку!* Хотамель.

ПОВУМА'ТВАЦЬ *зак.* Уматаць. *Онучкамі поўматваём ногі.* Старажоўцы.

ПОВУМОКА'ЦЬ *зак.* Павымакаць. *На добрых поленках не поўмокало, усе росце, шчо трэ.* Луткі. *Ек поўмокае жыто, то сеюць ечмень весною.* Там жа.

ПОВУМУ'ЧВАЦЬ *зак. метаф.* Павыкошваць з цяжкасцю. *Трохі поўмучвала з большого муроґ.* Пагост.

ПОВУНО'СІЦЬ *зак.* Павыносіць. *Поўшубкі на базар поўносяць да про́даюць.* Сямігосцічы.

ПОВУНО'ШВАЦЬ *зак.* Тое ж. *Нехто картоплі паўношваў.* Сямурадцы.

ПОВУПА'ДВАЦЬ, ПОВУПА'ДАЦЬ *зак.* Павыпадаць. *Бу́сько назбірае жаб да ужэ так осё головою потрусіць ўго́ру, а потом ужэ або траву або палку таку еку у рот во́зме, шоб, як будзе леціць, шоб воны не повупадвалі.* Хачэнь. *Коценята поўпадвалі с коробкі.* Сямігосцічы.

ПОВУПА'ЛЬВАЦЬ *зак.* Павыпальваць. *Поўпальвала дзеўка вочы кіслотою, то склобілі кору́ з вербы да парылі, загоілосо.* Луткі.

ПОВУПЕ'КАЦЬ *зак.* Павыпечы, павысмальваць. *Як дзеці вочы не повупе́калі собе!* Дварэц.

ПОВУПІРА'ЦЬ *зак.* Павыпіраць. *Акыша, шоб вам поўпірало!* Сямурадцы.

ПОВУПОЛО'КВАЦЬ *зак.* Выпаласкаць. *Повуполоквай посуду да поверні боком.* М. Малешава.

ПОВУПО'РКВАЦЬ *зак.* Павыпорваць. *Ледво я повупорквала наверх.* М. Малешава.

ПОВУПУСКА'ЦЬ *зак.* Павыпускаць. *Повупускала поросят, да й клопот.* М. Малешава. *Гарбу́зы поўпускалі пасынкі.* В. Малешава. *Гледзіце свінья не поўпускайце!* М. Малешава.

ПОВУРА'ЧВАЦЬ *зак.* Вытарашчыць. *А тые очы поўрачвалі на ёго і гледзяць, шчо далей будзе.* Кароцічы.

ПОВУРОБЛЯ'ЦЬ *зак.* Парабіць, зрабіць. *Усе вон поўробляў, побудоваўса да ўмер.* Цераблічы.

ПОВУРЭ'ЗВАЦЬ *зак.* 1. Паспілоўваць. *Цепер поўрэзвалі сад, а колісь буў велікі.* В. Малешава. 2. Паадбіваць, паадмяраць. *Прошла комісацыя да поўрэзвалі хутора.* Луткі.

ПОВУСЕ'КАЦЬ, ПОВУСЕ'КВАЦЬ *зак.* 1. Павысякаць. *Мо сыны поўсекваюць колі той сад.* Хачэнь. *Ліпі рослі да поўсе́калі.* Сямігосцічы. 2. Высмаркаць. *Поўсеквай носа!* М. Малешава.

ПОВУСКА'КАЦЬ, ПАВУСКА'КВАЦЬ *зак. метаф.* Паўзыходзіць, адрасці. *Ужэ ў мене гурочкі поўскаквалі.* Верасніца.

ПОВУСОЛО'ПВАЦЬ *зак.* Павысоўваць. *Поўсолопвала голые рукі, а холоднó стало.* М. Малешава.

ПОВУСЫЛА'ЦЬ *зак.* Павысылаць. *Стуль поўсылалі ўсех.* Дварэц.

ПОВУСЫХА'ЦЬ *зак.* Павысыхаць. *Повусыхалі озёра.* Хачэнь. *Ямкі поўсыхаюць, і рыба там е.* Аздамічы.

ПОВУТО'ПВАЦЬ *зак.* Павыпальваць. *Я сплю, а ужэ людзі й поўтопвалі печы.* Старажоўцы.

ПОВУТО'ЧВАЦЬ *зак.* Патачыць, знішчыць. *Точка по тых городах поўточвала ўсе.* В. Малешава.

ПОВУТРУ'ШВАЦЬ *зак.* Вытрасці. *Трэ половікі поўтрушваць.* В. Малешава. *Надо коміны поўтрушваць, бо будзе сухé лето.* Старажоўцы.

ПОВУ'ХА *ж.* Павой. Альпень.

ПОВУЦЕГА'ЦЬ *зак.* Павыцягваць. *Берэг трохо проoралі, тэ болото поўцегало, а цепер сеюць пашню, оўёс.* Запясочча. *Дзе шчо е, повуцегáе кот скрозь, падло!* Хачэнь.

ПОВУЦЕ'ПВАЦЬ *зак.* Павыдзіраць, павыскубваць. Запясочча.

ПОВУЦЕРЭ'БВАЦЬ *зак.* Пацерабіць. *Повуцерэбвалі лес і зробілі поле.* Пагост.

ПОВУЦІРА'ЦЬ *зак.* Павыціраць. *Ложкі пополошчэ і паўцірае чысценькою онучэю.* Дварэц.

ПОВУЦЯ'ГАЦЬ *зак.* Павыцягваць. *Тэ вороннякі гарбўзы поўцягалі з мого огороду.* Сямурадцы.

ПОВУШАРО'ЎВАЦЬ *зак.* Вышараваць. *Повушароўвае падлогі матка — добрэ так жыць!* Запясочча.

ПОВУ'ШАЦЬ *незак.* Рабіць больш высокім. *А вона так рукамі повушае того коровая.* Сямурадцы.

ПОВУШУ'КВАЦЬ *зак.* Пазнаходзіць. *Дзеці повушукваюць сіводракі.* Хачэнь. *Тые грошы повушуквалі і пошлі.* Сямурадцы.

ПОВУШЧЭ'РАЦЬ, ПОВУШЧЭ'РВАЦЬ *зак.* Вышчарыць. *Зубу поўшчэ́рае й хі-хі, смешкі строіць!* М. Малешава. *Поўшчэрвалі зубу, ім смешкі.* В. Малешава.

ПОВУШЧЭ'РБАЦЦА *зак.* Вышчарбіцца. *Позбірай зéмлю на воросі, шо с току поўшчэ́рбаласа!* М. Малешава.

ПОВЭ'ДЛУГ *прысл.* Паводле. *Цепер нема только рыбы повэдлуг тых годóў.* Сямігосцічы.

ПОГА′НЕЦ *м.* Паганец. *Хай гэты паганец не ходзіць к дзейцы.* Хачэнь. *На мацер ругнуўса, поганец!* Пагост.

ПОГА′НІЦЦА *зак. метаф.* Пасварыцца. *Як поганяцца, то ў хату не ходзяць, не говораць.* Хотамель.

ПОГА′НІЦЬ *незак. метаф.* Абражаць, лаяць. *Навошчо тобе поганіць чоловека?* Сямігосцічы.

ПОГА′НО *прысл.* Кепска, непрыемна. *На вуліцы цепер погано, гразь.* Хачэнь. *Вельмо погано уцекаць.* Бярэжцы.

ПОГАНОВА′ТО *прысл.* Кепскавата. *Па́рыць — на расценіе воно погановато.* Цераблічы.

ПОГА′НЫ *прым.* 1. Кепскі, нядобры. *У мене невестка погана, усе на ўрэд робіць.* М. Малешава. *Поганого нічого не зробіў мой сыночок.* Хачэнь. 2. Вуж. *Улез туды той поганы, от такі мах!* В. Малешава.

ПО′ГАНЬ *ж.* Погань. *А шо було погані, то нешчотне* (пра змей, вужоў і інш.). Луткі. *Шо за погань, наліла — не есць, а тут цегае!* (пра кошку). Там жа. *От погань, ужэ смурод рвуць!* В. Малешава.

ПОГАНЬБОВА′ЦЬ *зак.* Паганьбаваць. *Не паганьбовалі мной, сіроцінкою!* Верасніца.

ПОГАНЮ′КА *м. экспр.* Паганец. *От поганюка, крычыць цэлы дзень!* Хачэнь.

ПОГЕРГЕТА′ЦЬ *зак. экспр.* Паразмаўляць, пагаварыць. *Немец погергетаў да пошоў.* Альпень.

ПОГІ′БЕЛЬ *ж.* Пагібель. *От страшная була ім погібель!* Сямігосцічы. △ З о г н у́ ц ь у д з е́ с е ц ь п о г і́ б е л е й. Вельмі сагнуць, згорбіць. *Зогнуло чоловека у дзесяць погібелей.* Цераблічы.

ПОГІ′БНУЦЬ *зак.* Прапасці, знікнуць. *Погіблі волы, ораў да пусціў у полі — і погіблі.* Бярэжцы.

ПОГІНА′ЦЦА *незак.* Угінацца. *Плаў, як ідзеш по болоту, погінаецца.* Бярэжцы.

ПОГІ′НУЦЬ *зак.* Загінуць, прапасці. *У войну богато людзей погінуло.* Хачэнь. *Шо було, то погінуло.* Сямурадцы. *Ну, я ужэ скоро погіну.* Запясочча.

ПОГІ′РДЗІЦЦА *зак. экспр.* Памерці. *Погірдзяцца старые жонкі, то ніхто ужэ не знаціме старых песень.* Запясочча.

ПОГЛА′ДЖВАЦЬ *незак.* Пагладжваць. *Онно тых вужоў вон рукою погладжвае!* Старажоўцы.

ПОГЛА′ДЗІЦЬ *зак.* Пагладзіць. *Погладзіў кота, а вон лапою!* Пагост.

ПОГЛАДЧЭ′ЦЬ *зак.* Пагладчэць. *Буў худы конь,*

*а то погладчэў, спраўны зробіўса.* Бярэжцы. *Погладчэлі, познаць вас не можно!* Луткі.

ПОГЛЕДА'ЦЬ *незак.* Паглядаць. *Чого ты погледаеш, ек рубля просіш?* Пагост. *Жонка на лаве, а сам на другую погледае.* Старажоўцы.

ПОГЛЕДЗЕ'ЦЦА *зак.* Паглядзець. *Як гэто ў вочы чоловеку погледзецца!* В. Малешава.

ПОГЛЕДЗЕ'ЦЬ *зак.* Паглядзець. *Вона б на мене церэз полотно не погледзела б!* М. Малешава. *На мне ў голову погледзі.* Там жа.

ПОГЛЕ'ДНЫ *прым.* Відны на погляд. *Вон знаеце екі погледны, шо поняція нема!* Цераблічы.

ПОГЛЕНУ'ЦЬ *зак.* Глянуць. *Поглянь, нема ключа?* Луткі. *Погляньце, ека у ее совесць!* М. Малешава. *Седзіць закутана і не погленула ні на когó!* Старажоўцы.

ПОГЛУМІ'ЦЬ *зак.* Паглуміць, зпішчыць без патрэбы, сапсаваць. *Толькі ваты поглуміць на тую світу!* Запясочча. *Ну і поглуміў траву, як так косіць, то лепш і не браццa.* М. Малешава.

ПОГЛУ'ХНУЦЬ *зак.* Паглухнуць. *Поглухлі ву тут!* Бярэжцы.

ПОГЛЫ'БЕЙ *прысл.* Як мага глыбей. *Загоняють шчо поглыбей!* Альпень.

ПОГЛЯ'Д *м.* Погляд. *Вона хорóша на погляд, а к робоці не прыдатна.* М. Малешава.

ПОГНА'ЦЦА *зак.* Пагнацца. *Погонісса за велікім, то й малого не будзе* (прымаўка). Старажоўцы.

ПОГНА'ЦЬ *зак.* Пагнаць. *Позаўтра погэнóм товар.* Альшаны. *Вон на мене погнаў зло.* Хотамель.

ПОГНЕ'ВАЦЦА *зак.* Разгневацца. *Погневаліса дзеці за мацер'ю да к дзеду!* Цераблічы.

ПОГНЕСЦІ' *зак.* Паціснуць, памяць. *Погнецéш косцюма, вон будзе нехорошы.* Верасніца.

ПОГНІСЦІ' *зак.* Пагнісці. *А ногі погніюць, бо ж вóдзяно.* Цераблічы. *На дошчу сено погніло.* Альпень.

ПОГНО'Й *м.* Угноенае поле. *Посеелі на погноі пшэніцу.* Цераблічы.

ПОГНУ'ЦЦА *зак.* Сагнуцца. *Бацько погнуўса на косе!* Верасніца.

ПОГНУ'ЦЬ *зак.* Сагнуць, скруціць. *Погнуло пальцы старой.* Запясочча. *Намокне, зробіцца, ек дубовы, не погнеш ёго.* Луткі.

ПОГНЮ'СІ'ЦЬ *зак.* Сапсаваць. *Погнюсіў косцюма нового.* Запясочча. *Воны вам погнюсілі дорогу.* Альшаны.

ПОГОВО'Р *м.* Размовы, абгавор, пагалоска. *Не хочэ гэтого поговору, шчо вона не роботнік, шо сама не можэ вубраць картоплі.* В. Малешава. *Вон упаў коло печы да кажэ: «Уміраць буду тут». А я кажу: «А шо ж ты робіш? Поговору будзе на ўвесь свет, скажуць, што ўмер коло печы».* Хачэнь.

ПОГОВО'РКА *ж.* Пагалоска, чутка. *Вон не браў, але на его пошла поговорка!* Верасніца.

ПОГОВОРЫ'ЦЬ *зак.* Пагаварыць. *Поговорылі, дай камень у воду* (прымаўка). Д.-Гарадок.

ПОГО'ДА *ж.* Добрае надвор'е. *Погода ек дым после дожджá!* М. Малешава. *Еслі чапля лецíць на ніз по рэке і крычыць, то на годзіну, а ўверх — на погоду* (прыкмета). Пагост. *Будзе заўтра погода — жукі летаюць.* Лутк і.

ПОГОДЗІ'ЦЦА *зак.* Пагадзіцца. *Прысудзілі ей, да ужэ погодзіліса.* В. Малешава.

ПОГОДЗІ'ЦЬ *зак.* Паспрыяць. *Соўсім не погодзіло ей.* Хачэнь. *Гэты дошч на картоплі погóдзіць.* Цераблічы.

ПОГО'ДЗЬ *ж.* Пагода. *От погодзь узеласа!* Рамель.

ПОГО'ДЛІВУ *прым.* Пагодны. *Етэ погодлівуе пáхмуркі.* Запясочча.

ПОГО'ДНО *прысл.* Пагодліва. *А погодно — сонцэ і жара!* Кароцічы.

ПОГОДОВА'ЦЦА *зак.* Вырасці, выхавацца. *У нас буў дзед такі, шчо мы ў его ў запазусе погодоваліса* (жарт). В. Малешава. *Погодуемса і нехорошые!* Хачэнь.

ПОГОДОВА'ЦЬ *зак.* Вырасціць, выкарміць, выхаваць. *То вона ж свое дзеці погодовала!* Хачэнь. *Вýтва хоць вуведзе, але можэ не погодоваць.* Запясочча. *Вона така слаба, шчо іх не погодуе.* Там жа. *Му годовалі, а хто нас погодуе?* Лутк і.

ПОГОІ'ЦЦА *зак.* Загаіцца. *Только мало ранілі, погоілосо.* Дварэц.

ПОГОЛОДА'ЦЬ *зак.* Пагаладаць. *Некоторые людзі поголодалі сільно!* В. Малешава.

ПО'ГОЛОС *м.* Водгук. *Колісь спевот по вуліцы, а тепер ні поголосу не чувать.* Альпень.

ПОГОЛОСІ'ЦЬ *зак.* Пагаласіць. *Да прышла додому, да шо поголосіла да поплакала!* Хачэнь.

ПОГОЛО'СКА *ж.* Чутка. *То ж така поголоска іде.* Альпень.

ПОГОЛО'Ў *м.* Пагалоўнае знішчэнне, знішчэнне без

выбару. *Рыба не боіцца полову, а поголо́ву* (прымаўка). Бярэжцы.

ПОГОМОНІ'ЦЬ *зак.* Пагаманіць. *Со своім сяеш да і погомоніш.* Альшаны.

ПОГОМО'НЬВАЦЬ *зак. метаф.* Пагрымваць. *Погомоньвае недзе, будзе дождж.* Тураў.

ПОГО'НІСТО *прысл.* Хутка, спорна. *Погоністо ўбіраць буйны́е картоплі.* Дварэц.

ПОГОНІ'ЦЬ *зак.* Пагнаць. *Погоніць хацела, шчоб скорэй ішоў.* Альшаны.

ПОГО'НЛІВУ *прым.* Такі, якога трэба падганяць. *Не погонлівы до еды мой едзец!* Дварэц.

ПОГО'ННЫ *прым.* Спорны, хуткі. *Дзевеціручка — погонна коса, покос займае хорошы!* В. Малешава. *У его погонная лодка, у ее нос острэйшы.* М. Малешава.

ПОГО'НЯ *ж.* 1. Нізіна, балоцістая даліна. Цераблічы. 2. Адросткі. *Первое погоні лоза у нас называецца сілега.* Верасніца.

ПОГОНЯ'ЦЬ *незак.* 1. Паганяць. *От, сеў на коня дай погоняй.* Сямігосцічы. 2. Гнаць, накіроўваць. *Ужэ мене погоняюць, ідзі іх шукай!* М. Малешава. *Ну, то погоняй чо́ўна туды.* Луткі. *Лес мушчыны погоняюць.* Аздамічы.

ПОГОРНУ'ЦЬ *зак.* Павярцець. *Потреплём лён і погорномо у такіе ла́ткі.* Сямігосцічы.

ПОГО'РОК, ПОГУ'РОК *м.* Пагорак. *На гэтом погорку стояла худоба ўся, як була вода.* Дварэц. *На том погорку коло рэкі було село.* Чэрнічы. *Коро́вы по погурках ходзяць.* Мачуль.

ПОГО'РШАЦЬ *зак.* Зрабіцца горшым, слабейшым. *Погоршаў чоловек, мабуць, ужэ помрэ.* Бярэжцы.

ПОГОРЭ'ЛЕЦ *м.* Пагарэлец. М. Малешава.

ПОГОРЭ'ЛЬШЧЫНА *ж.* Пагарэлішча. *Тут буйная земля, як на погорэльшчыне.* М. Малешава. *Прышлі ж на погорэльшчыну, нічого не осталосо.* Дварэц.

ПОГОРЭ'ЦЬ *зак.* Пагарэць. *Як погорэлі хаты́, тогды я поставіла эту хату нову.* Бярэжцы.

ПОГОСЦЕВА'ЦЬ *зак.* Пагасцяваць. *Погосцевала ў мене ўнука.* Сямігосцічы. *Погосцююць і до іншых ідуць.* Аздамічы.

ПОГОСЦІ'ЦЦА *зак.* Пагасціць. *Моя мама жыве у другом селе, і я ходзіла к ей погосціцца.* М. Малешава.

ПОГОСЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Пагасціць. *Поехала погосціць, отведацца.* Бярэжцы. 2. Пачаставаць. *Прышла моя сест-*

*ра с чоловеком, трэба іці у хату іх погосціць.* М. Малешава.

ПОГРАБЕНЕ'ЦЬ *зак.* Закалець, задубець. *Пограбенелі рукі да не володаюць.* Аздамічы.

ПОГРАБЕ'ЦЬ *зак.* Тое ж. *Рукі на вуліцы пограбелі.* Мачуль.

ПОГРА'БНУЦЬ *зак.* Тое ж. Старажоўцы.

ПОГРАЗНІ'ЦЬ *зак.* Загразніць. *Помула свое тапочкі і ў дворэ погразніла.* Лут予кі.

ПОГРАНІ'ЦЦА *зак.* Падзяліцца на грады. *Погранілосо небо, будзе погода* (пра расцягванне хмар). В. Малешава. *Пограніліса картоплі, гранкі відно́.* Дварэц.

ПОГРУБЕ'ЦЬ *зак.* Патаўсцець. *Побуў год і погрубеў.* В. Малешава.

ПОГРЫ'МВАЦЬ *незак.* Пагрымваць. *Погрымвае і погрымвае, будзе дождж.* Дварэц. *Зранку погрымвало, але во толькі прышла хмара.* Запясочча.

ПО'ГРЭБ *м.* Пограб. *У нас на горо́дзі погрэб есцека.* Пагост.

ПОГРЭБА'ЦЕЛЬ *м.* Далакоп. *Погрэбацелі ідуць загрэбці небожчыка.* Чэрнічы.

ПОГРЭБА'ШКА *ж.* Савочак для выграбання жару. Старажоўцы.

ПОГРЭ'БЦІ *зак.* 1. Згрэбці. *Не ўправіліса погрэбці сено, недзе осталосо.* Запясочча. 2. Раскапаць. *Погрэблі куры грады, страх глянуць!* Азяраны.

ПОГРЭ'ЦЬ *зак.* Пагрэць. *Ты зьмі солі да погрэй спіну.* В. Малешава. *У его і рук не погрэеш* (прымаўка, пра скупога). Запясочча.

ПОГРЭ'ЧЫЦЬ *зак.* Пашанцаваць. *От погрэчыло, сено склаў, дождж не намочыў.* Аздамічы. *Такі год цепер погрэчыў — нема воды.* Цераблічы.

ПОГУБА'ЦЬ *зак.* Зрабіць складкі на халявах ботаў. Альшаны.

ПОГУБІ'ЦЬ *зак.* Згубіць. *Колісь ее бацько волы погубіў, да шукаў, шукаў тые волы і не нашоў.* В. Малешава. *Ішла баба у ночэ́, погубіла ўсе ключэ, месец бачыў — недобачыў, сонцэ ўкрало — не сказало* (загадка). *Роса́* (адгадка). М. Малешава.

ПОГУ'К *м.* Гук. *Ціхо, ні погу́ку.* Аздамічы.

ПОГУ'КАЦЦА *зак.* Папаляваць (пра свінню). *Свіньея погукаласа ў недзелю.* М. Малешава.

ПОГУКА'ЦЬ *зак.* Паклікаць. *Не найшоў, то надо було погукаць* (жарт). Хачэнь.

ПОГУ'КВАЦЬ *незак.* Пакрыкваць, галёкаць. *Погукваюць у лесе жонкі.* Бярэжцы. *Ольшаны туды подалей, там погукваюць іначэй.* Цераблічы.

ПОГУ'ЛЕНАЯ *прым.* Цельная. *Цёлка погуленая була, то брат ему даў.* М. Малешава.

ПОГУЛЯ'ЦЬ *зак.* 1. Пагуляць, пабыць без занятку. *Хлопчык товар пасе, а ему осталосо год погуляць.* Верасніца. 2. Папаляваць (пра карову). *Коб корова погуляла по весне, то к зіме булі б з молоком.* Верасніца.

ПО'ГУСТО *прысл.* Гусцей. *Цепер населілі нас погусто ў селе.* Цераблічы.

ПОГУСЦЕ'ЦЬ *зак.* Пагусцець. *Картоплі погусцеюць, а зарэ воны рэдкіе.* Лутmedian.

ПОГУ'ТВАЦЦА *незак.* Пагушквацца. *Вецёр, бакон на ва́лах погу́тваецца.* Пагост.

ПОГУШЧЭ'ЦЬ *зак.* Пагусцець. *Суп буў рэдкі, а як постояў, то погушчэў.* Бярэжцы. *Перэпером полотно, шоб погушчэло, бо рэдке.* Лутmedian.

ПОГЭ'ТЫЛЯ *прысл.* Дасюль, пасюль. *Прышла я к той лотцы, гленула я ў той дуб — от погэтыля! І одные ершы!* Кароцічы.

ПОД 1 *м.* Памост пад стог немалочанага збожжа; *мн.* п о д ы́ таксама і месца, дзе стаялі стагі. *Под робілі — чоты́ры стоўпы́ і чэрэ́том засцілаюць, іглі́цы вешаюць уніз, шчоб му́шы не залазілі, і з бля́хі талёркі, і вонэ́ стоі́ць много год.* Бярэжцы. *Як нема́ на поду́, так дасць чорт ходу́* (прымаўка). Запясочча. *Пойду́ ў поды́ по снопу́.* Там жа. *За Сцвігою булі нашые поды.* Пагост. Насціл пад стог сена. *По́да робілі іс хво́росту под стог.* Запясочча. Паддон у жорнах. *Мука́ сыпалас на под.* Альпень. Под у печы. *Под под подсыпаем песок і шкло, шоб було зы́рко у пе́чы.* Дварэц. П о д ы́ *мн.* Спецыяльна абсталяванае месца пад калодачныя вуллі ў лесе. *Мы дале́ко дзержалі поды́.* Дварэц. *Памянш.* п о д о́ к. *Подок под сеном.* Хотамель. *Снопы́ на подка́х складалі.* Аздамічы. 2 *прыназ.*, рэдка п о д о , п ы д. Пад (знізу, пад ніз). *Опе́чкі под печ.* Сямігосцічы. *Подо дно подоб'юць да но́сяць.* Хачэнь. *Віш пыд коро́ву подослаць трэ.* Мачуль. Каля. *Под сценой стоялі.* В. Малешава. *Под Бу́разямі була цэ́рква.* Хільчыцы. *Ода́м у Перэкалье под кана́ву зловіў язі.* Кароцічы. Да. *Ходзі под гэты дуб.* Верасніца. *Прышоў мормо́та под моё воро́та.* Хачэнь. На. *Под сонцэ пошо́ў.* Хотамель. *Под жолу́дзь гонялі свіне́й.* Кароцічы. *Похожа под краснопёру тоўстоко́рка.*

Хачэнь. Па, за. *Под унýку бáбіну прыходзяць у глýпую ноч сватаць, а баба понялá ўсе да кажэ: «Оддáм унýку, але поперэ́д роскажý вам про льняную мýку, як сеюць лён і як на онýчы зорвéш»* (з легенды). Сямігосцічы. *Коб под ее под'ехаў машыной, то ужэ прыéхала б даўно домóў.* Цераблічы. Пад (падчас), у. *Под гетакі год то дохнуць гусі.* У залежнасці. *Як под год брусніцы.* Хотамель. △ Под вóду. Супраць цячэння. *У нас гонілі дзéрэво под воду аж до Велеміч.* Цераблічы. *Жакі ставяць под воду.* Аздамічы. Буць под ім (ёю і інш.). Быць маладзейшым за яго (яе і інш.). *Гэтые ўжэ булі ў дзеўкáх, а тáя шчэ була под імі.* Хачэнь. Здорова жыві под головóю! Пажаданне маладой на вяселлі. Аздамічы.

ПОДАВА'ЦЬ *незак.* 1. Падаваць. *Я ему подаю, а вон кладзé на воз тэ сено.* М. Малешава. *Шоб до Юр'я було сено і ў дýрня, а на Міколу сено дай і вілкі подавай* (прыказка). Сямігосцічы. 2. Паказваць, выяўляць. *Я не подаю собе пýду, а мое кóсы ўгóру ідуць.* Бярэжцы. 3. Здавацца, выдаваць. *Стоіць корч, а ему подаé, шо немоўгáды шчо.* В. Малешава.

ПО'ДАЛЕКО *прысл.* Недалёка, не зусім далёка. *Вона пóдалеко, не так далéко, пошла помідоры подв'язваць.* Сямігосцічы.

ПОДАРЫ'ЦЬ *зак.* Падаць міласціну, даць што-небудзь з міласці. *Пошóў не éўшы, як хто не подарыць, то шчэ прыдзе снéдаць.* Сямігосцічы. *Одзін раз стáрца не подары, то ўсе пропáло* (прыказка). Верасніца.

ПОДА'ТЛЫ *прым.* Прыемны. *Воно такé подáтле, тое віно, дóбрэ п'еццa.* Запясочча.

ПОДАТНО' *прысл.* Прыемна. Тураў.

ПОДА'ТОК *м.* Падатак. *Плацілі подáткі, як му кáжом, налóгі.* Хільчыцы.

ПО'ДАЎНО *прысл.* Даўнавата, досыць даўно. *Міша пóдаўно пошоў і немá шчэ.* Альшаны.

ПОДА'ЦЦА *зак.* 1. Накіравацца, рушыць. *Сеў на конá і ў лес подáўса.* Хачэнь. 2. Зварухнуцца, зрушыцца. *Да наўкрэ́ст скруціш гэту калачóўку, то зуб* (у бараней) *не подасца.* Хачэнь. 3. Прыкметна аслабець, пастарэць. *От Сашóк подаўса у этом лéці!* Сямігосцічы.

ПОДА'ЦЬ *зак.* 1. Падаць. *Подáй коўшá!* Кароцічы. Падставіць. *Гэты окóман подаў егó пану под рóзкі.* Цераблічы. 2. Надаваць. *Я подаю едý, грóшы, сáло, госці-*

*нец дала, що вон товар пасе.* М. Малешава. *Подаюць суседу свежыны.* Там жа.

ПО'ДАЧ, ПО'ДАЦЬ *ж.* 1. Падатак. *Вез ету подач, хлеб еты ў Жытковічы.* Запясочча. *Подач плацілі за поле, за хором'е, ек продасць шчо.* Чэрнічы. *Продае хлеб да заплоціць подаць.* Там жа. 2. Ахвяра. *Копейкі подач кідалі ў цэркві.* Старажоўцы.

ПОДБАЛДЫ'КВАЦЬ *незак.* Падтакваць, гаварыць тое ж, што і іншыя. Запясочча.

ПОДБА'ЛЁЧНІК *м.* Бервяно ў падоўжнай сцяне, на якое кладуцца бэлькі. *Бало скажуць: под бальки дзерэво ужэ положыў або положыў подбалёчніка.* Аздамічы.

ПОДБА'НКА *ж.* Металічная пасудзіна са шкельцам унізе для адстойвання і збірання смятаны. Запясочча.

ПОДБАСОВА'ЦЬ *зак.* Падцягнуць нізкім голасам. *Ты спевай, то я подбасую.* Запясочча.

ПОДБА'ЧЫЦЬ *зак.* Падгледзець, заўважыць. *Подбачыла, і трах у міліцыю заяўленіе!* Запясочча.

ПО'ДБЕГ *прысл.* Подбегам. *Ідзе подбег.* Аздамічы.

ПО'ДБЕГОМ, ПЫ'ДБАГОМ *прысл.* Тое ж. *Подбегом, подбегом да за ім.* Аздамічы. *Вон ідзе, а я за ім пыдбагом.* Мачуль.

ПОДБЕ'ГЦІ *зак.* Падбегчы. *А шо той дзед шчэ й подбежыць за вутвамі?* Верасніца.

ПОДБЕ'Л *м.* Розныя дзікія і культурныя расліны з белымі кветкамі ці апушэннем: стрэлкі (Тураў), клапоўнік (Запясочча), гарліца (Луткі), медуніца духмяная (Кароцічы), нейкая садовая клубневая расліна з белымі кветкамі (Цераблічы) і інш. *Сено хорошэ, і подбел у ім е, метліца.* Кароцічы. *Некі подбел порос велікі.* Сямурадцы. △ П о д б е л в о н ю ч ы. Сабачая мята (?). Луткі.

ПОДБЕРО'ЗОВІК *м.* Падасінавік. Мачуль.

ПОДБІВА'ЦЬ *незак.* 1. Падбіваць, падсоўваць знізу. *Подбівае того мача под навоз.* Цераблічы. Падпіхваць, падціскаць. *Вершэльнік топчэ і подбівае грабліма верха, ек вершыць.* Хачэнь. Раўняць. *Стрэхалкою подбівае пучкі, ек крыюць стрэху.* Любавічы. Узнімаць. *Прамо подбівай гэты гной, наворочвай на воз і прыбівай.* Кароцічы. 2. Падкалочваць, раскалочваць. *Подбіваём млінцэ.* Луткі. *Рошчыняюць хлеб, а потом подбіваюць.* Верасніца. 3. Падбухторваць, падгаворваць. *Ек збочные подбіваюць, то не будзе ладу.* Хачэнь.

ПО′ДБІЛКА *ж.* Ніз спадніцы з іншага матэрыялу. *Подбілку з другóго мацер'ялу прышывáюць.* Лутკі.

ПОДБІРА′ЦЬ *незак.* Падбіраць, збіраць раскіданае. *У мене́ е собачка, то ўсе кóсточкі подбірáе.* Луткі.

ПОДБІ′ЦЦА *зак.* Прыстаць ходзячы. *Подбіўса за товáром, хай егó дох вóзьме.* Цераблічы.

ПОДБІ′ЦЬ *зак.* 1. Падсунуць, падпіхнуць. *Носілы загóстроные, шоб мóжно булó подбіць под копў.* Сямігосцічы. 2. Перакуліць, збіць з ног. *Боюса брусці, шоб не подбілó.* Луткі. 3. Пашкодзіць, параніць. *Подбіў óко, аж бáні подзéлаліса.* Сямігосцічы. 4. Падбухторыць, падгаварыць. *Подбілі его на плохéе дзéло.* Аздамічы.

ПОДБОДРЫ′ЦЬ *зак.* Паправіць, падрамантаваць. *Подбодры́ў свогó будана́.* Верасніца.

ПОДБО′Й *м.* Нарыў пад мазалём. *Пудбóя ўжэ ж лéчаць.* Аздамічы.

ПОДБО′ЛЬШЫЦЦА *зак.* Падрасці, павялічыцца. *А это цепéр подбольшолосо селó, шо ўжэ наéхалі людзі.* Бярэжцы.

ПОДБО′ЛЬШЭЦЬ *зак.* Тое ж. *Зáрэ карáсі ўжэ подбольшэлі.* Луткі.

ПОДБО′Р *м., мн.* п о д б ó р ы. Абцас. Запясочча.

ПОДБОРО′ДНІК *м.* 1. Падбародак. *На кáрку сáло зрэ́жу, а потóм подбороднік знімáю.* В. Малешава. Валляк. *Як жы́рна бáба, то подбороднік е.* Запясочча. 2. Падбароднік (у вуздэчцы). *Это подбороднік, которы берэ́цца сюдóй, под бóроду.* Запясочча. 3. Удар пад бараду. *Подбородніка даць, то ты мене́ боя́цімесса.* Дварэц.

ПОДБОРО′ДОК *м.* Падбародак, валляк. *У его, бра, добры подбородок.* Азяраны. *От нагодовáла подборóдка.* В. Малешава.

ПОДБО′ЧНІК *м.* Пярына. *Подбочнік на весь лóжок лежы́ць, его рóбляць с пýху.* Хотамель.

ПОДБРЫ′КВАЦЬ *незак.* Падбрыкваць. *Старá корóва булá, аж вэснóй давáй пудбрыкваць.* М. Малешава. *Вýпусці целя́ на двор, то бегае да подбрыквае.* Там жа.

ПОДБРЫСЦІ′ *зак.* Падбрысці, падабрацца па вадзе. *Вýдра у я́му подбрылá да сховáласа.* Запясочча.

ПОДБУ′ЦЬ *зак.* Закруціць, падвязаць. *Бáло, гулялі, то хлопец стоіць, пока подбýеш волóку, а потóм зноў гуля́ем.* Луткі.

ПОДВА′ЖЫЦЦА, ПЫДВА′ЖЫЦЦА *зак.* Зрушыцца ад падважвання. *А коры́то пыдвáжылосо да як далó мне по носý!* Мачуль.

ПОДВА′ЖЫЦЬ *зак.* 1. Падважыць, падняць рычагом. Аздамічы. 2. Падысці, забрадзіць. *Подвáжыло варэ́нье, мáло сáхору було́.* Хачэнь.

ПОДВАЛДЫ′КНУЦЬ *зак.* Падбіць, пад'юдзіць. *Подвалдыкнулі его, дак вон до жонкі прыстаў.* Аздамічы.

ПОДВАЛІ′НА *ж., мн.* подваліны. 1. Падруба; ніжні вянец зруба. *Дубіна под хáтою, пéрву венéц зовóм подваліна.* Кароцічы. *Положылі подвалíны на подмýрок.* Аздамічы. 2. Лага пад падлогу. *Дубóвые подвалíны под подлóгою.* Бярэжцы. 3 *мн.* Закладзіны. *Подвалíны спраўляюц, як хáту начынáюц стрóіц.* Запясочча.

ПОДВА′ЛЬНІК *м.* Ніжні вянок зруба. *Дубóвы подмýрок і дубовы подвальнік буў у хáці.* Луткі.

ПОДВА′РОК *м.* Прыгуменне. *Буў крýглы подварок, звáлі і прыгумéнок.* Мачуль.

ПОДВЕ′ДЗЁНКА *ж.* Напаўшарсцяная хустка з узорамі па краях. *Е такá подведзёнка лóўкая, завежы́ под бóроду дай будзе дóбрэ на робóці.* Луткі.

ПОДВЕЗЦІ′ *зак.* Падвезці, прывезці. *Колесьмі подоўёз гнóю шчэ.* Сямігосцічы.

ПОДВЕ′Й *м.* Падвей (хвароба). *Як после родóў вýйдзе на вéцёр да захворэ́е, то казалі: то мо нéкі подвей на тобé, трэ́бо его́ пошэптáць.* Луткі.

ПОДВЕРЭ′ДА *ж.* Хвароба рук ад цяжкай працы. *Подверэда — така урэ́менна болéсць, воná прохóдзіць.* Сямігосцічы. *Як од якóе роботы подверэ́дзіў рýку, то кажуць: подверэда напáла.* Там жа.

ПОДВЕРЭ′ДЗІЦЦА *зак.* Натрудзіцца, натаміцца. *Мо ўжэ подверэ́дзішса, ек прынесéш ўя́зку сена?* Луткі.

ПОДВЕРЭ′ДЗІЦЬ *зак.* Натрудзіць, натаміць. *Бáло, подверэ́дзіш руку, як лён берэ́ш, або ек жнеш жы́то.* Сямігосцічы. *Як подверэ́дзіш рýку, то нáросць росцé.* Там жа.

ПОДВЕСЕ′ЛЬВАЦЬ *незак.* Весяліць, паднімаць настрой. *Мой стары́ сам себé подвесéльвае.* Кароцічы.

ПОДВЕ′СІЦЬ *зак.* Павесіць, падвесіць. *Сам себе подвéсіў, повéсіўса й конéц.* М. Малешава.

ПОДВЕСЦІ′ *зак.* 1. Падвесці, прывесці. *Вон мене подоўёў к сáмой станцыі.* Запясочча. *Под ту лóзу я́зя подоўёў.* Луткі. 2. Падвесці пад небяспеку, паставіць у няёмкае становішча. *Однó, ка, подоўёў её да і ўсé.* М. Малешава. 3. Завыць, загаласіць. *Як подведуць воўкі ўвóсень, то чутнó.* Дварэц.

ПОДВЕ'ЧО'Р *прысл.* Надвечар. *Я думала, шо подвечо́р буду, то зайду. Подве́чор было́ со́нцэ.* Аздамічы.

ПОДВЕЧО'РОК *м.* Час бліжэй к вечару. *Подвечорок хоро́шы.* Луткі.

ПОДВІ'ЛЬВАЦЬ *незак.* Падвільваць, злёгку віляць. *Любій подвільваць хво́сціком.* Мачуль.

ПОДВО'ДА *ж.* Запрэжаны воз, калёсы. *Як накладзём дзве подво́дзе, то ко́ні ле́дво кача́юць.* Кароцічы. △ У п о д в о́ д а х. У вазаках, абознікам. *Твой ба́цько ў подводах буў да то́лько верну́ўса.* Дварэц.

ПОДВО'ДЗІЦЬ *незак.* Спяваць падгалоскам, весці высокую партыю (пры гуртавых спевах). *Почына́е той, шо басу́е, а шо подхо́пвае — той подводзіць.* Пагост. *Я басую, а вона подводзіць.* Старажоўцы. *До́бро подводзіць песню, хо́рошэ, уда́ло.* Альшаны.

ПОДВО'ДНІК *м.* Падгалосак. *Подводнік, шо вусо́кім го́лосом пое́.* Луткі. *Гэту пе́сню спеваюць з подводніком.* Там жа.

ПОДВО'ДЧЫК *м.* Возчык, абознік; той хто наймаецца з падводай. *Попадзе́ ж і подводчыку, як бітва́ почне́цца.* Чэрнічы.

ПОДВОКО'НЬЕ *н.* Падвоканне. *Пошла́ по подвоко́нью.* Запясочча.

ПОДВО'РНЯ *ж.* Род, усе блізкія. *Усю подворню «клімы́» зва́лі.* В. Малешава. *Іх подворня зове́цца «купцы́», бо іх дзед нешчо скупова́ў.* Там жа.

ПОДВО'РОК *м.* Прыгуменак. *Поўз хату — двор, а ўжэ за ха́ту к одры́ні подво́рок.* Пагост.

ПОДВОРО'ТНІЦА *ж.* Падваротніца, дошка пад варотамі або пад дзвярамі. Запясочча.

ПОДВОРО'ТНЯ *ж.* Тое ж. *Подворотню положы́, шоб соба́кі не ўле́злі.* М. Малешава. *Гледжу́, аж немец за подворо́тнею стоіць.* Верасніца.

ПОДВОРО'ЦІЦА *ж.* Тое ж. *Подвороціцу ву́ймі з-пуд дзверэ́й, шчоб не полома́ласа, ек во́зом е́хацімеш.* Кароцічы.

ПОДВОРОЧА'ЦЬ *незак.* Запыняць, паварочваць. *Я ўсю ноч гледжу, подворочаю ко́ней, шоб не отхо́дзілі.* Любавічы.

ПОДВОРУШЫ'ЦЬ *зак.* Падварушыць, злёгку павару шыць. *Одзёнка зробілі, подворушы́лі сено, а потом погрэблі.* М. Малешава.

ПОДВУ'ПІЦЬ *зак.* Падвыпіць. *Подву́піў дай пошо́ў не́куды.* Азяраны.

ПОДВУ'ШВАЦЬ *незак.* △П о д в ы́ ш в а ц ь к о р о в а́ й. Спаборнічаць на вяселлі, падымаючы каравай угору (звычай). Цераблічы.

Звычай *подвышваць коровай* заключаецца ў тым, што прадстаўнікі родаў маладой і маладога на вяселлі імкнуцца падняць свой каравай як мага вышэй, што павінна ўплываць на будучае сумеснае жыццё. Цераблічы.

ПОДВЯЗА'ЦЬ, ПОД'ЯЗА'ЦЬ *зак.* Падвязаць. *Подвяжэм до жэ́рткі са́нкі да поёдом до коха́нкі* (з песні). Хачэнь. *А хустку под'яжуць да ту́тэка ву́зел на головэ́.* Бярэжцы.

ПОДВ'Я'ЛЬВАЦЬ *незак.* Падвяльваць. *Сыр людзі так сушылі про́сто да подв'яльвалі.* Хачэнь.

ПОДГАДА'ЦЬ *зак.* Падгадаць, падлавіць зручны момант. *Подгадалі под урэ́м'е, под пого́ду скосі́ць, а цепэ́р згрэблі́.* М. Малешава.

ПОДГА'ДЗІЦЬ *зак.* Нашкодзіць, зрабіць непрыемнасць. *Вон так мне подга́дзіў!* Запясочча.

ПОДГА'ЛІСТЫ *прым.* 1. Сухарлявы, тонкі (пра чалавека). Аздамічы. 2. Стромкі, без галля знізу (пра дрэва). *Вусо́ка, подгаліста смолі́на.* Лутткі.

ПОДГА'РВАЦЬ *незак.* Падгараць. *Подгарвае хлеб, ек зы́рко.* Лутткі.

ПОДГАЦІ'ЦЬ *зак.* Падмасціць, падгаціць. *Этты можно пройці, там подгацілі.* Лутткі.

ПОДГЕ'РЭЦ, ПОДГЭ'РЭЦ *м.* Падгерац. *Подге́рец.* Хотамель. *Подгэрэц з шво́рня ідзе і крэ́піцца к правілу.* Аздамічы.

ПОДГІБІ'ЦЬ *зак.* Падагнуць. *Ек бу́сько на ко́міне стоіць, подгібіў но́гу, то кажуць: дождж будзе* (прыкмета). Лутткі.

ПОДГІ'БЛЕНЫ *дзеепрым.* Сагнуты. *Наве́к вон подгіблены, подгібне́цца і спіць.* Цераблічы.

ПОДГЛЯ'ДАЦЬ *незак.* Падглядваць. *Ходзіць да подгля́дае.* Лутткі.

ПОДГНІВА'ЦЬ *незак.* Падгніваць. *Со́ўнечнік подгніва́е да па́дае.* Сямігосцічы.

ПОДГОВОРА'ЦЬ *незак.* Падгаворваць, падбухторваць. М. Малешава.

ПОДГОДОВА'ЦЬ *зак.* Падгадаваць. *Ма́цер прышла тэ дзіця́ подгодоваць.* Дварэц.

ПОДГОЛО'СКА *ж.* Падгалосак. *Поём з подголо́скою до́брэ пе́сні.* В. Малешава. *Дзе́ўка подголо́ску до́бру ма́е.* Лутткі.

ПОДГОЛО'СНІК *м.* Тое ж. М. Малешава.

ПО'ДГОЛО'СОК *м.* Тое ж. *Спевае без подголо́ску.* Запясочча. *Вельмі поюць ко́лісніе пе́сні, стары́нные да з подголо́ском.* Кароцічы. *Ма́ня, ты начынай, ты з подголо́ском.* Сямурадцы. *По́дголосок.* Луткі.

ПОДГОЛО'ШВАЦЬ *незак.* Спяваць падгалоскам. В. Малешава.

ПОДГО'НІЧ *м.* Заморак, недаразвіты колас, кволы парастак і інш. *Подгонічы, як дро́бно седзіць жыто, ко́торэ моцно наку́шчваецца.* Цераблічы.

ПОДГОНЯ'НІЕ *н.* Асенняе ворыва. Хотамель.

ПОДГО'РЛІВАЦЬ *незак.* Падпіраць пад горла. *Воло́ў подгорлівае ермо́.* Запясочча.

ПОДГОРЭ'ЦЬ *зак.* 1. Падгарэць, падпячыся. *Подгорэло ўсе од сонца.* Запясочча. *Міша буў раз сховаўса ў курэне́ да чуць подгорэў.* Цераблічы. 2 *перан.* Падскочыць, падхапіцца. *Як посту́кала пртуко́м, так я і подгорэ́ў.* Аздамічы. △ П о д г о р е́ л о с о́ н ц э. Пра чырвонае неба на захадзе сонца. *Подгорело сонцэ, на вецер ці на дождж* (прыкмета). Бярэжцы.

ПОДГРЭ'БА'ЦЬ *незак.* 1. Падграбаць, падкопваць. *Подгрэ́баюць куры боб.* Сямігосцічы. 2. Падчышчаць под у вуллі. Запясочча.

ПОДГРЭБЦІ' *зак.* Падгрэбці, падчысціць з большага. *Мі сені подгрэбо́м і по́йдом на работу.* В. Малешава.

ПОДГРЭ'БЦІСА *зак.* Падкапацца. *Подгро́бса воўк до овечкі з одрыны.* Луткі.

ПОДГРЭЗІ'ЦЬ *зак.* Нарабіць гразі. *Було́ су́хо, это па́ру дней подгрэзіло.* В. Малешава.

ПОДГУЛЯ'ЦЬ *зак.* Сходзіць у чужую кампанію. *Храбрі, куда́ хоч падгуля́е.* В. Малешава.

ПОДДАВА'ЦЬ *незак.* Падсабляць падняць, ускласці на спіну. *Го́дзі тобе́, дзя́дзё, поддава́ла, сама́ лепш понесу́.* Луткі.

ПОДДА'ЦЬ *зак.* Паддаць, падсобіць падняць. *Трох жоно́к поддаду́ць на плёчы мешка́ і пошла́.* Хачэнь. *Дзя́дзько, поддай мне это поле́но.* Кароцічы. *Попросіла в'я́зку соло́му на плёчы поддаць.* Пагост.

ПОДДА'ШОК *м.* Падстрэшак. *Зробіў но́вуй поддашок.* Азяраны.

ПОДДЗЕВА'ЦЬ *незак.* Насміхацца, строіць кепікі. *Воны́ нас на хімороды беруць, усе не́шчо поддзеюць.* Луткі.

ПОДДЗЕ'ЦЬ *зак.* Падчапіць, падкалоць. *Однэ́ посмеялос, а другэ́ йшчэ мудрэ́й поддзело.* Сямурадцы.

ПОДДО'БРЫЦЦА зак. Падлізацца, падлашчыцца. Запясочча.

ПОДД'УБНІК *м.* Грыб паддубнік. *Поддубнікі сініе.* Дварэц.

ПОДДУБО'ВІК м. Перцавы грыб, благушка. Цераблічы.

ПОДДУВА'ЛО *н.* Паддувала. Запясочча. Адтуліна ў дзвярах кураня, адкуль ішло свежае паветра для падтрымання агню. *Поддувало ў дзверах было́ ў курэне́.* Сямігосцічы.

ПОДДУВА'ЦЬ *незак.* Паддзімаць знізу. *Поддува́е под стрэ́ху.* Кароцічы.

ПОДДЫМКО'М *прысл.* На змярканні, шэрай гадзінай. *Поддымко́м кло́ч'е попра́ла, ек смерка́е.* Лутківі.

ПОД'ЕЖДА'ЦЬ *незак.* Пад'яжджаць. *Як под'ежда́лі ік ха́ці, то вона́ ву́шла.* В. Малешава.

ПОД'ЕЛДЫ'КВАЦЬ *незак.* Падбіваць, падбухторваць. *А ты не под'елдыквай, бо й тобе доста́нецца.* Верасніца.

ПОД'Е'СЦІ *зак.* Пад'есці, *Я буду добра́, шо ты под'еў?* Запясочча. *Не под'есі, то і богі продасі* (прымаўка). Старажоўцы.

ПОД'Е'СЦІСА *зак.* Тое ж. *Накідай у молоко́ кота́пцоў — лу́ччэй усего́ под'ёмса, это первэ́ мое́ едзе́нье.* М. Малешава. *Под'е́сса ю́шкі з крупніку.* Там жа. *Под'елосо мое́ дзіця́.* Хільчыцы.

ПОДЖА'БАЦЬ *зак.* Пасунуцца, падацца. *Ась, куды́ то ты поджа́бала?* Сямігосцічы.

ПОДЖА'РВАЦЬ *незак.* Падпражваць, падсмажваць. *Коржы́ поджарвалі да ў квас кідалі.* Старажоўцы. *Галу́шкі, шоб не росклейваліса, поджарваюць.* Цераблічы.

ПОДЖА'РЫ *прым.* Паджары. *Поджа́ры соба́ка — ані чо́рны, ані руды́.* Аздамічы. *Ек чорная спіна, а чэ́рово жоўтэ, то поджа́ры соба́ка.* Мачуль. Карычняваты. *І свое́ свінча́ ўда́сца, бувае, усе одно ек дзіке, поджа́рэ.* Цераблічы. Паджарысты (пра валасы). *Поджарые ко́сы — вы́горэлі на со́нцы.* Луткі.

ПОДЖО'ГА *ж.* Падпалка. *Без поджогі дро́вы не гора́ць.* Луткі.

ПОДЖУХНУ'ЦЬ *зак. экспр.* Падняць, падкінуць. *Ся́дзьце удво́х, то я вас поджухну́.* Аздамічы.

ПОДЖЫВА'ЦЬ *незак.* Прыбываць (пра ваду). *Под-*

*жываe водá, лёд поднімáе.* Альшаны. *За ноч поджылó воды́.* Аздамічы. *Вода поджываe мóцно, немá ры́бі.* Сямігосцічы.

ПОДЖЫВІ′ЦЬ *зак.* Падкарміць, накарміць. *Нáдо поджывíц сад.* Запясочча. *От, одных поджывіла, зáрэ трэба другіх.* Дварэц.

ПОДЖЫ′ЛОВУ *прым.* У гадах, пажылы. *Чоловéк поджы́лову посці целя́та пошóў, а ужэ́ целя́та не угенéш!* М. Малешава.

ПОДЖЫ′ЛЫ, ПОЖЫ′ЛЫ *прым.* Тое ж. *Жóнка вонá ўжэ поджы́ла.* Луткі. *Буў Гузéй такі поджы́лы дзя́дзька.* Дварэц. *Поджы́лы конь — годóў коло двацьцаці.* Запясочча. *Которы ужэ пожы́ў, той пожылы чоловек.* Хотамель. *Пожы́лая корова.* М. Малешава.

ПОДЖЫНДЖЭ′РЫЦЬ *зак. экспр.* Адрэзаць. *Давай, маці, поджынджэ́ру ужэ зоўсім кóсы.* Луткі.

ПОДЖЫ′РГАЦЬ *зак. экспр.* Падрапаць, пачыркаць. *Дай поджы́ргаю нóгцем по лы́ццы.* Цераблічы.

ПОДЖЫ′ЦЬ *зак.* Прыбыць, прыбавіцца (пра ваду). *Воды́ поджылó, то пошлá по долінáх.* В. Малешава.

ПОДЗАЗЫ′РЫЦЬ *зак. экспр.* Прэзентаваць, аддаць неабдумана. *Хто егó вéдае, навóшчо вон подзазырыў Тупалу сечкáрню.* Тураў.

ПОДЗАНЯ′ЦЦА *зак.* Падзаняцца, удзяліць трохі часу. *Шоб подзаня́ўса, то тут пéснеў мнóго.* Верасніца.

ПОДЗВЕ′НЬКАЦЬ *зак.* Пазвінець, пабразгаць. *Подзвéнькоў у ведрó.* Цераблічы.

ПО′ДЗВІГ *м.* △ У х о л ó д н о м п ó д з в і г у. Пад знакам холаду, у холадзе. *Май месец пройшоў у холодном подвігу.* Дварэц.

ПОДЗЕВЕЛІ′ЦЬ *зак.* Сказаць, сказануць тоненькім голасам. *От і Кулінка вам нешчо подзевеліла.* Цераблічы.

ПОДЗЕЛІ′ЦЦА *зак.* Падзяліцца. *Остáтнім кускóм поделíўса.* Альпень. *Ето такі хлопец, шо і з кры́шкою подзéліцца.* Запясочча.

ПОДЗЕЛІ′ЦЬ *зак.* Падзяліць. *Подзелілі грóшы да ўсе.* Чэрнічы. *Подзéляць по лу́стцы дай немá больш.* Хотамель.

ПОДЗЕ′ЛЬЧЫВУ *прым.* Не скупы, які ахвотна падзеліцца чым-небудзь. *Вéльмі подзéльчыва такá дочкá, хорóша такá.* Дварэц.

ПОДЗЕ′ННІК *м.* Падзёншчык. *Тогды́ менé ў подзéнікі не брáлі.* Буразі.

ПОДЗЕРЖА'ЦЬ *зак.* 1. Патрымаць. *Не стой под окнóм да ходзі ў хáту, маці печэ́ пірогі — подзержы́ лопáту* (прыпеўка). Хачэнь. 2. Вытрымаць (пра надвор'е). *Хай бу подзержáло днёў два, то людзі сено зробілі б.* Луткі.

ПОДЗЕ'РЦІ *зак.* 1. Падраць, парваць. *Не трэ, ка, купля́ць, шчэ, ка, гэ́тые не подзёр* (пра штаны). Цераблічы. 2. Узараць (цаліну). *Подзерлі цепéр, а рáньшы булі попáсы.* Альшаны. △ Подзёрці пчол. Разбурыць вулей (пра мядзведзя або злодзея). *Медзведзь пчол подзёр у дзеда.* Мачуль.

ПОДЗЕЦІ'НЕЦЦА *зак.* Здзяцінець, здзяцініцца. *Подзеці́неўса, як малы́ стаў.* Буразі.

ПО-ДЗЕ'ЦКІ *прысл.* Па-дзіцячаму. *Як бýдзеш з ім говоры́ць по-дзецкі, то і сам дзіця́м станеш.* В. Малешава.

ПОДЗЕ'ЦЬ *зак.* Падзець, пакласці. *Мáмо, дзе подзелі вéніка, шчо кропілі жукí?* Луткі. *Дзéці, дзéці, дзе мне вас подзéці?* (прыказка). Старажоўцы.

ПОДЗЕШЭВЕ'ЦЬ, ПОДЗЕШЭЎЛЕ'ЦЬ *зак.* Падзешавець. *Ужэ́ подзешэвéла клубнíка.* Запясочча. *Хто рáньшэй, то по дванáнцаць копéёк продавáў, а потóм подзешэўлéлі я́годы.* Бярэжцы.

ПОДЗЁНКА *ж.* Штодзённая вопратка. *Кортóву косцюм тобé подзёнка бýдзе, а бостóнову — шоб нарадзíцца.* Пагост.

ПОДЗЁЎБА'ЦЬ *зак.* Падзяўбці. *Сорóкі подзёўбалі кіяхі.* Дварэц.

ПОДЗІ'ВІЦЦА *зак.* Падзівіцца, паглядзець. *Подівíса, шэсть копíц постáвіла.* Альпень.

ПО'ДЗІК *м.* Памост для вулля на дрэве. *На пóдзіку вýлей станóвіцца.* В. Малешава.

ПОДЗІ'Ў, ПОДДЗІ'Ў *м.* Хвароба «з дрэнных вачэй», урокі. *Подзíў і ўрóкі, то однэ́ й тэ сáмо; кóлісь казалі: пошэпчы мне з подзíву, а з урóкоў — то слóво нéке культурнéйшэ.* Луткі. *Урóкі буваюць з подзíву.* Там жа. *Подзíў у нас кажуць, шчо з очэ́й е.* Сямігосцічы. *Поддзíў і ўрóкі — это однó.* М. Малешава.

ПОДЗО'РАНЫ *прым.* Западозраны, падазроны. *Ужэ ж вон буў подзораны, ек прышоў туды.* Хачэнь.

ПОДЗО'РНІК *м.* Падзор. Запясочча.

ПОДЗЫ'БАЦЬ *зак.* Пакратаць, патузаць. *Відно, подзы́баў за замкá злóдзей і пошóў.* Сямурадцы.

ПОДЗЫВА'ЦЬ *незак.* Падклікаць, прывабліваць. *Подзывáюць сомóў стакáном по водзé.* Сямігосцічы.

ПОДЗЫ'РЫЦЬ *зак.* Падбавіць жару. *Трэ подзырыць — дроў прыбáвіць у печ.* Пагост.

ПОДЗЯ'КОВАЦЬ *зак.* Падзякаваць, аддзячыць. *Вонá шчэ мне подзя́кує за лён.* Дварэц.

ПО'ДКА *ж.* Ніз, под у вуллі. *Оборвáцца можэ і ўпáсці на пóдку мед.* Луткі.

ПОДКАЗА'ЦЬ *зак.* Падказаць, паведаміць. *Одна дзéўка робіла робóту, дай не знáла, як её робіць, і не було нікóго, шоб ей подказáць.* М. Малешава. *Шырынý то я вам не подкажý, не ведаю.* В. Малешава. Выдаць, данесці. *Нікóму там не засоліў, то ніхтó й не подказáў.* Цераблічы.

ПОДКАЧА'ЦЦА *зак.* Падрасці, акрыяць, набрацца сіл. *Коты едзяць курэнят, то дзержым у зáгородцы, покуль подкачáюцца.* Дварэц. *Воно за зіму подкачáлосо, тое поросé.* Луткі.

ПОДКАЧА'ЦЬ *зак.* 1. Падкаціць, падвезці. *Самы подкачаём вóза, не трэба тогó коня.* Запясочча. 2. Закасаць. *Подкачáў рукавá.* Луткі.

ПОДКА'ЧВАЦЬ *незак.* Закасваць, падкасваць. *Як брудзéш, то подкáчваеш штаны.* Луткі.

ПОДКІДА'НЬЕ *н. зб.* Тое, што падкідаюць час ад часу жывёле (на корм). *Коб подкідáў собáцы так чáсто, то дзе б ты набрáўса гéтого подкідáнья.* В. Малешава.

ПОДКІДА'ЦЬ *незак.* Падкідаць угору. *Дзя́дзько Васіль мене́ высóко подкідáў.* Цераблічы. *Однá, бáло, несé своé дзіця́ да подкідáе, коб егó вы́шэй, то другóму дзіця́ці завáдзіць* (павер'е). Запясочча. *Козёл той, шо м'я́чыка подкідáе.* Цераблічы. Кідаць, трэсці. *Шоб цебе подкідáла под семá кожухамі семігóдня хóндзя* (праклён). Запясочча. Плаціць патроху музыку ў час ігрышча. *Хлопцы подкідáюць по копéйцы, то вон грáе.* Тураў.

ПОДКІ'НУЦЦА *зак.* Нечакана з'явіцца (пра нешта дрэннае, непрыемнае). *Не вам кáжучы, на её подкінуласа рóжа.* Хачэнь. *Боліць вáўка: вóлос подкінуўса.* М. Малешава. *После войны́ гóлод подкінуўса.* В. Малешава.

ПОДКІ'НУЦЬ *зак.* Падкінуць. *Я не знаю, хто я — мене́ мáці подкінула под вóйско.* Кароцічы.

ПОДКЛАДА'ЦЬ *незак.* Падкладаць. *Чороўнік подкладáе шчо.* Бярэжцы.

ПОДКО'ВА *ж.* Падкова. Запясочча.

ПОДКОВА'ЦЬ *зак.* Падкаваць. Тураў. Падвесці, ашукаць. *Цебé Хведóра подкуé.* Бярэжцы.

ПОДКОПА'ЦЦА *зак.* Абкруціць, абхітраваць. *Подкопáласа, подлéзла под молодóго, вон жэ ёй не пáра.* Сямігосцічы.

ПОДКОПА'ЦЬ *зак.* Тое ж. *Подкопáла тогó чоловека да стáла жыць, а дзéўцы плáцяць дзéсець рублéй.* Сямігосцічы.

ПОДКО'ПНІЦА *ж.* Позняя кураводка. *Подкóпніца — колі курыца вувела ціпленя́та, ек кóпы, ек ужэ́ жнуць.* Запясочча. Квактуха, якая «тайна» (без ведама гаспадароў) вывела куранят. Там жа.

ПОДКОРМЛЯ'ЦЬ *незак.* Даваць падкормку, угнойваць. *Хто думаў да подкормля́ў — сад того остáўса.* Мачуль.

ПОДКО'РПАЦЬ *зак.* Падкалупнуць, падчапіць. *Покуль подкóрпае раз, то мы тры раз кінемо.* Цераблічы.

ПОДКОЦІ'ЦЦА *зак.* Падкаціцца, падлашчыцца; ашукаць давер'е. *Да ўзяў да подкоціўса к ёй, да вонá родзіла хлопчыка.* В. Малешава.

ПОДКРЭПЛЕ'НЬЕ *н.* Падкормка, падмацаванне. *Яблука сыплюцца, ей подкрэпленье трэба, э́той я́блоні.* Дварэц.

ПОДКУ'РВАЦЬ *незак.* Абкурваць. *От як спужáецца, то зéльем подкýрвалі. Спужáецца собáкі, то беруць обстрыгýць собáку да тым подкýрваюць.* Хачэнь. *Зубéль з ольхí пчол подкýрваць.* Цераблічы.

ПОДКУРЫ'ЦЬ *зак.* Падкурыць, абдаць дымам. *Подкурыць пчол трэба.* Луткі. *Воны зноў за рукі кусаюцца, то я зноў подкурý.* Дварэц.

ПОДКУ'ЧКА *ж.* Падпечак. Хачэнь.

ПОДЛА'ПВАЦЬ *незак.* Падбіваць зношаны полаз (у санях). *Подлáпваюць пóлоз стары́м дзерэўя́нымі гвоздáмі.* Любавічы. *Сáні подлапваюць дýбом.* В. Малешава.

ПОДЛА'ПІЦЬ *зак.* Падбіць зношаны полаз. *Трэбо подлáпіць полоз, ек вон з'éздзіўса.* Сямігосцічы.

ПО'ДЛА'ПКА *ж.* Стары полаз, якім падбіваюць зношаны. Альшаны. *Подлáпка.* Любавічы.

ПОДЛА'СІЦА *ж.* Ласка (звярок). Запясочча.

ПОДЛА'СЫ *прым.* Падласы (пра каня, карову). *Крáсны конь, а под чэ́рэвом бéлое, то подлáсы.* Запясочча. *Подлáса корова.* Там жа.

ПОДЛА'ЦІЦЬ *зак.* 1. Падлатаць. *Настáха на машыні тогó сáчка подлáціць.* Запясочча. 2. Памяняць латы. *Трэ́ба подлаціць хлевá.* Хотамель.

ПОДЛЕГА'ЦЬ *незак.* Падыходзіць. *Рыба подлегáе к берэгóм.* Бярэжцы.

ПОДЛЕ'ГЦІ *зак.* Падкаціцца, падлашчыцца. *А вонá нек подлéгла і вон узяў её.* Лутку. *Подлéг под егó, подговорыў.* Там жа. *Тут ужэ подлéгла нéка свóлоч, а ў ёго ж чэ́цверо дзецéй!* Хачэнь.

ПОДЛЕ'ГЧЫЦЬ *зак.* Аслабіць, адпусціць. *Там можно ёго подлéгчыць, тóе корытцэ, коб легчэ́й ішлó.* Мачуль.

ПОДЛЕЙЧА'ЦЬ *зак.* Падгледзець, падкапаць. *Подлейчáла одногó кóрня, шчэ малые картóплі.* М. Малешава.

ПОДЛЕ'ЙЧВАЦЬ *незак.* Падглядваць, падкопваць. *Бýду подлéйчваць картóплі, мо шо е.* М. Малешава.

ПО'ДЛЕ'ТОК *м.* 1. Падлётак; птушаня, якое вучыцца лятаць. *Шáпкою зловіў пóдлетка вороб'я́.* Сямігосцічы. *Котóры пóдлеток-вороня́ка, бра, крычыць да кіркае.* В. Малешава. *Пóдлеткі называюць малые качкі.* Сямурадцы. 2. Падлетак. *Ты ўсіх пóдлеткоў знаў у брыгадзі?* Сямігосцічы. *Гэто не дзеўкі, шчэ зялёные, не поспéлі, пóдлеткі шчэ.* Дварэц. *Вон ужэ добры подлéток, казалі, свінéй сам посé.* Азяраны.

ПОДЛЕЦЕ'ЦЬ *зак.* Падляцець, наблізіцца. *Гледзі, шоб віхор не подлецеў под цебе.* Сямурадцы.

ПОДЛЕЦІ'ЦЦА *зак.* Прыкінуцца (?). *Раз подлеціўса грыбóм — лезь у коробку* (прымаўка). Старажоўцы.

ПОДЛЁГКА *ж.* Дэталь у возе. *Подлёгка кладзецца на тройню, шчоб не ссóўваліса дрáбцы.* Цераблічы.

ПОДЛІЗА'ЦЬ *зак.* Падлізаць, злізаць знізу. *Подлізала рыба лёд.* Запясочча.

ПОДЛІ'ЗНІК *м.* Падліза. Альпень.

ПОДЛОБЯ'ЧВАЦЬ *незак.* Падсоўваць (?). *Под ёго подлобя́чваем.* Пагост.

ПОДЛО'ГА *ж.* Падлога. *У ее подлóга навéк як зéркало.* М. Малешава. *Яблока россыпаў на пыдлóгу.* Мачуль. Памост у ветраку каля каменя. Хотамель.

ПОДЛО'ЖВАЦЬ *незак.* Падкладваць. *Дóбрэ подложвай клінкá под колóду.* Лутку.

ПОДЛО'ЖЫНА *ж.* Палавіца, асобная дошка ў падлозе. *Згнілá одна подложына.* Аздамічы. *Помýла тáмека однý подложыну і одну стольнíчыну дай гóдзе, ужэ ёй заболéлі рýкі.* Лутку.

ПОДЛОЖЫ'ЦЬ *зак.* Падкласці, усунуць. *Пыдло́жыш но́гу ў машыну — і нема ногі, бу́дзеш без ногі.* Мачуль. △ Рук не подложы́ць. Не рабіць, не дбаць. *У хаце не ро́блено, а ты і рук не подложыш, него́жы ці шчо?* Дварэц.

ПО'ДЛОСЦЬ *ж.* Подласць. *Чоловеку дзелаеш подлосць, а за шчо?* М. Малешава.

ПОДМА'ЗАЦЬ *зак.* Падмазаць. *Подмажом ско́вороду олівою.* Запясочча.

ПО'ДМАЗКА *ж.* 1. Подмазка. *Сковороду, шоб була сыценька, по́дмазкою мазну́ць.* Запясочча. *Шоб вон здох, той кот, по́дмазку з'еў.* Цераблічы. 2 *перан.* Неахайны чалавек. *Поскачэш тут мне, по́дмазко!* Верасніца.

ПОДМА'НВАЦЬ *незак.* Падманваць, ашукваць. Сямігосцічы.

ПОДМАНІ'ЦЬ *зак.* Падмануць, ашукаць. *Подмонілі мене́, шо вон прышо́ў.* Запясочча.

ПО'ДМА'НКА *ж.* 1. Падманшчыца, ашуканка. *Ты по́дманкою ўсю жы́жню прожыла́!* М. Малешава. 2. Пустышка, соска. *Подма́нка.* Запясочча. *Памянш.* п о д м а́ н о ч к а. Там жа.

ПОДМЕСЦІ' *зак.* Падмесці. *Трэба подмесці хату.* Бярэжцы.

ПОДМЕТА'ЙЛО *м.* Падмятальшчык, *перан.* скрытны чалавек. *Бу подметайло вон, усе замета́е следы́.* Азяраны.

ПОДМЕТА'ЦЬ *незак.* Падмятаць. *Подметаць подлогу.* Луткі. *А тобо́й будуць дар божы подме́таць.* Цераблічы.

ПОДМЕ'ШВАЦЬ *незак.* Пераворваць паўторна, мяшаць. *Па́рэніну подмешвалі колися, ек поле парова́ло.* Луткі.

ПОДМОЛО'ДЖВАЦЦА *незак.* Пакрывацца тоўстым лёдам (пра раку). *Рэка подмолоджвалася, ек лілі во́ду на лёд.* Пагост.

ПОДМОЛО'ДЖВАЦЬ *незак.* Намарожваць лёд на рацэ. *Зімой подмолоджвалі рэ́ку.* Пагост.

ПОДМО'СТ *м.* Прыступкі. *Подмо́ст у ха́ту но́ву трэба зробіць.* Верасніца.

ПОДМОСЦІ'ЦЬ *зак.* Падмасціць, прымасціць. *С са́мого кра́ю лежа́й, я подмосціла до ло́жка.* Сямігосцічы.

ПОДМУВА'ЦЬ *незак.* Падмываць. *Река́ бе́рег подмува́е, да вон обва́льваецца.* Пагост.

ПО'ДМУРОЖ *м.* Мяккая лугавая трава. *Осоку́ легчэй, чэм муро́г ці по́дмурож, косіць.* Старажоўцы.

ПОДМУРО'ЖНІК *м.* Трава спарыш. *Подмуро́жнік росце́, дзе земля́ цвёрдая, убітая, і его́ есць усе́: і свінья́, і коро́ва.* Лутк*і*.

ПОДМУ'РОК *м.* Падмурак, фундамент. *Подму́рок трэ́бо ўжэ под ха́ту робі́ц.* Запясочча. Цагляны парог. *Седзіць шчэ зра́нку на подму́рку.* Азяраны.

ПОДМУ'ЦЬ *зак.* Падмыць. *Подму́ло прымо́ла і вон джуг у рэ́ку.* Цераблічы.

ПО'ДНАВЕС *м.* Паветка. Сямігосцічы.

ПОДНА'ДКІ *прысл.* Хваробу, трасцу. *Поднадкі вон гледзіц.* Запясочча. *Поднадкі воны поёдуц.* Там жа.

ПОДНАКРЫ'ЦЬЕ *н.* Падстрэшак, падпаветка. *Поробілі такіе поднакры́цье і се́но под кры́шу хова́лі.* Сямігосцічы.

ПОДНАРА'Д *м.* Паднарад. Запясочча.

ПОДНАШЫ'ЙНІК *м.* Частка ярма. Верасніца.

ПОДНЕБЕ'НЬЕ *н.* Скляпенне ў печы. *На поднебенье трэба сыро́ўка, бо от гарто́ўкі вельмі зыркa печ.* Луткі. *Поднебенье ў печы віпало.* В. Малешава.

ПОДНЕНЕ'КВАЦЬ *незак.* Паддакваць. *Іншы то, можэ, і сам подненеквай бы, а я не могу́.* Запясочча.

ПОДНІМА'ЦЦА *незак.* Падымацца, уздымацца. *Подніма́ецца хма́ра, така́ чо́рна, шо не можно гледзець.* Старажоўцы.

ПОДНІМА'ЦЬ *незак.* Паднімаць. *Ты чаві коло́ду ўніз, а не поднімай.* Луткі.

ПОДНО'Ж'Е *н. зб.* Патомкі, нашчадкі. *Шоб подно́ж'е на́шэ ётого не чу́ло.* Тураў. *Шоб посе́ля его́ запусце́ла, шоб подно́ж'е звело́со!* (праклён). Там жа.

ПОДНО'ЖКА *ж.* Папярочка (у стале, лаўцы і інш.). Сямігосцічы.

ПОДНО'ЖНІК *м.* Палатно, на якім стаялі маладыя пры вянчанні. *Подножнік сва́хі просціла́лі, копейкі на ёго́ сы́палі.* Пагост.

ПОДНО'С *м.* 1. Корм карове падчас даення. *Не прыпусціла корова молока́ — ёта корова з подно́сом, ей трэба поднос.* Запясочча. *Эта корова з подносом, не варто ее брац.* Там жа. 2 *перан.* Хабар. *Без подноса і корова молока не дае* (прыказка). Д.-Гарадок.

ПОДНО'СІЦЬ *незак.* Весьці высокую партыю (пры гуртавых спевах). *Вона хо́рошэ подно́сіць, значыць хо́рошэ высо́ко подцягвае ў серэ́дзіне.* Сямігосцічы. *Гэту*

*пе́сню можно подно́сіць, коб ее подно́сіў, то шчэ ле́пша була́.* Запясочча.

ПОДНО′СОК *м.* Падносак. Запясочча.

ПОДНОЧОВА′ЦЬ *зак.* Пераначаваць. *Едзе чоловек подоро́жны да пытае: ці можно ў вас подночоваць?* Сямігосцічы.

ПОДНО′ШЭНЫ *дзеепрым.* Паношаны. *Подношэна кохта, дала́ носіць брацісі.* М. Малешава.

ПОДНЯ′ЦЦА *зак.* 1. Падняцца, устаць. *Як одзін не варт гуро́к, то другі подо́ймецца.* М. Малешава. 2. Узняцца. *Як поды́ймецца ве́цёр, то лодку уго́ру подыма́е.* М. Малешава. 3. Стаць на ногі; разбагацець. *Подняла́са дочка́ да ста́ла дояркою, то лу́ччэй ста́ло.* М. Малешава. *Тру́дно ему́ жыць, ва́жко ему́ подня́цца, коб усе було́.* Там жа.

ПОДНЯ′ЦЬ *зак.* 1. Падняць, прыпадняць. *От ду́біць поле́но, не можэ подняць.* Дварэц. *Плечэ́м подо́йме да нало́жыць тэ колесо́.* Там жа. *Як ву́несеш на ву́ліцу дзіця́ до го́ду, і друга́ так ву́несе, то стара́ліса, коб вона́ не подняла́ ву́шэй свое дзіця́ за твое, ато бу́дзе твое крыча́ць да хворэ́ць, а ее́ попраўля́цца* (павер'е). Старажоўцы. 2. Узняць. *І о́чы не подня́ў і не поглядзе́ў на тэ дзіця́.* Хачэнь. 3. Падняць на ногі; узняць з лежкі (пра звера). *Собака подняў ліса і поп'ёр по гэтом хашча́зе.* Верасніца. 4. Адбудаваць, адрамантаваць (пра хату). *Подняў хату, зробіў рэмонт.* Аздамічы. △ Не варт кошэля подняць. Пра слабага, састарэлага. М. Малешава.

ПОДО′БА *ж.* Падабенства; род, від. *Лось — это ж корове'яча подоба.* Запясочча.

ПОДОБА′ЦЬ *незак.* Падыходзіць, пасаваць. *До гэтое сподніцы той хварту́х лу́чшэ подоба́е.* Сямігосцічы. *Борода́ ніко́му не подоба́е.* В. Малешава. *Не ка́жда хво́я подоба́е на вулье́.* Там жа. *Ему подоба́е пець, вон старшына́.* Луткі.

ПОДОБЕ′ДНІК *м.* Прыём ежы незадоўга да абеду. *Ек ра́но почына́ёмо робіць, то подобе́днік ро́бімо, часоў за два перэд обе́дом трохі перэку́сваёмо того́-сёго́.* Пагост.

ПОДО′БІЕ *прыназ.* Накшталт. *Бе́рэст подобіе в'яза.* Запясочча.

ПОДО′БНЫ *прым.* 1. Падобны. *Ты на ёго́ подобны.* В. Малешава. *Этой хло́пец подобны на на́шого Міткала.*

Сямігосцічы. 2. Падыходзячы. *Які цвет к чому́ подобне́й.* В. Малешава.

ПОДОБРА'ЦЦА *зак.* 1 *перан.* Падкаціцца, знайсці падыход. *Подобра́ласа под его́, ста́ла жыць з ім.* Сямігосцічы. *Вот вон і подобра́йса до ее́.* В. Малешава. 2. Прыадзецца, прыбрацца. *Трэбо тро́ха подобрацца на карточку.* Мачуль. 3. Залезці пры часанні або пілаванні за лінію (цяслярскае). *Зана́дто подобрайса ў са́мом концэ́.* Аздамічы.

ПОДОБРА'ЦЬ *зак.* 1. Падабраць, падняць. *Як шо не на ме́сцы лежы́ць, надо ж подобраць ёго́.* Бярэжцы. Выбраць, пазбіраць. *Трошкі подобралі лёну.* Лутκі. 2. Адабраць, узяць у свае рукі. *Бачу, зе́млю гэту подберу́ць у па́на скорэ.* Верасніца. 3. Падмяць пад сябе. *Я бачу, шо кобыла мене подберэ́.* Любавічы. △ П о д о б р а́ ц ь ж о ў т к а́. Разжыцца, забяспечыцца. *Вона подобрала жоўтка: е шо даць свіньям, е шо даць коро́ві— на горэ мешкі мукі стоя́ць.* Старажоўцы.

ПОДО'БРЫЦЦА *зак.* Памірыцца, паладзіць. *Воны пасварацца й подо́брацца, свое ж, а ты чужы, не мешайса.* Лутκі. *Ужэ, кажэ, пола́дзіліса, подо́брыліса, а так моцно сварыліса.* Там жа.

ПОДОГЛЯ'ДВАЦЬ *зак.* Падаглядаць, пакарміць. *От зарэ подоглядваю ўсіх.* Лутκі.

ПОДОГОДЖА'ЦЬ *зак.* Дагадзіць. *Нема нідзе ніко́го, шоб нам хто подогоджа́ў.* Бярэжцы.

ПОДОЖДА'ЦЬ *зак.* Пачакаць. *Ходо́ся, давай снедаць.— Подожджы́ трошку.* Сямігосцічы. *Воны не ко́сяць, не ору́ць, по дро́ву у лес не поедуць, то подожду́ць* (пра свіней, якія просяць есці). Лутκі.

ПОДОІ'ЦЦА *зак.* Падаіцца. *Наша рабуля рыка́е, подоіцца хочэ ўжэ.* Лутκі.

ПОДОІ'ЦЬ *зак.* Падаіць. *Я подою да тогды зогнаць трэбо.* Сямігосцічы. *Недзель дзве ек подо́іць Ілья небо, то ўсе погніе́.* Чэрнічы.

ПОДОЙЦІ' *зак.* 1. Падысці, наблізіцца. *І не подо́йдзеш блізко до ее́.* Мачуль. Знайсці падыход. *Як хто подо́йдзе хорошэ́нько, зна́йдзе твое слабо́е ме́сто, то здасі́са.* Дварэц. 2. Падысці, падняцца (пра цеста, хлеб). *Подышо́ў хлеб, як гора́, значыць сп'ёкса ве́льмо до́брэ вон.* М. Малешава. *Не ўкісне, не подо́йдзе, то несма́шны хлеб.* Сямурадцы. △ П о д о й ц і п о д л ю д з і. Стаць дарослым. *Усе ўжэ под людзі подышлі.* Хотамель.

ПОДО'К *м.* 1. Памост пад стажок немалочанага

збожжа. *Подок у екі дзень зро́біць, і ў глу́пу ноч тры снопо́чкі покладзе́ ба́цько.* Хотамель. 2. Воз. *Подо́к упа́ў у во́ду, волы́ зацеглі.* Д.-Гарадок.

ПОДО'Л *м.* Падол (у адзенні). *Ро́шшэўкі на два па́льцы шырочыны́ на подо́ле.* Запясочча. *Світкі шыроко́ шылі ў подо́лі.* Верасніца. *Памянш.* подолок. *І сорочка от плечэ́й узо́рамі, пе́ўнікамі ра́знымі, і ў подо́лку з перэтыка́ньем горніною.* М. Малешава.

ПОДО'ЛЕЦЬ *зак.* Адолець, асіліць. *Хто цебе́ подо́лее таку́ю?* В. Малешава. *Як бо́рэмса, то хто кого́ подо́лее.* Бярэжцы. *Ні вона́ одна не подо́лее, ні я, трэба ўдвох.* М. Малешава.

ПОДО'ЛЬ 1 *прысл.* У даўжыню, даўжынёй. *Подоль ме́троў трына́нцаць, ушы́р — шэсць, веліка ха́та.* Пагост. 2 *прыназ.* Уздоўж. *Подоль заго́на трына́нцаць шаго́ў, ушы́р — одзіна́нцаць, то ко́лько е́то со́ток?* Пагост.

ПОДО'ЛЬНЫ *прым.* Падоўжны. *Сво́лок — подо́льна дзерэвіна на шу́лах у хлеў.* Пагост.

ПОДО'НКІ *мн.* Рэшткі. *Му поедзім, а ім подо́нкі останўцца.* М. Малешава. *Верхо́ўе і подо́нкі ў стожку́ — гэто ўжэ слабо́е сено.* В. Малешава. Падонкі, асадак. *Подо́нкі ўнізу́ остаюцца, у дне.* Сямігосцічы.

ПОДОПА'ЛЫЧЫ *мн.* Апалушкі. Альшаны.

ПОДОПЕ'НЬКІ *мн.* Апенькі. Альпень.

ПОДОПЕ'РЦІ *зак.* Падперці. *Я сяк-так подопёр коло́ду.* Альпень.

ПОДОП'ЁРЦІСА *зак.* Падперціся. *Да сеў да ўжэ́ за столо́м й ду́мае, подоп'ёрса, ду́мае.* Кароцічы.

ПОДО'РВАЦЬ *незак.* Пераворваць паўторна, мяшаць. Альшаны.

ПОДОРО'ЖНІК *м.* 1. Падарожнік, трыпутнік. *Естека леченье од того́ подорожніка, до ва́ўкі кладу́ть.* Альпень. 2. Трава спарыш. *Пудорожнік — мурожо́к бу хвоечка е такі, россціла́юшчы.* Бярэжцы. *Подорожнік, шчо ўецца, і тэ подорожнік, шо шырокі — усе свінья едзяць.* Луткі. 3. Падарожнік, вандроўнік. Бярэжцы.

ПОДОРО'ЖНЫ *прым.* Хто многа ездзіць, падарожнічае. *Подорожные людзі ўсе ўмеюць.* Бярэжцы. Незнаёмы, пабочны. *Это подорожны чоловек, не наш.* Сямігосцічы.

ПОДОРО'ЖЧАЦЬ *зак.* Падаражаць. *Багато подорожчала постройка.* Сямігосцічы.

ПОДОРО'ЖЫНА *ж.* Падарожнік, трыпутнік. Хачэнь.

ПОДОРО'ЖЭЦЬ *зак.* Падаражаць. *Весной подоро́жэло м'ясо, сало.* Бярэжцы.

ПОДОСІ'НІК, ПОДОСІ'НОВІК *м.* Падасінавік. *Подосінік подобны до грыба, але вон неўкусны.* Альпень.

ПОДОСЛА'ЦЬ *зак.* 1. Падаслаць, накіраваць спецыяльна. *Подослалі жэншчыну до его, була вона там дзён два.* Мачуль. 2. Падаслаць, падкласці. *Нема берэлогі, поросяці холодно, трэ подослаць.* Сямігосцічы.

ПОДО'СОК *м.* Падосак, жалезная накладка на вось (у возе). *Подосок к осі прыбіваецца.* Запясочча.

ПОДОСЮ'ЛЬ, ПОДОСЮ'ЛЬКА *прысл.* Дагэтуль, да гэтага месца. Запясочча.

ПОДОТКНЕ'ТЫ *дзеепрым.* Падакнуты. *Подоткнета ідзе.* Запясочча.

ПОДОТКНУ'ЦЬ *зак.* 1. Падаткнуць, падабраць. *По́лы подоткнуў.* Запясочча. 2. Падбухторыць, падгаварыць. *А мене ек чорты́ подоткнулі́ сказа́ць про тэ.* Старажоўцы. 3. Падказаць, данесці. *Вона подоткнула его, да его потом скінулі.* М. Малешава. *Ніхто не подоткнуў его́ за тэ.* Цераблічы.

ПОДО'ЎГУ *прысл.* Даўгавата. *Не́шчо ба́цька подо́ўгу нема з нарада.* В. Малешава. Доўга. *Подоўгу попутную дожыда́ёмо, аж надоеда́е.* Пагост.

ПОДОЎЁС *м.* Трава, падобная на авёс. Хотамель.

ПОДО'ЎЖ *прысл.* Уздоўж, у даўжыню. *Воны́ пасова́тые, подо́ўж па́сок.* Бярэжцы. *Бороңуй подоўж о́раного.* Азяраны.

ПОДО'ЎЖНЫ *прым.* Падоўжны, размешчаны па даўжыні. *Подо́ўжна ба́лька.* Хотамель. △ П о д о́ ў ж н а с ц е н а́. Адна з доўгіх сцен хаты з вокнамі. *Подоўжна сцена проці плечовой сцены.* Луткі. П о д о́ ў ж н а п і л а́. Піла для распілоўкі калод удоўж уручную. *Колісь пільшчыкі подоўжною пілою дошкі пілілі.* Сямігосцічы.

ПОДО'ЎЖЫЦЬ *зак.* Пабаранаваць перад пасевам. *Подоўжыў, потом посеяў, потом забороноваў.* Луткі.

ПОДО'ЎЖЭЦЬ *зак.* Зрабіцца даўжэйшым. *Вуцягном, да подо́ўжэе полотно чы суке́нка.* Бярэжцы.

ПОДО'ХЛЯ *ж.* Падла, здохлая рыба і інш. *Подо́хлі багато було́ на берэгу́.* Бярэжцы.

ПОДО'ХНУЦЬ *зак.* Здохнуць, акалець. *Хай воны подохнуць, гэтые мухі.* Хачэнь. *А куды ж вы, шоб вы подохлі!* (на курэй). Мачуль.

ПОДОХО'ДЗІЦЬ *зак.* Паўміраць, кончыцца. *Чуць не подоходзілі од чаду.* Хачэнь.

ПОДО'ШВА *ж.* Падэшва. *На подо́шві ве́льмі то́ўста шку́ра.* Верасніца. Ступня. *Не йдзі на ка́чвішчэ, ато бу-*

*дуць подошвы свербе́ць* (павер'е). Старажоўцы. Ніз у полазе. *Только подошва з'ездзіцца по такой дорозе.* В. Малешава. Ніжняя частка дна ў лодцы. *Перэвернўласа лодка догоры подо́швою.* Запясочча. *Подошва з стародзерэ́ўя робіласа.* Кароцічы.

ПОДПАЛІ'ЦЬ *зак.* Падпаліць. *Крэменем об крэсало да подпаліў.* Пагост.

ПОДПА'ЛОК *м.* Праснак. *Ге́то по мое́му зака́зу подпа́лка спекла.* Цераблічы.

ПОДПА'ЛЬВАЦЬ *незак.* Падпальваць. *Лучыны насек дро́ва подпальваць.* В. Малешава. *Туды ложаць загне́т і подпальваюць дро́ва.* Сямігосцічы.

ПОДПА'ЛЬНІК, ПОДПА'ЛЕНІК *м.* Корж з хлебнага цеста, які пяклі ў печы пры полымі. Бярэжцы. Скавароднік з квашанага цеста. *Пудпальнік спечэш на сковородзе, ек трэба хутко.* Сямурадцы. *Подпа́ленік.* Пагост.

ПО'ДПА'Р *м.* 1. Загніванне ў дрэве, у пальцы. Пагост. 2. Брак пры вытворчасці цэглы, выкліканы парнасцю пры абпальванні. *Часом подпа́р дае́ сама́ печ.* Аздамічы.

ПОДПА'СІЧ *м.* Падпасак. *Пастуху́, шчо коні пас, давалі подпасіча з кожное хаты і кормілі по чэрзе́.* Луткі.

ПОДПА'СОК *м.* Тое ж. *За подпа́ска буў я.* Запясочча.

ПОДПА'СЦІ *зак.* Падысці, надысці. *Як голодные годы подпалі, то і хлебом помогаў.* Цераблічы. *Косовіца пудпала, то ўжэ́ так і остало́са нескóнчоным.* Бярэжцы.

ПОДПЕВА'ЦЬ *незак.* Напяваць, выспеўваць. *Ек дочка́ вухо́дзіла замуж і спевалі жалослівуе песні, а я ім сказала: такіх песен мне не подпевайце.* М. Малешава.

ПОДПЕКЦІ' *зак.* Трошкі спячы. *На Петра хлеба подпекла, а на Ллю поўну печ налью.* Сямурадцы.

ПОДПЕКЦІ'СА *зак.* Падпячыся. *Трэба картоплі нацёрці, да туды м'яса, да сыра туды, і подпечэцца вонэ, да ў каструлю, да ў печ, да сала, масла, сметаны наверх покладзе́м і звалі галганы́ ту еду.* Запясочча.

ПОДПЕ'НЬКІ *мн.* Апенькі. *Подпенькі ле́тніе поростўць за́ра после дожджоў.* Цераблічы.

ПОДПЕРА'ЗАНЫ *дзеепрым.* Падперазаны, падпаясаны. *Стою подпоразана воло́кою.* Запясочча. *Подпаразана стоіць.* Цераблічы.

ПОДПЕРА'ЗВАЦЦА *незак.* Падпяразвацца. *Поесом подпоразваецца красным.* Кароцічы.

ПОДПЕ'РЦІ *зак.* Падперці. *Подопрэ ж нашу рэку*

*вода*. Кароцічы. *Коб не мéрлі, то б і небо потпéрлі* (прымаўка). Цераблічы.

ПОДПЕРЭЗА'ЦЦА *зак*. Падперазацца, падпаясацца. *Подперэзайся рэмнем*. Альшаны. *Подперажыса крэпою*. Старажоўцы.

ПОДПЕРЭЗА'ЦЬ *зак*. Падперазаць. *Пояс красны подперэжа і світá з забóрамі, хустка подперáзана*. Кароцічы.

ПОДПЕ'Ч *ж*. Падпечак. Аздамічы.

ПОДПЕ'Ч'Е *н*. Тое ж. *У подпéч'е кóліся кýры загонялі*. Дварэц.

ПОДПЕ'ЧОК *м*., ПОДПЕ'ЧКА *ж*. Тое ж. *Покладзі яйцо у подпечок*. Азяраны. *Подпечка*. Запясочча.

ПОДПІВА'ЦЬ *незак*. Выпіваць, піць патроху. *Мо ты подпіваеш горэлочку, то й не любяць цебé*. М. Малешава.

ПОДПІНА'ЦЬ *незак*. Падвязваць. *Хýсткі подпінáюць*. Альшаны.

ПОДПІРА'ЦЦА *незак*. Падпірацца. *Мусіў подпірáцца пáлкою*. Луткі.

ПОДПІРА'ЦЬ *зак*. Падпіраць, прыпіраць. *Як на велікдзень на ўсюнóчну зоўзюлька пéршы раз закуé, подпіраюць спіною дзéрэво, шоб не хворэць* (павер'е). Хачэнь.

ПОДПІ'РКА *ж*. Падпорка. *Поставіла пыд сýка пóдпірку*. Мачуль. *Подпіркі трэба п'яніцы*. М. Малешава.

ПОДПЛЕ'Т, ПОДПЛЁТ *м*. Падплёт. *Подплет лапцéй, шо вушы дзержáць*. М. Малешава. *У дзве лозіні основа, у дзве подплёт*. Луткі.

ПОДПЛЕ'ТАНКА *ж*. Спіца плесці лапці. *Була подплетанка дзерэўяна*. Хотамель.

ПОДПЛЕТА'ЦЬ *незак*. Падплятаць. *Подплетáлі лáпці лозóю*. Бярэжцы. *Свідзіна подплетáць хорошэ лапці, вона скользкая*. Запясочча.

ПО'ДПЛЕТКА *ж*. Спіца плесці лапці. Аздамічы.

ПОДПЛО'ТНІК, ПО'ДПЛЕТНІК *м*. Пазашлюбнае дзіця. *У ее ўсе подплотнікі, а хлóпцы хорошые*. М. Малешава. *Дзеўка собе нашла подплотніка да годуе*. Цераблічы. *Пóдплетнік*. Аздамічы.

ПОДПОДЗЁМКА *ж*. Перапёлка. *Подподзёмка кажэ: «Под подóм, под подóм. Сховáй, сховáй»*. Запясочча.

Лічыцца словам выключна «жаночым», мужчыны кажуць *перэпёлка*. Запясочча.

ПОДПОДО'К *м*. Тое ж. Альшаны.

ПОДПОІ'ЦЬ *зак.* Пачаставаць гарэлкай. *Трэбо подпоіць, шоб рэ́звосць бра́ла, ато хо́чэце, шоб спева́лі на го́лу го́лоў.* Запясочча.

ПОДПО'РА *ж.* Падстаўка, падпорка. *Подпо́ры под помідоры зна́йдзеш у Сві́ном Рогу.* Луткі. *Дзесець подвод одных подпор прыве́злі.* Там жа.

ПОДПОЎЗЦІ' *зак.* Падпаўзці, падсунуцца. *Во́зьмом да пыдпоўзо́м.* Мачуль. *Трактор подпоўз под са́мый лёд.* Сямігосцічы.

ПОДПРУ'ГА *ж.* Папруга, частка вупражы. Верасніца.

ПОДПРЫ'ПЕЧОК *м.* Прыпечак. Сямігосцічы. Паліца пад прыпечкам для пасуды. *Паста́ў у подпры́печок ско́вороду, місу, кружок.* Луткі.

ПОДПУСЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Падпусціць, дазволіць наблізіцца. Запясочча. 2. Запусціць. *Гірку подпу́сціць у бо́роду, а вон крычыць: «Ратуйце».* Дварэц. 3. Падоўжыць. *Попаў под лёі да покоро́целі штаны, трэбо подпусціць.* Пагост.

ПОДРА'Д *прысл.* Падрад. *Подрад два годы́ вода на сено́жаці.* Аздамічы. *Подрад два дні ко́сіць.* Там жа.

ПОДРАДЗІ'ЦЬ *зак.* Упрыгожыць, прыбраць. *Подра́дзяць дугу́, кветку почэпяць — від́но́, шо веселье едзе.* В. Малешава.

ПОДРАЖНІ'ЦЬ *зак.* Абазваць. Аздамічы. Перадражніць. *Вон і балалайку подражніць.* Цераблічы △ П о д р а ж н і́ ц ь  в е́ ц ё р. Свістам выклікаць вецер. Аздамічы.

ПОДРА'ПАНЫ *дзеепрым.* Падрапаны, абадраны. *Вона́ й на віду́ була подрапана.* Цераблічы.

ПОДРА'ПАЦЦА *зак.* Падрапацца, абадрацца. *Бувало, подрапаецца сцекло, не будзе свеціць до́бро.* Бярэжцы.

ПОДРА'ПАЦЬ *зак.* 1. Падрапаць, абадраць. *Подра́пало шыю од сцекла́.* Старажоўцы. 2. Падзерці, пакапаць. *Іх значно́, тых цецерукоў, воны песок подрапаюць.* Мачуль. 3 *экспр.* Пабаранаваць, пакультываваць. *Хай бу то і мое картоплі подрапаў.* М. Малешава.

ПОДРА'ЦЬ *зак.* Упершыню распрацаваць раллю. *Этты була гушча, то недаўно подралі.* Бярэжцы. *Усе́ болота́ подралі.* Верасніца.

ПОДРОБІ'ЦЬ *зак.* 1. Падрабіць. *Подробіць весы́ да ўкручвае з гэтых жоно́к.* Бярэжцы. 2. Укасіць. *Троха сена подробіць трэба.* Цераблічы.

ПОДРО'БКА *ж.* Падробка, імітацыя. *Подробка е така под ейцэ, то кажуць ґіпсоўка.* Цераблічы.

ПОДРОБЛЯ'ЦЬ *незак.* Падмешваць, запраўляць. *Дрожджы подробляюць хмелем.* Хачэнь.

ПОДРО'СТАНЫ *прым.* Падрослы. *Трохі подростаные дзеўкі зелье жнуць, да в'яжуць, да сушаць снопў, вучацца.* Запясочча.

ПО'ДРО'СТОК *м.* Хлопец або дзяўчына пераходнага ўзросту. *Ужэ пóдросток, хлóпец хорошы.* В. Малешава. *Этые пóдросткі ўсе забудуць.* Луткі. *Да ўзелá подрóстка дзеўку з собою.* Хачэнь.

ПОДРОСЦІ' *зак.* Падрасці, стаць вышэйшым. *Пожня подрослá немнóго — водá ўпáла* (тут — выступіла з вады). Мачуль.

ПОДРОШТОВА'ЦЬ *зак.* Падмасціць, падкласці. *Поклáлі рошт собé, подроштовáліса, шоб бок не мок.* Хачэнь.

ПОДРУ'БА *ж.*, ПОДРУ'БЫ *мн.* Першы вянец у зрубе хаты. *Ужэ одзін венок положылі на подрубах.* Сямігосцічы. *Колісь подрубы только дубовые булі.* Хотамель.

ПОДРУБА'ЦЬ *зак.* Падсячы. Сямігосцічы.

ПОДРУ'БВАЦЬ *незак.* Падсякаць, *перан.* падгрызаць. *Бобрэ оснік подрубваюць, только осіну, а дуб не подрубаюць.* Сямігосцічы.

ПОДРУ'БІНА *ж.* Адно бервяно ў ніжнім вянцы хаты. Сямігосцічы.

ПОДРУБІ'ЦЬ *зак.* △ П о д р у б í ц ь х á т у. Замяніць ніжні вянок хаты пры рамонце. *Трэба подрубіць хату, даць подрубу.* Аздамічы.

ПОДРУ'БНЫ *прым.* Падкалодны. Луткі. △ Ж á б а п о д р ý б н а. Жаба, якая жыве пад драўлянымі пабудовамі або пад ляжачымі калодамі. *Жáба подрубна мах, чорна, корáва, у горчаку, у сýсе жыве.* Цераблічы.

ПОДРУ'ЖКА *ж.* Сяброўка. *Подружка, сестрыца моя.* Хачэнь.

ПОДРУЖЫ'ЦЦА *зак.* Пажаніцца. *Дзеці добрые етые, шчо подружыліса.* Альшаны.

ПО'ДРУКІ *мн.* Падпахі. *Там буў купнік по поес, по подрукі, то носілі сено на носілках з того купніку.* Луткі. *Кажды дзень мокры буў по подрукі.* Сямігосцічы.

ПОДРУ'ЧА'Й *м.* Ахапак сена, які можна ўзяць пад руку. *Озмі подрýчай корóві — ужэ вона наéласа, така дóбра трава.* М. Малешава. *Подручáй.* Аздамічы.

ПОДРУЧА'ЦЦА *незак.* 1. Дамаўляцца; наймацца.

*Подручайса, то везі.* Сямігосцічы. Абяцаць. *То не подручайцеса і не кажыце.* Бярэжцы. 2. Паручацца. *Я на свое здоройе ужэ не подручаюса.* М. Малешава.

ПОДРУ'Ч'Е *н.* Месца пад рукой; аб'ём, які можна прынесці пад пахай. *Наберы ў подруч'е сена, занесі корові.* Сямігосцічы.

ПОДРУ'ЧНІК, ПОДРУ'ШНІК *м.* 1. Прамавугольная ўстаўка пад пахай сарочкі. *Подручнік устаўлялі ў рукаў сорочкі, шылі і тры наплешнікі, і шчэ й манéжка з вóдзікамі мужчынам, і коўнер вушыты.* М. Малешава. *Падрушнік у сороццы, а ў свіце ці кохце клін.* Луткі. 2. Падпорка пад ручку (у возе). *У оплéнь забіваюцца рýчкі, а гэтой упор зовецца подручнік.* Цераблічы. 3. Паплечнік, памагаты. *Воны іхніе подручнікі булі.* Цераблічы.

ПОДРУ'ЧНЫ *прым.* △ Подручны конь (вол). Левы конь (вол) у запрэжцы. *Подручны конь, вон под рукою ходзіць.* В. Малешава. *Подручны вол цэлікóм ішоў, а борозённы ролéю.* Цераблічы.

ПОДРЫВА'ЦЬ *незак.* Узрываць. *Стаў подлогу подрываць, а вона ж нова послáна.* Хачэнь.

ПОДРЫ'ҐАЦЬ *зак.* Падрыгаць, паторкаць. *У мене подрыґало да перэстало.* Цераблічы.

ПОДРЫ'Ў *м.* Захворванне ад перанапружвання (грыжа і інш.). *Подрыўнік у лесі росце, його од подрыву п'юць.* Аздамічы.

ПОДРЫ'ЎНІК *м.* Лекавая лясная расліна, падобная на бруснічнік. *Подрыўнік ек мýчэнік, толькі зубóчкі на лісці, а ягодкі зелёненькіе ек рвом до Купалного Івана.* Луткі. *Ек зорвécса, вáжко подымаць, жывот боліць, то п'юць подрыўнік.* Там жа. *У подрыўніка лісце такé, як на бруснічніку, ек на бервінку, только з шышэчкáмі.* Бярэжцы. *Подрыўнік і настанóўнік — однэ і тэ сáмэ.* Хачэнь. *Подрыўнік у лесý е.* Дварэц. △ Подрыўнік боровы (мужчынскі). Тое ж. *Подрыўнік боровы, ці мужчынскі шчэ кáжуць, з ёгó ідзе такі бук і такім цветом цвіце. За егó плаціць трэба. Дзе ўрвеш, положыш крошку хлеба, бо як не заплаціш, то не выросце на другі год.* Луткі. Подрыўнік полёвы. Цыкорыя. *Подрыўнік полёвы — зéлье дóбрэ од жывотá.* Луткі.

ПОДРЫШТОВА'ЦЬ, ПОДРОШТОВА'ЦЬ *зак.* Падмасціць, падвысіць. *Трэба подрыштоваць — подняць сено вышэй.* Аздамічы. *Ек водá прышлá, то подроштýюць свіньям у хлёвé, коб вýшэй буló.* М. Малешава.

ПОДРЫШТО'ЎКА *ж.* Ніжні пласт саломы пры накрыцці страхі. *Подрыштоўка — солома колосом уніз, яка кладзецца на лаціны, а поверх кладзеш кулй да роўнуеш.* Пагост.

ПОДРЭ'ЗАНЫ *дзеепрым.* Падпілаваны, падточаны. *Подрэзана вось.* Сямігосцічы.

ПОДРЭ'ЗАЦЬ *зак.* Зрэзаць, спілаваць. *Сталі гледзець — то ў вётлі слёпотні. На другі дзень подрэ́залі вётлу.* М. Малешава.

ПОДРЭ'ЗВАЦЬ *незак.* Падстрыгаць, падрэзваць. *Мене́ маці не подрэзвае, шоб була грыўка.* Цераблічы. Падпілоўваць. *Бувае, копўто прылóмуецца, тоды ёго подрэзваюць.* Запясочча.

ПОДРЭ'ЗЫ *мн.*, рэдка п о д р э́ з *м.* Падрэзы (у санях). *Сані на подрэзах не так бегуць у забегу.* Тураў. *Подре́з.* Альшаны.

ПОДСА'НКІ *мн.* Невялікія санкі, якія чапляюцца да саней для перавозкі доўгіх бярвенняў. *Пудсанкі трэба зробіць, коб по дзерэво ехаць.* Кароцічы. *Подсанкі на трох копульчыках.* В. Малешава. *Колісь подсанок не було, это ўжэ после войны сталі оны́.* Верасніца.

ПОДСВІ'НОК, ПОДСВІНА'К *м.* Падсвінак, невялікі парсюк. *Подсвінок — ужэ месяцоў мо п'яць которы мае.* М. Малешава. Малады дзікі кабан. *Летось убіў подсвіна́ка я.* Запясочча. *Памянш.* п о д с в і́ н о ч о к. *Пошла і купіла собе подсвіночка.* Запясочча.

ПОДСВІНЯ'КА *ж.* Тое ж. *Нідзе не було подсвіня́кі купіць.* Сямурадцы. *Таку подсвіняку дзіку прывелі, прышла ў двор.* Хачэнь.

ПОДСЕВА'ЦЬ *незак.* Ачышчаць на сіце, рэшаце пры дапамозе кругавых рухаў. *Подсеваў на рэшэто збож'е.* Аздамічы.

ПОДСЕДЗЕ'ЛЬНІК *м.* Падсядзёлак. *Подседзельнік прыўязваецца за оглóблю.* Верасніца.

ПОДСЕ'ДЗЕЦЬ *зак.* Падседзець, наўмысна падставіць пад небяспеку. *Другі раз ёго́ подсе́дзелі і попаўса.* Кароцічы.

ПОДСЕ'ДОК *м.* Спадарожнік, што падсеў у дарозе на воз. *Сколько ў цебе подсе́дкоў, кудóй ты іх везе́ш?* Запясочча.

ПОДСЕ'КЦІ *зак.* Падсекчы. *Подсёк дзерэво.* Хотамель.

ПОДСЕ'СЦІ *зак.* Падсесці на воз, пад'ехаць. *Дзядзя, мы падся́дом?* Запясочча.

ПОДСЁЛОК *м.* Пасёлак. *Тых нёмцоў подсёлок буў, хат петнаццаць.* Цераблічы.

ПОДСІ'ЛІЦЦА *зак.* Павесіцца. Запясочча.

ПОДСІ'НЬКА *ж.* Сінька. *На ту полотняну сорочку колькі трэба подсінькі.* Луткі.

ПОДСІ'ТОК *м.* Падсітак. Азяраны.

ПОДСКА'КАЦЬ, ПОДСКА'КВАЦЬ *незак.* Падскокваць, падбрыкваць. *З жонкáмі молодшымі цвéліцца да подскáквае — не будзеш ты ўжэ подскáкаць!* Бярэжцы.

ПО'ДСКО'КОМ *прысл.* △ З п ó д с к ó к о м. Падскокваючы; энергічна. *З подскóком пошоў.* Аздамічы. *Маці б дзіця гледзела, а ты б з пóдскоком грошы зароб-ляла.* Хачэнь.

ПОДСКО'ЧЫЦЬ *зак.* Падскочыць, раптоўна падняцца. *Раз дупцэ́м по ём як даў, так вон аж подскочыў.* Кароцічы. *Подскóчыць уж да ўкýсіць хоч за шчо.* Луткі. Хутка вырасці, з'явіцца. *Подскóчыць трава, як бачыш.* Запясочча. *Коб мне Аніные гóды подскóчылі.* Сямурадцы.

ПОДСКРО'БКА, ПОДСКРЭ'БКА, ПЫДСКРЭ'БКА *ж.* Выскрабак, маленькая булка з астаткаў цеста. Чэрнічы. *Подскрэ́бка.* Луткі. Рэшткі цеста ў дзежцы. *У збанóчок наліваемо воды да кідаемо пыдскрэбкы, зрóбіцца квас ды варым боршч.* Мачуль. *Памянш.* п о д с к р э́ б о ч к а. Бярэжцы.

ПОДСМА'ЖЫЦЬ *зак.* Падсмажыць, падпражыць. *Подсмажыш конóплі.* В. Малешава.

ПОДСМЕ'ЙВАЦЦА *незак.* Падсмейвацца, кпіць. *Подсмейваліса, хто на волóх робіў.* М. Малешава.

ПО'ДСТАВЕНЬ *м.* Нерат, жак без крылаў. Пагост.

ПОДСТА'НІК *м.* Гарсэт. *Подстанік полотня́ны ніжэй грудзéй у сороццы жонóчой.* Пагост.

ПОДСТРО'ІЦЦА *зак.* Прыбрацца, прыадзецца. Пагост.

ПОДСТРОКНУ'ЦЬ *зак.* Узвесці паклёп (?). *На чоловека непраўду наговорыць — подстрокнуць.* Аздамічы.

ПОДСТРЫ'ГЦІСА *зак.* Пастрыгчыся. *Подстры́гціса трэба, пойду подстрыгýса.* Луткі.

ПОДСТРЭ'ЛІЦЬ *зак.* Падстрэліць. *Ее подстрэ́лілі у нóгу.* Чэрнічы. *Одзін кажэ: я зайца забіў, а другі кажэ: я сороку подстрэ́ліў.* Хільчыцы.

ПОДСТУ'КВАЦЬ *зак.* Падстукваць, адбіваць такт.

*Слухае, як гармонь, і подстуквае тарэлкою.* Сямігосцічы.

ПОДСУ'КАНЫ *прым.* Падцягнуты, зграбны. *Смукова́та корова, подсукана — чэ́рэво мало́е.* Запясочча. *Подсуканы хло́пец.* Цераблічы.

ПОДСУ'СЕ'Д, ПОСУ'СЕ'Д *м.* Той, хто жыве ў чужой хаце на правах кватаранта ці на чужым двары. *Бувае, подсу́седы жывуць у гумне, а ва́рацъ у хаці.* Старажоўцы. *Не трэба мне такіе подсусе́дзі, шоб ко мне по во́ду ходзілі.* Там жа. *Як пускаць потсусе́да ў хату, луччэй жорна поставіць серэд хаты.* Сямігосцічы. △ У подсусе́дах (посусе́дах) (жыць і інш.). На правах кватаранта, не ў сваім доме (жыць). *Поўгода пожыў у подсусе́дах.* Дварэц. *У посусе́дах була доўго, по́куль домо́к не збудовала.* Буразі. У подсу́седы (подсу́седзі, посу́седы) (ісці і інш.). Да чужых у хату на жыхарства (ісці). *Му перэбраліса ў подсу́седы, ек вода прыбула́.* Сямурадцы. *Хоць бы не йці ў подсу́седзі, то зробіў сцёпку без о́кон.* Пагост. *Ожэніўса і пошоў у посу́седы.* Верасніца.

ПОДСУ'Ч'Е *н.* Вяроўка, якая прывязвалася за «лапу» якара. Дварэц.

ПОДСЦЁЛ *м.* Подсціл, падсцілка. *Ек німа на подсцёл соломы, то добрэ й лепеха́.* Тураў.

ПОДСЦІЛА'ЦЬ *незак.* Падсцілаць, падкладваць. *Еке́ шма́цьє подсціла́ём, коб було лоўчэ́й спаць.* Луткі. *Бог поду́шэчку ім подсціла́е* (пра ўдачлівых). Сямігосцічы.

ПОДСЦІ'ННО *прысл.* Чыста, гладка (пра касьбу). *Одзін косіць подсцінно ро́ўно, а другі под польку, под прокосо́м гры́ва.* Аздамічы.

ПОДТАНЕ'ЧНІЦА *ж.* Дзяўчынка-падлетак. Запясочча.

ПОДТА'ЦЬ *зак.* Падтаць. *От трошкі подта́е снег, поме́ншаюць гу́ры, осядуць.* Сямурадцы.

ПОДТО'ПВАЦЬ *незак.* Пачынаць паліць у печы. *Пошоў рано, шчэ я не подтопвала, ек вон ішоў.* Луткі.

ПОДТОПІ'ЦЬ *зак.* Падтапіць, заліць. *Подтопіло я́блоні.* М. Малешава. *Вода прыбудзе і его не подтопіць, той стожок.* Цераблічы.

ПОДТОПЛЯ'ЦЬ *незак.* Падтапляць. *Подтопляе дро́ва.* Хільчыцы.

ПОДТРА'ЎНЫ *прым.* Для касьбы травы (пра касу). *Коса подтра́ўна.* Старажоўцы.

ПОДТРУ'ШВАЦЦА *незак.* Падтрэсвацца, злёгку трэсціся. *Подтрушваецца трохі, ек танцуе.* Верасніца.

ПОДТУ'ЛЕНЫ *прым.* Падтулены, сутулаваты. Луткі.

ПОДТУЛІ'ЦЬ *зак.* △ Подтуліць хвост (хвоста́). Спалохацца, стаць асцярожным. *Подтуліў хвост, ек собака, дай пошоў.* Мачуль. *Подтуліў хвоста, як той дрозд.* Верасніца.

ПОДТУ'ПНЫ *прым.* Марудны, непрабіўны. *Подтупны, не проворны, не поворотны мужчына буў.* Дварэц.

ПОДТЫКА'ЦЬ *незак.* Штурхаць. *А нас бу холера подтыкае под бо́кі!* Запясочча. Падстаўляць, падсоўваць. *Екі пага́ны чоловек, важку́ роботу не хо́чэ робіць, а другіх подтыкае.* Пагост. Упікаць, папракаць. *Не хочу́, шоб мне подтыкалі людзі за тэ.* М. Малешава.

ПОДТЫКНУ'ЦЦА *зак.* 1. Падаткнуцца, падабраць краі адзення. *Подтыкне́цца, у цэркву ідучы́.* Запясочча. 2. Памкнуцца. *Вона подтыкну́ласа ко мне, да позно.* М. Малешава.

ПО'ДТЫЧ *м.* Калкі для прасушкі рыбацкай сеткі. *Про́сты не́вод на по́дтычы вісіць, просыха́е.* Верасніца.

ПО'ДТЫЧКА *ж.* Загана; тое, за што можна папракнуць. *У его́ подтычка нейка е, дзіця́ ў его е.* М. Малешава.

ПОДУБЕ'ЦЬ *зак.* Адубець, акалець. *Ідзі есці, а то картоплі зусім подубе́лі.* М. Малешава. *Ру́кі подубелі.* Альшаны.

ПОДУ'БІ'ЦЬ *зак.* Пацягнуць, павалачы. *Ва́жко понёс, ледзь подубіў.* Луткі. *От поду́біць хворост!* В. Малешава.

ПОДУ'ЖАЦЬ *зак.* Падужаць, перамагчы. *Подужаў мене брат і палку забраў.* Хачэнь.

ПОДУ'ЖВАЦЬ *незак.* Папраўляцца, здаравець. *Ста́ла седзець, поду́жваць от хворо́бы, от ціху.* Дварэц.

ПОДУ'ЖЭЦЬ *зак.* Паправіцца, паздаравець. *От коб дзед поду́жэў трохі, то нічого і не дзержацьме* (пра гаспадарку). Дварэц. *Вон этого со́ку вупіў літру і поду́жаў.* Тураў. *Мо поду́жаў бу от хворо́бу, коб еў.* Запясочча. *Пошэптаў, поговорыў, той чоловек поду́жэў.* Сямурадцы.

ПОДУЗО'РНІК *м.* Падзор. *Падузорнік, екі прыложваецца на ложок і звісае до до́лу.* Цераблічы.

ПОДУ'МАЦЬ *зак.* Падумаць. *Подумаеш, подумаеш, да перэесіса і жыць не хочэцца.* Старажоўцы. ***Нап'е́сса воды́ дай подумай куды́*** (прымаўка, пра сватанне). Любавічы.

ПОДУ′НУЦЬ *зак.* Падуць, дунуць. *Онэ шáпочкою, подýнь на ёго й полецéло.* М. Малешава. *Цёплы вéцёр подýнуў і дождж ык пойдзе, то ўсе пошло росці.* Луткі.

ПОДУРО′ЧЫЦЬ *зак.* Сурочыць. *Бэ́ня шэптаў подзівы і ўрóкі, як хто подурóчыць.* Сямігосцічы.

ПОДУРЭ′ЦЬ *зак.* Здурэць. *Бо то вы подурэ́лі ці шо?* Мачуль.

ПОДУ′СТ *м.*, ПОДУ′СТА *ж.* Падуст. *Подýсты, вонь́і косьлі́вые вельмі.* Пагост.

ПОДУ′ЦЬ *зак.* Падуць. *Подуў з пóўночы вéцер.* Запясочча. *Янголі подулі ветром да ў мене слёзы пошлі* (з казкі). Сямурадцы.

ПОДУ′ШКА *ж.* 1. Падушка. *Прослаў подушку і лёг спаць.* Луткі. *Гэтым хлопокóм зробіла п'яць подýшок.* Хачэнь. 2. Падушка (у возе). Запясочча. 3. Лага для ўскачвання калод на воз. Хотамель. △ П о д у ш к у г н у ц ь. Бегаць па гнуткім лёдзе. Сямурадцы.

ПОДУ′ШНО *прысл.* На душу, на кожнага чалавека. *Подýшно дзелілі поле.* Хачэнь.

ПОДУШЫ′ЦЬ *зак.* Прыдушыць, параніць. *Воўк подушы́ў нешчо, то хай ужэ есць до конца.* Хачэнь.

ПОДУ′ШЭЧКА *ж.* Від танца. Запясочча.

ПОДФАРТУ′ШНІК, ПОДХВАРТУ′ШНІК *м.* Ландыш. *Еслі ў грýдзях боліць у чоловека, то подфартушнік пáраць да п'юць.* Хачэнь.

ПОДХАЙВА′ЦЬ *незак.* Падчышчаць, ачышчаць. *Трэбо подхайвáць у рóшаце збож'е.* Хотамель.

ПОДХАНДРЫ′ЧЫЦЦА, ПОДХАНДРЫ′ЦЦА *зак. экспр.* Падкасацца. *Подхандры́чыласа твоя сподніца, погледзі.* М. Малешава. *Куды́ ты пошла, сподніца подхондрыласа.* Там жа.

ПОДХАНДРЫ′ЧЫЦЬ *зак.* Падкасаць. *Подхандрычыла сподніцу, шо вона под коўнер залезла.* М. Малешава.

ПОДХА′ПВАЦЬ *незак.* Затрымліваць, затойваць (пра малако). *Колі ціхо доіць, то корова молоко подхапвае.* Хачэнь.

ПОДХАРЧОВА′ЦЬ *зак.* Падкарміць, падмацаваць. *Подхарчовáла косароў чым було.* Пагост.

ПО′ДХВАТ *м.* Падхватнік, сачок. *Подхват — сачóк такі на рыбу.* Сямурадцы.

ПОДХВА′ТВАЦЬ *незак.* Падхопліваць, уступаць пасля сольнай партыі (пры спевах гуртам). *Одзін поé, а подхватваюць усé.* Запясочча.

ПОДХВАТНЫ′ *прым.* Лёгкі на пад'ём (у працы). *Другіе роб'яць, то й вон, да стараецца, подхватны на дзело.* Пагост.

ПОДХВО′СНІЦА, ПОДХВО′СЦІЦА *ж.* Палавы орган у жывёлы. *Подхвосніца.* Цераблічы. *Подхвосціца.* Мачуль.

ПОДХО′Д *м.* Падыход, хітрасць, задняя думка. *Вельмо з подходом поехала ў Жыдковічы просіць дзеду пенсію.* Дварэц. *Чого ж вон хату поставіў на болоні? Мабуць, с подходом.* Там жа.

ПОДХО′ДЗІЦЬ *незак.* 1. Падыходзіць, набліжацца. *Я подходжу к ім: Добры вечор! — Добры вечор!* Кароцічы. *Подходзіць осень — скоро покрова покрые землю не лістом, а снегом.* Старажоўцы. *Это ужэ пошці к той войне подходзіло.* Там жа. 2. Падыходзіць, падымацца (пра цеста). *Добро подходзіло цесто.* Хачэнь. 3. Быць падобным, нагадваць, падыходзіць. *Кора ў граба под клён подходзіць.* Лугкі. *Окуне подходзяц пуд песок.* Запясочча. 4. Адносіцца. *Як кажуц шэры конь, то это к шэрсце больш подходзіц.* Запясочча.

ПОДХО′ДНЫ′ *прым.* 1. Падобны, нагадваючы. *Баба — тоўстая плотка, под язя подходна.* Сямігосцічы. 2. Які мае падыход. *Подходны к людзям вон.* Пагост.

ПОДХО′ЖЫ, ПОДХО′ДЖЫ *прым.* Падобны, нагадваючы. *Вона чорноброва, подхожа под бацька.* Хачэнь. *Дубовік подходжы под грыба.* Старажоўцы. *Найдзі такую, шоб подхожа була под твою жонку.* Хільчыцы.

ПОДХОПІ′ЦЦА *зак.* Падхапіцца, узняцца. *Як вецёр пыдхопіцца, то вона ж уб'ецца.* Мачуль.

ПОДХОПІ′ЦЬ *зак.* Падхапіць, падтрымаць. *Добрэ шо людзі там булі, то подхопілі.* В. Малешава. Злавіць. *Подхопіў і дзержыць, не пускае.* Бярэжцы.

ПОДЦВЕ′ЛЬВАЦЬ *незак.* Падражніваць. *Вон ее навек подцвельвае.* Хачэнь.

ПОДЦЕГЦІ′ *зак.* 1. Скруціць, падкурчыць. *Подцегло ей ногу, вона не могла ее розгібіць.* Лугкі. 2. Набрацца вільгаці, нацягнуць. *Подцягло сено, стало вогкее.* Цераблічы.

ПОДЦЕРУШЫ′ЦЬ *зак.* Падцерушыць, падсыпаць. *Поба ў окно, ето ж подцерушыло за ноч снегу на голу землю, да так хорошэ стало.* Пагост.

ПОДЦЁЛОК *м.* Двухгадовае цяля. *Дзе ж то наш подцёлок?* Азяраны.

ПОДЦІ́СНУЦЬ *зак.* Падціснуць, пасунуць. *Подціслі к поўдню нашы хутора.* В. Малешава.

ПОДЦЯГО́ЛЬЕ *н.* Падкаленная ямка. *Як даў о сюды ў подцяголье, то вон і сеў.* Сямігосцічы. *Зомлéла нога, то помажэ слінoю по подцяголью да пройдзе.* Цераблічы.

ПОДЧА́ПІЦЬ *зак.* Паддаць, падчапіць. *Подчáп мне мешóк!* Аздамічы.

ПОДЧА́С *прысл.* 1. Часам, час ад часу. *Подчас і мне було стрáшко.* Азяраны. 2. У час. *Прышоў подчас, як обедаць сталі.* Аздамічы.

ПОДЧА́ХНУЦЬ *зак.* Падсохнуць. *Подчáхне земля, тогды картоплі накопаеш.* Хачэнь. *Чуць подчахне полотно дай зноў мочáём у вóду, шоб мóкрэ було.* Запясочча.

ПОДЧЫНЯ́ЦЦА *незак.* Падпарадкоўвацца, слухацца. *Не дай потáчкі, то вон подчыняцімецца.* Дварэц. *І пану подчыняўса, і лю́дзям не засóльваў.* Цераблічы.

ПОДЧЫНЯ́ЦЬ *незак.* Рамантаваць. *Бóндар, шо бóчкі потчыняў.* Сямігосцічы.

ПОДЧЫСТУ́, ПОДЧЫСТУ́Ю *прысл.* Дарэшты, зусім. *Подчысту́ зобралі ўсе.* Аздамічы. *Подчысту́ю хлеб разобралі.* Там жа.

ПОДЧЭРЭ́ВОК *м.* Падчарэўе. Цераблічы.

ПОДЧЭРЭ́ЎЕ *н.* Тое ж. *Бувало, подчэрэўе облуп'яць, а спіну смаляць.* Запясочча. *Сало з подчэрэўя, перэсцёлу много.* Цераблічы. *Сало з боку, а з подчэрэўя малэ сало.* Там жа. *Пух з крыл, а то м'яккі пух з подчэрэў у вутвý і гýсі.* Верасніца.

ПОДЧЭРЭ́ЎНІК *м.* Падбрушнік (частка вупражы). Аздамічы.

ПОДШАНЦОВА́ЦЬ *зак.* Пашанцаваць. *Подшанцовало ему, ужэ спіць.* Дварэц.

ПОДШКОДОВА́ЦЬ *зак.* Пашкадаваць. *Хоч однэ подшкодовало мінé.* Бярэжцы.

ПОДШЧЭПІ́ЦЬ *зак.* Падставіць падножку. *Вона мене подшчэпіла да я ўпала.* Аздамічы.

ПО́ДШЫБНЯ *ж.* Нітка паверх палатна (пры тканні). *Ек нітка поверхý йдзе, то кáжуць — подшыбня йдзе.* В. Малешава.

ПОДШЫВА́ЦЬ *незак.* Падбіваць, падкладваць. *Подшывалі дно з ольхі у колодзезі, бо од дуба вода будзе чорна, як дзёгоць.* Лутmember.

ПОДШЫ́ТЫ *дзеепрым.* Пацягнуты, крыты. *Подшыты кожух.* Луткі.

ПО'ДШЫ'ЎКА *ж.* Падкладка, тонкі пласт саломы або чароту, які кладзецца на латы. *По́дшыўка.* Цераблічы. Падшалёўка столі. *Подшы́ўка под сто́лю робіцца ў хаце.* Сямігосцічы. Падкладка ў верхнім адзенні. *По́дшыўка.* Луткі.

ПОДШЫ'ЦЦА *зак.* Падлезці. *Кот под ве́ко подшыўса, а назад не ву́лезе.* Верасніца. *Я подшыўся под солому, то цепло́.* Там жа.

ПОДШЫ'ЦЬ *зак.* Падбіць. *Подшылі шчыта́ до́шкамі.* Хотамель.

ПОДЫ'БАЦЬ *зак.* Паплесціся, павалачыся. *Я сама подыбала за ім.* М. Малешава.

ПОДЫДНО'М *прысл.* Знізу, спадыспаду. *Падыдном шчэ одна е.* Старажоўцы. *Вон подыдном белы такі, ліст.* Хачэнь.

ПОДЫМА'ЦЦА *незак.* Падымацца, паднімацца. *Століна подымаецца.* Запясочча.

ПОДЫМА'ЦЬ *незак.* Падымаць, паднімаць. *Трэба подыма́ць коло́ду.* Бярэжцы. *Лён ек подымалі, то ўязалі ў пукі.* М. Малешава. *Поехалі подыма́ц перэмёта.* Запясочча. △ Земля не подымае. Пра мноства, безліч. *Людзей ужэ земля не по́дымае.* Там жа. Подымаць на ўра. Падкідаць угору, качаць. *Старшыну́ подымалі на ўра жонкі.* Кароцічы.

ПОДЫ'МВАЦЬ *незак.* Абкурвацца, прадымлівацца. *Цыбулю вешалі, шоб поды́мваласа.* М. Малешава.

ПО'ДЫМКОМ *прысл.* Рана, досвіткам. *Подымком погнаў корову.* Аздамічы. *Подымком поднялі да не далі оддохну́ць.* Там жа.

ПОДЫСПА'Н *м.* Від танца. Сямурадцы.

ПОДЫ'СПОДОМ *прысл.* Знізу. Цераблічы.

ПОДЫСЦІ' *зак.* 1. Падысці, наблізіцца. *Вона злезла з того воза, а подышоў к ёй хло́пэц.* Мачуль. *Вода подышла под хату.* Пагост. Падняцца над гарызонтам. *Восоза́р ужэ подышоў, ужэ дзень скоро — так казалі стары́е.* Луткі. 2. Падысці, падняцца. *Подышоў хлеб, подняўса ўверх.* Луткі. *Ек подышло цесто, то роскача́ём, рэ́жом да печом па́ску.* Запясочча.

ПОДЫХА'ЦЬ *незак.* Павяваць. *О, вецеро́к подыха́е, до́бро тут.* Пагост. *Со́нейко печэ́ і ве́трык подыха́е.* Хачэнь.

ПОД'Я'РЫ'ЦЬ *зак.* Узбіць, успушыць. *Посце́лю под'яру́.* В. Малешава. *Трэ под'я́рыць подушкі.* Там жа.

ПОЕ'ДЗЕНЫ *дзеепрым.* Паедзены, пашкоджаны. *Ее ж картоплі не поедзены.* М. Малешава.

ПО'ЕДЗІ *мн.* Недаедкі. *Кош сена не доелі; ідзі по́едзі заберы.* Запясочча.

ПО'ЕЗД *м.* Вясельны картэж, поезд. *Молоды́ прыходзіць с поездом к молодо́й.* М. Малешава. *Чотыры свахі саджаюць у поезд, і шэсць маршалкоў, і два сва́ты.* Цераблічы. *Да ўжэ́ зобіра́юцца ў поезд, да е́дуць.* Бярэжцы. *Як ідзе поезд по ту дзейку, то замукну́ць дорогу, не пускаюць.* Верасніца. *Як ужэ повезуць молоду́ з села, а поза́ду бацько і маці, якіе ро́дзічы, то кажуць, шчо ўжэ поезд поехаў.* Хачэнь.

ПО'ЕС *м.* 1. Паясніца. *Ой росці, коса, ніжэй пояса* (з песні). Сямігосцічы. 2. Пояс. *Ко́лісь булі поесы́, вісяц красные да шырокіе, як на́метка.* Запясочча. *Поесы́ плелі бабу́ ко́лісь.* Лyear Луткі. *Шырокі браны поес з сукна́.* Мачуль. *Буў пояс з воўны сплёцены на два коло́чкі, чырвоны.* Цераблічы. 3. Вянок у калодзежным зрубе. *Одного́ пояса поўносцю опускаюць у яму і з дуба обкладаюць.* Луткі. Вянок з бярвенняў у аснове будана. Запясочча. 4. Папярочка, якая звязвае кроквы. Хотамель. Папярочка паміж слупамі. *Так то жо́рткі, а як у яком помешчэніі — то поясы́.* Аздамічы.

ПОЕСНІ'ЦА *ж.* Пояс у штанах. *Крэпкая поясніца, ніколі не порвецца.* Альпень.

ПОЕСО'К *м.* Выступ, карніз. *Зробі мне на коміне пояскі, шоб се́рнікі ложы́ц.* Запясочча.

ПОЕ'СЦІ *зак.* Паесці, з'есці. *Ходзём поёжмо картоплі.* Цераблічы. *Усе поеду́ць му́шы, онно́ гузырэ́ остану́цца.* В. Малешава. Пакусаць. *Одзін одному́ ру́кі поеў.* Сямігосцічы. Патачыць. *Шашэль поеў одры́ну.* Буразі.

ПОЕ'СЦІСА *зак. экспр.* Пасварыцца. *Як ні з кім не поёсца, то пры́дзе да стане заворочаць.* Бярэжцы.

ПОЕСЯ'НКА *ж.* Камбінаваная жаночая кашуля, ніз якой шыўся з горшага палатна. *Поесянка шыласа — подо́лок з полотна, а верх з пэ́ркалю і водзілі его́ хо́рошэ.* Луткі. *Поеся́нка — сорочка, зверху пэркалёва, а знізу полотня́на.* Цераблічы.

ПОЕ'ХАЦЬ *зак.* Паехаць. *Поёхалі спла́ўшчыкі. Перэхо́д поёхаў.* Д.-Гарадок. *Поёхалі спісвацца, то ўжэ молодожэ́ні.* Запясочча. *Поёхалі по пшэніцу ў Жы́дковічы.* Луткі.

ПОЁРЫЦЬ *зак.* Падацца, бадзёра пайсці. *Вона́ ўжэ поёрыла ў Ту́роў.* Запясочча.

ПО-ЖА′Б′ЕЧЫ *прысл.* Жабкай, падобна да жабы. *По-жа́б′ечы скачэ.* Сямігосцічы. *По-жаб′ечы, плаваць умее.* Аздамічы.

ПОЖА′ЛІЦЦА *зак.* Пажаліцца, паскардзіцца. *Кому пожаліцца про своє горэ?* М. Малешава.

ПОЖА′Р *м.* 1. Пажар. *Як за́єц по селе́ пробежыць, то пожар будзе* (павер'е). Старажоўцы. *Колісь пожар буў, я як була дзеўкою, горэло село.* Пагост. 2 *перан.* Злосны, агрэсіўны чалавек. *Попа́ласа б ты пожа́ру, вон бу цебе́ з'еў, а не даў бу полежа́ць.* Верасніца.

ПОЖА′РНІК *м.* Выгар, выжарына. Альпень.

ПОЖАРО′ВІК *м.* Грыб, які расце на выгарах. *Пожаровікі рослі, як пожар дзе пройдзе.* Сямурадцы. *Нема дубоў, нема й пожаро́вікоў.* Там жа.

ПОЖАРО′ЎКА *ж.* Трава на выгаралых участках. Хачэнь.

ПОЖАРТОВА′ЦЬ *зак.* Пажартаваць. *Я так пожартова́ў, а вон так поглумі́ўса з мене.* Сямігосцічы.

ПОЖАРЫ′ШЧЭ *н.* Пажарышча. Луткі.

ПОЖА′ЦЬ *зак.* Пажаць, зжаць. *Чому етые людзі жыто своє не пожалі?* Запясочча. Парэзаць. *Пожала серпо́м пальца.* Аздамічы.

ПОЖБУРЫ′ЦЬ *зак.* Запусціць, кінуць. *Пожбу́рыць екім бураком у плечы, шо не ўстоіш, як жбурне́.* Старажоўцы. *Пожбу́рыла молотка́ за ім.* Дварэц.

ПОЖВА′КАЦЬ *зак.* Пажаваць. *Пожвакай чуць сахару.* Старажоўцы.

ПОЖВІ′КВАЦЬ *незак.* Уздрыгваць. *Шо плечамі пожвікваеш, пробраў трохі мороз?* Пагост.

ПОЖДА′ЦЬ *зак.* Пачакаць. *Пождзі ж, побачым, ці то праўда.* Запясочча. *Вот, ка, пождж*ы трохі, спеку, то з'есі.* Сямігосцічы.

ПО′ЖМА *ж.* Піжма. *Пожма од глістоў хорошо́.* Пагост.

ПО′ЖНЯ *ж.* 1. Іржышча, зжатае або скошанае поле. *Гусі ўкрылі ўсе, по́ўно на пожні, на пожатом полі.* Мачуль. *Шчо, не можэш прыгну́цца, шо по́жня ў цебе́ поўметра?* Старажоўцы. *Узора́ў пожню.* М. Малешава. *Ячна пожня.* Верасніца. Скошаны луг. *На пожні поко́шэнэ сено лежыць.* Луткі. 2. Іржэўнік; салома, скошаная на іржышчы. *Прыўёз пожні на подсцёл, то до́брэ будзе пос лаць.* Луткі. *С травою пожня, так коровы елі ту пожню.* Альпень.

ПОЖОВА'ЦЬ *зак.* Пажаваць. *Зайчыкова цыбуля, на сенокосі ее пожуй трохі, то й чутно́.* Старажоўцы.

ПОЖО'РА *ж.* Вада паверх лёду, верхаводка. *Пожора пошла по лёду́.* Луткі.

ПОЖО'ЎКНУЦЬ *зак.* Пажаўцець, стаць жаўтаватым. *Некото́рые ў печ становілі сыр, шоб вон пожо́ўк.* В. Малешава.

ПОЖОЎНА'КАЦЬ *зак.* Пагаманіць, пабалакаць. *Да трохі воны́ пожоўна́калі на цвінтары.* Дварэц.

ПОЖОЎЦЕ'ЦЬ *зак.* Пажаўцець. *Пожоўцело сало, хто його е́сціме?* В. Малешава.

ПОЖЫМА'ЦЦА *зак.* Сціскацца. *Такі, ек ікра, пожыма́еца под зубамі.* Буразі.

ПО'ЖЫНА *ж.*, часцей *мн.* п о́ ж ы н ы. Адна плашка ў насціле пода. *Пожыны кладуць на мацерне́.* Альшаны. *По́жіны.* Хотамель.

ПОЖЫРОВА'ЦЬ *зак.* Пажыраваць. *Качкі поедзяць, а потом попла́ваюць, пожыруюць.* Сямігосцічы.

ПОЖЫЎЛЕ'НЬЕ *н.* Пажыва, спажыва. *Сюды ко́ршак леціць на пожыўле́нье.* В. Малешава. *Ло́сі — іх пожыўленье у бору́ та́мека.* Хачэнь.

ПОЖЭНІ'ЦЦА *зак.* Пажаніцца, пабрацца. *Там служылі обое, там і пожэніліса.* Кароцічы. *Браты́ мое пожэнілісь, ужэ трэ дзеліцца.* Пагост. *Як ужэ вон прыехаў, то му пожэніліса з ім.* Бярэжцы. Выйсці замуж. *Сёстры там пожэніліса і дзеці е.* Сямігосцічы.

ПОЖЭ'ЎРЫЦЬ *зак.* Пажухнуць, страціць першапачатковы колер. *Положыла кніжэчку ў копку, а вона пожэўрыла, пожоўкла.* Цераблічы.

ПОЗАБА'ВІЦЦА *зак.* Пастаяць, затрымацца. *Коб быў час, то я б з тобою позабавілас.* Аздамічы.

ПОЗАБАГА'ЧВАЦЬ *зак.* Пабагацець паўсюдна. *Людзі позабагачвалі і не хочуць клопоту.* Хачэнь.

ПОЗАБІВА'ЦЬ *зак.* 1. Пазабіваць. Тураў. 2. Паадбіваць шнурам пры распілоўцы ці часанні. *Трэбо позабіваць колоды, доскі.* Аздамічы.

ПОЗАБО'ЛЬВАЦЬ *зак.* Пазахворваць. *Позабо́львалі лёхкімі.* Запясочча.

ПОЗАВОЛОКА'ЦЬ *зак.* 1. Пазавалачы, завалачы. *Позаволока́лі бе́звесці ўсе мое.* Сямігосцічы. 2. Зацягнуць паўсюдна, кругом. *Не́бо позаволока́ло хмарамі.* Сямігосцічы.

ПОЗАВО'РВАЦЬ *зак.* Пазаворваць, заараць дарэшты. *Усе позаворвалі, дзе яка́ долінка була.* Сямурадцы.

ПОЗАВЯ'ЗАЦЦА, ПОЗАЎЯ'ЗАЦЦА *зак.* Пазавязвацца, завязацца (пра плады, клубні і інш.). *Пропала цубуля зусім, і голо́ўкі не позаўязваліса.* Кароцічы.

ПОЗАВЯ'ЗВАЦЦА, ПОЗАЎЯ'ЗВАЦЦА *зак.* Тое ж. *Толькі што позаўязваюцца я́блука, воны ўжэ обрываюць.* Лутківі.

ПОЗАВЯ'ЗВАЦЬ *зак.* Пазавязваць, завязаць. *Так і не позавязвала голоўкі цыбуля.* Хачэнь.

ПОЗАГО'ЙВАЦЦА *зак.* Пазабрудзіцца, абрасці брудам. *Ве́дра позагойваліса, гразе́ понаро́стало.* В. Малешава.

ПОЗАГО'НЬВАЦЬ *зак.* Загнаць канчаткова, дарэшты. *У нас у одного чоловека коні зато́б подохлі, так позагоньвало — не могуць выйці з хлева́, потоміліса.* Лутки.

ПОЗАГО'СТРЫВАЦЬ *зак.* Загастрыць. *Беру́ць па́лкі позаго́стрываюць да копаюць уюноў.* Лутки.

ПОЗАДЗІРА'ЦЦА *зак.* Пазадзірацца, задрацца паўсюдна. *Шкура позадзіраецца, шчо не можно нішчо́ робіць.* Альшаны.

ПОЗА'ДЗЬЕ *н.* Пазадкі, адыходы пры веянні. *Поза́дзье ку́рам даём.* В. Малешава.

ПОЗА'ДКОВУ *прым.* Які падае ў пазадкі пры веянні ўручную. *То головіца, а то поза́дковэ жыто.* Альпень.

ПОЗА'ДОК *м.*, рэдка *позадкі мн.* 1. Пазадкі, адыходы пры веянні. *Позадок отгрэбі.* Сямурадцы. *Позадкі ложыліса коло мекіны.* Хачэнь. 2. Апошняе дзіця ў сям'і. Запясочча.

ПОЗА'ДУ' *прысл.* Ззаду, пазней. *Вон бежыць поза́ду зо мною.* Лутки. *Позаду́ ўсіх родзілоса дзіця́тко.* Аздамічы.

ПОЗАЖЫВА'ЦЦА *зак.* Паразжывацца, назапасіцца. *Позажываліса воны́ грошыма, да ўзяць за імі не можно нічого ў лаўцы.* Хачэнь.

ПОЗАЗА'ЎТРА *прысл.* Праз два дні. Аздамічы.

ПОЗАКА'ЧВАЦЬ *зак.* Пазакасваць. *Рукава́ позакачвалі да пілі, е́лі.* В. Малешава.

ПОЗАКО'ЛВАЦЬ *зак.* Пакалоць, пазабіваць стрэмкамі. *Обуйса, а то ногі позаколваеш.* Цераблічы.

ПОЗАКО'ПАЦЬ *зак.* Пазакопваць. *А воны яшчыкі позакопалі золота того́.* Бярэжцы.

ПОЗАЛЕ'ПАЦЬ, ПОЗАЛЕ'ПВАЦЬ *зак.* Пазамазваць, пазаклейваць. *Позолепалі ў пачка́х тых жукоў і повезлі.* Запясочча. *Трохі гліною позале́пваў дзіркі ў сце́нах.* Верасніца.

ПОЗА′ЛЕ′ТОСЬ *прысл.* 1. Пазалетась, у пазамінулым годзе. *Летось ці позáлетось нашла пецёрку.* В. Малешава. *Летось була мéньша вода, позалéтось — бóльша, а позáлетось — сáма мéрна.* Тураў. *Позалéтось, ужэ трэці год як було.* Сямігосцічы. 2. Тры гады назад. *Позáлетось сено нагле вельмі вýросло.* Дварэц. *Позалéтось.* Аздамічы.

ПОЗАЛЕ′ТОШНІ *прым.* Пазалеташні. *А шо позалетошні год булі велізные гарбузы́.* Верасніца. *Позалетошні год гуркоў було багато.* Лутκі.

ПОЗАЛО′МВАЦЬ *зак.* Пазаломваць. *Позаломвала, позакручвала слівы суседка.* Хачэнь.

ПОЗАМА′ТВАЦЦА *зак.* Пазакручвацца. *Я позаматваласа, позамурзваласа, шоб немцы не лезлі.* Запясочча.

ПОЗАНО′СІ′ЦЬ *зак.* Пазаносіць. *Усе позаношу да потоплю ў канаві.* Хотамель. *Бура повернýла хату і корукі позанóсіло за п'яць вёрст.* В. Малешава.

ПОЗАПАКО′ЎВАЦЬ *зак.* Пазапакоўваць. *Прыдзе, позапокоўвае рібу і отправіць.* В. Малешава.

ПОЗАПЕ′КАЦЦА *зак.* Пазапякацца, запячыся кругом. *Да позапекаюцца, жоўценькіе пороб'яцца, позадзіраюць хвосцікі ўюны.* Бярэжцы.

ПОЗАПЕ′КАЦЬ *зак.* Пазапякаць, запячы кругом. *Уюны позапекаць, то смашно есці.* Дварэц.

ПОЗАПІНА′ЦЬ *зак.* Пазавешваць. *А воны позапіналі вóкна да корóву ўкралі.* Запясочча.

ПОЗАПІЧКОВА′ЦЬ *зак.* Пазабіваць, панабіваць. *А ў Толмáчове позапічкóўвалі сеном хорóмы людзі.* Луткі.

ПОЗАПЛЮ′СКАЦЦА *зак.* Пазаплюшчвацца. *Воны позаплю́скаліса, шоб не бачыць.* Бярэжцы.

ПОЗАПРО′ШЛЫ *прым.* Пазамінулы. *Позапрошлу ноч з'елі лошóнка воўкі.* Верасніца. *Пазапрошлы год яблук було багато, і сліву булí, і вішнé булі.* Дварэц.

ПОЗАПУСТО′ЎВАЦЬ *зак.* Зрабіцца пустым, пакінутым. *Буслы́ звеліса, то кýбла позапустоўвалі.* Цераблічы.

ПОЗАРА′ЖВАЦЬ *зак.* Заразіць усіх, многіх. Аздамічы.

ПОЗАРО′СТАЦЬ *зак.* Пазарастаць. *Усе позаростало зельем.* Бярэжцы.

ПОЗАРЫВА′ЦЬ *зак.* Пазрываць. *Хата процéкае, вéцер позарываў солому на хаце.* М. Малешава.

ПОЗАСЕ′КАЦЬ *зак.* Пазасякаць. *Позасéкаў, посёк качóк і еж м'ясо ўвосень.* М. Малешава.

ПОЗАСЛЕ′ПАЦЬ *зак.* Засляпіць, засланіць зрок. *А ему позаслепало, ці ліхо ведае шчо.* М. Малешава.

ПОЗАСУ′ҚВАЦЦА *зак.* 1. Паскручвацца. *Лісцье позасукваецца.* В. Малешава. 2 *экспр.* Парабіцца. *Усе воны позасукваліса начальнікамі і не хочуць робіць.* Мачуль.

ПОЗАСЫНА′ЦЬ *зак.* Пазасынаць, паснуць. *Мо позасыналі ту́та нішчэчком?* Сямурадцы.

ПОЗАТА′ПВАЦЬ *зак.* Пазатапляць. *Вода позата́пвала ўсе сёла по Прып'яці і там, дзе Го́рынь поцёк.* Сямігосцічы.

ПОЗАТО′Й *займ.* Пазамінулы. *У позато́м го́дў свінья́ здурэла. І шо таке́?* М. Малешава.

ПОЗАТО′ПВАЦЬ *зак.* Патаптаць, павытоптваць. *Там, на посе́лі шча́вер позато́пвалі.* Сямурадцы.

ПОЗАТЫҚА′ЦЬ *зак.* Пазатыкаць, паабтыкаць. *Пошлі по ягоды, то вона кружкі себе́ позатыка́ла зелье.* Дварэц.

ПОЗАЎСЕГДА′ *прысл.* Назаўсёды. *Позаўсегда застае́цца во́ўком вон.* Цераблічы.

ПОЗА′ЎТРА, ПОЗА′ЎТРЭ, ПОЗА′ЎТРЭЙ *прысл.* Паслязаўтра. *Не цепе́р, то заўтра, позаўтра скошу.* Хачэнь. *Заўтра прыдзе п'яць, а позаўтра дзесяць.* Стаража́жоўцы. *А позаўтрэ ўсе заберо́м.* Сямурадцы. *Позаўтрэй прыду.* Бярэжцы.

ПОЗАЎЧО′РА *прысл.* Позаўчора. *Учора і позаўчора прыносілі.* Хачэнь. *Позаўчора було веселье ў Қороціча́х.* Луткі. *Як позаўчора пошоў у сем часоў ра́нку, то ўчора прышоў у одзіна́ццатом часу́ ве́чора.* Там жа.

ПОЗАЎЧОРА′СЯ *прысл.* Тое ж. *Позаўчорася жукі травіла на картоплях.* В. Малешава.

ПОЗАХІ′ШЧВАЦЬ *зак.* Пазакрываць ад ветру, уцяпліць. *Позахішчваць трэба товар на бору́.* Қароцічы. *Позахішчалі хлева́ кло́ччом, мо́хом.* Бярэжцы.

ПОЗАХЛО′ПВАЦЦА *зак.* Задыхнуцца ад недахопу паветра. *Мое ж куры позахлопваюцца за ноч у сені!* Хачэнь.

ПОЗАХОЛО′ДЖВАЦЬ *зак.* Прастудзіць. *Позахоло́джваюць людзі гру́дзі.* Хачэнь.

ПОЗАХО′ЎВАЦЦА *зак.* Пахавацца. *Ек на пого́ду, жа́бі позахоўваюцца і седзяць.* В. Малешава.

ПОЗАХО′ЧВАЦЬ *зак.* Захацець вельмі (пра ўсіх, многіх). *Позахочвалі воды да на полі, ох, людзенькі, хоч ты додому бежы.* Луткі.

ПОЗАШЧЭ'ПАНЫ *дзеепрым.* Звязаны, завязаны. *Однэ̆ за однэ̆ позашчэ̆паные, воны̆ ўсе ў селе свое.* Хачэнь.

ПОЗАШЧЭ'ПВАЦЬ *зак.* Пазамыкаць. *Позачыняў да позашчэпваў усіх.* Дварэц.

ПОЗБЕГА'ЦЬ *зак.* Раптоўна ўсхапіцца. *Як даў навотвіль по губах, то й гу́бі позбегалі.* В. Малешава. *Аж на шыі позбегалі бе́мбелі од сонца.* Запясочча.

ПОЗБІРА'ЦЦА *зак.* Пазбірацца, сабрацца ў вялікай колькасці. *Позбіраемса на колоду, седзімо́, тэй тэ̆е брэшэ, тэй тэе.* Кароцічы.

ПОЗБІРА'ЦЬ *зак.* Пазбіраць, сабраць. *Яблыка позбіраем.* Хотамель. *Зробляць дожы́нкі, да ўжэ усіх это позбіраюць людзей до себе́.* Хачэнь.

ПОЗБУ'БНІВАЦЬ *зак.* Параздувацца. *Позбубніваe рыба да плуве по верху́ за водо́ю.* Хачэнь.

ПОЗВА'ЦЬ *зак.* Паклікаць. *Чорт чорта познаў да ў ягоды позваў* (прыказка). Сямурадцы.

ПОЗВО'ДЗІЦЦА *зак.* Адысці ў нябыт, аджыць. Запясочча.

ПОЗВО'ДЗІЦЬ *зак.* Ліквідаваць паўсюдна. *Шо ёго, того́ са́ду, позводзілі.* Хачэнь. *Позводзілі крышы соломенные.* Верасніца.

ПОЗВО'ННЭ *н.* Плата за звон па нябожчыку. *Украла, то дай бог, шоб поспе́ло на позвоннэ тобе, коб ты не спожыла ёго́* (праклён). М. Малешава.

ПОЗВУКА'ЦЬ *зак.* Папрывыкаць. *Позвукалі ў хоростве́ жыць.* Сямігосцічы.

ПОЗВУЧА'ЦЬ *зак.* Папрывучаць. *Я так іх позвучала есці.* Луткі.

ПОЗГНЮ'ШВАЦЬ *зак.* Пагнюсіць, папсаваць. *Усе чысто позгнюшвалі.* В. Малешава.

ПОЗГО'РТАЦЬ *зак.* Пазгортваць. *Я свое полотно посушыла да ў одну сталку позго́ртала.* М. Малешава.

ПОЗДОРОВЕ'ЦЬ *зак.* Паздаравець, папраўіцца пасля хваробы. *Да дасі воды да нап'ецца да кажэ, і поздорове́ў* (з казкі). В. Малешава. *Ко́лісь казалі, коб поздорове́ла, то занесу́ ху́сточку ў цэ́ркоў на прэстол засцелю́.* Там жа.

ПОЗДОРО'ВІЦЬ *зак.* △ Поздоро́ў божэ. Пажаданне здароўя за добрую справу. *Поздоро́ў бо́жэ цебе́ за пе́сню.* Запясочча. *Поздороў божэ того, шчо гетэе придумаў* (пра пенсію для калгаснікаў). Велямічы.

ПОЗДОРО'ЎКАЦЦА *зак.* Павітацца. *Той, шо седзеў*

*по той бок машыны, то поздоро́ўкаўса.* Хачэнь. *А тоды́ прышлі нашые хлопцы, поздоро́ўкаліса зо мною.* Дварэц.

ПОЗДРОКОВА'ЦЬ *зак. экспр.* Пабегчы, паімчацца. *То куды ж вона поздроковала, тая стара́?* Хачэнь.

ПОЗДРОЧЫ'ЦЦА *зак.* Пачаць гізаваць. *Поздрочыліса корову́ да побеглі ў ло́зу.* М. Малешава. *Поздрочыліс от оводо́ў корові.* В. Малешава.

ПОЗДУВА'ЦЦА *зак.* Успушыцца. *Поздуваюцца, покіснуць гуркі і пропалі.* Чэрнічы.

ПОЗДУМЛЯ'ЦЬ *зак.* Паўспамінаць, успомніць. *Коб усе пе́сні поздумляць, то кнігі не хваціло.* Хачэнь. *Коб іх поздумляў усе, тые слова́.* Запясочча.

ПОЗДУМО'ЎВАЦЬ *зак.* Тое ж. *Не поздумо́ўваю ўсе вы́пасы, сеножа́ті.* Рубель.

ПОЗДУ'ЎВАЦЬ *зак.* Успушыць, разнесці. *Наеліса корові конюшыны, то міго́м поздо́ўвало тры, мо чоты́ры.* В. Малешава.

ПОЗДЫМА'ЦЬ *зак.* Пазнімаць. *Трэ іці поздымаць про́сцілкі, бо дождж.* Лутці.

ПОЗДЫХА'ЦЬ *зак.* Паздыхаць. *Зану́дзіліса да поздыхалі тые карпу́.* Лутці.

ПОЗ'ЕЗДЖА'ЦЬ *зак.* Пазлазіць. *Поз'езджа́е э́тэ сало з вас, ек поро́біце.* Лутці.

ПОЗЕЛЕ'НЬВАЦЬ *зак.* Азеляняць. *Гэто ж недаўно позеленьвалі вуліцу.* Хачэнь.

ПОЗЕХА'ЦЦА *незак.* Пазяхацца. *Позехаецца, бытто спаць хочэцца.* Мачуль.

ПОЗЕХА'ЦЬ, ПОЗЯХА'ЦЬ *незак.* 1. Пазяхаць. *Позехаеш да не ведаеш, дзе дзецца.* М. Малешава. *Позяхае Ленка, спа́ткі хочэ.* В. Малешава. *Позехае, пасць розя́віў.* Аздамічы. *Позяхае спаць.* Там жа. 2. Паціху падуваць, павяваць. *Отту́ля і позехае ве́цёр.* Запясочча. *Бувае таке́ — ні ветру велікого нема, нішчо́, так собе́ позяхае.* Там жа.

ПОЗЕХА'НЬЕ *н.* Пазяханне. Альпень.

ПОЗЕХУ'ХА *ж.* Тое ж. Запясочча. △ П о з е х у́ х і н а п а́ л і. Пазяхаецца. Там жа.

ПОЗІРА'ЦЬ *зак.* Пазіраць, углядацца. *Позірае на ба́бу, бу на стату́ю.* Запясочча. *Злом на мене́ позірае.* Старажоўцы. *Я тые дзверы одчыніў троху, позіраю.* Кароцічы. *А, твой носо́к позірае ў песок* (прымаўка, пра старасць). Сямурадцы.

ПОЗМОГА'ЦЦА *зак.* Пасварыцца. *Позмогаліса з чоловеком дай моўчымо́.* Цераблічы.

ПОЗНАВА'ЦЬ *незак.* Пазнаваць, адрозніваць. *Познаюць нашу дочку і ў андарачку* (прымаўка). Сямурадцы.

ПОЗНАКОВА'ЦЬ *зак.* Пазначыць. *Я була там, але коб я, дурная, познаковала, ато не найду загона.* Бярэжцы.

ПОЗНА'ЦЦА *зак.* Пазнаёміцца. *Му позналіса з ёю на базары.* Хачэнь.

ПОЗНА'ЦЬ *зак.* Пазнаць, запомніць. *Як побачыў чоловека і незначны, то не познаеш, а як значны, то познаеш.* Кароцічы. Распазнаць, ідэнтыфіцыраваць сярод іншых. *Хто ў бацька ўдаўса, того познаю.* Хачэнь. *Мою дочку познають і ў андарачку* (прымаўка). Старажоўцы. Адрозніць, выявіць. *Не познала баба своіх целят* (прымаўка, пра не да месца сказанае). Сямурадцы. *Лата на лаці і шва не познаці* (прымаўка). Старажоўцы. *Чорнэ, чорнэ, замазанэ, шо не познаць, шо гэто дзіця.* Луткі.

ПОЗНАЧЫ'ЦЬ *зак.* Пазначыць, зрабіць метку. *Я позначыў тэ знорок.* Сямігосцічы.

ПОЗНЕ'ЦЬ *незак.* Вечарэць, цямнець. *Познец.* Запясочча.

ПО'ЗНІ *прым.* Позні. *Яблука е, да тые позніе.* Хачэнь.

ПОЗНІМА'ЦЬ *зак.* Зняць, пазнімаць. *Да познімаў у ёго фрэнча, шапку, усе.* Мачуль.

ПО'ЗНО *прысл.* Позна, у позні час. *Прышлі этые дзеўкі позно, так позно, я ўжэ спала.* Луткі. *З Турова едзе аўтобус ужэ позно.* Чэрнічы. Са спазненнем. *Позно прышоў на пором.* Аздамічы.

ПОЗНЯ'К *м.* Жывёліна з позняга прыплоду. Аздамічы.

ПОЗО'Л *м.* Астатак лугу, густы попел пасля зліванняшчолаку. *Позол, шчо выкінуць з жлукта попел.* Цераблічы.

ПОЗОЛІ'ЦЦА *зак.* Выбеліцца ў лузе. *У жлукто ўсыплюць ведзер дзве попелу, шоб позолілосо полотно, да п'етнаццаць чугуноў кіпеткў ўзольюць.* Запясочча.

ПОЗОЛІ'ЦЬ *зак.* Адбяліць у шчолаку, лузе. *Шмацьё у жлукто да позолімо, да белюсеньке стане.* Луткі. *Плацья ворох поўжімала, а заўтра позолю дай покухмару, шчоб було колке.* Кароцічы. *Позолілі плацье і пошлі праць.* М. Малешава.

ПОЗО'ЛКІ *мн.* Астаткі пасля лугу, густы попел пасля

зліванне шчолаку. *То позолкі, а то шо зліваецца, то луг зовом*. Старажоўцы.

ПОЗО'ЛЬЕ, ПОЗОЛІ'НЬЕ *н.* Тое ж. Запясочча.

ПОЗО'Р *м.* Ганьба. *Ты моўму сыну зробіла позор, шо вон не ўвобраўса*. Мачуль. *Як назовуць помўўніца, то позор такі*. Цераблічы.

ПОЗО'РНО *прысл.* Ганебна, сорамна. *Позорно так піць*. Луткі. *Мне ж позорно з ім ехаць*. Мачуль.

ПОЗО'РЫШЧЭ *н.* Ганьба, дыскрэдытацыя. *Таке́ мне позорышчэ зробіў, шо не знаю!* М. Малешава.

ПОЗРУ'БВАЦЬ *зак.* Павысякаць. *А та жонка ўзела да позрубвала усёй сад*. Бярэжцы.

ПОЗРЫВА'ЦЬ *зак.* Пазрываць, пазносіць. *Позрывало крышi ў ту буру*. Пагост.

ПОЗРЭ'ЗВАЦЬ *зак.* 1. Пазрэзваць, паабрэзваць. *Я за хустку, за ножа́, зайшла і позрэзвала опенькі, а корэньчыкі покінула*. В. Малешава. 2 *перан.* Моцна нацерці, параніць. *Ногі позрэзваюць людзі да кульга́юць*. Сямігосцічы.

ПОЗЫ'КА *ж.* Пазыка, доўг. *Трэба пожа́ць, покосіць за ету позыку*. Запясочча. △ І ц і (б е г ц і) у п о з ы́ к у (п о з ы к і). Пазычаць. *У этой нема, то пошлі к другой у позыку*. Верасніца. *Не ідзе ў позыку, да ідзе красці дроў*. М. Малешава. *Тут получылі грошы, тут ужэ ў позыкі бегаюць*. Луткі.

ПОЗЫ'НУЦЬ *зак.* Падсохнуць, падвяліцца. *Дней два на чэрэ́ні позынуць, полежаць на печы́ з кра́ю, то будуць добрые*. В. Малешава.

ПОЗЫ'РЫЦЬ *зак. груб.* Паглядзець. *Целевізор ідзе позырыць*. Луткі.

ПОЗЫЧА'ЦЬ *незак.* Пазычаць, даваць ці браць у доўг. *Некому вон нешчо позычаў? Не*. Хачэнь. *Пчола нічого не позычае*. Мачуль.

ПОЗЫ'ЧКА *ж.* Доўг. *Вон у позычку залеза́е*. Луткі.

ПОЗЫ'ЧЫЦЬ *зак.* 1. Пазычыць, даць ці ўзяць у доўг. *Надоела нам вода, позычылі б кому воды* (жарт, скарга на доўгія паводкі). Аздамічы. *Учоро клела́, а цепер просо прішла позычыць*. Пагост. *Позычыла б ума́, дый собе нема́* (прымаўка). Старажоўцы. 2 *перан.* Украсці, ухапіць. *То кот курэня́тка позычыць, то шчо*. Дварэц. △ У с о б а́ к і в о ч э́ й п о з ы́ ч ы ў ш ы. Пра бессаромнасць. *Прышоў, бы ў собакі вочэй позычыўшы*. Мачуль.

ПОЗЯПА'ЦЬ *зак.* Падыхаць, ухапіць ротам паветра.

*Ек нема продухі рыбе позяпаць, вона подыхае.* Цераблічы.

ПО'ІСК, ПО'ЙСК *м.* Пчаліная разведка. *Воны поіска посылаюць — нравіцца вулей, сюды ведуць.* Старажоўцы. *Вулей пускае поцскі.* Аздамічы.

ПОІСКА'ЦЬ *зак.* Пашукаць. *Колісь казалі: наце, поішчыце ў голове.* Альшаны.

ПО'ІСКО *н.* Пчаліная разведка. *Поіско плохое.* Запясочча.

ПОІСКОВА'ЦЬ, ПОЙСКОВА'ЦЬ *незак.* Лятаць у разведку (пра пчол). *Поіскуе вулей, ужэ коло вулья лётаюць пчолы.* Бярэжцы. *Ужэ рой пойскуе.* Запясочча.

ПОІ'ЦЬ *незак.* Паіць. *Ідзі сам пой корову!* М. Малешава.

ПО'ЙКА *ж.* Спецыяльна падрыхтаваны напітак для дзіцяці. *Пояць дзіцятко пойкою.* Аздамічы.

ПО'ЙЛО *н.* 1. Пойла. *Зробяць пойло з воды, картоплі і мукі і даюць целятку.* Цераблічы. *Мукі не можно даваць корові, лўччэй мукі наколоціў у пойло да даў.* Луткі. 2. Вір, глыбокае месца. *Туды не плуві, там пойло.* М. Малешава.

ПО'ЙМА *ж.* Астаткі нітак з боку бёрда (пры тканні). *Онь з поймы наберы ніток насукаць.* Мачуль.

ПОЙМА'ЦЬ *зак.* Злавіць. *Кот поймаў пацá.* Знаменка. *Поймаў роя.* Луткі. *От наглого кожўшка поймаў.* Дварэц. *Вутвў пойме, да рыбкі пойме, так і жыў коло рэкі.* Чэрнічы. *Пошла б туды, да боюс, шо поймуць.* Там жа. *Воўк ловіць, а далей і воўка поймаюць.* В. Малешава. *Пугач заведэ на край лесу і ёго не поймэш.* Хотамель.

ПОЙЦІ' *зак.* 1. Пайсці, скіравацца, рушыць. *Пошлі слаць лён.* Луткі. *У Берэжцы пошоў з гэтымі грошыма.* Хільчыцы. *Му пойдом на рэку, а ву пойдзэцэ?* Д.-Гарадок. *У колхоз у доярэ пошлі мужчыны.* Цераблічы. *Я пойду до суседа погуляю.* М. Малешава. Пайсці, выйсці. *Етэ ж коб рано пойці.* Запясочча. Распаўсюдзіцца. *Плесня по ім пошла, по тому молоку.* Аздамічы. 2. Пайсці, пачаць ісці (пра дождж і інш.). *Добавілосо воды ў рэцэ, пошлі дожджы.* Луткі. *Колі на духа* (у першы дзень сёмухі) *пойдзе дождж, то будзе росці трава, а ек не будзе дождж, то будзе лето сухе* (прыкмета). Сямурадцы. 3. Адысці, адступіць. *Шо було і шо будзе, сем лет вуйдзе, на восьмэ пойдзе.* Старажоўцы. *Вода — не беда, прышла да пошла* (прыказка). Запясочча. 4. Пайсці замуж.

*Хто за цебе пойдзе, п'яніцу?* Сямурадцы. *Пошла за вола́, ліш бу дома не була* (прымаўка). Старажоўцы. △ Пойці за́муж. Тое ж. *Зоўзу́лька, зоўзулька, угадай мне, у екі бок я замуж пойду́* (гаданне з божай кароўкай). М. Малешава. Пойці рукóю. Пра ўдачу, шанцаванне ў гаспадарцы. *Бувае, у одрыне шо здохне, ек рукою не пойдзе.* Хачэнь. Пойці ў блу́дство. Пра непрыстойныя паводзіны. Запясочча. Пойці ў брэдзь. Тое ж. *От у брэдзь вона пошла, кінула ўсе.* Хачэнь. Пойті ў стоўпы́. Пра рост у стрыжань. *Буракі пошлі ў стоўпы.* Альпень. Пойці ў цёмны лес. Пайсці куды вочы глядзяць, абы-куды. *З тобою жыць, то лу́ччэй у цёмны лес пойці.* Старажоўцы. Пойці по вер́энікі. Збіраць восенню пабор з гаспадароў жывёлы (пра пастуха). *Ужэ пастух пойшоў по верэнікі, за́рэ до нас прыйдзе.* В. Малешава. Пойдзе́це здоро́венькі. Пажаданне шчаслівай дарогі на развітанне. *Бува́йце здоровенькі! — Пойдзеце здоровенькі!* Сямігосцічы. Пошоў вон. Выраз для адгону сабакі, ката. *Пошоў вон, шоб ты здох, чого́ куса́есса.* М. Малешава.

ПОКА′ 1 *прысл.* Пакуль, калі. *Пока той хлеб спечэцца!* Сямурадцы. 2 *злучн.* Пакуль. *Пока прынесла́ ту во́ду, дро́ва згорэлі.* Старажоўцы. *Поўчаса́, пока поесце́.* В. Малешава. *Шчэ пока накосяць, то поседзі.* Луткі. *Гледзі ты старо́го, пока ты старого маеш, то й ты хозяйка.* Мачуль. *Бегае, пока шчо ухо́піць.* Аздамічы. *Пока з богатого пух, то з бедного дух* (прымаўка). Там жа.

ПОКА′З *м.* △ На пока́з. Для паказу, для знаёмства. *Пра́ўнуком дзержалі лапці на показ.* Запясочча.

ПО-КАЗА′ЦКІ *прысл.* △ Пла́ваць по-казацкі. Пра від плавання з вынасам рук. Аздамічы.

ПОКАЗА′ЦЦА *зак.* З'явіцца, паказацца. *Ужэ і огонь показаўса.* В. Малешава. Здацца. *Пу́жалка на ўсе у нас кажуць, шчоб ні показалос.* Луткі.

ПОКАЗА′ЦЬ *зак.* Паказаць, прадэманстраваць. *Гэту песню я показала, ек спеваюць.* Бярэжцы. *Коб усе тэ склаў, ту беду́, шо мы бачылі, да показаў чоловеку, то готоў умерці с пу́ду.* Цераблічы. △ Я (вон і інш.) тобе (ёму і інш.) покажу. Пагроза пакараць. *От я тобе покажу за́рэ. Шо тобе нема места?* Сямігосцічы. *Як возьму попругу, то я вам покажу!* Бярэжцы.

ПОКА′ЗВАЦЦА *незак.* Паказвацца, выяўляць прысутнасць. *Я не показваюса, а чую розговор.* Дварэц.

ПОКА'ЗВАЦЬ *незак.* Паказваць. *Вон только рукамі показвае, а сказаць не можэ.* Запясочча.

ПОКАЛІ'ЦЦА, ПОКАЛЯ'ЦЦА *зак.* Забрудзіцца, запэцкацца. *От покалілосо ўсе шмацьё!* Запясочча. *Покалілася корова ў хлеве.* Мачуль. *Берыцеса за той конец колоды, коб не покаліліса.* Аздамічы. *Не прыседайце, бо покáліцес.* Там жа. *Вона ў гразь покаліласа дай ходзіць замурзана.* М. Малешава. *Не ходзі босікóм, покáляцца ногі.* Мачуль. *Нóвое сітцэ на колóчку, а покаляецца, то і под лаўкой поваляецца* (прымаўка). Там жа.

ПОКАЛІ'ЦЬ, ПОКАЛЯ'ЦЬ *зак.* 1. Забрудзіць, запэцкаць. *Улезла ў гразь да покаліла ногі.* Аздамічы. *Не берыса за хвартухá, бо покáліш.* Там жа. *Покаляла ногі.* Бярэжцы. *Покаліш кожуха, устань з подлогі!* Альшаны. Выпацкаць, вымазаць. *Ходзілі на короўнік, да там коровы покалілі мене.* Цераблічы. *Покаляў у муку, обтрусіса.* Бярэжцы. *Покаліш гўбу мўрзой.* Там жа. Памазаць. *Покáль — гразі напрэцца да загоіцца.* Запясочча. 2. Пабяліць, памазаць белай глінай. Тураў.

ПОКА'МЕСЦЬ, ПОКА'МЕСЬ, ПОКА'МЫСТ 1 *прысл.* Пакуль што. *Ці несці, ці не несці тое снéданье покамесць?* Мачуль. *Покамыст слава богу жывóм, е і хлеб і сало.* Там жа. 2 *злучн.* Пакуль. *Покамесь прышоў, то й разобралі ўсе.* Аздамічы. *Покамесць собака повэ́рнецца, то й кішкі поволокліса — ужэ дзік его!* Мачуль.

ПОКА'ПАЦЬ *зак.* Пакапаць, пакрапаць. *Дождж покапаў велікімі кáпкамі.* Луткі.

ПОКАРАБУ'НІЦЦА *зак.* Пакарабкацца. *Му покарабуніліса на хату по драбіне, шоб набраць сўшэных калін.* М. Малешава.

ПОКАРА'ЧКАЦЬ *зак.* Пайсці на крывых нагах. Кароцічы.

ПОКАРБОВА'ЦЬ *зак.* Папазаваць, нарэзаць пазы. *Дóшку покарбўюць, ек дóшкамі крыюць крышу.* Кароцічы.

ПОКАРУ'ЧЭНЫ *дзеепрым.* Пакручаны, пакручасты. *Белорóзнік покарўчэны.* Луткі. *Покарўчэна хвóя.* Запясочча.

ПОКАТУ'ШЭЧКА *ж.* Тое, што коціцца. *Чарочка-покатўшэчка, вўпі, моя́ душэчка* (з песні). Хачэнь.

ПОКАХІ'КВАЦЬ *незак.* Пакашліваць. Бярэжцы.

ПОКАЧА'ЦЦА *зак.* Пакачацца, паваляцца. *Було, конь покачаецца, не стўп'яць век, кажуць, нога заболіць* (павер'е). В. Малешава.

ПОКАЧА′ЦЬ *зак.* Пакаціць. *Вон так сам лісапет покачае до бацька.* Старажоўцы.

ПОКА′ЧВАЦЦА *незак.* Перавальвацца, качацца. *Уставай, ужэ годзі покачвайса!* В. Малешава.

ПОКА′ЯЦЦА *зак.* Пакаяцца. Дварэц.

ПОКВА′ПІЦЦА, ПОКЛА′ПІЦЦА *зак.* Пакваціцца, пажадаць. *Вон поквапійса бі на свое.* Сямігосцічы. *І на кого вон поквапійса — это ж калека!* Тураў. *От, поклапійса на тэ прыданэ.* Цераблічы.

ПОКЕ′ЎЗАЦЦА *зак.* Пацерціся, пашаравацца пры мыцці. *Покеўзалася пескóм.* Бярэжцы.

ПОКЕ′ЎЗАЦЬ, ПОКЕ′ЛЗАЦЬ *зак.* Неахайна памыць, пашморгаць. *Подлогу так во покелзала, направо, налево і ўсё!* Запясочча.

ПО′КІ 1 *прысл.* Пакуль, дакуль. *Покі та солома — вушкі шчытаюцца.* Луткі. 2 *злучн.* Пакуль. *Суткі ліў ліно́вы дождж, покі намочыло.* Цераблічы. *Покі дождж — у курэне́ поседзімо.* Пагост.

ПОКІДА′НЕЦ *м.* Той, каго кінула жонка. Аздамічы.

ПОКІДА′НКА *ж.* Тая, якую кінуў муж. Аздамічы.

ПОКІ′ДАЦЬ *зак.* Пакідаць, паскідаць. *Погребóм і покідаём сено ў стог.* Дварэц.

ПОКІДА′ЦЬ *незак.* Пакідаць. *Ко́сіць, шчэ й корові покідáе.* Цераблічы.

ПОКІ′ДЗІШЧЭ *н. груб.* Дрэнь, не варты павагі чалавек. *Покідзішчэ я ці шчо?* М. Малешава.

ПО′КІ′ЛЬ 1 *прысл.* Пакуль, дакуль. *А пóкіль ты робіцімеш?* Аздамічы. 2 *злучн.* Пакуль. *Покіль ему додзенýць, то вон не зазлуé.* Верасніца. *Стояла, покіль прывезлі.* Хачэнь.

ПОКІ′НУЦЬ *зак.* Пакінуць, кінуць. *Гэту забралі, а ту корову покінулі.* Дварэц. *Мéду покінуць пóвен вýлей і пóйдуць пчолы, як шо ім не понаравіцца.* Луткі. *Пожыла я з ім трохі, пожыла, узела і покінула.* Бярэжцы. *Покінуў межý, шоб на мое не лез.* Запясочча. Пакінуць у спакоі, адчапіцца. *Я булкі захоцеў, да як попоеў, то хóндзя покінула мене.* Луткі. Кінуць, забыцца. *Покінь дóлото ці спýста, то ніхто не возьмé.* Сямігосцічы. *Хлеб казаў: покінь стрэ́льбу і вýду, то я ў цебé бýду* (прымаўка). Мачуль. Кінуць, перастаць. *Покінуў курыць.* Хачэнь. *Робіў на заводзі да покінуў.* Хотамель. △ Покінуць сіротамі. Асіраціць. *Дзве дзéўкі покінуў сіротамі.* Хачэнь.

ПОКІСЛЕ'ЦЬ *зак.* Зрабіць кіслым (?). *Ці сметаны ці чого уліў, кагуць, покіслеў борщ.* Бярэжцы.

ПО'КЛАД *м.* Поклад. *Не беры по́кладу, бо вон ужэ наседжэны.* Дварэц. *Ейцэ́ на поклад оставіла.* Пагост. *Памянш.* по́кладзік. *Нема ееў, а одзін по́кладзік остаўса.* В. Малешава.

ПОКЛАДА'ЦЬ *незак.* Лягчаць, кастрыраваць. Старажоўцы.

ПОКЛА'ДЗЕНЫ *дзеепрым.* Пакладзены. *Та́мэка кладка покладзена.* Луткі.

ПОКЛА'ДЛІВУ *прым.* Спакойны, рацыянальны ў працы. *Гэто чоловек покладлівы, вон нідзе не ўдўшыцца, ек робіць.* Кароцічы.

ПОКЛА'ДНО *прысл.* Спакойна, паважна. *Покладно ідзе.* Аздамічы.

ПОКЛА'СЦІ *зак.* Пакласці, палажыць. *Наліў у той коўш молока да поклаў ло́жкі.* Мачуль. *Як покладзе́ш, то й во́зьмеш, не покладзеш — не возьмеш.* Старажоўцы. Скласці. *Коб хоць поклаў сено ў ко́пы.* Бярэжцы. Надзець. *Тогды покладу чыстую сподніцу.* Там жа. Пакласці, наслаць. *Хай твой Еўхім покладзе́ мне подлогу.* В. Малешава. △ Покла́сці голо́ві. Загінуць. *Сыны поклалі голові на хронці.* Хотамель.

ПОКЛА'СЦІСА *зак.* Легчы, пакласціся. *Седзелі доўго, покналіса спаць, да нешчо як застукае.* Сямігосцічы.

ПОКЛЕКЕТА'ЦЬ *зак.* Паклекатаць (пра буслоў). *Зберуцца, поклекечуць і полецелі.* В. Малешава.

ПОКЛЕ'МПАЦЬ *зак. экспр.* Пайсці, паклыпаць (пра чалавека з няўклюднай хадой). *Поклемпаў клемпа — кажуць, як у его колені ўмесце.* Бярэжцы. *Некуды поклемпала ўжэ.* М. Малешава.

ПОКЛЕПА'ЦЬ *зак.* Пакляпаць. *Поклепа́ў ко́су посвое́му.* Кароцічы.

ПОКЛЕ'СО *н.* Жэрдка, пры дапамозе якой змацоўваюць гонкі ў плыце. *Поклесо — дзерэво, подвя́зонэе гужво́ю, под его подлобячваеш.* Пагост.

ПОКЛЁВАНЫ *дзеепрым.* Рабенькі, кропачкамі. *Лознушка поклёвана така, жыве ў пушчы.* В. Малешава.

ПОКЛЁН *м.* Від клёна. *Такі поклён у нас е, вон под клён подхо́дзіць.* Тураў.

ПОКЛЁП *м.* Паклёп, нагавор. Запясочча.

ПОКЛІ'КАЦЬ *зак.* Паклікаць, запрасіць. *Ой посею хме́лю дай покліцу ро́ду* (з песні). Сямурадцы.

ПОКЛО'Н *м.* Паклон. *Перэдаю поклон, шоб біласа дзень і ноч об слон* (жартаўлівае вясельнае пажаданне). Старажоўцы.

ПОКЛОНІ'ЦЦА *зак.* Пакланіцца, схіліцца. *Сколько раз скажы, то столько і поклóніцца.* Сямігосцічы. *Однó кажэ — бежэ́м, другé кажэ — поседзё́м, трэ́це кажэ — поклонéмс* (загадка). *Вода, купіна, чэрэ́ціна* (адгадка). Цераблічы. *Мужык сказаў, шо поклоніўса ветру, то сонцэ кажэ: спекý* (з казкі). В. Малешава.

ПОКЛО'ЎШЫЦЬ *зак. экспр.* Пабіць. *Прыду додóму, чоловек мой зноў поклоўшыць мене́, от страдáла!* Сямігосцічы.

ПОКЛЯ'КЛЫ *прым.* Сагнуты, крывы, гарбаты. *На покляклэ дзерэво то й козы скачуць* (прымаўка). Сямігосцічы.

ПОКОВА'ЦЬ *зак.* Накаваць, зрабіць насечкі (на камені ў млыне). *Трэбо каменя поковаць, коб лепш молоў.* Старажоўцы.

ПОКОЁВІК *м.* Пакаёвы сабачка. *Шо то собака, нáбудзь покоёвік?* В. Малешава.

ПОКОЗЕ'ЛІЦЬ *зак.* △ П о к о з е л і ц ь  ó ч ы. Скасавурыцца, скасіць вочы. Бярэжцы.

ПОКО'ІШЧЭ *н.* Месца, дзе былі панскія пакоі; дворышча. Хільчыцы.

ПОКО'Й *м.* Гасціная, вялікі пакой у сельскай хаце. *А вон собе там у покоі седзіць.* Кароцічы.

ПОКО'ЙНІК *м.* Нябожчык. Сямурадцы.

ПОКО'ЙНІЦА *ж.* Нябожчыца. *Покойніца маці моя шчэ казала.* Луткі.

ПОКОЛЕ'НЬЕ *ж.* Пакаленне. *У іх поколены хоць хто-нібýдзь е музы́ка.* Луткі. *У нас ужэ чэцвёртэ поколенье не можэ росказаць своё племенствó.* Цераблічы.

ПО-КО'ЛІСЬНЕМУ, ПО-КО'ЛІСЬНЁМУ, ПО-КО'ЛІШНЕМУ *прысл.* Па-даўнейшаму, па-старому. *От так вонó й по-колісьнему робілоса.* Кароцічы. *Хвóя по-колісьнёму звалі.* Рыдча. *Вам трэбо по-колішнему?* Запясочча.

ПОКОЛОСІ'ЦЦА *зак.* Пакаласіцца, выпусціць колас. *Покýль пшэніца высыплецца, поколосіцца, а там мóшкі нема́.* М. Малешава.

ПОКО'ЛОТЫ *прым.* Патрэсканы, парэпаны. *Ек покóлотые ногі, то обýй лапці, онучы, побродзі, то перэстане болець.* М. Малешава.

ПОКОЛОЦІ'ЦЦА *зак.* 1. Разбоўтацца, замуціцца.

*Як ведро́м туды́ боўтне́ш, то вода поколоціцца.* Сямігосцічы. 2 *перан.* Пасварыцца. *Прыдзецца з чоловеком поколоціцца.* Хотамель.

ПОКОЛО'ЦЦА *зак.* Патрэскацца. *От поколоўса хлеб, у пе́чы трэба зырчэ́й коб було.* Верасніца. Парэпацца. *Покололіса ногі, помаж смолою.* Альшаны. *Покололіса рукі от холоду.* Запясочча. *Рукі покололіса от ветру і болячь вельмо.* Луткі.

ПОКОЛО'ЦЬ *зак.* Пакалоць, пасекчы. *Сокірою поколо́ла ўяз.* Запясочча. *Сама́ порэжу, сама і поколю.* Хачэнь.

ПОКОЛУБА'ЦЦА *зак.* Пакалупацца, пакорпацца. *Поколубайса, поколубайса, да такіх во чотыры ліны́ вынаў.* Кароцічы.

ПОКОЛУПА'ЦЬ *зак.* Пакалупаць. *От гэтой шчэпкой, шчо гром одбіў, поколупа́й зу́ба, то ўсей зуб покры́шыцца.* Хачэнь.

ПОКОЛУХА'ЦЬ *зак.* Пакалыхаць, палюляць. *Хоць бу поколухаў дзіця, а то спіць ек поле́но.* М. Малешава.

ПОКОЛУ'ХВАЦЬ *незак.* Пагойдваць, пагушкваць. *Сеў да е́ду, онно́ поколухвае ў водзе.* Цераблічы.

ПОКОЛЫХА'ЦЦА *зак.* Пагушкацца. *Зробім колы́ханку да поколы́шэмса.* М. Малешава.

ПОКОМЕ'ХАЦЬ *зак. экспр.* Пайсці памалу, паклыпаць (звычайна пра старога). *Покомехаў с кобула́мі, поцегну́ўса мой стары́.* Запясочча.

ПОКОНЧЭ'НЬЕ *н.* Пачостка цеслям пасля заканчэння будаўніцтва хаты. *Ошчэ́піны і бальковэ́ я ўжэ казаў, а як усе закончылі, то було покончэ́ньe.* Сямігосцічы.

ПОКО'ПКАЦЦА *зак.* Пакорпацца. М. Малешава.

ПОКОРА'ВЕЦЬ *зак.* Зрабіцца шурпатым, пакрыцца карой. *Покоравелі ногі, покололіса.* Бярэжцы.

ПО'КОРМ *м.* 1. Кармленне, выкормліванне. *До́бра свінья́ до покорму — хоро́шые поросята.* Хачэнь. 2 *мн.* Вымя ў свінні. *От свінья по́кормы мае.* Верасніца.

ПОКОРМІ'ЦЬ *зак.* Пакарміць. *Пойду я куры вупуска́ць, покормлю.* Сямурадцы.

ПОКО'РНЫ *прым.* Паслушны, падатлівы. *Покорнэ целятко дзве цыцкі ссе, а го́рдэ — ліха й одное́* (прымаўка). Хачэнь.

ПОКОРО'БІЦЦА *зак.* Пакарабаціцца, выгнуцца. *До́шкі покоробіліса.* Аздамічы.

ПОКОРПА'ЦЬ *зак.* Пакорпаць, пакалупаць; *перан.*

абы-як зрабіць. *Покорпай у песок, то не будзе горэць.* Бярэжцы. *Ідзі покосі, а я покорпаю той гной.* В. Малешава. *Посеклі, порубалі, покорпалі так-сяк.* Хачэнь.

ПОКО'С *м.* 1. Пракос. *Пройшоў покоса шырокого.* Цераблічы. *Вуйшлі, пройшлі по покосу і селі.* Старажоўцы. Скошаная сенажаць. *Сено лежыць на покосе.* Бярэжцы. 2. Атава. *Покос можно косіць, ужэ наросла трава.* Цераблічы. *Покос порос.* Аздамічы. △ Другі покос. Тое ж. *Ужэ даўно окосілі і ўжэ мо́жны другі покос косіць.* Сямігосцічы.

Паводле слоў старых людзей, раней атавы не касілі, чым і тлумачыцца цяперашняе ўжыванне слова *покос* для абазначэння атавы. Альшаны.

ПОКОСІ'ЦЬ *зак.* 1. Пакасіць, скасіць. *Проваліцца этому ціпцу́ — не можно покосіць.* Запясочча. *Давай покосім по водзе, то вода і вы́горыць.* Старажоўцы. 2. Скасіць (пра вочы). Запясочча.

ПОКО'СТ *м.* Пакост. Запясочча. △ У одно́м поко́сце. Пра нязменны фізічны стан, выгляд чалавека. *Цура́ха ёй, ніяк не старэ́е, усе у одном покосці.* Запясочча. *А шо ву хочэце век прожыць у одном покосце, шоб не почэрнело, не похýдло, не покрывілосо?* Там жа. *Дзед мо дваццаць год у водно́м покосце: ні худзе́е, ні гладчэ́е.* Луткі. *У одном покосці хлопцы, як тоды булі.* Там жа.

ПОКО'СТРЭНЫ *дзеепрым.* Паскладаны ў касцёр (пра дровы). *Покострэные дро́ва.* Альпень.

ПОКОСЦІ'ЦЬ *незак.* Пакрываць пакостам. Запясочча.

ПО'КО'Т *м.*, часцей покоты́ *мн.* Лагі, па якіх закочваюць бярвенні на зруб. *Покоты́ — на хату дзе́рэво качаць.* Хотамель. △ У поко́т (спаць). Покатам, падрад, адзін каля аднаго (спаць). *Усе на полу́ у покот спалі.* Мачуль.

ПО'КО'ТОМ *прысл.* Покатам, падрад, адзін каля аднаго. *На полу́ спалі ўсе поко́том, по дзесяць, по дванаццаць душ.* Аздамічы. *Лежаць по́котом тые овечкі* (падушаныя ваўком). Хачэнь. *По́котом лежаць я́блука.* Там жа.

ПОКОЎЗНУ'ЦЦА *зак.* Паслізнуцца. *Доўбочка́ маю, і смело по ледку́ пройду, і не покоўзнуса.* М. Малешава.

ПОКОЦІ'ЦЦА *зак.* 1. Пакаціцца, перакуліцца. *Ек да́ла кобыла ў сцегно́, то й покоціўса.* Любавічы. Пачаць качацца. *Хто сцеле молодым, той і поко́ціцца — однэ одного́ бы побо́раюць, бу́хнуць, бы пом'я́лі; брацíха*

*яка, брат качаюцца* (звычай). Луткі. *Покочўса, поволюса, м'яса наеўшыса* (з казкі). Запясочча. 2 *перан.* Хутка распаўсюдзіцца, рушыць. *Гром поўз мене удырыў, аж огонь покоціўса.* Мачуль. *Іней по траве покоціцца.* Там жа. *Зара́ покоціласа.* Бярэжцы. *Які туман покоціўса.* Альгомель. △ Покоціцца бо́ком. Падкаціцца, падысці. *Поко́цяцца бо́ком дзе́ці — дай рубля́.* М. Малешава.

ПОКОЦІ'ЦЬ *зак.* Перакуліць, збіць з ног. *Ба́бу коройка покоціла.* Запясочча. *Як мене покоціла целушка, дак я ей дала́!* Дварэц. Зваліць, адолець. *Я шчэ цебе покочу.* Аздамічы. *Воўкі коро́ву покоцілі!* Запясочча. Узваліць. *Свінью на воз покоціў да поўёз.* Мачуль.

ПОКО'ШКАЦЬ *зак.* Забраць яйкі ў птушак. *Там у плаву́ хітрые вутву, хова́юцца, коб іх ніхто́ не поко́шкаў.* Мачуль.

ПОКОШЛА'НЫ *дзеепрым.* Нерасчасаны, збіты (пра валасы). *Покошла́ные ко́сы.* Пагост.

ПОКОШТОВА'ЦЬ *зак.* 1. Пакаштаваць, паспытаць. *Покоштова́ла нашого квасу і пошла.* Запясочча. 2. Паспрабаваць яйцо на зуб, каб вызначыць яго моц. *Покоштуй ейцэ́, ці вонэ́ здоро́вэ ці не.* Кароцічы.

ПОКРА'ЖА *ж.* Пакража, крадзеж. *Рэдко буваюць покражы ў селе.* Азяраны.

ПОКРА'ПАЦЬ *зак.* Пакапаць, пакрапіць. *Дождж трохі покрапаў.* Хачэнь.

ПОКРАСІ'ЦЬ *зак.* Пафарбаваць, памаляваць. *Трэба несці да покрасіць плацье.* М. Малешава. *Ох, покрасіла да блішчыць подлога.* В. Малешава.

ПОКРАСНЕ'ЦЬ *зак.* Пачырванець. *Покраснела с сорома́.* Бярэжцы.

ПОКРО'ВА *ж.* Пакровы. *Покрова не лісто́м, то сне́гом покрые* (прыказка). Хачэнь. *После покровы — Міхайло.* Альпень. *Памянш.* покро́вочка. *Покровочко, моя ма́мочко, покрый зе́млю лісточком, а мене плато́чком* (з песні). Хачэнь.

ПОКРО'ІЦЬ, ПОКРА'ЯЦЬ *зак.* Пакроіць, парэзаць. *Покроіць ло́зу на дзя́гі трэбо.* М. Малешава. *Ба́ло, казалі: покроіць поло́сья у лыках трэбо.* Тураў. *Покра́іў полосіны на дзя́ж'я.* Альшаны.

ПОКРО'М *прысл.* Асобна, паасобку. *Як случа́ем свінья кусаюцца, то трэбо поста́віць іх покром, одрозніць.* Кароцічы. *Покром давайце есці, не хочу з вамі есці.* Сямурадцы. *Усе покром — ка́жын собе́.* Бярэжцы.

ПОКРОПІ'ЦЬ *зак.* Пакрапіць, папырскаць. *Покропіло трошкі, да стала погода.* Запясочча. *Мало удзе́ржало, шоб на Івана не покропіў дождж.* Бярэжцы. *Дождж нас трохі покропіў.* Сямігосцічы. *Картоплі покропіў газою од жукоў.* Дварэц. Пакрапіць пусты вулей, каб прывабіць рой. *Трэ покропіць, то мо мікольнікі сядуць.* Сямурадцы.

ПОКРУЦІ'ЦЬ *зак.* Ліквідаваць, адкруціўшы галаву (пра хатніх птушак). *А дзе ж іх вутвы́? — Покруцілі.* Мачуль.

ПОКРУ'ЧВАЦЦА *незак.* Вярцецца, какетнічаць; выстаўляць сябе напаказ. *Вуйдзе да покручваецца на шляху́, коб вон ее бачыў.* Верасніца.

ПОКРЫ'ВА'ЛО *н.* Пакрывала на труну. Луткі. Купленая посцілка на ложак. *Покрыва́ло.* Азяраны.

Па словах старэйшых людзей, кавалак палатна, якім была накрыта труна, аддавалі ў якасці платы за адпяванне нябожчыка. Цераблічы.

ПОКРЫВОВА'ЦЬ *зак.* Пазайздросціць. *Покрыву́еш, шчо нехто ле́пей жыве, але шчо зробіш.* Запясочча.

ПОКРЫЖОВА'ЦЬ *зак.* Парэзаць дрэва на некалькі частак. *Покрыжова́ть.* Альпень.

ПОКРЫСЕ' *прысл.* Патроху. *Покрысе далі сена ўсім у Стайку.* Хачэнь.

ПОКРЫ'ЦЦА *зак.* Пабегаць. *Ек не покрыецца коройка, то пе́рэдойка.* Верасніца. *Целятко покрылосо по первой пашы, шчэ ву́пусток.* Запясочча.

ПОКРЫ'ЦЬ *зак.* Пакрыць, закрыць сабой. *От гу́скі ўсе озеро покрылі.* В. Малешава. *Стоптаў товар сено, нема і козы́, одно́ шо конюшына покрые усе чысто.* Запясочча.

ПОКРЫ'ШКА *ж.* Накідка на падушку. *Ці можно покрышку купіць у Мінску?* Бярэжцы. Верх, абіўка. *Хамут покрываецца кожаной покрышкою.* Верасніца.

ПОКРЫШЫ'ЦЬ *зак.* Пакрышыць, парэзаць. *Яблока покрышу і ў печ сушыць.* Дварэц. *Налье воды і покрышыць хлеба, то пота́пцы.* Цераблічы.

ПОКРЭ'ШЧЭНЫ *дзеепрым.* Пакрыжаваны. *Поле покрэ́шчэнэ загончыкамі.* В. Малешава.

ПОКУ'БЛЕНЫ *дзеепрым.* Памяты, збіты. *Трэ перэслаць ло́жка, шоб не було покублено.* Цераблічы.

ПОКУ'ЛЬ, ПОКУ'ЛЯ, ПОКУ'ЛЕКА *прысл.* Пакуль. *Покуль я варт, а там дзеці подростуць.* Кароцічы. *Косі, коса́, покуль роса* (прымаўка). Бярэжцы. *Ох, вель-*

*мо доўго спаў, покуль прочнуўса.* М. Малешава. *Коз тожэ не було, покулека розвелі.* Хачэнь. *Плёхаемса по водзе, покуля вунесом сено на грудок.* В. Малешава.

ПО'КУП *м.* Скупка, нарыхтоўка. *По́купу нема яблок, то гніюць.* Хотамель.

ПОКУПА'ЦЦА *зак.* Пакупацца, пабоўтацца ў вадзе. *Ек еке́ ліхо, то коб у чысты чэцве́р покупа́цца — поздоровее́ў бы* (павер'е). Там жа. *Ек купаецца сонцэ, то до сонца трэбо покупацца, і будзеш здоро́вы* (павер'е). Цераблічы. *Покупа́емосо, дзе млін.* Бярэжцы.

ПОКУПОВА'ЦЬ *незак.* Купляць. *Покупу́ем бочкі.* Бярэжцы.

ПОКУРО'ЖЫЦЦА *зак.* Пакруціцца, пакарабаціцца. *Дошкі покуро́жыліса.* Аздамічы.

ПОКУРО'ЖЫЦЬ *зак.* Пагнуць, скруціць. *Нічого ёго́ не покурожыло, усе ў цэ́лносці.* Сямурадцы.

ПОКУ'РЧЫЦЦА *зак.* Пакруціцца. *Ечме́нь поку́рчыўса да не можно жаць.* Хачэнь.

ПОКУСА'ЦЬ *зак.* Пакусаць. *Собака покусаў нашчэнт мало́го.* Сямігосцічы.

ПОКУ'СЦЬЕ *н. зб.* Хмызняк, кусты. Бярэжцы.

ПОКУ'ТА *ж.* 1. Пакута, гора. *Шо я бачыла му́кі, шо я бачыла покуты!* Хачэнь. *Покута ты моя* (пра непаслушнае дзіця). Кароцічы. 2. Нешта дрэннае, непрыемнае. *Шоб цебе покута з'ела, тэ поскуднэ короўзно* (праклён). Любавічы. △ З п о к у́ т о ю (л е ж а́ ц ь, р о б і ц ь і і н ш.). Пра нешта непахвальнае, вартае асуджэння. *Сонцэ зыйшло́, а ты з покутою лежыш, става́й!* Кароцічы. А б ы́ - е к а́ я п о к у́ т а. Тое ж. *Абы́-еку́ю покуту наговорыла лю́дзям.* Аздамічы. П о к у́ т а е г о́ в е́ д а е. Пра поўнае няведанне і нежаданне ведаць. *Морда́ты хло́пец, покута его ведае чый.* Там жа.

ПОКУ'ТНІК *м.* Пакутнік, гаротнік. Запясочча.

ПОКУ'ТНЫ *прым.* Які размешчаны бліжэй да кута. *Покутные во́кна.* Лутні.

ПОКУ'ТОВАЦЬ, ПОКУ'ТВАЦЬ *зак.* Пакутаваць, гараваць, мучыцца. *Покутовалі дзе́ткі ко́лісь.* Альшаны. *Покутуе чоловек, як него́ж, як і дзе́ло ро́біць, да нема кому́ помо́ч.* Бярэжцы. *Мача́мі бра́лі навоз, вельмі покутвалі.* Запясочча.

ПОКУ'ТОК *м.* Закутак, зацішнае месца. *Са́мы леніві покуток у нас* (пра месца, дзе збіраюцца пенсіянеры, жартам). Альпень.

ПОКУХМА'РЫЦЬ *зак.* Накрухмаліць. *Поперо́м*

*бе́льё да покухмарым, да покача́ём, то воно па́хне сма́шно і рыпіць.* Сямігосцічы.

ПО'КУЦЬ *м.* Чырвоны кут у хаце (знаходзіцца з правага боку ад дзвярэй). *На по́куці, на обрэзнічку́ стоялі образы́, свечка лежала.* Цераблічы. *У мене́ Ленін на покуці.* Тураў. *От по́куця ўлево.* Бярэжцы. *Стаў, як маршалок на по́куце* (прымаўка). Кароцічы.

ПО'КУ'ЦЬЕ *н.* Тое ж. *Сва́хі на по́куцье садзя́цца.* Запясочча. *Поку́цье беле́е от лысых сватоў* (жарт). Там жа. *На по́куцье хлеб лежіць.* Хотамель.

ПОЛ *м.* Памост каля печы, дзе даўней спалі. *Упоко́т усе́ спа́лі на полу́.* Запясочча. *Рогожу клалі на пол і спалі.* Хотамель. *От яка́ жытка, што не споўзу́ з по́лу.* Кароцічы. Палаткі вакол дрэва, на якім ставілі калоды. *Робілі пол укружкі ду́ба от медзведзя.* Цераблічы. Насціл пад печ. *На опе́чкі пол кладуць з до́шчок, а тогды песок і цэглу.* Цераблічы. Высцілка дошкамі праезджай часткі моста. Запясочча. △ Д о п о л а́. Да аднаго, датла, дашчэнту. *Усе зу́бу вупалі до пола.* Запясочча.

ПОЛА' *ж.* Пала, крысо. Альшаны.

ПОЛАГА'ЦЦА *незак.* Належаць, быць належным. *Шо полагаецца, шоб усе було, шоб ты мне ўсе зготовіў* (з казкі). В. Малешава. *Не полагаецца, ек свое кум і кума, ато ўмірае дзіця* (павер'е). Запясочча.

ПОЛА'ДЗІЦЦА *зак.* Памірыцца, прыйсці да згоды. *Мо поладзіцес, бо поштрапу́ю по дзесяць рублёў.* Альшаны.

ПОЛА'ДЗІЦЬ *зак.* Паладзіць, знайсці агульную мову. *Трэбо поладзіць з начальнікам.* Сямігосцічы. Памірыцца. *Оны поладзяць за два часа́.* М. Малешава. Памірыць. *Трэбо поладзіць, шоб не сварыліса.* Аздамічы. Уладзіць. *Горэлка ўсе поладзіць там.* Сямігосцічы. Падрабіць, справіць пры дапамозе подкупу. *Паны́ докуме́нты поладзілі да отсудзілі сервіту́т.* В. Малешава.

ПОЛА'ДКОМ *м.* Ладам, па-добраму. *Ек бу поладком було, то ніяк не́льга.* Старажоўцы.

ПОЛАДО'ВАНЫ *дзеепрым.* Пасарціраваны. *Жме́нькі поладованы цёртого лну.* Дварэц.

ПОЛАДОВА'ЦЬ *зак.* Пасарціраваць. *У су́шні лён б'е машына, мнуць, поладу́юць да трэ́плюць.* Дварэц.

ПОЛА'ДОК *м.* Добры стан спраў, лад. *Е й стог, е і ў бо́чках, е шчэ здороўе, гледзімо́ днэ друго́го, поладок, дзякуй богу.* Пагост. *Хай бог у поладок пуска́е* (пажаданне маладым на вяселлі). Там жа.

ПОЛА′ПАЦЬ *зак.* 1. Памацаць, патрымаць у руках. *Полáпаю дзверы — зачы́неты.* Сямігосцічы. *Вона его полапала дай кінула.* Цераблічы. 2. Схапіць. *Хочэ корóву воўк полáпаць.* Старажоўцы. 3. Патупаць, пайсці нязграбна. Запясочча.

ПОЛА′СОВАЦЬ *зак.* Украсці, узяць без дазволу. *Поласуюць гуркі нашые дзеці.* Луткі. *Поласовала пóдмазку і нема чым сковороды́ подмазаць.* М. Малешава.

ПОЛА′ТКІ *мн.* Палаткі. *Вася, дзе штаны? — На полатках.* Запясочча.

ПОЛА′ЦЬ *незак.* 1. Палаць, гарэць полымем. *От дровá полаюц, дóбро горац.* Запясочча. 2. Палаць, ачышчаць веяннем. *Потом полаюць той овéс, а потом вараць кулеш.* Луткі.

ПО′ЛЕ *н.* 1. Поле, ворная зямля. *А ў іх пóля було, от як от порóга до плóту.* Бярэжцы. *Шля́хта жылá без поля.* Хачэнь. *Екá робота ў селе — только коло пóля.* Луткі. *А кóліся пóля хоцелі, загóна* (у пасаг). Там жа. *Як ужэ досеюць поле, то кідаюць печонікі ў печ, а до этого не пеклі печонікоў* (звычай). Там жа. 2. Частка поля для гульні *ў лоптý* (Талмачава), *у цýрку* (Луткі), *у гóрод-пóле* (Хачэнь), дзе знаходзіцца водзячая каманда. *Як дзéляцца, то кáжуць: ты ў кóло, а я ў пóле.* Луткі. *Як вýб'юць тогó чоловéка, шчо бег за чэртý, то ўжэ воны́ ідуць у поле.* Хачэнь. 3. Роўная верхняя частка фартуха да брыжоў. Запясочча. Узорыстая сярэдзіна хусткі. Верасніца.

ПОЛЕВІ′К, ПОЛЁВІ′К *м.* Палявы сторож. *Полевíк загнаў гусей у одрыну с посева, а потрáву комісія оцэніць.* М. Малешава. *Гэто Одáмоў брат, шчо буў полевікóм.* Луткі. *Полёвік.* Кароцічы.

ПОЛЕ′ГЛІЦА *ж.* Палеглае збожжа, лён і іншыя культуры. *Машына полеглíцу не берэ.* Луткі. *Полегліца, то й лёну мало намолоцілі.* Дварэц. *Полегліца бувае от перэгною, од дождждá.* Аздамічы.

ПОЛЕГЛЯ′ *ж.* Тое ж. *Полегля с колоскóм зостаецца на полі.* Мачуль.

ПОЛЕ′ГЦІ *зак.* Палегчы. *Усе полéглі, лежаць.* Луткі. *Му поля́гомо ў тые розоры, а немец стрэляе.* В. Малешава. *Можэ́ полегці жыто.* Альшаны. *Мой лён ужэ буў полёг, як я полола.* Кароцічы. *От которы дзень летáе бабіно лето, оно поляжэ на траву, то оно не ўрэдзімэ худóбі.* М. Малешава.

ПОЛЕ′ГЧА′ЦЬ *зак.* 1. Палягчэць. *Да ек огледзіць,*

*так на сэрцы полёгчае.* В. Малешава. 2. Падкапаць маладую бульбу, не выкопваючы ўвесь куст. *Не шкодуеш картоплі звóдзіць? — Не, я только полегчý.* В. Малешава.

ПОЛЕЖА'КА *ж.* Гультай, лежань. Мачуль.

ПОЛЕ'ЖАНЫ *дзеепрым.* Ляжалы. *Полежаные яблука, м'якіе, хорóшые.* Хачэнь.

ПОЛЕЖА'ЦЬ *зак.* Паляжаць, пабыць у спакоі. *Сестрó, я, кáа, лягу да полежу трошкі.* Сямурадцы. *Не полежаць свіньья не кóрмленые, чóрта воны́!* Сямігосцічы. *Лён полежэў да збіраюць у кýчкі.* Запясочча.

ПОЛЕ'ЖВАЦЬ *незак.* Ляжаць, палежваць. *А той полежвае, не хочэ ехаць.* Сямурадцы.

ПОЛЕЖУ'Р *м.* Гультай, лежань. *Сено сама косіла, а éты полежур роскла́ўса да дзень лежыць.* Пагост.

ПОЛЕ'ЗЦІ *зак.* Палезці, улезці. *Я не полезу, чого ж я полезу? Я ж на ту кобылу не злезу.* Кароцічы. *Запетры́ло, то ўюн ужэ не полезе.* Цераблічы.

ПОЛЕЙЧА'ЦЬ *зак.* Вылегчаць, кастрыраваць. *Полейча́лі бычка.* Аздамічы.

ПОЛЕНВІ'ЦА, ПОЛЕНІ'ЦА, ПОЛЕНДРЫ'ЦА *ж.*, ПОЛЕМБІ'ЦЫ *мн.* Паляндвіца. Тураў. *Поленіца. Полендры́ца.* Запясочча. *Полембіцы.* Хачэнь.

ПОЛЕНІ'ЦА *ж.* Булачка з хлебнага цеста. Верасніца. *Памянш.* п о л е н і ц к а. *Поленіцка мекéнька, недзелька свецéнька* (з песні). Там жа.

ПОЛЕ'НО *н.* 1. Палена, палка. *Нема ні одногó полена на дворé, колі б собака бег, то нечым отогнаць.* Бярэжцы. *Ек ухопіў полено да поленом по лбý.* Луткі. *Од дóброго полена і трэ́ска таká сáма.* Старажоўцы. 2. Бервяно, калодка. *Едзе скуль і полено везе дроў.* Луткі. *Полено на хату і дýба на штандáру е.* М. Малешава. *Дзве полéні положыў, збіў торкá да поехаў по болоту.* Запясочча. *Стане на полено, свіньé по колено* (прыказка). Аздамічы. 3 *перан.* Лежань, гультай. *Это полено дзеньдзéньскі лежыць, не ўстаé.* Верасніца. △ Е к п о л é н о м к і н у ц ь. Пра невялікую адлегласць, плошчу. *Такі кусóчэк дворá, ек поленом кінуць.* Хачэнь. *Памянш.* п о л é н ц э. *Поленца дроў нема.* Цераблічы.

ПОЛЕНОВА'ЦЦА *зак.* Паленавацца. *Колі не поленýюса, то шыю.* Запясочча.

ПОЛЕНО'ЎВАЦЦА *незак.* Трохі ленавацца. *Хто поленоўваецца, то ў тогó будзе стояць дзело.* Сямурадцы.

ПОЛЕНЯ'КА *м.* і *ж.* Палена, палка. *Коб вон схваціў*

*за доброго поленяку да грымнуў.* В. Малешава. *Памяніш.* п о л е н я ч к а. Кароцічы.

ПОЛЕПІ'ЦЬ *зак.* Патынкаваць. *Тобе перш трэбо хату полепіць.* Сямурадцы.

ПОЛЕ'ПШАЦЬ *зак.* Папраўіцца, стаць лепшым (звычайна пра стан здароўя). *Полéпшала ногá.* Бярэжцы. *Ніяк не полéпшае, не ўстáне дóнечка.* Аздамічы.

ПОЛЕ'СКІ *прым.* Які адносіцца да лясной часткі Столінскага і Жыткавіцкага раёнаў (звычайна за р. Сцвігай і далей на поўдзень) або да жыхароў гэтай мясцовасці. *Як ідзе чоловек ці жонка, то відаць вýхвотка полеска — крýцібца, мотáецца полешýчка.* Дварэц. △ В ý р о с, я к п о л е с к і з л ó д з е й. Пра надта вялікага. Сямігосцічы.

Для палескіх жаночых убораў было характэрна нашыванне на спадніцы брыжоў і стужак, якія пры хадзьбе «парасоняць». Дварэц.

ПОЛЕ'СЬЕ *н.* Лясная і балоцістая мясцовасць, на Тураўшчыне яе звычайна лакалізуюць на поўдзень ад р. Сцвігі, часам у іншых кірунках. *По полесьях е журавіны.* Дварэц. *Поўсýшвалі болóта по тых полесьях, і лес, кáжуць, рáптом посóх.* Там жа. *Полéсье коло Лýнінца, Жыткові́ч, бо ёго нема дзе роспрэдзеліць, то полéсье. Бор то не лічаць полéсье.* Альшаны.

Уяўленні жыхароў Тураўшчыны пра *полéсье* вар'іруюць ад агульнай назвы лясной і балоцістай мясцовасці да назвы канкрэтнай мясцовасці з дакладнай лакалізацыяй (тапоніма). Для жыхароў Столінскага раёна гэта назва можа таксама лакалізавацца і ў межах былога Палескага ваяводства ў граніцах буржуазнай Польшчы. *Полесье оццюля далéко — Тонéж, Бýкчэ, Слободá, Рýдня Тонéзька, Сéмонічы, Млінóк. Чоловéка з Полéсья познáць мóжно.* Дварэц. *Полесье там, дзе Храпýнь, Кóлкі, Марлін.* Аздамічы.

ПОЛЕ'ТКОВУ *прым.* Уключаны ў трохпольны севазварот. *На полетковых зéмлях сеялі после ячменю просо, после проса пшэніцу, после пшэніцы жыто, после жыта пáрэніна, а потом жыто опяць.* Альшаны.

ПОЛЕ'ТОК *м.* 1. Участак поля пры трохпольным севазвароце. *Цэла дзерэўня на дном полетку сéіць, потом на другом.* Лутці. *Два поля ў полéткі пусцілі.* Там жа. Палетак, частка поля або сенажаці. *А за доліною зноў полéток поля.* Верасніца. *На сено ўсякі полеток е.* Запясочча. 2. Адна з трох частак франтона. *Шчыт зроблены*

*на тры полёткі: прамы́, косовы́ і зноў́ прамы.* Луткі. 3. Гадавое колца ў дрэве. *Полёткамі росце сосна.* Мачуль. *Дудка з сосны́ робіцца, з са́мого ве́рха, там е такі полёток, такі слой, як па́лец.* Цераблічы. *Мелкіе полеткі больш з поўно́чного бо́ку коло́ды крэжова́той.* Аздамічы. Гадавое колца на рагах у каровы. Запясочча. 5. Лета. *Той полеток було, а цепе́р нема.* Запясочча.

ПОЛЕ'ТУ *прысл.* Улетку, летам. *А ву булі полету там?* В. Малешава. *А цепер і полету ходзяць обу́тые.* Пагост. *Зімою і полету жакі стано́вяць.* Кароцічы. *Шо полету ногою, то зімою рукою* (прымаўка). Сямурадцы.

ПОЛЕТУ'ХА *ж.* Даўняя гульня (гулялі ўчатырох: штурхнуць аднаго з гуляючых і ловяць таго, хто штурхаецца). Цераблічы. *Памянш.* полётушка. *Як гулялі ў полетушку, то одна па́ра стоіц, а друга́я ло́віц.* Запясочча.

ПОЛЕЦЕ'ЦЬ *зак.* Паляцець, паімчацца. *Вот воны ўзняліс і полецелі.* Кароцічы. *Кіну корову да ўсе да полечу на тое веселье?* Сямігосцічы. *Я не піў бу і не еў бу, да до свое лю́бое полецеў бу* (з песні). Старажоўцы.

ПОЛЕ'ШКА *ж.* Паляшучка, жыхарка мясцовасці на поўдзень ад Сцвігі. *Полешкі носяць да продаюць грыбу́.* Дварэц. *Та полешка ўсім роскажэ.* Хачэнь.

ПОЛЕШУ'К *м.* Жыхар лясістай мясцовасці за Сцвігай. *Боішса, як полешук воды́.* Верасніца.

ПОЛЕШУ'ЧКА *ж.* Жыхарка лясной мясцовасці за Сцвігай. Верасніца.

ПОЛЕЯ'САКА *м.* Гультай. Запясочча.

ПОЛЁВА'НЁ *н.* Паляванне. *На полёванё ездзіў разом з ім.* Мачуль.

ПОЛЁВА'ЦЬ *незак.* Быць у стане цечкі. *Целушка шчэ не полёвала.* Аздамічы. *Як полёвала воўчыца, то во́ўкі гойнова́лі.* Кароцічы. *Корову полюють одна за одноею.* М. Малешава. *Воўкі полюють у піліпоўку.* Цераблічы.

ПОЛЁВУ', ПОЛЕВУ' *прым.* 1. Палявы стораж. *Даніло́чко небольшого росту, шчуплы, буў полёвім.* В. Малешава. 2. Палявы. *Е блошчыца полевая, а е і хатняя.* Альпень. △ Полёвы́ грыб. Польскі грыб (?). *Полёвы грыб — ек болячка, то ёго́ прыклада́ють, ёго не едзяць, вон сінее.* В. Малешава. *Полювые грыбы́, воны такіе як маслюкі, зелёные, іх не едзяць.* Цераблічы.

ПОЛЁ'ГКА *ж.* △ Зробіц полёгку. Дапамагчы,

аблегчыць. *Зробіў полёгку — помог комў-нёбудзь.* Запясочча.

ПОЛЁ'ЎКА *ж.* Карова ў стане цечкі. *Той бык збоку хо́дзіць, а гэты коло полёўкі.* Луткі. *Незлёйчаны бук з полёўкамі гуляе.* М. Малешава.

ПОЛІ'ВА *ж.* 1. Паліва. Хотамель. 2. Палуда. *Поліва отскочы́ла ў чыгуне́.* Аздамічы.

ПОЛІ'ВАНЫ *прым.* Пакрыты палівай. *У полівапой гладышцы молоко́ до́бро дзержа́ць.* Дварэц. *Полівана міска, а так — то чэрэп'я́на.* Запясочча. △ Як полі́ваны. Выліты, вельмі падобны. В. Малешава.

ПОЛІ'ВОДЗЬ *ж.* Мелкаводдзе на разлівах. *Кара́сь не выходзіць на полі́водзь.* Мачуль.

ПОЛІЗА'ЦЬ *зак.* Палізаць, аблізаць. *Падзь на ду́бі, як полі́жэш ліст, то вон по́ўносцю соло́дкі.* Хотамель.

ПОЛІЗО'ХІ *мн. экспр.* Ласункі, прысмакі. *Шо толко́ве купі собе́, а вона на полізохах роскі́дае гро́шы — то ва́хлі, то печэ́нье.* М. Малешава.

ПО'ЛІК *м.* Ляжанка. *Полік маленькі за пе́ч'ю на одного́-два чоловекі.* Аздамічы. *Дзеці гуляюць на поліку.* Хільчыцы.

ПОЛІНЯ'ЦЬ *зак.* Паліняць, аблезці. *Поліня́лі вутву́, зоўсім го́ла, гідка́я.* Кароцічы.

ПОЛІЎНЫ' *прым.* Ціхі, спорны (пра дождж). *Ідзе дождж не заліўны́, а поліўны́.* М. Малешава.

ПОЛІ'ЦА *м.* 1. Паліца. *Коло перэпе́чного окна́ прыбіва́юцца поліцы; на верхней поліцы — горшкі, на другой — міскі.* Запясочча. *Білі горшкі на поліцах на веселы́і* (звычай). Там жа. *Посадзілі под поліцэю, нарадзілі молодзіцэю* (з песні). Хачэнь. Палаткі над *по́лом* (на *перэсо́ў* кладзецца дошка, якая апіраецца на *колкі,* убітыя ў сцяну). *На ту поліцу і кожуха́ кладзе́, світку згорне, і чо́боты хова́е.* Запясочча. 2. Адвал (у плузе, у сасе). *Но́вого плу́га трэба обо́рваць так, коб полі́ца обора́ласа, була слізка і бліску́ча.* М. Малешава. *Соха́ мае поліцу дзерэўя́ну, два сошнікі, дзве огло́блі.* Там жа.

ПОЛІ'ЦЦА *зак.* Паліцца, пацячы. *Сом, у ём тольки хвост жы́рны, розрэ́ж, то сало й польецца.* Дварэц.

ПОЛІ'ЦЬ *зак.* Паліць, абліць. *Узела́ да водой полі́ла́.* В. Малешава. Паліцца, пачаць ліць (пра дождж). *Дождж поліў ек з ведра́.* Цераблічы.

ПОЛІЧЫ'ЦЬ *зак.* Палічыць. *Полічыў гро́шы.* Альпень. *Полічы́ ў році зу́бу, ек нема чого́ робіць* (прымаўка). Верасніца.

ПО'ЛКА *ж.* Адно палотнішча (у дзяружцы, мяшку і інш.). *Дзеру́га ў тры по́лкі.* Бярэжцы. *Сто шнуркоў у одзін бок, як тчэш, да сто шнуркоў у другі бок, то получыцца полка, да шчэ одну, да дзеру́га така́.* В. Малешава. *Мешок у тры полкі шылі, бо ў дзве вон вузкі.* Сямігосцічы. Пралёт паміж дзвюма бэлькамі ў столі. *Заложыў одну полку.* Цераблічы.

ПО'ЛНЫ, ПО'ЛЬНЫ *прым.* △ По́лна полі́ца. Паліца, якая знаходзіцца над *по́лом.* Дварэц. По́лне окно. Акно каля *по́лу.* Запясочча. *Полнэ окно — к плечовой сцене́.* Кароцічы. По́льнэ окно́. Тое ж. Луткі.

ПОЛОВА'ЦЬ *зак.* Палавіць. *Трэ половаць жукоў на картоплях.* Бярэжцы.

ПОЛОВЕ'ЦЬ *незак.* Палавець, набываць бледна-жоўты колер. *Нешчо половее, мо дождж будзе да з бурой.* Верасніца. *Открасова́лоса ўжэ жыто, наліваецца, потом ужэ спо́лнілоса, половее, да будзе спець.* Бярэжцы. *Жыто спее, ечмень половее* (з песні). В. Малешава.

ПОЛОВІ'НА *ж.* Палавіна. *Половіна голо́ўкі капусты.* Альпень. *Пошчы́ по половіні жыта і пшэніцы сеялі.* Верасніца.

ПОЛОВІ'НКА *ж.* 1. Палавіна распілаванага ўдоўж бервяна. *Зробіў хлёва́ з половінок.* Аздамічы. 2. Мерка для збожжа. *Ко́лісь булі коро́бка, сеўны́к, половінка, поўосмінка.* Хотамель.

ПОЛОВІ'ННІК *м.* Палавіншчык; той, хто робіць сумесна з іншым з палавіны. Аздамічы.

ПОЛОВУ' *прым.* Палавы, бледна-жоўты. *Ідзе полова́ хма́ра, такая бу пул.* Луткі. *Кажуць: половая хмарка дасць ко́зыру!* Мачуль. *Половы конь — ані жоўты, ані белы.* Кароцічы. *А оні такіе о велікіе, половые, тые воўкі.* Хачэнь.

ПО'ЛОГ *м.* Полаг, расцягнутае палатно над ложкам або калыскай. *Ко́лісь спалі ў полога́х, того́ по́лога разопно́м, да под ім спім.* Кароцічы. *У полог лёглі молодые і нішчочком гово́раць, коб не чутно́ було ані, ані.* Луткі. *Буў полог такі, ца́ла сем'я залеза́ла, шчоб мухі не елі.* Сямігосцічы. *Розпяла́ по́лога і опкры́ла кольбе́ль.* Аздамічы. Завеса, заслона. *Усе во́кна закрытые полога́мі.* Мачуль.

ПОЛОЖЫ'ЦЬ *зак.* Палажыць, пакласці. *Ева положыла нешчо коло полена.* Сямурадцы. *Ек гоніць з хлёва́ коро́ву пе́рвы раз на пашу, то положыць ключ і ее́чко на воро́тах.* В. Малешава. *Только і только венко́ў поло-*

*жылі,— кажуць, як хату робяць.* Дварэц. Скасіць. *Хто сено положый, то кожны дзень шкрэбе за серцэ, шо дождж ідзе.* М. Малешава. *З пулемёта усіх положылі.* Бярэжцы.

ПО'ЛО'З *м.* Полаз. *Дубо́вые полозэ́ іс ко́рэня, дуб выко́пваецца і с ко́рэнем.* Запясочча. *З ду́ба по́лоз пла́ўкі, не так зарэ́зваецца.* Любавічы. *По́лозы.* Альшаны. *Поло́з.* Хотамель.

ПОЛОЗІ'НЕЦ *м.* След ад полаза, наезджаны санны след. *На полозінцу слізко моцно, упадзе́ш, не можно іці.* Цераблічы. *Рысью ко́ціць по полозінцу ко мне.* Верасніца.

ПОЛО'ЗЬЕ *н. зб.* Палоззе. *Крыву́ дзерэвіну опце́шэш, да на столю́гу, да розрэжэш, от і полозье будзе.* Запясочча. *Поло́зья посохлі ўжэ так, шо аж погорбіліса.* Верасніца. *Полозья гнуць з берэлозу.* Там жа. *Аж песок зашыпіць под полозьем!* Луткі.

ПОЛОКА'ЦЦА *незак.* Паласкацца. *Шо ты тут полока́есса, ідзі на рэчку!* Сямігосцічы.

ПОЛОКА'ЦЬ *незак.* Паласкаць. *Полокаць дзеру́гу трэ ўдзьвёх, бо важка́ вона, дзеруга свого ву́робу.* М. Малешава.

ПОЛО'М *м.* Буралом, павал. Аздамічы.

ПОЛО'МАНЫ *дзеепрым.* Паламаны. *Ободы́ у задніх колёсах поломаные.* Пагост.

ПОЛО'МАТЫ *дзеепрым.* Тое ж. *У мене поло́матые очкі.* Запясочча.

ПОЛОМА'ЦЦА, ПОЛАМІ'ЦЦА *зак.* Паламацца; пакрышыцца. *Поломаласа ў мене оплень у возі.* Старажоўцы. *Бо як посо́хне, то поло́міцца вельмі рыба.* Чэрнічы. *У верэ́ньцы не потрецца, не пола́міцца.* Альшаны. *Серп пола́міцца, і нема дзе ўзяць серпа́, едзь у Городо́к.* Дварэц.

ПОЛОМА'ЦЬ, ПОЛОМІ'ЦЬ *зак.* Паламаць, пашкодзіць. *Зогнала́ ў одрыну, шоб коровы не поломалі; ато там коровы е здоровые, то поло́мяць — вона ж і так кульгае.* Мачуль. *Лён поло́міш у бо́йцы, а потом у церніцу.* В. Малешава. *Поломіть вода лёд, да іде крыга.* Альпень. *Ірко, не бежы́, ато картоплі поломіш.* М. Малешава. △ П о л о м а́ ц ь  о́ ч ы. Задрамаць. *Коб знала, то не ложыласа б, онно́ очы поломала, да маці ўжэ бу́дзіць.* Кароцічы.

ПОЛО'Н *м.* Палавіна. *Здае́цца, вона на полон старэ́йша.* В. Малешава.

ПОЛО'НІК *м.* 1. Вялікая лыжка, апалонік. *Млінцэ́ розбівалі полоніком.* М. Малешава. *Полонік шчо хлеб рошчыняць, шчо бліны́ печы.* Кароцічы. 2. Апалонік, малёк жабы. *Полонік, а с полоніка ро́біцца жаба.* Луткі.

ПОЛОНІ'ЦЬ *незак. метаф.* (?) Красці. *Пошлі полоніць цыбулю чужу́.* Аздамічы.

ПОЛО'НКА *ж.* Палонка, проламка. *Як лёд прорубáць або проломáць, то бу́дзе полонка.* Аздамічы. *На полонку зімой праць по́йдзеш, то попрымерзáе скура до лапцей.* Там жа. *Ву́ткі прому́лі полонку, то дзіця ўпало.* Хачэнь. *Хвабрыканец зімой купайса ў полонцы.* Запясочча.

ПО'ЛОНЫ *дзеепрым.* Полаты. *А той горо́д не полоны, усе заросло́!* Дварэц.

ПОЛО'ПАЦЦА *зак.* Палопацца, патрэскацца. *Полíва поло́паласа, поодскáквала.* Бярэжцы. *Мозылёў много, да полопаюцца на рукáх!* Дварэц. *Наеласа корова конюшыны, дух зобрайса нешчо́тне і корукі полопаліса.* В. Малешава. *Іншы так поб'е косу́, шо вона полопаецца.* Запясочча.

ПОЛО'ПАЦЬ *зак.* Паляпаць, пастукаць. *По плечу полопаў дай кажэ.* Цераблічы.

ПОЛО'СА' *ж.* Паласа, доўгі кавалак. ***Поло́су сала, ек кабáн лежы́ць, отрэ́жуць, кладу́ць марлю і соль кладуць.*** Дварэц. *Шчо стоколо́са — хлебу поло́са* (прымаўка). Цераблічы. Адна палоска лазовай кары для пляцення лапцей. Бярэжцы. Зона. *Одна полосá — розгово́р села Лу́ткі, Оздáміч, Церэбліч, Толмáчова, Хочэ́ні, Хільчыц, Берэ́жцоў, другá полосá — Мáлешоў, Семіго́шчы, Ольшáны.* В. Малешава. Бляск, ільсненне. *Не годзіцца лён мочы́ць, бо нема полосы́ ў ём, не блішчы́ць, стане бі кло́ч'е.* В. Малешава. △ Не с того́ но́са поло́са. Не па густу, не падыходзіць. Бярэжцы.

ПОЛОСКА'ЦЦА *зак.* Паласкацца, плюхацца. *Улез і полошчэцца ў водзе.* Сямігосцічы. *За мо́стом полошчуцца гусі.* Дварэц.

ПОЛОСКА'ЦЬ *незак.* Паласкаць. *Пойдзі ў целятнік, дзе поло́шчаць цэдзілкі.* Дварэц. *Трэба полоскаць плáцье іці.* Луткі. Плёскаць, плюскатаць. *Скрозь вода полошчэ поўз шлях.* Верасніца. Плюхаць, моцна ісці (пра дождж). *Поло́шчэ дождж на дворэ́.* Запясочча.

ПОЛОСКОЗУ'Б *м.* 1. Першы панядзелак вялікага поста. Альпень. Дзень поста, у які дазволена жадаючым не пасціцца. *Полоскозуб — ето на другі дзень по́ста, ба-*

*ло, п'юць, напівáюцца*. Пагост. 2 *экспр*. П'яніца. *Полоскозуб — хто багато п'е*. Пагост.

ПОЛОСКОТА'ЦЬ *зак*. Паказытаць. *Полоскочы дзя́дзьку, хай смеіцца*. М. Малешава.

ПОЛОСОЗА'Р *м*. Сузор'е Плеяды. *Як зор у одны́м мéсцы багато, то кажуць полосозар*. Кароцічы.

ПОЛО'СЬЕ *н. зб*. Пакроеныя палоскі з ліпавай, лазовай і іншай кары. *Кóлісь крóілі полóсья на лапці*. Сямурадцы. *Ліпове полóсье багато моцнéй за лозóве*. Тураў. *Уязóвэ полосье*. Пагост.

ПОЛОТНО' *н*. 1. Палатно. *Шчэ рудэ мое полотно, не беленэ*. М. Малешава. *Просто полотно ткалі, і моды ткалі, як хочэш*. Мачуль. *Кры́лы бы с полотна ў кожаноў*. Хачэнь. 2. Шырокая частка касы. Бярэжцы. *Памянш*. полоцéнцэ. *Полоценцэ беліла да ўсіх сватоў дзеліла, і свáшэчок, і молодых маршáлочок* (з вясельнай песні). Сямурадцы.

ПОЛОТНЯ'НЫ *прым*. Палатняны; зроблены з палатна. *Скáцерсць полотняна вуткана*. Цераблічы.

ПОЛО'Ў *м*. Лоўля. *Рыба не боіцца полóву, а поголóву* (прымаўка). Бярэжцы. *Рыбка не боіцца полову, да помору* (прымаўка). Цераблічы.

ПОЛО'Х *м*. Моцны спалох, перапуд. *Полох — ето ек спужаецца моцно да боіцца ўсёгó*. Пагост. *У ее од нечого полох, заікаецца, кóлісь водзілі к шэптýсі*. Там жа.

ПОЛО'ХАНЬЕ *н*. Пужанне, палоханне. *А шо то за полоханье, вон не боіцца!* Сямурадцы.

ПОЛОЦЕ'ННЫ *прым*. △ Полоцéннэ вороцíло. Навой з палатном. Кароцічы.

ПОЛО'ЦЬ *зак*. Палоць. *Трэба ужэ полоць цыбулю*. Лутнкі. *Не полéць картоплі, я самá вýполю*. Хачэнь. *Чэцьвóрты дзень як светкýюць од гáду, то нéльга було шыць, полоць* (павер'е). Старажоўцы.

ПОЛО'ЦЬЕ *н*. Прaполка. *Для полоцья буракоў поробілі драпачэ́*. Цераблічы. *Ты грóшы побрала за полоцье, а я пойдý лён браць?* Луткі. *Полотья много ў ее*. Хотамель.

ПО'ЛУДЗЕНЬ, ПОЛДЗЕ'НЬ *м*. 1. Час дня пасля абеда (15—16 гадз.). Аздамічы. Прыём ежы ў пасляабедзенны час. *Чотыры́ рáзы éлі — снéданье, обед, полудзень і вечэра*. Запясочча. 2. Поўдзень. *На полдзéнь нашы поля булі*. Сямігосцічы.

ПОЛУДЗІ'ЦЬ *зак*. Палудзіць, пакрыць палудай. *Коб прыстáло, трэбо полудзіць*. Запясочча.

ПОЛУ'ДКА, ПОЛУ'ТКА *ж.*, ПОЛУ'ДОК *м.* Палавінка (звычайна качана капусты). *Озмі полудку капусты.* Альшаны. *Укіне той полудок у печ да спечэ.* Там жа. *Полу́тка.* Запясочча.

ПОЛУ'ДНІКІ *мн.* Казяўкі жаўтаватага колеру. *Полуднікі поўзаюць.* Буразі.

ПОЛУ'ДНОВАЦЬ *незак.* Палуднаваць, прымаць ежу ў пасляабедзенны час. *Полуднуюць і до́ма, і ў полі тым, шчо осталос од обеда.* Запясочча. *Напоўня́ючы! — Просім полудноваць! — Полуднуйце на здороўе!* (формула ветлівага запрашэння і адказу, калі пабочны чалавек заходзіць у час абеду ў хату). Цераблічы.

ПОЛУЖА'ВІНА *ж.* Нізіна. *Селіліса на пагу́рках, бо весною на полужавінах була вода.* М. Малешава.

ПОЛУ'КОШОК, ПОЛУ'ПОШОК, ПОЛЫ'ПОШОК *м.* Палукашак, пляцёны палукаш на воз. *Полу́кошкі ў Городцэ́ робілі.* Хотамель. *Полукошок ставілі на во́за і седзелі, бі ў колясцы.* Сямігосцічы. *Полу́пошкі плелі́ городчукі, хоро́шые, з то́неньків ду́бчыкоў.* Цераблічы. *Полы́пошок.* Там жа.

ПОЛУ'ПАЦЬ *зак.* Палыпаць. *Полупаеш очы́ма, бы не ты.* Луткі.

ПОЛУПІ'ЦЬ *зак. экспр.* Паразрываць. *Подралі, полупілі да гало поробілі.* Хачэнь.

ПОЛУСО'НЦЭ *н.* Узор у выглядзе паўсферы з промнямі на шчыце хаты. *Ро́біць полусонцэ і кру́глое сонцэ для фігуры, для красоты.* В. Малешава.

ПОЛУ'ТОРКА *ж.* Метровае ці паўтараметровае палена. *Менту́з под якой полуторкою ў водзе ховаецца.* Буразі.

ПОЛУЧА'ЦЬ *незак.* Атрымліваць. *Тогды получалі, ой, багато с колхозу.* Пагост.

ПОЛУЧЫ'ЦЦА *зак.* Атрымацца, здарыцца. *Так ёму́ получылоса.* Бярэжцы. *Розрыў се́рца получылосо, умёр.* Там жа.

ПОЛУЧЫ'ЦЬ *зак.* Атрымаць. *А получыў ты гро́шы ў калга́сі?* Запясочча. *Напра́ўду шо і получыш, як робіш.* Хотамель.

ПОЛУШЧЫ'ЦЬ *зак.* Полузаць. *Полушчы орэ́хі, шо на печэ лежаць у торбі.* Верасніца.

ПОЛЫГА'ЦЬ *зак.* Навязаць, завязаць за рогі. *Корову́ ж полыгалі да везлі за собою.* Дварэц.

ПОЛЫ'ГАЦЬ *зак. экспр.* Пахадзіць. *Полыгае год у школу і ўсе.* Бярэжцы.

ПО´ЛЫМ'Е, ПО´ЛОМ'Е *н.* Полымя. *Полым'е палáе.* Запясочча. *Качáем этые галушкі да под полым'е, шоб пожáрыліса.* М. Малешава. *Горыць хата, полым'е, дым!* Хачэнь. *Ногá, ек полом'е печэ́, ек погáны ўкýсіць.* Луткі. *Ек вýрве зáвітку, то прыпекáе ее доўго, шоб полым'е ее брало, то кажэ, шо будзе мучыцца той, шчо ее зробіў, а потым спáліць.* Старажоўцы.

Паводле апавяданняў старых жыхароў, былі людзі, якія маглі ўздзейнічаць на полымя пры пажары: *Клáло на хату, а як тые людзі прышлі, то гэтэ полым'е пошло ў другую стóрону, а после пошло рóўненько, як свечка.* Хачэнь.

ПОЛЫ´Н, ПОЛЫ´НЬ *м.* Палын. *Полын гóркі.* Запясочча. *Полын е, на лекарство рвуть, у водку кідають да п'ють.* Альпень. *Полынь, як чоловек болéе, то ёгó пáраць да п'юць.* Луткі. *Напарым полыню́, то будзеце піць.* Кароцічы. *Полынь некі такі веткáсты, шчо ідзі, то штаны пообрывáе.* Цераблічы.

ПОЛЫСЕ´ЦЬ *зак.* Палысець. *Шо ему такé, шчо вон полысéў, плешыву стаў?* Бярэжцы.

ПОЛЫ´СКВАЦЦА *незак.* Блішчаць, ільсніцца. *Полысквaецца корова от сечкі з мукóю.* Старажоўцы. *Конь гладкі, ў я́блуках, аж полысквaецца.* М. Малешава. *Шо то твоя жонка аж полысквaецца?!* Там жа. *Полысквaецца аж, такі прыбрáны.* Дварэц.

ПО´ЛЬЗА, ПО´ЛЗА *ж.* Карысць. *Нема з іх пользы.* Альпень. *Мне якá ползa з іх?* Запясочча. △ У п о л ь з у. На карысць. *Нікогда не поўдзе ў пользу.* Пагост.

ПО´ЛЬЗОВАЦЬ *незак.* Карыстацца, выкарыстоўваць. *Хто поставіць вýлья, той і пользуе.* Хачэнь.

ПО´ЛЬКА *м.* Полька (танец). Запясочча. *Памянш.* п ó л е ч к а. Верасніца.

ПОЛЮБІ´ЦЦА *зак.* Пакахацца. *Да вон тýтэка жыў да полюбіўса з ею.* Бярэжцы.

ПОЛЮБО´ЎНІЦА *ж.* Палюбоўніца, каханка. *Для жонкі мало грóшэй, а для полюбоўніцы хватае?* М. Малешава.

ПО-ЛЮ´ДЗКІ *прысл.* Па-людску. *Не по-людзкі зробіў.* Аздамічы. *Мне не жалко тоé воды́, але нада робіць по-людзкі: беры́, да не робі гразé.* Старажоўцы.

ПОЛЮ´ШКА *ж.* Пампушка, невялікая булачка. *Полю́шкі мачаем у мак, у олéі, у сметану і емó.* Запясочча.

ПОЛЯ´НКА *ж.* Невялікае поле сярод лесу. *Кáжны собé меў кусок поля ў лесе: корэ́нья повыорвае, то і зро-*

*біць поле загоноў мо п'яць.* Мачуль. *За старым ўрэм'ем у лесў полянкі былі — з дома́шнего поля дасць дванаццаць пудоў жыта, а полянкі давалі больш.* Аздамічы. *Грэ́цко вўдраў полянку і од того назва Грэцкоўе.* Любавічы. *Ко́лісь быў лес як іці на рэчку, а цепер там га́ло зробілі або, ка́ам, полянкі.* Сямігосцічы. *Памянш.* по-ля́ночка. *Поляночкі булі гектар по тры, по п'яць, дзе вўшэйша земля.* В. Малешава.

ПОМАЁВА'ЦЦА *зак.* Адпачыць, добра правесці час на прыродзе. *От помоёваўса, з'ездзіў на рэчку, у лес.* Аздамічы.

ПОМА'ЗАЦЦА *зак.* Памазацца. *Помажуцца разо́ў два-тры да воно й загіне.* Сямурадцы.

ПОМА'ЗАЦЬ *зак.* 1. Памазаць. *Дзёгцем помаж, то не пойдзе вуж.* Сямурадцы. *Зробіць трэбо квача́ помазаць ко́лы.* Сямігосцічы. *Як помажэш, так поедзеш* (прыказка). Там жа. 2. Пабяліць. *Хату помазала, шоб чысто було.* В. Малешава. *Пока́леного прыпечка помазала мелом.* Цераблічы.

ПОМА'ЛЕ' *прысл.* Памалу, паціху. *Помале́ ідзе баржа.* Альшаны. *Трэ пома́ле ехаць, то не зольё вода мотора.* Цераблічы. *Помалёй говорачь.* Бярэжцы. *А мой тато помалёй ідзе.* Сямурадцы. *Я моцно, а она помалёй пла́чэ.* М. Малешава.

ПОМА'ЛІ'ЦЦА *зак.* Здзяцінець, пачаць паводзіць сябе па-дзіцячаму. *Е ка́зка, ек нейкіе дзеды булі пома́лілiса, ек паслі короў.* Цераблічы. *Вон помалі́ўса, ек мале́нькі стаў.* Рыдча.

ПОМА'ЛУ *прысл.* Памалу, паціху. *Заедом помалу ў Перэроўські Млінок.* Дварэц. *Помалу роблю.* Аздамічы. *Як помалу гово́рачь, то я чую.* Сямурадцы. *Памянш.* помале́ньку, помалю́сеньку. *Вол ідзе помаленьку, а вон седзіць да лапці плеце.* Дварэц. *Помалюсеньку ідзе, як пчола ў мед.* Аздамічы.

ПОМА'НВАЦЬ, ПОМА'НЬВАЦЬ *незак.* Паказваць, звяртаць увагу (?). *Поманвала го́лову і казала: на мне ў го́лову погледзі!* М. Малешава. *Поманьвай ціпленят, коб не лезлі ў огород.* Там жа.

ПОМАХНУ'ЦЬ *зак.* Павеяць, абмахнуць. *От жара, коб цебе вецерынка, коб помахну́ло шчо!* Луткі.

ПОМА'ЦАЦЬ *зак.* Памацаць. *Толькі помацай за мордочку, ці не змёрз.* Пагост.

ПОМАЦУ'КАЦЬ *зак.* Тое ж. *Помацукае ў кішэні, шчэ е рублі ці не.* Дварэц.

ПОМЕ'ЖНІК *м.* 1. Сусед па палетку, сенажаці. *А это ж помежнік мой там ходзіць.* Старажоўцы. *Воны помежнікі, разом іх сенóжаці.* Дварэц. 2. Раўчак, які аддзяляе адно поле ад другога пасля таго, як іх узаруць. *Обгэні помежнік, шчоб од другóго буў ровéц.* Сямігосцічы.

ПОМЕ'ЖНІЦА *ж.* Суседка па ўчастку поля, якое апрацоўваюць. *Ты ж моя помежніца на бураках.* Аздамічы.

ПОМЕКЧЭ'ЦЬ *зак.* Памякчэць, абмякнуць. *Ужэ і вона помекчэла, не кідаецца на людзей.* Старажоўцы.

ПОМЕЛЕ'ЦЬ *зак.* Памялець, паплытчэць. *На перэміл ходзём, там помелéло, мелко стало.* Бярэжцы.

ПОМЕЛО' *н.* 1. Памяло. *Помелом вуметом печ і саджаем хлеб.* Кароцічы. *Помело з осокі робілі.* Хільчыцы. 2 *перан.* Няветлівы чалавек. *Просýнуло помело і дзеньдóбры не далó* (прыказка). Цераблічы.

ПОМЕ'ЛЬВАЦЬ *незак.* Круціць, пакручваць. *Кот хвостом помельвае.* Хільчыцы.

ПОМЕЛЬКА'ЦЬ *зак.* Паварушыць, патрэсці. *Дзéду, помелькай ногою.* Аздамічы.

ПОМЕЛЬНІ'К *м.* Малады лясок. *Помельнік — молодые хвóйкі, сам засеяўса лес.* Кароцічы. *Посаджэны лес — помельнік.* Старажоўцы.

ПОМЕ'НШАЦЬ *зак.* Паменшаць. *Як поменшало, то кáгом: от запáла вода.* Бярэжцы. *У корову молока поменшало.* Там жа. *Міша двое курэй вóзьме, дай поменшае ў нас.* Дварэц.

ПОМЕНЯ'ЦЬ *зак.* Памяняць. *Поменяём старý корову на молодý.* Кароцічы.

ПОМЕ'Р *м.* Плата натурай за памол. *Мельнік браў помер п'яць хунтоў з осміны.* Цераблічы. *Як засыпáеш, то вон одразу і браў помер, той мельнік.* Старажоўцы. Разлік, падатак. *Там усе мужыкі смеяцца: прышлі помер браць з начальніка охóты воўкі* (пра нападзенне ваўкоў на коней брыгады, дзе брыгадзірам старшыня паляўнічых). Верасніца.

ПОМЕРГОВА'ЦЦА *зак.* Памеркавацца, параіцца. *Померговáцца трэба, подумаць, як жыць.* Мачуль.

ПОМЕ'РЗЦІ *зак.* Памерзнуць, пазябнуць. *Воны днём там седзяць, а померзнуць ноч'ю, то на печ прыдуць* (пра катоў). Бярэжцы. *Не померзлі под дождж́эм?* Сямігосцічы. *Пошкоруплі, померзлі помідоры.* Цераблічы.

ПОМЕРКЕТА'ЦЦА, ПОМОРКОТА'ЦЦА *зак.* Папа-

ляваць, пабегаць (пра авечку). *Овечка померкеталаса.* Альшаны. *Поморкоталаса.* Луткі.

ПОМЕ'РЦІ *зак.* 1. Памерці. *Бояўса, пока і не помёр, воды́.* Луткі. *З ро́дзіва поме́рла моя маці.* Хотамель. *Кажуць, як дзецей не маў, то пом'ёр соўсём, а як маў — то не соўсём.* Цераблічы. 2 *перан.* Абмерці, анямець (са страху). *Як не́сла гэту жабу, мое цело померло.* М. Малешава.

ПОМЕСІ'ЦЬ *зак.* Патаўчы, памясіць. *Свекроў невестку помесіць-помесіць, бало, і есці не дасць.* Старажоўцы.

ПОМЕ'СЦЬЕ *н.* Месца, прытулак. *Помесцьа нема чоловеку, усюды вугоняюць.* Луткі. *Жарко, кошцы нема ні́дзе помесцьа.* Там жа. *Напіўса чоловек, да помесцьа собе не нахо́дзіў.* В. Малешава. *Лягу спаць і не могу заснуць, помесцьа не находжу.* Там жа.

ПОМЕ'ТНІК *м.* 1. Апоўзіны, якія кладуцца наверх стога. *Лозы́ на под нарубаў і на пометнік.* Дварэц. *Пометнік — веткі з лозы́ з'язаные на сто́га, а шчо отруба́юць — то ўніз.* Там жа. 2. Паплёт. *Пометнік уродзі лат, бывае з лісцем.* Запясочча. 3. Бакавіны ў *курэні.* Запясочча.

ПОМЕ'ЦЦА *зак.* Назвацца, прыкінуцца. *Помеўса грыбом, то лезь у коро́бку* (прыказка). М. Малешава.

ПОМЕША'ЦЦА *зак.* Змяшацца, перастаць адрозніваццa. *Мужыкі з ляхамі помешаліса.* Запясочча.

ПОМЕША'ЦЬ *зак.* Перашкодзіць. *Собака помешаў, ато прамо йшла на мэне́ дзіка свінья́.* Мачуль.

ПОМЕШЧА'ЦЦА *незак.* Знаходзіцца, мясціцца. *І му помешчаліса там, у школі.* Кароцічы.

ПОМ'ЁТ *м.* Памёт, гной. *Кучугу́р траву́ вурос на пом'ёці.* Кароцічы. *З короўнікоў той пом'ёт вукідаюць.* Там жа. *Пом'ёт пыд цыбулю кладзе́м.* Мачуль.

ПОМІ'Ж *прыназ.* Паміж. *Поміж двома́ кацерамі чоўно́м проехаў і не накінуло.* Пагост. *Поміж чоўно́ў прыставай, там наша паль.* Там жа.

ПОМІКУ'ЛІЦЦА *зак.* Стаць змрочным, насупіцца. *Чого ты так помікуліўса, гледзіш на мене як воўк?* Запясочча.

ПОМІКУ'ЛІЦЬ *зак.* Прыплюшчыць, прыжмурыць. *Помікуліць очы да так позірае.* Луткі.

ПОМІ'ЛОВАНЬЕ *н.* Памілаванне, дараванне. *Хто людзей стрэляў, паліў, ім от парцізан поміловалья не було.* Пагост.

ПОМІ′ЛОВАЦЬ *зак.* Памілаваць, пашкадаваць. *Ні одну дўшу не поміловалі карáцелі.* Пагост.

ПОМІНА′ЛЬНЫ *прым.* △ Дзеды́ помінáльные. Дзяды, радаўніца. Луткі.

ПОМІНА′ЦЬ 1 *зак.* Перагнаць, апярэдзіць. *Ек поехалі, то до Прып'яці усіх чысто балагóлоў помінáў.* Цераблічы. 2 *незак.* Памінаць, рабіць памінкі. *Ходзіла ў шэсць недзель помінáць.* Старажоўцы.

ПО′МІНКІ *мн.* Памінкі, памінанне. *Помінкі трэцёго дня робілі.* Запясочча. *У шэсть недель трэба помінкі зробіть і вóздух знять.* Альпень. *На помінкі варацъ кашу, боршч.* Бярэжцы. *Напіўса, ек дурэнь на помінках* (прымаўка). Старажоўцы.

ПОМІРА′ЦЬ *незак.* Паміраць. *Косарэ́ косяць, ветрык повівáе, молодá удоўка з жалю поміраe* (з песні). Старажоўцы.

ПОМІРЫ′ЦЦА *зак.* Памірыцца. Альпень.

ПОМЛЕ′ЦЬ *зак.* Памлець, анямець. *У менé і рýкі помлелі.* Сямігосцічы. *А му ўжо і помлелі.* Бярэжцы.

ПО′МНІЦЦА *незак.* Помніцца, прыпамінаецца. *Мне шчэ помніцца тэ стары́ннэ.* Бярэжцы. *Шчэ й собе помнілосо трошкі, як було.* Хачэнь.

ПО′МНІЦЬ *зак.* Помніць, памятаць. *Я шчэ помню, як наш дзядзько Ціхон робіў.* В. Малешава.

ПОМО′ГА *ж.* Дапамога. *Дзякуй богу за помóгу* (прыказка). Сямурадцы.

ПОМОГА′ЦЦА *незак.* Памагаць, дапамагаць. *Ек шэпталі, то од кого помагаецца, а од кого і не.* Верасніца.

ПОМОГА′ЦЬ *незак.* Тое ж. *Ходзем да поможэм покосіць суседу на болóньі.* М. Малешава. *Горуй, небожэ, то й бог поможэ* (прыказка). Сямігосцічы. *Помогае, як мéртвому кадзіло* (прымаўка). Хачэнь. △ Помогáй бог (помогáйбо)! Прывітанне ідучага таму, хто працуе. *Помогáй бог! — Дзя́куй!* Сямігосцічы. *Помогáйбо! — Дóбрэ здорóўе!* Луткі. *Помогай божэ, да не намочы́ божэ!* (на сенакосе). Старажоўцы.

ПОМОГЦІ′ *зак.* Памагчы, дапамагчы. *Вон сам не проживе, трэба помогці.* Запясочча. *Не ўмееш помогці, то лепш помоўчы* (прымаўка). Там жа. △ Помозí божэ! Прывітанне таму, хто працуе. Запясочча. *Помозі вам божэ попрацъ.* Верасніца.

ПО-МО′ЕМУ *прысл.* Так, як я. *Не по-моему робіш.* Аздамічы.

ПОМО'Л *м.* Памол. *Цепер у нас мельніца і на про́сты помол і на путлёўку.* Запясочча.

ПОМОЛІ'ЦЦА *зак.* Памаліцца. *Мой дзед ко́лісь не помо́лячыс не будзе робіць.* Аздамічы.

ПОМОЛОДЗЕ'ЦЬ *зак.* Памаладзець. *На ро́дзіну прыехала да ек помолодзела.* Пагост.

ПОМОЛО'ЧЭНЫ *дзеепрым.* Памалочаны. *Мое ўсе помолочэно, пороблено.* В. Малешава. *Ек помолочэно жыто, то беруць колоскі.* Там жа.

ПОМОРО'ЗІЦЬ *зак.* Памарозіць. *Мороз гуркі поморозіў.* Кароцічы.

ПОМО'РОК *м.* Мор, пошасць, пагібель. *На ўсе прышоў поморок, на това́р і на людзей.* Запясочча. *Хай но іней сцене́, то прыдзе на іх поморок, на этых мух.* Луткі. *Коб на тебэ́ поморок найшо́ў* (праклён). Альпень. *Ой, не озьме́ цебе поморок!* Сямурадцы. *На людзей поморок будзе, як гром грэміць на го́лэ дзерэво* (павер'е). М. Малешава. △ П о м о р о к ё г о в е д а е. Пра поўнае няведанне і нежаданне ведаць. Запясочча.

ПОМОРО'ЧЫЦЬ *зак.* Замарочыць, затлуміць. *Го́дзі крыча́лі, го́лову поморочылі ўжэ.* Сямурадцы.

ПОМОРУ'ДЗІЦЬ *зак.* Перачакаць, пацягнуць час. *Поморудзіць трэба тут.* Луткі.

ПОМО'РХНУЦЬ *зак.* Зморшчыцца. *Поморхла шкура, стала така́ бліску́ча, обвіслая.* Хачэнь.

ПОМО'СТ *м.* Падмосткі. *Зробе́ць помост, то любота́ будзе.* Хачэнь. Падстаўка пад калоду пчол на дрэве. Хотамель. Насціл з дошак у возе, санях. *Помост у возе, а то подлога.* М. Малешава.

ПОМО'СЦІНА *ж.* Насціл з дошак у возе. Аздамічы.

ПОМОТА'ЦЬ *зак.* Паматаць, зматаць. Хотамель.

ПОМОТЛЯ'НЫ *дзеепрым.* Пакручаны. *От так помотляны ўсе яблоні.* Луткі.

ПОМО'ЎКА *ж.* Гаворка, нагавор. *На во́ўка помоўка, а медзведзь знішка* (прымаўка). Запясочча.

ПО'МОЧ *ж.* Дапамога. *Не хочу твое помочы, сама подою!* Цераблічы. *Кот на неку траву нарыне да есць, знае, шчо от ее будзе помоч.* Луткі. *Мне давалі помоч с колхоза.* Хачэнь. *Это не помоч, а не́моч.* Тураў. *О, ведзем за собою і свою помоч на роботу* (жартам, пра дзяцей). Талмачава. △ Б о г у п о м о ч! Пажаданне таму, хто працуе. Луткі.

ПОМОЧНІ'ЦА *ж.* Памочніца. *Звоне́ц — жыту коне́ц, а метліца — жыту помочніца* (прымаўка). Цераблічы.

*Метліца — соломе помочніца, а хлебу ўтрóна* (прымаўка). Там жа.

ПОМОЧЫ'ЦЦА *зак.* Намачыцца. *От седзеў под вўворотом і не помочыўся.* Цераблічы.

ПОМОЧЫ'ЦЬ *зак.* Памачыць, намачыць. *Помóчыць, помочыць, а дáле подсўшыць, да зноў дождж* (пра надвор'е). Хачэнь.

ПОМПУ'ШКА *ж.* Пампушка, невялікая булачка з пшанічнай мукі. *Як помпушка — то тоўшчэйшы ковалок цеста, а як палюшка, то тончэйшы.* Тураў. *Рошчыняць, мéсяць, поўкачваюць да пекуць на чэрэне помпушкі, з своé пшэнічное мукі.* Бярэжцы.

ПО'МСТЫ *прым.* Помслівы. *Помсты чоловек.* Бярэжцы.

ПОМУ'І, ПОМОІ' *мн.* Памыі. *Як мўеш посуду, то помуі остаюцца.* Луткі. *Не роўняючы, як помоі той квас.* Велямічы. *Памянш.* п о м ў й к і. Бярэжцы.

ПОМУ'ЙНІЦА, ПОМУ'НІЦА, ПОМЫ'ІЦА *ж.* Ражачка для зліваная памыяў, памыйнае вядро. *Котлеты тые ў помуйніцу укінула.* Дварэц. *Помыіцу ставім, шоб жар падаў з посвéта.* М. Малешава. *Помуйніца з вушыма для корóвы, поіць ее.* Цераблічы. *Помыйніца.* Аздамічы. Вядро, у якім носяць яду свінням. *Озьмі на ґанку дзве помўніцы да замешай свіньям есці.* Кароцічы. Ямка ў зямлі, куды выліваюць памыі. Аздамічы.

ПОМУ'ЛІЦЦА *зак.* Памыляць губамі, памяцца. *Помуліцца да скажэ.* М. Малешава.

ПОМУ'ЛЯЦЬ *зак.* Памацаць, вызначыць на вобмацак. *Вона слепая, але помўляе і знае, екіе копейкі.* Сямігосцічы. *Помуляй, ці онэ́ тонкé ці тоўстэ́.* Кароцічы.

ПОМУ'РЗАЦЦА *зак.* Запэцкацца, выкачацца. *Свіньня помурзаліса ў гразь да чорные сталі.* Луткі.

ПОМУСЛЁВА'ЦЬ *зак.* Падумаць, прыкінуць. *Памыслюе целушка да вўп'е тые помыі.* Луткі.

ПОМУ'СЛІЦЬ *зак.* Падумаць. *Помусліла і слёзы поплулі сáмі.* М. Малешава.

ПОМУ'ЎНІЦА *ж.* Пралёт паміж гонкамі ў плыце. *Гледзі, не ўпадзі ў помыўніцу.* Запясочча.

ПОМУЦІ'ЦЦА *зак.* Атрымаць расстройства жывата. *Полейчáюць поросят, то воны помуцяцца.* Хільчыцы.

ПОМУ'ЦЦА *зак.* Памыцца. *Мне трэбо помуцца, дай перэмéнку.* Сямурадцы. *Язі труцца і йдуць на ямку помуцца, а после гэтого пошлі по своіх дорогах.* Верасніца.

ПОМУ'ЦЬ *зак.* Памыць. *Возьмі хорошэ помуй да порэж цыбулю.* Сямурадцы. *Трэба помуць подлогу.* Луткі. *Не будзе кісці хлеб, ек помуеш дзежку, казалі.* Старажоўцы.

ПО'МЧА *ж.* Бура, ураган. *Помча, ек вецер, чорна хмара, з дождж<u>э</u>м ці снегом.* В. Малешава. *Помча узеля́с, то на двор не выйдзеш.* Аздамічы. *От помча сходзіласа да знесло ўсе село.* Там жа. *Як схопіцца помча, то кажуць: нехто помёр.* Луткі. Віхор, моцны вецер. *Схопіцца помча да понесе ўверх траву.* Цераблічы. *Як помча вэліка, то лета́е той млін як бурка.* Мачуль.

ПОМЯ'Г, ПОМ'Я'Г *м.* Воблака, хмарка. *Хмар не було, а так помяг выйшоў, да бліснуло і забіло чоловека.* Сямігосцічы. *На небі красные пом'егі, то на негоду* (прыкмета). Там жа. *Пом'ягі поцегло́ по чыстому небу.* Мачуль. *Памянш.* п о м'я ж о́ к. *Пом'яжкі на небі — будуць гарбузы́ добрые або гуркі* (прыкмета). Сямігосцічы.

ПОМ'Я'КНУЦЬ *зак.* Зрабіцца мякчэйшым. *Покраснеюць яблука і пом'якнуць.* Луткі.

ПОМ'ЯНУ'ЦЬ *зак.* Памянуць. *Пом'яні его божэ* (пры развітанні з нябожчыкам). Запясочча.

ПОМ'Я'ЦЬ *зак.* Памяць. *Потрэпае лён да помненогамі.* Запясочча. *Як спраўна баба, то помне коноплі ў ногах, аж курыць.* Хотамель. *Помне эты мак да ў картоплі.* Старажоўцы. *Помном просо.* Хачэнь. *Пойду, хоць товар ужэ пом'яў, скошу ту траву.* Кароцічы. Памясіць, пабіць. *Троха грып помне да пускае.* Цераблічы. *Казала свекроў: помні ей рэбра добро, поволочы ее за косы.* Старажоўцы. *Ек улезлі воны ў Росею, то там іх пом'ялі.* В. Малешава. Патаптаць. *Его ж колісь і коні пом'ялі.* Луткі.

ПОНАБЕГА'ЦЬ *зак.* Напоўніцца. *Такіе мулёнікі, кроўю понабегалі, страх!* Луткі.

ПОНАБІВА'ЦЬ *зак.* 1. Адлупцаваць. *Понабівала за то, шчо вон б'е чым попа́ло.* Сямігосцічы. 2. Панабіваць. *Зрэжэ дубового пня, чугуна понабівае — і жорна.* Луткі.

ПОНАБІРА'ЦЬ *зак.* Набраць, узяць (шмат). *Понабіралі суніц.* Дварэц. *Понабіраюць гро́шэй за тые яблука.* Хачэнь.

ПОНАБЛУ'ТВАЦЦА *зак. метаф.* Панаязджаць. *Гэтые годы понаблутвалосо разных людзей.* Хачэнь.

ПОНАБРАКА'ЦЬ *зак.* Панабракаць, успухнуць. *Попоходзіла багато, то понабракалі ногі, воны пороб'яцца бы коло́дзье.* Луткі.

ПОНАВА'РВАЦЬ *зак.* Панаварваць. *А тые варацъ усе, понаварвалі саганы.* Сямігосцічы.

ПОНАВЕ'ЗЦІ *зак.* Навезці. *Понавёз крупоў, гуркоў, абў елі.* Дварэц.

ПОНАВО'ЗІЦЬ *зак.* Навазіць. *Нашо ты понавозіла дрова?* Верасніца. *Хустóк понавозілі багато ў лаўку.* Дварэц.

ПОНАВУ'ЧВАЦЦА *зак.* Панавучвацца. *Дзеці хочуць понавучвацца робіць усе.* Цераблічы.

ПОНАГОНІ'ЦЬ *зак.* Панагнаць. *Понагонілі немцы іх у цэркву — да людзі згорэлі.* Пагост.

ПОНАГОТОВА'ЦЬ *зак.* Нагатаваць. *Шо так мало понаготовала?* Сямігосцічы.

ПОНАГРО'МВАЦЬ *зак. экспр.* Панабіраць. *Ох, понагромвалі по поўной шáньцы ягод.* Верасніца.

ПОНАГРУ'ЖВАЦЬ *зак.* Нагрузіць. Дварэц.

ПО-НАД *прыназ.* Па-над, уздоўж. *Язь і лешч кладуць ікру по-над рэкою.* Верасніца.

ПОНАДАВА'ЦЬ *зак.* Панадаваць. *Я ім понапіхала, понадавала!* В. Малешава.

ПОНАДВО'РКУ *прысл.* Па панадворку. *Порося ж ходзіло понадворку.* Лутқі.

ПОНАДЗІРА'ЦЬ *зак.* Панаціраць, пазрэзваць. *А кóсточкі у ногах понадзіраеш!* М. Малешава.

ПОНА'ДЗІЦЦА *зак.* Унадзіцца. *Понадзіліса куры у просо.* Аздамічы.

ПОНА'ДЗІЦЬ *зак.* Панадзіць, паманіць. *Понадзіла баба цукерком дзіця.* Лутқі.

ПОНА'ДНО *прысл.* Прыемна, добра, зручна. *Ву гомонéце, а мне понадно спаць.* Сямурадцы. *А шчэ холодновáто, то понадно свіньям у хлевé.* Чэрнічы. *Коб шчэ дзе хвоёву лес, дай на сонцы, от понадно.* Лутқі.

ПОНА'ДНЫ *прым.* Прывабны, прыдатны. *Понаднэ гэтэ дзерэво пчолам.* Бярэжцы. *Та вода мне так понадна.* М. Малешава. *У нас такі бор, вон на вужоў понадны!* Лутқі.

ПОНАЕДА'ЦЦА *зак.* Панаядацца. *Ек сам наеўса, то кажэцца ўсе понаедаліс.* Бярэжцы.

ПОНАЕ'ДВАЦЦА *зак.* Тое ж. *Понаедваліса той траўкі куры!* В. Малешава.

ПОНАЕ'ДЗЕНЫ *дзеепрым.* Сыты, накормлены. *Дзеці зара — не горэ, воны понаедзеные.* Чэрнічы.

ПОНАЗАПА'ШВАЦЬ *зак.* Назапасіць. *Було траву,*

*було й погоды, то поназапашвалі хозяіны сеноў і на ту зіму.* Пагост.

ПОНАЗЫВА'ЦЬ *зак.* Наззываць. *Поназывай до себé знакомых у хату да понапіваліса.* Сямігосцічы.

ПОНАКАТЫ'ЖЫЦЦА *зак. экспр.* Натапырыцца, надзьмуцца. *Во, бачыце, понакатыжваліса!* Запясочча.

ПОНАКЛЁЎВАЦЦА *зак.* Панаклёўвацца. *Яйка понаклёўваліса, дай вываліса вутвы.* Мачуль.

ПОНАКОРМЛЯ'ЦЬ *зак.* Накарміць. *Понакормляеш, да ўсе рыкáе да рыкáе.* Мачуль.

ПОНАКО'ЧВАЦЬ *зак.* Панакочваць. *Тые колóды понакочвалі на туюю машыну.* Хачэнь.

ПОНАКО'ШВАЦЬ *зак.* Панакошваць. *Тут понакошвалі по тры возы сена.* Хачэнь.

ПОНАКРЫ'ВАТЫ *дзеепрым.* Панакрываны. *Гладышкі понакрыватые булі.* Хачэнь.

ПОНАКУПО'ЎВАЦЬ *зак.* Накупляць. *Дзецям понакупоўвалі ўсе.* В. Малешава. *Понакупоўвалі свет!* Луткі.

ПОНАЛА'МВАЦЬ *зак.* Наламаць многа, шмат. *Дзéўкі поналамваюць коры да весéлье робяць* (пра дзіцячую гульню). Сямігосцічы.

ПОНАЛЕ'ПВАЦЬ *зак.* Паналепліваць. *Камéнцы з глею поналепвалі дзеці, насушылі і гулялі «ў камéнцы».* М. Малешава.

ПОНАЛЕ'ТВАЦЬ *зак.* Паналятаць. *Поналетвалі мухі да бізкаюць.* В. Малешава.

ПОНАЛІВА'ЦЬ *зак.* Паналіваць. *Поўно поналівалі, цекціме.* Кароцічы.

ПОНАЛО'ЖВАЦЬ *зак.* Апрануць. *Ідзі поналожвай на себе шмáцье!* Сямігосцічы.

ПОНАЛОЎЛЯ'ЦЬ *зак.* Налавіць. *Некотóрые рыбы поналоўлялі, а некоторые проспалі.* Пагост.

ПОНАЛУ'ПВАЦЦА *зак. экспр.* Наесціся ўдосталь. Тураў.

ПОНАЛЯ'ТАЦЬ *зак.* Паналятаць. *У нас уперóд такіх птушóк не було, гэто цепер поналяталі з лесу.* Запясочча.

ПОНАМЕ'ЛЬВАЦЬ *зак.* Панамолваць. *Понамельваём у глыбоку восень і на прóвесні.* Пагост.

ПОНАМЕ'ТАЦЬ *зак.* Панамятаць. *Снегу понаметало вышэй плóту.* Бярэжцы. *Пургá, понаметало такіе гýры!* Запясочча.

ПОНАМЕ'ТВАЦЬ *зак.* Тое ж. *Понаметвае гуры, а дзе змецé — голо.* Верасніца.

ПОНАМОКА'ЦЬ *зак.* Панамакаць. *Понамокалі пастухі на пашы.* Сямігосцічы.

ПОНАМУ'ЛЬВАЦЦА *зак.* Нацерціся, панабівацца. *Мулёнікі на руках понамульваюцца од косы.* Дварэц.

ПОНАМУ'ЛЬВАЦЬ *зак.* Нацерці. *У чоботах понамульваеш ногі.* М. Малешава.

ПОНАО'СТРЫВАЦЬ *зак.* Навастрыць. *Понаострываў пілкі да хорошэ рэзаць дрова.* Дварэц.

ПОНАПА'ДАЦЬ *зак.* Напасці. *Мотыліцы понападалі на овечкі, то пропалі.* Хачэнь.

ПОНАПА'ДВАЦЬ *зак.* Тое ж. *Колісь короста эта понападвала зімою.* Бярэжцы.

ПОНАПІВА'ЦЦА *зак.* Напіцца. *Колісь которые понапіваюцца на кермашы да ў дных полотняніках, босые на снезі колкамі б'юцца.* Пагост.

ПОНАПІНА'ЦЦА *зак.* Напружыцца, прыкласці намаганне ў рабоце. *Покосіў, понапінаўса троха, дай боліць жывот.* Пагост.

ПОНАПО'ЙВАЦЬ *зак.* Напаіць, насыціць. *Понапойвала целята, а воны рэвуць.* Верасніца.

ПОНАРА'ВІЦЦА *зак.* Спадабацца. *Ему тут понаравілосо, не хочэ уеждаць.* Старажоўцы. *Я бачу, шо я ёй не понаравіласа.* Сямурадцы.

ПОНАРО'БВАЦЦА *зак.* Зрабіцца, з'явіцца. *Не лезь до здохлое гусе — прышчэ понаробваюцца.* М. Малешава.

ПОНАРО'БВАЦЬ *зак.* Нарыхтаваць, нарабіць. *Прошлы год сена понаробвалі доволі.* Сямурадцы.

ПОНАРОБЛЯ'ЦЬ *зак.* Тое ж. *У мене сынок быў бондаром, то шчо хоч понаробляе.* Сямурадцы. *Некоторые понароблялі сена.* Хачэнь.

ПОНАРОДЖА'ЦЬ *зак.* Нарадзіць. *Воны ледзьве понароджалі дзецей, а ўжэ хворые.* Сямурадцы.

ПОНАРОСТА'ЦЬ *зак.* Нарасці ў вялікай колькасці. *Понаростало буракоў, шо не дамо рады вурваць, трэ помочнікі.* Пагост.

ПОНАРЫВА'ЦЬ *зак.* Нарваць вялікую колькасць. *Воно мо на Купалного Івана понарывала ўсякого зельяʔ* Хачэнь.

ПОНАРЭ'ЗВАЦЦА *зак. экспр.* Наесціся. *Понарэзваўса товар да стаў на стойло у Медзьведзях!* Луткі.

ПОНАСА'ДЖВАЦЦА *зак. экспр.* Тое ж. *Вутвў ужэ понасаждваліса, поелі дзве ведрэ!* Верасніца.

ПОНАСО'ЎВАЦЦА *зак.* Насунуцца. *Понасоўвалосо землі.* Хачэнь.

ПОНАСТАНОЎЛЯ'ЦЬ *зак.* Набудаваць, наставіць. *Людзі понастаноўлялі там хатоў!* Запясочча.

ПОНАСТРО'ЙВАЦЬ *зак.* Прыгатаваць, нарыхтаваць. *Понастройвалі ўсёго на свеце к веселью.* Бярэжцы.

ПОНАТО'МВАЦЦА *зак.* Натаміцца, напрацавацца. *Так понатомваліса, шо лёдва попрыходзілі.* Бярэжцы.

ПОНАТО'ПТВАЦЬ *зак. экспр.* Накласці поўна. *Шчо то ты понатоптвала поўны кішэнé?* Луткі.

ПОНАТУ'РЫЦЦА *зак.* Занатурыцца, заўпарціцца. *Дзіця понатурыцца, не можно прыгорнýць.* Запясочча.

ПОНАТЫКА'ЦЬ *зак.* Панатыкаць. *Понатыкаў тычкі на боб.* Альшаны. *Клечáнье понатыкаем на трóіцу: клен, дуб, в'яз, берэзу, лепешніку понакідаем у хаце.* Цераблічы.

ПОНАЎКО'ШВАЦЬ *зак.* Панакошваць. *Там лапку вукосіў, там лапку — да понаўкошваў і корові, і целяці.* Пагост. *Коб здороўе, то понаўкошвалі б собе ўсе тáмака.* Хачэнь.

ПОНАХА'ПАЦЬ *зак.* Нахапаць. *Понахапалі мукі которые.* Пагост.

ПОНАХІЛЯ'ЦЬ *зак.* Даць прытулак. *От понахілялі дармоедоў!* Хотамель.

ПОНАЦЕРА'ЦЬ *зак.* Панаціраць. *Скрозь понацераём м'ясо солью.* Сямігосцічы.

ПОНАЦЯ'ГВАЦЬ *зак. экспр.* Панацягваць. *Понацягваюць од усіх сторон.* В. Малешава.

ПОНАЧА'ЎВАЦЬ *зак.* Навыціскаць. *І компоту понасýшвалі, і соку поначаўвалі, було яблук.* Пагост. Насядзіць. *Поначаўваюць у хаце дзеці.* Бярэжцы.

ПОНАШМО'РГАЦЦА *зак. экспр.* Замучыцца. *З гýркі дзень понашморгаесса!* Луткі.

ПО-НА'ШОМУ *прысл.* Па-нашаму. *Там було по-нашому называлос гумно.* Бярэжцы. *По-нашому мешок, а ў Бечах машок.* Пагост.

ПОНАШУКО'ЎВАЦЬ *зак.* Нашукаць. *Понашукоўвала цветоў і поехала на вéсну насенье продаваць.* Луткі.

ПО-НА'ШЫНСКОМУ *прысл.* Па-нашаму. *По-нашынскому так!* Аздамічы.

ПОНАЯ'ДВАЦЦА *зак.* Панаядацца. *Понаядвайцеся добро!* Цераблічы.

ПОНЕ'БНІК *м.* Перакладзіна ў кроснах, да якой

прывязваюцца чапёлкі. *К етому ніту короткі понебнік будзе.* Верасніца.

ПОНЕДЗЕ′ЛКОВАЦЬ *незак.* Пасціць у панядзелак. *То коліся понедзелковалі, посцілі.* Сямурадцы. *Я ж понедзелкую цепер.* Запясочча.

ПОНЕДЗЕ′ЛОК *м.* Панядзелак. *Коліся казалі, шчо усё трэбо було з понедзелка робіць, огоро́дніну сеяць ці шчо.* Хачэнь. *П'ятніца — почына́льніца, субота корова́льніца, недзеля — венча́льніца, светы́ понедзе́лку поцера́ў нам дзеўку* (прымаўка). Там жа.

ПОНЕМЕ′ЦЬ *зак.* Анямець. *Ек блісне, да ек лясне, то не ворухнуцца, не сказаць, понемелі ўсе у хаці.* Пагост. *Прала ў полонцы да понемелі палцы — не ўзяць того шмацця.* Там жа. *Моўчыце, ек понемелі.* Там жа.

ПОНЕНЕ′КВАЦЬ *незак.* Падтакваць. *Іван даўно там, от седзіць да пононеквае.* Тураў.

ПОНЕСЦІ′ *зак.* Панесці. *Дзеці такіе, шчо однэ другого не понесе.* Бярэжцы. *Бу́рыў, бу́рыў вецёр, а да́лей і понёс стрэху.* Запясочча.

ПОНІЖА′ЦЬ *незак.* Зніжаць, прымушаць знізіцца. *Этые гусі лётаюць, лётаюць, а гусак поніжае этых гусей.* Старажоўцы.

ПОНІЗА′ЦЬ *зак.* Панізаць. *Поніжэм в'юны на метку.* Бярэжцы.

ПОНІ′ЗІЦЦА *зак.* Знізіцца. *Гэтые горы понізіліс да нека роўніна́.* В. Малешава.

ПОНІЗО′ЎШЧЫНА *ж.* Панізоўе. *Понізоўшчына — гэто куды рэка цечэ, за Мо́зыром.* Хачэнь. *Понізоўшчына — гэто Погост, Семурадцы, Сторожоўцы.* Там жа.

ПОНІ′КЛЫ *прым.* 1. Блізарукі. *Вон і сам поніклы і дзіця його понікле.* Тураў. 2. Упарты, натурысты. Верасніца.

ПОНІМА′НЬЕ *н.* △ Без поніма́нья. Без развагі. *П'е без поніманья.* В. Малешава.

ПОНІМА′ЦЬ *незак.* Знаць, разумець, мець уяўленне. *На вашом сенокосі столько лекарство́ў, да ніхто не понімае!* Сямігосцічы. *Я понімаць не хочу, шо вон говорыць.* В. Малешава.

ПОНІМУ′ШЧЫ *дзеепрым.* Кемлівы. *Понімушчая баба да ўсе знае.* Цераблічы.

ПО′НОЖ *м.*, ПОНОЖЭ′ *мн.* Понаж, панажы. *Ты ж не на той поном наступіла, бачыш, не так получаецца.* Верасніца.

ПОНО'ЗДРАНЫ *прым.* Наздраваты (пра хлеб). Аздамічы.

ПОНО'ЗДРЫЦЦА *зак.* Зрабіцца наздраватым (пра хлеб). *Хлеб поноздрыўса, удаўса хорошы.* Аздамічы.

ПОНО'С *м.* 1. Вывадак. *Другім поносом ужэ бўсько вувеўса.* Хотамель. 2. Панос. *Як понос, то ягоды даём.* Бярэжцы.

ПОНОСІ'ЦЬ *зак.* 1. Панасіць. *Поносяць трохі да покідаюць тэ плацье.* Луткі. 2. Знасіць. *Усе б гэто раней поносілі! А цепер нема кому доносіць.* Луткі. 3. Хутка панесці. Аздамічы.

ПОНО'СІЦЬ *незак.* Мець панос. *Нарваў бы ты ельцá, ек корову поносіць, то добрэ.* Запясочча. *Ек целя поносіць, то вуцегнуць з пóеса ніточку да поўяжуць на хвосціка, і дзён тры — пройдзе понос.* Цераблічы.

ПОНО'СКА *ж.* Панос. Аздамічы.

ПОНОЧОВА'ЦЬ *зак.* Паначаваць. *Поночоваў у ёгó, а потóм поехаў.* Аздамічы.

ПО'НОЧЫ *прысл.* Поначы, ноччу. *Ходзяць тут поночы усякіе.* Азяраны.

ПОНОШЭ'НЬЕ, ПОНОШЭ'НІЕ *н.* Уборы. *У кажном селе іншое поношэнье.* Цераблічы. *І ў селе меняецца поношэнье.* Луткі. *Другі розговор і другé поношэнье.* М. Малешава. *Цепер зусім ужэ другé пошло поношэнье, не такé, як кóлісь було.* Аздамічы. *Поношэнія такіе гідкіе.* В. Малешава.

ПОНУ'РА *м.* і *ж.* Панура. *Понура ні з кім не говорыць, оннó чмышэ.* Аздамічы. *Так, то вўмеле ўсе на свеце, а так, то моўчыць, понура нейка.* Сямурадцы. *Нашчо вам гэта понура? Моўчыць усе.* Луткі.

ПОНУ'РЫ *прым.* Пануры, панылы. *Чого ты такі понуры?* М. Малешава. *Понуры чоловек як звер.* Хотамель.

ПОНУ'РЫСТЫ *прым.* Тое ж. *Ёго бацько такі понурысты, зрóду не даў «здрастуйце».* Сямурадцы.

ПОНУ'РЫЦЦА *незак.* Панурыцца. *Понурыўса, шо й вочэ́й не подыме.* Хільчыцы.

ПОНУ'РЫШЧЭ *н.* Панура. *От понурышчэ, не знáе, шчо зробіць, косіць і то не ўмее.* Пагост.

ПОНЧО'ХА *ж.* Панчоха. *Пчола крозь пончóху прокўсіц.* Запясочча. *Пончохі потопталіса.* Бярэжцы.

ПОНЮХО'ЎВАЦЬ *незак.* Нюхаць, прынюхвацца. *Ідзе і понюхоўвае.* Аздамічы.

ПОНЯ'ТЛІВЫ *прым.* Кемлівы, панятлівы. *Але така понятліва була!* Сямігосцічы.

ПОНЯ′ЦЦА *зак.* Узяцца. *Так вона шчо поняласа есці? О гэ́ты с сліў компот і тэ молоко, шо ў банках згушчо́нэ.* Сямурадцы. Пабрацца, пакрыцца, праявіцца. *Понялóсо усякімі разнымі цветáмі* (пра ігру, блікі, пералівы сонца). Альпень.

ПОНЯ′ЦЬ *зак.* 1. Злавіць. *Як пóймэ на дýбі рой, то ужэ ёго.* Хотамель. *Вэчэром будуть сходіцца до короў, то можэте кого-нібудь поняць.* Альпень. 2. Зведаць, пазнаць. *Я собаку як вýдзюжу, то вон мене поймé!* Хачэнь. *Порося як оплы́цінка, а шо то таке оплыцінка, я не пойму.* Рыдча. 3. Узяць за звычку, дайсці да ўсведамлення. *А собака бачыш шо поняў — у молоко.* Луткі.

ПОНЯ′ЦЬЕ, ПОНЯ′ЦІЕ *н.* △ Н е м е ц ь, н е з н а ц ь п о н я́ ц ь я (п о н я́ ц і я). Не мець уяўлення. *Злодзéі такіе, шо поняцьпя нема.* В. Малешава. *Там поняція не знаюць косіць косой.* Кароцічы. *Поняцьпя не маў, шчо б голова болела од дзёгцю.* Луткі.

ПООБГА′РВАЦЬ *зак.* Абгарэць. *Сонцэ дзень паліло да пообгарвалі носы́, красные, ек морква.* Пагост.

ПООБДЗЕ′ЛЬВАЦЬ *зак.* Панадзельваць, надзяліць. *Покуль своіх пообдзельваеш, то собе нема.* Запясочча. *Пообдзельваў усіх кручкáмі ваш рыбак.* Луткі.

ПООБЕ′ДАЦЬ *зак.* Паабедаць. *Ходзіце, дзеці, пообедаць трэба, а тогды́ полýдноваць будом.* Цераблічы.

ПООБ'ЕДА′ЦЬ *зак.* Пакусаць, абарваць. *Пополя́таў кот за кошкамі, дак онь о шкуру пооб'едáлі.* Дварэц.

ПООБЖО′РВАЦЦА *зак. экспр.* Пааб'ядацца, паабпівацца. *Пообжорваліса коровы брагою.* Луткі.

ПООБКУ′СВАЦЬ *зак.* Абкусаць, пакусаць. *Пообкусвалі мóшкі цыцкі коровáм.* Сямурадцы. *Нам рукі пообкусвалі мошкі.* Рычоў.

ПООБЛЕЗА′ЦЬ *зак.* Аблезці, аблупіцца. *Днёў мо шэсць брала лён, рукі поблезалі.* Сямігосцічы.

ПООБЛО′МВАЦЬ *зак.* Паабломваць. *Гэтые дзеці пообломваюць з гольéм!* Луткі.

ПООБМУ′ЛЬВАЦЬ *зак.* Намуляць, нацерці. *Ногі пообмульваў.* Луткі.

ПООБПАДА′ЦЬ *зак.* Паадпадаць. *Пообпадало мазанэ ў сцёпцы.* Пагост.

ПООБРО′СТАНЫ *прым.* Аброслы. *Галаґýцкі певень— гэто калашмáтые ногі, удáсца ж такі, лапы пооброcтаные пýхом.* Любавічы.

ПООБРЭ′ЗВАЦЬ *зак.* Абрэзаць. *Пообрэзваў сухіе рáлі ў я́блоні.* Сямігосцічы.

ПООБЦЕРЭ′БВАЦЬ *зак.* Паабцярэбліваць. *Сорокі пообцерэбваюць кіяхі, самые стырчаны стояць.* Дварэц.

ПООБШЧЫ′КВАЦЬ *зак.* Паабшчыпваць. *Гусь, як ее скубуць жывую, попшчыкваe й ногі.* Сямурадцы.

ПООДЗЕВА′НЫ *дзеепрым.* Апрануты. *Дзеці подзевáные і ў чобóцех.* Запясочча.

ПООПРУ′ЧВАЦЦА *зак.* Памерці, выпруціцца. *Поопручваліса тараканэ ў сцёпцы.* Пагост.

ПОО′РАНЫ *дзеепрым.* Пераворaны. *Пooранэ поле.* Луткі.

ПОО′РАТЫ *дзеепрым.* Тое ж. *Пooратэ поле.* Хільчыцы.

ПООРА′ЦЦА *зак.* 1. Узарацца. *Лýчша пашня́ будэ на шчы́ж'і, як поорэ́цца.* Рубель. 2. Расцягвацца, зрабіцца з прасветамі, пакрыцца светлымі малымі воблакамі. *Небо поорáлосо, мо будзе погода, угэ́ не будзе дожджу.* Сямігосцічы. *Небо пooралос, к погодзі.* В. Малешава. 3. Накіравацца. *Пошоў вон за Гноішча, і я туды поорайса.* Луткі.

ПООРА′ЦЬ *зак.* Перааараць. *Поорýць увóсень на зіму, весной мешаюць, а потом ужэ сеюць.* Сямігосцічы.

ПООСЕНЕ′ *прысл.* Восенню. *Поосене дóбро чоботы.* Кароцічы.

ПООТБІРА′ЦЬ *зак.* Пааднімаць, паралізаваць. *У ёго ногі поодбірало, бо седзеў войнý у окопах.* Сямурадцы.

ПООТПА′СВАЦЦА *зак.* Выгуляцца. *Поотпасваліса гусі за лето, як кобулы. Да екіе поотпасваліса — жоўтые, хорошые.* Хачэнь.

ПООТПЕЧА′ТВАЦЬ *зак.* Распячатаць, адкрыць. *Трэ піво поотпечатваць.* Пагост.

ПООТРЫВА′ЦЬ *зак.* Паадрываць. *Потрывала шапочкі з ягоды клубнікі.* М. Малешава.

ПООТРЭЗА′ЦЬ *зак.* Паадразаць. *Ім нада хвосты потрэзаць половіць.* Дварэц.

ПООТРЭ′ЗВАЦЬ *зак.* Паадрэзваць. *Ногцікі сыну потрэзвай ножнамі.* М. Малешава.

ПООТТО′ПВАЦЦА *зак.* Стварожыцца, адтапіцца. *Гладышкі постаўляй у печ, бо подтопвацца.* Сямурадцы.

ПООТТО′ПТВАЦЬ *зак.* Паадтоптваць. *Му тобе ногі pooттоптваем.* Пагост.

ПООТХО′ДЗІЦЬ *зак.* Ажыць, набраць сілу. *Ечмень поотходзіў, а быў пры земле, померз.* Цераблічы. *Нічого не росло, як стало цёпло — поотходзіло.* Запясочча. *Пополежалі, пока поотходзілі.* Дварэц.

ПООТПАДА'ЦЬ *зак.* Паадпадаць. *Тынк поотпадаў у хаці.* Сямурадцы.

ПООТЦВІТА'ЦЬ *зак.* Паадцвітаць. *Некоторые поотцвіталі картоплі.* Хачэнь.

ПООТЧУЖА'ЦЦА *зак.* Зрабіцца чужым. *Поотчужаліса потом, чужые поробіліса.* Запясочча.

ПООТЧЫНЯ'ЦЬ *зак.* Паадчыняць. *Пооччыняла форткі на двор.* Бярэжцы.

ПОП *м.* 1. Свяшчэннік. *Поп на том свеці за собаку* (прымаўка). М. Малешава. *Поп за свое, чорт за свое* (прыказка). Сямігосцічы. *У дурного попа і дурная молітва* (прыказка). Там жа. 2. Снегавая баба. *Со снегу зробілі попа дзеці.* Сямігосцічы. △ Н а п о п á Стоймя. *Лежыць дзерэвіна, то знімі ее на попа.* Сямігосцічы.

ПОПАДА'ЦЦА *незак.* Трапляцца. *Попадзешся ў воро́ны — крач як і во́ны* (прыказка). М. Малешава. *Попадзецца такі, шо ні продаць, ні так оддаць* (прымаўка пра дрэннага мужа). Верасніца.

ПОПАДА'ЦЬ *незак.* Трапляць. *Мене́ не попадалі этакіе случаі.* В. Малешава. *Сто грам попадало, да я запута́ла толькі.* Чэрнічы.

ПОПА'ДАЦЬ *зак.* Пападаць. *Ек дало́, то ўсе му чысто попадалі.* Талмачава. Прапасці, згінуць. *Мошкі ўжэ попадалі, это ўжэ комарэ.* Сямурадцы.

ПО-ПА'НЬСКІ *прысл.* Па-панску. *По-паньскі ходзіць.* Аздамічы.

ПО'ПА'Р *м.* Пырнік. *Поросце́ нейкі по́пар по пшэніцы.* Хільчыцы. *Дзе попа́р і метлі́ца, там хлеба полові́нніца* (прымаўка). М. Малешава.

ПОПАРОБКОВА'ЦЬ *зак.* Папрацаваць парабкам. *Коб ты пожыў у паробкох да попаробковаў у людзях, то познаў бы, як колісь жылі!* В. Малешава.

ПОПАРОВА'ЦЬ *зак.* Пакінуць пад папар. *Нехай попаруе поле, то луччэй родзіць.* Луткі.

ПОПАРЫКОВА'ЦЦА *зак.* Спарыцца, злучыцца ў пары. Цераблічы.

ПОПА'РЫЦЦА *зак.* Папарыцца. *Вона там доўго не попарыцца.* В. Малешава. *Годзі ты попарыўса у іх* (пра гумавыя боты). Мачуль.

ПОПА'РЫЦЬ *зак.* Папарыць. *За недзелю ўрэм'я заросла нога, попарылі тым зельём.* Хачэнь.

ПОПА'С *м.* Папас. *У нас жыць да жыць, кругом вода, попас, лес.* Хачэнь. *Раншэй було поле, а цепер попас.* Сямігосцічы. *Попасу було, сенокосу!* М. Малешава.

ПОПА′СВАЦЬ *незак.* Пасвіць. *Дзень погода, попасвау товар да подрэмвау.* Пагост.

ПОПА′СЦІ *зак.* Трапіць. *К тому у рукі ек попало, то й пропало.* Луткі. *Попалі шчэ молодых дзедоў, шо воны не цямяць.* Сямігосцічы. *У таку егіпту попаў, шо далей нéкуды.* Луткі. *Попала коса на каменя* (прымаўка). Мачуль. *Попаў у ворóны — крычы́ як вóны* (прыказка). М. Малешава. *Попаў с огня́ного да ў полымня́нэ* (прымаўка). Аздамічы.

ПОПА′СЦІСА *зак.* Трапіцца. *От мне не попалосо бачыць лося.* Аздамічы.

ПОПАСЫНКОВА′ЦЬ *зак.* Абламаць пасынкі. *Я попасынкую цюцюн.* Кароцічы.

ПОПЕКЦІ′ *зак.* 1. Папячы. *Трэбо б було так рукі попекці, аж вудыры́ поўсхопваліса!* Запясочча. 2. Пакусаць. *Слепні попеклі.* В. Малешава.

ПОПЕКЦІ′СА *зак.* Спячыся. *Кабанчык ек не жырны, то вон можэ попекціса на сонцы.* Старажоўцы.

ПО′ПЕЛ *м.* Попел. *А кóлісь як шо не было мыла, то бралі гэты попел, што топяць у пéчы да золілі гэтым попелом.* Сямігосцічы. *Одна цэгла да одзін попел буў у селе!* В. Малешава. *Золото і ў пóпелі блішчыць* (прыказка). Сямігосцічы.

ПОПЕЛЕ′НЬЕ *н.* Папялішча. *Голэ попеленье було.* Бярэжцы.

ПО′ПЕЛЕ′Ц *м.* Попел з папяросы. Запясочча. *Попелéц.* Хотамель.

ПО′ПЕЛІШЧЭ, ПО′ПЛІШЧЭ, ПОПАЛЮ′ШЧЭ *н.* Папялішча. *До того пóпелішча, дзе була цэрква, паску свеціць ходзілі.* Верасніца. *Ні хаты, нічого, онно попалю́шчэ осталосо.* Мачуль. *Пóплішчэ.* Запясочча.

ПО-ПЕРВА′Х *прысл.* Спачатку, раней. *По-первах не було календара, а весною купіла ўну́ка.* М. Малешава.

ПОПЕ′РВОСЦІ *прысл.* Тое ж. *Попервосці булі ягоды, а зарэ нема.* М. Малешава.

ПОПЕРО′Д *прысл.* Уперад, перш. Запясочча.

ПОПЕРО′К *прысл.* Упоперак. *Лоткою едзем боком, а поперок цягнем волока.* М. Малешава.

ПОПЕРО′ЎКА *ж.* Папяроўка. *Попероўка — добрая, ранняя я́блонь, такіе солодкіе яблока.* Луткі.

ПОПЕ′РЦІ *зак. груб.* 1. Пайсці. *А я думала, мо й цепéр у я́годы попéрла.* В. Малешава. 2. Выгнаць, паслаць. *Нагайкою попруць на ту роботу.* Бярэжцы. 3. Панесці цяжкае. *Ледзь попёр вя́зку.* Бярэжцы.

ПОПЕ'РЦІСА *зак. груб.* Пайсці. *Вот поперласа — і не озіра́ецца.* Кароцічы.

ПОПЕ'РЫЦЬ *зак.* Памыць бялізну. *Поперу́ плацье да покачаю.* Дварэц. *Поперы́ да домоў несі.* Верасніца.

ПОПЕРЭВО'РВАЦЬ *зак.* Папераворваць. *Поперэворваем удру́ге і горо́ды.* Дварэц.

ПОПЕРЭ'Д 1 *прыназ.* Перад. *А доліна була попэрэд хаты.* Сямігосцічы. *Годзі бегаць поперэд нас.* Запясочча. *Поўзае, поўзае поперэд рук.* Луткі. 2 *прысл.* Раней. *Я поперэд іх ходзіў лова́ць туды лешчо́ў.* Луткі. *А ек не вона поперэд ухопіць — то пройграла.* В. Малешава. *Поперэд сюды заедзе.* Цераблічы.

ПОПЕРЭДЖА'ЦЬ *незак.* Апераджаць. *Той поперэджае, не дае сказаць.* Цераблічы. *Серэда не поперэджае чэцверга* (прымаўка). Сямурадцы. *Не поперэджа́й бацька на шыбельніцу* (прымаўка). Там жа.

ПО'ПЕРЭДЗЕНЬ *м.* 1. Пярэдні вяз у санях. *Эты в'яз будзе добры на попэрэдзень.* Верасніца. *Трэба зробі́ць по́перэдня, вупарыць у пе́чы.* Луткі. 2. Пярэдняя вяроўка для ўвязвання сена. *Як возяць сено, то чэпля́юць за этого рубля́ той поперэдзень да прыціскаюць.* Чэрнічы. 3. Дошкі, якія кладуцца на перадок воза. Аздамічы.

ПОПЕ'РЭДЗІ *прысл.* Спераду. *Поперэдзі зубу булі.* Пагост.

ПОПЕРЭ'ДЗІЦЬ *зак.* Апярэдзіць. *Хто кого поперэдзіць, той грушы збірае.* Луткі. *Ек снег попэрэдзіць, то й не возьмеш сено ко́ньмі.* Цераблічы. *Стараецца попэрэ́діть людей.* Рубель. *Бегае, покуль поперэдзіць.* Цераблічы.

ПО'ПЕРЭДЗЬ *прысл.* Спераду, паперадзе, першы. *Поперэдзь прокоса прогнаў.* Пагост. Спачатку. *Поперэдзь я пойду по лёду, як пройду, то ўжэ й ву.* Там жа.

ПО'ПЕ'РЭДУ *прысл.* Тое ж. *Немец мне кажэ: ідзі попе́рэду, а я боюса.* Запясочча. *Брат по́переду едзе, кірує коне́м.* Сямігосцічы. У першую чаргу, спачатку. *Гэтые пло́скуні попе́рэду убіраюць.* Старажоўцы. *Як тры рублі, так руку проця́г попе́рэду.* Сямігосцічы. *Попе́рэду роб'яць луг, да ў его́ плацье кладуць, шоб отпрэ́ло.* М. Малешава.

ПОПЕРЭ'К *прысл.* Упоперак. *Посеялі поперэк заго́на картоплі.* М. Малешава. *Борозну поперэк поламай зразу, а потом боронуй удоўж, то добрэ заборонуеш.* Там жа. *Поперэк кладзеш палку, націскаеш ваг і подымаецца корч.* Цераблічы.

ПОПЕРЭ'КА *м.* і *ж.* Упарты, супярэчны чалавек. *От поперэка, ек надумайса зробіць, то его́ ніхто́ не перэпрэ́.* М. Малешава. *Такая поперэка, шчо не знаю, у кого вон удайса.* В. Малешава.

ПОПЕРЭКІДА'ЦЬ *зак.* Абярнуць, перавярнуць. *Усе поворочай, поперэкідáй, шчоб не потравіліса.* Хачэнь.

ПОПЕРЭПЛО'ЎВАЦЬ *зак.* Пераплысці. *Поперэплóўвалі, а там стогі.* Луткі.

ПОПЕРЭПУ'ЖВАЦЦА *зак.* Спужацца, перапужацца. *Муш вубежыць, дзеўкі поперэпужваюцца, вішчаць, на стол лезуць, то ўжэ й муш спужаецца.* Пагост.

ПОПЕРЭПУ'ЖВАЦЬ *зак.* Спужаць. *А лучінка веліка да засмо́льна, то бувае, шо возьме да загоріцца, то поперэпужвае насмерць.* Хачэнь.

ПОПЕРЭРЭ'ЗВАЦЬ *зак.* Перарэзаць, разрэзаць. *Поперэрэзвала картоплі нáдвое, а кото́рые — нáтрое.* Кароцічы.

ПОПЕРЭХО'ДЗІЦЦА *зак.* Пакруціцца, звіцца. *Поперэхо́дзілосо дзе́рэво.* Альшаны.

ПОПЕРЭЧКА' *прысл.* Упоперак. *Про́тор стане ў горле поперэчка.* Луткі.

ПОПЕРЭ'ЧКА *ж.* 1. Няправільнае палажэнне плода. *Ей поперэчку прызналі, то поедзе ў бо́льніцу да будуць упраўляць.* М. Малешава. 2 *мн.* Распоркі ў калодзежным жураўлі. Хотамель. △ Н а п о п е р э ч к і́. Насуперак. *На поперэчкі будзе робіць.* Луткі.

ПОПЕРЭ'ЧЛІВУ *прым.* Непаслухмяны, які робіць усё насуперак. *Баба поперэчліва сама жыве.* Верасніца.

ПОПЕРЭ'ЧНЫ *прым.* Тое ж. *Крычыш ні за шчо на ее, то й поперэчна з тобою.* Пагост. △ П о п е р э́ ч н а п і л á. Папярочная піла. Аздамічы.

ПОПЕРЭ'ЧЫЦЦА *незак.* Рабіць насуперак, пярэчыць. *Чого́ ты поперэчышса, поперэка ты!* Хільчыцы.

ПОПЕ'ТНІЦЦА *зак.* Пакрыцца плямамі. *Попетніласа свіньня дай здохла.* Запясочча.

ПОПЕ'ЧКАЦЦА, ПОПЕ'ШКАЦЦА *зак.* Праваждацца, прапоркацца. *С хлебом гэтым попечкаліса!* Луткі. *Я зара трохі попешкаюса коло печэ.* М. Малешава.

ПОПІВА'ЦЬ *незак.* Папіваць, выпіваць. *Тыждзень гуляюць да попіваюць!* В. Малешава.

ПОПІНА'ЦЦА *незак.* Напінацца, напружвацца. *Него́жа кобу́ла, ледво попінаецца, а везе.* Дварэц. *Назáўтрэ ужэ попінаецца ўставаць.* Мачуль. *Одзін пеўнік молоды неяк попінайса ужэ крычаць.* Дварэц.

ПОПІ'ХА *ж.* Папіхіч. *Попіха заўтра пожэне товар.* Запясочча.

ПОПІХА'ЙЛО *н.* Тое ж. *Дзед у бабы за попіхайлу.* Дварэц.

ПОПІХА'ЦЦА *незак.* Адштурхоўвацца. *Вéсламі попіхаецца да едзе ў чоўнé.* Дварэц.

ПОПІХА'ЦЬ *незак.* Папіхаць. *Вонэ́ попіхае, а той ходунчык поўзе.* В. Малешава.

ПОПІ'ХАЧ *м.* Папіхач. *Пошоў ў армію, то я там попіхачом не буў.* Буразі.

ПО'ПІХОМ *прысл.* Піхаючыся, папіхаючыся. *Там воды мало, будзеш ехаць попіхом, а вуедзеш на озеро, там на грэ́бку берьі.* В. Малешава. *Дзе песочок, то вон попіхом плуве.* Дварэц.

ПОПІ'ЦЬ *зак.* Выпіць. *Сорока поп'é яйца, колі побáчэ, дзе вутвá несецца.* Сямігосцічы. *Заходзіць туда і спрашвае іх: «Коб вы мне далі воды попіць?»* Кароцічы.

ПОПЛАВО'К *м.* 1. Расліна майнік. *У нас зовуць поплаўкі, то та сама майна.* Хачэнь. 2. Вадамерка (?). Луткі.

ПО'ПЛАВОМ *прысл.* Уплаў. *Вóза ў дуб, а коні поплавом поўз дуб.* Кароцічы.

ПО'ПЛАЎ *м.* 1. Заліўны луг. Запясочча. 2. Расліна майнік. *Наросце пóплаву по водзе, коровы ходзяць да збіраюць.* Луткі. 3. Хлам, смецце, прынесенае вадой на бераг. *Поплаў берэ́ да спáліць, шчо б сенóжаць чыстá була.* Луткі. *Поплаў, дзе палкі, смецье поўсплóўваюць, ек вода прыбудзе.* Там жа. 4. Сетка для падлёднай лоўлі рыбы. *Зімою бувае поўны поплаў уплувé рыбу.* Сямігосцічы. *Пóплава того поставяць да рыбу налезе!* Верасніца.

*Поплаў* ставілі ўпоперак ракі. Для гэтага ў дно забівалі два вялікія калы. Па іх на абручах на дно ракі апускалі ніжнюю частку сеткі. Выцягвалі сетку праз вузкую палонку, высечаную ў лёдзе ад аднаго кала да другога.

ПОПЛАЦІ'ЦЬ *зак.* Заплаціць. *Мы ей поплацілі по тры рублі.* Запясочча. *По п'яць злотых поплоціў.* Луткі.

ПОПЛЕСЦІ' *зак.* Сплесці. *Шчэ лапці я поплелá б, но волóк не поўю, негожа.* Сямурадцы.

ПОПЛЕ'СЦІСА *зак.* Паблудзіць, паблытацца. *От поплёўса у лесе, ледбы выбраўса на дорогу.* Аздамічы.

ПОПЛЕТА'ЦЬ *незак.* Уплятаць, заплятаць. *Косьнікі поплетáлі.* Альшаны.

ПО'ПЛІСОК, ПО'ПЛЮСОК *м.* Невялічкая лужына,

мелкаводдзе. *Вусухае вода, да нема, одно поплісок остаўса.* Луткі. *От поплісок воды, а рыба так і ходзіць.* Там жа. *Там небогато воды, трохі поплюсок.* Дварэц. *Памянш.* п о́ п л і с о ч о к. *От поплісочок воды, хоць оно тотькі зе́млю покрыла, а рыба так і ходзіць.* Луткі.

ПОПЛУСЦІ′ *зак.* Паплыць. *Вода хату подму́ла — і поплула з людзьмі по рэцэ.* Пагост. *От которэ целя не ўмее, шчэ перву год, так попоб'юць, попоб'юць — і поплуве.* Там жа.

ПОПНЕ′ЦЬ *зак.* Здубянець. *Мороз такі, усе́ попне́лі.* Дварэц.

ПОПНУ′ЦЦА *зак.* Паднапружыцца, паднапяцца. *Попну́ласа да подняла то́е зелье.* Луткі. *Шо попнецца — то догоры, то ніцма, то так, не вулезе з этой калю́гі.* Кароцічы.

ПОПОБЕ′ГАЦЬ *зак.* Папабегаць. *Попобегае, то не будзе гладка́.* Сямурадцы.

ПОПОБІ′ЦЬ *зак.* Папабіць. *Попобіла кота, ек ціпляты поеў, попогоняла по хаці.* Пагост.

ПОПОБЛАГА′ЦЬ *зак.* Пахваляваццa, паперажываць. *Шо попомоліліса, шо попоблага́лі, попопла́калі!* Запясочча.

ПОПОБЛЁВА′ЦЬ *зак.* Паванітаваць. *От попоблёвай, ек уча́дзеў!* Луткі.

ПОПОБРА′ЦЦА *зак.* Пакараскацца, паўзбірацца. *Вусока гора, шо му попобраліса на ту го́ру, ек лезлі на ее.* М. Малешава. *Попаў у кручу, то попобраўса, ледзь вуплуў.* Пагост.

ПОПОБРОДЗІ′ЦЬ *зак.* Пахадзіць, нахадзіцца. *Ловіць рыбу — попобродзіць трэ.* Луткі.

ПОПОБРО′ХАЦЦА *зак.* Пабоўтацца, паплюхацца. *Дзень попобро́хаешса ў гразе́.* Бярэжцы.

ПОПОБРУСЦІ′ *зак.* Пабрысці. *Буў на моры да попобруў, покуль вушэ голову забруў.* Пагост.

ПОПОВОДЗІ′ЦЬ *зак.* Папавадзіць. *Дзядзько, я поповоджу да і вашэ рожжэном.* Мачуль. *Шо іх у Турові поповодзілі!* Хачэнь.

ПОПОВУБРЫ′КВАЦЬ *зак.* Пападбрыкваць. *Хочэм побачыць, як ты попоўбрыкваеш.* Старажоўцы.

ПОПОВУ′ЦЬ *зак.* 1. Папавыць. *Поповуў воўк по ночох, ек воўчыца ў петлю поймаласа, заснуць не можна було.* Пагост. 2 *перан.* Пагаласіць. *Вечор поповуў у хаці, вупла́кваў свое горэ.* Пагост.

ПОПОГА′КАЦЬ *зак.* Пастукаць, папаляскаць. *Попо-*

*гакай тоўкачэм тэ просо!* Сямігосцічы. *Попогакаў колуном по кліну, покуль комель еты розбіў!* Пагост.

ПОПОГА'НІЦЬ *зак.* Зганьбіць, аблаяць. *От попоганіў чоловека, а зашчо?* Сямігосцічы.

ПОПОГВА'ЗДАЦЬ *зак.* Папабіць з сілаю. *Дзень попогваздаеш мотыкою!* Дварэц. *Попогваздаў молотом по колуну, покі той комель розбіў, аж гарачэ залезо стало.* Пагост.

ПОПОГІ'КАЦЬ *зак. экспр.* Папакрычаць. *Уе́халі ў багно, а там това́рына не вылезе, попогікалі ў том месцы.* Мачуль.

ПОПОГЛЕДЗЕ'ЦЬ *зак.* Папаглядзець. *Попоглед зеў дзед, як у шахматы гуляюць, а не навучыўса.* Пагост.

ПОПОГО'ІЦЬ *зак.* Палячыць. *Шчо я попогоіла ру́ку!* Бярэжцы.

ПОПОГОЛОСІ'ЦЬ *зак.* Пагаласіць. *От я попоголосіла да попову́ла.* Аздамічы.

ПОПОГОМОНІ'ЦЬ *зак.* Пагаварыць, пагутарыць. *От я з вамі попогомоніла!* Сямурадцы. *Вон ву́п'е то ўжэ попогомо́ніц.* Запясочча.

ПОПОГОНІ'ЦЬ *незак.* Сплаўляць лес. *От попогоніў дзерэво рэко́ю!* Аздамічы.

ПОПОГОРОВА'ЦЬ *зак.* Папрацаваць шчыра, цяжка. *Пропала наша горо́ўля, шо мы попогорова́лі, попоробілі!* М. Малешава.

ПОПОДАВА'ЦЬ *зак.* Падаць. *Цэглы поподавалі на стояна́, то рукі боле́ць сталі.* Дварэц.

ПОПОДВО'КОНЬЮ *прысл.* Пад вокнамі. *Мы ўжэ бегалі поподвоконью і гледзелі тэ веселье.* Тураў.

ПОПОДЖМУ'ХАЦЬ *зак.* Падзьмуць. *Вецёр поподжмухаў у шчыльку!* М. Малешава.

ПОПОДЖЫ'РГВАЦЬ *зак. экспр.* Пачысціць. *Поподжы́ргваю свое́ зубы после ягод.* М. Малешава.

ПОПОДЗЯ'КОВАЦЬ *зак.* Падзякаваць. *Поподзяковалі за коло́дзешну воду, чысцейша вона́!* М. Малешава.

ПОПОДРЫВА'ЦЦА *зак.* Надарвацца. *Этые дзеці поподрываліса носіць этые пля́жкі.* Сямурадцы.

ПОПОДРЫВА'ЦЬ *зак.* Узрушыць, усхваляваць. *Своім розговором вона усіх поподрывае.* Верасніца.

ПОПОДУРЭ'ЦЬ *зак.* Пагарэзнічаць. *Я поподурэла, ек було трыццаць годоў!* Сямурадцы.

ПОПОДЫМА'ЦЦА *зак.* Паўставаць. *Да як запелі, то ўсе поподыма́ліс!* Бярэжцы.

ПОПОЕ′ЗДЗІЦЬ *зак.* Паездзіць. *Воны зо мною попоездзілі на тракторы!* М. Малешава. *Попоездзіла, пополётала, коб стаць у лайцы і не робіць у полі!* Луткі.

ПОПОЕЗКО′ЛІЦЦА *зак.* Павазіцца, пакорпацца. *Да попоезколіцца той моторыст!* М. Малешава.

ПОПОЕ′СЦІ *зак.* Папаесці. *Попоела того́ вазона, ек цыбулю* (пра алоэ). М. Малешава. *Я тоды попоей еéчні!* Луткі.

ПОПОЕ′ХАЦЬ *зак.* Паездзіць. *Веслом попоедзеш до того Турова, шо прыстанеш, а мотором не забавішса.* Пагост.

ПОПОЖА′ЦЬ *зак.* Пажаць. *На тых остроўкóх му попожалі траву!* Старажоўцы.

ПОПОЖДА′ЦЬ *зак.* Пачакаць, паждаць. *Ой, божэ мой, му попождалі, покуль вон ту печ пошчокотурыць.* Старажоўцы.

ПОПОЗА′ЛЕТОШНІ *прым.* Якому тры гады. *Попозалетошні год груш смоля́нок багато дзед продáў у Турове.* Луткі.

ПОПОЗАЎЧО′РА *прысл.* Тры дні назад. *Вон пас товар на Гра́дках шчэ попоўзаўчора з собаком.* Луткі.

ПОПОІ′ЦЬ *зак.* Напаіць. *Я шчэ не поіла целяці.— То попоі.* Сямурадцы.

ПОПОЙЦІ′ *зак.* Пахадзіць. *Коб ты попошла́, як я!* Сямурадцы. *Кажэцца недалеко, а попойдзеш!* Сямігосцічы.

ПОПОКОСІ′ЦЬ *зак.* Папакасіць. *Хай попокóсіць, то будзе знаць, ці лёгко.* Бярэжцы.

ПОПОКУ′ТВАЦЬ *зак.* Папакутаваць. Запясочча.

ПОПОЛА′М *прысл.* Напалам, папалам, пасярэдзіне. *Воўк за ее пополам да на той хворост, да на ее.* В. Малешава. *Егнёнка этого меньшого воўк у зубу пополам і поп'ёр!* Бярэжцы.

ПОПОЛА′ПАЦЬ *зак. экспр.* Пахватаць, парваць. *Дзень попола́пай лён!* Запясочча.

ПОПОЛЕКОЦЕ′ЦЬ *зак.* Патрэсціся, перахваляваццa. *Пополекоця́ць дзеўкі на экзаменах!* Сямурадцы.

ПОПОЛЕ′ТАЦЬ *зак. экспр.* Пабегаць. *Пополе́таў по тых огоро́дах!* Цераблічы. *Пополетаў за товаром!* Кароцічы.

ПОПОЛЁВАНЫ *дзеепрым.* Пакрыты (пра жывёлу). *Дзве целу́шкі булі пополёваны: дзедова була пополёвана цёлка і моя.* М. Малешава.

ПОПОЛЁВА'ЦЬ *зак.* Пакрыцца. *Корова пополёвала.* Мачуль.

ПОПОЛОВА'ТЫ *прым.* Папялісты (?). *Пополоваты — ані жоўты, ані белы.* Кароцічы.

ПОПОЛОВІ'НІЦЬ *зак.* *экспр.* Украсці; раздзяліць напалам. *Вона усе пополовініла б.* Запясочча.

ПОПОЛОВІ'ЦЬ *зак.* Папалавіць. *Мы чоўнáмі рыбу пополовілі!* Сямурадцы.

ПОПОЛОКА'ЦЦА *зак.* Спаласнуцца. *Пополокніса, ты нечы́сты.* Сямігосцічы.

ПОПОЛОСКА'ЦЦА *зак.* Тое ж. *Я пойду пополошчўса.* Верасніца.

ПОПОЛОСКНУ'ЦЬ *зак.* Спаласнуць. *Пополоскнуць посуду водою трэба.* Хотамель.

ПОПОЛУ'ДНОВАЦЬ *зак.* Папалуднаваць. *Як жнеш, то, бáло, кáжэмо: давай пополуднуемо.* Запясочча. *У жніва́ посядзьмо да пополудноймо.* Цераблічы.

ПОПОЛУПЕ'ЖЫЦЬ *зак.* *экспр.* Папаліць, папасячы (пра дождж). *От пополупежыў дождж!* Верасніца.

ПОПОМЕШКО'ЛІЦЬ *зак.* Патузаць. *А вон там дзіця попомешколіў, трохі попоцвеліў.* Запясочча.

ПОПОМОЁВА'ЦЦА *зак.* Нахадзіцца, замарыцца. *Попомою́юса за товáром по лéсу!* Кароцічы.

ПОПОМОЛОЦІ'ЦЬ *зак.* Памалаціць. *Ой, людзенькі, попомолоціла цэ́пом!* Мачуль.

ПОПОМУ'ЧЫЦЦА *зак.* Памучыцца, намучыцца. *Попомучыўса колькі годоў!* Запясочча. *Бедны, попомучыўса вон!* Буразі.

ПОПОМУ'ЧЫЦЬ *зак.* Памучыць, пакатаваць. *Попомучылі об'ежджыкоў немцы да ўбілі.* Дварэц.

ПОПОНАСУ'ШВАЦЬ *зак.* Панасушваць. *Попонасушваём у пе́чы проса.* Хачэнь. *Попонасушвалі компоту, мешкамі на печах стояць!* Пагост.

ПОПОНЕ'НЬКАЦЦА *зак.* Пакорпацца, павазіцца. *Попоненькаецца з тым óкунем, покýль кручок достане!* Вароніна.

ПОПОНІ'ХВЕЦЬ *зак.* Памучыцца, папакутаваць. *Як шо старое, то попобýдзе, попоніхвее, а вона — не.* Сямурадцы.

ПОПО'НКА *ж.* Гунька. *Гэто тобе йдзе, як свінне́ под попонкою.* Луткі. *Попонку накладáем на коня́, шоб не охваціўса.* Любавічы. *Попóнкі мы ткалі з лапікóў.* Аздамічы. *Зложі, хлопче, ётэ барахло ў попонку да занесі ёго на гóру.* Пагост.

ПОПОНОСІ'ЦЦА *зак.* Панасіцца доўга. *Бучо́к церэз вешніцу, на болонне да попоносіўса, попоскакаў хвост задраўшы.* Пагост.

ПОПОПА'СЦІ *зак.* Папапасвіць. *Попопасу́ зайцо́ў на том свеці, бо не була́ ў ку́мах.* Лутківі.

ПОПОПІ'ЦЬ *зак.* Папапіць. *Я ўчора попопіла́ болотное воды.* Луткі. *Вон попопіў тое зе́лье і поду́жаў!* Хачэнь.

ПОПОПЛА'КАЦЬ *зак.* Папаплакаць. *Попоплакала по іх!* Запясочча. *А я попопла́чу-попоплачу на калідоры, і зноў іду к ему́.* Сямурадцы.

ПОПОПЛЁХАЦЦА *зак.* Паплюхацца. *Поку́ля вунесом сено на грудок, то от попоплёхаемса!* В. Малешава.

ПОПОПОЛО'ЦЬ *зак.* Папалоць. *Вона пойдзе, да попополе дзень у пана, да заробіць місочку просца.* Бярэжцы.

ПОПОПО'ЛЬЗОВАЦЦА *зак.* Пакарыстацца. *Она от мене попопользоваласа!* Запясочча.

ПОПОПРОСІ'ЦЦА *зак.* Папрасіцца. *Шчо попопросіласа, а не ўзялі на машыну!* Пагост.

ПОПОПРОСІ'ЦЬ *зак.* Папрасіць. *Попопросілі, покіль оддаў барабана.* Старажоўцы.

ПОПОПУХА'ЦЬ *зак.* Паспець, выспець. *Попопуха́лі ягоды, толькі браць!* Хачэнь.

ПОПОРА'ДКОВАЦЬ *зак.* Папарадкаваць. *То йдзі, Іва́нко, попора́дкуй кото́ру куды* (з казкі). Сямурадцы. *Ноч не сплю да попорадку́ю.* Там жа. *Усе вуцягла, пул выбіла, на сонцы просушыла, цюцюном пересыпала, зложыла — попорадковала у скрыні.* Пагост.

ПОПОРОБІ'ЦЬ *зак.* Папрацаваць. *Стары попоробіў на фермі!* Сямурадцы.

ПОПОРОГОТА'ЦЬ *зак.* Парагатаць. *Я сама́ с себе́ попороготала!* Запясочча.

ПОПОРО'ЦЦА *зак.* Папароцца. *Ну, то добрэ, пойду што-не́будзь попору́со.* Пагост.

ПОПОРО'ЦЬ *зак.* Папароць. *Попо́руць сорочку, ада́ле перэшываюць.* Кароцічы.

ПОПОРЫВА'ЦЬ *зак.* Папарваць. *Попорывалі того зе́лья!* Дварэц.

ПОПОРЭ'ЗАЦЬ *зак.* Папарэзаць. *Днoручкою попорэзала тых дроў, недзелю цылу.* Пагост.

ПОПОРЭЎЦІ' *зак. экспр.* Пакрычаць. *Так вон попогука́ў, попоро́ў за рэкою.* В. Малешава.

ПОПОСЕДЗЕ'ЦЬ *зак.* Пасядзець. *Попоседзіш, аж тобе занудзіць.* Бярэжцы.

ПОПОСЛЕЗА'ЎТРЭЙ *прысл.* Праз тры дні. *Попослезаўтрэй поедуць косіць сено у Рубры́н.* Луткі.

ПОПОСМЕЯ'ЦЦА *зак.* Папасмяяцца. *То мы попосмеяліс з ёго́.* Аздамічы.

ПОПОСНІ'ЦЦА *зак.* Прысніцца. *Попосніўса вон ей!* Чэрнічы.

ПОПОСТО'НЕЦЬ *зак.* Папастагнаць. *От попостоне́ла голодна.* Пагост.

ПОПОСТОЯ'ЦЬ *зак.* Папастаяць. *От попостояла, попогомоніла од душэ!* Кароцічы.

ПОПОТО'ПАЦЬ *зак. экспр.* Папахадзіць. *Вон по том болоту попотопоў!* Луткі.

ПО'ПОЎЗКОМ *прысл.* Паўзком. *Попоўзком поўзлі хлопцы.* В. Малешава.

ПО'ПОЎЗОК *м.* △ У по́поўзок. Паўзком. *А му ў попоўзок да ў Туроў.* Луткі.

ПО'ПОЎЗОМ *прысл.* Паўзком. *А тые мушчыны попоўзом!* Луткі.

ПОПОЎЗЦІ' *зак.* Папаўзці. *Гарбузы хорошые, попоўзлі по картоплях.* М. Малешава.

ПОПОХЛЫ'НДАЦЬ *зак. экспр.* Папахадзіць. *Попохлындала я ў водзе, усе боты порвала.* Хачэнь.

ПОПОХОДЗІ'ЦЬ *зак.* Тое ж. *Веціна́р попоходзіў лечыць целя!* Дварэц.

ПОПОЦВЕЛІ'ЦЬ *зак.* Пацвяліць. *Попоцве́ляць «носорно́», шо нос велікі.* Пагост.

ПОПОЦЕГА'ЦЬ *зак.* Папацягаць. *Дзень попоцегай, то бок заболіц.* Запясочча.

ПОПОЦЕПЦІ' *зак.* Пакалаціць. *Як кінуло у холод, да попоцепло́.* Цераблічы.

ПОПОЧУХМО'РЫЦЦА *зак.* Пачухацца. *От я попочухмо́рыласа од того́ ж̄аберу!* Старажоўцы.

ПОПОШАТЫ'РВАЦЬ *зак. экспр.* Пашараваць. *Попошатырваюць то́лом, то короста пропадала.* В. Малешава.

ПОПОШЭ'ЎКАЦЦА *зак.* Папакапацца. *Попошэўкаўса з тым мотором, поўдня цылого, да не построіў.* Пагост.

ПОПРА'ВІЦЦА *зак.* Патаўсцець. *А ву поправіліса.* Запясочча.

ПОПРА'ВІЦЬ *зак.* Паправіць. *Еслі напішэ, то й чорт не поправіць.* Старажоўцы. *Ек лапці зроб'яць, то чэрэвікі не поправяць* (прыказка). Луткі.

ПОПРА'ГАЧ *м.* Ручка ў навоі, на які наматваецца пража. Кароцічы.

ПО'ПРАДКІ *мн.* Попрадкі. *Ідзі на попрадках трохі поседзі.* Хачэнь.

ПОПРА'ДУХІ *мн.* Тое ж. *Дзеўкі ходзілі на попрадухі.* М. Малешава. *Памянш.* п о п р а́ д у ш к і. М. Малешава.

ПОПРА'ЎДЗЕ *прысл.* На самай справе, сапраўды. *Попраўдзе сказаць, шо хлеба не елі.* Мачуль.

ПОПРАЎЛЯ'ННЕ *н.* Папраўка, ачуньванне. *А як Галя, попра́вілася? — От еке́ з ее попраўлянне.* Запясочча.

ПОПРАЎЛЯ'ЦЬ *незак.* Правіць, выпраўляць. *Одна говорыць, одна попраўляе.* Лутκі.

ПОПРА'ЦЬ *зак.* Памыць бялізну. *Баба попра́ла тобе штаны.* Буразі.

ПОПРОВОРНЕ'ЦЬ *зак.* Стаць больш рухавым, спрытным. *Хай кот поесць молока, то вон попроворне́е.* Старажоўцы.

ПОПРО'ДАЦЬ *зак.* Папрадаваць. *Ці попро́даў вон сено?* Луткі. *Вот попродалі этые това́ры, едуць домоў.* Кароцічы.

ПОПРО'К *м.* Папрок. *Як дзень, то попрок!* Азяраны.

ПОПРОСІ'ЦЬ *зак.* Папрасіць. *Попро́сіш Паўла, дасць ковалок да вукосіш.* В. Малешава.

ПО-ПРО'СТОМУ *прысл.* Папросту. *Цветы по-простому, а кветкі то ўжэ культурне́й.* Рыдча.

ПО'ПРОСТУ *прысл.* Тое ж. *У нас попросту говорацъ, а там неяк заводзяць.* Аздамічы.

ПОПРОСЦІЛА'ЦЬ *зак.* Паслаць. *Я попросцілаю, да ляжэце спаць.* М. Малешава.

ПО-ПРОСЦЯ'ЦКІ *прысл.* Папросту. *Шча́вер по-просцяцкі, а шчаве́й — это ўжэ ўродзе по-культурному.* Рыдча.

ПОПРОШМУ'ЛЬВАЦЬ *зак.* Прадзіравіць, працерці. *Попрошмульваеш ногамі дзіркі.* Хачэнь.

ПОПРУ'ГА *ж.* Папруга. *Галёна — шырока така́ попруга жэнская, вона поверху́ бліскуча.* Запясочча. *Потперэжы штаны попругою, а то спадуць.* М. Малешава. *Два дру́гі: лапець і попруга* (прыказка). Старажоўцы. *Памянш.* п о п р у́ ж к а. Аздамічы.

ПОПРЫБІРА'ЦЬ *зак. метаф.* Паразбіваць. *Лампочкі булі, то ўсе попрыбіралі дзеці.* Кароцічы.

ПОПРЫВО'ЗІЦЬ *зак.* Папрывозіць. Цераблічы.

ПОПРЫВУКА'ЦЬ *зак.* Папрывыкаць. *А нашы пойдуць замуж да год за год попрывукаюць говорыць.* Дварэц. *Але ж мы попрывукалі ў одном месці.* Бярэжцы.

ПОПРЫ'Ж *прысл.* Паасобку. *Ці ў одну міску ліць, ці попріж?* Цераблічы. *Кажнэ село попрыж.* Луткі.

ПОПРЫМА'ЦЬ *зак.* Прыбраць, прыняць, знесці. *Попрымаў дзерэво од нашое одрыны.* Дварэц. *Попрымай з лаву міскі й корцэ, шоб було дзе людзям сесці.* Пагост.

ПО'ПРЫСКІ *мн.* Трэскі. *Сёк, сёк, онó попрыскі лецяць.* Сямігосцічы.

ПОПРЫСТАВА'ЦЬ *зак.* Прытаміцца, замарыцца. *Ужэ гэтые молодые попрыставалі.* Сямігосцічы. *Ходзілі, ходзілі, да ўжэ попрыставалі, попрытóмваліса.* Хачэнь.

ПОПРЫТО'МВАЦЦА *зак.* Тое ж. *Попрытомваліса тые бабў.* Хачэнь.

ПОПРЫТУ'ЛЬВАЦЦА *зак.* Стуліцца, схавацца. *О так попрытульваліса, і воны не побачылі іх.* М. Малешава.

ПОПРЫ'ХАЦЬ *зак.* Пачмыхаць. *Не туды еда пошла да попрыхае, з носа крошкі, у вочох слёзы.* Пагост.

ПОПРЫХО'ДЗІЦЬ *зак.* Папрыходзіць. *На еж, то тые попрыходзяць да з'едзяць.* Мачуль.

ПОПРЫ'ЦА *ж.* Металічная пласцінка на верхнім камяні жорнаў. *Шпень подымае попрыцу у жорнах.* Хотамель.

ПОПРЫ'ШЧЫЦЦА *зак.* Пакрыцца дробнымі пухіркамі. *Попрышчыло от морозу ўсе тело.* Хотамель. *Шкурка хлеба попрышчыласа.* Бярэжцы.

ПОПРЫЯ'ЦЬ *зак.* Пажадаць дабра, паспрыяць. *Пэрэлілі горэлкі, то ўжэ попрыялі мне, шчоб мне было добро.* Мачуль. *Добрá нікому не попрые.* Чэрнічы. *Вона нам с того света попрыяла.* Сямігосцічы.

ПОПРЭ'БОВАЦЬ *зак.* Паспрабаваць. *Попрэбуй косіць цепер, бо заўтра поéдом.* В. Малешава. *Давай і я попрэбую.* Сямігосцічы.

ПОПРЭКА'ЦЬ *незак.* Папракаць. *Вечно вон роботою ёй попрэкае.* Азяраны.

ПОПРЭ'ЦЬ *зак.* Сапрэць, сапсавацца. *Погнілі, попрэлі подóшвы.* Луткі. *Мокроватэ сено ў стог клалі да погніло, попрэло, не есць корова.* Пагост.

ПОПСОВА'ЦЬ *зак.* Сапсаваць. *Вон не направіў, да попсовау.* Старажоўцы. *Узяў вецёр да попсовау комін.* Мачуль. *Нешчо вон од молока знаў, як хто попсуé корову.* Луткі.

ПО-ПТАШЭ′ЧОМУ *прысл.* Па-птушынаму. *Вон і по-пташэчому запоé.* Цераблічы.

ПОПУГА′Й *м.* 1. Птушка бугай. *Попугай гудзе, як ідом у журавіны.* Хачэнь. 2. Птушка пугач. Запясочча.

ПОПУ′ГАЦЦА *зак.* Захварэць, надуцца (пра хатніх птушак). *Попýгаліса ціпля́та, этые кубаторкі, нешчо.* М. Малешава.

ПОПУГА′Ч *м.* Птушка пугач. Альшаны.

ПОПУ′ДЗІЦЬ *зак. экспр.* Пагнаць хутка. *Му попудзімо коні.* Луткі.

ПОПУЖА′ЦЦА *зак.* Папужацца, спужацца. *Тые бандзіты поўцекалі, попужаліса, й коні кінулі.* Сямурадцы.

ПОПУ′КОВАТЫ *прым.* Пукаты, выпуклы. *Попуковатэ веко ў скрыні.* Кароцічы.

ПОПУ′ЛЕНЫ *прым.* Светлай масці, шэры. *Популены конь у мене.* Луткі.

ПОПУ′РСКАЦЬ *зак.* Папырскаць. *Давай жукоў у горóдзі попурскаём.* Верасніца.

ПОПУРХНУ′ЦЦА *зак.* Папярхнуцца. *Есць і сварыцца, то попурхнуласа, росчыхаласа да роскашляласа.* Пагост.

ПОПУСКА′ЦЦА *незак.* Апускацца. *От вусця попускаецца потроху лёд, скоро й тут пусціць.* Пагост.

ПОПУСКА′ЦЬ *незак.* Адлігаць. *Ужэ попускáе.* Старажоўцы. *Сонцэ ўжэ цепліць, снегу меншае, попускае на весну помалу.* Пагост.

ПО′ПУСОК *м.* Вяроўка ў невадзе. *Попусок Коля хай дзержіць на бéрэзі, лодкою я поеду, а ты, Нічіпор, сетку з лодкі будзеш вукідаць.* Пагост.

ПОПУСЦІ′ЦЬ *зак.* 1. Адліжыць. *Попусціло, снег ростаў, лёд.* Пагост. *Попусціло, з-под снегу кругом цурліць.* Там жа. 2. Распусціць, апусціць. *Вона косы попусціла да пошла пужаць людзей.* Сямігосцічы. *Волохáты пэйсы попусціў.* Рубель. 3. Запусціць. *Ек попусціла палкою у овечок!* Луткі. 4. Аддаць. *Свое ж дзіця не попусціш у обіду.* Пагост. 5. Выпусціць. *Соплі попусціў.* Запясочча. 6. Пакінуць. *Цепер попусцілі воны так.* В. Малешава.

ПОПУТА′НЬЕ *н.* Запытанне, папытанне. *Я ж воды ў іх не попіў без попытанья!* Сямурадцы. *Не ўзяла ў мене ні копеечкі без мого попытанья.* М. Малешава.

ПОПУТА′ЦЦА *зак.* Запытацца. *Вецёр да попутаўса: кому ж поклоніўса, мужык?* (з казкі). В. Малешава.

*Прыйдзе люты да попутаецца ці добрэ обуты* (прымаўка). Хачэнь.

ПОПУТА'ЦЬ *зак.* Спытаць, запытаць. *Параско, ходзі я ў цебе попытаю.* Верасніца. *А я і забуласа, не ў голову попытаць, шо то такее.* Хачэнь. *Попутаць.* Бярэжцы.

ПОПУ'ТНЫ *прым.* Сустрэчны. *Вот я йшла да попутного стрэла.* Запясочча.

ПОПУ'ХА *ж.* Нізка лістоў тытуню. *Навяжу попух і ў яшчык складваю.* Сямурадцы.

ПОПУХНІ'ЦЕЦЬ *зак.* Панабракаць вадою, пагніць. *Загороды плавалі ў водзе, то картоплі попухніцелі й не поўсходзілі.* Дварэц.

ПОПУ'ХНУЦЬ *зак.* Распухнуць. *Дзе укусіць, то попухне, шо не бачыць свету.* Лутқі. *Нога сільно попухла.* Цераблічы.

ПОПУ'ШКА *ж.* Нарасты на лістах вяза. Запясочча.

ПОПУ'ШКАЦЬ *зак.* Зашыпець. *Воўк стрэсенўўса і огонь попушкаў.* Лутқі.

ПОПШЫ'КАЦЬ *зак.* Папырскаць. *Сюд-туд попшыкаю, то й нема мух.* В. Малешава.

ПОРА' *ж.* Час, перыяд, пара. *А куды ты у гэту пору ідзеш?* М. Малешава. *Можно по порэ умерці і бес поры.* Там жа. *Добра пора сеяць.* Хільчыцы. *У гэту пору гэта рэка у берэгах повінна быць.* Цераблічы. *На ўсе пора, на ўсе ўрэмя.* В. Малешава. *Часом з квасом, а порою з водою* (прымаўка). Сямурадцы. *Пора ехаць, пора стаць* (прымаўка). Лутқі. △ Не по поры́. Не ў пару. *Нежывé — не по поры окоцілаcа.* Запясочча. Без поры́ пора́. Рана, дачасна. *Без поры пора прыдзе, та корова заб'е бабу.* Хачэнь.

ПОРА'ДА *ж.* Рада, парада. *Бегу на пораду до вас, як шчо.* Бярэжцы. *Прышла вона к нам на пораду.* Лутқі.

ПОРА'ДЗІЦЬ *зак.* Параіць, парадзіць. *Порадьте, шо мне робіть?* Альпень.

ПОРА'ДОВАЦЦА *зак.* Парадавацца. *Порадоваласа зранку, шо погода на сено, а прослі обеда на тобе — дождж.* Пагост.

ПОРА'ДОК *м.* Парадак. *Шчо гэто за порадок?* Қароцічы.

ПОРА'ДОЧНО *прысл.* Даволі доўга. *Було дзевецеро дзецей, жылі порадочно.* Запясочча.

ПОРАЗБАЗУ'РВАЦЦА *зак.* Параспускацца, разбалавацца. *Цепэр усі поразбазурьваліса молодзеж, не хочуць пешкі ходзіць.* Альшаны.

ПОРАЗБЕ'ГЦІСА *зак.* Паразбягацца. *Усе з сынамі косяць, а мой хозяін сам, поразбегліса мое сыночкі.* В. Малешава.

ПОРАЗБУВА'ЦЦА *зак.* Разуцца. *Пораздзеваюцца да поразбуваюцца да лежаць.* Верасніца.

ПОРАЗВЕ'ШВАЦЬ *зак.* Паразвешваць. *Поразвешваюць плацье свое.* Лýткі.

ПОРАЗЕЎЛЯ'ЦЬ *зак.* Раскрыць, разявіць. *Шчэ му булі малые, поразейляем роты́ да слухаём.* М. Малешава.

ПОРАЗІ'ЦЬ *зак.* Нанесці страту, урон. *У нас учора дзве селе поразіло* (у адным — хаты згарэлі, у другім— чалавек памёр). Кароцічы. *Выйдзе хмара і поразіць кого.* Альшаны.

ПОРА'ІЦЬ *зак.* Параіць, парадзіць. *Порай, дзе корову купіць?* Аздамічы. *Узяў ім пораіў, сюды прыежджайце.* Луткі.

ПОРАНЕ'ЦЬ *зак.* З'явіцца раней звычайнага. *Ко́лісь грыбы не рослі ў это ўрэм'е, цепер — поранелі.* Хачэнь.

ПОРА'НІЦЦА *зак.* Пачаць загадзя, зараней. *Пораніласа йці, час шчэ то́буса ждаць да мерзнуць.* Пагост.

ПОРА'НУ, ПОРА'НО *прысл.* Раніцай, уранку. *Пора́ну трава стояла, а цепер ко́шэна.* Дварэц. *Буў брыгадзір порано на лне і знае, хто буў.* Там жа.

ПОРАСКВА'ШВАЦЬ *зак.* Аслізнуць, расквасіцца. *Грыбоў нема, одны старые, шчо дождж іх пораскваўвай.* Хачэнь.

ПОРАСКЛА'ДАЦЦА *зак.* Паракладацца, разрасціся. *Порасклáдалосо́ боцьвіньe, не ўлезці!* В. Малешава.

ПОРАСКЛАДА'ЦЬ *зак.* Раскласці, разлажыць. *На́гле дробненькіе яблока, шо не можно порасккладаць на блясе.* Дварэц.

ПОРАСПРА'НЬВАЦЦА *зак.* Параспранацца. *Пораспраньваліса, да ўсе зашвэ́ндане скінулі.* М. Малешава.

ПОРАСХО'ДЗІЦЦА *зак.* Паразыходзіцца. *Здрочкі у вочáх порасходзіліса од блёкоту.* Луткі.

ПОРАСЦЕ'ЛЬВАЦЦА *зак.* Ацяліцца. *Порасцельваліса у невесткі коро́вў, а свекрывé молока не дае.* М. Малешава.

ПОРАСЧА'ЎВАЦЬ *зак.* Расціснуць, раздушыць. *Яблочка зайцовой картошкі собрала, порасчаўвала, а там зернушка.* Мачуль.

ПОРАТОВА'ЦЬ *зак.* Адратаваць, выратаваць. *Я ужэ*

*твого́ унука поратовай.* Мачуль. *Я ж не поратую, я плаваць не ўмею.* М. Малешава.

ПОРАХОВА'ЦЦА *зак.* Параіцца, памеркаваць. Альшаны.

ПОРАХОВА'ЦЬ *зак.* Падвесці рахунак. *Пан так порахуе, шо шчэ вінен останесса.* Хільчыцы.

ПО'РАЦЦА *незак.* Рабіць па гаспадарцы. *Рано ўстаеш і то докуль по́раешса.* Любавічы. *Я ко́ло ёго по́руса, коло того города.* Дварэц.

ПОРВА'НЫ *дзеепрым.* Разарваны, падраны. *Пінджачышчэ порваны наклаў да пошоў.* Старажоўцы.

ПОРВА'ТЫ *дзеепрым.* Тое ж. *Так порватэ сцегно у жэрэбца, аж мясо целепа́ецца, воўка дзело.* Пагост.

ПОРВА'ЦЦА *незак.* Парвацца, разарвацца. *У нерост, ек самка ўлезе, то лешчоў налезе столькі, шо й жак порвецца.* Верасніца. *Норкі пороб'яцца, да порвецца, да почне́ цекці той човен.* Чэрнічы.

ПОРВА'ЦЬ *зак.* 1. Разарваць, парваць. *Гледзі, бо собака порве.* Хачэнь. *Бувае, шо мацёра порве во́ўка.* Луткі. *Прошлый год воўкі порвалі коня да дойшоў.* Любавічы. 2. Узламаць, узарваць. *Як лёд порвало, то нашлі ёго.* Кароцічы. *Порве сенокос, ек пойдзе прорва, вурува́е купіну і понесла́.* М. Малешава. 3. Ухапіць, схапіць. *А вон шчо порвау, то й поеў.* Верасніца.

ПОРЖАВЕ'ЦЬ *зак.* Заржавець, паржавець. *Поржавело ведро ужэ.* Бярэжцы.

ПО'РКА'ЦЦА *незак.* Корпацца, капацца. *Усе по́ркаюса і поркаюса коло гэтого хозяйства.* Дварэц. *Ека робота, так по́ркаецца!* Аздамічы. *Вот ужэ на полі гэтом порка́юцса.* Запясочча.

ПОРНЯ'ЦЬ, ПОРНА'ЦЬ *незак.* Даваць нырца. *Порня́е головой і доўго не відно́.* Бярэжцы. *Порнула у воду вутва.* Мачуль.

ПОРОБІ'ЦЦА *зак.* 1. Зрабіцца, парабіцца. *Ногі бы коло́ды поробяцца, ек укусіць вуж, і ходзіць не можно.* Луткі. *Коб наша мацер і бацько бачылі, шо тут поробілосо!* Дварэц. 2. Пабудавацца, з'явіцца. *Лес узяўса і ўсе гэто поробілосо* (пра хлеў, хату і інш.). Сямурадцы.

ПОРОБІ'ЦЬ *зак.* 1. Пачысціць (рыбу). *Ты поробіла ўсю рыбу?* М. Малешава. 2. Зрабіць, парабіць. *А вон поробіў за тые кабанцэ́ вокна.* Луткі. *Перэ́весло поробіла со лну.* Дварэц.

ПОРО'БЛЕНЫ *дзеепрым.* Зроблены, пароблены. *Вокна у шпар пороблены.* Луткі.

ПОРОБОСЦІ'ЦЬ *зак.* Заняволіць, прыгнесці. *Порабосцілі булі людзей немцы.* В. Малешава.

ПО'РОВЕНЬ *прысл.* Побач, поруч, адзін каля аднаго. *Поровень поклалі, бабу ў леву руку, а дзеда ў праву руку* (пра мёртвых). Чэрнічы.

ПОРО'Г *м.* 1. Парог, прыступкі. *Тогды́ у нас вода была по порог.* М. Малешава. *На́дзе, у порозе не стой, ніхто у этым годзе ў сваты́ не пойдзе!* Луткі. *Без бога ні до порога* (прымаўка). Там жа. *У хату йдзеш і с хаты йдзеш— ніколі не мінеш* (загадка). *Порог* (адгадка). Хотамель. 2. Сядзенне ў выдзеўбаным чоўне. *У чоўні два порогі — уперэду́ і ззаду.* Запясочча.

ПОРОГО'ТВАЦЬ *незак.* Пасмейвацца гучна, нястрымана. *Наеласа бабкі, да дно пороготвае.* М. Малешава.

ПОРОДЖА'ЦЦА *зак.* Нарадзіцца, з'явіцца на свет. *Хто пры мне породжаўса, то я і іх не знаю.* В. Малешава.

ПОРОДЗЕ'ЛЬЯ *ж.* Парадзіха. *Як вухо́дзіць тая молодзіца, породзелья, перву раз на двор, то берэ ў кішэнь яке жэлезо од уро́коў.* Хачэнь. *У нас на хрысцінах баба породзелье дае подаркі.* Дварэц. *Породзе́ля.* Мачуль. *Породі́лля.* Альпень.

ПОРО'ДЗІСТЫ *прым.* Добрай пароды, пародзісты. *Породзістые куры на веліч ек гусі.* Пагост.

ПОРОДЗІ'ЦЦА *зак.* Нарадзіцца. *Некото́рые породзіліса і погодова́ліса тут.* Луткі.

ПОРО'ДНЯ' *ж.* Род, парода. *Породня́ ў іх такая, іх було тры браты́ некіе такіе ды́ховые.* Луткі. *Наша поро́дня усе сіву́е.*Аздамічы.

ПОРОЖА'ЦЬ *незак.* Кусаць, жаліць. *Коб крый божэ воны порожалі нас, як мы іх бачым!* (пра змей). Кароцічы.

ПОРО'ЖНІ *прым.* 1. Пусты, парожні. *На дной хвоі було дзве вульє́, одзін порожні.* Луткі. *І порожнего воза потом не хочэ везці.* Там жа. *Чого ж варэнік порожні, вон жэ з сыром.* Запясочча. *Отрэпін мало положылі да сцены порожніе, і холод ідзе зімою.* Дварэц. *Нашэ село порожне було, бо у бежэнцах булі.* Хачэнь. 2. Не прыпраўлены, нішчымны. *Як нема сметаны, то й ладкі порожніе.* Запясочча. *Хай едзяць порожню страву.* Пагост. *Памянш.* по ро́ ж н е н ь к і. В. Малешава.

ПОРОЖНЯКІ' *прысл.* Паражняком, без паклажы. *А шо ж я буду порожнякі ехаць?* Луткі.

ПОРОЖНЯКО'М *прысл.* Тое ж. *Хоця б соломіну*

*положыў у драбу, а то порожняком барабаніць.* Верасніца.

ПОРО'ЖОК *м.* 1. Парог, прыступка. *На сколько порожок ганок?* В. Малешава. 2. Сядзенне ў дзяўбаным чоўне. *Сеў на порожэк у чоўні.* Сямігосцічы. 3. Бераг у начоўках. *Два порожкі у ночвах е.* Запясочча. *Дзержыш рукамі за порожэк і палаеш.* М. Малешава.

ПОРОЗБІРА'ЦЦА *зак.* Распрануцца. *Порозбіраліса жонкі догола і побеглі полохаць бап.* Хотамель.

ПОРОЗГАНЯ'ЦЬ *зак.* Паразганяць. *С первою жонкою то я дзеці маў, а з другою жонкою — то порозганяў* (з песні). Сямурадцы.

ПОРОЗ'ЕДА'ЦЬ *зак.* Зрабіць злым, злосным. *Бало, тых свіней собакамі пороз'едаюць, шчоб булі ёдкіе, да ў лес загоняць, то там і жывуць.* Луткі.

ПОРОЗ'ЕЖДА'ЦЦА *зак.* Параз'язджацца, павыязджаць. *Нема дзевок, усе пороз'ежджаліса.* Сямурадцы.

ПОРОЗМЛЕВА'ЦЬ *зак.* Разварыцца, разамлець. *Порозмлевалі тые плоткі у горшку.* М. Малешава.

ПОРОЗРОБЛЯ'ЦЬ *зак.* Парасярацоўваць, падрыхтаваць для пасеву. *Порозроблялі тоё землі!* Сямігосцічы.

ПОРОЗРЫ'НЬВАЦЬ *зак.* Панабрыняць, панабухаць (?). *Пшоно ў кішках порозрыньвае.* Бярэжцы.

ПОРО'М *м.* Паром. *Робілі пором церэз Прыпець.* Чэрнічы.

ПОРО'МШЧЫК *м.* Паромшчык. *Порома цепер кацер цяне, а колісь поромшчык.* Пагост.

ПОРОСІ'ЦЦА *незак.* Парасіцца. *Кубло зробіла свіньня, ужэ будзе зара поросіцца.* Кароцічы.

ПОРОСІ'ЦЬ 1 *зак.* Нарабіць расы, папырскаць. *Поросіло картоплінне рано, хоць так воды запутае картопель, а то суш.* Пагост. *Бач, поросіло траву, да як добрэ косіцца.* Там жа. *За рэкою быў добры дождж, а на полі — тольки поросіў.* Тураў. *Свінячы дождж малы, поросіў і не помочыло.* Мачуль. 2 *незак.* Прыводзіць парасят. *Кажуць, бу свіньня там поросяць собачэнята.* Запясочча.

ПОРОСКІДА'ЦЬ *зак.* Параскідаць. *Ветлы поваліло, стогі пороскідало — наглы буў буран.* Пагост.

ПОРОСЛЕ'ВІК, ПОРОСЛЁВІК *м.* Баравік, які расце ў хвойніку. *У порослевіках корэнь маленькі.* Хачэнь. *У порослёвікоў шапкі чорные.* Там жа.

ПОРОСЛЯ' *ж.* Высокае пясчанае месца ў лесе. *Порося — гэто вусокіе места, там лес хорошы, грыбу, у Берэжэцком бору е такіе хорошые порослі.* Луткі. *На по-*

*росле мўчанік росце.* Бярэжцы. △ С е д з é ц ь я к г р ы б ý у п о р о с л і. Мець цвёрдае, надзейнае становішча. *Седзіцé себе як грыбу ў поросли!* Запясочча.

ПОРО′СНА *прым.* Паросная. *Поросна свіння, бач тоўста, цыцата.* Пагост.

ПОРОСПЛО′ЎВАЦЦА *зак.* Расплысціся, парасплывацца. *Картоплі поросплоўваліса по хаці* (у паводку). Сямурадцы.

ПОРОСПУХА′ЦЦА *зак.* Разбракнуць, размокнуць. *Горох у водзе пороспухаецца.* Луткі.

ПОРОСТОПУ′РАЦЦА *зак.* Рассунуцца, растапырыцца. *Поростопураецца націнье.* Бярэжцы.

ПОРОСТОПУ′РВАЦЬ *зак.* Растапырыць. *Пéрца поростопурваюць окуньцэ́.* Цераблічы.

ПОРО′СЦЕ *н.* Прарослая збажына. *Купіў поросця мешок.* Луткі.

ПОРОСЦІ′ *зак.* Нарасці, парасці. *Хлопцы порослі велікіе!* Луткі. *Не поросло жыто, оннó звонец порос.* Цераблічы. *Картоплі поростуць по два метры, страхóцье!* М. Малешава. *Дай господзі, шоб на твоей поселі броківа поросла!* (праклён). Кароцічы. *Картоплі порослі, ек гарбузы!* Сямурадцы.

ПОРОСЦЯГА′ЦЬ *зак.* Парасцягваць. *Не кідай рыбу, коты мітэлем поросцягаюць, бач, цікуюць.* Пагост.

ПОРОСЮ′К *м.* Парася. *Карпы як поросюкі тóўстые.* Луткі. *Памянш.* п о р о с ю ч ó к. *Малые поросючкі.* В. Малешава.

ПОРОСЯ′ *н.* Парасё. *Прышоў у хлеў да порося вуцяг.* Кароцічы. *Заднему поросяці задня цыцка* (прыказка). Сямігосцічы. *Осталосо нас семеро, ек поросят!* Хачэнь. *Памянш.* п о р о с я́ т к о. *Поросяткам далá, кóзцы дала, кýрцы дала — і уся моя робота.* Старажоўцы.

ПОРОЎНЁВА′ЦЬ, ПОРОЎНОВА′ЦЬ *зак.* Падраўняць, параўнаваць. *Вуліцу поройнёвалі трохі.* Запясочча. *Хто сее, хто боронуе — усе бог поройнуе* (прыказка). Сямігосцічы.

ПОРО′ЎНІ *прысл.* Па сабе. *Тому бог даў, шо поройні узяў* (прымаўка, пра жонку). В. Малешава.

ПОРОХНЁЎКА *ж. перан.* Драхлы, лядашчы чалавек. *Усе у полі, а у дзерэўні старые порохнёўкі ходзець.* В. Малешава.

ПОРОХНО′ *н.* Рэшткі сапрэлага дрэва, парахня. *Вычысціш порохно з дуплá — і кáдоўб.* Альшаны. *Мясо з*

*лóся порохно порохном!* Хачэнь. *Е порохно, шо свéціць ночу.* Бярэжцы. *Памяняш.* порохéнцэ. Запясочча.

ПОРОХНОВА′ТЫ *прым.* Спарахнелы, трухлявы. *Порохноватэ дзерэво уночы свеціцца.* Пагост.

ПОРОХНЯ′ *ж.* Рэшткі сапрэлага дрэва, парахня. Хотамель.

ПОРОХНЯ′ВІНА *ж.* Парахнявае дрэва. *Порохнявіна, вона сільно смóльна.* Рыдча.

ПОРОХНЯ′ВЫ *прым.* Спарахнелы, трухлявы. *Порохнявэ і порохно сыплецца* (пра калоду). Луткі. *Радыска робіцца порохнява.* Запясочча.

ПОРОХНЯ′К *м.* Рэшткі сапрэлага дрэва, парахня. *Мой сын порохнякý нашукае і кýрыць пчол.* В. Малешава.

ПОРОХНЯ′ЛЫ *прым.* Спарахнелы, трухлявы. Альшаны.

ПО′РОХОЎКА *ж. зневаж.* Рыхлы, тоўсты чалавек. Запясочча.

ПОРО′ЦЦА *незак.* Капацца, корпацца. *Не хоцела пороцца у той сумцы.* М. Малешава. *Праўду скажу тобе, я седжу дома, порýса.* В. Малешава. *З егó робота, так поройса троху.* Аздамічы.

ПОРО′ЦЬ *незак.* Калоць, тыкаць вострым. *Осцён, шчо волы пороЛі.* Сямігосцічы.

ПОРО′ША *ж.* Пароша. *Пороша на дворэ́, трэба йці на охоту.* Луткі. *Выпала пороша, снежок попыліў свежэнькі.* Аздамічы. *Памяняш.* порóшка. *Порошка упадзе — собіраюцца на охоту.* Бярэжцы.

ПОРОШЧЭ′ПВАЦЦА *зак.* Адчапіцца, адкінуцца. *Потым п'яўгі порошчэпваюцца і нешчо з іх ідзе тамэка.* Хачэнь.

ПОРСУ′НА *ж.* Парша (?). *От пралі, аж порсýны з нас сыпаліс!* Мачуль.

ПОРТ *м.* Порт. *Острыжэ овечку дай на половіну з портом прадзе.* Сямігосцічы.

ПОРТА′Ч *м. экспр.* 1. Няўмелы работнік, партач. *Вона була портач, да будзе портач — век не научыцца.* Сямурадцы. 2. Бядняк, галадранец. *Гэто портач, нема шчо з ім говорыць.* Цераблічы.

ПОРТНЫ′ *прым.* З ільну, канапель, парцяны. *Гужэ́ рэмéнные булі і портные.* Любавічы. *Портные хýсткі носілі.* Хотамель.

ПОРТНЯ′НКА *ж.* Ануча. Альпень.

ПОРУБА'ЦЬ *зак.* Пасячы. *Дай мне сокеру порубаць дрова.* Хачэнь. *Порубаў по кусках м'ясо.* Запясочча.

ПОРУДЗЕ'ЦЬ *зак.* Парудзець. *Заліла салом, а вонэ не проняло ёго, да м'ясо порудзело.* Бярэжцы.

ПОРУ'КА *ж.* △ Браць на пору́ку. Паручацца. *Ужэ на поруку бралі тые людзі.* М. Малешава.

ПОРУНІ'ЦЦА *зак.* Зарунець, заселянець (?). *Ужэ усе порунілосо на полі.* М. Малешава.

ПО'РУЧ *прысл.* Побач, поплеч. *А вон з братом седзелі поруч.* В. Малешава. *Там доярка дзеўка бегла зо мной поруч, шчоб мне було охвотнéй.* Цераблічы. *Дзве лесіны поруч лежаць, і гэдак кілометроў чотыры было* (пра кладкі на балоце). Мачуль.

ПОРУШЫ'НА *ж.* Парушына. *Боліць воко, порушына трапіла.* Старажоўцы. *Памянш.* порушы́нка. Альшаны.

ПОРХ *м.* △ У по́рха. Дзіцячая гульня, падобная на хакей. *Го́няць по́рха ковенéю, хто кого перэсіліць.* Сямігосцічы. *У порха по снегу́ гулялі, кочалі порха коцубо́ю.* Там жа.

ПО'РХОЎКА, ПО'РХОЛКА *ж.* Порхаўка. Хачэнь. △ У по́рхоўку. Дзіцячая гульня, падобная на хакей. *У порхоўку колісь гралі, у таку коло́дку, як лёд голцэ́м замерзне, то гонілі.* Цераблічы. У по́рхолку. Мачуль.

ПОРЦЯНЫ' *прым.* △ Порцяна́ шля́хта. Незаможная, бедная шляхта. Кароцічы.

ПОРЧ *м.* Шкода. *Свінья ў горо́дзі порчы наробіла.* Старажоўцы. *Вон людзям робіў порч.* Верасніца.

ПО'РЧА *ж.* Тое ж. *Ніякой порчы не зробілі корові.* Луткі. *Порчы у мене наробілосо: ціпля вубегло у картоплі.* Старажоўцы.

ПОРШУ'К *м.* Парша. *На картоплях такіе поршукі наверху.* Луткі.

ПОРЫВА'ЦЬ *незак.* Турбаваць, кранаць, кратаць. *Нехай не гневаетса небожчыца, шо мы ее порываем.* Запясочча. Выклікаць. *Мене смех порывае, а ўсе ў мене важкее цело.* М. Малешава. △ Порыва́ць о́чы. Ускладаць вялікую надзею. *На чужы коровай очэй не порывай, свой спечы да скачы* (прыказка). Мачуль.

ПОРЫНА'ЦЬ *незак.* Апускаць, акунаць. *От порынае у воду голову і нема ее.* Рубель.

ПОРЫ'ЦЬ *зак.* Зрыць, парыць. *Свінья зо́йдзе да порые усе.* Мачуль. *Порылі свінья сено́жаць.* Цераблічы.

ПОРЭ′БРЫНА *ж.* Рабро ў кашы. *Порэбрыны устаўляюць у кош, а тогды заплётаюць дубцамі.* М. Малешава.

ПОРЭ′ДЖАЦЬ *зак.* Парадзець, зменшыцца. *Порэджало нейдзе ворóн.* В. Малешава.

ПОРЭ′ЗАЦЦА *зак.* 1. Параніць сябе, парэзацца. Аздамічы. 2. Папілавацца. *Ломач'е порэжэцца на дворэ.* Сямурадцы.

ПОРЭ′ЗАЦЬ *зак.* Нарэзаць, парэзаць. *Трэ порэзаць котóм гэту рыбіну.* М. Малешава. *Бурак зварац, того бурака порэжуц да едзяц з хлебом.* Запясочча. Парваць. *Воўк усе порэзаў вечкі.* Сямурадцы.

ПО′РЭЗЬ *ж.* Рэдзь у трыгубіцы. Запясочча.

ПОРЭ′НДЖА *ж.,* ПОРЭ′НДЖЫ, ПОРЭ′НЧЫ *мн.* 1. Падпорка пад стрэшку над ганкам (?). Хачэнь. 2. Развілкі. *Порэнджы поклаў на сані.* Цераблічы. 3 *мн.* Поручні, парэнчы. *Паром буў дзерэв'яны, без порэ́нчоў.* Дварэц.

ПОРЭ′ПАНЫ, ПОРЭ′ЙПАНЫ *дзеепрым.* Патрэсканы, шурпаты. *Кора так, як на дубі, на берэсту порэпаная.* Луткі. *Ох, які поколаны пірог, порэйпаны!* Мачуль.

ПОРЭ′ПАЦЦА, ПОРЭ′ЙПАЦЦА *зак.* Патрэскацца, стаць шурпатым. *П'яты порэпаліса, а ногі покололіса.* Верасніца. *Порэйпаліса рукі од воды і ветру.* Мачуль.

ПОРЭ′ЧКІ *мн.* Парэчкі. *У нас лесічанкі, порэчкі — усе росце!* Д.-Гарадок.

ПОРЭШЫ′ЦЬ *зак.* Прыняць рашэнне, вырашыць. *Людзі порэшылі не сеець ільнý.* Хачэнь.

ПОСА′ГА *ж.,* ПОСА′Г *м.* Пасаг. *Посага — гэто загон і грошы, а корова — перэпой.* Альшаны. *Вон не пужаўсе посагою, бедну узяў.* В. Малешава. *Посаг — корову давалі, лібо дзве.* Мачуль.

ПОСА′Д *м.* 1. Рад снапоў, пакладзены на ток для абмалоту. *Снопý ложылі одзін к одному насýстрэч, это і е посад, да попоб'é!* М. Малешава. 2. Месца, куды садзілі жаніха і нявесту. *Посадзілі молодых на посад.* Бярэжцы. *Просцелюць кожухá і садзяць молодую на посад.* Пагост.

ПОСА′ДЖАНКА *ж.* Кіслы праснак з хлебнага цеста. Альшаны.

ПОСАДЖА′ЦЬ *зак.* Пасадзіць, насадзіць. *Кажуць, ек похмаркі, трэба посаджаць гарбýзы.* Верасніца. *Прынéсла тых яблонéй, да густо посаджала.* Дварэц.

ПОСА′ДЗІНА *ж.* Саджанец, пладовае дрэва. *На нашом горóдзе чотыры посадзіны.* Хотамель.

ПОСАДЗІ'ЦЦА *зак.* Пасесці, парассядацца. *Посадзіліса сваты, свахі, седзяць.* Сямігосцічы.

ПОСАДЗІ'ЦЬ *зак.* Прапанаваць, прымусіць сесці. *Аж немцы дзеці посадзілі, а ему пулю розрыўну у лоб— і нема.* Тураў. Паставіць у печ. *Я замесіла цесто, поклала его ў формы і посадзіла у печ.* М. Малешава. Пасадзіць у зямлю. *От земля добра, посадзі дзіця — і то вýросце.* Хачэнь. Паставіць. *Ек веліка хвоя, то і дзве вульí посадзяць.* Лутні. Асадзіць рой. *Посадзіў роя́ ў улей.* Лутні. Памясціць на чым-небудзь. *Посадзіць квоктуху.* Запясочча.

ПО-САМО'МУ *прысл.* Па аднаму. *Воны там по-самому жывуць.* Верасніца.

ПОСАПА'ЦЬ *зак.* Апрацаваць матыкай. *Чому ж ёй не буць гладкóй, як вы ёй посапáлі картоплі?* Лутні.

ПОСВАРЫ'ЦЦА *зак.* Пасварыцца. *Посварацца, да поладзяцца, да говорацць.* Аздамічы. *Вона посварыласа з усімі жонкáмі.* Запясочча.

ПОСВА'РЭНЫ *дзеепрым.* Які пасварыўся. *Мы удвоіх посварэные.* Кароцічы.

ПОСВА'ТАЦЦА *зак.* Пасватацца. *Ідуць посватацца — беруць пірога і бутылочку.* Пагост.

ПО'СВЕ'Т, ПОДСВЕ'Т *м.* Прыстасаванне для асвятлення хаты лучынай, дзед. *Посвéт свеціцца, а мы седзімо.* Хачэнь. *На пóсвет хмель, зéрнета сыплюць да хапаюць.* Пагост. *Подсвéт.* Запясочча.

ПОСВЕЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Асвятліць, пасвяціць. *Свет пропаў, посвеці сернíком, лампу достану да запалю.* Пагост. 2. Пакрапіць, надаць святасць. *На празьнік трэбо хлеб посвеціць свéчаною водою.* М. Малешава. *Посвеціла вербу да у одрыні коло вушака повесіла.* Пагост.

ПО-СВІНЯ'ЧЫ *прысл.* Па-свінску. *Вона по-свіңячы поступіла.* Лутні.

ПОСВІ'СТВАЦЬ *незак.* Пасвістваць. *За намі ідзе да посвіствае.* Сямігосцічы.

ПО'СВІСТОЛ *м.* Расліна дуднік. *С посвістолу одрэзваюць дудкі.* Сямігосцічы.

ПОСВІСЦЁЛКА *ж.* Птушка (?). *Посвістёлка по воде бегае і свішчэ.* Альпень.

ПО-СВО'ЕМУ *прысл.* Па-свойму. *Кожны чоловек посвоему пеé.* Хачэнь. *По-своему язы́к гнецца.* Альпень. *Усе я емý торóчу по-своему.* Сямігосцічы.

ПОСЕ'ВЕРЫЦЬ *зак.* Пасівераць, патрэскацца ад ветру. *Посеверэлі рукі і губы.* Бярэжцы.

ПОСЕДА'НЬЕ *н.* Пасядзелкі. *Ходзі на поседанье.* Аздамічы.

ПОСЕДА'ЦЬ 1 *зак.* Пасесці. *Поседаюць дзеці да слухаюць.* Хачэнь. 2 *незак.* Складваць, перакладваць клопаты. *Мужык як не робіць, а ўсе на жонку поседае* (пра хатнюю гаспадарку). Сямігосцічы.

ПОСЕ'ДЖВАЦЬ *незак.* Паседжваць. *Я ужэ устроілаcа і вуйшла поседжваць, байкі баяць.* Сямурадцы. *То добрына́: бороду загодоваў да поседжвай.* Аздамічы.

ПОСЕДЗЕ'ЛКІ *мн.* Пасядзелкі. *Бабы́ пошлі на поседзелкі.* Хачэнь.

ПОСЕДЗЕ'НЬКІ, ПОСЕДЗЁНКІ *мн.* Тое ж. *Ходзіў к нам у поседзенькі.* Лутюкі. *Як нет чого робіць, то ба́бі ідуць на поседзёнкі.* Сямігосцічы.

ПОСЕДЗЕ'ЦЬ *зак.* Пасядзець. *Я поседзела, да ўжэ ошоломоне́ла сама.* Рыдча. *Наморыласа цепэ́рэка, сяду да поседжу.* Д.-Гарадок.

ПОСЕ'ЕЦЬ *зак.* Пасеяць. *Прoса́ і жыта́ посеелі на Дубово́й.* Дварэц.

ПОСЕ'КЦІ *зак.* Пасячы. *Посек на дрова дышэль.* Кароцічы.

ПОСЕ'КЦІСА *зак.* Пасячыся. *Посекліса дрова.* Хотамель.

ПОСЕ'ЛЕНЬЕ *н.* Перасяленцы. Альшаны.

ПОСЕЛІ'ЦЦА *зак.* Заняць месца, пабудавацца, пасяліцца. *На хорошом пляцу поселіўса.* Цераблічы. *З даўнего зналі, дзе вушэй поселіцца.* Тураў.

ПОСЕ'ЛЯ, ПОСЕ'ЛІЯ *ж.* Сядзіба, гаспадарчыя пабудовы. *То шчэ ба́цькова поселія.* Верасніца. *О то іх поселя, я сюды й замуж прышла.* Чэрнічы. *Стою на гэтой поселі і гукаю, то вы знаеце, одозваласа тая гусь.* Мачуль.

ПОСЕ'НІЦЦА *зак.* Падсохнуць. *Так паліць сонцэ, ек бач посенілосо сено, трэ ворушыць.* Пагост.

ПОСЕ'РДЗІЦЦА *зак.* Раззлавацца. *Посердзіліса молодые.* Дварэц.

ПОСЕРЭ'Д *прыназ.* Пасярод. *Посерэд саду окопы булі.* Хачэнь. *Горыць огонь посерэд хаты.* Бярэжцы.

ПОСЕ'СЦІ *зак.* 1. Сесці, пасесці. *От поселі на веселы́ неком і ждуць.* В. Малешава. 2. Атрымаць (?). *Трэ свінёю быць, шчоб на одном чоловеку посесці яшчык горэлкі.* Сямігосцічы.

ПОСЕ'Ў *м.* Засеянае поле, пасеў. *Не едзь по посеву, то зробіш дорогу.* Луткі.

ПО′СЕЦЬ *ж.* Хвароба, пошасць. *Посець напала на гусей.* М. Малешава.

ПОСЕ′ЯЦЬ *зак.* Пасеяць. *Як будзе жыцца, то посеем траву.* Сямурадцы.

ПОСЁСТРА *ж.* Дваюрадная сястра. Хотамель.

ПОСІ′ *прысл.* Дасюль. *Тые спадніцкі у дзевок посі.* Хачэнь.

ПОСІ′ЛОВАЦЬ *зак.* Здолець, перамагчы. *А ўжэ як посілуюць нашы, то ім дадуць!* Луткі. *Которы посілуе, то той норца да уцекаць.* Запясочча.

ПОСІ′ЛЬ *прысл.* Дасюль. *Посіль грошэй е у мене.* Бярэжцы.

ПОСІ′ЛЬНО *прысл.* Пасільна, па сілах. *Хоць там лёгко і посільно, но я б не змогла робіць од жары.* Сямурадцы.

ПОСІНЕ′ЦЬ *зак.* Пасінець. *Ужэ і посінелі і губу.* Дварэц. *Хоць посінейце, біцеса.* Хачэнь.

ПОСІРОЦІ′ЦЬ *зак.* Асіраціць. *Ты ж мне дзеткі посіроціў!* Сямурадцы.

ПОСІЦЕВЕ′ЦЬ *зак.* Зрабіцца падобным да сіта. Альшаны.

ПОСКІДА′ЦЬ *зак.* Паскідаць. *Поскідай одзежу — я поперу.* Верасніца. *Трэба построіць коміна на хаці, а то буські поскідáлі цэглу — усе стояць на коміні.* Там жа. *Кажуць, ек бýські поскідáюць яйца з свойго кублá, то будзе нешчасцье* (павер'е). Там жа.

ПОСКЛАДА′ЦЬ *зак.* Пакладаць. *Поскладала дрова ў клетку на зіму.* Дварэц.

ПОСКЛОБІ′ЦЬ *зак.* Акарыць. *Я свое дзерэво посклобіў.* Аздамічы.

ПОСКОВА′ЦЬ *зак.* Нацкаваць. *Собакою поскуй, то з'есць кýру.* Луткі.

ПОСКОЛОЦІ′ЦЬ *зак.* Стрэсці. *Посколоціць веўцёр усе яблука.* Пагост.

ПОСКОРО′МІЦЦА *зак.* Паесці скаромнага. *Захоцеў воўк поскороміцца, да попаў у яму.* Любавічы.

ПО′СКРЭ′БКА, ПОСКРО′БКА *ж.* Астаткі цеста ў дзежцы для закваскі. *У дзежэ е пóскрэбка.* Луткі. Маленькая булачка хлеба з наскрэбенага ў дзяжы цеста. *Осталóсо цеста на пóскрэбку.* Аздамічы. *Памянш.* п о с к р э́ б о ч к а. М. Малешава.

ПОСЛАНЕ′Ц *м.* Пасланец. *І швец, і мнец, і чорту посланец* (прымаўка). Запясочча.

ПОСЛА′ЦЬ *зак.* 1. Паслаць. *Цепер толькі богато по-*

*слалі лну!* Пагост. 2. Укласці шчыльна (пра дошкі і інш.). *Ужэ подлогу послалі, то скоро пойдуць жыць у нову хату.* Верасніца. 3. Накіраваць. *Пошлі дурне́, за ім друге* (прымаўка). Сямурадцы. 4. Адправіць па пошце. *Дзве меткі грыбоў послалі Сергею.* Дварэц.

ПО'СЛЕ, ПОСЛЯ' 1 *прысл.* Пасля, потым. *Зробіла бункера, а после і хату.* Запясочча. *І на роботу послЯ́ йдуць, а не за́ра.* Чэрнічы. 2 *прыназ.* Пасля. *После велікоnья тыждзень робіў.* Цераблічы. *Петро спіць, ек послі ма́коўкі!* В. Малешава.

ПОСЛЕ'Д *м.* 1. Пазаддзе. *Ек вееш, то послед падае блізко коло рук, а далей хоро́шэ.* Дварэц. *Послед ложыўса коло мекіны, а чэло далей.* Хачэнь. 2. Слабая самагонка. *Послед — сла́бая гарэлка, котора не горыць ужэ.* Цераблічы.

ПОСЛЕДЗІ'ЦЬ *зак.* Наслядзіць. *Вуйшла на двор, бачу, аж нечые собакі последзілі сцежку.* Верасніца.

ПОСЛЕ'ДОК *м.* Канец, заканчэнне. *Пры последку я кажу ёму́, шо ўмёр той чоловек, у кого я купіў.* Старажоўцы.

ПОСЛЕЗА'ЎТРА *прысл.* Паслязаўтра. *Послезаўтра поедзем у ягоды, вон подвезе на машыне до Оздаміч.* Луткі.

ПОСЛЕЗА'ЎТРОГО *прысл.* Тое ж. Дварэц.

ПОСЛЕЗА'ЎТРЭЙ *прысл.* Тое ж. *Послезаўтрэй моя чэрга товар пасці.* Луткі.

ПОСЛЕ'ПНУЦЬ *зак.* Паслепнуць. *Мамо, нешчо мое куры послеплі!* Верасніца.

ПОСЛІ'ЗНУЦЬ *зак.* Пакрыцца сліззю. *Послізлі ў мешочку тые ягоды.* Пагост.

ПОСЛУ'ХАЦЬ *зак.* Паслухаць, выслухаць. *От, дзякуй богу, шо мене дзевочкі послухалі.* Хачэнь. *Но за хорошу роботу я й должэн цебе послухаць.* Кароцічы.

ПОСМЕ'Х *м.* Пасмешышча. *Ека ж вона була настаўніца, посмех буў, вона ж глуха́!* Старажоўцы. *І з посмеха людзі бываюць* (прымаўка). Запясочча.

ПОСМЕ'ХАЦЦА *незак.* Пасмейвацца, насміхацца. *Пошла я сена купляць у Малешоў, а господар кажэ до мене: пані, пані! А я посмехаюса: яка я тобе пані?* Дварэц. *Посмехацца грэх з мене!* Хотамель.

ПОСМЕ'ЦЬ *зак.* Адважыцца. *Я не посмела ёго́ попытаць.* Запясочча.

ПОСМЕЯ'ЦЦА *зак.* Пасмяяцца. *Посмеяўса бедны з багатого.* Старажоўцы.

ПОСМОКТА'ЦЬ *зак.* Пасмактаць. *Нешчо посмокчэш трохі у том раку да і вукідай.* Старажоўцы.

ПОСМОЛІ'ЦЬ *зак.* Пасмаліць. *Можна куру і гусь посмоліць.* Старажоўцы. *Войнá попаліла й посмаліла ўсе.* Там жа.

ПОСМОРЫ'ЖЫЦЬ *зак.* Пашморгаць. *Посморыжыць веройку трэба добры крук, шоб не було кострыцы.* Чэрнічы.

ПО'СМУК *м.* Вязка лазовай кары (на лапці). Запясочча.

ПО'СМУЧ *м.* Чорнагаловік (расліна). *На болоці посмуч хорошы, на весне товар есць.* Аздамічы.

ПОСНЕ'ДАЦЬ *зак.* Паснедаць. *Поснедай рэзанóў з салом, да ладок картопляных, да запій молоком дай пошоў на роботу.* Верасніца.

ПО'СНІКАЦЬ *незак.* Пасціць. *Ужэ суткі поснікае.* Хотамель.

ПО'СНІКОВАЦЬ *незак.* Тое ж. *Я цепера посніковала, не ела нічого.* Кароцічы.

ПОСНУ'ЦЬ *зак.* 1. Паснуць, заснуць. *На дорозі полеглі да поснулі.* Лутки. 2. Завяць. *Кортоплі поснулі од сонца.* Сямігосцічы.

ПО'СНЫ *прым.* Посны. △ П о́ с н а я  к у ц ь я́. Абрадавая вячэра перад калядамі. Аздамічы. П о́ с н а я  п е́ с н я. Каляндарная песня, якую спявалі ў пост. Запясочча.

ПОСО'БІЦЬ *зак.* Дапамагчы. *Тобе й масло не пособіць!* Тураў. *Да вот воны й навозілі лесу, воны й хату пособілі збудоваць.* Пагост.

ПОСОБЛЯ'ЦЬ *незак.* Дапамагаць. *Я пособляла ёмý дзеці годоваць.* Запясочча. *І соткі сеялі і сено пособлялі робіць.* Сямурадцы.

ПОСОВЕ'ЦЬ *зак.* Пасавець, пасалавець. *Наеліса нечого гусенята, ужэ посовелі — подохнуць скоро.* Верасніца.

ПОСОЛЕ'ЦЬ *зак.* Пабыць у солі. *Суткі рыба посолée, а тоды пэрэмыю хорошэнько дай на сонцэ.* Мачуль.

ПОСОЛІ'ЦЬ *зак.* Пасаліць. *Чым жэ му сало посолім?* Лутки. △ Д у́ ш у  в ы́ н я ц ь  і  п о с о л і́ ц ь. Прычыніць здзек. *Воны душу вымуць і посоляць.* Запясочча.

ПОСОРО'МЕЦЦА *зак.* Пасаромецца. *От есці хоцела, а просіць посоромеласа.* Верасніца.

ПО'СОХ *м.* 1. Кіёк. *З посохом навек ходзіць стары́.* Кароцічы. 2. Прылада, якой палохаюць і заганяюць рыбу ў сетку. Кароцічы.

ПОСО'ХНУЦЬ *зак.* Пасохнуць. *Посохне твое шмацье да я тобе оддам ёгó да йдзі собе куды хочэш.* Кароцічы.

ПОСПАДА'ЦЬ *зак.* 1. Спасці. *Ракопутні поспадаюць, як будзе корова стояць у водзе.* Дварэц. 2. Пайсці на спад. *Вода ў долінах поспадала ўжэ, то пойдом косіць віш.* Верасніца.

ПОСПА'ХВАЦЦА *зак.* Спрацавацца, страціць сілу ад працяглай працы, мінуцца, перастаць існаваць. *Нашы старые мужчыны уже поспахваліса, негодзяшчые.* Пагост. *Усе тэ поспахваласо, нема.* Цераблічы. *Трэ везці до коваля ў кузню плугі, а то ужэ поспахваліса.* Пагост.

ПОСПЕВА'ЦЬ *зак.* Пасяваць. *Я поспевац, почудáчыц люблю.* Запясочча.

ПО'СПЕХ *м.* Спорнасць, хуткасць. *У ее нема поспеху такого ў робоці.* Старажоўцы.

ПОСПЕ'ЦЬ *зак.* 1. Паспець, выспець. *Як лён поспеў — бралі.* Запясочча. 2. Прыспець. *Поспела погода на сено — і ветрык, і сонцэ, за недзелю ўправяцца людзі.* Пагост.

ПОСПЕША'ЦЬ *незак.* Прыспяшацца. *Лянівы той на роботу не поспешае!* Лутні. *Як дзіця учыцца ходзіць, то кажуць «йдзе-йдзе» і рукамі маняць, пальчыкамі перэбіраюць, шчоб воно поспешало.* Там жа.

ПОСПОДУ' *прысл.* Знізу. М. Малешава.

ПО'СПО'ЛЬ *прысл.* Падрад, запар. *П'ятнаццаць раз поспóль сходзіла у лес.* Сямурадцы. *Два дні пóсполь ішоў дождж.* Аздамічы. *Тры годы пóсполь вода прыбывала.* Мачуль. *Пóсполь ідзе, а ідзе на рыбу.* Лутні. *Я не запутáла картопляў два гóды поспóль.* М. Малешава. Скрозь. *Шчорнела поспóль нога, уся чорна!* Дварэц.

ПОСПО'РЫЦЬ *зак.* Паспрачацца. *Поспорылі за дзеці дай не говóрыць до веку.* Верасніца.

ПОССА'ЦЬ *зак.* Пассаць. *Трэбо, шоб поссало жэрэб'я!* Запясочча.

ПОССО'ВАЦЬ *зак.* Пассоўваць. *Баба трохі поссовае тое смéцье дай годзі.* Запясочча.

ПОССУ'КВАЦЬ *зак.* Пассукваць. *Поссуквай ніткі на дратву да навошчыў, шоб валёнкі подшыць.* Верасніца.

ПОСТА'ВА *ж.* 1. Пастава, склад, фігура. Цераблічы. 2. Звычай. *Такая постава була: ек робілі, то мýсілі і корміць.* Лутні.

ПО'СТАВЕНЬ *м.* Цурбан, калодачка. *Подважыць і подставіць постаўня под бервено.* Аздамічы.

ПОСТА'ВІЦЬ *зак.* Паставіць, размясціць. *Жакá поставіў на хорошом месці і не ўлез лінок.* М. Малешава.

*Поставіць хочэ коні ў мой хлёў.* Запясочча. *Усіх вузелі й поставілі ў шэрэнку і з аўтомата побілі.* Бярэжцы. △ Пастáвіць вýшы. Насцярожыцца. *Поставіў вушы конь, мо воўка чуе.* Запясочча. Пастáвіць на нóгі. Выгадаваць, давесці да самастойнага жыцця. *Ёгó бацько на ногі поставіў, усю будоўлю зробіў.* Старажоўцы. Пастáвіць дýбам. Выпруціць. *Шчоб цебе дубом поставіло!* (праклён). Альшаны. Пастáвіць на стóрч. Тое ж. *Вускочыла зімой на двор у однэй сорочэццы, простудзіласа да поставіло ее на сторч.* Сямігосцічы. Пастáвіць мір. Узбударажыць, прывесці ўсё ў рухомы стан. *Шоб майго Колю да ее, то воны б мір поставілі!* М. Малешава. Пастáвіць па-свайму. Перайначыць па-свойму. *Хоць штаны остáўлю, а по-свойму постáўлю.* Старажоўцы.

ПОСТАНО'ВА *ж.* Звычай. *Така постанова була, коб печ веліка у хаце.* Хільчыцы.

ПОСТАНОВІ'ЦЬ *зак.* Паставіць, размясціць. *Мо на бацьковой поселі хату постановіў?* Запясочча. *У печ постановіла місу з оладкамі, коб хорошчые булі.* М. Малешава.

ПОСТАНОЎЛЕ'НЬЕ *н.* Выгляд, стан. *Толя ўдаўся ў Рэзóў, у его таке постаноўленье, як у дзеда.* Верасніца.

ПОСТА'НЦЫЯ *ж.* Тое ж. *По постанцыі відно, шо молоды.* Хачэнь.

ПО'СТАРЫ *прым.* Стараваты. *А корова ужэ постара, то вона того сена-круглекá не хочэ есць; годоў ужэ й дзеўяць корові.* Луткі.

ПОСТАРЭ'ЦЬ *незак.* Пастарэць. *Пошчыталі — семдзесят хлопцэў, постарэлі, бу бугаі, і не жэняцца!* В. Малешава.

ПОСТАРЭ'ЧЫ *прысл.* Па-старому. *Постарэчы, то волошка звалі.* Рыдча.

ПОСТА'Ў *м.* Скрутак палатна. *Постаў полотна—трычотыры губкі.* Дварэц.

ПОСТА'ЎЛЯ'ЦЬ *зак.* Размясціць. *Склалі так-сяк ту хату, а прышоў хозяін да кроквы постáўляў.* Сямурадцы. *А воны там коні постáўлялі, да коні стоялі.* Пагост. *Постаўляла я собе зубы, і цепер добрэ есці.* М. Малешава. *Хатку одзін поставіў, другіе постаўлялі хаты — і село.* Чэрнічы.

ПОСТАЎНЫ' *прым.* Статны, стройны, з добрай паставай. *Ой, то она постаўная молодзічка!* Верасніца. *Вон такі постаўны, лоўкі хлопец, на ім усяка одзежына добрэ лежыць.* Старажоўцы.

ПО'СТАЦЬ *ж.* 1. Постаць (пры жніве). *Заняла вона жаць веліку постаць.* Аздамічы. 2. Постаць, стан. *Уся постаць ва ўюна, як у рыбы.* Луткі.

ПОСТА'ЦЬ *зак.* 1. Размясціцца. *Товар постаў стойловаць на стойло!* Кароцічы. 2. Зрабіцца. *Год за годамі, то постануць доліна́ груда́мі* (прыказка). Аздамічы.

ПОСТОЙЛОВА'ЦЬ *зак.* Адпачыць на стойле. *Постойловала худоба і вугналі на пашу.* Дварэц. *Постойлу́юць гусі да пожэну зноў.* Там жа.

ПОСТОЛЫ', ПОСТО'ЛІ *мн.* Лапці. *Постолы́ розмочу і буду ходзіць.* Хотамель. *Як шанцуе, то і ў посто́лях танцуе* (прыказка). Рубель.

ПО'СТОРОЖЭНЬ *м.* Кароткая вуда на шчупака. Альшаны.

ПОСТОЎПЕ'ЦЬ *зак.* Адзеравянець, здранцвець. *Ужэ мое ногі постоўпелі ходзечы.* Цераблічы.

ПОСТОЯ'ННО *прысл.* Пастаянна. *Пастухі паслі постоянно там.* В. Малешава.

ПОСТОЯ'ЦЬ *зак.* 1. Пастаяць. *Постояў лось, поглядзеў на нас і пошоў у лес, не пошоў до короў.* Сямурадцы. 2. Пачакаць, сцішыць ход, прыпыніцца (просьба, загад). *Постой, дам пу́гу!* Сямурадцы. *Кума, постойце!* Дварэц. *Постой, я поддам на плечы гэты мех.* Кароцічы. *Я пойду до дохтура, а ты постой мене коло хаты.* Сямігосцічы.

ПОСТРО'ІЦЦА *зак.* 1. Прыгатавацца. *Построяцца да п'юць горэлку!* Цераблічы. 2. Прыбрацца. *Я построіўса добрэ, гарны зробіўса.* Запясочча.

ПОСТРО'ІЦЬ *зак.* 1. Прыгатаваць. *Ходзі, снеданье построіла.* Луткі. *Просушым я́блока, построім да немоўгад колькі стояць будуць.* Чэрнічы. *Пока косы построіў, то прышоў у два часы.* В. Малешава. 2. Адрамантаваць. *Построіць машыну можэ ёго́ зяць, вон шчо хоч можэ зробіць.* Кароцічы. *Построй мне чоботы.* Хачэнь.

ПОСТУ'КАЦЬ *зак.* Пастукаць. *Постукалі, мы іх пусцілі.* В. Малешава.

ПОСТУКО'ЎВАЦЬ *незак.* Пастукваць. *Ты тут ходзіш, постукоўваеш, спаць не даеш.* В. Малешава.

ПОСТУ'ЛЬВАЦЦА *зак.* Сагнуцца, згорбіцца. *Мы цепер старые, да постульваліса.* Пагост.

ПОСУ'ДА *ж.* Посуд. *На, еж, да я помую посуду.* М. Малешава. *Б'ецца, кажэ, посуда, нешчо добрэ будзе* (павер'е). Луткі.

ПОСУ'ДЗІНА *ж.* Пасудзіна. *Посудзіну трэба добрэ зробіць, а то мед проедае.* М. Малешава.

ПО'СУ'ДОК *м.* Посуд, ёмістасць. *Поставіла воду мыць пóсудок.* Дварэц. *І посýдку цэлу машыну поўёз — бочóк і ўсёгó.* Хачэнь. *Нішчо воны жывуць, але нéкоёго посýдку свінячого настаўлено.* М. Малешава.

ПОСУ'НУЦЦА *зак.* Пайсці павольна. *А я посунуласа, бу мокры воўк.* Запясочча. *Горбá наставіла, як ночвы, і куды-то пасунуласа.* Луткі.

ПОСУ'ХУ *прысл.* Посуху. *Ёж посуху поўзае.* Запясочча.

ПОСУШЫ'ЦЬ *зак.* Пасушыць. *Можно і на сонцы посушыць пашню.* Сямігосцічы. *Петровіца посушыць озёра, а спасоўка — рэкі* (прымаўка). Старажоўцы.

ПОСХА'ПВАЦЦА *зак.* Паўсхопліваццa. *На водзе посхапваліса бýльбашкі.* Старажоўцы.

ПОСХА'ПВАЦЬ *зак.* Пазрываць. *От трошкі посхапвала клубніку ў огородзі.* М. Малешава.

ПОСХІ'МКАЦЦА *зак.* Скрывіцца, знябожыцца. *А ву прыдзеце да посхімкаецеса, а вона вечно весёла.* Верасніца.

ПОСХО'ДЗІЦЦА *зак.* Пасходзіцца. *Посходзяцца і плетуць плетні коло колóдзедзя.* В. Малешава.

ПОСЦЕ'КАЦЬ *зак.* 1. Пасцякаць, сцячы. 2. Парабіцца слабым, кволым. *Буракі посцéкалі ў зелье.* Луткі.

ПОСЦЕ'ЛЬ *ж.* Пасцель, спальныя рэчы. *Побраў посцель, просцілкі і полез на вушкі.* Хачэнь. *У клеці спалі й одзеваліса посцелью.* Хотамель.

ПОСЦЕ'ЛЯ *ж.* Тое ж. *Колісь як молоду забіралі з хаты, то меньшого брата садзілі на посцелю і, покуль не заплацяць брату, не отдавалі.* Хачэнь.

ПОСЦЕ'ПАЦЬ *зак.* Пазбіваць. *Пойду на картоплі посцепаць жукоў.* Сямігосцічы.

ПОСЦЕРО'ГА *ж.* Перасцярога. *Конь другім голосом таку посцерогу дасць, можно поняць, шчо ўжэ воўкé.* Любавічы.

ПОСЦЁЛ *м.* 1. Подсціл. *То ўсе посцёл да не сено!* М. Малешава. *На грудý козá росце, на посцёл вона ідзе.* Запясочча. 2. Ніжні слой саломы на страсе. *Посцёл посцілае по латах і прыўязвае.* Альшаны.

ПОСЦІ'ЦЬ *незак.* Пасціць. *Я буду цепер посціць? Я у лесі отпосціла ў войну!* Сямурадцы.

ПОСЦЯГА'ЦЬ *зак.* Паўсцягваць. *Усе чысто посцегáла на гóру.* Сямігосцічы.

ПОСЦЯ'ГВАЦЬ *зак.* Пасцягваць. *Нада обязацельно посцягваць бу́льнік у ворох да спаліць.* Старажоўцы.

ПОСЫКНУ'ЦЦА *зак.* Пахіснуцца. *Посыкнуўса, затоб упаў.* Аздамічы.

ПОСЫ'ПАЦЬ *зак.* Пасыпаць. *Трэба по́пэлом посыпаць ногі, як у воду йдзеш.* Мачуль. *Насеку свіны, посыплю мукою, то есць, аж давіцца.* Старажоўцы.

ПОСЫЦЕ'ЦЬ *зак.* Пасыцець, патаўсцець. *Вона така добра господыня, у ее і кабан посыцёў, і корова погладчэла.* Бярэжцы.

ПОСЮ'ЛЬ *прысл.* Дагэтуль. *У бродзіку посюль воды о!* Хачэнь.

ПОТ *м.* 1. Пот. *Пот льецца роўчэка́мі.* Лутκі. 2. Вільготны налёт, раса на паверхні прадметаў. Хотамель.

ПОТАВА'ЦЬ *незак.* Тануць. *Одзін потава́ў, а вон побе́г ёго́ доставаць, дай сам пота́ў.* Дварэц.

ПОТАЛА'НІЦЬ *зак.* Пашанцаваць, пашчасліўіцца. *Як кому поталаніць у жызні.* Пагост.

ПОТА'ПЦЫ *мн.* 1. Ежа з салодкага малака, у якое накрышан хлеб. *Люблю потапцы — і есці і бачіць, як хлеб у молоцэ плавае, і як воны пахнуць.* Пагост. 2. Памінальная страва. *Потапцы едзяць уперво, ек хто умрэ.* Цераблічы. *Паку́ць чыстого коржа́, ла́мяць этого коржа ў солодку воду і робяцца тые потапцы.* Мачуль.

ПО'ТАСЬ, ПО'ЦЕСЬ *ж.* Прасніца. *На по́тасі мы кудзелю прадом з овечкі.* Хотамель. *Поцесь.* Там жа.

ПОТА'ЦЬ *зак.* Патануць. *Увесь воз дзерэўяны, плуве да не потане.* Аздамічы. *Не ўмеў плаваць да потаў.* Знаменка. *Хвоя болоніста нацягнецца водою і потае́.* Цераблічы.

ПОТА'ЧКА *ж.* △ Д а в а́ ц ь (д а ц ь) п о т а́ ч к у. Патураць. *Гэтым далі потачку, то воны робяць, шчо хочуць.* Хачэнь.

ПОТКНУ'ЦЦА *зак.* Паткнуцца, паспрабаваць. *Поткнецца, і назад, не можэ йці по песку вуж.* Лутκі.

ПОТЛЕ'ЦЬ *зак.* Сатлець. *Дзёрон погніў і потлеў.* Хільчыцы.

ПОТОЛОГУ'НІЦЦА *зак.* Павольна пайсці, пацягнуцца. Верасніца.

ПОТО'ЛЯ *ж.* Патуранне, распуста. *Ты сама потолю дала, тому і п'е.* Хачэнь.

ПО'ТОМ *прысл.* Потым, затым. *Потом метлою шчышчаем колос.* Хотамель. *А потом на другі дзень Юрэй.*

Кароцічы. *Уперэд обуйса, потом сходзі на двор.* Сямурадцы.

ПОТОМІ'ЦЦА *зак.* Патаміцца. *Госці потоміліса сідзя.* В. Малешава. *Коніκі ледво попрыходзяць, потóм'яцца.* Дварэц.

ПОТО'МСТВО *н.* Патомкі, нашчадкі, дзеці. *У іх усе потомство таке́!* Старажоўцы.

ПОТОПІ'ЦЦА *зак.* Патапіцца, утапіцца. Сямурадцы.

ПОТОПІ'ЦЬ *зак.* Затапіць. *То засушыло, то потопіло усе.* В. Малешава.

ПОТО'ПКІ *мн.* Вытаптаныя мясціны. *Шчо я буду по гэтых потопках ягоды браць?* Хачэнь.

ПОТОПТА'ЦЦА *зак.* Стаптацца. *Потопталіса лапці.* Бярэжцы.

ПОТОПТА'ЦЬ *зак.* Патаптаць, падушыць, прыдушыць. *Едзь цішэй, бо потóпчэм дзецей.* Хачэнь. *Потоптала доярку машына.* Цераблічы. △ Потоптáць спіну. Прыём у колішніх шаптух лячыць спіну. Хворага клалі каля парога і ў час шэптаў наступалі нагою. Кароцічы.

ПОТОРКА'ЦЬ *зак.* Пахістаць, паторгаць. *Ты тое березы не поторкаеш, не то — нагнеш.* Сямігосцічы. *Поторкáйце, ці замýканэ.* Аздамічы.

ПОТОРОПЛЯ'ЦЬ *незак.* Знаходзіць. *Потороплялі людзі лагвá лосéй.* Запясочча.

ПОТОЎКЦІ' *зак.* Патаўчы. *Потоўкці бульбу, то тоўпеня.* Хотамель.

ПОТОЧЫ'ЦЬ *зак.* Патачыць, падзіравіць. *Поточыла строеніе, то порохно стало вельмо.* Дварэц.

ПО'ТРА *ж.* Пацяруха. *Ек хворы, то наберуць сена, той потры да робяць вальню.* Цераблічы.

ПОТРА'ВА *ж.* 1. Патрава, шкода. *Вон оплочвае ту потраву.* Луткі. 2. Страва, яда. *З'едзяць гэтое потравы да і ўсе.* Луткі.

ПОТРА'ПІЦЬ *зак.* Патрапіць, папасці. *Потрапіў і по етым воку.* Цераблічы. *Не потрапіў ніякое жонкі ў селе на сплаў послаць.* Дварэц.

ПОТРА'ЎНО *прысл.* Крута (асадзіць касу). Аздамічы.

ПО'ТРОХ *м.* Вантробы. *Е важкі потрох і лёгкі потрох.* Запясочча. *Важкі потрох — это печонка.* Старажоўцы.

ПОТРО'ХУ *прысл.* Патроху. *Картоплі давалі потроху тым коровáм.* Хачэнь. *Потроху йдзе по вуліцы той кульгаву.* Аздамічы.

ПОТРОʹШЧЫЦЬ *зак.* Патрушчыць. *Потрошчылі ўсіх жукоў.* Запясочча. *Цэркву потрошчылі і нема нічого.* Хачэнь.

ПОТРУБІʹЦЬ *зак. метаф.* Знішчыць. *Потрубіла усе, што трэ, шо не.* В. Малешава.

ПОТРУІʹЦЬ *зак.* Патруціць. *Патрўіш, то ўсе мухі лежаць упокат.* В. Малешава.

ПОТРУСІʹЦЬ *зак.* Патрэсці. *Ходземо потрусімо ды помыем.* В. Малешава.

ПОТРУʹХАЦЬ *зак.* Пабегчы трушком. *А воўк поперед нас потрухаў і потрухаў.* Кароцічы.

ПОТРУХНЕʹЦЬ *зак.* Патрухлець. *Потрухнеў зуб у моей Параскі.* Запясочча.

ПОТРУʹХНУЦЬ *зак.* Тое ж. *Була така дожджэліца, шо на полі нічого не схóдзіло, усе погнілó, потрухло.* Хотамель.

ПОТРУЦІʹЦЬ *зак.* Патруціць. *Потруцілі пчол.* Аздамічы.

ПОТРЭʹБА *ж.* Патрэба, неабходнасць. *Это так прышлоса, шчо веліка потрэба.* Запясочча. *Ек прыдзеш у цэркву з екою потрэбою, то кажэш не поп, а бацюшко.* Там жа.

ПОТРЭБЕʹШКІ *мн.* Вантробы. *Потрэбешкі трэ ж помуць перэд тым, як варыць.* Азяраны.

ПОТРЭʹБНЫ *прым.* Патрэбны. *Гвалт вода холодна потрэбна.* Запясочча.

ПОТРЭПАʹЦЬ *зак.* Патрапаць. Запясочча.

ПОТРЭʹСАЦЬ *незак.* Трэсці. *Потрэсаю трэпку лёну.* Пагост.

ПОТРЭʹСКАЦЦА *зак.* Патрэскацца. *Тынкоўка такая ўжэ ніяка, потрэскаласа.* В. Малешава.

ПОТУʹГА *ж.* Туга, журба. *Нема за тобою неякое потугі.* Сямігосцічы.

ПОТУПІʹЧЫЦЬ *зак.* Патупаць. *Дома ужэ потупічу коло печы.* Хачэнь.

ПОТУРАʹЦЬ *незак.* Патураць. Запясочча.

ПОТУРБОВАʹЦЬ *зак.* Патурбаваць. *Прышоў уночэ да потурбоваў, побунтоваў сон.* Луткі.

ПОТУʹРЗАЦЬ *зак.* Патузаць. М. Малешава.

ПОТУРЫʹЦЬ *зак.* Пагнаць, выгнаць. *Седжу і ніхто не потурыць мене палкою!* М. Малешава.

ПОТУʹХНУЦЬ *зак.* Патухнуць, згаснуць. *Як бач потухне огонь і не роспаліш.* Аздамічы.

ПОТУШЫʹЦЬ *зак.* Патушыць, пагасіць. *Не можно*

*потушыць торф.* Аздамічы. *Вукінь* (тут — адключы) *целевізора і потушы огонь, ложымоса спаць.* Цераблічы.

ПОТЫ′КАЦЦА *зак.* Звярнуцца да старэйшага на «ты»; нагрубіяніць. *Потыкайса з бацьком.* Лутк і.

ПОТЫКАЦЬ *зак.* Паўтыкаць. *Потычуць палкі, да померае брыгадзёр крынджóламі, дай полім лён.* Лутк і.

ПОТЫКА′ЦЬ *незак.* 1. Тыцкаць, соваць. *Навучыў бацько дулі даваць да кожному потыкае.* Сямігосцічы. 2. Дапякаць, дакараць. *Шо вы потыкаеце гету бабу, вона нічого не віновата.* М. Малешава.

ПОТЫ′ЛІЦА *ж.* Патыліца. *Воз упаў, дак вон стоіць і потыліцу чухае.* Аздамічы. *Моя потыліца усім хіліцца* (прымаўка). Лутк і.

ПОТЫХА′ЦЬ *незак.* Пацягваць, павяваць. *Ото ж, троху да потыхае вéцёр.* Хачэнь.

ПО′ТЫЧ *ж.* Тычкі. Альшаны.

ПОТЫ′Ч′Е *н. зб.* Тое ж. *Рубаюць потыч′е метроў по чэтыры.* Дварэц.

ПОЎВЕ′КА *м.* Паўвека, палавіна жыцця. *Чоловек ўроджаецца калека, то до смерці калека, а той, шо ўдырыцца, то с поўвека калека.* Хачэнь.

ПОЎВЕРСТА′ЦЬ *ж.* Невялікі прымітыўны ткацкі станок. Верасніца.

ПОЎГО′ДА *м.* Паўгода. *Вот воны прожылі ўжэ подходзяшчэе ўрэм′е, мо поўгода, мо год так.* Кароцічы.

ПО′ЎДЗЕ′НЬ, ПОЎДЗЕ′Н, ПОЎДЗЁН *м.* 1. Поўдзень, напрамак свету, супрацьлеглы поўначы. *Вона ў лесі знае, дзе пóўдзень, поўноч, сход і зáход.* Запясочча. 2. Сярэдзіна дня, абед. *Товар на поўдзéн прыгналі.* В. Малешава. *До поўдня́ на роботу пошла, а после поўдня ў ягоды пойду.* Старажоўцы. *А то е, шо ў пóўдзень пужае. Вускочыло, такая пара коней сівых, хорошых, погуляло, да под óблакі. І не зналі, дзе дзелосо.* Лутк і.

Паводле павер'я, пасярод дня бывае шкодная, неспрыяльная пара, калі ў полі з'яўляюцца здані ў выглядзе пары коней і палохаюць людзей.

ПОЎЗ *прыназ.* Паўз. *Поўз берэлóз плувеш на озеры і кожушкі ловіш.* М. Малешава. *На Берэснікі трэбо йці поўз Яцéль.* Мачуль. *Кожушкі ў нерэст одзін поўз одного труцца.* Запясочча.

ПО′ЎЗАЦЬ *незак.* Поўзаць. *Муха поўзае да боса ў страву лезе.* Лутк і. *Мі муем ягоды, шо там і вужы і жáбі поўзаюць.* В. Малешава.

ПОЎЗБО'Ч *прысл.* Каля, уздоўж. *Ехалі поўзбоч Прыпяці.* Аздамічы.

ПОЎЗВЕ'РХ *прысл.* Па-над, блізка пад верхам. *Поўзверх камень лецеў.* Аздамічы.

ПО'ЎЗЕКО'М *прысл.* Паўзком, паўзучы. *У розору упаў і поўзеко́м поўзе.* Луткі. *Одсюль хоць по́ўзіком, да доберэсса.* Знаменка.

ПОЎЗЦІ' *незак.* 1. Паўзці. *Поўзла так, коб не бачылі хто.* Дварэц. *Чэрвяк поўзе.* Бярэжцы. 2. Слацца, рассцілацца. *Отло́жнік поўзе по земле.* М. Малешава.

ПОЎКЛАДА'ЦЦА *зак.* Паўкладвацца, паўложвацца. *На бе́рэзе поўкладаюцца курортнікі, бы той товар на стойле.* В. Малешава.

ПОЎКЛІБЛЯ'ЦЬ *зак.* Утлумачыць. *Поўклібля́лі ім, шо не можно так сказаць.* М. Малешава.

ПОЎЛА'ДЖВАЦЦА *зак.* Стаміцца, знясіліцца. *От ўжэ воны там поўладжваюцца!* Сямігосцічы.

ПОЎЛА'ДЖВАЦЬ *зак.* Папсаваць. *Нехай вона проваліцца, гэта ǧўма, вона ногі поўладжвала кожному.* Сямігосцічы.

ПОЎЛЕЦЕ'ЦЬ *зак.* Паналяцець, уляцець. *Поўлецелі мухі ў хату.* Хачэнь.

ПОЎМА'ТВАЦЬ *зак.* Укруціць, заматаць. *Онучкамі поўма́тваём ножкі дзіцяці колісь.* Хачэнь.

ПО'ЎНО *прысл.* Поўна, многа. *Яблук було поўно позоле́тось, корову корміла.* Дварэц. *А то от тры пары хромовых чобоцеў у мене, да этых розіновых, да ўсякіх поўно!* Сямурадцы. *Поўна хата людзей — ні во́кон, ні дзверэй* (загадка). *Гарбуза́ і гарбу́зікі* (адгадка). Там жа. *Памянш.* п о ў н ю́ с е н ь к о. *Бодня поўнюсенька солі була.* Луткі.

ПОЎНОВІ'ДЫ *прым.* Круглатвары. *Такі красівы, вон поўновідьı, круглы.* Дварэц.

ПО'ЎНОЧ *ж.* 1. Поўнач, сярэдзіна ночы, 12 гадзін ночы. *Дзе волочыўса, шо ўво поўноч прышоў?* М. Малешава. *Кажуць, ек у поўноч галінка упадзе з дзерэва да перэступіш, то заблудзіш.* Там жа. 2. Напрамак свету, супрацьлеглы поўдню. *У лесе на поўноч трэ йці, ек здаецца сонцэ не ў том бо́цэ.* Цераблічы.

ПОЎНО'ШНІК *м.* Міфічная істота, якая турбуе ці палохае позна ноччу. Бярэжцы.

ПО'ЎНЫ *прым.* Поўны, напоўнены. *Гледжу, повен двор гусей!* Дварэц. *Вужоў поўны лес, аж шыкаюць.* Луткі. *Веселье будзе, то збірай, жонко, молока поўны цэбер.*

Сямурадцы. *Шоб дзецей повен пол, хлеба повен стол!* (вясельны тост, пажаданне маладым). Верасніца. △ Н а п о́ в е н р о́ т. Прагна. *Корова берэ на повен рот сена.* Дварэц. *Памянш.* п о ў н ю с е н ь к і. *Бодня поўнюсенька солі була.* Луткі.

ПО'ЎНЯ, ПО'ЎНА *ж.* Поўня. *Усю роботу под поўню трэ почынаць.* Аздамічы. *Под поўню беруць дзеўку замуж, шоб поўно было.* Там жа. *Поўна, ек самы той круглы месец.* Лутки. *Як поўна, то б'юць кабана, а як молодзік, то молодэ, зогніе шкура.* В. Малешава.

ПОЎПЕРЭ'ЧКА *ж.* Папярочка. *На тые поўперэчкі ложымо доскі да робімо дорогу до хаты.* Сямігосцічы.

ПОЎПЛУ'ЖОК *м.* Невялікі плужок. *Поўплужэк е вужэйшы, чым плуг.* В. Малешава.

ПОЎПРЫ'ЦА *ж.* Дэталь у жорнах паднімаць і апускаць верхні камень. Альшаны.

ПОЎРО'З *м.* 1. Матуз, шнурок, тасёмка. *На поўрозі штаны булі ў дзеда.* Лутки. 2. Рага. *По окну поўрозы.* Лутки. Маршчына. *Вот худы — поўрозы на віду!* В. Малешава.

ПОЎРО'ЧЫЦЬ *зак.* Сурочыць. *Вот міне як-то поўрочілі. Штось-то мне поцягалоса. Чоловек можэ не хоцець сам, а его глаз такі.* Сямігосцічы.

ПО'ЎРЭЙ, ПО'ВЕРЭЙ, ПО'ВЭР *м.* Вырай. *Журайлі кудыркаюць, як у поўрэй лецяць.* Бярэжцы. *Лецяць веселцы з поўра, крўком табуняцца.* Сямігосцічы. *Ключэм лецяць гусі ў повэрэй.* Альпень. Чарада пералётных птушак. *Поўрэй леціць ключэм.* Лутки. *Ужэ повэр прылетае, буські, ужэ буде тепло.* Рубель.

ПОЎСТАВА'ЦЬ *зак.* Паўставаць. *Поўстаюць колісь рано молоціць.* Верасніца.

ПОЎСТА'НЬЕ *н.* Паўстанне. *Людзі поўстанье поднялі і цара проперлі.* Бярэжцы. Крык, незадаволенасць. *Жонка поўстанье подыме, як проп'еш грошы.* Старажоўцы.

ПОЎСХО'ДЗІЦЬ *зак.* Паўзыходзіць. *Ек бачыш поўсходзяць картоплі.* Сямурадцы.

ПОЎСЦЬ *ж.* Поўсць, шэрсць. *На тхору хороша така поўсць, а вон вонючы!* Мачуль. *З вербіны леціць таке, як поўсць.* Цераблічы. Воўна. *Поўсць ета луччэ, чым я у Тэклі купіла.* Запясочча.

ПОЎТО'МВАЦЦА *зак.* Натаміцца. Запясочча.

ПОЎТОРА' *ліч.* Паўтара. *Коліся була плата поўтора пуда за корову пастуху.* Лутки. △ П о ў т о р а́ л ю д з ь-

кого. Пра адмоўнае, дрэннае. *Мо ты скажэш на поўтора людзького!* Там жа. *Мо ты зробіш на поўтора людзького!* Там жа.

ПОЎЦЕКА'ЦЬ *зак.* Паўцякаць. *Поўцекалі ў лес, да ў той Круг, да седзімо ў том Крузі.* Бярэжцы.

ПОЎШ *м.* Землярыйка. *Поўш — невялікі звер, ек мыш, под чэрэвом бело, а зверху чорны.* Цераблічы.

ПОЎЯЗА'ЦЬ *зак.* Павязаць. *Вўжала траву да ў снопў поўязала.* М. Малешава.

ПОЎЯ'ЦЬ *зак.* Павянуць. *Коб запеў дзед, то і косы поўялі б.* Верасніца.

ПО'ХАП *м.* Хватка, спрыт. *Похап у руках мае.* М. Малешава.

ПОХАПА'ЦЬ *зак.* Пахапаць. *Воны собе больш похапаюць.* Бярэжцы.

ПОХАПНЫ' *прым.* Хваткі, спрытны. *От ека похапна, прыдзе да усе мое яблука позбірае, похапае.* М. Малешава. Знаходлівы, хуткі. *Жонка похапна́.* Там жа. *Мужык похапны.* Там жа. Ходкі, хадавы, які карыстаецца вялікім попытам. *Похапны́е кніжкі.* Хотамель.

ПОХАТУ'ХА *ж.* Жанчына, якая любіць хадзіць па хатах. Аздамічы.

ПОХВАЛІ'ЦЦА *зак.* Пахваліцца. *Вон похваліўса, шо знае.* В. Малешава.

ПОХВАТНЫ' *прым.* Падручны. Похватная посуда. Запясочча.

ПОХВОРЭ'ЦЬ *зак.* Перахварэць, адхварэць. *Похворэлі дзеці рэзачкою.* Дварэц.

ПОХІЛІ'ЦЦА *зак.* 1. Пахіліцца, нагнуцца. *Дзерэво похілілоса.* Аздамічы. *Выпіла да похіліласа. Да сама себе похваліла. Я до́брэнького роду, п'ю горэлочку як во́ду* (з песні). Хачэнь. 2 *перан.* Схіліцца, адчуць прыхільнасць, згадзіцца. *То вона похіліласа до Колі — дружно воны жывуць, заодно.* М. Малешава.

ПОХІ'ЛЫ *прым.* 1. Пахілы. *Такая похілая асіна.* Верасніца. *На похілэ дзерэво, то й козы скачуць* (прыказка). Хачэнь. 2. Сагнуты, слабы, хваравіты. *От похіла, зогнулас, от ветру валяецца.* Пагост.

ПОХІТРЭ'ЦЬ *зак.* Паразумнець. *То і тут ужэ похітрэлі людзі.* Хачэнь.

ПОХЛЕ'БАЦЬ *зак.* Пасёрбаць. *Горачых крышаноў похлебаем да ўсе.* Хачэнь.

ПОХЛІСТА'ЦЬ *зак.* Пахлябтаць. *Похлістаў кот молоко.* Пагост.

ПОХЛУДОВА'ЦЬ *зак.* Адлупцаваць (кіем). *Я, сусед, твою собаку добрэ похлудоваў, не будзе больш кідацца.* Пагост.

ПОХЛЫНУ'ЦЦА *зак.* Папярхнуцца. *Піў да похлынуўса, не ў тэ горло попало.* Цераблічы.

ПОХМА'РВАЦЬ *незак.* Хмарыць. *Як зелье опусціцца і плачэ альбо похмарвае, то будзе дождж.* Хачэнь.

ПО'ХМАРНО, ПОХМО'РНО *прысл.* Пахмурна. *По́хмарно на дворэ цепера.* Альгомель. *Похморно.* Альшаны.

ПО'ХМАРОК *м.* Хмарка, воблака. *Похмаркі ідуць по небе.* Альгомель. *От велікі похмарок, і с такого похмарка пойдзе дождж.* Тураў.

ПОХМЕ'ЛКА *ж.* Пахмелле. *На похмелку Петро пошоў — учора на веселье ходзіў.* М. Малешава.

ПОХМЕ'ЛЬВАЦЦА *незак.* Пахмяляцца. *Я не напіваюса і похмельвацца не йду.* М. Малешава.

ПОХМУ'РНЫ *прым.* Хмарны. *Похмурны дзень, як нема ні дождржа ні сонца.* Альшаны.

ПОХМУ'РЫЦЬ *зак.* Нахмарыцца. *Тут похмурыць, тут сонцэ — дзесець перэмен на дзень.* В. Малешава.

ПОХМУРЭ'ЦЬ *зак.* 1. Больш нахмарыцца. *От ужэ похмурэло, дождж будзе.* М. Малешава. 2. Зрабіцца хмурным. *Чого ты похмурэў?* М. Малешава.

ПОХО'ВА'НЫ, ПОХА'ВАНЫ *дзеепрым.* Пахаваны. *Похо́ваны розгоня́чкі і нема чым картоплі розгоня́ць.* М. Малешава. *Мо штук п'яць на нашых могліцах похова́ных хлопцаў.* Чэрнічы. *Поха́ваны.* Луткі.

ПОХОВА'ЦЬ *зак.* Пахаваць. *Хто побіты буў, хто утоплены да сплоў, то ўсіх похавалі.* Чэрнічы.

ПОХО'Д *м.* Лішка. *Е хунт с походом і скупы хунт е.* Хотамель.

ПОХОДЖА'ЦЬ, ПОХОЖА'ЦЬ 1 *незак.* Пахаджаць, паходжваць. *Га́лечын бацюхно по двору похожае ды ў огород зазірае.* М. Малешава. 2 *зак.* Паглядзець (узяць улоў, падгледзець пчол). *Я іх посылаю, шоб воны кошэ походжалі?* Мачуль. *Хто походжаў пчол на той хвоі? Вон!* В. Малешава. *І медзведзь хочэ походжаць мед.* Мачуль.

ПОХО'ДЖЫ, ПОХО'ЖЫ *прым.* Падобны. *Ох, міленькі ты мой, ох, на кого ж ты походжы!* М. Малешава. *Ро́пуха глуха́, вона похожа на ліньќа́.* В. Малешава.

ПОХОДЗІ'ЦЬ *незак.* Пахадзіць. *Трэба було выпусціць, хай походзяць куры.* Сямурадцы.

ПОХОДЗЮ'ШЧЫ *прым.* Ходкі, хуткі ў хадзьбе. *По-*

*ходзюшча корова, ек вона навек поперэд ідзе.* Цераблічы.

ПОХО′ДНЫ *прым.* Прыдатны, выгодны. *Для народа кешкаць йайца було походнэ дзело.* В. Малешава.

ПОХОЛО′ДАЦЬ *зак.* 1. Астыць. *Садзіцеса есці, похододае ж усе.* Пагост. 2. Пахаладзець. *Аж усё похолодало, так спужаласа.* Альпень. 3. Пахаладаць. *Цепло, да можэ похолодаць.* Дварэц.

ПОХОПІ′ЦЬ *зак.* Уздумаць. *Это я не похопіла, як на его сказаць.* Луткі.

ПОХОРОБУ′СЦІЦЦА *зак.* Пакарабаціцца. *Похоробусціласа дуга.* Аздамічы.

ПОХОРОБУ′ШЧЭНЫ *дзеепрым.* Маршчыністы, зморшчаны. *Гэты чоловек такі похоробушчэны, бі картопель стары́.* В. Малешава.

ПО′ХОРОНЫ *мн.* Пахаванне. *Вона не ходзіць на похороны, каб не перэрва́цца, не стоміць серцо.* Дварэц.

ПОХО′ТНІЦА *ж.* Ахвотніца да жартаў з мужчынамі. *Як на сені, то ета похотніца усе шоб удвох з мужчыною остацца.* Пагост.

ПОХОТНЫ′ *прым.* Ахвочы да жартаў з жанчынамі. *Похотны ў гумне борэцца з молодзіцамі, іўкаецца.* Пагост.

ПОХО′ЎРЫЦЬ *зак.* Абыякава папрасці. *Шчо ты похоўрыла, попрала нероўно, тоўсто.* Пагост.

ПО′ХОЦЬ ж. Хаценне, сквапнасць. *Гэто похоць такая: от шоб мне багато грошэй.* М. Малешава.

ПОХО′ЧВАЦЬ *незак.* Мець ахвоту, хацець. *І воны не похочвалі, шоб я була у іх за няньку.* Сямурадцы.

ПОХРЫСЦІ′ЦЬ *зак.* Пабаранаваць удоўж і ўпоперак. *Похрысціў бороною, шоб галь не позбірала пшэніцу.* Старажоўцы.

ПОХУДА′ЦЬ *зак.* Пахудзець. *Нешчо ты похуда́ла, горуеш вельмо.* Альпень.

ПОХУ′ДНУЦЬ *зак.* Тое ж. *Ты ў нас поху́днела.* В. Малешава. *Цебе трэба шкодоваць, шоб не поху́д.* Верасніца.

ПОЦВЕЛІ′ЦЬ *зак.* Пацвяліць, пазлаваць. *Як хто іх поцвеліць, то о-о-о!* Сямігосцічы.

ПОЦВЕ′ЛЬВАЦЦА *незак.* Пацвельвацца, дражніцца. *Чого ты поцвельваесса надо мною?* Хачэнь.

ПОЦВЕ′ЛЬВАЦЬ *незак.* Пацвельваць, дражніць. *Цебе вон поцвельвае, шоб ты не позірај.* Луткі.

ПОЦВІСЦІ′ *зак.* Пакрыцца цвіллю, заплеснець. *Масло поцвіце, як стоіць доўго.* Сямурадцы.

ПОЦЕГА′ЦЦА *незак.* Пацягвацца. *Я ўстала да поцегаюса, бо спала доўго.* Цераблічы.

ПОЦЕГО′ЛЬЕ *н.* Лытка. *Поцегольe боліць.* Луткі.

ПОЦЕГЦІ′ *зак.* 1. Пацягнуць. *Вероўку подоб'ём под копу і поцеглі.* В. Малешава. Павеяць. *Поцегло цёплым ветрыком.* В. Малешава. 2. Паплесціся. *Эдзік, куды вон поцёг?* Сямігосцічы.

ПОЦЕГЦІ′СА *зак.* Пацягнуцца, паплесціся. *Дзе вона поцегла́са?* Сямігосцічы.

ПОЦЕКЦІ′ *зак.* Пацячы. *Літровы чыгунок брохнуўса і поцёк.* Дварэц.

ПОЦЕЛЕПА′ЦЦА *зак. метаф.* Павольна пайсці. *А куды ж ты поцелепаласа?* Кароцічы.

ПОЦЕЛЕПА′ЦЬ *зак.* Пацеляпаць, патрэсці. *Поцелепай ейцэ, воно боўтае!* Аздамічы.

ПОЦЕНІ′ЦЦА *зак.* Стварыць цень. *Картоплі поценіліса ужэ, цень стала ў картоплях.* Мачуль.

ПОЦЕНЮШЫ′ЦЬ *зак.* Пацерушыць, пасеяць. *Дожджык поценюшыў, чуць посеяў.* Бярэжцы. *Ужэ поценюшыў снег.* Хачэнь.

ПОЦЕ′ПЛЕЦЬ *зак.* Пацяплець. *Скоро вушчэрыцца соўнейко да поце́плее.* Хачэнь.

ПОЦЕПНІ′К *м.* Драбналессе. *Поцепніку́ тоненького прыўёз.* Мачуль.

ПОЦЕРА′ЦЦА *зак.* Страціць прытомнасць. *Я нічого не поцераўса, усе помню.* Сямігосцічы.

ПОЦЕРУ′ХА *ж.* Пацяруха. *Сено сухе́, одно поцеруха.* Сямігосцічы. *Мушы перэсекуць сено, то кажэм поцеруха.* Цераблічы.

ПОЦЕРУШЫ′ЦЬ *зак.* Пацерушыць. *Снег пе́рвенькі поцерушыў.* Цераблічы.

ПОЦЕ′РЦІ *зак.* Пацерці. *А мне трэба було і поцерці і потрэпаць той лён.* М. Малешава.

ПО′ЦЕРЭБ *м.* Выцераб. *Хозяін своімі рукамі вусечэ ло́зу, зробіцца сено́жаць, то зовецца поцерэб.* Мачуль.

ПОЦЕРЭБІ′ЦЬ *зак.* Пацерабіць, абламаць, абабраць, вылушчыць. *Я поцерэблю памі́доры ей.* Сямігосцічы. *Слонечнік поцерэбіла, мак поцерэбіла, квасолю поцерэбіла і город прыбрала.* В. Малешава.

ПОЦЕ′ХА *ж.* Пацеха, забава. *Да бацько на скрыпку грае, а той дудкою, то цэла поцеха ў нашой хаці.* Верасніца.

ПОЦЕ′ЦЬ *незак.* Пацець. *Чым больш конь поцее, то найбыстрэй бежыць.* Луткі.

ПОЦЕ'ШЫЦЦА *зак.* Пацешыцца. *Як бы не поцешыўса, то б повесіўса* (прыказка). Старажоўцы.

ПОЦЁК *м.* Рага, струменьчык, паток. *Бачыце, екіе поцёкі на шыбках.* Хачэнь. *Шо это за поцёк воды? Слабо чэчэ́.* Старажоўцы.

ПОЦІКОВА'ЦЬ *зак.* Пацікаваць, пасачыць. *Кошка мушы поцікуе і пойдзе на двор.* Луткі.

ПОЦІ'СНУЦЬ *зак.* Паціснуць. *Абы чуць поціс ногамі грудзі, то конь тáне.* Луткі.

ПОЦІ'ХУ *прысл.* Паціху, павольна. *Шо-небудзь кóрпаю поціху.* Кароцічы. *Памянш.* поціхеньку. Кароцічы.

ПОЦОЛОВА'ЦЦА *зак.* Пацалавацца. *Дзеткі, поцалýймоса!* Сямігосцічы. *Квас з'ежмо, а за кашку поцолуймоса* (прымаўка на хрысцінах). Там жа.

Паводле звычаю, кум на хрысцінах апошнім клаў частку грошай на выкуп кашы і тым самым набываў права разбіць гаршчок з кашай і пацалавацца з бабкай-павітухай.

ПОЦОЛОВА'ЦЬ *зак.* Пацалаваць. *Як перву раз ідзеш у лес, то трэбо поцоловац бабу сопліву: подведуц до якого пня да поцэлуй!* Тураў. *Поцолуй мене цепер, а я цебе заўтра* (прымаўка). Старажоўцы.

ПОЦО'ПАЦЬ *зак.* Пашлёпаць, пастукаць. *Я поцопала по сену палкою, коб не було вужоў.* Сямурадцы.

ПОЦЫ'РКАЦЬ *зак.* Падаіць. *Ідзі поцыркай корову!* Аздамічы.

ПОЦЮ'ХАЦЬ *зак.* Патрухаць. *Вона проворнейша, то поцюхала домоў од дожджу.* Верасніца.

ПО'ЦЯГ, ПО'ЦЯЖ *м.* 1. Вяроўка або ланцуг, якім прывязваюць барану ці плуг да ярма. Аздамічы.

ПО'ЦЯ'ГА *ж.* Цяга. *Нема пóцягі водзе.* Аздамічы.

ПОЦЯГА'ЦЦА *незак.* Пацягвацца. *Прочнуўса да поцягаецца.* Аздамічы.

ПОЦЯГА'ЦЬ *незак.* 1. Павяваць. *Вéцёр поцягае холодны.* Аздамічы. 2. Цячы, сачыцца. *Вода поцягае ў той берэлоз.* Сямігосцічы. 3. Падцягваць. *Туды ногі поцягáй, бо мешаеш!* Запясочча.

ПОЦЯГНУ'ЦЦА *зак.* Пацягнуцца. *Таке повуцейко поцягнецца осенью по земле.* М. Малешава. *Хмара поцяглáса тудою.* Луткі.

ПОЦЯГНУ'ЦЬ *зак.* 1. Пацягнуць. *Поцягла ўніз голіну от яблук.* Кароцічы. 2. Выцяць, ударыць. *Вон узяў тожэ да дубцом тым поцяг коня.* Кароцічы.

ПОЦЯГУ'ШКА *ж.* Спарышнік. *Поцягушку од почэк п'юць і по земле поцягаюцца.* Верасніца.

ПОЦЯГУ'ШКІ *мн.* Пацягванне. *Нечага на мене поцягушкі напалі.* Сямігосцічы. *Памянш.* п о ц я г у́ ш э ч к і. *На коціка поцягушэчкі, а на Іру ростушэчкі* (прымаўка). М. Малешава.

ПОЦЯ'М'ІЦЦА *зак.* Здурэць. *Нехай воны поцям'яцца!* Сямігосцічы.

ПОЧАВІ'ЦЬ *зак.* Падавіць, падушыць. *Воза́мі почавілі жукоў на дорозі.* Запясочча. *Почавіш ты ціплінят!* Сямігосцічы. *Ой, ногамі сцекло поча́віць!* Кароцічы.

ПОЧА'ДЗЕЦЬ *зак.* Учадзець. *Буваюць случаі, шо почадзееш у хаці — гэта лёхка смерць.* Сямігосцічы. Затхнуцца. *Почадзее рыба, то вона лезе ў чэчу.* Лутківі.

ПОЧАМРЭ'ЦЬ *зак.* 1. Учадзець. *Почамрэлі од чаду молодые — луччэй холодно, чым чадно.* Лутківі. *Почэмрэлі целята.* Запясочча. *Почомрэлі дзеці от блёкоту.* Бярэжцы. 2 *перан.* Падурэць. *От почомрэлі молодые з роско́шы.* Лутківі.

ПОЧА'ЎКАЦЬ *зак. экспр.* Паесці. *Почаўкаеш мо яблок трохі?* Дварэц.

ПОЧА'ЦЦА *зак.* Пачацца. *Почаліса жніва́.* Кароцічы.

ПОЧА'ЦЬ *зак.* Пачаць. *Почала кросна сноваць.* Лутківі.

ПОЧВА'РА *ж. экспр.* Пачвара. *От почвара мала́я, умурзаласа з ног до головы́!* Верасніца.

ПОЧОРНЕ'ЦЬ *зак.* Пачарнець. *От худы зробіўса, шо аж почорнеў!* Азяраны.

ПО'ЧО'СТКА *ж.* Пачастунак. *Як нехто чхне, то кажуць по́чостка будзе. Почо́стка хороша на хрэзбінах ці на веселы.* Сямігосцічы.

ПОЧО'ХРЫ'ЦЬ *зак.* Паразбіваць камлыгі. *Пліцье, грудзье почо́хрыла на градах.* Лутківі. *Почохры́ць.* Альшаны.

ПОЧУ'БАЦЬ *зак.* Пашкодзіць, папсаваць. *Як ко́ршак куру почубае, то ўжэ не бером* (павер'е). Хачэнь. *От покосіў, почубаў трохі, з большого: там косне́, там покіне грыву.* Лутківі. *Ольша́ны і Городо́к почубало, ек веліка вода була!* В. Малешава.

ПОЧУ'ТКА *ж.* Чутка. *По людзя́х усякіе почуткі е.* М. Малешава.

ПОЧУ'ХАЦЦА *зак.* Пачухацца. *Дай свінье́ почухацца об тэ дзерэво.* Лутківі.

ПОЧУ'ХАЦЬ *зак.* Пачухаць. *Почухай, то кабанчык ляжэ.* Луткі.

ПОЧУ'ХНУЦЬ *зак.* Патухнуць, перастаць курыцца. *Зыбэ́ль почу́х.* Хотамель.

ПОЧУ'ЦЦА *зак.* Адчуцца. *Под старосць почуецца та робота.* Бярэжцы.

ПОЧУ'ЦЬ *зак.* 1. Пачуць. *А шчо я, як сяду с краю, почую? А як посерэд, то я і с того хвоста почую і с того.* Старажоўцы.

ПОЧЫ'НА *ж.* Вясло. *На дубі* (лодка) *шэсць почын.* Запясочча.

ПОЧЫНА'ЦЬ *незак.* Пачынаць. *Ну, ужэ почынайце спеваць!* В. Малешава.

ПОЧЫ'НІЦЬ *зак.* Выпатрашыць. *Пачыніла рыбу.* Чэрнічы.

ПОЧЫ'НОК *м.* Поўнае верацяно пражы. *Почынок, шо богато ручаёк намотаеш, п'яць мо' шэсць.* Альпень. *С почынка мотаём на клубок.* Сямурадцы.

ПОЧЫРВОНЕ'ЦЬ *зак.* Пачырванець. *От жаберу полотно почырвоне́е.* Цераблічы.

ПОЧЫШЧЭ'ЦЬ *зак.* Пачысцець. *Подузо́рнік просціраю, хай почышчэе троху.* М. Малешава.

ПОЧЭ'ЗНУЦЬ *зак.* Пачэзнуць. *Немало почэзло мужчын за тэ дзело.* Верасніца.

ПО'ЧЭП *м.* Почапка. *Нож на почэпі вісе́ў.* Луткі.

ПОЧЭПІ'ЦЬ *зак.* Прычапіць. *На Юр'я красну хустку почэплем на палку, бу фла́ка, да спеваем.* М. Малешава.

ПО'ЧЭПКА *ж.* Почапка. *Прыўежы вероўчыну на почэпку, коб можно було кольбельку гутатаць.* Сямігосцічы. *Памянш.* п о ч э п о́ ч к а. *Маці ночэк не досыпала і ножэчэк з почэпочэк не вуймала* (з песні). В. Малешава.

ПОЧЭПЛЯ'ЦЦА *зак.* Пачапляцца. *Чого ву почэпляліса за мене?* Сямурадцы.

ПОЧЭПЛЯ'ЦЬ *зак.* Пачапляць. *Ой, нарадзіласа й ґалёны почэпляла.* Запясочча.

ПОЧЭРНЕ'ЦЬ *зак.* Пачарнець. *Увесь той сыр почэрне́ў, поробі́уса чорны.* Пагост.

ПОЧЭСА'ЦЬ *зак.* 1. Пачасаць. *Почэсаць дзерэво.* Хотамель. 2. Пачысціць. *Шчэ трэ рыбу почэсаць.* Запясочча. △ П о ч э с а́ ц ь е з ы к а́. Пабалбатаць. Кароцічы.

ПОЧЭХЛІ'ЦЬ *зак.* Хутка пайсці, пашыбаваць. *Лось з-за рэкі ву́шоў да почэхлі́ў у лес.* В. Малешава.

ПОША'МАЦЬ *зак.* Пашамацець. *Як пошамае чоловек, то я чую.* М. Малешава.

ПОШАНОВА'ЦЬ *зак.* Пашанаваць. *Ты мене пошануеш у плохе ўрэм'е, а я цебе ў добрэ* (пра адзенне). Сямігосцічы.

ПОШАНЦОВА'ЦЬ *зак.* Пашанцаваць. *Пошанцовало, за доброго чоловека вуйшла.* Старажоўцы.

ПОША'ПОРЫЦЬ *зак.* Пашукаць. *Пошапорыў у кішэні той полешук у полёшкі, аж нема золота.* Чэрнічы.

ПОША'РПАЦЬ *зак.* Падрапаць. *Пошарпаеш ногамі подлогу!* Аздамічы.

ПОШАЦЕ'РЫЦЬ *зак.* Пашараваць, пачухаць. *Пошацёр плечы!* Альпень.

ПОШВАРДЭ'КАЦЬ *зак. экспр.* Пагаварыць. *Пошвардэкаў на тые чужые языкі.* Дварэц.

ПОШВЭ'НДАЦЦА *зак. экспр.* Пайсці. *Швэ́ндо, куды-то пошвэндаласа?* Луткі.

ПОШКОДОВА'ЦЬ *зак.* Пашкадаваць. *А вот трошкі садкоў этых було, то пошкодовалі.* Бярэжцы.

ПОШКОРУ'ПНУЦЬ *зак.* Закарэць. *Пошкоруплі онучы, помуй іх!* Верасніца.

ПОШКРА'БАЦЬ *зак. экспр.* Пайсці павольна. *Пошкрабаў дзед, ледзь ногі подымае, годы!* Пагост.

ПОШКРЭ'БКА *ж. метаф.* Апошняе дзіця ў сям'і. *Я сама пошкрэбкою була.* Хотамель.

ПОШЛЮХТОВА'ЦЬ *зак.* Пачысціць. *Пошлюхтовала кішкі, бы бумажка зробіліса.* Кароцічы.

ПОШМАТА'ЦЬ *зак.* Пашкуматаць. *Пошмоталі ўсю ляльку Наташкі.* В. Малешава.

ПОШМО'РГАЦЬ *зак.* Пашморгаць, пашоргаць. *Беры пошморгай дубцы, шоб плешку робіць у кошэ добрэ було.* М. Малешава.

ПОШО'РКАЦЬ *зак.* Пашмараваць. *Хоць пошоркаю кострулю содою.* Дварэц.

ПОШТА'Р *м.* 1. Званец (расліна). М. Малешава. 2. Званок (на дузе). *Пошлі просіці, то дасць поштароў, бо ўжэ заўтра весельe.* Сямігосцічы. *Памянш.* п о ш т а́ р ы к. *На шыю вешалі поштарык, шоб чутно було, дзе конь ходзіць.* Верасніца.

ПОШТЫХОВА'ЦЬ *зак.* Адцягнуць каваннем. *Трэба поштыховаць сокеру у кузні.* Пагост.

ПОШУТКОВА'ЦЬ *зак.* Пажартаваць. *Я пошуткова-ла — подлогу не трэба мыць.* В. Малешава.

ПОШЧА'ЎВАЦЦА *зак.* Сплюшчыцца. *Пошча́ўваліса на́ноч гускі ў возеры.* Сямігосцічы.

ПОШЧЫ' *прысл.* Амаль, ледзь. *Робо́тала пошчы до са́мого вечора.* Запясочча. *Пошчы ўся рэка́ сутоном узеласа.* Бярэжцы.

ПОШЧЫ'КВАЦЬ *незак.* 1. Пашчыпваць. *Жонку пошчыквае той чоловек.* Аздамічы. 2. Сашчыпваць. *Пошчы́кваюць грабёнкамі ягоды.* Аздамічы.

ПОШЧЭ'ДРЫ'ЦЦА *зак.* Памножыцца. *Шоб навек булі грошы, то кладом копейкі у сено, шоб пошчэ́дрыліса.* М. Малешава.

ПОШЫВА'ЦЬ *незак.* Рассцілаць па латах салому перад крыццём страхі. Хотамель.

ПОШЫ'КАЦЬ *зак. метаф.* Папаўзці з шумам. *Пойду доіць корову, то так поўз мене ш-ш-ш, пошыкалі ў куток* (пра вужоў). Хачэнь.

ПОШЫХОВА'ЦЬ *зак.* Пашанцаваць. *Не вельмі пошыховало, нема за́роботку.* Хотамель. *Пошыховало ему поймаць рыбы.* Сямігосцічы.

ПОШЫ'ЦЦА *зак.* Зашыцца. *Пчола у стрэ́ху не пошыецца.* Аздамічы.

ПОШЫ'ЦЬ *зак.* Пашыць. *Летом пошыюць по́лога да спяць.* Дварэц. Сплесці. *Пошыў бочку з соломы.* Хотамель.

ПОШЭБЕ'НЬКАЦЦА *зак.* Паварушыцца, пакорпацца. *Поплувуць на той бок, пошэбенькаюцца, прыплувуць на гэты, гэто ж гусі.* Дварэц.

ПОШЭПТА'ЦЬ *зак.* Пашаптаць, загаварыць. *Прыклала до зу́ба — як сем баб пошэптало!* Тураў. *Такіе ўжэ паршукі булі, шо страшно, але баба пошэптала, то ек і не було.* М. Малешава.

ПО'ШЭСЦЬ *ж.* Пошасць. *Пошэсць нека напала на худобу.* Аздамічы. *Шчо гэто за пошэсць, так чухаецца свіньня?* Пагост.

ПОЯВІ'ЦЦА *зак.* З'явіцца. *А бу́сько под Чо́рной градо́й зноў появіўса.* Луткі.

ПРА'БАБА *ж.* Прабабка. *Прабаба та сто год жыла.* Сямігосцічы.

ПРА'ВЕДНЫ *прым.* Справядлівы. *Змешаць грэ́шне з праведным* (прымаўка). Запясочча.

ПРАВІЛЕ'Ц *м.* Прамое, роўнае дрэва. *Ой, правілец та хвоя, вона з небом говорыць!* Хотамель.

ПРАВІ'ЛО *н.* 1. Рулявое вясло. *Я сяду на правіло, а*

*ты сядзь на грабкі.* Запясочча. 2. Трайня. *Правіло робяць з цвёрдого дзерэва.* Верасніца.

ПРАВІНА′ *ж.* Прамізна. *Моя баба була правіна, а ўжэ круком ходзіць.* Цераблічы.

ПРАВІ′ЦА *ж.* Прамая салома. *Соломою правіцою коліся хаты крылі.* Альшаны. *Правіца — то солома не побіта.* Бярэжцы.

ПРА′ВІЦЦА *незак.* 1. Здаравець. *Чому той дзед не правіцца?* Цераблічы. 2. Сыцець, гладчэць. *Кабан есць і правіцца.* В. Малешава. *Вутву будуць правіцца—сутóну ужэ ўхопілі.* Пагост. 3. Аціраццa. *Собака малы коло дзецей правіцца.* Альшаны.

ПРА′ВІЦЬ *незак.* 1. Кіраваць. *Конём трэ правіць, а не тузаць.* Верасніца. 2. Спаганяць. *А вон і з нас правіць грошы.* Хачэнь. 3. Спраўляць. *Му правім дзеды чотыры раз у год.* Кароцічы. 4. Гаварыць, расказваць. *Будзе правіць такую чуш!* М. Малешава. 5. Адпраўляць. *Ерхірэй у цэркві правіў.* Хачэнь. 6. Рабіць, вырабляць. *Кажу не ходзі, а тобе хоць стрэль у воко, усе роўно свое право правіш!* Аздамічы.

ПРА′ВО *н.* 1. Права, закон. *Право хорóшэ стары́м даваць сено, пенсею — жыві собе спокойно.* Луткі. *Я на цебе право найду!* М. Малешава. *Людзі его не знелі, але право знело.* Луткі. 2 *прысл.* Прама. *Дзеду, дзеду, сядзь право, не гніса!* Цераблічы. *Права посадзіць косу, то плохо.* Аздамічы. 3 *прысл.* Справа. *Право мене стой!* В. Малешава. *Право Москвы город Горкі.* Мачуль. *Памянш.* п р а в é н ь к о. *Боронуй, шоб правенько було!* Мачуль △ С в о é п р á в о п р á в і ц ь. Рабіць па-свойму, упарціцца. *Ему говорыш, а вон свое прáво правіць.* Старажоўцы.

ПРАВОВА′ЦЬ *незак.* Кіраваць. *Седзіць да коня правуе вожкамі.* Аздамічы. *Бобер хвостом правуе ў водзе.* Сямігосцічы.

ПРА′ВУ *прым.* Правы. *Прáва морда опухла.* Любавічы.

ПРАВУ′ *прым.* Прамы. *Солома правá, шо одрыны крылі.* В. Малешава. *Молодзік правы́, то негода будзе.* Хачэнь. *Рэка не правáя, е закруты.* Запясочча. *Памянш.* п р а в ý с е н ь к і. *Одна тычка правусенька, а друга з ляпою.* Старажоўцы.

ПРА′ДЗЕД *м.* Прадзед. *Моé дзед і прадзед тут коліся жылі.* Аздамічы. *З тых прадзедоў ужэ пошлі, то прашчуры.* Рыдча.

ПРА'ДЗІВО, ПРА'ДЗЬВО *н.* Ільновалакно. *У тым лёне посерэдзіне костра, а зверху прадзьво.* Пагост.

ПРАДУ'ХА, ПРАДО'ХА *м.* і *ж.* Пралля. *Прадýха багато напрала.* Старажоўцы. *А ту бабу прадóху у туроўском музеі бачылі?* Луткі.

ПРА'ЖА *ж.* Пража. *Ек тонка пража, а бердо рэдке, то будзе рэдке полотно.* М. Малешава.

ПРА'ЖЭНЫ *прым.* 1. Запрэжаны. *У войну пражэною коровою ездзілі.* Пагост. 2. Прэжаны. *Онё пражэнэ сало е на прыпеку ў сковородзе.* Пагост.

ПРАЗ *прыназ.* Праз. *Праз бакі п'ем водý.* Цераблічы. *Говорацъ, прэз коміна падаюць мухі.* Хачэнь.

ПРАКО'ЛІСНІ *прым.* Спрадвечны. *С пракол́сніх колісніе песні спевалі.* Старажоўцы.

ПРА'ЛО *н.* Жывёльны могільнік. Альшаны.

ПРА'ЛЬНЯ *ж.* Пралля. *Матруна була пральня, ткалля, весёла вона була.* Хотамель.

ПРАМІ'К *м.* Выпрамленае рэчышча ракі. В. Малешава.

ПРАМІНО'ЎВАЦЬ *незак.* Мінаць. *Бацько сказаў, шчо нельга праміноўваць, дзе хлеб пеклі.* Луткі.

Вясельны поезд у кожнай вёсцы сустракалі свежавыпечаным хлебам і соллю. Вясельнікі давалі пачастункі. Вясельнаму поезду нельга было аб'язджаць вёскі.

ПРА'МО *прысл.* 1. Прама. *Воны ўжэ перэехалі сюда да ідуць прамо так ко мне з этое рэчкі.* Дварэц. *Прамо вона гэтак будзе, тая Рудня, прамо-прамо так о нам будзе.* Хачэнь. 2. Якраз. *Прамо попаў на обед.* Аздамічы.

ПРАМОВА'ЦЬ *незак.* Ісці наўпрост. *Хто прамуе, той дома не ночуе* (прыказка). Аздамічы.

ПРАМЫ' *прым.* Прамы. *Бероза болотная луччэ колецца, вона прамая, а грудовáя крутая.* Сямігосцічы.

ПРА'НІК, ПРА'ННІК, ПРА'ЛЬНІК *м.* Пранік. *Лён вусохне і ўжо его б'юць на досцы пранікомъ, а дале его збіраюць і везуць на сенокос.* М. Малешава. *Полотно белілі праннікомъ і лён білі.* Хачэнь. *Пральнік.* Пагост.

ПРАНІ'НА *ж.* Менструацыя. Пагост.

ПРАНЦОВА'ТЫ *прым.* Непаслухмяны, свавольны. *Ох, зараза пранцоватая, подай шаньку!* Верасніца. *Дзеці такіе пранцоватые.* Запясочча.

ПРА'НЦЫ, ПРАНЦЭ'І *мн.* 1. Пранцы. *Коб цебе пранцы з'елі!* Бярэжцы. 2 *перан.* Блазнота, дурасліўцы. *От пранцы, хай вас ліхо пасéць!* Верасніца. *Ох, пранцэі, не возьму ў лес!* Хотамель.

ПРА′НЫ *прым.* Мыты. *Вісяць як не праные штаны.* М. Малешава.

ПРА′НЬЕ *н.* Вымытая бялізна. *Новэ пранье одзела, а вон загнусіў мне.* М. Малешава.

ПРАНЬЕ′ *н.* 1. Мыццё. *Одна сорочка на мне, одна ў пранье* (прымаўка). М. Малешава. 2. Вымытая бялізна. *Мо твое пранье там стоіць?* Кароцічы.

ПРАПРА′ДЗЕД *м.* Прапрадзед. *Прапрадзед мой курыў люльку.* Цераблічы.

ПРА′СЛО *н.* 1. Плот (з жэрдак, калкоў). 2. Пералаз з жэрдак. Луткі. 3. Частка плоту з жэрдак паміж двума парамі калоў. М. Малешава.

ПРА′СНІЦА *ж.* Прасніца. *До прасніцы прыўязвалі кудзелю.* М. Малешава.

ПРА′СЦІ *незак.* Прасці. *А цяпер ні шыюць, ні прадуць людзі.* Пагост.

ПРА′СЦІСА *незак.* Прасціся. *Лён прадзецца, як вода!* Запясочча.

ПРА′ТВА *ж.* Кладка мыць бялізну на вадаёме. *Пойду на пратву праць шмацьé.* Цераблічы.

ПРА′ТЛО *н.* Тое ж. Мачуль.

ПРА′ЎДА 1 *ж.* Праўда. *А ты мне ў лоб стрэляй, то гэто була праўда!* М. Малешава. *У ее праўды, як у рэшэце воды.* Мачуль. *Праўда вочы рэжэ* (прымаўка). Хачэнь. *Шо праўда, то не грэх* (прымаўка). В. Малешава. *Хлеб еж, а праўду рэж* (прыказка). Луткі. *Брэхня праўдзі очы вырвала* (прымаўка). Сямігосцічы. *Праўда за дзверамі, а непраўда п'е з панамі* (прымаўка). Там жа. *Певень курам праўды не кажэ, да б'е іх* (прыказка). Бярэжцы. 2 *часц.* Так, але, дакладна. *Але, праўда.* Альшаны. *Праўда! Ну, я бачыў.* Пагост. △ І′сцінна пра́ўда. Так, сапраўды, толькі праўда. *Я ёго́ бачыла. Ісцінна праўда!* В. Малешава. Вýйці на пра́ўдзе. Спраўдзіцца. *Вушлі твое слова́ на праўдзе.* Луткі. *Памянш.* пра́ўдочка. *Нема праўдочкі ў мушчын, ой, нема!* Сямурадцы.

ПРАЎДЗІ′ВУ *прым.* Праўдзівы. *Ні буду дзела мець ні с праўдзівым, ні ж жуліком.* Запясочча.

ПРА′ЎДЗІЦЬ *незак.* Праўдзіць, здзяйсняць. *Который сон праўдзіць, той рэдко прысніцца.* Луткі.

ПРА′ЎНУК *м.* Праўнук. *Маю семнаццаць унукаў і чотыры праўнукі.* Старажоўцы. *Памянш.* пра́ўнучок. *Это мой праўнучок.* Хільчыцы.

ПРА′ЎНУЧКА *ж.* Праўнучка. Альпень.

ПРАЎША′ *ж.* △ На праўшу́. У правы бок. *Поўе́ волокі на леўшу да на праўшу.* М. Малешава.

ПРАХ *м.* 1. Прах, астанкі. *Што там на том свеці? Усе прах.* Хачэнь. *За два дне і праху ее не стала, той травы.* Там жа. 2 *перан.* Мноства, шмат. *Корова прах ізведзе картопляў за год.* Дварэц. △ Розбіцца ў пра́х. Зрабіць усё магчымае для дасягнення мэты. *Вон розоб'еццa ў прах, а зробіць.* Аздамічы. Пра́х его́ ве́дае! Пра поўнае няведанне. Бярэжцы. Пра́х его́ беры́! Пра абыякавыя адносіны. Хотамель.

ПРА′ЦА *ж.* Праца, работа. *Я ж свою працу не прошу дай мне, а оддай мое!* Луткі. *Тые школьнікі поробілі несколько дзён, да хіба ж гэто праца?* Хачэнь.

ПРАЦОВА′ЦЬ *незак.* Працаваць. *Хто молоды не працуе, той на старосць жобру́е* (прымаўка). Хачэнь.

ПРАЦОВІ′ТЫ *прым.* Працавіты. *Чоловек працовіты, спокойны.* М. Малешава.

ПРАЦЬ *незак.* 1. Мыць, паласкаць бялізну.— *Куды это ты з мешком, з ношкою? — Іду на берэг праць плацье.* Тураў.

ПРАЧ *м.* Прыцiскач. *Колка́ дубового заго́страе, проб'е ту солому прачэ́м да прыціскае й до лаціны прыўязывае.* Луткі. *Колісь у хатах не було подлогі, а буў ток, вон буў з глею. Глею навозяць да і прачэм збіваюць.* Луткі.

ПРА′ЧКА *ж.* Прачка. *Весною і качка прачка* (прымаўка). Хачэнь.

ПРА′ШЧУР *м.* Прапраўнук. *Баба дождала пра́шчуроў.* Запясочча. *Тых праўнукоў дзеці — прашчуры.* М. Малешава.

ПРА′ШЧУРА *ж.* Прапраўнучка. Запясочча.

ПРА′ШЧУРКА *ж.* Тое ж. Кароцічы.

ПРАШЧУРЭНЯ′ *н.* Дзіця прапраўнукаў. *У праўнучыхі дзіця е. Воно прашчурэня ему доводзіцца.* В. Малешава.

ПРО *прыназ.* Пра, аб. *Навэт про гэто і думаць не хочэ.* Любавічы. *Ай, берэло́га іх там беры, говорыць шчэ про іх.* Сямігосцічы. △ Про собе́. Па сваёй патрэбе. *Хоцела про собе вуйці да ўпала.* Луткі.

ПРОБАЧА′ЦЬ *незак.* Прабачаць, даравацъ. *Пробачайце, чым ма́ла, тым прымала.* Старажоўцы.

ПРОБА′ЧЫЦЬ *зак.* Прабачыць, дараваць. *Пробачце мне, я недобрэ зробіў.* Аздамічы. *Пробач, жонко, не можно було за дзецьмі прыці.* Азяраны.

ПРОБЕ'ГА *ж.* Смелая, дзейсная жанчына. *Жонка такая пробега.* Кароцічы.

ПРОБЕ'ГЛЫ *прым.* Дзейсны, пранырлівы, рызыкоўны. *Пробеглы дзядзька і рыбу наловіў, і на покос сходзіў да йшчэ к вечэру побіўса.* М. Малешава. *Нашы людзі не пробеглые, а полешукі пробеглые. Воны й мед, й грыбў везуць далёко продаваць.* Дварэц.

ПРОБЕ'ГЦІ *зак.* Прабегчы, хутка праехаць. *Разведка на конях пробегла селом.* Цераблічы.

ПРОБІВА'ЦЬ *незак.* Пракладваць, прабіваць. *Колісь самі пробівалі дорогу.* Цераблічы.

ПРОБІ'ЦЦА *зак.* Прабіцца, пракалоцца. *Сено скідаў з вўшок, да пробіўса на вілкі.* Дварэц.

ПРОБІ'ЦЬ *зак.* Прабіць, пракалоць. *Пробіць нóгу на гвоздок можэ дзіця.* Альпень. *Рогожэй покрываюць, ек у дорогу едуць, і дождж не проб'е.* Чэрнічы.

ПРО'БОВАЦЬ *незак.* Каштаваць. *Прóбуйце, мо м'якка́ груша.* Хачэнь.

ПРОБО'ЕЦ *м.* Крук. *Пробойцы забіваюцца ў скрыню і вешаецца оконіца.* Хотамель.

ПРОБО'ІЧ *м.* Прабойнік. Запясочча.

ПРОБРА'ЦЦА *зак.* Прабрацца. *Я пробралася ўперэд, я уперэ́д зогнала свой загон.* Сямурадцы.

ПРОБРА'ЦЬ *зак.* 1. Прабраць, моцна падзейнічаць. *Суткі постоіць да проберэ ее соль.* Дварэц. 2. Разгрэбці. *А вон тэ сено пробраў да на дно лёг.* Бярэжцы. 3 *перан.* Вылаяць. Дварэц.

ПРОБРЭ'ГЛІВУ *прым.* Дзейсны, пранырлівы. *Воны пробрэґлівые жонкі, ужэ увосень скупоўваюць семена́.* Мачуль.

ПРОБУДЗІ'ЦЦА *зак.* Прабудзіцца, прачнуцца. *Пробудзісса да не спіш гэттыка, а йдзеш у хату.* Сямігосцічы.

ПРОВАЛІ'ЦЦА *зак.* 1. Праваліцца. *А я на болоце не провалюса, я буду іці.* Сямігосцічы. 2 *перан.* Прапасці. *Ой, усе нейкі клопот, хай воно проваліцца.* Мачуль. *Проваліцца этому ціпцў — не можно покосіць.* Запясочча.

ПРОВА'ЛЬВАЦЦА *незак.* Рабіцца (пра дзіркі). *У чыгунку мгновенно дзіркі провальваюцца.* В. Малешава.

ПРОВА'ЛЬЕ, *н.* Правал, пропасць, прорва. *От ужэ провалье, лье і лье дождж.* Верасніца. *Провалье таке тэ озеро.* Верасніца. *От дорога, настояшчэ провалье!* М. Малешава.

ПРОВАРЫ'ЦЬ *зак.* Зварыць. *Ты накопай картоплі да провары шчо-нéбудзь.* В. Малешава.

ПРОВЕ'ДАЦЬ *зак.* Праведаць. *Прыехалі проведаць мене і сестру.* М. Малешава.

ПРОВЕКОВА'ЦЬ *зак.* Звекаваць. *Наша старá провековала, молоко-серку піла, то й жыла дзевеносто шэсць год.* Дварэц.

ПРО'ВЕСНА *ж.* △ На пр*ó*весні. На прадвесні. *На провесні сколько побрала Прыпяць людзей!* Дварэц.

ПРОВЕСЦІ' *зак.* Праклaсці, працягнуць. *Му проводóм свет у бацькову хату.* Д.-Гарадок. △ Провесці душý. Падзяліцца горам, думкамі. Сямурадцы.

ПРОВЕ'ЯЦЬ *зак.* Праветрыць. *Дзеці, хай провее вéцёр росу.* Сямігосцічы. *На полесьі густо хат, да вецёр не провее, сама маці ложкі мые, а дочка не ўмее* (прыпеўка). Старажоўцы.

ПРОВОДА'ТОР *м.* Павадыр. *От, жыцімеш, жыцімеш да ў стáрцы за проводатора пойдзеш.* Луткі.

ПРОВО'ДЗІЦЬ *незак.* Вадзіць. *Проводзяць коня, еслі жувот у его боліць — коб не лежаў.* Кароцічы.

ПРО'ВОДЫ *мн.* Памінкі, памінальны абрад. *Проводы бываюць после веліконья у понедзелок.* Альпень. Памінкі праз тры дні пасля пахавання. Запясочча.

ПРОВАЖА'ТОР *м.* Суправаджальнік. Дварэц.

ПРОВОРНІНА' *м.* і *ж.* Вельмі праворная асоба. *Жонка молода да проворніна!* Запясочча.

ПРОВО'РНЫ *прым.* Праворны. *Вон такі буў той дзед проворны, шчо вон ёгó на коні не догнаў.* Луткі. *Я буў проворны, а вон проворнéйшы.* Сямігосцічы. *Шчэ му такіе молодые, такіе проворнуе.* Сямурадцы. *Не проворные людзі не зробяць скоро того моста.* Там жа.

ПРОВЯ'НУЦЬ *зак.* Правянуць. *От ветрык е, то воно туды-сюды провяне й жаць можно.* Мачуль.

ПРОГАДА'ЦЦА *зак.* Пралічыцца, памыліцца. *Буракá намочы і посей, то можэш прогадацца, лепш сеяць сухім насеньем.* М. Малешава.

ПРОГА'ЙДА'ЦЬ *зак.* Прагуляць. *Двaццаць рублей прогайдáў у Жытковічах гайдáй!* М. Малешава.

ПРОГА'Л *м.* Прагал. *Жэні короў прамо ў гэты прогал, дзе нема кустоў!* М. Малешава.

ПРОГА'ЛІНА, ПРОГУ'ЛІНА *ж.* Прагаліна. *На той прогáліні пас товар.* Хотамель. *Як зірнеш уніз, то нійдзе прогáліны нема, усе людзі і людзі.* Велямічы. *Прогýліна.* М. Малешава.

ПРОГА'ЛОК *м.* Прагалак. *Прогалок — небольшое гало.* Тураў. *Бувае кусты кругом, а посерэд такі грудок, прогалок.* В. Малешава.

ПРОГЛЕНУ'ЦЬ *зак.* Заўважыць. *Не проглене́ш того цыпа, як молоціш!* Старажоўцы.

ПРОГЛУ'ЗДАЦЦА *зак.* Ачуцца. *Трохі проглуздаласа да ўстала.* Бярэжцы.

ПРОГЛЫ'ТАЦЬ *незак.* Праглытваць. *Бэрэ муш і проглытае бусько.* Цераблічы.

ПРОГНА'ЦЬ *зак.* Прагнаць. *Ото едак Стакан чаю не вупій, прожэне́ жонка!* Запясочча.

ПРОГНО'ІСТЫ *прым.* Сітаваты. *На ву́лей вубіраем хвоіну, котора прогноіста.* Цераблічы.

ПРОГНО'Й *м.* 1. Сітаватасць (у драўніне). *У громадных дзеровах булі прогноі, пчолы самі булі там.* Сямігосцічы. 2. Багністая мясціна на балоце. *На болоце прогной, там гразь, болото, туда і чоловек не ўлезе.* Сямігосцічы.

ПРОГОВА'РВАЦЬ *незак.* Пагаворваць, перадаваць чуткі. *Людзі проговарваюць, шо ўцёк дале́ко.* Хачэнь.

ПРОГОВОРА'ЦЬ *незак.* Тое ж. *Людзі проговараюць, а точно мы не зна́ём.* Луткі.

ПРОГОВОРЫ'ЦЦА *зак.* Прагаварыцца. *Проговорыўса вон, шо вона слепа́.* Луткі.

ПРОГОВОРЫ'ЦЬ *зак.* Пераказаць. *Проговорылі, шо там хата е ў Логвошчах.* М. Малешава.

ПРОГО'Н *м.* 1. Прагон. *Усе́ посеялі, а тута оставілі прогон для прогону худобу.* М. Малешава. 2. Брус, бэлька. *Прогоны кладуцца по наса́дках у мо́сце, а на прогоны кладзецца насціл.* Цераблічы.

ПРОГРУЗА'ЦЬ *незак.* Грузнуць. *Ове́чкі загонялі, шчоб бегалі по гэтому глею, у іх ножкі то́ненькіе і прогрузаюць далеко, а пото́м прачэм збіваюць ток.* Лутікі.

ПРОГУ'ЛІЦЦА *зак.* Праясніцца. *Наедзе хмара, а потом зноў прогуліцца.* Лутікі.

ПРОГУ'ЛЬВАЦЦА *незак.* Праясняцца. *Ужэ прогульваецца, прогуліны на небе е.* М. Малешава.

ПРОГУЛЯ'ЦЬ *зак.* Прагуляць. *Прогуляў ноч, а дзень проспаў.* Старажоўцы.

ПРОГУМЕ'НОК, ПРЫГУМЕ'НОК, ПРОГМЕ'НОК, ПРУГМЕ'НОК, ПРУГУМЕ'НОК *м.* Прыгуменне, месца каля гумна. *Заежжаў бацько на прыгуме́нок, коня ву́прагом, а воза самі ўкоцім у гумно.* Кароцічы. *Ко́ло гумна прыгуме́нок, дзе снопы просушвалі.* Мачуль. Двор паміж сельскагаспадарчымі будынкамі. *Дзе хлёву́, то там про-*

*гумёнок.* Запясочча. *Прыгуменок — место. А кругом хоромы.* Мачуль. Павець каля гумна. Чэрнічы. Месца перад хлявом. М. Малешава. *Прогмéнок.* Сямігосцічы. *Пругмéнок.* Верасніца. *Пругумéнок.* Цераблічы. *Пругмéнок.* Там жа.

ПРОДАВА'ЦЦА *незак.* Прадавацца. *Колісь продаваліса озёра.* Дварэц.

ПРОДАВА'ЦЬ *незак.* 1. Прадаваць. *Продаеш короўку, продавай і вероўку* (прымаўка). Старажоўцы. 2 *перан.* Выдаваць. *Вона була урэдна нáгле, людзей продавала.* Сямурадцы.

ПРОДА'ЎНІ *прым.* Вельмі даўні. *Воны нашы шчэ продаўніе родзічы, шчэ свое.* Верасніца.

ПРОДА'ЦЬ *зак.* 1. Прадаць. *Целятко продамо да і будуць грошы.* В. Малешава. *О, продаць, одные лапці стоптаць, а купіць, то ўжэ дзесець* (прымаўка). Луткі. *Як купляеш, то дорого, а як продаеш, то дзешэво* (прымаўка). В. Малешава. 2 *перан.* Выдаць. *У яе муж буў, вона продалá ёгó.* Бярэжцы. △ П р о д á ц ь г ó р о д. У час гульні, падобнай да лапты, дапусціць да таго, каб хто-небудзь з каманды *ў полі* злавіў мяч або папаў ім у аднаго з ігракоў каманды *города,* які бяжыць на *сáло,* або *грóну. Як хто продасць город, то команда ёгó ідзе ў поле.* Хачэнь.

ПРОДЗЕ'ЛАЦЦА *зак.* Зрабіцца. *Крыніца сама по себе продзелаласа.* Старажоўцы.

ПРОДО'ЛІНА *ж.* Доўгая лагчына. *У продолінах добрая отава поросла, а на грудочках погорэла.* Верасніца.

ПРОДО'ЛЬНО *прысл.* Падоўжна. *Трам продольно клаўса на сцену.* Цераблічы.

ПРОДО'ЎБВАЦЬ *незак.* Прадзёўбваць. *Отрэзае кусок метра і дваццаць санціметраў доўжыны і продóўбвае там жэ у серэдзіні борць.* Дварэц.

ПРОДОЎБЦІ' *зак.* Прадзяўбці. *Продоўб навылёт дзірку.* Аздамічы.

ПРОДРА'ЦЬ *зак.* Прадраць. *Продраў стрэху злóдзей да ўлез.* Хачэнь.

ПРОДУ'НУЦЬ *зак.* Абвеяць. *Як трóха продýне, то трэба картоплі полоць.* М. Малешава.

ПРОДУ'РБАЦЦА *зак.* Ачнуцца. *Тогды́ продурбаласа, як коня погукаў.* Хачэнь.

ПРО'ДУХ *м.* Прадуха. *Вудра на продух ідзе, вона мусіць дыхаць.* В. Малешава. *Закрый продухі, коб картоплі не померзлі ў лёсі.* Луткі.

ПРО'ДУХА *ж.* Тое ж. *Продуху зробіў да рыба будзе йці.* Запясочча. *Наехало здаваць экзамены, як рыбы ў продуху!* Пагост.

ПРОДЧУВА'ЦЦА *незак.* Прадчувацца. *Ужэ продчуваецца, жонка ходзіць па днёх.* Луткі.

ПРОДЧУВА'ЦЬ *незак.* Прадчуваць. *Некотóрые ужэ продчувалі, шчо будзе воля от прыгону.* Сямігосцічы.

ПРОДЫ'БАЦЬ *зак.* Прайсці на хадулях. *Хто больш продыбае на кондыбах, то тому п'яцёрка.* М. Малешава.

ПРОЕДА'ЦЬ *незак.* Раз'ядаць. *Ужóво ліновішчэ як нарве на руцэ, то прыкладалі, скорэй проедае ваву.* Мачуль.

ПРОЕЖДА'ЦЬ *незак.* Праязджаць. *Му Рычоў проеждалі, дзерэўня така.* Запясочча.

ПРОЕЛЧА'ЦЬ *зак.* Праялчэць. *Сало проелчало да не годзіцца есці.* Цераблічы.

ПРОЕ'СЦІСА *зак.* Прадзіравіцца. *Одзін зуб проеўса ў боку.* Сямурадцы.

ПРОЕ'ХАЦЬ *зак.* 1. Праехацца. *Кóжному інцересно проехаці, шоб это по ўсіх странах.* Бярэжцы. 2. Праехаць. *Ото, буду вартоваць, коб не проехалі возакі.* Хачэнь.

ПРОЖО'РА *ж.* Абжора. *Прожоры тые воны век не наедзяцца!* Аздамічы.

ПРОЖЫВА'ЦЬ *незак.* Пражываць, жыць. *Прожываў лёгко дзед, бо меў сполны надзел землі, людзі сеялі й жалі.* Сямігосцічы. *Век прожывае, то нікому й дзень добры не сказаў.* Дварэц.

ПРО'ЖЫР *м.* Пражора. *Шо это за пропасць, шо за прожыр эта коза!* Хачэнь. *Вутвá — нéйка прожэр, і едзяць, і едзяць!* Мачуль.

ПРОЖЫ'РНЫ, ПРОЖО'РНЫ *прым.* Пражэрлівы. *От прожы́рна жонóчына, тобе есці трэба богато.* Альпень. *Прожóрны.* Хачэнь.

ПРОЖЫ'ЦЬ *зак.* Пражыць, праіснаваць. *Баба Ёўга ў дзве сталкі прожыла да ешчэ з концом* (больш за сто гадоў). Сямурадцы. *Ліжбу пáра по душэ́, то прожывом і ў шалашэ* (прымаўка). Там жа.

ПРОЗАЛЕ'ТОСЬ *прысл.* Тры гады назад. *Прозалетось там буракі булі, у том урочышчы Дубкі.* Хільчыцы.

ПРОЗВА'НЬЕ *н.* Найменне, назва. *Ляховіца — таке прозванье тому месту.* Сямурадцы.

ПРО'ЗВІШЧЭ *н.* Тое ж. *Каждому селу прозвішчэ е.* Альшаны.

ПРОЗІРА'ЦЦА *незак.* Прыглядацца. *Вона вуйшла на*

*дорогу да прозіраецца.* Хачэнь. *Прозіраеце, дзе старые?* Верасніца.

ПРОЗО′РНО *прысл.* Празрыста. *Прозорно, чысто на дворэ.* В. Малешава.

ПРОЗЫВА′ЦЦА *незак.* Называцца. *А это Стáрыца ў нас прозываецца, это наш сенокос.* Пагост.

ПРОЗЫВА′ЦЬ *незак.* Называць. *Забулаcа, як ее прозывалі, мо то загвоздка.* Сямурадцы.

ПРОЗЫ′РЫЦЬ *зак.* Праматаць, прайграць (грошы, дабро). Альпень.

ПРОІВА′НІЦЬ *зак. экспр.* Праварoніць. *Коб трохі, то проіваніў бу солому.* Луткі.

ПРОЙДА′К *м.* Прайдзісвет. *От добры пройдак, срэбные трубы пройдзе.* Сямурадцы.

ПРОЙДА′КОВА′ТЫ *прым.* Пранырлівы. Дварэц.

ПРОЙДА′ЧКА *ж.* Прайдзісветка. *То жонка пройдачка: ляжэ, а свойго мусіць.* Верасніца.

ПРОЙМА′ЦЬ *незак.* Праймаць, прабіраць. *Росплáтаеш кожушка, коб соль проймала.* Бярэжцы. *Промае мене дрож.* Запясочча.

ПРОЙЦІ′ *зак.* 1. Прайсці. *От не пройці, не проехац, гразюка.* Тураў. *А блох колісь було, шо по вуліцы не пройдзеш!* Старажоўцы. 2. Мінуць. *Я знаю, шо прошло, а шо будзе, то я знаю?* М. Малешава. 3 *перан.* Перасягнуць. *Малá прошла й Кацю, шчэ больш шўстра будзе.* Дварэц.

ПРОЙЦІ′СА *зак.* 1. Прайсціся. *Мо то ты ўжэ хочэш з ею пройціса, ее провасці?* Мачуль. 2. Прайсці, мінуцца. *Банкі ставіла да пройшлосо.* Хачэнь.

ПРОКАЗА′ЦЬ *зак.* Расказаць, указаць. *Хто раз прокажэ, і я ужэ знаю.* Хачэнь. *Прокажыце, куды дорога?* Альшаны.

ПРОКА′ЗВАЦЬ *незак.* Расказваць. *Мне проказваюць людзі шыпшыну піць.* Сямігосцічы.

ПРОКВА′СІЦЦА *зак.* Пракіснуць. *Проквасілосо ужэ молоко.* Луткі.

ПРОКВА′ШЭНЫ *дзеепрым.* Кіслы. М. Малешава.

ПРОКІ′ВА *ж.* Крáпіва. *Проківою рукі попечэш.* Запясочча. *Рвуць проківу, да коліся устаўляюць у зашчыпку на Івана Купалу од ведзьмы.* М. Малешава. △ П р о к і в а г л у х á. Паслён. Запясочча.

ПРОКІДА′ЦЦА *незак.* 1. Трапляцца. *У нас гадзюкі прокідаюцца.* Сямігосцічы. *От до этого ўрэм'я не прокі-*

*даліс дзікі.* Кароцічы. 2. Прачынацца. *Я прывыкла ў поўшостого прокідацца.* Сямігосцічы.

ПРОКІ'НУЦЦА *зак.* Прачнуцца. *Спіш, спіш да прокінесса, то мокры, бы пацук.* Цераблічы. *Прокінуўса скоро, бо нехто стукнуў.* Хотамель.

ПРОКІ'НУЦЬ *зак.* Падаслаць. *Рого́жу прокінуў, подушку кінуў да спі.* Аздамічы.

ПРОКІ'ЎНІК *м.* Байструк. *Прокіўніка нашла жонка.* М. Малешава.

ПРОКІ'ЎНІЦА *ж.* Байстручка. Цераблічы.

ПРОКЛАДА'ЦЬ *незак.* Распальваць. *Огню проклада́е да сушыць тэ штанцэ́.* Мачуль.

ПРОКЛА'СЦІ *зак.* Раскласці. *Проклала огонь трохі ў грубе.* Хачэнь.

ПРОКЛЁН *м.* Праклён. *Проклён не попаў на чоловека, да на дзерэво, то гуз вы́перло.* Аздамічы.

ПРОКЛІНА'ЦЬ *незак.* Праклінаць. *Абу-шчо не говоры, бо будуць проклінаць жонкі.* Старажоўцы.

ПРО'КЛЯ'ТЫ *прым.* Пракляты. *Не нам кажучы, прокля́ты за но́гу укусіў* (пра вужа). Луткі. *Про́кляты.* Бярэжцы.

ПРОКЛЯ'ЦІНА *ж.* Дрэнь, погань. *Прокляціна, я тобе напэкў, як возьму проківіну!* Мачуль.

ПРОКЛЯ'СЦІ *зак.* Праклясці. *Вон буў вельмо поганы і вон ёго прокляў.* Луткі.

ПРО'КЛЯЦЬ *ж.* Пракляцце, погань. *Гэто прокляць гэты немец!* (пра фашыстаў). Кароцічы.

ПРОКОРМІ'ЦЬ *зак.* Пракарміць. *Круці, брэшы́, да прокорміш дзве душы!* (прымаўка). Запясочча.

ПРОКОРПА'ЦЬ *зак.* Пракалупаць. *Дзірочку прокорпаў.* Запясочча.

ПРОКО'С *м.* Пракос. *Под кажным прокосом вона, га́дзіна.* Луткі.

ПРОКОЎТА'ЦЬ *зак.* Праглынуць. *Каша нагле густа́ да прокоўтаць ва́жко.* Альшаны.

ПРОКОЎТНУ'ЦЦА *зак.* Праглынуцца. *Мне картопля не прокоўтне́цца.* Хачэнь.

ПРОКОЎТНУ'ЦЬ *зак.* Праглынуць. *Ек прокоўтнеш мекіша́, то й скорку прокоўтнеш.* Дварэц.

ПРОКРЫВА'ЦЬ *незак.* Прыадчыняць. *Я прокры́ла дзверы, стала дай обопне́ла.* М. Малешава.

ПРОЛАМІ'ЦЬ *зак.* Праламаць. *Хай будзе хоць дзірочка дзе у ву́льі, то медзведзь усе роўно прола́міць.* Мачуль.

ПРО'ЛЕЖЭНЬ *м.* Пролежань. *Шоб жа пролежней не було, то облепіхою мажуць спіну.* Верасніца.

ПРОЛЕНОВА'ЦЦА *зак.* Прагультаяваць. *Ты проленовайса, пролежаў, у цебе нема нічого!* Мачуль.

ПРОЛІЗА'ЦЬ *зак.* Прашараваць. *Шаруе одна поўз другую, проліжэ рыба еты лёд.* Запясочча.

ПРОЛО'З *м.* Месца праходу вады між кустоў у час разліву. *Пролозы по водзе е, куда вода стру́жа, такіе прога́лкі між лозы.* М. Малешава. Праход у лазе для рыбы. *Пролоз просе́каем, шоб поставіць жака́.* Сямігосцічы.

ПРОЛУПІ'ЦЬ *зак.* △Пролупіць о́чы. Прачнуцца. *Шчэ не ўспееш пролупіць очэй, то ўжэ рэжэ ў окно, ідзі на роботу.* Дварэц.

ПРОЛЫ'НДАЦЬ *зак.* Прашвэндацца. *Пролындаў цэлы дзень.* Бярэжцы.

ПРОЛЫ'СІЦЦА *зак.* Праясніцца. *Трохі пролысілосо небо.* Дварэц.

ПРОМА'ЗАЦЬ *зак.* Прапесціць, прабалаваць. *Е дзед, е баба, е бацьке, то дзеўку промажуць век. Вона навек говорыць: тэ хочу́, тэ не хочу есці.* Луткі.

ПРОМАХНУ'ЦЦА *зак.* Прамчацца. *Ешо одзін большы́ аўтобус промахнуўса міма.* М. Малешава.

ПРОМЕ'Ж, ПРОМЕ'З, ПРОМІ'Ж *прыназ.* Паміж. *Промеж намі садзісь!* Аздамічы. *Там е малы́ промез імі.* Дварэц. *Проміж намі як проміж ворага́мі* (прымаўка). Старажоўцы.

ПРОМЕ'ЖОК *м.* Прамежак. *У промежках з другого боку садзілі кіяхі на градах і на прыголо́вачах садзілі.* М. Малешава. *Ён пройшоў добры промежок.* Азяраны.

ПРОМЕНЯ'ЦЬ *зак.* Прамяняць, зрабіць абмен. *Променяў бы́ка на анды́ка* (прыказка). Сямурадцы.

ПРОМІНУ'ЦЬ *зак.* Прамінуць. *Молодэ́ ідзе, то возьме два, а старэ́ ідзе да грыб проміне.* Хачэнь.

ПРОМО'ВІЦЬ *зак.* Вымавіць. *Плачэ шо слово не промовіць!* М. Малешава.

ПРОМОКА'ЦЬ *незак.* Прамакаць. *Не промокае гэта одзежа, а за карок лье.* Мачуль.

ПРОМО'КНУЦЬ *зак.* Прамокнуць. *Промокла зусім.* Луткі.

ПРОМО'ЎЧЫЦЬ, ПРАМОЎЧА'ЦЬ *зак.* Прамаўчаць. *Вон не промоўчы́ць, вуркае й вуркае.* Верасніца. *Промоўча́ць.* Там жа.

ПРОМЫ'ЦЬ *зак.* Прамыць. *Побач, бра, дзе рэка́ промыла?* Кароцічы.

ПРОМ'Я'ЦЬ *зак.* Працерці. *Трэба пром'яць зімню дорогу, коб след хоць буў, лёгшэ тогды.* Луткі.

ПРОНІЗА'ЦЬ *зак.* Праткнуць. *Потхопіў его на рогі, пронізаў его і этак дзержіць.* Бярэжцы.

ПРОНО'ЗЛІВУ *прым.* Пранырлівы. *От гэта корова і пронозліва, коб у шкоду да ў шкоду.* Луткі. *Гусі такіе пронозлівуе!* Сямурадцы.

ПРОНО'ЗНЫ *прым.* Тое ж. Цераблічы.

ПРОНУ'ЗА *ж.* Праныра. *Такі чоловек пронуза, усюды дойдзе.* Бярэжцы.

ПРОНЫ'РА *ж.* Тое ж. *Ну й проныра твой Іван!* Азяраны.

ПРОНЫ'РЛІВУ *прым.* Пранырлівы. *Пронырліву, усё прошныпарыў!* М. Малешава.

ПРОНЯ'ЦЬ *зак.* Праняць (пра мароз, вецер, соль). *Проняў сквозняк, і заболела моя молодзіца.* Луткі. *Сцёгна повесіла, шчоб іх весняк проняў.* Сямігосцічы. *Заліла салом, а вонэ не проняло ёгó, да мясо парудзéло.* Бярэжцы. *Ты есцімеш молоко, шо квас проняў?* Хільчыцы. Прабіць, праткнуць. *Того дуба і снарад не пройме!* Рубель. *Шкуру пройму да засцегну на гусеняці, так і познаковала.* Луткі.

ПРООРА'ЦЬ *зак.* 1. Правесці час, аручы. *Два дне проораў на том полі.* Пагост. 2. Паараць. *Проораў трохі — і прыстае конь, бо поле, ек ток.* Пагост. 3. Прааараць. *Ето не ўзораў, а проораў, бо ўзяў тэ мелко, перэворвацімеш.* Пагост.

ПРОПАДА'ЦЬ *незак.* Прападаць. *Нехай пропадае, а воны не дбаюць.* Хільчыцы. *Усё пропадае ў огородзі і на полі* (ад спёкі). Запясочча.

ПРОПАЛІ'ЦЬ *зак.* Напаліць. *І печ добрэ пропаліць трэба грыбў сушыць.* Хотамель.

ПРО'ПАСНЫ *прым.* Пракляты, дрэнны. *Одзін смольнік, такіе пропасные дрóва.* Чэрнічы.

ПРОПА'СЦІ *зак.* Прапасці. *У ее була лодка пропала.* Запясочча. *Пропалі грады ў зельі.* Аздамічы. *Пропало дзело ужэ твое, Дзеніс!* (з казкі). В. Малешава. *Той пропаў, хто ў яму ўпаў* (прымаўка). Цераблічы. △ Пропáсці прóпадом. Згінуць. *Маніў, маніў, да пропадзі ты пропадом!* Луткі. Пропáсці за собáку. Загіцуь бясследна, без славы. *Так вон і пропаў за собаку.* Верасніца.

ПРОПАСЦІ'ЦЬ *незак.* Загружаць. *Не пропасці колодзежа поскудством!* Хачэнь.

ПРО'ПАСЦЬ *ж.* 1. Прорва, бездань. *Пропасць на том плаву е.* Лутκі. 2 *зневаж.* Погань, поскудзь. *Откуль ўзялася пропасць гэта жукі?* Запясочча. *Не йдзеце ў лес, а то там пропасці багато* (пра вужоў, змей, яшчарак, кляшчоў). Дварэц.

ПРОПЕКЦІ' *зак.* 1. Прапаліць наскрозь. *Пропекці дзірку у палцы хоцеў.* Цераблічы. 2. Спячы. *На Петра пропекла, а на Лью — пойну печ налью* (прымаўка). В. Малешава.

ПРОПІ'ЦЬ *зак.* Прапіць. *Вон не проп'е, не прокурыць.* В. Малешава.

ПРОПЕ'РЦІ *зак. экспр.* Прагнаць. *Ек стаў біцца, то вона его проперла.* Сямурадцы.

ПРОПІСА'ЦЬ *зак.* Напісаць. *Пропішы про мене ей.* М. Малешава.

ПРОПОГО'ДЖВАЦЦА *незак.* Распагоджвацца. *Пропогоджваецца, соўнейко відаць ужэ.* Цераблічы.

ПРОПОЛО'ЦЬ *зак.* Прапалоць. *Лён прополяць, шоб не було зелья.* М. Малешава.

ПРОПОЎЗЦІ' *зак.* Прапаўзці. *Гушчэча, шо і вуж не пропоўзе!* Тураў.

ПРОПУ'ЛЬВАЦЦА *незак.* Праясняцца. *Пропульваецца уге, будзе погода!* Сямігосцічы.

ПРОПУСКА'ЦЬ *незак.* Прапускаць. *Мох не так воду пропускае.* Цераблічы.

ПРО'РВА *ж.* 1. Прорва, бяздонне. *Прорва — багно́ бесконе́чнэ, і дна нельзя достаць.* Альпень. 2 *перан.* Абжора. Лутκі.

ПРОРОСЦІ'ЦЬ *зак.* Прарасціць. *Проро́сціш пшэніцу, то горэлка ек крышталь з ее будзе.* Чэрнічы.

ПРОРО'ШЧАЦЬ, ПРОРО'ШЧВАЦЬ *незак.* Прарошчваць. *Ечмень пророшчаюць да роб'яць піво.* Хачэнь. *Трэба пророшчваць насенье.* Верасніца.

ПРОРЫ'ВА *ж.* Багна на балоце ці возеры, зарослая травой. Вяляміčы.

ПРОРЭ'ЗАЦЬ *зак.* Прарэзаць. *Вода прорэжэ мах ро́ва.* Цераблічы.

ПРОРЭ'ЗВАЦЬ *незак.* Прарэзваць, размываць. *Свінье лечылі самі. Як больные, то прорэзвалі вушы. Кажуць, о то сцечэ кроў, да вонэ поправіцца.* Хачэнь.

ПРО'РЭ'ЗКА *ж.* Шырынка, прарэх. *Іванко, про́рэзка розшчэпілаcа, зашчэпі кузікі!* Верасніца. *Проро́зка.* Лутκі.

ПРОСА'РНЯ, ПРОСЯ'РНЯ *ж.* Месца, дзе рабілі

прасяныя крупы. *Просарні просо тоўклі.* Сямурадцы. *Просярня.* Аздамічы.

ПРОСЕ'ДЗЕЦЬ *зак.* Праседзець. *Я до ранку просéдзела.* Дварэц.

ПРОСЕ'КАЦЬ *незак.* Прасякаць. *Пошоў душнікі просекаць на жакі.* Луткі.

ПРОСЕ'НІК *м.* Снапок прасяной саломы. Аздамічы.

ПРОСЕНІ'К *м.* Летні баравік. Запясочча.

ПРОСЕНІ'ЦА *ж.* 1. Прасяная салома. Тураў. 2. Прасяная мякіна. Дварэц.

ПРО'СЕРЭ'Д *м.* Пясчаны востраў ці каса на рацэ. *Просерэ́д.* Альшаны.

ПРО'СЕ'СЦЬ *ж.* Аснова ў кроснах ад навоя да нітоў. *Одну просéсць наткала да трэ прыпусціць вороціло.* В. Малешава.

ПРОСЕ'Ў *м.* Агрэх пры сяўбе. Пагост.

ПРОСІ'ЦЦА *незак.* Прасіцца. *А я ўсіх пускаю навек, ой, там брат мо недзе просіцца, бра, мо нехто пускае.* Сямурадцы.

ПРОСІ'ЦЬ *незак.* Прасіць. *Трэба загнаць корову, просіла суседка.* Сямігосцічы. *Уполету косіць, а зімою просіць* (прымаўка). Хачэнь.

ПРОСІ'ЧЭНЫ *дзеепрым.* Працёрты, сітаваты. *Вона ж була ужэ просічэна зусім, тая губка.* Луткі.

ПРО'СІШЧЭ *н.* Прасянішча. *Просішчэ узораў.* Луткі.

ПРОСКУ'РКА *ж.* Мальва пагрэбаваная. *У кого була тэ поскудство, то высушыц проскурку, растоўкці, размешац со сметаною й помазаць, то воны здохнуць.* Запясочча.

ПРОСЛА'ЦЦА *зак.* Паслацца. *На том дубніку просцелюса да вусплюса добрэ.* Дварэц.

ПРОСЛА'ЦЬ *зак.* Паслаць. *Цепер машынамі лён б'юць, а колісь просцеле рад да б'е праніком.* Запясочча. *У сéнях прослала половік, шоб гразь у хату не носілі.* М. Малешава. *Прослала дзеругу да поклала дзецей спаць.* Луткі. *Госцей так богато, шо ложкоў не хопіць усім спаць, прідзецца долі прослаць.* Пагост.

ПРОСЛЕ'ДОК *м.* Сцежка, слядок. *Там е проследок, можно пройті.* Альпень.

ПРО'СЛІ *прыназ.* Пасля. *Зоўзулька просле Петра ні куе.* Запясочча. *Бацько буў прослі мацер дзеветнанцаць год.* Аздамічы. *До Івана — пану, а до Лье — то собе, просле Лье — то ўдове* (прымаўка). Бярэжцы.

ПРОСМЕРДЗЕ'ЦЬ *зак.* Прасмярдзець. *Падло просмердзіць, ек не во ўремя загрэбеш.* В. Малешава.

ПРОСМОКТА'ЦЬ *зак.* Прасмактаць. *Просмоктала дзеньгі на конфетах.* Старажоўцы.

ПРО'СО *н.* Проса. *У мáе месяцэ должэн посеяць картоплі, просо і коноплі.* В. Малешава. *Сею просо ў одзін бок, а одтулека, ек буду іці назад, буду сеяць зéмлю, то, казалі, не будуць піць проса ўжэ ороб'é* (павер'е). Старажоўцы. *Просо дорожэй за жыто цэнілос.* Сямігосцічы. *Кому шчо, а курцы просо* (прымаўка). М. Малешава. *У чужэ просо не тыч носа* (прыказка). Сямігосцічы. *Сыроватэ просо пожалі, коб дзетухны голоду не зналі* (прымаўка). М. Малешава. △У п р ó с о г у л я ц ь. Дзіцячая гульня.

Адна шарэнга (шар) дзяцей становіцца насупраць другой на адлегласці. Паміж імі адбываецца песенны дыялог. Першы шар спявае: *«А му просо сеялі, сеялі. Зелёная руточка, жоўты цвет».* Другі яму адказвае: *«А му коні вýпусцім, вупусцім. Зелёная руточка, жоўты цвет».* Першы шар працягвае: *«А му коні зáбером, забером. Зелёная руточка, жоўты цвет».* Другі шар яму адказвае: *«А мы коні вýкупім, вукупім. Зялёная руточка, жоўты цвет».* Пасля адна шарэнга падбягае да другой, б'е па выстаўленых далонях і зноў адбягае назад. Хачэнь.

ПРОСОЛЕ'ЦЬ *зак.* Прасаліцца. *Прoсолée рыба да будзе таранка.* Чэрнічы.

ПРОСПА'ЦЦА *зак.* Праспацца, працверазіцца. *Як п'ян, то капітан, а як проспіцца, то й свіньі боіцца* (прыказка). Хачэнь. *П'яніца проспіцца, а недбáйніца нікогда* (прыказка). Старажоўцы.

ПРОСПА'ЦЬ *зак.* Праспаць. *А тые пойдуць два да проспяць, а той нерозумны ўжэ сцерог.* Бярэжцы.

ПРОСПЕВА'ЦЬ *зак.* Праспяваць. *Прыдзіце, ек буду дужа, то проспеваю песню.* Запясочча.

ПРО'СТКА *ж.* Прамая пратока паміж двух выгібаў ракі. *Чэрпалка прокопала простку.* Пагост.

ПРО'СТО 1 *прысл.* Прама. *Тры слове у однэ — грэймо, просто, прямо.* Альшаны. *Просто нашое хаты калюга.* Запясочча. *Пратва е просто каждое хаты.* Крэмна. *Сталі просто мое хаты і стояць на вуліцы.* Кароцічы. 2 *прысл.* Проста. *Седзя ў Городку вубірающь картоплі і просто ў фартух кідающь.* В. Малешава. *Ну, да это ж мне просто і цепер дзіво.* Бярэжцы. *Ему здавáлосо, шо то зусім просто.* Цераблічы. △П р ó с т о т á к. Без пэўных намераў.

Аздамічы. У п р о́ с т о. Без узораў. *У просто ткалі сорочкі.* Верасніца.

ПРОСТОВА'ТЫ *прым.* Праставаты. *У того коня копыта простоватые, то воны навек ко́ляцца.* Любавічы.

ПРОСТОВА'ЦЬ *незак.* Хадзіць напрасткі. Аздамічы.

ПРОСТОЛЫКА *м.* і *ж.* Прасцяк, нетактоўны чалавек. *О! То дзеўка простолыка, не зважае ні старо́го, ні мало́го.* Верасніца.

ПРОСТОЛЫ'КОВАТЫ *прым.* Нетактоўны. *Простолыковаты шчо думае, тэ і говорыць.* Запясочча.

ПРОСТОЯ'ЦЬ *зак.* Прастаяць, адстаяць. *У ко́чэргах простояла ўсе веселье.* Тураў.

ПРОСТРЭ'Ч *м.* Прастуда ад ветру. *Заболее чоловек, ве́цёр такі охопіць, то і прострэч.* Мачуль.

ПРОСТУ'ДЖОНЫ *дзеепрым.* Прастуджаны. *А стары́ прышоў з войны да простуджоны тожэ.* Сямурадцы.

ПРОСТУДЗЕ'НЬЕ *н.* Прастуда. *З простудзенья ўсякіе болезні касаюцца.* Аздамічы.

ПРОСТУДЗІ'ЦЦА *зак.* Прастудзіцца. *Ву́мокнеш ты да просту́дзішса.* Пагост.

ПРОСТУПІ'ЦЦА *зак.* Праваліцца. *Проступіўса у во́ду і намок.* Альшаны.

ПРО'СТЫ *прым.* 1. Звычайны, негатункòвы. *З про́стого ду́ба молодзе́нького кору́ ле́пей на леченье, як з не́леня.* Сямурадцы. *Трэ перэўязаць ніткою простою бородоўку, то вона отпадзе.* В. Малешава. 2. Прамы, роўны. *За́ра молодзік просты.* Лутunion. *Проста пража напрадзена, то вона хлоп'яніцца.* М. Малешава.

ПРОСТЫ'ЦЬ *зак.* Прастудзіцца. *Я була простыла да сухі плеўрыт получыла.* М. Малешава.

ПРОСУ'НУЦЦА *зак.* Праціснуцца. *Ледво просунецца у дзверы.* М. Малешава.

ПРОСУШЫ'ЦЦА *зак.* Абсушыцца. *Куме, вулезь просушыса, нікого нідзе нема!* Лутunion.

ПРОСЦЕКО'М *прысл.* Напрасткі. Аздамічы.

ПРОСЦЕЛІ'ЦЦА *зак.* Паслацца. *Я просцелюса да лягу поспаць.* Альшаны.

ПРОСЦЕЛІ'ЦЬ *зак.* Паслаць. *Ходзі я тобе просцелю посцель.* Бярэжцы. *Куль солому просцелеш, а потом рогожу, і посцель построена.* Запясочча.

ПРОСЦІЛА'ЦЬ *незак.* Рассцілаць. *Лён просцілаюць у радочкі на сенокосі.* М. Малешава. *Просцілаюць посцель у полозі, у сенях молодым.* Лутunion.

ПРО'СЦІЛКА *ж.* Посцілка. *Просцілкою ложок по-*

*крываюць*. Хотамель. *Шляхта звалі просцілкою, а мужыкі — дзеруга*. Цераблічы.

ПРОСЦІ'ЦЦА *зак*. Даравацца. *Як гэтой жонцы просціцца, то можно усім босым і голым ходзіць*. Хачэнь.

ПРОСЦІ'ЦЬ *зак*. Даравацъ. *Вона віновата, а ты ее просці, не крічы на ее*. Пагост. *Ну, ужэ за дзіця не прощу!* Бярэжцы.

ПРОСЦЬ *ж*. Вузкае месца на рацэ. *У просцé спірáе дýба вода, у просце не можно ехаць*. Цераблічы. *Памянш*. п р ó с т о ч к а. Хотамель.

ПРОСЦЯ'ЦКІ *прым*. Прасцецкі. *У нас просцяцкі розговор*. Старажоўцы.

ПРОСЯ'НКА *ж*. Прасяная салома. *Просянку коровам давалі*. М. Малешава.

ПРОТАГА'НІЦЬ *зак*. Прывязаць лодку. Запясочча.

ПРОТАГА'НКА *ж*. Вяроўка, якой прывязваюць лодку. Запясочча.

ПРОТАГА'НШЧЫК *м*. Вясляр, які абавязан прывязваць і адвязваць лодку. Запясочча.

ПРОТА'ЛКА *ж*. Праталіна. *Бач, ужэ проталкі есць, конец снегу*. Цераблічы.

ПРОТА'ЧКА, ПРОТЫ'ЧКА *ж*. Дроцік для прачысткі цыбука ў люльцы. *Протычка*. Луткі.

ПРОТО'КА *ж*. Пратока. *Эта Сéжка — така протока, як рэка*. Д.-Гарадок.

ПРОТОПТА'ЦЬ *зак*. Пратаптаць, прахадзіць. *Іншэ прожыве, ек у карты пройграе, а іншы — ек у остопку протопчэ* (прымаўка). Луткі.

ПРО'ТОРГ, ПРО'ТОР *м*. Іголка без вушка. *Далі собацы пróторга ў хлеб*. Луткі. Швайка, шпень. *Мо нейкі протор есцека, то дай пропекці дзірку у палцы*. Запясочча.

ПРОТРУ'ХНУЦЬ *зак*. Спарахнець, струхлець. Аздамічы.

ПРОТУ'ХНУЦЬ *зак*. Скіснуць. *Протухло молоко вечэрне*. Чэрнічы.

ПРОТХНУ'ЦЬ *зак*. Стухнуць. *Протхнуло м'ясо*. Аздамічы.

ПРОТЭ' *прысл*. Аднак, аднак усё ж, таму. *Протэ дóбрэ, шчо я так зробіў*. Верасніца. *Воны пошлі ўсе на сено. Сена, мáбуць, багато було. Протэ забáвіліса воны*. Там жа. *Корова мікала, мікала, а протэ усе сілы зобрала і вылезла*. Мачуль. *Протэ я шукала, шукала бобу, а то квасоля*. Цераблічы. *Невелікі заробóток пер'е драць, да*

*протэ бралі.* Дварэц. *Воны ж у лес бояліса протэ, а тут давалі добрэ.* Чэрнічы. *Але ось жэ протэ, есць жэ ў іх таке́: кідаюць на зіму бўська.* Старажоўцы.

ПРОХАЛДЫ'КНУЦЬ *зак. экспр.* Праглынуць. *Качкам абу порэзаў лісты, коб можно було прохалдыкнуць.* М. Малешава.

ПРОХА'ЦЦА *незак.* Прасіцца. *Будэм прохацца, шоб нас рошчытаў.* Кароцічы.

ПРОХА'ЦЬ *незак.* Прасіць. *Сталі прохаць, шоб запелі, а тые засоромеліса, поховаліса.* Кароцічы. *Дзед, знаеце шо, я, говбрыць, вас хбчу прохаць, коб ву поехалі.* Там жа.

ПРОХВА'Т *м.* Прастуда. *Як прохваціцца прохват, то она шэпчэ й воду дае.* Хачэнь.

ПРОХВАЦІ'ЦЦА *зак.* Прастыць. *Ото йдзе да прохваціцца з ветру, она і шэпчэ.* Хачэнь.

ПРОХВО'СТ *м.* Нягоднік. *А прохвосту нема ніколі пбсту* (прымаўка). В. Малешава.

ПРОХОДЗІ'ЦЬ *зак.* Прахадзіць. *У хаце то сюды, то туды, то ўзад, то ўпербд да дзень прохбдзіць.* Дварэц.

ПРОХОЛО'ДАЦЬ *зак.* Прастыць, прастудзіцца. *Я прохолодала троху да хворэю.* Бярэжцы.

ПРОХОЛОДЗІ'ЦЦА *зак.* Тое ж. *Прохолодзіласа да лежыць хворая.* М. Малешава.

ПРОЦВЕРЭ'ЖЫЦЦА *зак.* Працверазіцца. *Як процверэ́жыцца, тогды вяжэцца говорыць.* М. Малешава.

ПРОЦВЕРЭЗІ'ЦЦА *зак.* Тое ж. *А дáлей як процверэзяцца, то нішчб.* В. Малешава.

ПРО'ЦЕГ *м.* Працягванне. *З процегом плачуць у Колках. Воны з процегом спеваюць.* Запясочча.

ПРОЦЕКЦІ' *зак.* Працячы. *Мед скорэй процечэ за водў.* Сямігосцічы.

ПРОЦЕ'РЦІ *зак.* Працерці. *Прочнуўса ужэ, вочы процёр.* Бярэжцы.

ПРО'ЦЕРЭБ *м.* Расцяроб. *Пашоў на процерэб косіць.* М. Малешава.

ПРОЦЕРЭБІ'ЦЬ *зак.* 1. Працерабіць. *Процерэбілі лес, а була така гушча.* Альпень. 2 *перан.* Прагуляць (пра грошы). *Шо заробіў, тэ й процерэбіў* (прымаўка). Хачэнь.

ПРО'ЦІ, ПРО'ЦІЎ *прыназ.* 1. Насупраць. *Кáжны косіць проці свого рэза.* Хачэнь. 2. Напярэдадні. *Проціў велікодня кіно було бесплатно.* Запясочча. *У суботу проціў недзелі до дванаццаці часоў седзімо.* В. Малешава. 3. На-

супраць руху. *Рыба бежыць на нэрост проці воды.* Мачуль. *Мой дзядзько вуйдзе проціў мене і поможэ несці.* Запясочча. 4. Да, к, у бок, у кірунку. *А вон проціў ее і кажэ.* Луткі. *Ржэ проці жэрэб'яці, шоб воно бегло.* Запясочча. *Пастух з рога зробіць дудку і трубіць проціў корову́.* Верасніца. *Проці ягод едзе.* Бярэжцы. *Іду проці ве́чок.* Запясочча. *Ужэ седзіць гета баба да проці той молодой кажэ.* Хачэнь. 5. У параўнанні. *Ганна і Наталка старцэ́ проці іх.* Сямігосцічы. *Здаровецкая проціў цебе дзеўка.* М. Малешава.

ПРОЦІ'ВІЦЦА *незак.* Працівіцца. *Не хоцеў нічого робіць, увесь час процівіўса.* М. Малешава.

ПРОЦІРА'ЦЬ *незак.* 1. Церці. *Як беруць пробу, процірають лён у руках.* М. Малешава. 2. Выціраць. *Ранняя птушка носік процірае, а позняя вочкі продзірае* (прыказка). Запясочча.

ПРОЦІРО'ЖНО *прысл.* Насуперак, наперакор. *На мацер проціроэюно не пойдзеш.* Сямігосцічы.

ПРОЦІЎНО'ТА *ж.* Упіра. *Такі проціўнота геты Навум!* Цераблічы.

ПРОЦІ'ЎНЫ *прым.* 1. Супрацьлеглы. Кароцічы. 2. Упарты. *Е і жонка проціўна. Ее утопі, а вона церэз воду́ дулі дае.* В. Малешава. *Шо то ты такі проціўны, не хочэш навучыц молодых ободы́ гнуц?* Тураў.

ПРО'ЦІЎНЯ *ж.* Пласт вашчыны з мёдам у вуллі, які вісіць тарцом да лятка. Запясочча.

ПРОЦУ'ДЗІЦЬ *зак. экспр.* Прапіць. *Вон процудзіў усе грошы, буў ек земля п'яны.* Верасніца.

ПРОЦУ'ПІЦЬ *зак.* Праняць, прабраць да здранцвення. *Процупіў мороз добрэ!* Аздамічы.

ПРО'ЦЬМА 1 *прысл.* Поўнасцю, цалкам. *Про́цьмо усе жжалі, змелі і нема нічого.* Запясочча. 2 *ж.* Процьма. *У нашом лесі лосёў розвелосо процьма, гуляюць собе, чоловека не бояцца.* М. Малешава.

ПРОЦЭ'ДЖВАЦЬ *незак.* Працэджваць. *Кажна жонка процэджвае молоко.* Верасніца.

ПРОЦЭДЗІ'ЦЬ *зак.* Працадзіць. *Каліны осо́бно вараць, потом процэ́дзяць і добавяць мукі.* Сямігосцічы.

ПРОЦЯ'ГВАЦЬ, ПРОЦЯ'ГАЦЬ *незак.* 1. Цягнуць. *Вельмо доўго песню процягваць.* В. Малешава. 2. Цягнуцца. *Огород процягвае да́лей так.* Луткі. *Гэтак скрозь процягае трам.* Чэрнічы.

ПРОЦЯ'ЖНЫ *прым.* Падоўжны, доўгі. *Лава була процяжна і проціўна.* Верасніца.

ПРОЧ *прыназ.* Апрача. *За месец не будзе ніводного яблука, проч екого зімо́вого, а то ўсе осыплюцца.* Луткі.

ПРОЧАЎРЭ'ЦЬ *зак.* Прабыць на спякоце. *Цэлы дзень прочаўрэ́ла голодна.* Запясочча.

ПРОЧА'ХЦІ *зак.* Прасохнуць, падсохнуць. *Дождж лыоць і льюць, цяпер той дорозі до зімý не прочахці.* Верасніца.

ПРОЧВА'РА *ж.* Пачвара, страшыдла. *Ідзі, прочвара ты, наложы хустку!* Альпень.

ПРОЧНУ'ЦЦА *зак.* Прачнуцца, апрытомнець. *Прочнуласа, бачу, мене отхайваюць, оцціраюць.* Хотамель.

ПРОЧО'МАЦЦА *зак.* Прачухацца. *А вон там прочомаўса і сюды прышоў после п'янкі.* Запясочча.

ПРОЧУ'ТОК *м.* △ Б е з п р о ч у́ т к у. Без просыпу. *Хлопец у мене буў да спаў без прочутку.* Хачэнь.

ПРОЧУХА'НЕЦ *м.* Прачуханка. *Тобе прочуханца дам, ек подлогу не помула.* Старажоўцы.

ПРОЧУХА'ЦЦА, ПРОЧЫХА'ЦЦА *незак.* Ачухвацца. *Вон ніколі не прочуха́ецца, п'е, а робіць не ро́біць.* Запясочча. *Не прочухаецца, спіць мой чоловек, я ўжэ і сне́данье поварыла.* М. Малешава. *От заведзецца піць, шчо не прочыха́ецца.* Цераблічы.

ПРОЧЫНА'ЦЦА *незак.* Прачынацца. *Прочынайса, сынок, трэ ўжэ корову гнаць на пашу.* Верасніца.

ПРОЧЫ'НЕНЫ *дзеепрым.* Прыадчынены. *Дзверы прочынены, а кошка не йдзе на двор.* Луткі.

ПРОЧЫНІ'ЦЬ *зак.* Прыадчыніць. *Прочыню окно трошкі да позіраю.* Луткі. *Колі ва́жко, то прочыніце окно.* В. Малешава.

ПРОЧЫТА'ЦЬ *зак.* Прачытаць. *А воны прочіталі тэ пісьмо.* Бярэжцы.

ПРОША'К *м.* Жабрак. Запясочча.

ПРО'ШЛЫ *прым.* Прошлы, мінулы. *Прошлого году возілі горшчае́ глечыкі і гладышкі для молока.* Сямігосцічы.

ПРО'ШМА *прысл.* △ П р о́ ш м а п р о с і ц ь. Настойліва зваць. *Прошма прошу Гапу дополоць.* Бярэжцы.

ПРОШМУ'ЛЯЦЦА *зак.* Працерціся ад шморгання. *Прошмуля́ецца однэе сцеге́нцэ ніту, то ёго́ прыробліваюць.* М. Малешава.

ПРОШЧАЎЛЁНЫ *дзеепрым.* Абрызглы, кіславаты. *Прошчаўлёнэ молоко — і не кіслэ і не соло́дкэ.* Рамель.

ПРОШЫ'ЦЦА *зак.* Праціснуцца. *Кустоў навалом: ні прошыцца, ні пробіцца.* Верасніца.

ПРОЯ́ВА *ж.* 1. Праява. *Побач, от проява і ў магнітофоне говорацъ!* Хачэнь. 2. Прайдоха, штукар. Аздамічы.

ПРОЯВІ́ЦЦА *зак.* Праявіцца. *Проевілосо червоно просо у нас.* Хотамель.

ПРУГ *м.* 1. Самы край палатна. Верасніца. 2 *мн. Пругі.* Прылада для напружвання палатна пры тканні. *Трэ роспінаць краé полотна пругамі.* Запясочча. 3. Ліштвы ў бёрдзе для замацавання трысцінак. *Пругі е ў бердзе.* Аздамічы.

ПРУГЛІ́ЦЬ *незак.* Спружыніць. *Пругло пругліць, і піла не гнецца.* Аздамічы.

ПРУГЛО́ *н.* 1. Дужка паміж ручкамі ў папярочнай піле. Аздамічы. 2. Прыстасаванне для лоўлі дзікіх качак. Запясочча. △ У п а́ с ц і у п р у г л о́. Трапіць у непрыемнасць, заблытацца. Альпень.

*Пруглом* лавілі дзікіх качараў. На вадаёме ўбівалі кол, які абстаўлялі галінкамі лазы. Атрымлівалася як бы будка з уваходам. Да кала прывязвалі на вяровачцы за нагу падсадную качку, якая мела магчымасць пасядзець на будцы, паплаваць. Пры небяспецы, калі нападаў коршак, качка магла схавацца ў гэту будку. Над уваходам у будку падвешвалася сіло з *пруглом.* Як толькі качар праплываў праз уваход, ён чапляўся за наведзенае пругло. Яно паднімалася і зацягвала пятлю на шыі ў качара. Качар павісаў.

ПРУ́ДКІ́, ПРУ́ТКІ *прым.* 1. Пруткі. *Солома шчо чэрэт пруткá.* Альшаны. *Шчэціна пру́ткая на карку у свіньі.* М. Малешава. 2. Прыткі, скоры, хуткі. *Молоды прудкі́, здорову, а стары́ важкі.* Луткі. *Горностай — зверок прудкі.* Аздамічы. *Кожу́шок вельмі пру́дкі, над ёгó нема нігоднае рыбіні прудчэ́йшэе.* Старажоўцы. *Памянш.* п р у ц е́ н ь к і. *Вона такая пруценькая дзевочка, а зубу шчэ не ростуць.* М. Малешава.

ПРУ́ДКО, ПРУ́ТКО *прысл.* Прытка, скора, хутка. *Вона ж прудко вельмі бежыць.* Дварэц.

ПРУДО́К *м.* Прыткі, скоры чалавек. Аздамічы.

ПРУЖЫ́НА *ж.* Прыстасаванне для лоўлі дзікіх качак і звяроў. *І на свінье пінaлі пружыну.* Цераблічы.

ПРУС *м.* Прусак, прус. *Прусоў було, шчо не можно було есці — у той харч падалі.* Сямігосцічы. *Як прус, так і ўдод — одзін іх род* (прымаўка). В. Малешава. △ У п р у с ы́. Дзіцячая гульня. В. Малешава.

ПРУСА́К *м.* Тое ж. *Колісь як везуць мертвеца, то*

*прусакоў у могілу кідалі, шоб воны зышлі з хаты.* Старажоўцы.

ПРУТ м. 1. Адзін рад саломы на страсе. *Стрэха мае п'яць прутоў, шэсць.* Запясочча. 2. Тонкая жэрдка, якой прыціскаюць рад саломы пры крыцці страхі. *Шэсць прутоў ідзе на одзін бок — шоб вéцёр не сорваў солому.* Дварэц. 3. Каркас, стрыжань у касе. Бярэжцы. 4 *мн.* Пруцікі. Узор на палатне. Цераблічы. △ Кры́ць под пру́т. Пакрываць страху, прыціскаючы салому жэрдкамі. Луткі. Пру́том станові́цца. Выпроствацца, выпручвацца. *От крычыць, аж прутом станóвіцца.* Бярэжцы.

ПРУТНЕ'ЦЬ *незак.* Пруцянець, карчанець. *Укінь у коросіну — прутнее, не ворушыцца той жук у ём.* Запясочча.

ПРУТО'К *м.* Кіёк у ніце. Аздамічы. Пруток, на якім трымаецца цэўка ў чаўнаку. Бярэжцы. Кіёк у заднім навоі ў кроснах. *Пражу кроснаў зажымаюць прутком і наматваюць на пражнэ вороціло.* М. Малешава. *Памянш.* прутóчок. *Пруточок дотыкальны ў пражным вороціле е.* Хотамель.

ПРЫ *прыназ.* 1. Пры, каля. *Хата наша пры дорозі.* Хотамель. *Пры печы буў стоўп.* Чэрнічы. *Дзіка́ пры гушчы воўкі не возьмуць.* Мачуль. *Днём пры ём буў хлопец.* Луткі. *Ганіць чоловека пры народзі.* М. Малешава. *У мене копéечкі нема пры душэ.* Старажоўцы. 2. Пры, паўз. *Груд пры землé косіць трэбо.* Хачэнь. *Мой сад згорэў пры земле.* Верасніца. *Пры лёдў подрэзвалі па́лі.* Цераблічы. 3. Пры, у час. *Цэ́ркоў пры поляках згорэла.* Дварэц. *Гэто ужэ пры колхозу було.* Сямігосцічы. *Пры моіх оча́х усе зробіў.* Там жа. △ Дзéнь пры дні́. Штодня, заўсёды. *Седзі дзень пры дні — зробіцца моркотно.* Мачуль. Не пры ха́це ка́зано. Засцерагальны выраз. Сямігосцічы.

ПРЫБА'ВІЦЬ *зак.* Прывабіць. *Прыбавіў дзеўку до себе, бра?* Луткі.

ПРЫБАРЫШЫ'ЦЦА *зак.* Прысуседзіцца. *Вельмі цесно ты ко мне прыбарышыўсо.* Аздамічы.

ПРЫБЕ'ГЦІ *зак.* Прыбегчы, хутка прыйсці. *Так трэбо жыць, як момент прыбежыць* (прымаўка). М. Малешава.

ПРЫБЕДЗІ'ЦЬ *зак.* Зрабіць няшчасным, збедніць. *Да горэнько ёгó й так прыбедзіло — строіў трактора да спіну перэбіло.* Сямурадцы.

ПРЫБЕ'ЖЫШЧЭ *н.* Прыстанішча, прытулак. *Нема*

*нідзе прыбежышча — і отсюль відно і оттуль відно.* Старажоўцы.

ПРЫБЕ'РДЗІЦЦА *зак.* Здацца. *Там ім нешчо прыбердзілосо.* Запясочча.

ПРЫБІВА'ЦЬ *незак.* Прыбіваць. *Прыбіваць дзержанье ў вілках вон не варт.* Кароцічы. *Чоўніком закідаемо, а набілкамі прыбіваемо.* Хотамель.

ПРЫБІРА'ЦЬ *незак.* Прыбіраць. *Трэбо прыбіраць у хаці.* Хотамель. *Дзялянку лесу прыбіралі.* Кароцічы.

ПРЫБІ'ЦЦА *зак.* Прыбіцца, дабрацца. *Пока прыбіўса додому, то сцемнело.* В. Малешава.

ПРЫБІ'ЦЬ *зак.* Падбіць. *Колісь у нас чоловек прыбіў бўська, то вон прышоў у двор, прыдыбаў.* Хачэнь.

ПРЫБЛУ'ДА *ж.* Прыблуда. *Прыблуда чортова, хай бу то ты к толку прыбіўса!* Верасніца.

ПРЫБЛУ'ДНЫ *прым.* Прыблудны. *Цылы дзень з некім собакою прыблудным гуляе — за ўрокі не берэцца.* Верасніца.

ПРЫБЛУКА'ЦЦА *зак.* Прыблукаць. *Вон усе роўно прыблукаецца ік тобе.* М. Малешава.

ПРЫБЛУ'ТАЦЦА *зак.* Прыблукаць, прыблытацца. *Вона неяк прыблуталаса сюды да жыве.* Хачэнь.

ПРЫБОЛО'ТУХА *ж.* Каўпак кольчаты. Запясочча.

ПРЫБОЛЬШЫ'ЦЦА *зак.* Прыбавіцца. *Быццам як ты прыбрэшаш, то тобе прыбольшыцца?* Кароцічы.

ПРЫ'БОЧ *прысл.* Збоку. *Наклалі посерэдзіне огню, а з одного боку так прыбоч я собе прослала, а вона з другого. Да полéглі, да позасыналі.* Хачэнь.

ПРЫБРА'ЦЦА *зак.* 1. Сабрацца, падрыхтавацца. *Пока ты прыбрайса стрэляць, то сóма нема.* В. Малешава. 2. Ачысціцца. *Ломач'е прыберэцца да будзе двор чысты.* Сямурадцы.

ПРЫБРА'ЦЬ *зак.* 1. Прыбраць. *Трэбо прыбраць у хаці.* Луткі. 2. Прыбраць, апрануць. *А ім немá нéколі за роботой свого дзіцяці прыбраць.* М. Малешава.

ПРЫБРЭХА'ЦЬ *зак.* Прылгаць. *Вона прыбрэша й тэ, чого й у свеці не було.* Верасніца.

ПРЫБУВА'ЦЬ *незак.* Прыбаўляцца (пра ваду, вагу і інш.). *Да дзіця стало прыбуваць, да прыбуваць, дáле поправілосо.* М. Малешава. *Як у сáму веснў прыбувае, то усе у нас змувае вода.* Рыдча.

ПРЫБУ'ЛЕЦ *м.* Прыезджы. Запясочча.

ПРЫ'БУЛЬ *ж.* Прыбытак. Запясочча.

ПРЫБУ′РКАЦЦА *зак. экспр.* Прыйсці. *Ко мне шчэ чоловек дзесець прыбуркалосо.* Старажоўцы.

ПРЫБУ′РЫЦЦА *зак.* Знайсці прыстанішча. *А дзе ж ты прыбурыўса?* Дварэц.

ПРЫБУ′ТКА *ж.* Вада, якая прыбывае. *Прібутка ідзе.* Альшаны.

ПРЫБУТНЫ′ *прым.* Паводкавы. *Була веліка прыбутна вода весной.* Запясочча. *У чысты чэцвéр у нас бегуць до сонца муцца ў прыбутной водзе* (звычай). Лутκі.

ПРЫБУ′ТОК *м.* Прыбытак. *Нема ў мене прыбутку, бо я негодзяшча.* Запясочча. *Ёмý шо не з'есць, то усе ідзе ў прыбуток.* Сямурадцы. *У нас прыбуток — кошка окоцілаca.* Луткі. *Памянш.* п р ы б ý т о ч о к. Сямурадцы.

ПРЫБУ′ЦЬ *зак.* Прыбыць, павялічыцца. *Як прыбудзе вода на спаса, то будзе до крышчэ́нья.* В. Малешава.

ПРЫВА′БІЦЬ *зак.* Прывабіць. *Вот прывабіла хлопца, шо і оторваць не можно.* М. Малешава.

ПРЫВА′Л *м.* Прывал. △Л е ж á ц ь у п р ы в á л. Доўга вылежвацца. *А жонкі лежаць у прывал!* Луткі.

ПРЫВАЛІ′ЦЬ *зак.* Прываліць. *Худобу прываліло дзерэво.* Луткі.

ПРЫ′ВАЛОК, ПРЫ′ВЕ′ЛОК *м.* Прымурак. *Збоку коло печы е пры́валок, на прывалок наступіў дай полез на печ.* Цераблічы. *Дзіця прыўяжэ на пры́валку ручніком ці волокою і седзіць воно.* Сямігосцічы. *Пры́велок, шо лезуць на печ, доска коло печы.* Запясочча. *Прывéлок.* Там жа.

ПРЫВА′РВАЦЬ *незак.* Прыпарваць. *Прыварвае перэ́д дожджэ́м.* Сямігосцічы.

ПРЫ′ВА′РОК *м.* Прыварак. *Була рыба й хлеб, а пры́варку не було.* Верасніца. *До хлеба трэба прывáрок.* Луткі. *Усе крупнóе, усе мучное— гэто прывáрок.* М. Малешава.

ПРЫВАРЫ′ЦЬ *зак.* 1. Зварыць, прыгатаваць. *Чоловека маеш, то трэбо і прыварыць, бо ек сама, то молока екого вып'еш і пошла.* Хачэнь. *Прывары шчо, а то одны буракі.* Альпень. 2 *перан.* Прывааражыць, прычараваць. *Нешчо прыварылі чоловеку.* Аздамічы.

ПРЫВЕЗА′ЦЦА *зак.* Прывязацца. *Чого ты ко мне прывезайса?* Запясочча.

ПРЫВЕЗА′ЦЬ *зак.* Прывязаць. *Прывезаць корову трэбо до плоту.* Бярэжцы.

ПРЫ′ВЕЗКА *ж.* Прывязка. *У цэпа дзве прівескі е.* Хотамель.

ПРЫВЕ′ЗЦІ *зак.* Прывезці. *Ужэ прыехаў у госці і прыўёз госцінца сестры.* Верасніца. *Дай волы прывёзці дроў!* Бярэжцы.

ПРЫВЕРНЯ′ЦЬ *незак.* Прывальваць. *Прысцілаў сошнік землю, прыверняў на одну сторону.* В. Малешава.

ПРЫВЕ′РОВАЦЬ *зак. экспр.* Прычапіцца, прывязацца, прыліпнуць. *Чо ты прыверовала к этой місі?!* Верасніца.

ПРЫВЕ′РШВАЦЬ *незак.* Вяршыць (стог, капу). Сямігосцічы.

ПРЫВЕ′С *м.* Прыбаўленне ў масе. *Важыла целят? Трохі е прывесу?* Бярэжцы.

ПРЫВЕ′СЦІ *зак.* 1. Прывесці. *Шустра була корова, здоровенна, ледзь прывелі.* М. Малешава. 2. Нарадзіць. *Я одзінаццаць штук дзецей прывелá.* В. Малешава. *Козы по дзве козеняці прывелі.* Запясочча.

ПРЫВІ′ВАНКА *ж.* Дзве ручайкі пражы на адным верацяне. Мачуль.

ПРЫВІВА′ЦЬ *незак.* Звіваць. *Прывітўха лён прывівае і муроґ прывівае.* Хачэнь.

ПРЫВІЖА′ЦЦА *незак.* Здавацца. *Як дзе поедзеце, то будзе прывіжацца гэта дзеўка.* Цераблічы.

ПРЫВІ′ТВАЦЬ *незак.* Вітаць. *Прывітваюць молодых у сенех.* Луткі. Дарыць на вяселлі. *Невестку на весельі прывітваюць.* Аздамічы.

ПРЫВІ′ТУ′ХА *ж.* Травяністая расліна бярозка. *Прывітўха на олешнік уецца, коровы едзяць ее.* Луткі. *У нас прывітўха, а селяне зовуць березка.* Дварэц. *Прывітуха.* Луткі.

ПРЫВІ′ЦІ′ЦА *ж.* Тое ж. *Прывіціца по лну, по жыту, по картоплях росце.* М. Малешава. *Прывіціцу свінья едзяць добрэ і корову.* Луткі.

ПРЫВІ′ЦЦА *зак.* Звіцца, прыжыцца. *Багном тво- раць вулей, шчоб пчолы прывілíса.* Запясочча.

ПРЫВО′Д *м.* △ Д á ц ь п р ы в ó д. Вывесці ў жыццё (пра дзяцей). Запясочча.

ПРЫВО′ЗІ′ЦЬ *незак.* Прывозіць. *Горшчаé прывозілі горшкі з бору* (тут — з-за Прыпяці). Сямігосцічы.

ПРЫВОЛА′ЦЬ *зак.* Прыцягнуць сілай. *Приволáла его сюды і качáлкамі давай біць, то вон уцёк у Сібéр.* М. Малешава.

ПРЫВОЛО′КА *ж.* Набрыдзь. *Ой, прыволока! Прыдўбійса да командуе!* Аздамічы. *Вона прыволока.* Крэмна.

ПРЫВО′ЛЬЕ *н.* Прыволле. *Вода на дворэ — пры-*

*волье, колі хоч беру!* Луткі. *Коб було прыволье дзе пасці.* М. Малешава.

ПРЫВУ′ДРАЦЦА *зак.* Прыблытацца, прывалачыся. *Шляхта знекуль прывудраласа, прыблуталаса.* Хачэнь.

ПРЫВУКА′ЦЬ *незак.* Прывыкаць. *Прывукай на на́шые харчы.* В. Малешава.

ПРЫВУ′КНУЦЬ *зак.* Прывыкнуць. *Дзе гусі прывуклі, то і не отведзеш оттуля.* Пагост.

ПРЫВУ′КШЫ *прым.* Прывычны. *Ужэ мы екіе прывукшые, абы вода, але не піцьме воду з болота.* Мачуль.

ПРЫГА′РА *ж.* Прыгарка. *Прыгара — ек кашу варыш, то прыгорыць.* Кароцічы. *Як пэч добра ні натопіцца, як зыр малы́, то хлеб росцечэцца да і робяцца прыгары.* Мачуль.

ПРЫГА′РОК *м.* Тое ж. Альпень.

ПРЫ′ГАТКА *ж.* Гаток з праходам для рыбалоўнай снасці. Пагост.

ПРЫГА′ЦЬ *незак.* Прагна есці. *Прігáй, Віце, боршч, покуль не похолóдаў.* Пагост.

ПРЫГЛЕДА′ЦЬ *незак.* Падглядаць (пчол). *Полез на хвою прыгледаць пчол.* В. Малешава.

ПРЫГЛЕ′ДЗЕЦЦА *зак.* Прыгледзецца. *Я так прыгледзеласа — огонь блішчыць.* Бярэжцы.

ПРЫГЛЕ′ДЗЕЦЬ *зак.* Падгледзець (пчол). *Прыгледзець вулья́ трэба.* Альшаны.

ПРЫГЛУШЫ′ЦЬ *зак.* Прыглушыць. *Як прыглушыло громом, то однэ спасенье — у зéмлю закопвалі.* Хачэнь.

ПРЫГНА′ЦЬ *зак.* Прыгнаць. *Ідзі прыгені корову с пашы!* М. Малешава. *Прыгналі сюды лес на хату, така вода була.* Дварэц.

ПРЫГОВО′РВАЦЬ *незак.* Прыгаворваць. *Ходзілі некол і нішчые по хатáх і прыговорвалі: подарэ́це, не судзéце, і дайце не лайце, не давайце картóплёў, бо вáжко носіць, не давайце мучыцкі, бо вýпуліцца, не давайце хлебца, бо вýкрышыцца, а дайце тэе, шо ў горло бежыць самэ́е.* Старажоўцы.

ПРЫ′ГОВО′РКА *ж.* Прыгаворка, прымаўка. *Е така прыговóрка: сухая ложка рот дзерэ.* Бярэжцы. *Такая пры́говорка е: кладу на колок, шоб було й на вуток!* М. Малешава.

ПРЫГОВОРЫ′ЦЦА *зак.* Падлашчыцца, паддобрыцца ў размовах. *Зара розговоруса я к тобе, дарма шчо посвáраные.* Бярэжцы.

ПРЫГО'ДА *ж.* Прыгода, здарэнне. *Така прыгода с сыном — почавіло машыною.* Хотамель.

ПРЫГОДЗІ'ЦЦА *зак.* Спатрэбіцца. *Тут родзіласа, тут прыгодзіласа, тут і жэніліса.* Старажоўцы.

ПРЫГОДЗІ'ЦЬ *зак.* Даць, паспрыяць. *Прыгодзі божэ на заўтра тожэ!* (прымаўка). Аздамічы.

ПРЫГО'ЖЫ *прым.* Прыгожы, прыемны. *Поўёз бы онь под Перэроў, то там бы ву побачылі, якіе прыгожые места скрозь.* Пагост. *Прыгожы дух ідзе од гэтого квёту.* Запясочча.

ПРЫГО'ЖЭ *прысл.* Прыгожа, хараша. *Прыгожэ, прыгожэ ў ёго хаці!* В. Малешава. *Як прыгожа пахнуць вашы краскі!* Там жа.

ПРЫГОЛО'ВАЧ *м.* Канец агарода, сядзібы. *Трэба будзе у прыголовачы отгородзіцца от Цішка.* Тураў. *Прыголовач — это дзе коні заворачваюцца, як орэш.* Старажоўцы.

ПРЫГОЛО'ШВАЦЬ *незак.* Галасіць. *Тая жонка плачэ і прыголошвае по своём бацьку.* Бярэжцы.

ПРЫГОРНУ'ЦЬ *зак.* Прыгарнуць, прытуліць. *Дзіця понатурыцца, не можно прыгорнуць.* Запясочча.

ПРЫГО'РТАЦЬ *незак.* Гарнуць. *Кажнэ свое шкодуе, прыгортае ўсе.* Кароцічы.

ПРЫ'ГОРШНЯ *ж.* Прыгаршчы. *Прыгоршню пшона наберы да ціплетам вусып.* Пагост. *Цётка дала нам прыгоршню сёмечок.* Верасніца.

ПРЫ'ГОРШЧЫ *мн.* Тое ж. *У ёго прыгоршчы веліке, як зачэрэпіць!* Кароцічы. *Своя сем'я, то і ў прыгоршчах родна* (прымаўка). Старажоўцы.

ПРЫГРЭБЦІ' *зак.* Прыгрэбці, закапаць (нябожчыка). *Мо прыгрэблі недзе ёго, бо так, то нехто ёго натрапіў бі.* В. Малешава.

ПРЫГУБІ'ЦЬ *зак.* Прывесці да страт. *Война прыгубіла мене, згорэло усе і осталаса, ек пень.* Запясочча.

ПРЫДАВА'ЦЦА *незак.* 1. Удавацца. *Добрэ мясо прыдаецца ў коруку.* В. Малешава. 2. Здавацца, уяўляцца. *Прыдалоса мне, шо на белой кобулі, а жонкі ніякой не бачу.* Пагост.

ПРЫДА'НЫЕ *прым.* Вясельныя госці з боку маладой. *Завезе молоды к собе молоду да после едзе по ее бацька й мацер, везе іх, а за імі іх род ідзе ці едзе, прыданые кажуць.* Пагост. *Ек везе молоды молоду, за ею небагато і ее роду едзе рушнікі вешаць. А после едзе за ее*

*бацька і мацер, везе за імі і род іх, багато ўжэ ёго, о ето прыданые.* Там жа.

ПРЫДА'НЭ *прым.* Пасаг. *Прыданэ ў скрыні ці бодні везуць, поверх брат ці сестра молодо́е садзіцца.* Пагост.

ПРЫДА'ТНЫ *прым.* Прыдатны. *Я прыдатна на говорку.* М. Малешава.

ПРЫДА'ТОК *м.* Прыдатак. *Вон узяў ту жонку з прыдатком* (з дзіцем). Хачэнь.

ПРЫДА'ЦЦА *зак.* 1. Удацца, урадзіцца. *Это ўжэ як хто прыдаўса на песні.* М. Малешава. *Моя жонка Ва́са до хлеба прыдала́са, скорку рэж, а мекіша ложкою еж* (жарт). Сямігосцічы. 2. Паказацца, здацца. *Воны прыдаліса мне хорошые.* Мачуль.

ПРЫДА'ЦЬ *зак.* Зрабіць. *Сам собе смерць прыдаў.* Луткі.

ПРЫДА'ЧА *ж.* Прыдатак. *Половіну прыдачы давалі за волы.* В. Малешава. *Прыдачу дае бацько на веселы.* Тураў.

ПРЫДБА'ЦЬ *зак.* 1. Прыдбаць. *Недзе волочыўса і нічого не прыдбаў!* Дварэц. 2. Нажыць. *Бацько бойструка́ прыдбаў другой жонцы.* Хачэнь.

ПРЫДЗЕ'РЖВАЦЦА *незак.* Прытрымлівацца, стрымлівацца. *Ідзе й прыдзержваецца корова, з ногі на ногу йдзе.* Дварэц. *Вона прыдзержваецца, не п'е.* Сямурадцы.

ПРЫДЗЕ'РЦІ *зак.* Прыараць цаліны. *Прыдзёр коло саду соток дваццаць!* В. Малешава.

ПРЫДЗЕ'РЦІСА *зак.* Прыдрацца, прычапіцца. *Хоць бы і прышоў да не прыдзерса!* Луткі.

ПРЫДЗЁР *м.* Дадатак прыаранай цаліны. Аздамічы.

ПРЫДЗІРА'ЦЬ *незак.* 1. Прыворваць. *Да́йне поле, а да ёго́ прыдзіра́лі нове поле.* Кароцічы. 2. Выбіраць драчку. *Прыдзіраць драчку не варт вон.* Аздамічы.

ПРЫДРА'ЦЬ *зак.* Намеціць месца падгонкі бярвенняў драчкай. Аздамічы.

ПРЫДРЫ'ПАЦЬ *зак. экспр.* Прыдыбаць, прыйсці з цяжкасцю. *Ужэ домоў не прыдрыпае вона, бо стара́.* Запясочча.

ПРЫДРЭМА'ЦЬ *зак.* Прыдрамнуць. *А вон на слоні лёг да прыдрэмаў.* Кароцічы.

ПРЫДУБІ'ЦЦА *зак. экспр.* Прывалачыся. *Волоцуга прыдубіўса да командуе тут!* Аздамічы.

ПРЫДУ'БІЦЬ *зак.* Прывалачы. *Прыдубіў веройку да кажэ, очэпі.* Буразі.

ПРЫДУМЛЯ'ЦЬ *незак.* Прыдумляць. *Ек посцілі, то прыдумлялі коліся, шо строіць есці.* Хачэнь.

ПРЫДУ'РОК *м.* Прыдурак. *От ты шуляк, прыдурок!* Пагост.

ПРЫДУРЭ'Й *м.* Тое ж. *Погнаў прыдурэй чэргу.* Хачэнь.

ПРЫДУ'ХА *ж.* Замор. *Ек ріба подваліла под берог і пролізвае лёд, то кажуць, прідуха.* Запясочча.

ПРЫДУШЫ'ЦЬ *зак.* Прыдушыць, задушыць. *Я б ёгó за ноч прыдушыла да ослобоніла себе!* Старажоўцы.

ПРЫДЫ'БАЦЬ *зак.* Прыдыбаць, з цяжкасцю прыйсці. *А вона і оттуль прыдыбала.* Запясочча.

ПРЫЕДА'ЦЦА *незак.* Прыядацца. *З одной дзежкі да і хлеб прыедаецца* (прымаўка). Верасніца.

ПРЫЕЖДА'ЦЬ *незак.* Прыязджаць. *Ек прыеждаў Коля, то накосіў сена.* Хачэнь.

ПРЫЕ'МЧЫВЫ, ПРЫЁМЧЫВЫ *прым.* Гасцінны. *Это прыемчывы народ!* Запясочча. *Воны прыёмчывые людзі ў Хочэні.* Сямурадцы.

ПРЫЕ'ХАЦЬ *зак.* Прыехаць. *На тры дні прыехалі оддыхаць до бацька.* В. Малешава. *Кот морду муе, госці прыедуць* (прыкмета). Хільчыцы.

ПРЫЖА'РВАЦЬ *незак.* Падсмажваць, прыпякаць. *Прыжарваюць на огні уюноў на метцы.* Запясочча.

ПРЫЖА'РЫЦЦА *зак.* Падгарэць, падсмылець. *Прыжарылаcа просцілка на печэ.* Хачэнь.

ПРЫ'ЖКІ *прым.* Скакучы. *Блохі прыжкіе, прыгаюць добрэ.* В. Малешава.

ПРЫЖЫВІ'ЦЬ *зак.* 1. Прыціснуць, прыперці. *Струсенуў да прыжывіў к сцене цéсця.* Верасніца. 2 *перан.* Неадчэпна прыстаць. *Вона прыжывіла ёгó, ему ужэ дзевацца нема дзе, оддаў.* М. Малешава. *Цепер жэ ёгó прыжывіло, але сам боіцца, шоб умéрці.* Хачэнь.

ПРЫ'ЖЫЦЬ *незак.* Спружыніць. *Пружына прыжыць.* Альшаны.

ПРЫ'ЗБА, ПРЫ'ЗЬБА *ж.* Прызба. *Прізба з земле кругом була.* Хотамель. *Як хата на штандарах, то робяць прызьбу.* Аздамічы.

ПРЫЗВУЧА'ІЦЦА *зак.* Прызвычаіцца. *Кот прызвычаіўса спаць тут.* Хотамель.

ПРЫЗВУЧА'ЙКА *ж.* Звычка. *Нейкую прызвычайку узяў: вуйдзе голы навек.* Кароцічы.

ПРЫЗІРА'ЦЦА *незак.* Прыглядацца. *Прызіраюцца да дзёвочок, котора ека.* Хачэнь. *От я прызірайса, як рыба корміцца.* Старажоўцы. *Му прызіраемса, як молодой чўба роб'яць.* Цераблічы. Любавацца. *На холеру мне прызірацца да тое вуды!* Сямігосцічы. *Прызіраюцца троха, у які дзень почынаць жаць, косіць.* Дварэц.

ПРЫЗІРА'ЦЬ *незак.* 1. Паглядаць. *Еж, не прызірай на прысады!* Бярэжцы. 2. Назіраць, наглядаць, даглядаць. *Баба будзе прызіраць за дзіця́м.* Луткі.

ПРЫЗНАВА'ЦЦА *незак.* Прызнавацца. *Вон прызнаецца, шчо вон бацька ему.* Дварэц. *Розбагацёў, шчо і прызнавацца не хочэ, задаецца.* Луткі.

ПРЫЗНАВА'ЦЬ *незак.* 1. Заўважаць, прыкмячаць. *Прызнаюць, шо гэтыя пя́тра коло берэга запоўняцца водою, яка не будзе вода.* Дварэц. 2. Пазнаваць. *Я прызнаю трохі ее, тую дзеўку, по облі́ч'ю прызнаю, мо гэто Бронева?* Хачэнь.

ПРЫ'ЗНАК *м.* Прымета. *Як хто зробіў корові, то прызнакі відно́.* Луткі.

ПРЫЗНАХОРОВА'ЦЬ *зак.* Прычараваць. *Вона прызнахоруе, шоб жонку любіў.* Цераблічы.

ПРЫЗНА'ЦЦА *зак.* Прызнацца. *Не прызна́юцца, шо воны вўлея вудзерлі.* Хачэнь.

ПРЫЗНА'ЦЬ *зак.* Пазнаць, устанавіць. *От і не прызнаю, шчо гэто.* Чэрнічы. *Вона прызнала мене по мацеры.* Хачэнь. *Зврлі корчэ́ і не можно прызнаць тое месносці, дзе тэе урочышчэ Кроме́ц, Сіньгово.* Сямурадцы.

ПРЫЗО'РЫСТЫ *прым.* Падслепаваты, блізарукі. Сямурадцы.

ПРЫЗЫ'РЫЦЬ *зак.* 1. Прыпячы. *Горшчок прызырыло да бежыць церэз верх.* Хачэнь. 2 *перан.* Прыструніць. *Вона ёго́ так прызырыла, шо не цягаецца увечоры.* Запясочча.

ПРЫЙМЕ'ЦЬ *зак.* Магчы. *Ма́чуха бувае ло́ўка, чужые дзеці гледзіць, ек свое, а друга́ прыймела б, то поела б.* Сямурадцы.

ПРЫКАЗА'ЦЬ *зак.* 1. Сказануць. *Ён прыкажэ, то бокі рваць будуць.* М. Малешава. 2. Загадаць. *Мне маці прыказала гледзець хату.* Верасніца.

ПРЫКА'ЗВАЦЬ *незак.* 1. Прыгаворваць. *Дзеці посядуць кругом, а одзін стукае рукой, бегае ўкру́жкі і прыказвае: «Сем коп — одзін сноп».* Верасніца. *Прыказвалі дайжэ так: понаравіласа, як каша Максіму.* Аль-

шаны. 2. Загадваць. *Да усе той сестре пріказвае — гледзі, сестро!* Бярэжцы.

ПРЫ'КАЗКА *ж.* Прыказка. *Прыказка колісня: Ілья наробіць гнілья.* Старажоўцы. Прымаўка. *Здаліса на прыказкі: нехай гледзіць, шоб не порэзалі шкуру на прыўязкі.* Старажоўцы. Прыгаворка. *Маруся на прыказкі здатней за мацер: вона будзе говорыць і не засмеіцца.* Старажоўцы.

ПРЫ'КАНАВОК *м.* Бакавая канава. *Яна ў канаве, а ты ў прыканаўку будзеш косіць.* Бярэжцы. *О, я бачыла на прыканаўку, шчо зробіў бобер!* Хачэнь.

ПРЫКІ'ДАНЫ *дзеепрым.* Прыкіданы, прыкрыты. *Мелко прыкіданые картоплі рано узойдуць да жоўцёюць ужэ.* Дварэц.

ПРЫКІДА'ЦЦА *незак.* 1. Прыкідацца, прыставаць. *Прыкідаецца к ліцу абу-шчо.* Хачэнь. 2. Ставіцца з прыхільнасцю, хінуцца. *Людзі к Вам прыкідаюцца, то добрэ.* Луткі. *Як жыве хорошо ж жонкою, то і дзецям прыкідаецца.* Сямігосцічы.

ПРЫКІ'ДАЦЬ *зак.* Прыкапаць. *Яму землею прыкідалі.* Старажоўцы.

ПРЫКІ'ДЛІВУ *прым.* Прыветлівы. *Вона така ветлая дзеўчына, такá прыкідліва.* М. Малешава.

ПРЫКІ'ДНЫ *прым.* Тое ж. *Прыкідна, лоўка жонка.* Хачэнь.

ПРЫКІ'НУЦЦА *зак.* 1. Прыкінуцца (пра штосьці нядобрае). *Страшно, шчоб шо не прыкінулос.* Сямігосцічы. 2 *перан.* Прывязацца, прыхіліцца. *Да ты б, дочкó, до Івана прыкінулас, хороші вон хлопец.* Пагост.

ПРЫКІПЕ'ЦЬ *зак. экспр.* Прыкіпець, прыстаць. *Села й прыкіпела.* Хачэнь.

ПРЫКЛА'Д *м.* Казёл на вільчыку. *Прыкла́ды на вільчыку ложáем, шчоб солома не злятала.* Дварэц.

ПРЫКЛАДА'ЦЬ *незак.* Прыкладваць. *Глухý проківу прыкладалі к ране.* Любавічы.

ПРЫКЛА'ДЗІНА *ж.* Казёл на вільчыку. *З тоўстых жэрдзін робяць прыкладзіны: прокруцяць цэнтрыком і ўб'юць колóчка у дзірочку.* Верасніца.

ПРЫ'КЛА'ДНІК *м.* Тое ж. *Прыкладнікі погнілі на вільчыку.* Луткі.

ПРЫКЛА'СЦІ *зак.* Дадаць, прыдумаць. *У глухого не прыпадзе: не прычуе, то прыкладзе* (прымаўка). Бярэжцы.

ПРЫКЛЮЧА'ЦЦА *незак.* Здарацца. *Як прохолóдзісса, то й прыклю́чыцца ліхо.* Аздамічы.

ПРЫКМЕ'НЬ *ж.* Марыва. *Такая прыкмень, ек дух ідзе од постаці, ек полом'е.* Луткі.

ПРЫКМЕ'Т *м.* Прымета, знак. *Нема ніякого прыкмету, дзе мой буў сенокос.* Сямігосцічы.

ПРЫКМЕ'ТА *ж.* Тое ж. *Прыкмета е, ек вужы на дорогу вулезлі, то дождж цепер увольє.* В. Малешава. *Ек снег шыецца ў шчы́лечку, то отліга будзе — така прыкмета е.* Луткі. *Гэтых прыкметоў можно много назбірацъ.* Альшаны. *Прыкмету яку кладóм, мох які, назнáкуем межу на сенокосі.* Хачэнь. *То ўжэ як ідом туды мы, да ўжэ як негода яка, то ўжэ прымету яку кладом.* Там жа.

ПРЫКМЕ'ЦІЦЬ *зак.* Заўважыць. *Я ужэ прыкмеціла, шо так бывае.* М. Малешава. *Даўно прыкмеціў, хто ходзіць.* Аздамічы.

ПРЫКМЕЧА'ЦЬ *незак.* Заўважаць. *Прыкмечалі: перву дзень постá буў хорошы, сонцэ — показвало на весну; другі дзень буў хмурны, дождж — на лето; трэці дзень сухі, сонцэ — на осень.* Верасніца.

ПРЫКО'Л *м.* Прыкол. *Ночуе багато лодок коло гетых прыколоў.* Дварэц.

ПРЫКОЛО'ТА *ж.* Бульбяны суп, прыпраўлены мукой. *Прыколоты наеласа і пошла пáсці товар.* М. Малешава.

ПРЫКОЛОЦІ'ЦЬ *зак.* Прыправіць мукой. *Прыколоціла молодые крышаны, зробіла прыколоту з мукі.* М. Малешава.

ПРЫКОНЕ'ЧНІК *м.* Тонкі раменны кончык пугі. Запясочча.

ПРЫКО'РМВАЦЬ *незак.* Прыкормліваць. *Дома прыкóрмваём корóву, зелье рвом, буракі.* Дварэц.

ПРЫКОРХНУ'ЦЬ *зак.* Прыдрамаць. *Вон трошкі прыкорхнуў удзень.* М. Малешава.

ПРЫКОСЦІ'ЦЬ *зак.* Зрабіць дрэнным, слабым, нікчэмным. *Этой лес прыкосціў мене, шо прыкосціў, то прыкосціў.* Хачэнь.

ПРЫКРАДА'ЦЦА *незак.* Падкрадвацца. *Кот прыкрадаецца к мышэ.* Аздамічы.

ПРЫ'КРО *прысл.* 1. Крута, абрывіста. *Там вельмі прыкро з'езджаць на грэблю.* Тураў. 2. Прыкра, непрыемна. *Солодке, аж прыкро.* Аздамічы.

ПРЫ'КРОСЦЬ *ж.* 1. Круцізна, абрывістасць. *Там прыкра рэка така, прыкросць така, берэг прыкры.* Два-

рэц. 2. Прыкрасць, непрыемнасць. *А вон узяў другую, быдто ёй на прыкросць зробіў.* Цераблічы.

ПРЫ'КРЫ *прым.* 1. Круты, абрывісты. *Прыкры берэг, вусокі да такі праму́.* Запясочча. *Прыкры берэг, бы іс сцены́.* Аздамічы. 2. Прыкры, непрыемны. *Нам вон прыкры стаў своею мовою.* Лутні.

ПРЫКРЭПІ'ЦЬ *зак.* Прымацаваць. *Хведор хочэ прыкрэпіць прыкла́ды на вільчыку до жэрдзіны.* М. Малешава.

ПРЫКРЭ'ПЛЕНЫ *дзеепрым.* Прымацаваны. *У ліну́ луска сільно прыкрэплена.* В. Малешава.

ПРЫКРЭПЛЯ'ЦЬ *незак.* Прымацоўваць. *Колісь гужву круцілі прыкрэпляць лес до жоросці.* Цераблічы.

ПРЫКРЭ'Ц *м.* Круты бераг. *У том месці рэкі такі прыкрэц!* Хачэнь. *Прыкрэц — это вельмі глыбоко, да берэг высокі.* Пагост.

ПРЫКУБЕ'ШЫЦЦА *зак.* Стаміцца корпаючыся. *А я прыкубешылаcа у хаці.* Дварэц.

ПРЫКУМЕ'ХАЦЬ *зак.* Прыдумаць. *Шо то му на вечэру прыкуме́хаём есці?* Дварэц.

ПРЫКУПІ'ЦЬ *зак.* Прыкупіць. *Красоты прыкупімо, а розуму не ўложым* (прымаўка). Старажоўцы.

ПРЫКУСІ'ЦЬ *зак.* Прыкусіць, заціснуць зубамі. *Прыкусі пальца: не можно показваць на месяц* (павер'е). Сямігосцічы.

ПРЫКУ'СКА ж. △ Н е ў п р ы к у́ с к у. Не даспадобы. *А мацеры гэто не ў прыкуску, не наравіцца.* М. Малешава.

ПРЫЛА'ВОК *м.* Выступ каля прыпечка. *Без прылаўка трудно мало́му злезці на прыпечок.* Сямігосцічы.

ПРЫЛА'ДЖВАЦЦА *незак.* Ладзіцца. *Нешчо прыладжваюцца варыць.* Запясочча.

ПРЫЛА'ПАЦЬ *зак.* Прытупаць. *Пока той прылапаў, то кот і прышоў, поперэ́дзіў ёго́.* Лутні.

ПРЫЛА'ПІЦЬ *зак.* Прылатаць. *Узяла ну́чу да прылапіла до боку.* Бярэжцы.

ПРЫЛА'ЦІЦЬ *зак.* Наслаць латы на кроквы. *Хату прылацілі — латы поверх кроквау прыбілі.* Сямігосцічы.

ПРЫЛА'ЧВАЦЬ *незак.* Насцілаць латы на кроквы. *Трэбо прылачваць ту хату, то трэбо гвоздзі.* Мачуль.

ПРЫЛЕЖА'ЦЬ *зак.* Прыляжаць. *Бувае, корова прылежыц я́пу.* Тураў.

ПРЫЛЕ'ЗЦІ *зак.* Улезці. *Прылезла ў хату кошка.* Сямігосцічы.

ПРЫЛЕПІ'ЦЬ *зак. перан.* Далучыць. *Цепер Рычоў прылепілі к Старожоўцам.* Старажоўцы.

ПРЫЛІ'КА ж. △ Для прылікі. Для выгляду. *Я беру хлеба для прылікі.* Старажоўцы.

ПРЫЛІ'ПНУЦЬ *зак.* Прыліпнуць. *Лісце прыліпне до хлеба.* Сямігосцічы.

ПРЫЛОЖЫ'ЦЬ *зак.* Прыкласці. *Прыложыла мазь, то як сем баб отшэптало.* Запясочча. *Мыш пчолам здоройя не прыложыць.* Мачуль. △ Прыложы́ць дух. Даццa ў знакі. *Немец у войну до́брэ прыложыў дух!* М. Малешава.

ПРЫЛО'МУВАЦЦА *незак.* Надламвацца. *Бувае копу́то прыло́муецца.* Запясочча.

ПРЫЛЯГА'ЦЬ *незак.* Лажыцца на кароткі час. *Ноч не вустоіш, трохі й прыляга́емо.* Хачэнь.

ПРЫМА'К *м.* 1. Прымак. *Нема сала і молока — нема ў хаце прымака* (прымаўка). Старажоўцы. *Ты прымак, то зові і кота на ву* (прымаўка). Дварэц. 2 *перан.* Калок у плоце для ўмацавання падгніўшага слупа. Аздамічы.

ПРЫМА'ННЫ *прым.* Прывабны. *Прыманная дзеўка.* Аздамічы.

ПРЫМАНУ'ЦЦА *зак.* Прыкінуцца, прытварыцца. *Прымануласа, шо вона угáдніца.* Цераблічы.

ПРЫМА'НЬВАЦЬ *незак.* Прываблівацъ. *Прыманьваюць пшоном рыбу і тогды вудзяць.* Луткі.

ПРЫМА'РЫЦЬ *зак.* Змарыць. *Легла ніцма, бо сон прымарыў.* Бярэжцы.

ПРЫМА'ЦКІ *прым.* Прымачы. *На Варвары прымацке свято, усе прымакі збіраюцца ў лаўку.* Цераблічы. *Прымацкі хлеб — собацкі* (прымаўка). Аздамічы.

ПРЫМА'ЦЦА *незак.* Вызваляць месца. *Не прымецца і места не уступіць.* Запясочча. *Хлопцы, прымайцеса з лісопетамі, бо корова боіцца.* Там жа.

ПРЫМА'ЦЬ *незак.* 1. Прымаць, прыбіраць. *То прыймай, то давай, то ўсе забота.* Сямурадцы. 2. Прымаць, уключаць. *Як укусіць чоловека вуж, то его не прымаюць вужы, покуль вон не здо́хне.* Сямігосцічы. *Земля светая, то ўсіх прымае* (прымаўка). Хачэнь.

ПРЫМАЧО'К *м.* Жаўтазель фарбавальны. Запясочча.

ПРЫМЕНІ'ЦЦА *зак.* Налаўчыцца. *Мой бацько пpыменіўса робіць сохі.* Запясочча.

ПРЫМЕНЯ'ЦЦА *незак.* Прыладжвацца, прыстасоўвацца. *Ека невестка не есць, то трэбо к ей пpыменяцца.*

М. Малешава. *Людзі прыменяліса, екі год будзе.* В. Малешава.

ПРЫМЕ'Р *м.* △П о к а з а́ ц ь  п р ы м е́ р. Зрабіць выгляд. *Прымер толькі покажэ, што берэ га́рцы.* Луткі.

ПРЫМЕ'РАЦЬ *зак.* Прымераць. *Это ж ольша́нцы цегнулі вола на дуба прымераць кульбаку* (жарт). Хотамель.

ПРЫМЕРА'ЦЬ *незак.* Прымяраць. *Вона усе будзе прымераць к мацер, як мацер, так і вона.* Старажоўцы.

ПРЫМЕСІ'ЦЬ *зак.* Дадаць пры замесе. *Дала баба прыгоршчы мукі, трохі шчоб у верэс прымесіць.* Бярэжцы.

ПРЫ'МНІЦА *ж.* Чатырохкантовая частка рамы ў варотах. Альшаны.

ПРЫМО'Л *м.* Круты бераг ракі. *Коло берэга прыкрого это будзе прымол.* Старажоўцы. *Мы ў березі седзелі у прымолі.* Пагост.

ПРЫМО'ЛІСТЫ *прым.* Круты, абрывісты. Аздамічы.

ПРЫМОНУ'ЦЦА *зак.* Заманупца. *Прымонулосо пойці у кіно.* Аздамічы.

ПРЫ'МОРОЗКІ *мн.* Прымаразкі. *Ужэ захапваўса іней, прыморозкі булі.* Бярэжцы.

ПРЫМОРУ'ЖЫЦЦА *зак.* Прыжмурыцца. *От малая на хвотографіі пріморужыласа, мабуць, сонцэ у вочі біло.* Пагост.

ПРЫМОРУ'ЖЫЦЬ *зак.* Прыжмурыць. *Приморужыў очы на мене.* Рамель.

ПРЫМОРЫ'ЦЬ *зак.* Змарыць. *Колі сон прымо́рыць, то засну́.* Хачэнь.

ПРЫ'МОЎКА *ж.* Прымаўка. *У ёго́ нічогое слово ў прымоўку.* Дварэц. *Ой, у мене така прымоўка: як воду хто п'е, то будзь здорова!* Запясочча.

ПРЫМОЎЛЯ'ЦЬ *незак.* Прыгаворваць. *Мо старые прымоўлялі, ек пеклі хлеб.* М. Малешава.

ПРЫ'МУ *мн.* △У з я́ ц ь  у  п р ы́ м у. Прыняць прымака. Запясочча. П о й с ц і́  ў  п р ы́ м ы. Стаць прымаком. Запясочча. Б ы ц ь  у  п р ы́ м а х. Жыць у прымаках. *Хто ў прымах не бывае, той гора не мае. Кулачэньку под голову дай спаткі легае* (з песні). Чэрнічы.

ПРЫМУ'КВАЦЬ *незак.* Прымацоўваць. *Прыміцамі прымыкваюць солому до лат.* Цераблічы.

ПРЫМУКНУ'ЦЬ, ПРЫМЫКНУ'ЦЬ *зак.* Зӑмкнуць ненадзейна. *Хату прымукну́, окно открыто.* Дварэц. *То прымыкніце хату, як пойдзеце.* Аздамічы.

ПРЫМУ'ЛОК *м.* Ручка на кассі, лучок. Запясочча.

ПРЫМУША'ЦЬ *незак.* Прымушаць. *Хорошэ дзіця не прымушають, воно саме знае шо робіць.* Альпень.

ПРЫ'МХА *ж.* Прымха, забабоны. *Прымха така е, ек проб'еш яблонку колком, то стане родзіць.* Хотамель. *Як жэнілі коміна, то зернета сыпалі: озьме місу зернет да шам на его і мы іх збіраем — такіе прымхі булі.* Цераблічы.

ПРЫНА'ДА *ж.* Прынада. *Для прынады рыбы варылі горох.* Дварэц.

ПРЫНА'ДЗІЦЬ *зак.* Прынадзіць. *І чого вон іх прынадзіў з эстымі яблукамі?* В. Малешава.

ПРЫ'НДЗІЦЦА *незак.* Паказваць нездаволенасць. *А вон прындзіцца, шо ёму жонка трэбо?!* М. Малешава.

ПРЫНЕ'СЦІ' *зак.* Прынесці. *Прынесла цімохвеейкі молодóе, то не ело, а плешнік ело целя.* Дварэц. *Не воруш бабіных груш, баба натрэсе і сама прынесе* (прымаўка). Старажоўцы. *Юрэй мешком прынесе, а Мікола возóм прывезе* (прымаўка, пра мошак). Сямурадцы.

ПРЫ'НІ'ЦА, ПРЫ'МІ'ЦА, ПРАМІ'ЦА, ПРАНІ'ЦА *ж.* Паплеціна, прывязка ў страсе. *Прыміцэй прыўязвають снопкі.* Хотамель. *Шчэ стрэха стояціме, шчэ вона моцна, шчэ прыніц не відаць.* Сямігосцічы. *Праміцай прыўязвають колоду на страсе.* Кароцічы. *Праніцу кладомо по верху по соломе, прачэм прыціскаем да прыўязваем до лаціны.* Луткі.

ПРЫНУ'Д *м.* △ З а г н á ц ь у п р ы н ý д. Прымусіць зайсці сілай. Альшаны.

ПРЫНУ'ДА *ж.* Туга. *Аж мене прынуда берэ.* М. Малешава.

ПРЫНУ'ДЗІЦЦА *зак.* Занудзіцца. *Прынýдзісса, покуль зробіш таке!* Цераблічы. *Прынудзіўса вучыцца.* Бярэжцы.

ПРЫНУ'ДЗІЦЬ *зак.* Затхнуцца (пра рыбу). *Як немного прынудзіць ее, то вон ідзе ловіць.* Хотамель.

ПРЫНЮХО'ЎВАЦЦА *незак.* Прынюхвацца. *Нешчо прынюхоўваецца худоба!* Верасніца.

ПРЫНЯ'ЦЦА *зак.* Уступіць, вызваліць месца. *Не цемні, прыміса од окна!* Верасніца. *Трэ прыняцца з дорогі, бо товар ідзе.* Луткі.

ПРЫНЯ'ЦЬ *зак.* Прыбраць. *Прымеш з дорогі ломаку — не будзеш сам спотыкацца і людзі дзякуй скажуць.* М. Малешава.

ПРЫЮ'РВАЦЬ *незак.* Заворваць. *Гной прыорваеш плугом навек.* В. Малешава.

ПРЫПАДА'ЦЬ *незак.* 1. Выпадаць, здарацца. *Лень прыпадае, робіць не хочу.* Запясочча. 2. Даводзіцца. *Вона мне прыпадае цётка.* Бярэжцы. 3. Прыпадаць, апускацца. *Ласточкі пры землі прыпадають, то будзе дождж.* Хачэнь. 4 *перан.* Шчыраваць. *Зяць к робоці не хочэ вельмі прыпадаць.* Запясочча.

ПРЫПА'ДОК *м.* Выпадак. *Такіе прыпадкі ўпадуць, шо немá, хот ты шо хоч робі!* В. Малешава.

ПРЫПА'МЯТАЦЬ *зак.* Прыпомніць. *Я што-то не прыпамятую.* Дварэц.

ПРЫПА'РВАЦЬ *незак.* Прыпарваць. *От прыпарвае, аж дыхаць нельга!* Верасніца.

ПРЫ'ПАРОМОК *ж.* Памост для прычальвання парома. *Вôда прышла веліка, прыпаромка робяць.* В. Малешава.

ПРЫПА'РЫЦЬ *зак.* Прыпарыць. *От ужэ трошкі прыпарыло.* Пагост.

ПРЫПА'С *м.* Начынне, прылады. *У мене не було ткацкого прыпасу.* Тураў. *Без прыпасу і лапці не сплецеш* (прымаўка). Сямігосцічы.

ПРЫПА'СВАЦЬ *незак.* Пасці дадаткова. *Каці нема дома, вона корову прыпасвае.* Хачэнь.

ПРЫПА'СЦІ *зак.* 1. Выпасці, прыйсціся. *У п'ятніцу прыпало мне пасці.* Луткі. *Нехорóшэ ім'я мне прыпало.* Альгомель. *Одаркі прыпаў груд.* Хачэнь 2. Сапсавацца. *Квас ужэ прыпаў, не можно піць.* Бярэжцы.

ПРЫПА'СЦІЦЬ *зак.* Прыпасвіць. *А нашчо ім корова, колі ленуюцца прыпасціць?* Хачэнь.

ПРЫПА'СЫНОК *м.* Пасынак, адростак. *У лося два рóга с пріпасынкамі.* Хотамель.

ПРЫПА'СЫЧ *м.* Падпасак. *Я прыпасыч, помогаю пасці.* Дварэц.

ПРЫ'ПАХАНЬ *ж.* Здабытак. *Будзеш старацца, то й прыпахань будзе, будзе усе шо трэ.* Пагост.

ПРЫПЕВА'ЦЬ *незак.* Прыпяваць, падпяваць. *Як пошла танцоваць да прыпеваць!* Верасніца.

ПРЫПЕВУ'Н *м.* Спявак, пяюн. *Такі прыпевун той Міша буў!* Чэрнічы.

ПРЫПЕ'КАЦЬ *незак.* Моцна прыграваць. *Бач як почало прыпекаць на дождж!* Аздамічы.

ПРЫПЕКА'ЦЬ *незак.* Пячы, пачаць крыху выпякаць.

*На Петра прыпеклá, а на Лью поўну печ налью* (прымаўка). М. Малешава.

ПРЫПЕ'РЦІ *зак.* 1. Прыперці. *Дзеўка прыперла сюда яблука ў фортусе.* Луткі. *Нарвала хустку шчаверу і прыперла мне.* Сямурадцы. 2 *перан.* Наслаць, прыгнаць. *Ліхо ту бабу прыперло.* Бярэжцы.

ПРЫПЕ'РЦІСА *зак. экспр.* Прыйсці. *Занеслі до Борыса до хаты, положылі, а вон чэрэз часоў несколько тым жэ следом прыперса.* Мачуль.

ПРЫПЕ'РЫЦЬ, ПРЫПЕРЭ'ЦЬ *зак. груб.* Прыткнуць, уладкаваць. *Дзе етэ дзіця дзець, дзе ёгó прыперыць?* Тураў. *Прыперэ́ць.* Дварэц.

ПРЫПЕ'ЎКА *ж.* Прыпеўка, частушка. *Прыпеўкі пое да немаўгад як.* Сямурадцы.

ПРЫ'ПЕЧОК *м.* 1. Прыпечак. *Пеку ладкі ў печэ́, а дзіця седзіць на прыпечку грэецца.* М. Малешава. *Там тушонікі ў чугунку на прыпечку.* Сямігосцічы. *Ек грыміць, то подпіраюць прыпечка, шоб не болела спіна у жнівó* (павер'е). Сямурадцы. 2. Абрыў. *Прыпечок у озері е.* Альшаны.

ПРЫПЕЧЫ' *зак.* Моцна прыгрэць. *Сонцэ прыпечэ, то й хозяін ўцечэ* (прымаўка). Кароцічы.

ПРЫПІЛЬНО'ЎВАЦЦА *незак.* Засцерагацца. *Трохі прыпільноўваесса рыбнадзору.* В. Малешава.

ПРЫПІНА'ЦЦА *незак.* 1. Прывязвацца, навязвацца. *Жэрэбя прыпінаецца коло огню, коло людзей на ночлезе.* Тураў. 2. Прыкрывацца, накрывацца. *На плёнку, будзе дождж, прыпінацімешса.* Пагост.

ПРЫПІНА'ЦЬ *незак.* 1. Прывязваць, навязваць. Тураў. 2. Прыкрываць, закрываць. *Прыпінаю марлею колбельку з Іванком, шоб мухі не кусалі.* Пагост.

ПРЫПІНДА' *ж.* Фартух. *Прыпінда у нас коліcь казалі на той хвартух.* Запясочча.

ПРЫПЛА'ВІЦЬ *зак.* Прыгнаць па вадзе. *Прыплавіў домоў топунá.* Запясочча. *Прыплавім той лес зяцю.* Пагост.

ПРЫПЛА'КВАЦЬ *незак.* Прыгаворваць плачучы. *Жонка прыплаквала і так і этак.* Старажоўцы.

ПРЫ'ПЛАЎКА *ж.* Смецце, якое засталося на беразе ракі пасля паводкі. *Прыплаўкі на берэг наплыве весною багато.* Кароцічы.

ПРЫ'ПЛАЎНІК *м.* 1. Тое ж. *Вода прыбудзе да спадзе, то останецца прыплаўнік.* Хачэнь. *А гнёзд на пріплаўніку ў заречы — мéсцінамі однэ коло дного!* Пагост.

2 *перан.* Перасяленец. *Я не ту́булка, на нас кажуць прыплаўнікі.* Крэмна.

ПРЫПЛЕСЦІ'СА *зак.* Прыплесціся, прыйсці. *Абу-яка зараза прыплецецца і стоіць.* Старажоўцы.

ПРЫПЛО'Д *м.* Прыплод. *Малы прыплод, як овечка бувае однэ окоціць.* Запясочча. *Карова застаецца невестцы, а прыплод ужэ не ее, хозяйскі.* Дварэц.

ПРЫПЛУ'СЦІ *зак.* Прыплысці. Запясочча.

ПРЫПЛЮ'СНУЦЬ, ПРЫПЛЮ'СКНУЦЬ *зак.* Прыціснуць, прыстаць. *Прыплюснула від к шыбцы да веселле гледзіць.* Пагост. *К тому лёду і прыплюск.* Запясочча.

ПРЫПЛЮ'ШЧЫЦЬ *зак.* Прыкрыць. *Прыплюшчыла сірэнь крэста дзедового, шо чуць бачно.* Пагост.

ПРЫПНУ'ЦЬ *зак.* Павязаць. *Прыпнула хвартух.* Луткі.

ПРЫПО'Л *м.* Прыпол. *Нарвала яблук у прыпол.* М. Малешава.

ПРЫПО'Н *м.* 1. Прывязь. *Много воўкоў було, то жэрэб'ят бралі на прыпон.* Дварэц. Раменьчык для нажа. *Нож на прыпоне ў мэне буў.* Мачуль. 2 *перан.* Забарона. *Ро́біць шчо хочэ, нема прыпону жадного од бацькі і мацер.* Цераблічы.

ПРЫПРАГА'ЦЬ *незак.* Прыпрагаць. В. Малешава.

ПРЫПРАГЦІ' *зак.* Прыпрэгчы. *Дай о́рчыка, кобулу прыпрагці трэба!* М. Малешава.

ПРЫПУ'ДЗІЦЬ *зак.* Прыстрашыць. *Ты ёго́ прыпудзіла, то вон не еў тоўчаные картоплі.* Тураў.

ПРЫПУ'ЛЕНЫ *дзеепрым. экспр.* Прыдуркаваты. *Ёго́ шчыталі, шчо вон які прыпулены.* Чэрнічы.

ПРЫПУЛІ'ЦЬ *зак.* Прысыпаць, прыцерушыць. *Прыпуліло зе́млю снегом, не найдзеш следу.* М. Малешава.

ПРЫПУ'Н *м.* 1. Прытулак, прыстанішча. *Коб ему прыпун буў дзе, коб жэніўса.* Пагост. 2. Перапынак. *Легла б да оддыхала б, а то чэрэз некіе гусі ніколі нема прыпуну.* Луткі.

ПРЫПУНІ'ЦЦА *зак.* Прыпыніцца, спыніцца, стаць. *Хай коло цебе прыпунецца. Прыпуніліса ў той дзерэўні ночоваць.* Любавічы.

ПРЫПУНІ'ЦЬ *зак.* Прыпыніць. *А вон прыпыніў мене да кажэ.* Луткі.

ПРЫПУ'НОК *м.* Прытулак, прыстанішча. *Нада сыну екі-небудзь прыпунок.* Старажоўцы.

ПРЫПУНЯ'ЦЦА *зак.* Спыняцца. *По тонкому лёду йдзеш, не прыпуняйса, а то шчэ ўвалішса.* Пагост.

ПРЫПУНЯ'ЦЬ *незак.* 1. Спыняць. *Не прыпуняй товар, нехай к рэцэ ідзе, на свежосць.* Пагост. 2. Забараняць. *Ні прыпуняла маці сына, коб не курыў.* Старажоўцы.

ПРЫПУСКА'ЦЬ *незак.* 1. Падпускаць. *Я прыпускаю ёго́ на мэтроў пецьдзесят — трах з одное, трах з другое — отсечка!* Мачуль. *Прыпускаюц целя дай сосе корову.* Запясочча. 2. Аддаваць (малако пры даенні). *Стара́ корова задзержвае, не прыпускае молока перэд негодой.* М. Малешава.

ПРЫПУСЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Прыбавіць (пра малако пры даенні). *Не прыпусціла молоко корова, бо полёва́ла.* М. Малешава. 2. Паскорыць хаду, бег. *Як прыпусціў того коня і схопіў рубля.* В. Малешава.

ПРЫПУ'ЧВАЦЬ *незак.* Рабіць застрэшак з пучкоў. *Му цепер будзем прыпучваць гумно, а заўтра будом крыць стрэ́ху.* М. Малешава.

ПРЫПУ'ЧЫЦЬ *зак.* Зрабіць застрэшак з пучкоў. *По латах пе́рво прыпу́чаць чэрэтом, а пото́м соломой крыюць.* Луткі.

ПРЫ'ПХА *ж.* Папіхіч. *Вон у чужом селе прыпха.* Дварэц. *Мы прыпха к тым Оздамічам.* Цераблічы.

ПРЫ'РОБ *м.* Прыбудова. Запясочча.

ПРЫРОБІ'ЦЬ *зак.* Начараваць. *Можно прыробіць, шо хлопец млее за дзеўкою.* В. Малешава.

ПРЫ'РО'БКА *ж.* 1. Чары. *Лішне даў ей, вот тобе і прыро́бка зробіласа корове.* Дварэц. *Така пры́робка була той прыстрэк.* Старажоўцы. 2. Прыбудова. Аздамічы. 3. Узор на канцы ручніка. *Пры́робка — гэто берэг у рушніку на образы́.* Луткі.

ПРЫРО'БЛЕНЫ *дзеепрым.* Начараваны. *Було прыроблено, шчо вона год не говорыла.* Сямігосцічы.

ПРЫРОБЛЯ'ЦЬ *незак.* Займацца чараўніцтвам. *Прыроблялі, шоб чоловек уме́р, шоб корова здохла.* Сямурадцы.

ПРЫ'РО'БОК *м.* Прыбудова. *К хаці буў пры́робок прыроблены.* Старажоўцы. *Прыро́бок.* Аздамічы.

ПРЫРО'Д *м.* Патомства. *Які род, такі й прырод* (прымаўка). Сямурадцы.

ПРЫРО'ДА *ж.* 1. Род, кроўная радня. *Нехто ж свой е, прырода наша веліка.* Сямігосцічы. *По прыродзі познала, шчо вон з Буразі.* Буразі. *У пціц е прырода: качка выведзе, качэня сразу ў воду, а курэня не пойдзе.* Сямігосці-

чы. 2. Прырода. *Дваццаць сэнціметроў осіна і згрызе бобер, от зубу, от надзеліла прырода!* Сямурадцы.

ПРЫРОДЗІ'ЦЦА *зак.* Урадзіцца. *Прыродзіцца такі чоловек, шо мацер, ні бацька не слухае.* М. Малешава.

ПРЫРО'ДНЫ *прым.* Статны. *Така хороша жонка, да прыродна!* Сямігосцічы. *Такіе ву прыродные, мужчыны, але самі собе псуёце, бо курыце.* Луткі.

ПРЫРО'ІЦЬ *зак.* Прыляцець. *Хіма зáраз прыроіць сюды.* Запясочча.

ПРЫРО'СТАНЫ *дзеепрым.* Прырослы. *Кішкі ж к спіні прыростаные.* М. Малешава.

ПРЫРО'ШЧЭНЫ *дзеепрым.* Прырошчаны. *У кожýшку е крэст і косточка прырошчэна.* Дварэц.

ПРЫРУЧЫ'ЦЦА *зак.* Прыстасавацца, навучыцца. *Дрожджы прыручыліса дзелац з хмелю: у хлебны квас хмель кідаюц і сцэджваюц у цесто.* Запясочча.

ПРЫС *м.* Прысак. *Попекуцца у прысý картоплі.* М. Малешава. *Слабка земля, як прыс.* Бярэжцы. Рыхлая сухая зямля, пыл. *Бачыце, сколько наносілі прысу.* В. Малешава. *Бувало, конь качаецца ў гэтом прысу, шоб мошка не кусала.* Любавічы.

ПРЫСА'ДА *ж.* Выгода, прыволле. *Прысада хорошая, е ўзятка хорошая пчóлом.* Луткі. *Ёгó прысада хороша, удобства кругом, там вода, там сенóжаць і поле недалеко.* Запясочча. *Там прысада хороша, туды едуць от, бувае, з городоў на оддых.* Пагост.

ПРЫСА'ДЖВАЦЬ *незак.* Прыстаўляць. *Ту п'еўгý прысаджваюць к дзя́сне.* Бярэжцы.

ПРЫСА'ДЗІСТЫ *прым.* Прысадзісты, каранасты. *Вона прысадзіста — ето нізка така, тоўста.* Запясочча.

ПРЫСАНДРЫ'ЧЫЦЦА *зак.* Прыстасавацца. *От кот прысандрычыўса!* Альпень.

ПРЫ'СВЕТОК, ПРЫ'С'ЕТОК *м.* Невялікае свята. *Прысветок — мáло свято.* Хотамель. *Пры́с'еток.* Бярэжцы.

ПРЫСВЕ'ЧНІК *м.* Падсвечнік. *Прысвечнік стояў у кутку, а не на образéчніку.* Луткі.

ПРЫСВО'ІЦЦА *зак.* Асвойтацца, прывыкнуць. *Прусвоіліса чужые людзі жыць.* Хачэнь. *Вон бояўса, шо коценята не прысвояцца, будуць дзікіе.* Сямігосцічы.

ПРЫСВО'ІЦЬ *зак.* Прысвоіць, зрабіць сваім. *Чароўніца прысвоіла чоловека, прычаровала ік собе.* Запясочча. *Не бойса, шо кот не прысвоіцца, воўка з поросем можны прысвоіць, прывукнуць.* Сямігосцічы.

ПРЫСВО'ЙТАЦЦА, ПРЫСВО'ЙСТАЦЦА *зак.* Асвойтацца, прывыкнуць. *Прысвойтаюцца гороб'е на пужайло і едзяць пшэніцу.* В. Малешава. *Трохі прысвойстаўса ходзіць у сандалях.* Луткі.

ПРЫСЕГА'ЦЬ *незак.* Прысягаць. *Стаў прысегаць дзе́цьмі.* Мачуль.

ПРЫСЕДА'ЦЬ *незак.* 1. Прысядаць. *Вон давай там танцоваць, давай прыседаць да вухкаць!* Сямурадцы. 2. Ападаць. *Прыседаць сталі водзя́ночкі у дзіця.* Любавічы.

ПРЫСЕ'Й *выкл.* △ П р ы с е́ й - б о́ г у! Так, праўда. *Прысей-богу не брала я твоей дзеругі!* Пагост.

ПРЫСЕ'К *м.* Ніжняя частка калоднага вулея. *Богато мэ́ду, аж до прысе́ка достае.* Хотамель.

ПРЫСЕ'СЦІ *зак.* 1. Прысесці. *Сено ўжэ зробілі, покупаліса, а вона кажэ, на мне гразь, прысела ў во́ду дай не ўстала. Тут жэ ее вуцяглі да ўжэ не спаслі.* Сямігосцічы. 2 *перан.* Паменшаць. *Муле́нік дзень-два да вон і прысядзе.* Запясочча.

ПРЫ'СЁЛОК *м.* Выселак. *З усіх этых прысёлкоў злётаюцца буські.* В. Малешава.

ПРЫСКА'ЛЬВАЦЬ *незак.* Прыжмурваць. *Прыскальвае однэ око.* Луткі.

ПРЫСКРЫ'НЁК *м.* Прыскрынак. *У скрыні прыскрынёк на тэ роб'яць, шчоб там класці дробнэ шчо: грошы, коснікі, гузікі.* Кароцічы.

ПРЫСКРЫ'НЯ ж. Тое ж. Запясочча.

ПРЫСЛА'ЦЬ *зак.* Прыслаць. Дварэц.

ПРЫСЛО'ВІЦА *ж.* Прымаўка. Мачуль.

ПРЫСЛО'ЎКА *ж.* Тое ж. *Як по-нашому прыслоўка эта?* Старажоўцы.

ПРЫСЛУГА'ЦЕЛЬ *м.* Прыслугач. *Як насело тых прыслугацелеў бесовух на воз!* Сямурадцы.

ПРЫСЛУХА'ЦЦА *незак.* Прыслухоўвацца. *Конь прыслухаецца, нешчо чуе.* Сямігосцічы.

ПРЫСЛУХО'ЎВАЦЦА *незак.* Тое ж. Чэрнічы.

ПРЫСМА'КА *ж.* Прыправа, прысмакі. *Прысмаку кідалі — рыбу еку, грыбу.* Запясочча. *Купляе масло, сметану да ўсякіе прысмакі.* Хачэнь.

ПРЫСНІ'ЦЦА *зак.* Прысніцца. *Знаеш, Ганка, екі мне сон прысніўса?* Верасніца.

ПРЫСНУ'ЦЬ *зак.* Задрамаць. *Поставіў боцінкі да прыснуў.* Хотамель.

ПРЫ'СОК *м.* Прысак. *На прысок той гарачы постаў сага́нчыка.* Мачуль. *Там глініста земля, а у нас — як*

*прысок.* Дварэц. *Бачыце, хлопцы, сколько прыску нано-сілі!* В. Малешава.

ПРЫСО′ЛЬВАЦЬ *незак.* Падсольваць. *Я прысольва-ла трохі боршч.* Сямурадцы.

ПРЫСО′ХЦІ *зак.* Прысохнуць. *Прысохла к сковоро-дзе рыбіна, шо і оторваць не можно.* М. Малешава.

ПРЫСО′ШОК *м.* Сошка ў будане. Запясочча.

ПРЫСПА′ЦЬ *зак.* 1. Прыспаць. *Бабу прыспаць трэ-ба, а тогды лезці ў огород, баба сторожова́ць не будзе.* М. Малешава. *Прыспала дзеўку, а сама пошла на огород.* Там жа. 2. Прыспаць, задушыць у сне. *Прыспала дзіця, не дала дыханья, то і померло.* М. Малешава.

ПРЫСПЕ′ЦЬ *зак.* Прыспічыць. *От прыспело ему іці.* Дварэц.

ПРЫСПО′РЫЦЬ *зак.* Прымножыць. *Прыспоры́ божэ у дзежы́! — Дзякуй!* (пажаданне пры саджанні хлеба ў печ). Сямігосцічы.

ПРЫСТА′ВІЦЬ *зак.* Паставіць. *Чотыры чыгуны пры-ставіла у печ.* М. Малешава.

ПРЫ′СТАВОК *м.* Дадатак. *Коліська горшчык насып, то горшча́й тобе шчэ прыставок дасць.* В. Малешава.

Звычайна ганчар абменьваў свае вырабы на коль-касць збожжа, якая змяшчалася ў пасудзіну. Да гэтай пасудзіны давалася яшчэ другая, якую і называлі *пры́-ставок.*

ПРЫСТАНОЎЛЯ′ЦЦА *незак.* Прыпыняцца. *Машына ехала да бы прыстаноўляласа, то я як усхоплюса!* Люткі.

ПРЫ′СТАНЬ *ж.* Прыстань. *Цепэр лава ў цебе — на-стояшча прыстань.* Люткі.

ПРЫСТАРА′ЦЦА *зак.* Прыстарацца. *На жукі пры-стараласа мне вона лекарства́.* М. Малешава. *Хто дзе трохі прыстарайса лёну, то прадзе!* Сямурадцы.

ПРЫ′СТАЎКА *ж.* 1. Дадатак пакупніку. 2 *перан.* Хвост, неадступны спадарожнік. *От прыстаўка, бежыць за мной да дзержыцца за матчыну спадніцу.* Сямурадцы.

ПРЫСТАЎЛЯ′ЦЬ *незак.* Прыстаўляць, прыхіляць. *Не трэбо гэтые прыста́вы прыстаўляць.* Дварэц.

ПРЫСТА′ЦЬ *зак.* 1. Прыстаць, стаміцца. *Прыстаў мужчына, зусім без сіл стаў.* Люткі. *Вона прыстала, трэ одды́хаць.* Старажоўцы. *Серцэ прыста́ло.* Хачэнь. 2. Прыпыніцца. *Тут приста́ньмо, да перэкурэ́мо, да поснедаймо.* Сямігосцічы. *І так прысталі, больш не стрэлялі.* Там жа. 3. Прыстаць, прычапіцца. *Прыстаў ек мара́!*

Старажоўцы. 4. Прыстаць, далучыцца. *Кінуў жонку, а сам прыстаў к другой.* Верасніца.

ПРЫСТО'ЛОК *м.* Шуфляда. *У столе буў прыстолок такі.* Сямігосцічы.

ПРЫСТОРОНІ'ЦЬ *зак.* Прыбраць. *Баба ўзела да прысторопіла тые грошы, бо бандзюгі кінулі іх і ўцеклі.* В. Малешава.

ПРЫСТО'Я *ж.* Моцна засмоленая хвоя. *Прыстою смолою обгоніць, одна гола смола.* Мачуль.

ПРЫСТО'ЯЦЬ *зак.* Прыпыніцца, пастаяць кароткі час. *Ужэ воны прыстóелі коло нас, му іх зачэпілі.* В. Малешава.

ПРЫСТРО'ІЦЦА *зак.* 1. Прылаўчыцца. *Трэбо прыстроіцца, шоб улоўчыцца і муху ўбіць!* Луткі. 2. Уладкавацца, знайсці прыстанішча. *Хлопец прыстроіўса к дзеўцы, і жылі.* Хачэнь.

ПРЫСТРО'ІЦЬ *зак.* Прыгатаваць. *Я ўжо старая і не знаю, як ім прыстроіць есці.* М. Малешава.

ПРЫСТРЫ'КАЦЬ *зак.* Прастрачыць. *Прыстрыкалі кохту, шо распороці нельга.* Луткі.

ПРЫСТРЭ'К, ПРЫСТРЭ'Т *м.* 1. Недамаганне. *Прыстрэк у ёгó, нехто зурочыў, колісь шэптуху звалі, шоб пошэптала.* М. Малешава. *Болезня така прыстрэк с пуду, з ветру.* Луткі. *Прыстрэт, ек дзіця более, кісне.* М. Малешава. 2. Марэна. *Прыстрэк — зелье лесовое, жоўтым цветом цвіце.* Хільчыцы.

ПРЫСТРЭ'ЧНІК *м.* Марэна. *Прыстрэчнік от спугу, ек прыстрэт нападзе.* Луткі.

ПРЫСТРЭ'ЧНЫ *прым.* Марэнавы. *Вечором спаць хочэцца, а хлеб горкій, то п'юць прыстрэчную воду.* Луткі △ П р ы с т р э́ ч н ы е с в е́ ч к і. Свечкі, пасвячоныя на грамніцы. Луткі.

ПРЫСТУПІ'ЦЬ *зак.* Падысці, наблізіцца. *Такі сом трапіў, шчо мы бояліса прыступіць.* Луткі.

ПРЫСУКА'ЦЦА *зак.* 1 *метаф.* Прывязацца. *Шчо ты до того Кірылóвіча прысукаўса?* Цераблічы. 2 *метаф.* Размясціцца вельмі блізка. *Та груша к яблоні прысукаласа.* Луткі.

ПРЫСУКА'ЦЬ *зак. метаф.* Падцягнуць. *Гэтого жывота прысукало к спіні — так рвало!* Старажоўцы.

ПРЫСУ'НУЦЬ *зак. метаф.* Прыйсці з цяжкасцю. *Набралі рыбу, чуць прысунулі!* М. Малешава.

ПРЫСУ'ЧЫЦЦА *зак. метаф.* Прывязацца. *Прысучыцца к кому хочэш сварыцца.* Луткі.

ПРЫСУ'ШНЫ *прым.* Засушлівы. *Як прысушны год, то глубо́ко вода ў колодзезі.* Чэрнічы.

ПРЫСХНУ'ЦЬ *зак.* Прысохнуць. *Дзеры лыка, як дзеруцца, як прысхне́, то й чорт не оддзерэ.* Кароцічы.

ПРЫСЦЁЛ *м.* △У п р ы́ с ц ё л. Каласамі на гузыры (укладка снапоў ячменю, проса на полі для высушвання). Хотамель.

ПРЫСЦІ'ГНУЦЬ *зак.* Захапіць, паставіць у безвыходнае становішча. *Ек прысцігне моцно дождж, то бегом додому.* Луткі. *Ек прысцігне моцно, то поедзе.* Там жа. *Ек прысцігло, то вона поробіць ей.* Сямурадцы.

ПРЫ'СЫ *мн.* Пыса ў жывёл. *Як у кота прысы, такіе у цебе вусы.* Запясочча. *А ім даў вон толькі прысы лосёвуе.* Цераблічы. *Прысы лошыцы показаліса ў лозе.* Хотамель.

ПРЫСЫ'РЫЦЬ *зак.* Пакінуць. *Его булі за рэчку завелі да прысырылі.* Верасніца. *Прысырыла б усе, коб могла!* Мачуль. *Рвај, рвај лён, да прысырыў і пошоў.* Сямігосцічы. *Прысырыла дзецей, а сама пошла у клуб.* Верасніца.

ПРЫТА'ІЦЦА *зак.* Прытаіцца. *Цецера дзе ўпала, там прыта́іцца і седзіць.* Мачуль. *Прыта́яцца і не вору́шацца ціплета.* Запясочча. *Прыта́йса, як муш у крупе.* Сямурадцы.

ПРЫТА'ЙВАЦЦА *незак.* Таіцца. *Трохі прытайваецца піць, не так, як уперэд.* Хачэнь. *Толькі цепер тые уга́днікі як бы прытайваюцца.* Чэрнічы.

ПРЫТА'ЙВАЦЬ *незак.* Таіць. *Прытайвае корова молоко і Морусі, а чужому зусім не оддае.* Луткі.

ПРЫТАМА'ННЫЕ *прым. мн.* Радня. *Прытаманные — ето свое да которые прызнаюцца, ек свое.* Пагост.

ПРЫТВО'Р *м.* 1. Прыманка для пчол у пустым вуллі. 2. Шула, да якой прычыняюцца вароты. В. Малешава.

ПРЫТВОРЫ'ЦЬ *зак.* Учыніць што-небудзь нечаканае. *Буў у острозі ее чоловек, мо шчо прытворыў.* Дварэц. *Ужэ прытворыў чудзіло!* Кароцічы.

ПРЫ'ТКІ' *прым.* Прыткі, быстры. *До́брэ оставацца* (тут — жыць), *як шчэ ў ногах прыткі.* Хачэнь. *О, твой дзеду́ра шчэ пры́ткі!* Верасніца.

ПРЫТКНУ'ЦЦА *зак.* Дакрануцца. *Не можно прыткнуцца до цебе!* Цераблічы.

ПРЫ'ТОМ, ПРУ'ТОМ *прысл.* △С т а н о в і ц ц а (с т а ц ь) п р ы́ т о м. Пруцянець. *Мое рукі пры́том ста-*

*ноўляцца, а серп не рэжэ.* Хачэнь. *Жала, жала, аж спіна стала прўтом.* Верасніца.

ПРЫТОРО'ЧЫЦЬ *зак.* Прытарочыць, прывязаць. *У пастуха колісь дзве пары лапцей прыторочэно до торбы.* Верасніца.

ПРЫ'ТОЎКА *ж.* Халоднае памяшканне. *Плотнікі не сені, а прытоўку зробілі, мерзнеш да дубенееш.* Пагост.

ПРЫТО'ЎКАЦЬ *незак.* Растоўкваць. *Сало прітоўкалі ў ваганкў м'ялом.* Альшаны.

ПРЫТОЎКЦІ' *зак.* Прыправіць. *Рэзанкі прытоўкла салом з цыбулею.* Аздамічы.

ПРЫТОЧЫ'ЦЬ *зак.* Надтачыць. *Шо коротке, то трэбо прыточыць.* Запясочча.

ПРЫТУ'ЖНО *прысл.* Старанна, шчыра. *Узеліс прытужно за роботу.* Луткі. *Седзіць, як кура на яйцах, прытужно.* Аздамічы. *Прытужно не лежыць, да бегае, не соблюдае лечэнье.* Верасніца.

ПРЫТУ'ЖНЫ *прым.* Заўзяты. *Гэта зіма была прытужна.* Луткі. *Учора буў велікі мороз, такі прытужны.* Там жа.

ПРЫТУ'ЖЭНЫ *прым.* Тужлівы. *Чо то баба прытужэна? — Шчо вона будзе потўжваць про гэто!* Верасніца.

ПРЫТУ'ЛА *ж.* Прытулак. *Мой ты дзёдухно, прытула! Я к тобе прытулюса да нікого не боюса* (з песні). Дварэц.

ПРЫТУЛІ'ЦЦА *зак.* Прытуліцца, прытаіцца. *У траве прытўліцца, і незаметно.* Дварэц. *Зайдзе корова да прытуліцца дзе от стада.* Цераблічы.

ПРЫТУЛІ'ЦЬ *зак.* Прытуліць. *Бацько — не маці, ні прытуліць, ні прыгорне.* Старажоўцы.

ПРЫТУ'ЛЬВАЦЦА *незак.* Прытульвацца. *Дзіця к тобе прытульваецца.* Аздамічы.

ПРЫТУ'ЛЬВАЦЬ *незак.* Прытульваць. *Конь прытульвае вушы, не лезь!* Любавічы.

ПРЫТУЛЯ'ЦЦА *незак.* Прытуляцца. *Не прытуляйса до грўбу, бо вайкі будуць.* М. Малешава.

ПРЫТУ'ХНУЦЬ *зак.* Зменшыцца (пра агонь). *Огонь ужэ прытухне.* Аздамічы.

ПРЫ'ТХА *ж.* Цвіль, пах прэлага. *Прытхою одгоняе.* М. Малешава.

ПРЫ'ТХЛЫ *прым.* Цвілы, затхлы. *Пры дне мука прытхлая трохі.* М. Малешава.

ПРЫТЫ'КА *ж.* Калок, якім прытыкаюць пласты сена ў капе або ў стозе, каб не зрывала ветрам. *Прытыкоў на копы насечы!* М. Малешава.

ПРЫТЫКА'ЦЦА *незак.* Датыкацца. *Ко мне ні прытыка́йцеса, бо ў мене мо короста.* Кароцічы.

ПРЫТЫКА'ЦЬ *незак.* Прымыкаць. *А іхні попас прытыкае до сенокоса.* Дварэц. *От прытыкае рэка к старыку́.* Запясочча.

ПРЫ'ТХЛЯ *ж.* Цвіль, пах прэлага. *Узело́се прытхлею усе ў скрыні, трэ просушваць було.* Луткі.

ПРЫЎДАЛУ'ХА *ж.* Вельмі здольная жанчына. *Ганніна молодзіца прыўдалуха: і сама ззяе, і ў хаці горыць.* Верасніца.

ПРЫЎЯ'ЗАНЫ *дзеепрым.* Прывязаны. *У мене кура прыўязана за но́гу.* В. Малешава.

ПРЫЎЯЗА'ЦЬ *зак.* Прывязаць. *Рэптух прыўяжуць коню з оўсом да вон есць.* Дварэц.

ПРЫЎЯ'ЗВАЦЬ *незак.* Прывязваць. *Латы прыўязвалі хво́ростом.* Дварэц.

ПРЫ'ХАПКАМІ *прысл.* Прыхваткамі. *Сам прыхапкамі робіў хату.* Дварэц. *Дзед прыхапкамі помогае дровы колоць.* Любавічы.

ПРЫ'ХАЦЬ *незак.* 1. Фыркаць, чмыхаць. *Прышэ конь, нешчо чуе.* Сямігосцічы. *Собака грэбе, грэбе, прышэ, прышэ, пока не вускочыць муш.* Луткі. *Ек я ем, то глух і нем, а то не туды пойдзе да пры́хаціму.* Пагост. 2. Пырскаць. *Трэбо прыхаць по вулью кропілом.* Хотамель. 3 *перан.* Выказваць незадаволенасць. *Прыхаць стаў!* Бярэжцы.

ПРЫХВА'ТВАЦЬ *незак.* Прыстываць. *Прыхватвае рукі ік круку жэлезному ў мороз.* Запясочча.

ПРЫ'ХВАТКОМ *прысл.* Прыхваткам. Аздамічы.

ПРЫХВОРЭ'ЦЬ *зак. экспр.* Прывязаць да сябе. *Прыхворэеш ты этого чоловека!* Старажоўцы.

ПРЫХВО'СТАЦЦА *зак. экспр.* Суцішыцца, суняцца. *Я була гостра, а дале ўжэ прыхво́сталас, прытупілас.* Луткі.

ПРЫХІ'МІЦЦА *зак.* Далучыцца. *Як бы і собе прыхіміцца, там хороша прычына, там будзе хорошэ угошчэнье.* Аздамічы.

ПРЫХІ'СЦІЦЬ *зак.* Захінуць, засланіць. *Трохі прыхісціш пучкамі застрэшніцу, шоб не задувало снег.* Хачэнь.

ПРЫ'ХЛЮП, ПРЫ'ХЛЮН *м.* Пакаты схіл (страхі, верха ў стозе). *Прыхлюп крыша, не стромка.* В. Малешава. *Пры́хлюн.* Чэрнічы.

ПРЫХЛЮ'ПІСТЫ *прым.* Пакаты. *Прыхлюпістая стрэ́ха.* Рамель.

ПРЫ'ХМОН *м.* Частка нізкага ўзбярэжжа, абмежаваная ўзвышшам. *На той прыхмон сетку выцягвацімо, там нізко й зацішно.* Пагост.

ПРЫХМУ'ЛЬВАЦЬ *незак.* Прыціскаць вушы, хмыліцца (пра коней, сабак, катоў). *Бач, як вушы прыхмульвае кот!* Верасніца.

ПРЫ'ХНУЦЬ *зак.* Дзьмухнуць. *У очы як прыхнуў той газ, то і згорэла ўся жонка.* В. Малешава.

ПРЫХО'ДЗІЦЦА *незак.* 1. Даводзіцца. *Вон прыходзіцца мне братом.* Аздамічы. 2. Здарацца, выпадаць. *Як прыходзіцца хозяіну, шо ні солóміны, то со стрэхі солому бралі.* Сямурадцы.

ПРЫХО'ДЗІЦЬ *незак.* Прыходзіць, прыбываць, з'яўляцца. *От сюды прыхóдзіло тры воўкі.* Сямурадцы. *Прыходзіць з Гóрыня вода бела, а наша — чорна.* Цераблічы. △П р ы х ó д з і ц ь у г ó л о в у. З'яўляецца ў думках. *Дажэ это мне у голову не прыхóдзіло.* В. Малешава.

ПРЫХО'ДНЫ *прым.* У якім многа наведвальнікаў. *Цэлы дзень людзі ў хаці, такі прыходны дзень у нас.* М. Малешава.

ПРЫХОПІ'ЦЬ *зак.* Прыстыць. *Ек сухá подóшва, то не, а ек мокра, то мороз прыхопіць.* Луткі. Прыціснуць. *Лось воўка так плотно к хвоі прыхопіў у рогі, прыціс его.* Бярэжцы.

ПРЫЦЕГА'ЦЬ *незак.* Прыцягваць. *Хмары вода прыцегáе.* Цераблічы. *Швайкою прыцегаеш солому, ек шыеш стýгу.* Там жа. *У гýмі прыцягае, ногі мерзнуць.* Сямігосцічы.

ПРЫЦЕГЦІ' *зак.* Прыцягнуць. *Прыцеглі на самотужках рыбы, да зноў поехалі ужэ конем.* Пагост. *Дох его знае, як бобер такое полено прыцягне.* В. Малешава.

ПРЫЦЕГЦІ'СА *зак.* Прыцягнуцца. *Насілу прыцягса!* Запясочча.

ПРЫЦЕЖА'НКА *ж.* Невялікі воз сена. *Прыцежанку прыўёз одзін раз вýшэй дрáбцоў.* М. Малешава.

ПРЫ'ЦЕСНО *прысл.* Цеснавата. *Жывом жэ, але троха прыцесно, і ў печы прыцесно.* Кароцічы.

ПРЫ'ЦЁМКОМ *прысл.* Прыцемкам. *Прыцемком вон ідзе гулять, той еж.* Сямігосцічы.

ПРЫ'ЦЁМНО *прысл.* Зацемна. Бярэжцы.

ПРЫЦЁН *м.* 1. Надрэз, выразка. *Прыцёны мае голоўка, прыцён не дасць поехаць ўязкý у санях.* В. Малешава.

2. Шырэйшая частка ў гняздзе калодачнага вулея. *Мед под прыцён подрэзáлі.* Аздамічы.

ПРЫЦІ′ *незак.* Прыйсці, надысці. *Прыду з роботы да пойду за ім.* М. Малешава. *Зяць прышоў з вудзéння да спіць.* Дварэц. *Вон шчасліву, шо прышоў, а мой погінуў.* Старажоўцы. *Як прыдзе вода по лёдў, то вона будзе сем раз на году* (прымета). Сямігосцічы. *Прышло сплéнье, цегні картоплі за корэнье* (прымаўка). Там жа. △ Прыц í к пáмеці. Апрытомнець. Азяраны.

ПРЫ′ЦІКІ *мн.* Мярэжка. *Прыцікі ў сорочках рабілі жонкі.* Аздамічы.

ПРЫЦІКОВА′ЦЬ, ПРУЦІКОВА′ЦЬ, ПРОЦІКОВА′ЦЬ *незак.* Мярэжыць. *Вона будзе прыціковáць край у вушываны.* Бярэжцы. *Подолок у сорочках пруціковалі да рошшывáнья робілі.* Лутк. *Вона проціковáла ў одзін пруток.* Кароцічы.

ПРЫЦІРА′ЦЬ *незак.* Прыціраць, ставіць ушчыльную. *Трэ, бра, прыціраць жака.* М. Малешава.

ПРЫЦІ′СА *зак.* Прыйсціся, падысці. *Прышлосо на суд йці за тэ дзело.* Старажоўцы. *Ему лёгко не прышліса гэтые грошы.* В. Малешава. *Шапка прышласа.* Аздамічы.

ПРЫЦІ′СНУЦЬ *зак.* Прыціснуць. *Нóгу не прыцісне-це!* Бярэжцы. *Вол о так прыціс воўка к хвоі.* Бярэжцы.

ПРЫЦО′ПАЦЬ *зак. экспр.* Прыйсці. *Умоталаса плён-кою да прыцопала домоў.* Старажоўцы.

ПРЫ′ЦЬМА *прысл.* Аніяк, зусім. *Прыцьма не було грошэй у тоé молодзіцы.* Лутк.

ПРЫ′ЦЬМО′М, ПРЫ′ЦЬМЕМ *прысл.* Тое ж. *Пры́ць-мом не хоцела за ёгó замуж!* М. Малешава. *Молодые пры́цьмем не хочуць старых.* Аздамічы. *Прыцьмóм нічо-го не хочэ помогаць!* Там жа. *Хвост чорны такі прыць-мóм.* Сямігосцічы.

ПРЫЦЮ′ЦЬКОВАТЫ *прым. экспр.* Прыдуркаваты. Дварэц.

ПРЫЦЯ′ЖЫЧ *м.* Прыстасаванне для датыкання красён. *Прыцяжыч і дотыкач — гэто однэ́е.* Хотамель.

ПРЫЧАВІ′ЦЬ *зак.* Прыдушыць. *А лось воўка к сосне прічавіў.* Бярэжцы.

ПРЫЧА′Л *м.* Вяроўка для прывязвання барак, лодак да прычала на прыстані. Запясочча.

ПРЫЧА′СТКА *ж.* △ У прычáстку. Упрыкуску. *Так у прычастку з'ела молоко.* М. Малешава.

ПРЫЧВА′РА *м.* 1. Нячысцік. Бярэжцы. 2. Выдумшчык, жартаўнік. *Прычвара — такі, шчо выдумлівае.*

Бярэжцы. 3. Пачвара. *Шчо була за прычвара, шчо нам есці не давала!* Старажоўцы.

ПРЫЧВОРА'ЦЬ *незак.* Выдумляць, вычвараць. *Чудака прычворае, мудрue.* Бярэжцы. *Дзед больш прычворыць за гэтого целевізора.* Цераблічы.

ПРЫЧОБУРЫ'ЦЦА *зак.* Прысесці, прыхінуцца. *Оля скорэй да прычобурыласа коло дзеда.* Цераблічы.

ПРЫЧО'ЛОК *м.* 1. Страха над тарцовай сцяной будынка. *Зарэ шчыты, а колісь прычолкі булі.* В. Малешава. *У гумне збоку було два прычолкі.* М. Малешава. 2. Прыбудова, прысценак, трысцень. *На два прычолкі хлеў.* Рубель. *Быў такі прычолок мошчэны, то там вода хоч яка не доходзіла.* Мачуль.

ПРЫ'ЧТА, ПРЫ'ШТА *ж.* Байка, апавяданне, быль. *Вона на́гле знае ўсякіх пры́штоў!* Дварэц. *Гэто прышта, а не казка.* Цераблічы. *От ека прышта: у году два Юр'і і оба́два дурні.* Запясочча. *Дзве этых прышты маць моя росказвала, але робіць, то не робілі.* Бярэжцы.

ПРЫЧУВА'ЦЦА *незак.* Здавацца. *Нешчо мне ў лесу прычуваецца.* Цераблічы. *Дзе той звонок? Это тобе прычуваецца.* Старажоўцы.

ПРЫЧУВА'ЦЬ *незак.* Прадчуваць. *Мое серцо прычувае, шо недобрэ нешчо будзе.* Цераблічы.

ПРЫЧУДЖА'ЦЦА *незак.* Здавацца, паказвацца. *Абушто прычуджаецца.* Хачэнь.

ПРЫЧУ'ЦЬ *зак.* Дачуць, расслухаць. *У глухого не пропадзе, не прычуе, то прыкладзе* (прыказка). Бярэжцы.

ПРЫЧЫ'НА *ж.* 1. Бяседа. *Вот ек у прычыні да спеваюць, да гуляюць, бувало, да хорошэ, а ек почуеш му́зыку, то ногі самі бегуць.* Верасніца. *Я сколькі ні піў на прычынах, то не берэ мене.* В. Малешава. *Ек ека прычына, то ўсе, коб рыба була.* Чэрнічы. 2. Абставіны, прычына. *Ек і ногу зломаў, то, кажэ, от прычына була.* Луткі. *Прычына ж то была, шчо загубіўса.* Кароцічы. *Там, дзе му булі, багато такіх прычын.* М. Малешава. *У нас прычына тут жыць: вода блізко.* Тураў.

ПРЫЧЫНДА'ЛЫ *мн.* Прычындалы. *Коб ткаць, то ўжэ трэбо прычындалы маць.* Сямурадцы. *У вас усе свое прычындалы на рыбу.* Альпень.

ПРЫЧЫ'НДЫ *мн. экспр.* Дурыкі. *Дурале́й, не прыдстаўляй свое прычынды, разну дуросць.* М. Малешава.

ПРЫЧЫНІ'ЦЬ *зак.* Прыадчыніць. *Прычыніла дзвера і слухае.* Верасніца.

ПРЫЧЫ'ННО *прысл.* Зручна. *Прычынно дáлі ему пляц, усе удóбства.* Тураў.

ПРЫЧЫННЫ' *прым.* Які мае адносіны да пэўных абставін. *Прычыннóе слово.* Мачуль.

ПРЫЧЫНЯ'ЦЦА *незак.* Выбіраць пэўныя ўмовы, абставіны. *І так прычыняюцца воны ўлезці ў яблука, шчо мене нема дома.* Луткі.

ПРЫЧЭБЕ'НІЦЦА *зак. перан.* Прычапіцца, прыстаць. *Прычэбеніўса вон к этой бабі.* Старажоўцы.

ПРЫЧЭПІ'ЦЦА *незак.* Прычапіцца, прыдрацца, прыстаць. *От прычэпілосо, ек слотá! Прычэпіласа она к мужыку і жыла.* Хачэнь.

ПРЫЧЭПІ'ЦЬ *зак.* Прычапіць, прымацаваць, зачапіць. *Прычэпіў за обарка постронкі.* Верасніца.

ПРЫЧЭ'ПЛІВУ *прым.* Прычэплівы, прыдзірлівы. *Такі буў прычэпліву, нічогі леснік.* Хачэнь.

ПРЫЧЭ'ПНІЦА *ж.* Чужынка. *Якая я мачосе прычэпніца?* Хачэнь.

ПРЫЧЭ'ПНЫ *прым.* Сваяцкі. Аздамічы.

ПРЫ'ШВА *ж.* Паплецiна, прывязка. *Прышвы насек прышываць солому до лáцін.* М. Малешава.

ПРЫ'ШВІНА *ж.* Тое ж. *Прышвіну прышываюць лозою до лацiны, шоб солома не б'ежджала.* М. Малешава.

ПРЫ'ШВУ *мн.* Прышвы (у ботах). *Позваў городчукá, шчоб прышву прышыць, голóўкі.* Сямігосцічы.

ПРЫШКОРУ'ПНУЦЬ *зак.* Прысохнуць. *Прышкоруплі варэнікі к сковородзе.* Кароцічы.

ПРЫШЛО'ПІЦЬ *зак.* Прыхлопнуць. *Прышлопіло іх зверху.* В. Малешава.

ПРЫШМАНУ'ЦЦА *зак.* Захацецца. *Мне прышмануλоса кінуць палку.* Мачуль.

ПРЫШМАНУ'ЦЬ, ПРЫШАМАНУ'ЦЬ *зак.* Тое ж. *Прышамане мне, то я з'еў бы хорошы яблык.* Тураў.

ПРЫШЧ *м.* Прышч. *Прышчы́ вы́сыпалі.* Альпень.

ПРЫ'ШЧЫК *м.* Тое ж. Запясочча.

ПРЫШЧЫКНУ'ЦЬ *зак.* Прыкусіць, ушчыпнуць. *Сам собе губу прышчыкнуў.* Запясочча. *Рýку прышчыкнуў у дзвéра.* Аздамічы.

ПРЫ'ШЧЫЦЦА *незак.* Пакрывацца прышчамі. *Дзіця прышчыцца, такіе прышчы схапáюцца.* Мачуль. *Прышчыцца рука, ек вуды́рчыкі робяцца.* Луткі.

ПРЫШЧЭВА'ТЫ *прым.* Прышчаваты. *Такі молоды да прышчэваты грыб.* Запясочча.

ПРЫШЧЭ′ПА *ж.* Прышчэп. *Ото дзічка, а ото прышчэпа.* Луткі.

ПРЫШЧЭ′ПАНЫ *дзеепрым.* Прышчэплены. *Грушы ек прышчэпаные, то лоўкіе воны.* М. Малешава.

ПРЫШЧЭПІ′ЦЬ *зак.* 1. Прышчапіць. Альпень. 2. Зашчоўкнуць на зашчапку. *Як прышчэплю собаку, то зразу рукі мыю.* В. Малешава.

ПРЫШЧЭ′ПКА *ж.* Прышчэп. Альпень.

ПРЫШЫВА′ЦЬ *незак.* 1. Прышываць. *Дзеўкі прышываюць маршалком цветы, а воны даюць ім пудру, духі.* М. Малешава. 2. Прывязваць. *Прышыву прышываюць до лат.* М. Малешава.

ПРЫШЫХО′ЎВАЦЬ *незак. экспр.* Рыхтаваць. *Тут прышыхоўваюць стол на сваты́.* Хотамель.

ПРЫШЫ′ЦЦА *зак.* Прыладзіцца. *Тут жэ нідзе не прышыесса.* Хачэнь.

ПРЫЮЦІ′ЦЬ *зак.* Даць прытулак. *Рада, шчо дзіця яе прыюцілі.* Сямігосцічы.

ПРЫЯ′ТЛІВУ *прым.* Прыязны. *Вона така прыятліва жонка, навек поможэ.* Хачэнь.

ПРЫ′ЯЦЕЛЬ *м.* Прыяцель. *Луччэй прыяцель тобе вона, а не мне вона добра зычыць!* М. Малешава.

ПРЫЯ′ЦЬ *незак.* Прыяць. *Прые ёй, а не мне.* Хачэнь. *Она навек мне прые.* Верасніца.

ПРЭ′БА *ж.* △ Н а  п р э́ б у. Для спробы. *На прэбу ўзяла булочку хлеба.* Мачуль.

ПРЭ′БОВАЦЬ *незак.* Каштаваць. *Прыносіла я тобі прэбоваць цукерка.* В. Малешава. *Прэбовалі попелом жукоў травіць, але вон не моцны.* Сямігосцічы.

ПРЭГЦІ′ *незак.* 1. Смажыць. *Як с салом е́сцімеце, то трэба ж прэгці.* Запясочча. *Прэгці сало на сковородзе.* Хотамель. 2 *перан.* Вельмі хацець. *Прэжэ воды на косовіцы.* Аздамічы.

ПРЭГЦІ′СА *незак. перан.* Вельмі хацець. *Прэжэцца скорэй іці.* Мачуль.

ПРЭ′ДКО *м.* Продак, пачынальнік роду. *Кодоліч — дайні прэдко ў Аздамічах.* Мачуль.

ПРЭ′ДОК *м.* Тое ж. *Нашы прэдкі тут жылі.* △ З а к а з а́ ц ь  п р э́ д к у. Зарачыся. *Іван раз ездзіў да і прэдку заказаў.* Пагост. З  п р э д к о ў  в е к о ў. Спрадвеку. *У гэтой месносці з прэдкоў векоў войны йдуць.* Луткі.

ПРЭ′СЛЕНКА, ПРЭ′СЛЁНКА *ж.* Каменьчык з дзірачкай (з глiністага сланца). *Колісь дзед выкопаў прэсленку, такі камень, ек колесцо вон, ім знахорова́лі.* Два-

рэц. *Та прэсленка — ек на маленькіх шчотах косточка, его звалі сухі ёд, вон хорошо ножом дзеўбаецца.* Запясочча.

У Тураве і на Тураўшчыне *прэслёнкі* знаходзілі ў зямлі. Іх выкарыстоўвалі як лекавы сродак або як талісман. *Прэслёнка* лёгка скрэблася нажом. Парашком з яе прысыпалі раны. Мужчыны насілі *прэслёнку* на ланцужку.

ПРЭСЛЁН *м.* Тое ж. Запясочча.

ПРЭ́СНЫ *прым.* 1. Не замёрзлы. *Цепер на прэсну землю снег упаў.* Аздамічы. *Бувае прэсна зіма, снегу богато упадзе.* Дварэц. 2. Прэсны, не квашаны. *Млінцэ прэсные пекуць.* В. Малешава.

ПРЭСНЯ́К *м.* Праснак. *Яка колісь була жызня — на обед прэсняк, а на вечэру і так* (прымаўка). Запясочча.

ПРЭЦЬ *незак.* Прэць. *Прэе збож, шчо пар стуль ідзе.* Бярэжцы. *Дзерэво загнойное бувае, так воно і прэе.* Пагост. *Прэюць ногі от гразі.* Запясочча.

ПРЭЦЬКОВЕ́ЦКІ *прым.* Старасвецкі. *Прэцковецкі дзед ловіў коліся лозянку ў лозе, за тэ нас і зовуць кыркуны.* Цераблічы.

ПРЭ́ЦЬКОВЕЦКІ *прысл.* Спрадвеку. *Прэцьковецкі на долу клалі огонь.* М. Малешава.

ПСІК *выкл.* Вокліч, якім адганяюць ката. *Псік, бодай ты выдох!* Тураў.

ПСЁЙКА *выкл.* Вокліч, якім падзываюць карову. *Псёйка, псёйка, пошла ў хлеў!* Сямігосцічы.

ПСОВА́ЦЦА *незак.* Псавацца. *Дзе удырыцца яблуко, там псуецца.* Старажоўцы.

ПСОВА́ЦЬ *незак.* Псаваць. *Стары вол борозны не псуе* (прыказка). Старажоўцы.

ПСТРЫ́КНУЦЬ *зак.* Пстрыкнуць. *Цепер свет пстрыкнуў і усе.* Дварэц.

ПСТРЫ́ЧКА *ж.* Пстрычка. *Дай ёй пстрычку у лоб!* М. Малешава.

ПСУ́ЙКА *ж. груб.* Падла, псіна. *Я б усіх етых псуек вугнала!* Запясочча.

ПСЯ́РНЯ *ж. зб.* Псярня. *От, кажэ, дзержыць цэлу псярню собак, нашчо воны ему?* Луткі.

ПТА́СТВО *н. зб.* Птаства, птушкі. *Весной у лесе птаства много.* Аздамічы. *Нема птаства — й нему лес.* Старажоўцы. *Мінуў спас — ужэ на небе доРожкі, ужэ птаство леціць у поўрэй.* Запясочча.

ПТА'ШКА *ж.* Птушка. *Пташкі лецяць у поўрэй.* Запясочча. *Пташка ў вокно б'ецца — госці будуць* (павер'е). Старажоўцы. *Рання пташка зубкі церэбіць, а позняя — очкі* (прыказка). Сямігосцічы. Памянш. п т а́ ш э ч к а. Запясочча.

ПТА'ШЫ'НЫ, ПТА'ШЧЫНЫ, ПТУШЧЫ'НЫ *прым.* Птушыны. *Пта́шчынэ кубло найшоў.* М. Малешава. *Птушчы́ны.* Там жа. △ Т о́ л ь к і п т а́ ш ы́ н о г о м о л о к а́ н е м а́. Пра вялікі дастатак. *Только не было пташыного молока.* Мачуль. *У бацька цепер пташыного молока нема онно.* Лутiкі.

ПТА'ШЭЧКА *ж.* Конская фігурка на тарцовых дошках саламянай страхі. Хотамель.

ПТУ'ШКА *ж.* Птушка. *А шыя доўжэлезная ў той птушкі.* Тураў. *Памянш.* п т у́ ш э ч к а. *Я ў ко́пі седзела, а птушэчка ціў-ціў, то я смело вулезла.* Сямурадцы.

ПУ'ГА *ж.* Пуга. *Тато, я вашу пугу возьму!* Лутiкі. *Сівого побольш пугою чвіґай!* Верасніца. *Памянш.* п у́ ж к а. Лутiкі.

ПУ'ГАЦЬ *незак.* Крычаць (пра пугача). *Пугач пугае у чэрэта́х.* Мачуль. *Пугач пугае, рогоз саджае* (жарт). Там жа.

ПУГА'Ч *м.* 1. Птушка бугай. *Пугач красноваты і дзюба веліка, у чэрэтах жыве.* В. Малешава. *Пугач ле́тае там, дзе росце рогоз і тогды кажуць, шо пугач саджае рогоз.* М. Малешава. 2. Пугач. *Пугач у бору, похожы на сову.* Хотамель.

ПУГО'ЎЕ *н.* Пугаўё. *Пугоўе гнуткое зробіў з дуба.* М. Малешава.

ПУД *м.* 1. Пуд, страх. *Ой, лю́дочкі, ой умірáю з пýду!* Аздамічы. *Серцэ мое с пуду чуць не розорвалосо, так я спужаласа.* Сямігосцічы. *Як льецца кроў з овечкі, то я з пуду кончаюса.* Там жа. *Старые бабы знаюць гэты пуд шэптаць, як спужаесса моцно.* Хачэнь. 2. Пуд (мера вагі). *Безмен на пуд, а ка́нтэр на шэсць пудоў.* Дварэц. *Это було, сказаць Вам, два пуды хлеба за пяць злотых.* Кароцічы. *Памянш.* п у́ д з і к. Хачэнь.

ПУ'ДЗВІЛО, ПУ'ДЗІЛО *н.* 1. Пудзіла. *Бувало, на гороб'е́ стаўлялі пудзвіло.* В. Малешава. 2 *перан.* Неахайнік. *Умуйса, пудзіло чо́ртово!* Верасніца. *На жонку, як яка нехлем'я́жа, кажуць пудзвіло.* В. Малешава. *То ж не дзіця, то пудзвіло!* Лутiкі.

ПУ'ДЗІЦЦА *незак.* Пудзіцца. *Корова пудзіцца.* Сямурадцы.

ПУ'ДКІ' *прым.* Палахлівы. *Такі ўжэ пўдкі, шо ўвечэры боіцца на порог вуйіці.* Верасніца. *Цецера нешчо́тне пудка́ пташка.* Мачуль. *Кожушок і плотка вельмі пудка́я, а карась і уюн не вельмі пудліва рыба.* Луткі.

ПУДЛІ'ВУ *прым.* Тое ж. *Дзед не особенно пудлівы.* Луткі. *О, бра, ты пудліві, Іван!* В. Малешава.

ПУ'ДРА *ж.* Вятроўнік вязалісты (ці лабазнік вязалісты). Хачэнь. *Памянш.* п у́ д р о ч к а. *От белое — гэто пудрочка. Ёго́ вужу бояцца.* Хачэнь.

ПУ'ДЭЛЬ *м. экспр.* Баязлівец, сарамлівец. Аздамічы.

ПУЖ *м.* Гарнастай. Альшаны. *Памянш.* п ы́ ж ы к. *Раншы дорогі буў пыжык.* Альшаны.

ПУЖА'ЙЛО *н.* Пудзіла. Альшаны.

ПУЖА'КА *ж.* Здань. *Я не подумала, шчо гэто пужака яка стоіць, да рву моло́чай на полянцы.* Сямігосцічы. *Нейка пужака, а коні як запрышуць!* Там жа.

ПУ'ЖАЛКА *ж.* 1. Пудзіла. *Така нехороша, ну пужалка!* Кароцічы. 2. Здань, прывід. *Пужалка на ўсе у нас кажуць, шоб ні показалос.* Луткі. *Не йдзець, дзеці, у огород, бо там пужалка!* Цераблічы. 3. Застрашванне на дзяцей. *Пужалкі булі на дзяцей.* Аздамічы.

ПУ'ЖАЛНО *н.* 1. Пугаўё. *У пугі е пужално і рэмень.* В. Малешава. *Пужално вурэзаюць з орэшыны да чэпляюць волочку на ёго́.* Верасніца. 2. Здань. *Ідзі, ідзі, мое дзіцятко, а там пужално седзіць да схопіць цебе.* Аздамічы.

ПУЖА'ЦЬ *незак.* Палохаць. *Дзе хто ўтопіцца, то казалі, пужае там.* Бярэжцы. *Да так мое навек ціплята пац пужае дай годзе.* Пагост. *Колісь русаўкою пужалі дзецей.* Запясочча.

ПУЖО'К *м.* Схованка для рыбы ў карме лодкі. *Набралі цэлы пужок рыбу.* Луткі. *У пужку ідзі сядзь, а я ў носку сяду.* Сямігосцічы.

ПУЖЫ'НА' *ж.* Пустое зерне (проса, канапель). *Вуп'юць вороб'е усе на свеці, одна пужы́на остаецца.* М. Малешава. *Возьмеш цэпом молоціць, то і пужыну́ ту вуб'еш с просянкі.* Цераблічы. Мякіна з проса. *У просі тые отходы зовуць пужына.* Луткі.

ПУЖЭЙЛО' *н.* Пуга. *Батуг — гэто пуга з доўгім пужэйлом і з короткім дзержалном, шчоб коней гоняць.* Сямігосцічы.

ПУЗА'ТЫ *прым. перан.* Пузаты. *Варэнікі такіе пузатые, шо рука гнецца, душа радуецца* (жарт). Стаaccording.

ПУЗА'Ч *м.* Пузан. *Пузач вон стаў, ковалок сала і булку хлеба з'едае.* М. Малешава.

ПУ'ЗДРА *мн.* Пазушныя поласці. *Попухлі пуздра ў коней, бо була вода.* Старажоўцы.

ПУЗЕ'Й *м.* Пузан. *От пузей, наедаецца, шо не повернецца с своім пузом!* М. Малешава.

ПУ'ЗО *м.* Пуза. *Багато наеўса меду, то грэй пузо, коб не болело.* В. Малешава. △ О т п у́ з а. Удосыць, уволю. *От пуза наéўса бы той рыбы.* Бярэжцы.

ПУЗЫ'Р *м.* Пузыр, пухір. Аздамічы.

ПУК *м.* 1. Пук (ільну, канапель, чароту, лазы і інш.). *Коноплі ў пукі ўяжом.* Запясочча. *Чэрэт у пукі ўязалі да сушылі.* М. Малешава. *Уязалі пукé з лозы і гацілі дорогу.* Сямігосцічы. *Пукі олешніку везалі і клалі на дно канавы.* Там жа. 2. Выпукласць, пукатасць. *Бочка дзелаецца пуком.* В. Малешава. *У пуку клепка выгінаецца.* Запясочча. *Памянш.* п у ч о́ к, п у ч э́ ч о к. М. Малешава.

ПУКА'ТЫ *прым.* Пукаты. *А серэдзіна носаткі пуката.* Лутmedian.

ПУ'КАЦЦА *незак.* Распуквацца. *Весною, ек будзе пукацца крушнік, то кульба́ка слаба́, весной з ёго́ не гнулі.* Верасніца.

ПУ'КЛЯ *ж.* 1. Кутас. *Пу́клі на поесе целепаюць.* Аздамічы. 2. Пампон у дзіцячай шапачцы. *Прышываюцца пуклі з лапікоў з двух бокоў шапочкі.* Альшаны.

ПУКНА'ТЫ *прым.* Пукаты. *Кому попаў загон вушэйшы, пукначэ́йшы, то ў того добрые картоплі.* Чэрнічы.

ПУКОВА'ТЫ *прым.* Тое ж. *Бочка посерэ́дзіне пуковата.* Аздамічы.

ПУ'КОВОДЗЬ *ж.* Разуха-асака. *Пуководзь росце на купінах.* Цераблічы.

ПУЛ *м.* Пыл. *Пул стоўпом подняўса.* Верасніца. *Воны з песком, з пулом, тые зе́рнеты.* Кароцічы. *Суховей пыл несе.* Альшаны. *Напа́дало пілу — ў бердзе цесно.* Крэмна.

ПУЛЕНЯ' *н.* Кураня. Сямігосцічы.

ПУЛЕ'Ц *м.* Пылок. Велямічы.

ПУЛЕ'ЧА *ж.* Пылішча. *Пулеча така, шчо нічого не відно!* Лутmedian.

ПУЛІ'НА *ж.* Пыліна. *Пыліна на пыліні не улежыла у хаці, так усе перэвернулі, шукалі усе.* Запясочча.

ПУЛІ'ЦЬ *незак.* Пыліць. *Снежок пыліў свéжэнькі.* Аздамічы.

ПУЛІ'ШЧЭ *н.* Пылішча. *Але й пулішчэ на вуліцы перэд дожджэм!* Луткі.

ПУЛНО'ТА *ж.* Тое ж. *От пулнота, шо нельзя гледзець!* Бярэжцы.

ПУЛО'ТА *ж.* Тое ж. *Да пулота така, шо дыхаць нема чым!* М. Малешава.

ПУЛЬ-ПУЛЬ-ПУЛЬ *выкл.* Выгукі, якімі падзываюць куранят. *Му маленькіх зовом пуленят пуль-пуль-пуль.* Сямігосцічы.

ПУЛЮГА' *ж.* Пылішча. *Хоць гэта пулюга ў вочы лецець не будзе.* Цераблічы.

ПУЛЯ'КА *ж.* Тое ж. *Даўно дождж не ішоў і на вуліцы пыля́ка.* М. Малешава.

ПУ'НДЭЛЬ, ПУ'НДЗЕЛЬ *м.* Звязка льну. *Коб петнанцаць ладок, а ў ладцы по дзве жмені того лёну, то добры будзе пундэль.* Старажоўцы. *Побіла, потрэпала да разом колько трэпок звязала — пундзель е.* Пагост.

ПУ'НЯ *ж. экспр.* Маленькая хатка. Дварэц.

ПУП *м.* Пуп. *Дзе пуп отрэзалі, туды і цягне.* Старажоўцы. *У том бродзіку воды по пупа́ будзе.* М. Малешава. △ Б р а́ ц ь на п у́ п. Перанапружвацца. *Лёгенько прожыў Панас, на пупа ніколі не браў.* М. Малешава. З а ў я з а́ ц ь н а п у́ п і. Спыніць у зародку. *Нехай ёму́ ка́зано, хай ёму́ на пу́пі заўязано!* (прыгаворка). Запясочча. *Памянш.* п у п о́ к. Старажоўцы. △ С м о к т а́ ц ь п у п к а́. Адчуваць тупы, ныючы боль. *Ек плоха коса, то добрэ пупка смокчэ.* Старажоўцы.

ПУ'ПА *ж.* Вада (у размове з дзецьмі). *Не плач, я дам пупу.* Запясочча.

ПУ'ПАХ 1. Пупышка. *Пупахі розвіваюцца на ветлі.* Дварэц. 2. Коцік. *Пупахі параць оле́ховые, ек понос у целяці.* Луткі. 3. Кутас. *Шапочку пошыла і пупах посадзіла зверху.* Цераблічы.

ПУ'ПАХА *ж.* Тое ж. *Ека позня весна у етом году — май, а пупахі шчэ не роспу́кнуліса.* Пагост.

ПУПА'Ч *м.* Грыб пеўнік стракаты. *Пупач зверху такі жоўценькі, а знізу мошок у ёго́.* Пагост.

ПУ'ПА'ШКА *ж.* 1. Пупышка. *Пу́пашка веліка, скоро весна.* Тураў. *Пу́пашкі на лозе будуць росцвіва́ць.* Цераблічы. *У мое дочкі вазон е, цвіце, много пупошо́к на ём.* Там жа. 2. Сасок. *Пу́пашку дзіцятко бэрэ у рот.* Аздамічы. *Памянш.* п у п у́ ш э ч к а, п у п а́ ш э ч к а. *Слівам доставаласа от морозу, як булі ў пупа́шэчках.* Сямурадцы.

ПУ'ПЕЛЬ *м.* Маленькі трактар. Запясочча.

ПУ'ПЕ'Ц *м.* 1. Пуп у птушак. *У курыцы і ў гусі е пупе́ц.* Запясочча. 2. Нараст, нарасць. *Як вуросце на якой булiнi гула, то кажуць пу́пец.* Сямігосцічы. 3. Кутас. *Пу́пец на шапцы е.* Сямігосцічы.

ПУ'ПЛІК *м.* 1. Гузік у кажусе. *У кожусе пуплік везалі, коб кожуха зашчэпіць.* Хотамель. 2. Пупок, выступ. *Возьмі за пупліка да отчыні скрыньку!* Хотамель.

ПУ'ПНІЦЦА *незак.* Корпацца, марудзіць. *Пупніцца коло дома помаленьку, нідзе не переріваецца, шо ж ёй здороўя не мацъ!* Пагост. *Утрох пу́пняцца дзень і не могуць управіцца.* Верасніца.

ПУ'ПНІЦЬ *незак.* Тое ж. *Скорэй, шо ты там доўго пупніш?* Цераблічы.

ПУ'ПНЯ, ПУ'ПНА *ж.* Маруда. *Пупня робіць, ек мокрое горыць.* Верасніца. *Ну і пупня, одну роботу дзень робіць.* М. Малешава. *Пу́пна.* Тураў.

ПУПО'ВІНА *ж.* Пупавіна. Хачэнь. *Памянш.* пупо́вінка. *Шчэ й пуповінка не отсо́хло у того целя́тка.* М. Малешава.

ПУРГА' *ж.* Завея. *А пурга, а снег!* Бярэжцы. *Песок буў, пурга поля задувала.* Хільчыцы.

ПУ'Р'Е *н. зб.* Пырнік. *Пур'е зовом, ек много пу́рэю росце.* Запясочча.

ПУ'РЗНУЦЬ *зак.* Пырснуць, моцна паліцца. *Пурзнула кроў з тое жылы.* Пагост.

ПУР'І'НА *ж.* Адно сцябло пырніку. *Нема ні пур'іны, чысто поўпа́лвалі поле.* Хачэнь.

ПУРНУ'ЦЬ *зак.* Шпурнуць. *Пурну́ў корца́.* Мачуль.

ПУ'РНЫ *прым.* Пульхны. *От пурного хлеба спекла, хорошэго, поно́здрэного!* Луткі. *Потоўко́м жо́луд да ужэ ёго́ озьмом месім так, ек і хлеб, заквашваем, то цесто пу́рнэ, пурнэ.* Бярэжцы. *Пурна така котлета.* Дварэц.

ПУРШЭ'ЦЬ *незак.* Чмыхаць, злоснічаць. *Пыршыць, шо той кот.* Пагост. *Пыршыць под нос, шо з нішчымным перэйшла дорогу.* Там жа.

ПУ'РЭЙ *м.* Пырнік. *Пурэй коржысты, у ёго́ корэнье бе́лэ, тоненьке, воно куста́стэ.* М. Малешава.

ПУСКА'ЦЬ *незак.* Пускаць. *Колісь пускалі под корову целя.* Сямурадцы. *Чорне́ньке, мале́ньке ў хату не пускае* (загадка). *Замо́к* (адгадка). Старажоўцы. 2. Адлягаць, спадаць (пра мароз). *Ужэ пускае, лёд не такі моцны.* Верасніца. △ Пуска́ць слу́х. Распускаць чуткі. *А шо ты пускаеш слух про самух?* Старажоўцы.

Хо́ць за ве́тром пуска́й. Пра страшэнна схуднелага, змарнелага. *Высушать вутенята куру, шо хоть за ветром пускай.* Рубель.

ПУ′СТКА *ж.* Пустка. *Пусткі давалі под банк.* Цераблічы. *Ты ідзеш, то ніколі, Адам, не зачыніш сене́й, як у пустку.* Кароцічы.

ПУ′СТО *прысл.* Пуста. *У его косы доўгіе, да ў голове пусто.* Хачэнь. △ На́ пусто. Дрэнна, на згубу. *От тобе на́ горэ да на́ пусто!* (праклён). Луткі. За пу́сто. Дарэмна, танна, дзёшава. *У гэтум годзе ў колхозі мешок яблук возьмеш і ўсе за пусто.* Дварэц.

ПУСТОВА′ЦЬ *незак.* Пуставаць. *Добры хозяін, то свое поле обробіць і чужэе, а як негодзяй, то й свое пустуе.* М. Малешава.

ПУСТОМЕ′ЛЯ *ж.* Пустамалот. *Іван пустомеля, бо нагомоніць, а ўсе бестолку.* Верасніца.

ПУСТО′ПАШ *ж.* △ У пусто́паш. 1. На самапас. *Ай, я пусціў коні у пустопаш, нехай ідуць куды хочуць.* Аздамічы. 2. У распусту, блуд. *Пусціласа у пустопаш дзеўка.* М. Малешава.

ПУСТОСМЕ′Х *м.* Пустасмех. *Той, шчо вельмі смеіцца, то пустосмех.* Кароцічы.

ПУСТО′ТА *ж. метаф.* Пусты, легкадумны чалавек. *Хіба й не бачыла ты ёго́, той пустоты!* Аздамічы.

ПУСТОЦВЕ′Т *м.* Пустацвет. *Вельмо богато пустоцвету на гурках.* Луткі. *Як чысто небо, то будзе пустоцвету* (у час пасеву). Старажоўцы.

Паводле павер'я, каб было больш агуркоў, то зрываюць гэты *пустоцвет* і кідаюць *под овечкі да шчоб овечкі перэйшлі, то гуркі будуць росці.* Луткі.

ПУСТЫ′ *прым.* 1. Благі, кепскі, дрэнны. *Дзе яке поле пустэе, нізке, то там одзін куко́ль рос.* Хачэнь. *Короўка блага́, пуста́.* Запясочча. *Пуста трава, то ее худоба не есць.* Бярэжцы. *Берэзнік на болоці пусты.* Пагост. *Раз ву́дзілно поцяг, то значыць не пусты буў карась.* Луткі. *Пусты чоловек — леніву да бо яка п'яніца.* Там жа. *Тут пушчэйшые картоплі, воны ешчэ ростуць.* Чэрнічы. 2. Пусты. *Пусты боршч — это як пшона́ нема.* В. Малешава. *Меле, ек пусты млін.* Сямурадцы. *Памянш.* пусце́нькі. *Як добра полушка, то двацацъ гусей, а ек така пусенька, то меней.* Дварэц.

ПУСТЫ′НЯ *ж.* 1. Некранутая мясціна. *Пушча — дзе пустыня, дзе не ходзяць, дзе не пашуць, дзе однэ зверы́.* Аздамічы. Пустка. *Пустыня, як ее не гноі, нічого не*

*дасць.* Запясочча. 2 *перан.* Пустадомак. *От пустыня, нічого не дбае!* Луткі.

ПУСТЫ'РНІК *м.* Чорны паслён. Запясочча.

ПУСТЭ'ЧА, ПУСЦЕ'ЧА *ж.* Пусты, бяздумны чалавек. *Знаеш, шчо за пустэча гэтые хлопчакі!* Сямігосціч. *Як дзеўка роспусціцца, не берэжэ себе, то кажуць — пустэча, іс пустэч пустэча!* М. Малешава.

ПУСЦЕ'ЛЬНІЦА *ж.* Пустадомка. *Пусцельніца, як вона йшчэ й маецца?* Аздамічы.

ПУСЦІ'ЦЦА *зак.* 1. Пусціцца. *Куды ты пусціласа?* М. Малешава. 2 *перан.* Апусціцца. *Пусціўса ўніз за водою, не слухае ні бацька, ні мацер, пусціўса на нет!* Верасніца.

ПУСЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Пусціць. *Не пусцілі воды прыбутнóе, ек зробілі дамбу.* Цераблічы. *Той конюшка ужэ узяў собе да пусціў ёгó на пашу. Бах! Узяў да на Петра воўк з'еў того конюшкá.* В. Малешава. *Пусці, баба, корэньчыка до самого белёньчыка. Так бабу прыговорваюць, ек гускі рвуць.* Цераблічы. *Чорта хрысці, а вон кажэ пусці!* (прыказка). Мачуль. 2. Адвесці. *У пáрыніну пусцілі ту полянку.* Аздамічы. 3. Адліжыць. *Нéек була зіма пусціла.* Цераблічы. 4. Дазволіць быць, знаходзіцца. *Толькі наша баба пусціць, больш ніхто у подсýседзі не пусціць.* Бярэжцы.

ПУТА'ЦЦА *незак.* Пытацца. *А той вýголодзіўса, прышоў і путаецца: дзе кашка?* В. Малешава. *На від глядзя здороўя путáйса* (прымаўка). Запясочча. *Ека сем'я, такі й товар* (прыказка). В. Малешава. *Шо Вас буду пытацца, дзеду.* Рубель.

ПУ'ТАЦЬ *незак.* 1. Путаць. *Путаюць корову, ек брыкаецца.* Хачэнь. *Вон коня не путаў зроду.* Чэрнічы. 2. Пятляць. *Путаў бы за свінямі одзін.* Альгомель.

ПУТА'ЦЬ *незак.* Пытаць. *Ай, не путай про шчасце!* Тураў. *Не путай стáрого, да бувáлого* (прымаўка). Запясочча. *Есці ў негóжого путаюць, а здоровому даюць* (прымаўка). Аздамічы.

ПУТЛЁВАНКА *ж.* Пытляванка. *На Рыччы млін такій, шо робіць муку путлёванку.* Тураў.

ПУТЛЁВАНЫ *прым.* Пытляваны. Луткі.

ПУТЛЁЎКА *ж.* Пытляванка. *Цепер у нас млін і на просты помол і на путлёўку.* Запясочча.

ПУ'ТНЫ' *прым.* 1. Варты, добры, каштоўны. *У чэхоні нічого нема пýтного для еды.* Верасніца. 2. Путны. *Добрэ, шо воны розумные, путные дзеці.* Любавічы.

ПУ'ТНЯ *ж.* Лыка ці лазовая кара для падплятання лапцей. *Путня под п'яту́ ужэ готова.* Запясочча.

ПУТНЯ' *ж.* Скрутак накроеных лык. Запясочча. *Памянш.* пуцéнька. *Пуценька, бы гурок, так лозу́ круцілі.* Хотамель.

ПУ'ТО *н.* Пута. *Е качальнік з тоўстымі корэня́мі; его рвалі до Купального Івана і з іх робілі пута.* Дварэц. △ Пу́то розрэ́зваць. Адзначыць пачатак хадзьбы дзіцяці. Хачэнь.

Існаваў звычай праводзіць у паветры накрыж нажом перад нагамі дзіцяці, якое пачынала хадзіць. Як пойдзе дзіця, *то розрэзваюць путо ножэм.* Хачэнь.

ПУ'ТОЎКА *ж.* △ Немá пу́тоўкі. Пра адсутнасць карысці, выніку. *А та жонка ек хворэла, то й хворэе, путоўкі нема от тое оброкі.* В. Малешава.

ПУ'ТРА *ж.,* ПУ'ТРО *н.* Саладуха. Альгомель. *Пу́тро.* Альшаны.

ПУХ *м.* Пер'е. *Гэто пух, у нас пер'е не кажуць.* Луткі. △ Пу́хом лецéць. Вельмі хутка бегчы. *Ужэ мо пухом лецеў бу, коб цебе позвалі.* М. Малешава.

ПУХА' *ж.* 1. Тупы канец яйца. *Бі пухою, мо моцнейшэ!* Азяраны. 2. Задняя частка ў лодцы. Запясочча. △ Добíцца пухí. Давесці справу да канца. Хачэнь. Добíць до пухí. Даламаць, прывесці ў непрыгоднасць. Цераблічы.

ПУ'ХАЛО *н.* Сапун. *А вон пухало, онно наесца да пухае.* Дварэц.

ПУ'ХКАЦЬ *незак.* Пыхкаць. *Вот ідзе вон, пухкае да ідзе.* Хачэнь.

ПУХКІ' *прым.* 1. Пульхны, мяккі. *От, жонко, я цепер собе хлеб спекла пухкі да смачны.* Цераблічы. *От земля пухкая!* Мачуль. 2. Дрыгвісты. *Пухке було болото, шо под рукі потанеш.* Запясочча.

ПУХЛО' *н.* Дрыгва, багністае месца. *Пухло, готоў туды шамнуць і потаць!* Старажоўцы.

ПУ'ХЛЫ *прым.* Апухлы. *Булі колісь людзі пухлые од голоду.* Верасніца. *Так і жыве такі пухлы палец.* Луткі.

ПУ'ХЛЯ *ж.* Пухліна. *Коб на его пухля нашла!* Хотамель.

ПУХЛЯ'К *м. перан.* Азызлы чалавек. *Бацько его ужэ пухляк.* В. Малешава.

ПУ'ХНУЦЬ *незак.* 1. Пухнуць. *Нога пухне, ек поганы ўкусіць, ек колода стане.* Луткі. 2 *перан.* Спаць. *Як то так жыць? Дзень-дзеньскі пухне ў посцелі!* Верасніца.

ПУХОВА́ТЫ *прым.* Пульхнаваты. *Грыбоў цвет весной росце. Такіе пуховатые.* Мачуль.

ПУЦ *м.* Калун, вялікая і цяжкая сякера. *Пуц — цежола сокера, можэ й тупая, шчоб дзерэво росколоць, а цепэр кажуць колун.* Бярэжцы.

ПУЦЬ *м.* Пуцявіна, пуціна, жыццёвы шлях. *Пойду у пуць, дзе горэлку п'юць* (прымаўка). Запясочча. *Шчасліва хай вам будзе пуць!* Там жа.

ПУ́Ч'Е *н. зб.* Пукі. *Вяжуць лозу у пуч'е да запруджваюць.* Пагост.

ПУ́ЧКА *ж.* 1. Падушачка (на пальцы). *Зімою пошла праць шмацье да померзлі пучкі от воды.* Цераблічы. *Отморозіў пучку на пальцы.* Кароцічы. *Порося з пучку.* Запясочча. 2 Шчопаць. *Дай пучку солі!* Альпень.

ПУЧКОВА́ЦЬ *незак.* Укладваць пучкі саломы на першы рад страхі. Дварэц.

ПУША́К *м.* Катах рагозу. Запясочча.

ПУ́ШАЛО *н.* Рагоз. *Пушало з чэрэту выдзеляецца.* Альпень.

ПУ́Ш'Е *н. зб.* Пер'е. *Воробей трохі екого пуш'я наносіць і жыве.* Хачэнь.

ПУ́ШКА *ж.* 1. Падушачка (на пальцах). *Бало, пушкі пооблазяць прадучы.* М. Малешава. 2. Пушка, каробка. *Коліся казалі купіў пушку сернік, а зара — коробку спічок.* Луткі. *Пустою пушкою ў скакалку не погуляеш, подскаквае да коціцца, тре сырое землé набраць у ее.* Пагост. 3. Шчопаць. *У пушку возьмі солі!* Сямігосцічы.

ПУ́ШКАЦЬ *незак.* 1. Пыхцець. *От такіе удушлівые людзі ледзь пушкаюць.* Хачэнь. 2. Пыхкаць. *Подходзіць хлеб да пушкае.* Дварэц. *Дрова сырые, пушкаюць.* Луткі.

ПУ́ШКНУЦЬ *зак.* Шыкнуць. *Як ступіш на капшука, вон як пушкне!* Мачуль.

ПУ́ШКОРЫЦЦА *незак.* Шамацець. *Чого ты пушкорысса ў своіх бумагах.* Старажоўцы.

ПУШКОЦЕ́ЦЬ *незак.* Пыхцець. Хачэнь.

ПУ́ШНЫ *прым.* Пульхны, мяккі. *Пушны пірог, одные ноздры.* М. Малешава.

ПУШО́К *м.* 1. Бусельнік (лугавая расліна). Аздамічы. 2. Падвей многакаласковы (балотная расліна). Аздамічы.

ПУ́ШЧА *ж.* 1. Пушча, вялікі лес. *У нас жэ пушча така, шчо краю не мае.* Велямічы. 2. Гушчар. *Пушча — то такі лес, ні выбрэдзеш, ні вылезеш, там і вол не пробажыць.* Мачуль. △ Х а́ й н а п у́ ш ч у й д з е́. Засцера-

гальны выраз. *Хай на пушчу оно йдзе, тэе ліхо!* Запясоччa.

ПУШЧЫ'НЫ *мн.* Смецце, амецце. Хотамель.

ПУШЫ'ЛО *н.* Катах рагозу. *Тэ кіяхі, шо пушацца, то пушыло.* Сямігосцічы.

ПУШЫ'НА *ж.* Пяро. *От пушына веліка ў того пеўня!* В. Малешава. *Поплавок з пушыны зробіў дзед.* М. Малешава. *Памянш.* пушы́нка. *Лёгкэ, ек пушынка.* Хотамель. *Пушынкі ў пеўня ма́хінные.* Хільчыцы.

ПУШЫ'СТЫ *прым.* Пушысты. *У мене булі косы пушыстые на ўсе село, такіх кос не було ў селе.* В. Малешава.

ПУШЫ'ЦЬ *незак.* 1. Абсыпаць пухам. *Буяхі — такіе тоўкачэ на рогозі, да вусушы, то добро дзевок пушыць.* Кароцічы. 2. Пушыць. *Кіслого молока з картоплямі з'еў да от жывота пушыць.* Пагост.

ПХА'ЦЦА *незак.* Штурхацца. *Горэлочка, не пхайса, ек я цебе не пхаю!* (жарт). Сямігосцічы.

ПХАЦЬ *незак.* 1. Штурхаць. *Пхай ногамі — коціцца, бі шарык, а ўкінь у воду, то еж розгорнецца.* Сямігосцічы. *Не чорт бацька з печы пхаў — сам упаў* (прымаўка). Аздамічы. 2. Соваць. *Дзіця кота за мусу і ў очы пхае пальцамі.* Луткі. *Пхай по сцене ему то бервено!* М. Малешава.

ПХЕНУ'ЦЬ *зак.* Штурхнуць. *Ох, мамонько, шо так нас моценько пхенуло!* Хачэнь.

ПХІ'МКАЦЬ *незак.* Хныкаць. *Плачэ да пхімкае дзіця, нешчо конозіцца.* Любавічы.

ПХНУЦЬ *зак.* Штурхнуць. *Як пхну цебе, то і полеціш!* Старажоўцы. *А вон узяў да того чігунчіка ногою ек пхнуў!* Бярэжцы.

ПЧОЛА' *ж.* Пчала. *Як гледзіць пчолы да не дасць меду, то кажуць, вуверні кішэню, то вуверну цца ему пчолы з вулья.* Старажоўцы. *От жыве, ек пчола ў меду.* Там жа. *Пчола ў пчолы не позычае, а з голоду здыхае* (прыказка). Мачуль.

ПЧОЛО'ВУ *прым.* Пчаліны. *У чэрушэчках мед пчоловы.* Дварэц.

ПЧОЛЯ'Р *м.* Пчаляр. *Пчоляр, дайце меду!* Цераблічы.

ПШОНО' *н.* Прасяныя крупы. *А пшоно ж сыпалі, як прыварок.* Пагост. *А пшоно однэ у однэ, хоць у голку ніжы!* Верасніца.

ПШОНЯ'НЫ *прым.* Прасяны. *Звары кулеш пшоняны* (пра суп з прасяных круп). Хотамель.

ПШЭ-ПШЭ-ПШЭ, ПШЭЙ-ПШЭЙ-ПШЭЙ *выкл.* Выгукі, якімі падзываюць карову. Запясочча.

ПШЭ'ЙКА *ж. экспр.* Карова. *Ксё-ксё, пшэйка, не бойс, ходзі!* Цераблічы. *Пшэйка зовом, бо подзываём пшэйка-пшэйка-пшэйка. То вона йдзе к голосу, прывукла й йдзе.* М. Малешава. *Памянш.* п ш э́ е ч к а-п ш э́ е ч к а. М. Малешава.

ПШЭНІ'ЦА *ж.* Пшаніца. *Мошка бувае покуль пшэніца высыпае, а после гіне* (прыкмета). Любавічы. △ Я р а п ш э н і ц а. Пшаніца вясенняга пасеву. Хотамель. О з í м а п ш э н í ц а. Пшаніца асенняга пасеву. Мачуль. С п á ц ь, я к п ш э н í ц у п р о д á ў. Знаходзіцца ў стане моцнага сну. Старажоўцы.

ПШЭНІ'ЧНІШЧЭ, ПШЭНІ'ЧНЫШЧА, ПШЭНІ'ШНІШЧА, ПШЭНІ'ШЫШЧЭ *н.* Поле, дзе расла пшаніца. *На пшанічнішчы лён добрэ росце.* Верасніца. *Пшэнічнышча.* Аздамічы. *Пшэнішнішча.* Верасніца. *Пшэнíшышчэ.* Мачуль.

ПШЭНІ'ЧНЫ, ПШЭНІ'ЧНІ, ПШЭНІ'ШНЫ *прым.* Пшанічны. *Пшэнішна мекіна коровам хороша.* Луткі. *Пшэнічні.* Цераблічы.

П'Я'ДЗЯ, П'ЯДЗЬ *ж.* Пядзя (старая мера даўжыні). *Сало на п'ядзь.* Запясочча. *П'ядзя.* Альшаны.

П'Я'ЛО *н.* 1. Трыножка (для калыскі на полі). Аздамічы. *Трэба п'яла несці на поле, да воду, да колыбель.* М. Малешава. 2. Распорка. *Гэто п'яло, на ём роспінаюць шкуру.* Верасніца. △ П я́ л і ц ь п я́ л я. Вытарашчваць вочы. *Дзе сварка, бойка, то й вона там, пяліць свое пяля.* Пагост. *Жонаты, а на дзевок свое пяля пяліць.* Там жа.

П'Я'ЛЦЫ *мн.* Пяльцы. *Ек дзеўка водзікі водзіць, то ў ее е і п'ялцы.* Луткі.

П'ЯНЕ'ЗНЫ *прым. экспр.* Вельмі п'яны. *Ідзе п'яны, п'янезны!* Пагост.

П'Я'НІЦА *м.* і *ж.* П'яніца. *А п'яніца ека, то п'е і нічого не мае.* Старажоўцы. *Як жонка п'яніца, то розвальніца* (прымаўка). Там жа.

П'Я'НЫ' *прым.* П'яны. *П'я́ных розумных мало.* Сямігосцічы. *Узеліса коло Лексы Маркоўны, ек п'яны́ коло плоту.* Старажоўцы.

П'ЯНЮ'ШЧЫ *прым.* Вельмі п'яны. *Прыехаў п'янюшчы дзед і повёўса ўкóсікі.* Цераблічы.

П'Я'ТКА *ж.* Пята. *У косы п'ятка е.* Цераблічы. Шырэйшая частка верацяна. Лутtкі. Ніз выемкі ў шуле. Запясочча.

П'Я'ТНІЦА *ж.* Пятніца. *Булі бабу такіе, шо воны не елі ў пятніцу, а воду пілі.* Старажоўцы. △ Велікóдна п'ятніца, веліка п'ятніца. Пятніца перад вялікаднем. Запясочча.

П'Я'ТРО *н.* Пустата пад вісячым ільдом на вадаёмах. *От ек вода у доліні вумерзне, а лёд вісіць, то тое й п'ятра.* Верасніца. *Ужэ рыба не здохне, ужэ п'ятро е, е дыханье.* Мачуль. *Скольki п'ятроў на лёду, стольki раз вода будзе прыбываць на году* (прыкмета). Аздамічы. *Скольki п'ятра ўвосень, то стольki воды поверх п'ятра весною* (прыкмета). Хачэнь.

П'Я'ТЫ *ліч.* Пяты. *Еду, еду по п'ятую, судзі, божэ, по дзесятую* (прыгаворка). Старажоўцы. *Пятого дня ўжэ спас, шчо яблука свецяць.* Кароцічы.

П'Я'ЎКА *ж.* Скаба. *П'яўкамі прысцегваюць сцену, шоб не росходзіліса полена, а ў лодцы — шоб не росходзіліса доскі.* Сямурадцы.

П'Я'ЦЦА *незак.* Пнуцца. *Понасыпалі гэтые дурніцы махіные мешкі, пнуцца, колько іх е.* Луткі. *Ек болі беруть, то пніс!* Альпень.

П'ЯЦЬ *ліч.* Пяць. *З пецьмá дзецьмі зосталаса жонка і горуе.* М. Малешава. *Іх було п'яцёх на рэцэ, вудзілі рыбу.* Луткі. *Пяцьма одного вуцягалі трактора.* Там жа. *Мы булі п'яць год у подсуседах.* В. Малешава.

# Р

РАБ *м.* Той, хто водзіць у гульні *ў рáба.* △ У рáба. Гульня, падобная да гульні ў квача; варыянты гульні: *у прóстого рáба, у дзерэўяного рáба* (калі нельга пляміць таго, хто трымаецца за дрэва), *у жэлёзного рáба* (калі нельга пляміць таго, хто трымаецца за жалеза) і інш. Пагост. Раб лісáвы. Пра няшчырага, лісліваrа. *Лісáвіш, умееш лісáвіц, раб лісавы.* Запясочча.

РАБА'ТЫ *прым.* Рабы, пярэсты. *То та гáдзіна рабата.* Хачэнь. *Наша рабатая корова лушпайкі есць.* Дварэц.

РАБА'ЦЬ *незак.* Памінаць памёршых з амбона, чытаць памінальныя спіскі. *Бáцюшка рабáе ґраматкі, ужэ почаў рабаць покойнікоў.* Запясочча.

РАБЕНІ'ЦА *ж.* Сорт вялікіх груш. *Рабеніцы — дýлі лóўкіе.* М. Малешава.

РАБІ'НА *ж.* Рабіна. *Тáмэка і малíны, тáмэка і ожы́ны, тамэка і рабіны ў тым лесе.* Хачэнь. *Жукоў, як на рабіні я́год.* Запясочча. *Рабіну шыпакáмі зрывалі.* Луткі. *Робіна ў нас не росте.* Альпень. *Як рабіна зародзіць, шо гольé гнецца, то будзе гразí багато* (прыкмета). Цераблічы.

РАБІ'НКА *ж.* Расліна дуброўка. *Лапчáтка зовецца ў кнігах, а мы рабінка кажэм на ёгó.* Хачэнь.

РАБІ'НОВУ, РАБІ'НЫ *прым.* △ Рабінова (рабіна) ноч. Навальнічная ноч у канцы лета. *Рабінова ноч росходзілаcа.* Верасніца. *Рабінова ноч була, грымело безугáву.* Любавічы. *Рабіна ноч.* Запясочча.

РА'БКА *ж.* 1. Самка рабчыка. Запясочча. *Памянш.* рáбочка. Запясочча. 2. Плямістая карова. М. Малешава. 3. Аса. *Рябка.* Альшаны.

РАБО'К *м.* Рабчык. *Рабок — нежная пташка.* Мачуль.

РАБОЦЕ'НЬЕ, РАБОЦІ'НЬЕ *н. зб.* Рабацінне; воспіны. *Ек лáстоўчынэ кублó хто скіне, то кажуць, будзе рабоценье.* Луткі. *Ек берэш ластоўчыны яйца, то у нас говорáць, шчо рабоценье будзе.* Там жа. *Бувае на відý робоценье — як убачыш першу ластоўку, то трэбо ўмывацца, коб не було робоценья.* Цераблічы. *Робоцінье от воспы і от птаства: колі скідáе кубло, да на кого попадзе, то й робоцінье робіцца.* Аздамічы. *На твоём віду рабоцінье, бы чорты́ горох молоцілі.* Альшаны. △ Ластовéчее (лáсточкіно) рабоцéнье. Рабацінне ад ластавак (згодна з павер'ем). *Уб'еш ластоўку, то будзе рабоцінье ластовечее.* Старажоўцы. *От ласточкіного рабоценья у его багато.* Запясочча.

РАБОЦІ'НА *ж.* Вяснушка. *Рабоціны по кóдлу е.* Сямурадцы.

РАБО'ЦЬКО *м.* Рабы чалавек. Верасніца.

РА'БУ' *прым.* 1. Рабы, пярэсты, плямісты. *Вулезлí тые немцы ў рабýм* (у маскхалатах). Запясочча. *Е кóньскіе п'еўгі, рабы́е такіе, а свойскіе булі чорные.* Хачэнь. *Рабі кабан картоплі порыў і посохлі.* В. Малешава. *Рябы́ конь.* Альшаны. *Рáбу вуж. Ребá корова.* Тураў. *Е íбут, плечы рабы́е, половý.* Цераблічы. 2. З рабацінем; вас-

паваты. *Від вельмо рабы́.* Альпень. *А ў кого оспа була, то рабу́.* М. Малешава. △ Р а б а́ к а ш а. Пра кашу з недатоўчанага проса. *Раба каша казалі, як е рабе́е ў кашы, недото́ўчэнэ просо або косцерэ́ва, вона не тоўчэ́цца.* М. Малешава.

РАБУ'ЛЯ *ж.* Рабая або пярэстая карова. *Наша рабуля рыка́е, подоіцца хочэ ўжэ.* Луткі.

РАБУ'ШКА *ж.* Спецыяльны абруч з кары, абшыты тканінай, да якога прымацоўвалася намітка ў якасці святочнага галаўнога ўбору замужняй жанчыны. *Рабушка.* Запясочча. *З бересціны обруча́ зробяць да на го́лоў надзеваюць, то рябушка казалі.* Пагост.

РА'БЧЫК *м.* 1. Рабчык. *Рабчык под цецеру трошкі подходзіц.* Запясочча. 2. Пакаёвая кветка з пярэстымі лісточкамі. Запясочча.

РАГІ'НЯ *ж.* Вяргіня. Мачуль.

РАД *м.* 1. Рад. *Вон мо ў селе сем радо́ў ідзе?* Хачэнь. 2. Валок скошанага сена. *Тые го́ды перэд тройцою косілі, да рады́ ўжэ лежалі.* Цераблічы. △ У р а д ы́. Ткацкі ўзор. *Ткалі ў рады, у чотыры ніты на настольніцы, на ўціральнікі.* Верасніца. Р а д ы́ ў г о д ы́. Рэдка, вельмі рэдка. *Рады ў годы вуп'ю і больш не п'ю.* Луткі. *От, рады у годы я сюды́ ухо́джваю.* Сямурадцы.

РА'ДА *ж.* Нарада родных і сваякоў. *Наша рада — собра́ліса й поговорылі.* Хотамель. *Круго́м своя рада і пора́да* (прымаўка). Хачэнь. *Памянш.* р а́ д о ч к а. Запясочча. △ Д а ц ь (д а ц ц а) р а́ д ы. Справіцца, адолець. *Мо нейкую раду ім далі́ б?* М. Малешава. *Жукоў розвелосо і рады не можны даць.* Цераблічы. *Не можно рады даць, мурашкі по ўсей хаце розышліса.* Дварэц. *Рады дацца не можно.* Запясочча. Д а ц ь д о б р о й р а д ы. Дапамагчы. *Доктор дасць доброй рады.* Хотамель. Н е м а р а д ы (р а д о ч к і). Пра бязвыхаднае, роспачнае становішча. *Прышла домоў да голошу́, що нема радочкі!* Запясочча.

РА'ДЗІ *прысл.* Дзеля, з-за, для. *Радзі дочкі корову дзержу.* Луткі.

РАДЗІО'ЛУС *м.* Гладыёлус. Д.-Гарадок.

РАДЗІ'ЦЦА *незак.* Прыбірацца, апранацца. *Ра́дзіцца, стро́іцца молоды на веселье, нарады накладае, ура́джваецца.* Луткі. *От, дзеўкі, одно б гулялі да радзіліса.* М. Малешава. *Було нара́д такі, радзіліса ў гэто.* Кароцічы. *Под поес з воўны і мы радзіліса.* Цераблічы.

РАДЗІ'ЦЬ *незак.* Прыбіраць, упрыгожваць. *Ра́дзяць*

*невесту.* М. Малешава. *Её гром забіў, а я прышла ее радзіць.* В. Малешава. *Вы собе хаты рáдзіце?* Запясочча. *Радзілі скрыпку на веселы.* Хачэнь. *Як жэніцца, то эту свечку радзяць, ссукаўшы, разным горіном опкручваюць, цветы роб'яць.* Луткі. *Коровай бумагамі радзяць, цацкáмі.* Бярэжцы. *Ек му ж свого коровая радзілі, то по каліну ходзілі* (з песні). Там жа.

РА'ДОВАЦЦА *незак.* Радавацца. *Колісь пойдзеш на прóвесні, жáворонок спевае, душа радуецца.* Азяраны. *Знайшоў — не радуйса, бо згубіш* (прыказка). Старажоўцы. *Не радуйса велікому добру і не пужайса велікому гору* (прыказка). Дварэц.

РА'ДОВІЦА *ж.* Вясёлка, радуга. *Еслі ўзвéсіласа радовіца — потóпу не будзе* (прыкмета). Хотамель.

РАДО'К *м.* 1. Валок скошанай травы, зжатай збажыны і інш. *Радкі сéна ўжэ ў водзé.* Хотамель. 2. Радок пасаджанай гародніны. *Посаджý я радкі тры цыбулі.* Хачэнь. *Колі перэд паской посадзіць хоць сколько радкоў картоплеў, то будзе багато картоплеў у том годý.* Сямігосцічы. *Памянш.* радóчок. *Шчэ солома лежыць на прóсту, родóчкамі пороссцілана.* Хачэнь.

РА'ДОМ *прысл.* Побач. *Радом сын жыве.* Аздамічы.

РА'ДОСНО *прысл.* Радасна. *Радосно на душэ.* Аздамічы.

РАДО'СНЫ *прым.* Рады. *Да такіе радосные, шо родзяць.* Старажоўцы.

РА'ДОСЦЬ *ж.* Радасць. *Як улетáе бýсько, то хмáрно, а як прылетáе, то радосць.* Сямігосцічы. *Дай божэ, шчоб у рáдосці почалі й кончылі* (пажаданне пры закладцы хаты). Луткі. *Старосць — не радосць, а горб — не корысць* (прымаўка). В. Малешава.

РА'ДОЎНІЦА *ж.* Радаўніца. *Праз восем дзён после пáскі радоўніца, помінкі.* Запясочча. *На рáдоўніцу тóпяць хату, вараць яйца і роб'яць ранéй вечэру, помінаюць мертвых.* В. Малешава. *На радоўніцу пом'ёр, а родзіўса на веліконье.* М. Малешава.

РА'ДУГА, РА'ДУХА *ж.* Вясёлка, радуга. *Радуга з мора вóду бере.* Альпень. *Радуга вóду з мора Балтыцкого да ў Чорнэ сцягáе.* Старажоўцы. *Радуга як пояс усё роўно на небі, сіненька.* Бярэжцы. *Як радуга — дожджа не будзе* (прыкмета). Запясочча. *Туча, дождж лье, а радуга послі бувае.* Луткі. *Радуха — пас зелёны, пас чырвоны.* Кароцічы.

РА'ДЫ *прым.* Рады, задаволены. *Ох, а му радые*

*тым музыкам.* Сямурадцы. *Я людзьмі рад.* Запясочча. *Я радая ехаць на возі.* М. Малешава. *Гэта баба тром дзедом рада* (прымаўка). Там жа.

РАЁВА'ЦЬ *незак.* Жыць у шчасці і дастатку. *Мы не жылі, а раёвалі.* Любавічы.

РА'ЖКА *ж.* Ражка; мерка для зерня, бульбы (1,5 пуда). *Ражка з клёпок з ручкою, ею коліся мералі збож'е.* Луткі. *Намолоціў жыта ра́жок дзесець за дзень.* В. Малешава.

РА'ЖЭНКА *ж.* Ражанка. *Скіпецяць молоко і вольюць туды кіслое сметаны, поставяць у копку да вонэ ссядзецца — от і ражэнка.* М. Малешава.

РАЗ 1 *м.* Раз. *Раз і ўсе.* Запясочча. 2 *прысл.* Адзін раз, аднойчы. *Раз-два пужкой сцёбні, то жэрэбя будзе бояцца.* Любавічы. *Усіх по разу спросіць.* Запясочча. *Поседзела, поседзела, пойду, думаю, шчэ раз.* Пагост. *Два рэйсы — раз туда, потом назад.* Сямурадцы. *Раз бачыла, як вон браў.* В. Малешава. *3 злучн.* Раз, калі. *Раз грыміць, то не будзе грыбоў* (прыкмета). *Раз ехаць, то ехаць.* Сямурадцы. *Раз сонейко на за́ходзе, то гэто ўжэ ве́чор.* Запясочча. Пакалькі. *Немец і кажэ: это парцізанска сем'я, раз нема мужчын дома.* Бярэжцы. △ І раз (разу). Ні разу, ніколі. *Не буў у Кіеві і раз.* В. Малешава. *Моя ку́ра і разу не квоктала.* Хачэнь. *От того і раз нічого не сказаў.* М. Малешава. Два (тры) раз. Двойчы (тройчы); удвая (утрая). *Абу два раз, абу тры раз скажы, то не понімае.* Запясочча. *Я цебе ненавіжу, а ты мене два раз.* Тураў. За раз. Адным разам. *Прынесла тры ку́ры за раз.* Хачэнь. Іншы раз. Калі-нікалі, часам. *Побачыш іншы раз, ек з роботы ідзеш.* М. Малешава. Первi (першы) раз. Упершыню. *За́йманку дают пастуху, як первi раз вуганяюць коро́ву пасці.* В. Малешава. *Хто першы раз прыдзе, то тому яйца даюць* (звычай на вялікдзень). Дварэц. Той раз. Мінулы раз. *Як той раз ослободзілі нас, то начальнік і кажэ.* Мачуль.

РА'ЗІК *м.* Малады парастак, атожылак. *Разікоў, дубчыкоў з яблоні, з грушы нарэжу, шчо лісток на іх не роспука́ўса.* Дварэц.

РАЗКО'М *прысл.* Разам. *Жывом разком з невесткою.* Старажоўцы.

РА'ЗНО *прысл.* Па-рознаму. *Ужэ давалі сено ра́зно: под вес, травою.* Дварэц.

РАЗНОПРА'ЖНЫ *прым.* Разнашэрсны, з рознай

пражы. *Андаракі ткалі ў клетку, разнопражные.* Чэрнічы.

РА'ЗНЫ *прым.* Розны, неаднолькавы. *На Купалного Йвана сонцэ купаецца, бы грае разным цветом.* Кароцічы. *Е разные гускі на водзе.* Луткі.

РА'ЗОМ *прысл.* 1. Разам, сумесна. *Дзеці разом з усімá не елі, ім дóлі такого слона поставяць.* Верасніца. *Ой, кажэ, ходзем ужэ рáзом, ву за мной не пропадзéце.* Сямурадцы. 2. Адразу, адным махам. *Усе разом не занесеш.* Пагост. *Я разом ніяка зробіласа, старá.* Сямурадцы. 3. У адным месцы, у адным куску. *У Крэмном усе поле разом.* Дварэц.

РА'ІЦЬ *незак.* Раіць, радзіць. *Свое дзіця — не рай і не одбівай* (наконт жаніцьбы). Пагост.

РАЙ *м.* 1. Рай, *перан.* райскае жыццё, райскае месца. *Полохае мене, каэ, у рай пойду я, а ты ў вогні горéцьмеш.* Альшаны. *Уміраць не трэбо, рай открыўса.* Любавічы. *У рóдном крáе, ек у рáе* (прыказка). Хачэнь. 2. Зварот да каравая ў вясельнай песні. *Короваю, наш раю, я тебе хорошэнько ўбіраю.* Хотамель.

РА'ЙСТВО *н.* Збавенне, райскае жыццё. *Райство просяць штунды — так воны моляцца.* М. Малешава.

РАК *м.* 1. Рак (земнаводнае). *Е местá на рэцэ, шо одные ракі.* Старажоўцы. *На чоловека кажуць: ой, красны, ек рак.* Там жа. *Облезлы ек рак.* Там жа. *Нельга рібу ловіць за ракоў.* Альшаны. *Зашыўса ў шчылю рак.* Аздамічы. *Я гідўюса гледзець на рáка.* В. Малешава. *Знацімеш, дзе ракі зімуюць* (прымаўка). Луткі. *Рак не рыба, а жаба не м'ясо* (прымаўка). Запясочча. 2. Рак (хвароба). *Іх род зараджэны раком.* Старажоўцы. *Трэбо почавіць журовіны і піць, кажуць, гэто помогае от рака.* Хачэнь. 3. Акоўка з зубам у доўгім шасце, якім папіхаюцца, едучы ў лодцы. Дварэц.

РА'КА *прысл.* Ракам, на карачках. *Стаў рака.* Аздамічы.

РА'КОВІНА *ж.* Нарост, гуз на дрэве. В. Малешава. Від вярбы (?). Хотамель.

РА'КОМ *прысл.* Ракам, на карачках; сагнуўшыся. *Раком поўзаюць.* Хачэнь. *Ідзе раком.* Кароцічы. *Раком дзень стояць на згінáной робоці.* Аздамічы.

РА'КОПІЦА *ж.* Капыт у свінні, авечкі, каровы. Бярэжцы.

РА'КОПУ'ЦІНА *ж.* Тое ж. Запясочча.

РА'КОТ *м.* Тое ж. Альпень.

РА′КО′ТКА, РА′ПО′ТКА *ж.* Тое ж. *У коро́вы ракот-кі, а ў кота лапы.* Лутні. *Між ра́коткамі нарыў получыў-са, нарвало між ра́коткамі.* Там жа. *Рако́ткі то самое жырное ў свіньé.* В. Малешава. *Рако́ткі сцягвае, ек осма-ліць свінью́.* Кароцічы. *Залома́ла ропо́тку корова.* Аль-шаны. *Чоты́ры рапо́ткі е ў коровы.* Цераблічы. *Ра́потка.* Аздамічы.

РА′КОЎНІК *м.* Від вярбы (?); куст з белаватымі лі-стамі, падобны на лазу, расце на мокрым месцы. *Круш-на́я кора́ на ра́коўніку.* Хотамель.

РА′КОЦІЦА *ж.* Капыт у каровы. *Ра́коціца ў коровы, той кіпцю́р. Корова кульга́е, згоняе ракоціцу.* Лутні.

РА′ЛО′ *н.* 1. Адгалінаванне, пасынак (у дрэве і інш.). *Тут таке здоровэ рало́ було.* Мачуль. *Однэ ра́ло, буў вецер, зламалосо.* Кароцічы. *Сыры́ дуб і на ём дзве ра́-ле.* Пагост. *Вот ужэ пошлі рала на помідорах.* М. Мале-шава. *Свіропа́, вона одной сцеблі́ной росце, а горпа́ ра́-ламі росце, россцілаецца.* Лутні. 2. Старажытная саха. *Ра́ло — то соха така ко́лісь була, ее дзержаць на руках трэба, як орэш.* Кароцічы. *Рало ораць землю было ўсе дзерэўя́нэ.* Аздамічы. 3. Калок, якім утрымліваюць плыт з берага. *Стаў на рало.* Запясочча. △ Н а р а́ л а (п о й ц і, р о з б і ц ц а). Пра разгалінаванне, кушчэнне. *Вона кажэ — просо шчэ пойдзе на рала, а я кажу — перэором.* Дварэц. *Рэчка там розбіваецца на рала.* Хо-тамель. Н а д з в е (т р ы і інш.) р а́ л і (р а́ л ы). У два (тры) сукі, адгалінаванні. *На дзве ралі берэза росла.* Бярэжцы. *У мене дзічка на гумне на тры ралі.* Сямігосцічы. *Кручок на тры ралы начэпіў.* Дварэц.

РАЛОВА′ТЫ *прым.* Сукаваты, са шматлікімі адга-лінаваннямі. *Раловата берэза.* Хотамель.

РА′ЛЦЭ, РА′ЛЬЦЭ *н.* 1. Адгалінаванне, сук. Хота-мель. 2 *мн.* Частка калаўрота, куды ўстаўляецца шпуля (рожкі, што круцяць нітку і намотваюць яе на шпулю). *Ральца.* Запясочча. △ Н а р а л ц а х. Пра шматлікія разгалінаванні. *Увесь на ралцах.* Хотамель.

РАЛЯ′СТЫ *прым.* Кусцісты, шматпарасткавы. *Ро-лястэ просо.* Дварэц.

РА′МА *ж.* Рама. *Раму на вокно на веранду заказаў майстру.* М. Малешава. *Памянш.* р а́ м к а, р а́ м о ч к а. Хотамель. *Рямка.* Бярэжцы. *Побілі вокна: ні шыбочкі, ні рамочкі.* Верасніца.

РАМЕ′ННІК *м.* Шабельнік. *Жонкі зовуць ветка, а*

*мужчыны — раменнік тэ зелье.* Хачэнь. *Мужчыны, бало, говорылі: аніяк траву́ нема, одзін раменнік.* Там жа. Расліна, падобная на бабоўнік. Бярэжцы.

РАМО′ВЕЦ *м.* Рамачны вулей, рамачнік. Хотамель.

РАМО′ВУ *прым.* Рамачны. △ Р а м о в ы у л е й. Рамачны вулей. Альпень.

РА′НА *ж.* Рана. *Рана го́ітса.* Альпень. *До чужое раны то я зелье зна́ю, а до свое то не* (прымаўка). Хачэнь. △ Х о ц ь к р а н е п р ы к л а д з і́. Пра ласкавага, але няшчырага. *От добры, хоць ты к ране прыкладзі його.* Старажоўцы.

РАНЕ′Й *прысл.* Даўней, раней. *Ране́й ко́лісь робілі такіе клешчоткі легчаць.* Старажоўцы.

РАНЕ′НЬЕ *н.* Раненне. *А трохі мо поцарапалі, то раненье получыу́.* Бярэжцы.

РА′НЕЦ *м.* Рант. *Ранец прыбіваеш у чо́ботах.* Дварэц.

РА′НЕШНІ, РА′НІШНІ *прым.* △ Р а н е ш н е м о л о к о. Малако з ранішняга надою. *Молоко ранешне, то не хочу даваць дзіцяці.* В. Малешава.

РА′НІЦО′Ю *прысл.* Ранкам, уранку. *Вуйшла я ўжэ ра́ніцою ра́ненько на вуліцу.* Дварэц. *Раніцо́ю пойдомо по ягоды.* Пагост.

РА′НІЦЦА *зак.* Атрымаць раненне. *Мой сын у войну́ раніўса.* Хачэнь.

РА′НКОМ *прысл.* Уранку, раніцай. *Ранком прышоу́.* Аздамічы.

РА′ННІ *прым.* Ранні. *А мо було вонэ раннеё весны?* Хачэнь. *Ранняя пташка проспевала, а я, молода, не спала.* Сямурадцы. *Ранняя пташка зубы цэрэбіць, а позняя вочы процерэбвае* (прыказка). М. Малешава.

РА′ННІК, РА′ЛНІК *м.* Чыстацел. *Раннік — зелье, разом з лістом су́шаць, і па́раць, і до ран прыкла́даюць.* Бярэжцы. *Раннік п'юць, націранье робяць; його ў мене повен город, да не можна рады даць звесці його.* Хачэнь. *Мы зовом ралнік, а іншые чыстоцел, як яка экзэма, то помогае.* Чэрнічы.

РАННОСПЕ′ЛКА *ж.* Скараспелка. *У ранноспелкі доўгіе картоплі да чырвоные.* Дварэц.

РА′НО, РА′НЕ *прысл.* 1. Рана, у пачатку пэўнага перыяду. *Шчэ рано, легла ешчэ.* Луткі. *Ране весна цегла́с і скрозь цягнецца.* Цераблічы. *Рано з вечора воўкі не ходзяць.* Сямігосцічы. *Хто рано ўстае, тому бог дае* (прымаўка). Там жа. 2. Раніцай, уранку. *Чому ты мне не*

*сказала рано?* В. Малешава. *Рано ў чым я була?* М. Малешава. *Маці товар погене́, прыдзіце рано.* Сямігосцічы. △ Рано заранéй. Вельмі рана. *Рано зараней, мо ў марці прылецелі ластоўкі.* Хачэнь. *Памянш.* ра́неньк о. *Ра́нелько пошоў.* Аздамічы. *Я несла ягоды ў Малешоў так ране́нько.* Кароцічы.

РАНОВА'ТО *прысл.* Ранавата, зарана. *Шчэ рановато обедаць.* Мачуль.

РА'НОК *м.* Раніца, час пасля ўзыходу сонца. *Ну сегодня ранок буў холодны.* Луткі. *Пяць часоў ра́нка було,— во ека пора.* В. Малешава. *І рошчыняе той коровай, і становіць ёго, і накрывае ёго, дожыдаюцца ранку і ўжэ собіраюць беседу.* Там жа. *Намочыла на ранок картоплі.* Цераблічы. *На дворэ ранок настаў.* Бярэжцы.

РАНТ *м.* Рант (у абутку). Запясочча. Ірха, Хотамель.

РА'НШЭ, РА'НШЭЙ *прысл.* Раней, даўней. *Раншэ ўручную праніком ці цэпом колоцілі лён.* Мачуль. *У ла́пцях раньшэ бобе́лі ногі.* Крэмна. *Я раншэй з очы́ма буў, бачыў.* Луткі. Спачатку. *Бога́ч раншэй вуежджаў на поле, а тогды бедняк ужэ едзе сеяць.* Старажоўцы.

РАПТА'МІ *прысл.* Нечакана, знянацку. *Раптамі бувае і такое.* М. Малешава.

РАПТО'ВО *прысл.* Раптоўна, нечакана. *Еў, еў эту рыбу, а потом раптово воды захоцеў.* Старажоўцы. *Другі сын буў на веселы, то скололіі роптово.* Цераблічы. *Шоб на цебе кадук, шоб ты раптово заболеў* (праклён). Мачуль. *Памянш.* рапто́венько. *Було одзінаццаць, да двое так раптовенько здохло* (пра качак). Хачэнь.

РА'ПТОМ *прысл.* 1. Раптам, нечакана; ні з таго, ні з сяго. *Раптом свіньа́ не ўзела есці.* М. Малешава. *Раптом прышла вода, і худобу ратоваць трэба, і картоплі, і ўсе.* Там жа. *Ішоў і раптом стаў.* Луткі. *Гэто ўжэ з очэй, як раптом палец нарывае.* Хачэнь. 2. Адразу, ураз. *Раптом заёўменяцца да поедуць.* Луткі. 3. А што як, а раптам. *Раптом дождж будзе, возьмі шчо* (накрыцца). М. Малешава. 4. Усяго толькі. *Раптом дзве копы накосіў.* Луткі. *Трэба було на Бурэзі раптом кілометр перэехаць по водзе.* Там жа. *Мне раптом кілограм трэба.* Цераблічы.

РАПТО'ЎНО *прысл.* Раптоўна. *Була жыва, здорова і раптоўно ўме́рла.* В. Малешава. *Раптоўно ўсе посовелі гу́сі, нахмурыліса, а булі весёлые, хорошые.* Там жа.

РА'СКА *ж.* Раска, дробныя зялёныя водарасці. *Пойду за кусты да нацягаю раскі свіньям.* Верасніца.

РА'СОВУ *прым.* Светла-шэры (масць). *Расовій конь—*

*бі белый, але такі жоўтый, бі сівоватый, тогды ў его пáсок по спіне́ й хвост чорны.* Сямігосцічы.

РА'СЫ *мн.* Махры, растрапаныя канцы (у адзенні і інш.). *Расы целе́плюцца, боўтаюцца.* Аздамічы. *У ее ўжэ расы вісяць на сподніцы.* М. Малешава. *Расы цягнуцца з тых лапцей, окраўкі.* Там жа.

РА'СЯ, РО'СЯ *м.* Персанаж у гульні *ў páсю (pócю).* Луткі. △ У р а с ю. Гульня, падобная да гульні ў квача. *Трэба поплёваць на пальцы: у кого сліна остане́цца, той рася. Вон ловае, кого зловіць, то ўжэ той рася.* Луткі. *Одзін ловіць усіх, да ўжэ як поймае, шчо за дзерэво не дзержы́цца, то той ужэ ловіць; его цвеляць: рася, расёнка, воўчая жонка, а я расі не боюс, да за дзерэво ўхоплюс.* Там жа. У р ó с ю. Тое ж. Цераблічы.

РА'ТА *ж.* Рата, чарговая павіннасць. *Я свою рату ужэ одбыў — целят отпас.* Аздамічы.

РАТА'Й *м.* Араты. *Ратай гораў соткі конем.* Хотамель. Той, хто акучвае бульбу. Запясочча.

РАТОВА'ЦЬ *незак.* Ратаваць. *Буду крычаць: гвалт, людзенькі, ратуйце.* В. Малешава. *Ратовалі сено з воды.* Хотамель. *Вона будзе картоплі ратоваць от жукоў.* Запясочча. *Топіцца, то трэ ехаць ротоваць, б'юцца, то трэбо бороніць.* Кароцічы. *Ой, братко, чому ты мацеры не ратоваў?* Тураў.

РАТО'ЎКА *ж.* Аўрал, калектыўная дапамога ў плытагонаў (каб зняць плыт з мелі, выцягнуць засеўшы якар і інш.). *На ратоўку тры дýба под'ежджаюць.* Дварэц. *Для ратоўкі даёцца уляга.* Пагост. *Ретоўка.* Запясочча.

РАТУ'НОК *м.* Ратунак, дапамога. *Хіба на ратунок кого зваць?* Хотамель. *Цеперэка е ретунок, а коліся не було ретунку от хвороб.* Сямігосцічы. *На слепу кішку ратунку не было, не лечылі.* Там жа.

РАХАМО'СЦЬЕ, РАХАМО'ЦЬЕ *мн.* Барахло, непатрэбныя рэчы. *Мне ж трэба неяк перэвезці ў нову хату свое рахамосцье.* Тураў. *Назбіралосо рахомоцья цэла печ.* Там жа. *Багато рахамоцья, шмацья́ ў хаце.* М. Малешава. *Рахомоцьем усю хату загаціла.* Бярэжцы.

РА'ХАЦЦА *незак.* Збірацца, рыхтавацца. *Вон ужэ строіцца куды ехаць, ужэ páхаецца.* Буразі. *Páхаймосо, дзе́ўкі, бо ўжэ ж не рано.* Тураў. *Надо рахацца мне домоў.* Любавічы. *Ужэ трэба рахацца худобу доглядаць.* Бярэжцы. *Прышлі мы і рахаемса к тому выезду.* Мачуль. *Вон ужэ páхаецца, шо-то заворушы́ўса.* В. Малешава. Поркацца. *Докуль ты будзеш рахацца, копацца?* Альго-

мель. Намерваццa. *Она шчэ не ра́халаса ехаць.* Дварэц.

РАХМАНЕ′ЗНЫ *прым. экспр.* Вельмі спакойны, ціхмяны. *Вон чоловек, таке рохмане́зно целя!* Хачэнь.

РАХМАНЕ′ЧА *м.* і *ж. экспр.* Вельмі спакойны чалавек, ціхоня. *Попаліса на такіх рохманечоў, а ек бу на бойкіх, то й голова злецела б.* М. Малешава.

РАХМА′НІНА *ж.* Тое ж. *Рахманіна да добрэц чоловек ее.* Аздамічы.

РАХМА′НЫ *прым.* Спакойны, ціхі, ціхмяны. *А інша корова рохмана, то й одзін чоловек можэ перэняць.* Дварэц. *Вон рахманы, моўчыць, от, куцья з маком.* Хачэнь. *Вона така рахмана, гэта дзеўка, а ты ее не гледзіш.* Там жа. Нясмелы, сарамлівы. *Вон добрэ ўчыўса, только шо рохманы вельмі.* Запясочча. *Была рахмана-рахмана, да потом стала смела.* М. Малешава. Пакладзісты, паслухмяны. *На рохманого нарваліса, да ўсе ёго і ёго посылаюць.* Сямурадцы. Ручны, свойскі. *На зіму бу́ська кінулі, да такі ўжэ буў рахманы, да замёрз недзе.* Старажоўцы.

РАХОВА′ЦЦА, РАХОВА′ЦІСА *незак.* Раіцца, меркаваць. Альшаны. *Раховаціса.* М. Малешава.

РАХОВА′ЦЬ *незак.* Улічваць, браць пад увагу. *Ты рахуеш мою сем'ю — у мене ж мало чоловек.* Хачэнь. Разважаць, мысліць. *Раховаць можэ хорошэ́ вон.* Хотамель. Раўнаваць, прыраўноўваць. *Мене не рахуй до себе.* Хачэнь.

РАХУ′БА *ж.* Меркаванне, разлік. *Тож велікая рахуба.* Запясочча.

РАХУ′БНО *прысл.* Разважна. Альшаны.

РА′ЦЫЯ *ж.* △ З я к о́ й р а ц ы і. Навошта, завошта. *З якой рацыі вас білі б, ніхто не біў бы.* Сямігосцічы.

РА′ЧКА *ж.* Свінакроп. *Рачка росце, дзе ву́мокне, то там вельмі росце вона.* Луткі.

РА′ЧКІ *прысл.* Ракам, на карачках. *Стаў рачкі і замеґеґекаў.* Бярэжцы.

РАЧКОВА′ТЫ *прым.* Зіркаты, з вялікімі вачыма. Кароцічы.

РАЧКОВА′ЦЬ *незак.* Поўзаць ракам, стаяць на карачках. *Шо то вон рачкуе, шо то вон шукае, ек кот муш?* Старажоўцы. *Рачкуем, збіраем тые зе́рнета, як коміна женяць.* Пагост. Рабіць сагнуўшыся. *Ноч коло трактора рачковаў, да нічого не зробіў сам.* М. Малешава. *Нагінайся да рачкуй коло тое коровы.* Запясочча.

РАЧКОВЕ′НЬ *м. экспр.* Зіркаты чалавек. Запясочча.

РАЧО'К *м.* Від кактуса без калючак. *Вазон рачок у мене е.* Дварэц.

РА'ШПІЛЬ, РА'ШПУЛЬ *м.* Рашпіль. Аздамічы. *Рашпуль.* Запясочча.

РВА'НКА *ж.* Нешта парванае. *Мо ў цебе, моя міла, хоць сорочэчка-рванка?* (з песні). Пагост.

РВА'НЫ *дзеепрым.* Сарваны, зняты. *Рваных яблук наложу на ѓору, хай лежаць до коледы.* Хачэнь. *І паданые і рваные яблука беруць.* Там жа.

РВА'ТЫ *дзеепрым.* Падраны. *Сподніца рватая була, дзе я кінула ее?* М. Малешава.

РВА'ЦЦА *незак.* Рвацца. *Дзе ко́ротко, там і ревецца* (прымаўка). Старажоўцы.

РВАЦЬ *незак.* 1. Рваць, раздзіраць. *Я бачыла, як тры вӯдры рвалі рыбу на лёдӯ.* Хачэнь. *Коб буў другі воўк там, то вон бу рваў его, да воны б его задавілі.* Бярэжцы. *Як только рыць, то гэта дроціна рве губу.* В. Малешава. Разбіваць пры дапамозе выбуховага рэчыва. *Рвалі осмол на завод.* Хачэнь. 2. Адрываць. *Ек вода, то разом з лапціма рвемо ногі од лёду.* Кароцічы. 3. Рваць, вырываць. *Ек малӯ грэчку — рвуць, а ек веліка — жнуць.* Цераблічы. Зрываць, збіраць. *На Купалного Івана рвуць траву божэе мацер сон.* Луткі. *У нас ростуць на попасах пачэры́цы, багато іх е, му рвом іх.* М. Малешава. *Ходзіла, рвала ягоды, да пошоў дождж, то мало нарвала.* В. Малешава. 4. Нарываць, торгаць. *Рве рука дай годзі, нарыў будзе.* Луткі. △ Р в а ц ь б о́ к і. Смяяцца, заходзіцца ад смеху. *От бокі рвалі з мого хлопца.* Хачэнь. Р в а ц ь г н о й. Выкідаць гной з хлява. Аздамічы. Р в а ц ь к о с ы н а с о б е. Пра роспачны стан. *Сама на собе ко́сы рвала.* Хачэнь. Б ы с о б а к і р в у ц ь з а н о г і. Пра крайнюю стомленасць ад хадзьбы. *Ідзеш, бы собакі рвуць за ногі, так заморышса.* Цераблічы.

РВЕНУ'ЦЬ *зак.* Рвануць. *Одзін воўк скочіў, рвенуў эттыка на плечах у коня́.* Бярэжцы.

РДЗЕ'ЦЦА *незак.* Чырванець (пра рану). *Вайка рдзіцца.* Запясочча.

РДЗЕЦЬ *незак.* Свярбець. Пагост.

РЖА *ж.* Іржа. *От болотной ржы смӯгі на штанах не отмуеш.* Луткі.

РЖА'ВУ *прым.* Іржавы. *Вода як пойло ржава.* Аздамічы. *Косці ржавые ў песку.* Хотамель.

РЖАНЫ' *прым.* Жытні, аржаны. *Осолоджвала солодуху з мукі ржано́е.* М. Малешава.

РЖАЦЬ, РЗАЦЬ *незак.* Іржаць, *перан.* гучна смяяцца. *Кобу́ла ржэ процi жэрэбяцi.* Запясочча. *Як воўка́ конi почуюць, так рзуць.* Старажоўцы. *А воны ржуць собе, шо то клопот некi е.* Верасніца.

РОБА'К *м.* Гліст. *Колi робакi подойдуць к горлу, то трэба дзёгцю понюхаць i будзе добрэ.* Хачэнь.

РОБІ'ЦЦА *незак.* Рабіцца. *Облубка робiласа з лiпы, вона доўго бу́дзе.* Старажоўцы. *На гразi робiцца шкорупка.* Цераблічы. *Хата iм там робiцца.* Кароцічы.

РОБІ'ЦЬ *незак.* 1. Рабіць, чыніць. *Як хочэце, так робе́це.* Цераблічы. *Робе́м так, шоб iм луччэй було.* Старажоўцы. *Она сама шчо робiцьме?* Альшаны. *Нерозумны ты, зробiў не так, як людзi робяць.* Сямурадцы. 2. Майстраваць, вырабляць, наладжваць. *З хвоi човен робiлi.* Аздамічы. *Було вя́зье санi робiць.* Луткі. *Пчолы роб'яць мед.* Дварэц. *Вэсню́ють детi, ёлку роб'ять.* Рубель. 3. Працаваць. *Вона робiць у магазiне.* Бярэжцы. *Дрыжу хочу робiць, не могу без роботы.* Хачэнь. *Колiсь воламi робiлi.* В. Малешава. *Хто добро робiць, той добро есць.* Сямурадцы. 4. Брадзіць, ферментаваць. Луткі. △ Р о б і ц ь г л у м. Насміхацца, здзекавацца. *Зубы ушчора́юць, глум з мене роб'яць.* Цераблічы. Р о б і ц ь д з е л о. Працаваць, выконваць абавязкі. *Нешчо ленуюса дзело робiць.* Цераблічы. Р о б і ц ь д о р о г у. Пракладваць дарогу, пратоптваць шлях. *Не робе́ць дорогу поўз хаты.* Луткі. Р о б і ц ь к р ы к. Крычаць, галасаваць. *Не крычэ́це, крыку не робе́це.* Запясочча. Р о б і ц ь Н о в у г о д. Святкаваць Новы год. *Нову год робiлi ў сына.* Чэрнічы. Р о б і ц ь р ы б у. Чысціць рыбу. *Робяц рыбу да ноч не муюц, кiшкi повукiда́юц, а ўжэ ўпорану мыюц, да вона свежа.* Запясочча. *Не хочэцца робiць тое рыбу.* Чэрнічы. Р о б і ц ь с в а д з ь б у. Ладзіць вяселле. Запясочча. Р о б і ц ь с е н о. Нарыхтоўваць сена. *Му робiм сено, сенокос у нас.* Сямігосцічы. Р о б і ц ь т р э с к у́ ш к і. Бегаць па маладым лёдзе, прагінаючы яго. *Хлопцоў двацаць на лёд стало да ек пошлi трескушкi робiць!* Пагост.

РОБО'ТА *ж.* 1. Праца, работа. *На этой робоце вона i захрасла.* Старажоўцы. *До чаркi скоры, до роботы хворы* (прымаўка). Хачэнь. 2. Месца працы. *Оны хоць там седзяць, але воны на робоцi.* Луткі. *Анi одзiн бедный дзень не була на робоцi.* Хачэнь. 3. Рэч, прылада працы. *Нацяжыч нацягвае обручэ,— мо дзе i валяецца ў мене́ та*

*робота.* М. Малешава. *Памянш.* р о б о́ т о н ь к а. *До роботонькі нема охотонькі* (прымаўка). Хачэнь.

РОБО'ТАЦЬ *незак.* 1. Працаваць. *Тры годы робо́таў.* Бярэжцы. 2. Распрацоўваць. *Заросло, то вон по́церэб роботаў.* Сямігосцічы. 3. Брадзіць, ферментаваць. Хачэнь.

РОБО'ТЛІВУ *прым.* Працавіты, старанны. Кароцічы.

РОБО'ТНІК *м.* Работнік, працаўнік. *Вон такі роботнік буў добры.* Пагост. *Екі я ў цебе роботнік, шо ты мне роботы не даеш?* Старажоўцы.

РОБО'ТНЫ *прым.* Працавіты, старанны. *Тая роботна пчола, а тая ленівa.* Цераблічы.

РОБОЦЯ'ГА *ж. экспр.* Шчыры працаўнік. *Шчо такі ўжэ робоцяга, то ў роду такого нема.* Верасніца.

РОБОЦЯ'ШЧЫ *прым.* Працавіты, старанны. *То дзеўкі робоцяшчые, оны не поленуюцца зробіць.* Верасніца. *Наша суседка вельмі робоцяшчая жонка.* М. Малешава.

РОБО'ЧЫ *прым.* 1. Тое ж. *Я була дзеўка бедна да робоча, з сем'і велікое.* Хачэнь. *Загарліву чоловек, такі робочы.* Запясочча. 2. Работнік. *Екі с цебе едзе́ц, такі с цебе робочы* (прыказка). Чэрнічы. △ Р о б о ч а п ч о л *а́*. Рабочая пчала. Альпень.

РО'ВЕНЬ *ж.* Раўня. *Ну, да я ровень ёму?* Хачэнь.

РОВЕ'СНІК *м.* Равеснік, аднагодак. *Ровеснікоў поехало мо п'яцёх поступаць.* Луткі.

РО'ВЕ'Ц *м.* 1. Раўчак, канаўка. *Ровец упадае ў рэку.* Сямігосцічы. 2. Разорка, разора. *Борозённы конь, вон ідзе по роўцу́.* В. Малешава. *Гэто мое соткі, а гэто ёго соткі, то тут глыбока розора, а між гранкамі ровец.* Там жа. *У ровец кідаем і загрэбаем насенье.* Хачэнь. 3. Паз. *У ушаку робіцца ровец.* Хотамель. 4. Прабор, радок (у валасах). Мачуль. △ Р а з о б р а ц ь р о ў ц а́. Зрабіць прабор у валасах. Мачуль.

РОГ *м.* 1. Рог, рагавы нарост на галаве. *Не лезь под рогі, ато сколе.* Азяраны. *Шо это за чорт з рогамі, у ры́бу ж нема рог.* М. Малешава. *Вона ж мене і рогамі і ногамі месіла.* Луткі. *Коб рогі лосей по дванаццаць год, то лопата мела б дванаццаць пасынкоў.* Хотамель. *Коб свінье рогі, то свет колола б* (прымаўка). Запясочча. *Коб свінье рогі, не ступіласа б дорогі* (прымаўка). Цераблічы. 2. Вузкі канец поля, сенажаці, вёскі. *Рога не покіне на полі комбайн.* Дварэц. *Самы той рог остаўса поля полоці.* Цераблічы. *Дзе тая баба жыве? Во туды ідзіце, у самы рог.* Мачуль. 3. Вугал у пабудове, вуглавая частка

пабудовы. *Оддалі дочцэ одного рóгу одрыны, а другого сыну.* Мачуль. Трохсценная прыбудова да хлява з асобнымі дзвярыма. Аздамічы. 4. Вугал у страсе, стозе. *Хлеў крыўса з чотырох бокоў, на чотыры рóгі; хаты так не робіліса.* Сямігосцічы. *Цепер стога кладуць на чотыры рóгі.* Запясочча. *Кладзі на рог сено, шоб не отваліўса рог.* Цераблічы. 5. Вугал у мяшку. *Понесом удвох, ты беры за гузку, а я за рогі.* Тураў. 6. Насадка ў вілках, восці. *А вілочнік — палка обукновенна, без рог, а накладаюць рогі жэлезные.* В. Малешава. *У óсцях чотыры-шэсць рогоў і на кожном зáзубец.* Цераблічы. 7. Пастухова труба, дудка. *У нас е одзін пастух, то возьме рога, у той рог трубіць і коровў ідуць за ім.* Хачэнь. *Рог трубіц — коровў вугоняй.* Запясочча. 8 *мн.* Спарынння, сажа. *Яка добра земля, коб тут посеяў, то поросло б жыто з рогáмі.* Хачэнь. *Жыто з рогамі, да зверху воно чорненькое, а ўсерэ́дзіне беленькое.* Там жа. △ Н а р о г і б р а ц ь (х в а т а ц ь). Бадаць, калоць рагамі. *Этого Побіка коровў, воны на рогі людзей беруць.* В. Малешава. *Вонэ з целят людзей на рогі хватала.* Там жа. Р о г і с к л а с ц і. Здохнуць, *груб.* памерці. *Жыў, жыў дай рогі склаў.* Мачуль. *Памянш.* р о ж о к. *У рожку жыто росце.* Аздамічы.

З рагамі звязана некалькі народных вераванняў. Так, існуе ўяўленне пра рагатага вужа. *Казалі, шо булі вужы з рогамі, то за тые рогі велікіе грошы плацілі.* Лутні. Паводле іншага веравання, калі карове даць з'есці саскрэбенае з рога, то яна не будзе ўцякаць са статка. *Вуля наскрэбла рога да ў хлеб улепіла, да корові дала, то вона ўжэ не ўцекае.* Лутні.

РОГА́ТА *ж.* Карова з вялікімі рагамі. Аздамічы.

РОГА́ТКА *ж.* 1. Рагаціна, з якой хадзілі на мядзведзя. Пагост. 2. Прылада мерадь землю, каза. *Беры рогатку і мерай.* М. Малешава.

РОГА́Ч *м.* Ручка сахі. *Рогач як до дзверэй буў доўгі.* Аздамічы. *Рогачы на плечы клалі, як оралі сохою.* Цераблічы.

РОГОВІ́К *м.* Вугал у страсе. Запясочча.

РОГОВУ́ *прым.* Канцавы, у канцы поля. *Собралі собраніе, прывезлі коморніка і вон палі поставіў роговые по болобáну.* Цераблічы.

РОГО́ЖА, *рэдка* РОГО́ГА *ж.* 1. Рагожа, сплеценая з травы посцілка. *Бало, кладом солому на пол, а на солому тую рогожу і спім.* Запясочча. *Рогожу плетуць з*

*лу́чаю і з рэбрэ́ю.* Велямічы. *З м'якішніка і рогозу плелі рогожу.* Дварэц. *Рогожы под бок робілі з плёшніку.* Старажоўцы. *Вона б і цепер вуткала б ту рогогу.* Сямурадцы. *Ой, сваточкі, ещце голушкі, ло́кшыны нема. Спеце на рогожах, бо поду́шэк нема* (з песні). Верасніца. 2 *перан.* Паверхня топкага балота. Мачуль. △ Як рогожа лежыць (поляжэ). Пра палеглае збожжа. *Іншы год жыто поляжэ ек рогожа.* Цераблічы. *Кукуруза лежыць як рогожа.* Мачуль. У рогожу покласці. Зрабіць палеглым, пераблытаць (пра збожжа). *Усе поклало ў рогожу, вуклало ўсе.* Кароцічы.

РОГО'ЖКА *ж.* Рагожка, сплецены з травы палавічок. *Рогожка зослана з рэбрэ́я.* В. Малешава. △ Рогожку робіць. Бегаць па тонкім лёдзе, прагінаючы яго (дзіцячая забава). *Пошлі рогожку робіць на лёду́, да Міша ўваліўса.* Цераблічы.

РОГО'ЖЫК *м.* Тое ж. *З рогоза рогожыкі плелі под ногі.* Сямігосцічы.

РОГО'З, РОГО'Ж *м.* Рагоз, балотная расліна з вузкімі лістамі. *А ў той канаві а рогозу!* Лутукі. *Рогозу прывезуць пукоў пядзьдзесят і дзецей зовуць, шоб об'елі тые хвосты.* Сямігосцічы. *Рогож рэзучы, а м'екіш на тры росце.* Дварэц. *Рогож, з его рогожы робілі.* Запясочча. △ Глухі рогоз. Від рагозу з чорным катахом. *Глухі рогоз з буяхо́м, буя́х такі чорны.* Цераблічы. Свойскі рогоз. Від рагозу без катахоў. *Глухі рогоз, шо пушы́ло росце, а свойскі рогоз рвуць да едзяць.* Сямігосцічы. Ібут рогоз саджае. Пра крык бугая. *Як загудзіць, то кажуць: ібут рогоз ужэ саджае.* Лутукі.

РОГО'ЗОВУ *прым.* Зроблены з рагозу. *Рогозова веро́йка обво́дзіць возы́ з сеном.* Цераблічы.

РОГОЛЕ' *мн. экспр.* Вялікія рогі. *Во такіе роголе ў лося́!* Сямурадцы.

РО'ГОТ *м.* Рогат, гучны смех. *У кого було багато дзецей, то ў хаце роготы і смехі.* Верасніца.

РОГОТА'ЦЬ *незак.* Рагатаць, гучна смяяцца. *Як одзену світу, то дзеці бегаюць, рогочуць.* Кароцічы. *Рого́чом, да не знаём чого.* Хачэнь. *Это воны з вас рогочуць, шо вы так сказалі.* Верасніца. *От роготалі, шо жывух не було* (да ўпаду). Азяраны. *Рогочэ свойго не прыклайшы* (без прычыны, прымаўка). Запясочча.

РОГОТУ'ХА *ж. экспр.* Жанчына, якая любіць смяяцца без прычыны. *То ужэ роготуха, абы з чого смеіцца.* Верасніца.

РОГУ'ЛЬ *м.* Рог у плыце *(дзе канчáецца рýблік)*, пад які падсоўваюць шост, каб павярнуць плыт ці адбіць яго ад берага або мелі. Хачэнь.

РОГУ'ЛЯ *ж.* Карова з вялікімі рагамі. *Прозвалі рогулею за велікіе рогі.* Верасніца.

РОД *м.* Род, радня. *У іх родý нема такого хлóпца.* Сямігосцічы. *Мого бацька загінулі рóду мо восем чоловек.* Рычоў. *Богато рóду ў його.* М. Малешава. *Збірае хлопец маршалкоў дзесяць або меней, як у кого род велікі. Усе свое, то кажуць род.* Мачуль. *Зосталаса без роду, ек буліночка ў полі самá.* Старажоўцы. *Она сіроціна, ее тут нема роду.* Там жа. *Род дзевочы ў дзёўкі збіраецца* (перад вяселлем). Альшаны. *Дзякуй, жонкін род помогае.* Аздамічы. *Вона з хорошого роду.* Запясочча. *До свойго роду плуве і чэрэз вóду* (прымаўка). Там жа.

РОДЖА'ЦЦА *незак.* 1. Нараджацца. *У Куліны ўсе хлопцы роджаліса.* В. Малешава. *Ой, такіе б людзі лепш не роджаліса!* Старажоўцы. 2. Нараджаць. *Надо роджацца ўжэ ей.* Сямігосцічы. *Колісь жонка роджаласа дзе попадзе.* Мачуль.

РОДЖА'ЦЬ *незак.* Раджаць. *Веро, не бойса, роджай смело.* В. Малешава. *Браліса за рушнікá екого, за веройчыну, браліс і роджалі стóя кóлісь.* Хачэнь.

РОДЖО'НЫ *дзеепрым.* Народжаны. *Дзе брат жывэ, я там роджоны на той месціне.* Мачуль.

РО'ДЗІВО *н.* 1. Нараджэнне. *Вон з родзіва малы.* Мачуль. *З родзіва воно, его нельзя зорваць, корпаць, то кажуць родзімі знак.* Сямігосцічы. 2. Роды. *З родзіва померла моя маці.* Хотамель.

РОДЗІ'ЛКА *ж.* 1. Парадзіха. *Родзілка дае на хрысцінах бабі подарок, бáбу ўгошчаюць.* М. Малешава. 2. Месца, закутак, дзе раджалі ў мінулым; цяпер — радзільны дом. Запясочча.

РОДЗІ'МЕЦ *м.* Тутэйшы чалавек. М. Малешава.

РОДЗІ'МУ *прым.* Радзімы, родны. *Ці я ў цебе, братко, не родзіма, шо я стою ў порозі?* (з песні). Сямурадцы. *Любезнік буў у жонкі, а родзімы чоловек ідзе, то вон стаў на покуці, сховаўса.* Цераблічы. Прыродны, ад роду. *Гэто не родзімэ, пройдзе* (прымаўка). Цераблічы. △ Р о д з і м ы з н а к. Радзімка, радзімы знак. Аздамічы.

РО'ДЗІНА *ж.* Радзіма, бацькаўшчына, роднае месца. *Коб ведаў, шо так будзе, то хоця б на своей родзіне се-*

*дзеў.* В. Малешава. *Мой брат поехаў на родзіну свое жонкі.* М. Малешава.

РОДЗІ'НА *ж.* 1. Радзіна, радня, сваякі. *Як я зайду у той Малешоў, то ўжэ здаецца — там моя родзіна.* В. Малешава. *Ужэ хлопе́ча родзіна песню спевае.* Там жа. *Скажы, голуб, скажы, сівы, ці ты сам мене не любіш, ці твоя родзіна?* (з песні). Луткі. 2 *перан.* Што-небудзь блізкае, падобнае. *Воно ж, тэ зелье, родзіна гэтому.* Кароцічы.

РОДЗІ'ЦЦА 1 *зак.* Нарадзіцца, з'явіцца на свет. *Екі родзіўса, такі і ўмрэ.* Хачэнь. *Ко́лісь як ро́дзіцца, то тое место покладзе ў полотно, монету, і закопаюць, шчоб шчэслівы буў.* Цераблічы. *Тут родзіласа і тут прыгодзіласа* (прыказка). Старажоўцы. 2. Нарадзіць. *Жонка родзіласа, а робіць не робіла.* Дварэц. 3 *незак.* Радзіць, даваць добры ўраджай. *Луску з яец носіла маці свеціць на паску, шчоб лён родзіўса.* Цераблічы. *Ек у хлеве плодзіцца, а на полі родзіцца, то й будзе господар* (прыказка). Старажоўцы.

РОДЗІ'ЦЬ 1 *зак.* Нарадзіць. *Моя Ліда родзіла дзевочку.* Запясочча. *Бачыш бацька й мацер, хто родзіў і хто по бабу ходзіў* (прыказка). Старажоўцы. 2 *незак.* Радзіць, даваць добры ўраджай. *Ігруша родзіла по́споль тры го́ды.* В. Малешава. *Гэто петроўка, толькі, ба, вона год родзіць, год не.* Луткі. *Гора не родзіць, а насенье не зводзіць* (прымаўка). Сямігосцічы. *Сем лет мак не родзіў і голоду не було* (прымаўка). Там жа. *Не трэ бога вучыці, як жыто родзіці* (прымаўка). М. Малешава. *Дзе корогод ходзіць, там жыто родзіць* (з песні). Хачэнь. *Не ніва родіть, да год* (прымаўка). Рубель.

РО'ДЗІЧ *м.* Родзіч, радня. *Не даюць согласія родзічы операцыю робіць.* Хачэнь.

РО'ДЗІЧКА *ж.* Сваячка. *У мене родзічка там.* Хачэнь.

РО'ДКА *ж.* Парадзіха. *Бабіна каша то на пользу родцы.* Хачэнь.

РОДНІ'ЦЦА *незак.* Прыходзіцца сваяком, знаходзіцца ў сваяцкіх адносінах. *Воны з намі родняцца, ек свое.* Луткі.

РОДНО' *н.* Посцілка з тоўстай пражы. Хотамель.

РО'ДНЫ *прым.* Родны. *Родного брата жонка мне браціха.* М. Малешава. *У мене е стрэдні брат, вон дорожэй ро́дного.* Старажоўцы. *Памянш.* ро́дненькі. *Бабочко родненькая, дзедухно родненькі, сплеціце постолы́!* Хільчыцы.

РОДНЯ′ *ж.* Радня, сваякі. *Родня збіраецца і беседуюць, которую за нашого сына брацъ.* Цераблічы. *Вон з дуба не ўпаў — е родня нейкая.* Луткі. *З свого села побачыць собаку і то родня* (прымаўка). Крэмна.

РО′ДОМ *прысл.* Родам, па паходжанні. *То ву самі родом з Гродного?* М. Малешава. △ Н і я к і м р о д о м. Ніяк, ніякім чынам. *Ніякім родом не ўлезці ў аўтобус.* Сямігосцічы.

РО′ДСТВО *н.* Радня, сваякі. *Недзеля прыдзе, то ідзе ўсе родство да седзіць у його.* В. Малешава.

РО′ДЫ *мн.* Роды. *Жонка на родах була, а вон дома гуляў.* М. Малешава. *Трое родоў у мене було і п'яцеро дзецей.* Сямурадцы.

РО′ЖА *ж.* 1. Ружа. Д.-Гарадок. Асенняя вяргіня. *У мене е чырвона рожа, жоўта і малінова.* Верасніца. 2. Рожа (захворванне). *Як опухля́, подкінуласа рожа, то беруць жар да беруць клоч'е залётковэ да ўжэ тую рожу грэюць.* Хачэнь. *У мого сына ôпухла рука, так мой дзед берэ по этой руцэ нейкім чэрнілом водзіць — і ніякого загною не було з тое рожы.* Сямігосцічы. *Рожу вулівалі і вупісвалі колісь.* Там жа. *Свінья́ захворэла рожою.* Запясочча.

РОЖНЯ′К *м.* Указальны палец. Запясочча.

РОЖО′К *м.* 1. Ражок, нарост на галаве. *У козы ро́жкі.* Запясочча. 2. Выступ, адростак. *Такі кол з рожко́м, той о́тбег.* Старажоўцы. Адна з закрылін, якая выступае па-над страхою хаты. *Шчыт з ро́жкамі.* Бярэжцы. Выступаючая дошчачка ў бёрдзе. *Рожкі ў бердзе зламаліса, построіць трэба.* М. Малешава. 3. Перакрыжаванне вуліц. *Выбегла на мінюту на рожок поглeдзець, хто ідзе, хто едзе.* Тураў. 4. Клінападобная палоска поля, сенажаці. *Дзе екіе рожкі землі осталі́са, то давалі лю́дзям.* В. Малешава. 5 *мн.* Наморднік з цвічкамі для цяляці. *Рожкі наложаць на му́су, воны коляць, а корова брыкаецца да не дае ссаць.* Цераблічы. *Трэбо, кажэ, зробіць рожкі на целя, шчоб не ссало.* Луткі. 6 *мн.* Спарыння, ражкі. *Колі берэменна жонка да дзіця ведзе, то кажуць, шчоб ела тые рожкі, шчоб скорэй дзіця родзіла.* Луткі. *Рожкі стараемса назбіраць і елі, колі жага берэ.* Там жа. *Ро́жкі.* В. Малешава.

РОЖО′Н *м.* Завостраны кіёк. *Рожон грыбу́ укіда́ц у печ.* Запясочча. *Рожон, шо пекуць сало ў полі.* Там жа. *Такіе рожны со слі́ў робяць на коровай.* Сямурадцы.

*Помело наткні на рожна.* Дварэц. *Стыкні сало на рожон.* Аздамічы. *Ні богу свечка, ні чорту рожон* (прымаўка). Хачэнь. △ Лезці на рожон. Рызыкаваць, задзірацца. *Чо ты лезеш на рожон, отступіса.* Аздамічы. *Памянш.* рожо́нчык, рожэ́нчык. *На рожончыку сало ў полі плешчым.* Запясочча. *Рожэнчык.* Дварэц.

РОЖЭ'НЬЕ *н.* △ На рожэньі. Перад абраджэннем. *От то́ўсты, чэрэво э́тазнэ, бу на рожэньі.* Дварэц.

РО'ЗА *ж.* 1. Ружа. *Роза — куст цветоў, з ее варэнье варать.* Альпень. 2. Пакаёвая расліна с ружовымі кветкамі. Верасніца.

РОЗБАГАЦЕ'ЦЦА *зак.* Разбагацець. *На лісту пеклі хлеб, а ек розбагацеліса, то пеклі ў формах.* Верасніца.

РОЗБАГАЦЕ'ЦЬ *зак.* Тое ж. *Ну, вон розбагацеў вельмі, ожэніўса вон, ужэ стаў жыць багато.* В. Малешава.

РОЗБАГНУ'ЦЬ *зак.* Усвядоміць, зразумець. *Розбагнеш ты, шо то було.* Верасніца.

РОЗБАЗА'РЫЦЬ *зак. экспр.* Разабраць, расхапаць. *Усю крупу розбазарылі, нема чого браць.* М. Малешава.

РОЗБАЗА'РЭНО *прысл.* Разгульна. *Цепер некоторые так розбазарэно жывуць, шо не можно церпець.* Дварэц.

РОЗБАЗУ'РАНЫ *прым.* Разбэшчаны, распушчаны. *Розбазураны хлопец.* Луткі. *Нашые коровы розбазураные, не слухаюць дзеці.* Хачэнь.

РОЗБАЗУ'РЫЦЦА *зак.* Разбэсціцца, распусціцца. *У Туроў пойдзе — розбазурыцца: і курыць почне, і піць почне.* Старажоўцы.

РОЗБАЗУ'РЫЦЬ *зак.* Разбэсціць, распусціць. *Его Юзік розбазурыў, его дружкі подвелі.* Луткі.

РОЗБЕ'ЖЫШЧЭ *н.* △ Собачэ розбежышчэ. Пра варожыя адносіны. *З велікой любві собаче розбежышчэ* (прымаўка). Верасніца.

РОЗБІВА'ЦЦА *незак.* Лезці ў бойку, заводзіцца біцца. *Біўса, ходзіў по селу, розбіваўса, а после осутонеў.* Альшаны.

РОЗБІНДОВА'ЦЬ *зак.* Адлупцаваць (?). *Шоб цебе розбіндовалі!* Тураў.

РОЗБІРА'ЦЦА *незак.* 1. Разбірацца, разумець. *По большой часці, як сонцэ ото е, то я по сонцу трохі розбіраюса, дзе́ домо́йка.* Хачэнь. 2. Распранацца, здымаць адзенне. *Розбірайцеса, дзеці, да ложэцеса спаць: заўтра*

*пожэнецé товар, нам чэргá.* Тураў. *Вон розбіраецца, усе с себе скідае, і ідзе рыбу ловіць.* Старажоўцы.

РОЗБІРА'ЦЬ *незак.* 1. Разумець, цяміць. *Оны мене не розбіраюць.* Хачэнь. *Му іх розговору не розбіралі, а воны нашого.* Кароцічы. *Чую, шчо говорáць, а шчо — не розбіраю.* Верасніца. 2. Раздзіраць, расскубваць. *Розбіраюць воўну.* Луткі. 3. Разбіраць пасля забою. *Сталі розбіраць кабана, наклалі му яшчык сала.* Луткі. 4. Распранаць. *Цебе там п'яного розбіралі му спаць.* Цераблічы. 5. Выбіраць. *Ішоў мужычок по дорозі, а йшоў вецёр, і сонцэ, і мороз, то мужычок склоніўса ім. Да сонцэ кажэ — мне, а вецёр кажэ — мне, а мороз кажэ — мне. Не розбіраць кому ж, усім разом* (з казкі). В. Малешава.

РОЗБІТНЫ' *прым.* Кемлівы, бойкі. *Трэбо, шоб чоловек розбітны буў.* Хачэнь. *Я баба розбітная, своім умом зробіла.* В. Малешава. Жвавы, рэзвы. *Розбітней, ек вуйдзеш на свежы воздух.* Луткі.

РОЗБІ'ТЫ *дзеепрым.* Пабіты, разбіты. *Ужэ стары чоловек, ек горшчок розбіты.* Хачэнь. *То вон цэлы, не розбіта голова.* Бэряжцы.

РОЗБІ'ЦЦА *зак.* Пабіцца, раскалоцца. *Вельмо б'юць, шоб воно розбілосо.* Луткі.

РОЗБІ'ЦЬ *зак.* Разбіць, пабіць. *Як варáць кашу на збóрыны, то на кашу кладуць грошы; которы вушэй дасць, той горшка разоб'е.* Сямігосцічы. Павялічыцца ў аб'ёме. *Розбіў чэрэво да веліке зробілоса* (жарт). М. Малешава. Закласці, пачаць складваць. *Розбіць копу вона знае дзе.* Сямігосцічы.

РОЗБЛУ'ТВАЦЬ *незак.* Разблытваць. *Розблутваць трэба ніткі, поблуталіса.* Луткі.

РОЗБО'Й *м.* Разбой, грабеж. *Голому розбой не страшны* (прымаўка). Бярэжцы.

РОЗБО'ЙНІК *м.* Разбойнік, грабежнік. *А розбойнікі узелі уцэлілі тых двух купцоў* (з казкі). Кароцічы.

РОЗБОЛЕ'ЦЦА *зак.* Пачаць балець, разбалецца. *Хай шчэ розболіцца жывот от яблок.* Верасніца.

РОЗБОРОНІ'ЦЬ *зак.* Разбараніць, не даць біцца. *Шчо то за бітвá, шчо бабі розборóняць?* В. Малешава. *Хай бу ж ты іх розбороніў.* Сямурадцы.

РОЗБО'РЧЫВЫ *прым.* Кемлівы, кемны. *Розборчывы во ўсім розбіраецца.* Луткі.

РОЗБОЎТУ'ХА *ж.* Яечня, размешаная з мукой. *Цалу міску розбоўтухі — яечні з мукой і молоком зробіла.* Хотамель.

РОЗБРА′ЖЫЦЦА *зак.* Пачаць брадзіць. *Сыр розбражыцца, укісне, як налью молоком.* Сямурадцы.

РОЗБРА′ЖЫЦЬ *зак. экспр.* Прывучыць да гарэлкі (?). *Ездзіць на заработкі, то розбражыў чэрэво.* М. Малешава.

РОЗБРО′Д *м.* Распуста. *Беда, розброд узяўса на молодзёж.* Цераблічы.

РОЗБРОДЗІ′ЦЦА *зак.* Распусціцца, разбадзяцца. *От розбро́дзіцца, розволо́чыцца, то дзе вон жэніцца.* Сямігосцічы. *Кот наш розбродзіўса.* Аздамічы.

РОЗБРО′СКНУЦЬ *зак.* Ператравіцца. *Уберэ кіло цыбулі да пока розброскне ў жывоце, то ходзіць да пу́хкае.* Дварэц.

РОЗБРЫНЯ′ЦЬ *зак.* Разбухнуць. *Ото я воды налью, то каша шчэ больш розбрыня́е.* Луткі.

РОЗБРЫСЦІ′СА *зак.* Разбэсціцца, распусціцца. *Разброўса вельмі ж ты.* Аздамічы.

РОЗБУДЗІ′ЦЬ *зак.* Узбудзіць, пабудзіць. *Вон ее розбудзіў, той кот.* В. Малешава.

РОЗБУ′РЫЦЦА *зак.* Пасвятлець, праясніцца. *Розбурылосо на небе.* Пагост.

РОЗБУ′РЫЦЬ *зак.* Разбурыць, спустошыць. *Там було саду мо то два гектары — усе разбурылі.* Кароцічы.

РОЗБУ′ТАНЫ *дзеепрым.* Растрапаны. *Косы розбутаные.* Запясочча.

РОЗБУЦЕ′ЦЦА *зак.* Разгудзецца, расшумецца. *Розбуцеўса, як бугай.* Хотамель.

РОЗБУ′ЦЦА *зак.* Разжыцца, пачаць добра жыць. *Шоб ты не розбуўса* (праклён). Цераблічы.

РОЗБУЯ′СІЦЦА *зак.* Адурэць, ачумець. *Наеласа буяхоў дай розбуясіласа.* Бярэжцы.

РОЗБЭ′ШЧВАЦЬ *незак.* Распускаць. *Дзержы на цэпу собаку і не розбэшчвай.* Хачэнь.

РОЗВАЖА′ЦЬ *незак.* Развейваць, забаўляць. *Я розважала ее, коб не плакала.* М. Малешава.

РОЗВА′ЖВАЦЬ *незак.* Развейваць, разводзіць. *Отведвала мене, мое горэ розважвала.* М. Малешава.

РОЗВА′ЖЫЦЬ *зак.* Развеяць, суцешыць. *Ек горэ еке, то вон мене розважыць, розвеселіць.* Бярэжцы.

РОЗВА′Л *м.* Нешта вялікае, няскладнае. *Зробіў хату велізну, розвал такі.* Дварэц.

РОЗВАЛІ′ЦЦА *зак.* Разваліцца, разбурыцца. *Ек груба або печ розва́ліцца, то нехто ўмрэ* (павер'е). Хачэнь.

РОЗВА′ЛКА *ж.* Развал, разбурэнне. *Розвалка ўсе-*

*му — ямка обваліласа до лёґара.* М. Малешава. △ У р о з в а́ л к у (і ц і). Перавальваючыся. *Ідуць у розвалку, не бачаць тое жонкі.* Сямігосцічы.

РОЗВА′ЛЬВАЦЦА *незак.* Разбурацца, раз'язджацца. *Хутко розвальваецца копа.* М. Малешава.

РОЗВА′ЛЬНІЦА *ж.* Развал, нялад. *Дзе ў сем'е п'яніца, там і розвальніца* (прымаўка). Старажоўцы.

РОЗВЕЗА′ЦЦА *зак.* Развязацца. *Не еж кашы с хлебом, бо пузо роз'я́жэцца.* Сямігосцічы.

РОЗВЕРНУ′ЦЬ *зак.* Развесці зубы (у піле). *Трэба розвернуць пілу, ато жжымае.* Аздамічы.

РОЗВЕ́СЦІ′ *зак.* 1. Расставіць, раскласці. *Шыроко разоўёў того стога.* М. Малешава. 2. Рассеяць, развеяць. *Я чужую беду рукамі розведу, а свою і ума не доберу* (прымаўка). Сямігосцічы. 3. Развесці, размножыць. *Разоўёў картоплі старт, воны не вугнілі летося.* В. Малешава. *Батька пчол разоўёў.* Альпень.

РОЗВЕСЦІ′СА *зак.* Развесціся, размножыцца. *Столько розвелосо пацукоў, шчо не можно було ораць.* Сямігосцічы.

РОЗВІВА′ЦЦА *зак.* 1. Развівацца, распускацца. *Кажуць леніву дуб, бо вон позно розвіваецца.* Луткі. 2. Раскручвацца. *Рой звіваецца дзе, а потом розвіваецца і леціць.* Мачуль.

РОЗВІГНУ′ЦЦА *зак.* Выпрастацца. *Не можэ розвігнуцца, не можэ стаць право, ходзіць раком.* Хачэнь.

РОЗВІ′ДНЕВАЦЬ *незак.* Світаць, днець. *Ужэ розвідневае.* Дварэц.

РОЗВІ′ДНЕЦЬ *зак.* Разднець, развіднець. *Як пошла, толькі розвіднело.* Хачэнь. *Чуць розвіднее, то пойду перэховаю.* Лутkі.

РОЗВІ′ЗНУЦЦА *зак.* Расплюшчыцца. *Вочы не розвізнуліса ра́нком.* Бярэжцы.

РОЗВІ′ЛКА *ж.* Развілка дарогі. Альшаны.

РОЗВІТА′НЬЕ *н.* Развітанне. *Давай жэ на розвітанье я почастую цебе.* Сямігосцічы.

РОЗВІ′ЦЦА *зак.* Распусціцца. *Гэто бэбкі, вербá роспукнуласа, розвіласа.* Хачэнь. *От бувае грыміць рано, на голы лес, пока вон не розвіўса.* Сямурадцы.

РОЗВО′Д *м.* △ Н а р о з в о д. Для развядзення. *Усіх не перэб'юць, оста́ну́цца на розвод.* Бярэжцы.

РОЗВО′ДЗІЦЬ *незак.* Разводзіць. *Мед розводзяць на во́ду.* Сямігосцічы. *Розводзяць перэмоту.* Лутkі.

РОЗВО'ЗІЦЬ *незак.* Развозіць. *Розвозілі по дворах лён, а цепер сушня е.* Дварэц.

РОЗВО'ЛІЦЬ *зак.* Даць волю. *Роспусцілі, розволілі людзей.* Дварэц.

РОЗВОЛОКЦІ' *зак.* Расцягнуць. *По ўсём полі розволок.* В. Малешава.

РОЗВОРА'ТНІ, РОЗВОРА'ТНЫ *прым.* Бязладны. *Розворатня сем'я, не хоцела робіць.* Мачуль. *Сем'я розворатна була така, шо не ладзяцца ў хаце воны век.* Там жа.

РОЗВОРО'Т *м.* Развод зубоў (у піле). *Малы розворот у гэтой пілы, жжымае.* Цераблічы.

РОЗВОРО'ТКА *ж.* Ключ для развода зубоў (у піле). *Розворотка дубовенькая була пілу острыць.* Цераблічы.

РОЗВОРО'ТНІК *м.* Тое ж. Аздамічы.

РОЗВОРО'ЧВАЦЬ *незак.* Разводзіць зубы (у піле). *Розворочваць пілу.* Запясочча.

РОЗГА'Р *м.* Гарачая пара, прыпар. *Буў розгар роботы, косовіца да ўсе.* Сямігосцічы.

РОЗГА'РКАЦЦА *зак. экспр.* Раскрычацца. *Чого ву тут розгаркаліса?* Верасніца.

РОЗГЕ'ЎКАЦЦА *зак. экспр.* Тое ж. *Розгеўкаецца, ек нап'ецца.* Пагост.

РОЗГІБІ'ЦЬ *зак.* Разагнуць. Луткі.

РОЗГЛЕ'ДЗЕЦЦА *зак.* Агледзецца, паглядзець навокал. *Ты розгледзьса добрэ, а потом робі.* Луткі.

РОЗГОВА'РВАЦЬ, РОЗГОВОРА'ЦЬ *незак.* Размаўляць. *Добро, будзеш знаць ек куры, ек гусі, ек волы, ек корову розговарваюць* (з казкі). Бярэжцы. *Чысто розговорае.* Там жа.

РОЗГОВО'Р *м.* Размова, мова, вымаўленне. *Му зюзюкі называемса за розговор наш.* Тураў. *Горкавы мае не чысты розговор.* Буразі.

РОЗГОЙДА'ЦЦА *зак.* Раскалыхацца. *Розгойдáюцца і катаюцца на еком дзерэві, ну, конечно, по лéту.* В. Малешава.

РОЗГОМА'НВАЦЬ *незак.* Размаўляць, гаманіць. *З кім вон розгоманвае!* М. Малешава.

РОЗГО'Н *м.* Разгон. *Возьмі розгон дай перэскочыш рова.* Луткі.

РОЗГО'НЕНЫ *дзеепрым.* Акучаны. *Розгоненые картоплі поподнімаеш, которы корэнь засыплецца.* М. Малешава.

РОЗГО'НКА *ж.* Акучнік, сошка для акучвання бульбы. Аздамічы.

РОЗГОНЯ'ЦЦА *незак.* Разганяцца. *Розгоняецца да плыгае церэз канаву.* Пагост.

РОЗГОНЯ'ЦЬ, РОЗГАНЯ'ЦЬ *зак.* 1. Разганяць, рассейваць. *Гушча дзецей не розганяе, а голу юшку й собака обегáе* (прымаўка). Старажоўцы. 2. Акучваць. *Сошкой розгоняюць картоплі.* Бярэжцы. *Розганяць трэба картоплі.* Хільчыцы.

РОЗГО'РАЦЬ *зак.* Агораць, раздабыць. *Бало, жыве ў подсýседах да неек розгóрае хату.* Старажоўцы.

РОЗГОРНУ'ЦЬ *зак.* Разгарнуць, рассунуць. *Улезь у ту крухý да розгорні, то такіе хорошые седзяць* (грыбы). Лут予кі.

РОЗГОРОДЗІ'ЦЬ *зак.* Разгарадзіць. *Розгорожу стару горóжу да нову постаўлю.* Пагост.

РОЗГО'РТАЦЬ *незак.* Раскрываць, разгортваць. *Той багаж розгортаюць, кладуць у воз і закрываюць.* Кароцічы.

РО'ЗГОЎКІ *мн.* Разгаўленне. *До Петра — петровіца, а на Петра — розгоўкі, сало едзяць, а посного не едзяць.* Дварэц.

РОЗГУ'ТАЦЬ *зак.* Разгайдаць, разгушкаць. *Розгутаў гýталку да под небо, здаецца, подлетáе.* Пагост.

РОЗДАБА'РЫВАЦЬ *зак.* Разважаць, разглагольстваваць. *А бацюшко злуе, як воны роздабарываюць там, у цэркві.* Запясочча.

РОЗДВО' *н.* Каляды. *Перэд роздвом перва куцья будзе.* Альшаны. *На роздво була ў дочкі.* Запясочча.

РОЗДВО'ЙВАЦЦА *незак.* Раздвойвацца, раздзяляцца надвае. *Чэрэпýшкі роздвойваюцца, з одной дзве робяцца.* Лутүкі.

РОЗДЖО'МАЦЦА *зак.* Ачомацца, апамятацца. *П'яны лёг под посцель, а ек розджомаўса, то думаў, шо ў гробý.* М. Малешава.

РОЗДЗВІГА'ЦЦА *незак.* Рассоўвацца. *Бачу — фіранкі роздвігаюцца і лезе чоловек.* Сямурадцы.

РОЗДЗЕВА'ЦЦА *незак.* Разадзявацца, добра адзявацца. *Я себе пышно не поднімаю, не роздзеваюса.* В. Малешава.

РОЗДЗЕЛІ'ЦЬ *зак.* Падзяліць, раздзяліць. *Пан Давыд пом'ёр і розделіў ім землю, тым городчукам.* Альпень. *Такі ўрэдны, шо з ім і чорт болота не роздзеліць* (прыказка). Хачэнь.

РОЗДЗЕ'ЦЦА *зак.* Распрануцца. *Ек я роздзёнуса, то худы буў навек.* Кароцічы.

РОЗДЗЁРА *ж.* Пратока, нанава прарванае рэчышча. Запясочча.

РОЗДЗЯНЫ', РОЗВЯНЫ' *прым.* Калядны. *Опошні дзень свят роздзяных.* Кароцічы. *Розвяные песні.* Запясочча.

РОЗДОБРЭ'ЦЬ *зак.* Стаць шчодрым, расшчодрыцца. *Не было дожджу, а цепер раздобрэў і лупіць.* Цераблічы.

РОЗДО'Л *м.* Ніз, нізіна паміж узгоркамі. *На том роздолі ходзяць гусята.* Старажоўцы. *Сівы вол вупіў воды роздол* (загадка). *Мороз* (адгадка). Луткі. Яма з граззю на дарозе. Альпень. *Памянш.* р о з д о́ л ь ч ы к. *Кожна доліна, кажды роздольчык поўны воды.* В. Малешава.

РОЗДО'ЛІНА *ж.* Тое ж. *То нізкая ме́сціна: там грудок і там грудок, а то — роздоліна, вода як прыдзе, то і дзержыць.* Мачуль.

РОЗДО'ЛЬЕ *н.* Раскоша, выгода. *Роздолье там жыць на краю села: там і куры ў кустах ходзяць, і качкі годуй, там і вода, там і паша.* М. Малешава.

РОЗДРАЖНІ'ЦЬ *зак.* Раз'ятрыць (рану). *Роздражніў да зноў нарывае.* Альпень.

РОЗДО'ЎВАЦЬ *незак.* Раздуваць, раздзімаць. *Выгрэ́баем жар дай роздоўваем.* Сямігосцічы.

РОЗДУ'МАЦЦА *зак.* Развіжыць. *Роздумаецца, подумае, шчо здзелаць.* Бярэжцы. Адумацца, перадумаць. *Роздумаласа да не хочэ шыть.* Альпень. *Мо прыдзе, роздумаецца.* Верасніца. *Роздумаўсо лях, шчо добро ў головах* (прымаўка). Запясочча.

РОЗДУ'МНЫ *прым.* Развіжны. *Я хозяін, я роздумны такі, ка — хвалько.* Цераблічы.

РОЗДУ'РБАЦЦА *зак.* Раскатурхацца, ачомацца. *Пока роздурбаўса, то ўсе ужэ пошлі.* Тураў. *Я спаў да шчэ не роздурбаўса добрэ.* Сямігосцічы. *Бу ошоло́пана була, пока роздурбаласа.* М. Малешава.

РОЗДУ'РБАЦЬ *зак.* Раскатурхаць. *Пойду роздурбаю свого чоловека.* Рыдча.

РОЗДУ'ЦЬ *зак.* Раздуць, раздзьмуць. *Укінь жару да роздунь уцюг.* Запясочча.

РОЗДУШЫ'ЦЦА *зак.* Разагрэцца (ад працы, хадзьбы). *Роздушыласа да на вецёр, вецёр буў.* Хачэнь.

Астыць, ахалодаць. *Скінь чоботы, роздушыса, да ідзі спаць.* В. Малешава.

РОЗЕ'ВІЦЦА *зак.* Разявіцца. *У воўка́ рот не розе́віцца.* Цераблічы.

РОЗЕВЯ'КА, РОЗЕЎЯ'КА *ж.* Разява. *Жвавому надо быц на плоту, розевяку не возьмуц туды.* Запясочча. *Розеўяка, разінуў рот.* Аздамічы.

РОЗ'ЕЖДА'ЦЦА, РОЗ'ЕЖДЖА'ЦЦА *незак.* Раз'язджацца, разыходзіцца. *Усе з села роз'ежdaліса по сёлах уночэ, цалы обоз буў.* М. Малешава. *Роз'ежджаюцца хмары.* Луткі.

РОЗ'Е'СЦІ *зак.* Паесці, стравіць. *Роз'елі ладкі картопляные.* Пагост. *На ночлег сталі да копкі нашы роз'елі.* Тураў.

РОЗ'Е'СЦІСА, РОЗ'Е'СЦЦА *зак.* 1. Унадзіцца. *Не можні отогнацца, так роз'еліса воўкі.* Бярэжцы. 2. Распасвіцца. *От роз'еўса, шо і ў шкуру не лезе.* Верасніца. 3. Раззлавацца. *Роз'ёўса на его за того собаку.* Хачэнь.

РОЗ'Е'СЦЬ *зак.* Разгрызці, разадраць. *А як нема на дзерэві нічого* (што перашкодзіла б мядзведзю залезці), *то злезе да роз'есць этого вулья і пчолы з'есць усе чысто.* Дварэц.

РОЗЕЎЛЯ'ЦЬ *незак.* Разяўляць, шырока раскрываць. *На чужы коровай рот не розеўляй, свой спечы дай скачы* (прымаўка). Сямігосцічы. △ Розеўляць рот. Сварыцца, крычаць. *Цімох на ее розеўляе рот, а она на ёго.* М. Малешава.

РОЗЖА'ЛІЦЦА *зак.* Разжаліцца. *Як плачэ дзіця, то кажуць: от розжалілос, ужалілос, плачэ.* Хачэнь.

РОЗЖА'ЛІЦЬ *зак.* Разжаліць. *Вона розжаліць его ўговорамі.* Сямігосцічы.

РОЗЖЫ'ЦЦА *зак.* Разжыцца, набыць. *Дзе рожжывесса тых дрожжэй?* Верасніца. *Я стаў пасціць овечкі да розжыліса немного.* Хачэнь.

РОЗЖЭ'НЬВАЦЦА *незак.* Разжэньвацца, разводзіцца. *Цепер жонатые розжэньваюцца.* Хачэнь.

РОЗЗІРА'ЦЬ *незак.* Разглядаць, дзівіцца. *Не робіць, стоіць, казкі-роскáзкі ведзе, хто поехаў, хто пошоў, да кругом роззірае.* М. Малешава. *Бы ворона розявіць рот да роззірае, а робіць не хочэ.* Луткі.

РОЗІ'НКІ *мн.* Разынкі. *Розінкі такіе солодкіе ў пірог сыпалі.* Мачуль.

РО'ЗКА *ж.* Дубчык, розга. *На вербну чедзелю розкі режуць, розкою корову гоняць на першы дзень.* Альша-

ны. *Насек ро́зок на веніка да несу.* Луткі. *Гэты окоман подаў дзеда пану под розкі.* Цераблічы. *Памянш.* р о́ з о ч к а. *Як отламіш ш чого, от і розочка.* Луткі. *Розочку осову ў голову заткнула.* Там жа. *Е тут дзве розочкі буркуна.* Старажоўцы.

РОЗЛА'МІЦЦА *зак.* Раскласціся (ушыр). *Сноп розламіцца на шапку і накрываюць дзесяток.* Мачуль.

РОЗЛА'МІЦЬ *зак.* Разламаць. *От, розламіш ґузік грошоўкой.* Верасніца. *Дзесятого снопа розламіць да зробіць шапку на кучку.* Дварэц.

РОЗЛЕГА'ЦЦА *незак.* 1. Разлягацца, распасціравацца. *Вусы розлегаюцца, бы майна.* Цераблічы. 2 *перан.* Поўніцца. *Спевалі, аж село розлегалосо.* В. Малешава. *Клуб розлегаецца од тых танцоў.* Пагост.

РОЗЛЕПІ'ЦЬ *зак.* Разляпіць, разняць. *Не мог очы розлепіць от слёз.* Луткі.

РОЗЛІВА'ЦЦА *незак.* Разлівацца, вылівацца. *Нероўны чэрэ́н у пе́чы, то усе горшкі розліваюцца, ек стаўлю.* Кароцічы.

РОЗЛІ'Ў *м.* 1. Разліў, паводка. *Такі розліў воды, шо морэ да вода.* Рамель. *Самы розліў, ек прыбудзе вода.* Там жа. *Самы розліў воды, ек вона прыбудзе.* Луткі. *Саму розліў воды, ек роспуст буў, на лотках усе ездзілі.* М. Малешава. 2. Разліванне. *От розліву горэлкі буў ей доход.* Дварэц.

РОЗЛІ'ЦЦА *зак.* Разліцца, расцячыся. *От розліласа вода, ек чыстэ поле.* Сямурадцы. *Говорыла гарэлка: я ўпаду да розольюса, да по шырокой дорозі розыйдуса* (з песні). Там жа.

РОЗЛІ'ЦЬ *зак.* Разліць. *Бутылку розлеце по сто грам.* В. Малешава.

РОЗЛІЧА'ЦЦА *незак.* Адрозніваццa. *От і розлічаецца мова наша од Ольшан.* В. Малешава.

РОЗЛО'ЖНІК *м.* Лазаніца (расліна). Хачэнь.

РОЗЛУПІ'ЦЬ *зак.* Разарваць, разадраць. *Розлупіў корове чэ́рэво воўк.* Пагост.

РОЗЛУЧЫ'ЦЬ *зак.* Разлучыць. *Розлучылі хло́пца з дзеўкою езыкі поганые.* Пагост.

РОЗЛЯ'ПАЦЦА *зак. груб.* Разгаварыцца. *Ужэ як розляпаласа, то будзе дзень ляпаць однэ і тэ.* М. Малешава.

РОЗЛЯ'ТАЦЦА *незак.* Разлятацца. Запясочча.

РОЗМА'ЗАЦЬ *зак.* Распесціць. *Розмазаюць бацько*

*з мацер, нічого не спуняюць, то шчо з ёго будзе?* Кароцічы.

РО′ЗМАЗЕ′НЬ *м.* 1. Размазня, бесхарактарны чалавек. *От ро́змазень жонка ў его.* Луткі. Бясформенны прадмет. *Нейкіе розмазні обуў, нехорма́тнэ таке нешчо.* Там жа. 2. Ласун. Запясочча.

РОЗМАІ′ТЫ *прым.* Розны, усялякі. *Булі па́сочкі розмаітые.* Кароцічы.

РОЗМА′Й *м.* Нейкая дэкаратыўная расліна, што расла каля хаты. Хачэнь.

РО′ЗМАХ *м.* Размах. *Такі самы розмах зробі.* Кароцічы.

РОЗМА′ХВАЦЬ *незак.* Размахваць, жэстыкуляваць. Бярэжцы.

РОЗМАХНУ′ЦЬ *зак.* Замахнуцца. *Вон розмахнуў сокерой да не попаў по голове.* Бярэжцы.

РОЗМЕ′Р, РОЗМЕ′РАЧ *м.* Бандарная прылада, цыркуль. *Розмер.* М. Малешава. *Розме́рачом розмера́лі дно для бочкі, для цэбра.* Сямігосцічы.

РОЗМЕРГОВА′ЦЦА *зак.* Адумацца, разважыць. *Аж воны розмерґуваліса да оддалі назад.* Мачуль.

РОЗМЕРГОВА′ЦЬ *зак.* 1. Распланаваць. *Розмерґовалі о тут поставіць хату.* М. Малешава. 2 *перан.* Растранжырыць. *Вона получыць пенсію да за два дні розмірґуе, да ўжэ зубамі ляскае.* Хачэнь.

РОЗМІНА′ЦЬ *незак.* Размінаць, расціраць. *Розміналі качалкою коноплі.* В. Малешава. *Молоко з сыром розмінають.* Альпень.

РОЗМІНО′ЎВАЦЦА *незак.* Размінацца, разыходзіцца. *У нас кажуць, шчо не можно розміноўвацца на порозі, а чому — не знаю.* Луткі.

РОЗМОЛОДЗЕ′ЦЬ *зак.* Разбухнуць. *Земля розмолодзее от дождж*у. Цераблічы. *Молозіво злівалі, да вонэ поцеіце, да ёго у печ поставяць, вонэ розмолодзее, таке м'якке́ зробіцца, пухке́.* Мачуль.

РОЗМУ′КАНЫ *дзеепрым.* Адамкнуты, не замкнуты на ключ. *Розмуканы кобан буў, то его ўкралі.* Пагост.

РОЗМУ′ЦЬ *зак.* Размыць. *Вода розмула берэга.* Старажоўцы. △ В о д а  н е  р о з м ы е. Пра моцную дружбу, сувязь. *Ек сталі нашые молодые жыць, шо і вода не розмые.* М. Малешава. *Воны познакомяцца, то іх вода не розмые.* В. Малешава.

РОЗМ'Я′ЦЬ *зак.* Размяць, расцерці. *Возмом да сыра розомнём.* Запясочча.

РОЗНЕГО′ДЗІЦЦА *зак.* Разнягодзіцца, стаць дрэнным (пра надвор'е). *Цепер рознегодзілосо, то надоўго.* Сямурадцы.

РОЗНЕСЦІ′ *зак.* Разнесці, расцягнуць, разарваць на часткі. *Я за коўбасу хату рознесу* (жарт). Старажоўцы. *Вон ехаў з Ольшан да на міну з'ехаў, да гэтта рознесло.* В. Малешава.

РО′ЗНІЦА *ж.* Розніца, адрозненне. *Шо кій, шо палка, а розніцы нема* (прымаўка). М. Малешава.

РОЗОБРА′ЦЦА *зак.* Раздзецца. *Ты шчо, Іван, ужэ розобраўса? А я к тобе на вечоркі прыйшоў.* Лутҡі.

РОЗОБРА′ЦЬ *зак.* 1. Разабраць, раскідаць. *Хату то не спалілі ў войну, а сені розобралі.* Хачэнь. 2. Выклікаць ап'яненне. *Горэлка розобрала.* Сямурадцы. 3. Ахапіць, апанаваць. *Мене ек охота розобрала носіць снопы.* Верасніца. 4. Зразумець, распазнаць. *Там без попа і чорт не розберэ, шо робіцца.* М. Малешава. *Болванее — то відно, але не разобраць.* Альшаны.

РО′ЗОВУ *прым.* △ Р о з о в а в о л о́ ш к а. Васілёк лугавы. Запясочча.

РОЗОГНА′ЦЦА *зак.* Разагнацца, узяць разгон. *Плотка розжэнецца і плыгне.* Цераблічы.

РОЗОГНА′ЦЬ *зак.* 1. Разагнаць, рассеяць. *Розогнало хмару.* М. Малешава. 2. Акучыць. *Едзьмо да рожжэнем картоплі.* М. Малешава.

РОЗОДНЕ′ЦЬ *зак.* Разднець. *Розоднело, соўнейко чуць.* Луткі. *От, ек розоднее, так мухі і бызыкаюць.* Там жа.

РОЗОМЛЕ′ЦЬ *зак.* Разамлець. *От розомлеў, жарко.* Альшаны.

РОЗО′РА *ж.* Разора. *Ай, у розорах воды богато, воды а воды!* Луткі. *Розора ўсерэдзіне загона е.* Цераблічы. *Памянш.* р о з о́ р к а. *Ежэлі кажэм поле ў одном загоне, то трэба, ка, разоркі робіць, шчоб вода збегала.* Цераблічы.

РОЗОРА′ЦЬ *незак.* Разараць. *Треба розораць пожню на лён.* Альшаны.

РОЗОРВА′ЦЦА *незак.* Разарвацца. *Серцэ розорвалоса да здох медзведзь.* Запясочча.

РОЗО′РВАЦЬ *зак.* Разорваць. *Трэ розоры розорваць по сееному полю, коб вода збегала.* М. Малешава. Першы раз араць поле. Альшаны.

РОЗОЦЕ′РЦІ *зак.* Размяць, пацерці. *Розотрэш от*

*такого великого карука ў попеле да начыніш м'ясом.* Луткі.

РОЗРАДЗІ'ЦЦА *зак.* Скінуць святочнае адзенне. *Я була нараджона да ўжэ розрадзіласа і пошла корміць свінне.* Луткі.

РОЗРАЗІ'ЦЬ *зак.* Сапсаваць, атруціць. *Розразілі эты воздух, то чого ж цепер людзі здоровуе будуць?* Дварэц.

РОЗРОБЛЯ'ЦЬ *незак.* Разрабляць, рыхтаваць пад пасеў. *Первы раз землю розробляюць.* Луткі.

РОЗРОГОТА'ЦЦА *зак.* Разрагатацца, гучна засмяяцца. Запясочча.

РОЗРУ'МАЦЦА *зак.* Разрумзацца, пачаць плакаць. Запясочча.

РОЗРУНІ'ЦЦА *зак.* Раздацца, зрабіцца тоўстым. *От розруніласа, ледзьво пошла, гладка́ такая стала.* Верасніца.

РОЗРЭ'ПАНЫ *дзеепрым.* Парэпаны, патрэсканы. *З'ешце тое розрэпанэ яблуко.* Верасніца.

РОЗУВА'ЦЦА *незак.* Разувацца. *Неколі було розувацца.* Дварэц.

РОЗУВА'ЦЬ *незак.* Скідаць, разуваць. *Бало казалі: розувай ці скідай лапці да ложыса спаць.* Луткі.

РО'ЗУМ *м.* Розум. *Розуму нема. Коб буў розум, то не погіб бу.* Кароцічы. *Некі коньскі розум у старого робіцца.* Д.-Гарадок. *По дурню й розум* (прымаўка). Сямурадцы. *Екі розум, такі толк* (прымаўка). Старажоўцы. *Людзей слухай, а свой розум май* (прымаўка). Там жа. *Не даў бог розуму, то й коваль не скуе* (прыказка). Там жа. *Нашчо тобе тые вочы, ек у цебе розуму нема́?* (прыказка). Там жа. *Коб мне той розум наперэ́д, шо ў мужыка напо́сле* (прыказка). Сямурадцы. △ Н а б р а́ ц ц а р о з у м у. Паразумнець. *Хай бу ты пошоў об людзей поцёрса, розуму набраўса.* Сямурадцы. У з я́ ц ц а з а р о з у м. Адумацца. *Ужэ ўзяўса чоловек за розум, не п'е.* Азяраны.

РОЗУМЕ'Ц *м.* Мудрэц, разумнік. *Наш Міша такі ўжэ розумец, у свеці такіх нема.* Верасніца.

РОЗУМНІНА' *ж.* Разумніца. *Твоя жонка розумніна.* В. Малешава.

РОЗУ'МНЫ *прым.* Разумны. *Лучшэй з розумным загубіць, чым з дураком знайсці* (прымаўка). Сямігосцічы. *Розумны, ек Лейзероў собака* (прыказка). Старажоўцы.

РОЗУ'ЦЬ *зак.* Разуць, скінуць. *Лапці розуў.* Бярэжцы.

РО'ЗЫГРЫ *мн.* Традыцыйнае свята праз тыдзень пасля тройцы. *Прослі тройцы розыгры буваюць — як у гэты дзень чоловек умрэ, то ў русайке́ поступае.* Цераблічы. △ Р у с а ў ч ы н ы р о з ы г р ы. Апошні дзень русальнага тыдня. *Русайкі тыждзень гуляюць, по жыту бегаюць, да косы роспушчэны, а ў понедзелок розойдуцца, то кажуць розыгры.* Луткі. *Раз на русаўчыны розыгры пралі. Бачаць — седзіць на дубе і кольбель колышэ. Мы ўцекаць, вона за намі. Подбегла і кажэ: Догадаліса. Уцеклі. Я б вам показала, шо цепер за дзень.* Там жа.

РОЗЫЙЦІ'ЄА, РОЗОЙЦІ'СА *зак.* 1. Разрасціся, распаўсюдзіцца. *Мокрэц не можно вуполоць, розойдзецца по ўсему полю.* Сямурадцы. 2. Размінуцца. *Розышласа з Матруною коло ганка.* Дварэц. 3. Пачаць мацней ісці, узмацніцца. *А дождж можэ розыйціса, гледзі на во́ду — капае ужэ.* Верасніца. 4. Растраціцца, патраціцца. *Ек е, то розо́йдзецца, а ек нема, то і так обо́йдзецца* (прымаўка). В. Малешава.

РОЗ'ЮРЫ'ЦЦА *зак.* Раз'юшыцца. *Свінья роз'юрыласа і побегла.* Хотамель.

РОЗ'Ю'ШЫЦЦА *зак.* Тое ж. Хотамель.

РОЗЯ'ВА *ж.* Разява, разявака. *Ехала розява да огло́блею ў рот.* Дварэц.

РОЗЯ'ВІ'ЦЬ, РОЗЗЯ'ВІЦЬ, РОЗЕ'ВІЦЬ *зак.* Разявіць, шырока адкрыць. *Бы ворона, розявіць рот да позірае.* Луткі. *Розявіў пасць, бы холяву.* Аздамічы. *Гледжу: корова роззявіла рот да отрывае яблуко.* Бярэжцы. *Воўк рота не можэ розе́віць.* Цераблічы. *Розявіў рот на ўсю глотку.* Там жа.

РОЗ'ЯРЫ'ЦЦА *зак.* Раз'юшыцца. *Ек роз'ярыцца жэрэбец — не ўдзержыш, понесе і воз можэ рознесці.* Пагост.

РОЗЯ'ЎЛЕНЫ *дзеепрым.* Разяўлены, шырока адкрыты. *У кого рот розяўлены, ек спіць, той і хропе.* Чэрнічы.

РО'І'ЦЦА *незак.* 1. Раіцца (пра пчол). *Ек пчолы ро́яцца, то перву — сільны рой.* Бярэжцы. 2. Мітусіцца, мільгаць; *перан.* здавацца, мроіцца. *Нешчо роіцца ў голове, а не могу спомніць.* Мачуль. *Шо то мне роіцца, шо так воно ўродзі.* В. Малешава. *Роіцца ў вочах, добро не бачу.* Аздамічы. *Нешчо ў голове роіцца, думаецца.* Сямігосцічы.

РОʼІЦЬ *незак. экспр.* Ляцець, валіць. *Куды ты ўжо роіш?* Запясочча. *Бачу — рояц трое ко мне.* Там жа.

РОЙ *м.* Рой, вялікая маса насякомых. *Пускае роя вулей.* Хачэнь. *У его було роеў п'яць за лето.* М. Малешава. *Бувае рой мікольны, самі ранні, рой троецкі, рой бувае на Петра і на Льлю.* В. Малешава. *Вецёр быў, то мошкары не віднó було, а гэто рой.* Цераблічы. *Мух рой бызыкае ў хаце.* Луткі. *Мухі роём летаюць над столом.* Альгомель. *Памянш.* р ó і к. Аздамічы.

РОЙНІʼК *м.* Раеўня. Аздамічы.

РОК *м.* △ Р о к з а в і т ы́. Тэрмін аддачы доўгу. Хотамель.

РОКІʼТА *ж.* Дробналістая лаза з тонкімі галінкамі, ракіта. *Рокіта така малéнька, лісце ўзеньке, венікі в'яжуць з ее.* Цераблічы. *Рокіта росце на сенокосе, вона цьвордá, под сілегу подходзіць.* Луткі.

РОКІʼТНІК *м.* Ракітнік. *Рокітнік наподобіе лозы, его на венікі рэжуць.* Хачэнь.

РОКІʼТОВЫ *прым.* Ракітавы, з ракіты. *Венікі робяць рокітовые.* Луткі.

РОЛЬЯʼ *н.* Ралля. *Гэту роллю боронуем.* *Ролле.* Пагост.

РОМАЦІʼЗ *м.* Рэўматызм. *Рамаціз его гне.* Мачуль. *Раматіз.* Альпень.

РОМАЦІʼЗНІК *м.* Дзевясіл брытанскі. Запясочча. Нейкая расліна з чырвонымі ягадамі. Хачэнь. Рачная губка, бадзяга. Сямігосцічы.

РОМАʼШКА *ж.* Нейкая пакаёвая расліна. Верасніца.

РОМОʼН, РОМАʼН *м.* Рамонак. *Ромон е жоўты і белы.* Запясочча. *Ромон полюць у оўсе.* Сямурадцы. *Ромон е, шчо цвіце беленькім і шчо бубочкі, шчо на дворэ росце.* Бярэжцы. *Роман.* Там жа. *Ромон п'юць, як жонкі болеюць.* Луткі. *Ромон смердзіць.* Д-Гарадок.

РОМОʼНОК, РОМ'ЁНОК *м.* Тое ж. *Як зубы боляць, то ромонок прыкладываем.* М. Малешава. *Коло мельніцы тых ромонкоў росце, хоць косою косі.* Верасніца. *У ромонка голоўка круглата.* Мачуль. *Ромонкоў тры сорты е.* Сямігосцічы. △ Д з í к і р о м'ё н о к. Рамонак аптэчны (?). *Ром'ёнок дзікі не цвіце, его рвуць да змуваюцца, коб пергі ў голове не було.* Луткі. К ó н с к і (к ó н ь с к і) р о м ó н о к (р о м'ё н о к). Рамонак непахучы. *Конскі ромонок цвіце беленькім.* Альпень. С в ó й с ь к і р о м'ё н о к. Рамонак пахучы. *Ек паху-*

*чы — то свойські ром'ёнок, а шчо непахучы — то коньські.* Луткі.

Непахучы рамонак кладуць на гарышча, каб мышы не заводзіліся (Хачэнь). Пахучы рамонак даюць па чайнай лыжцы дзіцяці, якое толькі што нарадзілася, пакуль прыбудзе малако ў грудзях у маці (Хотамель).

РО'НДЭЛЬ *м.* Каструлька з доўгай ручкай. *Два рóндэлі масла натóпленого стоіць.* Луткі.

РО'ПА' *ж.* 1. Канцэнтраваны раствор солі. *Трэба, шоб рыба полежала тыждзень у ропі.* Тураў. *Робяць ропу да кладуць сало у ее.* Старажоўцы. Нешта вельмі салёнае. *От солоннэ, як ропа, залішне солоннэ.* Бярэжцы. Сок з салёнага мяса. Пагост. 2. Выдзяленні з рота нябожчыка. *Ек умрэ чоловек, то ідзе ропа з роту.* Хачэнь. *Шоб з цебе ропу гнало* (праклён). Запясочча.

РОПА'К *м.* Алейная расліна, падобная на свірэпку. *Ропак — зелье, подходзяшчэ под горпу, олей з его робяць.* Мачуль.

РО'ПУХА *ж.* 1. Невялікая рыбка, падобная на мянька (галец?). *Ропуха ўродзе менька, такая голая; ропухі не едзяць.* В. Малешава. *Шчэ ў нас кажуць і чэрэваты менёк і ропуха.* М. Малешава. *Ропуха рабá, чэрэвáта.* Луткі. 2. Жаба з жоўтым падбрушшам. Альшаны. Зялёная жаба. В. Малешава.

РО'ПУШКА *ж.* 1. Невялікая рыбка, падобная да мянька (галец?). *Ропушкі знаеце, то вашы налімы.* Верасніца. *Ропушкі жывуць у ямкáх, у корчэ, бу сому, дзе холодна вода.* Там жа. *Хвосцік острэнькі, а сама чэрэваценька, гэта сама ропушка, вона там дзе ўюны.* Мачуль. *Ропушка такая, ек палец, бóльшая не росце, ее ніхто не хочэ браць.* Старажоўцы. 2. Від жабы. Дварэц.

РОСА' *ж.* Раса. *На росу слалі полотна.* Мачуль. *Нема росы — не зородзіць мэд* (прыкмета). Там жа. *Хоця б роса ўпала, то будзе погода.* Сямурадцы. *Роса доўго стоіць, то будзе дождж* (прыкмета). Хачэнь. *На Купалного Івана росў ведзьмы збіраюць, шоб зобраць молоко* (павер'е). Запясочча. △ Б о́ ж а (я) р о с а. 1. Пра дробненькі дождж. *Прошла божа роса, на ўсе добрэ.* М. Малешава. 2. Расянка. *Е божая роса, бы роса на лапочках, воно нізенько на болотах росце.* Хачэнь. Р о с а ў р о ц е н е б у л а. Пра таго, хто не змог ці не паспеў перакусіць. *Я прышла сюды, то шчэ ж роса ў роце не була.* Запясочча. Ш ч э і р о с а н е с п а л а. Вельмі рана.

Верасніца. *Памяниш.* р о с і н к а. *І росінкі шчэ ў роце не було.* Старажоўцы.

РОСА'ЎКА *ж.* Русалка. *Коб волошку не рвалі, не м'ялі жыто, то прыговарвалі: там росайка з жэлезнымі цыцкамі, вона уб'е цебе жэлезною цыцкой.* М. Малешава. *Е сьято росайкі — тоды гуляюць розыгры.* Хотамель.

РОСЕ'ЙКА *ж.* Прыезджая з Расіі, руская. *Вода була веліка, як умерла росейка.* Сямігосцічы.

РО'СІСЦЬ *ж.* Нешта дрэннае. *Есьце, шоб вас поела росісць* (праклён). Пагост.

РО'СІЦА *ж.* Той, хто водзіць у гульні *ў росю. Росіца, росіца ў ночэ поросіцца — так цвеляць гэту росіцу.* Цераблічы.

РОСІ'ЦЦА *незак.* Браць у рот, перакусваць. *Это шчэ ходжу голодны, шчэ й не росіўса нічым.* Старажоўцы.

РО'СКА *ж.* Капля вадкасці, якая выступае на саску ў каровы незадоўга перад цяленнем. *Значыць корова, смолка, роска есцека.* Бярэжцы.

РОСКА'ЗАНЫ *дзеепрым.* Расказаны. *А гэто ўжэ росказанэ, я росказала.* Бярэжцы. *Я росказанэ кажу, сама не бачыла.* Там жа.

РОСКАЗА'ЦЬ *зак.* Расказаць. *Роскажы, ек рогожу ткала.* Верасніца. *Я вам роскажу, людзечкі, з чого вон не курыць і не можэ вупіць.* Старажоўцы. *Да ўсе чысто росказала ему, о.* Бярэжцы.

РОСКА'ЗВАЦЬ, РОСКА'ЗУВАЦЬ *незак.* Расказваць, апавядаць. *Моя маці росказвала, шчо ходзілі ў корчму колісь.* Чэрнічы. *Ну шо, не так росказваю?* Бярэжцы. *То, бувало, моя маці росказуе.* Хільчыцы.

РОСКАРА'КА *ж.* Нешта раздвоенае, растапыранае. *Роскорака ў граблях.* Пагост.

РОСКАРАКУ'Н *м.* Раскарака. *У нас казалі роскаракун, у кого ногі клешчамі.* Луткі.

РО'СКАРАЧ, РО'СКОРЭЧЭ *прысл.* Расставіўшы ногі. *Колісь стояла жонка роскарач да полотна прала ў Сопках.* М. Малешава. *Роскорэчэ скоро будзе ходзіць.* Хачэнь.

РОСКАРБОВА'ЦЬ *зак.* Размеціць зарубкамі, памеціць. *Хату роскарбовай, перэвозіцьмем.* Аздамічы. *Роскідаюць хату і, шоб дзерэво не поблыталосо, трэбо его роскорбоваць.* М. Малешава.

РОСКАРБО'ЎКА *ж.* Разметка. *Роскорбойка сцен робіцца, як хату перэносіш на друге место.* Аздамічы.

РОСКАТА'ЦЬ *зак.* Раскруціць, распусціць, выпусціць. *Кошка кіпці мае гострые, роскатáе, наставіць, да одгоніць собаку од еды.* В. Малешава.

РОСКАТУ'РХАЦЬ *зак.* Разбудзіць, раскатурхаць. *Я его сяк-так роскотурхаў.* Верасніца. Распіхаць, разагнаць. *Роскатурхаў коцікоў.* Хотамель.

РОСКАЧА'ЦЬ *зак.* Раскачаць. *Роскачаемо цесто, да на лопату, да ў печ, да на чэрэн.* Сямігосцічы.

РОСКВА'ЛІЦЬ *зак.* Разбіць, расквасіць. *Росквалію ему голову і ўцёк.* М. Малешава.

РОСКВА'СНУЦЬ *зак.* Расквасіць, зрабіць кашападобным. *Росквасло зімой снег.* Аздамічы.

РО'СКВАСЬ *ж.* Бездараж. Аздамічы.

РОСКІДА'ЛЬНІК *м.* Растратчык. *А воны булі поскудные роскідальнікі, усе спусцілі.* Старажоўцы.

РОСКІДА'ННІЦА *ж.* Растратчыца; неэканомная жанчына. *Ну, ек і жонка роскіданніца, то ўсе.* М. Малешава.

РОСКІ'ДАЦЦА *зак.* 1. Разбурыцца, распасціся, разваліцца, рассыпацца. *У сеўніку дно роскідалос.* М. Малешава. *Дзержаўса кожух, а тогды зогніў і роскідаўса.* Дварэц. *Роскідаюцца за ноч мое косы.* Цераблічы. Перастаць існаваць як нешта адасобленае. *Ужэ тоды роскідаласа тая шляхта.* Хачэнь. 2. Разысціся, скончыцца. *Як роскідаецца веселье, госці росходзяцца, то водзяць молоду да рознóсяць коровай у Сторожоўцах.* Хачэнь. 3. Развесціся, узяць развод. *Старóе сын роскідаўса з жонкою.* Хачэнь. 4. Разрадзіцца. *Роскідаласа за ноч і повезлі з дзіця     м додому.* Цераблічы. Расцяліцца. *Корова роскідаласа.* Хачэнь. 5. Адпухнуць, спасці. *Ці роскідаласа япа ў твоей коровы?* М. Малешава.

РОСКІДА'ЦЦА *незак.* 1. Разбурацца, распадацца, развальвацца, рассыпацца. *Мабуць, печ роскідаецца, так дрыжыць.* Мачуль. *Надо перэшыць, шоб не роскідáлос.* В. Малешава. 2. Распускацца, канчацца. *На прóвесні, шо зіма роскідаецца, шукаем того козляка.* Сямурадцы. *Як стане роскідацца з зімы, пожэном по ледў худобу.* Мачуль. *Роскідаецца дорога на провесні.* Луткі. 3. Разводзіцца, касаваць шлюб. *Колісь розвода не давалі, то хто як можэ роскідáюцца, бывало.* Аздамічы. 4. Радзіць, нараджаць. *Скоро ей роскідацца, гэтой кошцы.* Луткі. 5. Раз'ятрывацца. *Подгоіласа рана і зноў стала роскідацца.* Дварэц.

РОСКІ'ДА'ЦЬ *зак.* 1. Раскідаць, разбурыць. *Хату*

*роскідаў ту стару.* Старажоўцы. *Му ўзелі да роскідáлі плоціну, то бобер за суткі зноў загаціў.* Там жа. *Була помча така веліка, кóміна роскідáла.* Мачуль. 2. Разабраць. *Роскідаў мотора да не можэ собраць.* Мачуль. *Роскідала залом.* Бярэжцы. 3. Растраціць. *Роскідала грошы, так нічого і не купіла.* В. Малешава. 4. Зрабіць аборт, абарціраваць. *Можна було роскідаць, да подумала, шчо умрэ.* Бярэжцы. *Трэба ж було ей роскідаць первого дзіцяці, то зробіласа суха, ек дзіркач.* М. Малешава.

РОСКІДА'ЦЬ *незак.* 1. Раскідаць, разбураць. *Не роскідáй плота, нехай стоіць.* В. Малешава. 2. Разбіраць, патрашыць. *Рыбу ловіць ловіў, а роскідáць не хочэ.* Мачуль. 3. Раскідаць, *перан.* траціць, растрачваць. *Трэ роскідаць гной на полі, коб не посох.* Луткі. *Роскідае ўсе, не шчадзіць свого.* В. Малешава. *Грошы роскідаеце дай годзе.* Кароцічы.

РО'СКІДКА *ж.* △ Н а  р ó с к і д к у. Спосаб ворыва. Запясочча.

РОСКІ'ДЛІВУ *прым.* Неэканомны. *Людзі му не роскідліву — двацацаць рублей е й хопіць.* М. Малешава.

РОСКІ'ДНІК *м.* Марнатравец. *Вон поглеедзеў да говорыць: «Вы усе такіе роскіднікі?»* Сямігосцічы.

РОСКІДНЫ' *прым.* 1. Развáжны, які прадаецца на вагу. *Роскіднэ помідло, не ў банках.* Бярэжцы. 2. Разыходны, расстайны. *Роскідные дорогі.* Запясочча.

РОСКІ'НЕНЫ *дзеепрым.* Раскіданы. *Роскіненые по сёлах марлінцы.* Мачуль.

РОСКЛА'ДЗІСТЫ *прым.* Раскідзісты, разлапісты. *Тур лі землі росце, такі роскладзісты ліст.* Цераблічы. *Вéткі на ём роскладзістые. Роскладзіста барка.* Хотамель.

РОСКЛА'СЦІ *зак.* Раскласці, разлажыць. *Роскласці огонь на óгнішчы трэ було пастуху да погрэцца.* Луткі.

РОСКЛЕ'ІСТО *прысл.* Раскідзіста, не глыбока. *Хвоя пускае корэнь роскле́істо, а е і сторчóвы корэнь.* Цераблічы.

РОСКЛЕЯ'ЦЬ *зак.* Стаць клейкім. *Каша ужэ росклеяла поўносцю.* Луткі.

РОСКОВА'ЦЬ *зак.* Рассячы, расквасіць. *Бедна жонка, усю брову росковала.* Хачэнь.

РОСКОВЕ'СІЦЬ *зак. экспр.* Развесіць. *Губу росковесіў, як на негоду.* Запясочча. *Расковесіў свое губы і рэвеш.* Цераблічы.

РОСКО'Л *м.* Вісус, шыбенік. *Ах ты, роскол!* Аздамічы. *Гэты хітрэнькі хлопец, а той роскол.* Дварэц.

РОСКО′ЛВАЦЬ *незак.* Расколваць. *Клінок росколвае полено.* Дварэц.

РОСКОЛО′ТВАЦЬ *незак.* Раскалочваць, разбіваць. *Росколотвающь да мочающь у тэ мочанье.* Сямігосцічы.

РОСКОЛО′ЦІНА *ж.* Расколіна, трэшчына. *Росколоціна сыйшласа ў водзе.* Лутκі.

РОСКОЛОЦІ′ЦЬ *зак.* Раскалаціць, размяшаць. *Мацер росколоціла млінцэ і будзе пекці.* М. Малешава. *Росколоціць дзед мукі дай спечэ екого лепёніка.* Чэрнічы.

РОСКОЛО′ЦЦА *зак.* Раскалоцца, трэснуць, пакалоцца. *Дзе роскололаса земля, то картоплі усыхающь.* Пагост. *Ек удырыў кулаком, то окно роскололаса.* М. Малешава.

РОСКОЛО′ЦЬ *зак.* Раскалоць. *Озмі тую галузу да росколі колоду.* Цераблічы.

РОСКОЛО′ЧВАЦЬ *незак.* Раскалочваць, размешваць. *Веліка ложка, што ладкі росколочваць.* Крэмна.

РОСКОЛУПА′ЦЬ *зак.* Раскалупаць, раздзяліць. *Ёго росколупі, то дзве выйдзе, а так, то одна* (пра палавінкі ракавіны бяззубкі). Рыдча.

РОСКО′ЛЬНІК *м.* Шыбенік, свавольнік. *От родзіўса ў дзядзька Петра роскольнік, што нікому спокою нема.* М. Малешава.

РОСКО′РПАЦЬ *зак.* Раскатурхаць. *Роскóрпае чоловека, шоб устаў.* В. Малешава.

РОСКО′РЧЫЦЦА *зак.* Раскусціцца, разрасціся карчом. *Зелле роскорчілосо.* Хотамель.

РОСКО′С *м.* Мяжа паміж участкамі на сенажаці. *Там е такі роскос: там твой сенокос, а тут — мой.* Старажоўцы.

РОСКОТУ′РХАТЬ *зак.* Раскатурхаць, разбудзіць. *Налізаўса дай спіць, чуць роскотурхала, шоб чоботы зняў.* Верасніца.

РОСКО′ША *ж.* Раскоша, дастатак. *Сталі ў роскошэ жыць людзі.* Дварэц. *Грошы — то ўсе роскóшы* (прымаўка). Там жа. *Грошы вельмо ідуць по роскóшы* (прыказка). В. Малешава.

РОСКОШЛА′ЦІЦЦА *зак.* Растрапацца, раскалмаціцца. *Роскошлаціласа сліўка, слівóк на ей богато зорвалі.* В. Малешава.

РОСКО′ШНІК *м.* Хто жыве ў дастатку, бесклапотна. *Роскошнік — которы одзін у бацька, которы роскошне жыве.* Сямігосцічы. *Воны шчо — роскошнікі, а му ім усе робілі, воны барствовалі тутока.* В. Малешава. *Роскошнікі ў цебе куры, не хочуць есці картоплі.* Пагост.

РОСКО'ШНІЦА *ж.* Тое ж. *Вона роскошніца, нічого не робіць, у ее хозяін е.* Запясочча. *Роскошніца була, у столовой поваром робіла.* М. Малешава.

РОСКО'ШНО, РОСКО'ШНЕ *прысл.* Раскошна, прасторна. *Стало роскошнєй жыць: холоднэ строенье опрыш, а хаты ў другом месцы.* В. Малешава. *Роскошне.* Сямігосцічы.

РОСКО'ШНЫ *прым.* Схільны да раскошы, распанелы. *Цепер роскошные людзі, роскошно жывуць.* В. Малешава. *От роскошна баба, нічого не хочэ есць.* Запясочча. Адкормлены, дагледжаны. *Роскошны чоловек ек застудзіцца, то на его нема ніякое хворобы.* Пагост.

РОСКОШОВА'ЦЦА *незак.* Раскашавацц, цешыцца. *Дзеці уроскот лягуць на полу і роскошуюцца.* М. Малешава.

РОСКОШОВА'ЦЬ *незак.* Тое ж. *Будзе роскошоваць вона одна на дворэ.* Сямігосцічы.

РОСКОШЭ'РОВАЦЬ *зак.* 1. Распаліць, прымусіць буйна гарэць (пра агонь). *Сухостоем да смоліною роскошэровалі огонь да грэліс.* Пагост. 2. Моцна разгарэцца. *Роскошэровай огонь вушэй за кусты.* Пагост.

РОСКРУ'ЧВАЦЦА *незак.* Раскручвацца, развівацца. *Ее ж як не вець, то вона роскручваецца.* Луткі.

РОСКРЫВА'ЦЬ *незак.* Раскрываць, здымаць накрыўку. *Маці хросна роскрывае тэ цесто для коровая.* В. Малешава.

РОСКРЫ'ЛЕНЫ *дзеепрым.* З апушчанымі крыламі. *Роскрыленые гусі е, мо хворые?* Мачуль.

РОСКРЫ'ЛІЦЦА *зак.* Раскінуць крылы. *Вон пальнуў, то бусько упаў і роскрыліўса.* Мачуль.

РОСКРЫШЫ'ЦЦА *зак.* Раскрышыцца, сатлець. *Роскрышыласа на покуце штандара.* Дварэц.

РОСКРЭ'СНЫ *прым.* Перакрыжаваны, скрыжаваны. *Роскрэсные дорогі.* Верасніца.

РОСКУ'БЛІЦЬ *зак.* Распусціць. *Усю хустку роскублілі.* В. Малешава.

РОСКУ'ДЛЕНЫ, РОСКУ'ДЛАНЫ *дзеепрым.* Растрапаны, раскудлачаны. *От нека роскудлена жонка пошла.* Запясочча. *Прышла с роскудленымі косамі.* Цераблічы. *Роскудланы.* Аздамічы.

РОСКУДЛО'ШЭНЫ *дзеепрым.* Тое ж. *Бежыць нека баба, косы роскудлошэные ее.* М. Малешава.

РОСКУЛЬГА'ЦЬ *зак.* Пачаць кульгаць, раскульгац-

ца. *Мой бедненькі Шарык роскульгаў, шчо ніяк не можэ ходзіць.* Кароцічы.

РОСКУСІ'ЦЬ *зак.* Раскусіць. *Не можно роскусіть орех.* Альпень.

РОСКУ'СЦІЦЦА *зак.* Разрасціся, раскусціцца. *Трэбо, шоб вона роскусцілаcа, тая лоза.* В. Малешава. *Не було дзе роскусціцца, землё не було.* Бярэжцы.

РОСКУ'ТВАЦЬ *незак.* Расхутваць. *Роскутвала дзіця, шоб покупаць у ночоўках.* М. Малешава.

РОСЛІ'НА *ж.* Культурная расліна. *У горпе можэ сцекці росліна.* Луткі. *Етые росліны, которые сеяць, то воны бояцца холоду.* Цераблічы.

РО'СНО *прысл.* Росна. *Росно вельмі на трове.* Аздамічы. *Росно после дожджу.* Там жа.

РО'СНЫ' *прым.* Урадлівы, ураджайны. *Яблокі ро́сные.* Хотамель. *От нарвалаcа на ягоды, росны́е такіе, богато на яго́дніку.* М. Малешава. *Гірза крэпко росна́, много колоскоў.* Цераблічы. *Трэбо, коб рэдкіе былі гуркі, тогды росны́е, а як густые, тогды нічого не будзе.* Мачуль. Умалотны. *Вельмі росне́е жыто.* Запясочча. *Ро́сны ці ухо́дны — однэ і тэе.* В. Малешава.

РОСО'Л *м.* Расол. *Ляк у копусці, а ў огурцах — росол.* Запясочча. *Памянш.* р о с о́ л о к. *Той росолок да пота́пцы і супа зробіць.* Мачуль.

РОСОМА'ХА *ж.* 1. Драпежная жывёліна, расамаха (?). *Росомаха нападае на худобіну і задніцу вуесць.* Пагост. 2. Жанчына з распушчанымі, непрыбранымі валасамі. *Росомаха — жонка, шчо не можэ сама себе подобрац, коб була цікаве́й.* Запясочча. Пра неахайную жанчыну (у параўнанні). *Ідзе бі росомаха.* Сямігосцічы. *Кажем: роспейсалаcа, як росомаха, а ека та росомаха, то не ведаем.* Пагост.

РОСО'ХА, РОССО'ХА *ж.* 1. Разгалінаванне дрэва. Аздамічы. Рагуліна. *Вісяць на рососе глечыкі, гладышкі.* Бярэжцы. Кіёк з сучком для пераходу гразкіх месцаў, хадулі. Хотамель. 2 *мн.* Месца, дзе зліваюцца ці разыходзяцца дзве пратокі, рэчкі. *Россохі.* Альпень. 3 *перан.* Крываногае дзіця. *Ходзі, россохо.* Кароцічы. △ П о р о с о́ х і. Па клубы, па пояс. *Снегу було по росохі.* Верасніца.

РОСОХОВА'ТЫ *прым.* З разгалінаваннем. *Дзе́рэво росоховатэ подбіралосо, коб поставіць ву́лей.* В. Малешава.

РОСО'ШКА *ж.* Рагулька, *перан.* любы прадмет з

рожкамі. *Зробіў сценку для дожджыка: дзве росошкі поставіў да накрыў.* Сямігосцічы. *Гэто ловіць мову гэта росошка?* (пра мікрафон). Кароцічы.

РОСПА'ДАНЫ *дзеепрым.* Гнілы, сапсаваны. *Ужэ роспаданых тых грыбоў набраў, чэр'якоў.* Хачэнь. *Гнілы грыб, роспаданы.* Там жа.

РО'СПАДЗЕНЬ *м.* Сапсаваны, гнілы грыб. *Роспадні, а не грыбў.* Хачэнь.

РО'СПАДНІК *м.* Тое ж. *Грыбоў нема, только тые роспаднікі старые.* Хачэнь.

РОСПАЗОВА'ЦЬ *зак.* Разняць, рассячы ці распілаваць калоду ўдоўж. *Тоўсту хвою роспа́зуюць і зроб'яць дуб.* Цераблічы.

РОСПАЛІ'ЦЦА *зак.* Узнервавацца, разгарачыцца. *Я ж роспаліўса так, усе нервы булі роспаленые.* Старажоўцы.

РОСПА'РКА *ж.* Распарка. *Ек колёса ці сані робіш, то дзерэву трэ роспарка, шоб гнулосо.* Пагост. *У жлукці от роспаркі гразь отстае.* Там жа.

РОСПА'РЫЦЬ *зак.* Распарыць. *Согіна́е лозу, отрэжэ, роспарыць, проволокою пропхне, согне і чубукі готовуе.* Запясочча.

РОСПА'СЦІСА *зак. метаф.* Разарвацца. *Душа роспадзецца, як старые запоюць.* Старажоўцы.

РОСПЕ'ЙСАНЫ *дзеепрым. экспр.* З распушчанымі валасамі. *Воны ж роспейсаные ў мороз ходзяць по вуліцы.* Верасніца.

РОСПЕ'ЙСАЦЦА *зак. экспр.* Распусціць, ускудлаціць валасы. *Бежыць, роспэйсаласа.* Верасніца.

РОСПЕРЭЗА'ЦЦА *зак.* △ Хоч росперэжыса. Уволю, колькі хочаш. *Еж, хоч росперэжыса.* Дварэц.

РОСПІВА'ЦЦА *незак.* Пачынаць п'янстваваць, распівацца. *Вон вуп'е, але не роспіваецца.* Сямурадцы.

РОСПІНА'ЦЬ *незак.* Расцягваць, распінаць. *П'яло, на ём роспінаюць шкуру.* Верасніца. Раскрываць. *Хросна маці зноў роспінае з другою жонкою того коровая.* В. Малешава.

РОСПІСА'ЦЦА *зак.* Развесціся, узяць развод. *Запішэсса — два рубле, і роспішэсса — два рубле, колісь так было.* Бярэжцы.

РОСПЛА'КВАЦЦА *незак.* Пачынаць плакаць. *Як нема нікого — не росплакваецца тогды дзіця.* Цераблічы.

РОСПЛАТА'ЦЬ *зак.* Распластаць, разгарнуць, разрэзаўшы ўздоўж. *Росплата́еш кожу́шка, коб соль пройма-*

*ла.* Бярэжцы. *Трэбо росплатаць кожушка по спіне.* Пагост. *У нас таку веліку рыбу росплатáюць да засушваюць.* Луткі. Распаласаваць. *Нека корова росплатала мою корову.* Запясочча.

РОСПЛА′ТВАЦЬ *незак.* Распластваць, разгортваць, разрэзаўшы ўздоўж. *Росплатваюць рыбу, ек сушаць.* М. Малешава.

РОСПЛАЦІ′ЦЦА *зак.* Расплаціцца, разлічыцца. *Росплаціўса з усіма.* Луткі.

РОСПЛАЦІ′ЦЬ *зак.* Разлічыць, зрабіць разлік. *Да вечэраюць, да росплаціш — грошы давалі тым наймíткам.* Хачэнь. *Людзей трэба росплаціць і вон росплачваў.* Луткі.

РОСПЛА′ЧВАЦЬ *незак.* Разлічваць, рабіць разлік. *Я іх росплачваў, робочых.* Цераблічы.

РОСПЛЕ′СКАТЫ *дзеепрым.* Пляскаты, расплясканы. *Пташку на болоці бачыў: чорна, невелічка, дзюбата, дзюба на концэ ек росплескатa.* Пагост.

РОСПЛЕ′СЦІ *зак.* Расплесці, разблытаць. *Заплеліс ніткі, не можно росплесці.* Аздамічы.

РОСПЛО′Д *м.* Развод, расплод. Аздамічы.

РОСПЛО′ДЖВАЦЦА *незак.* Разводзіцца, размнажацца. *Першобутные людзі росплоджваліса да наросло людзей.* Запясочча. *Оса толькі чэрві пускае — росплоджваецца.* Сямігосцічы.

РОСПЛОДЗІ′ЦЦА *зак.* Размножыцца, развесціся. *Цепер боброў росплодзілосо столькі!* Верасніца.

РОСПЛЫ′СЦІ′СА *зак.* 1. Расплысціся, расплавіцца. *Жэлезо росплылосо.* Запясочча. *Скінь масло на сковороду да росплывецца.* Там жа. 2. Расплысціся, паплысці ў розныя бакі. *Гусі росплыліса по ўсей рэцэ́.* Мачуль.

РОСПЛЮСКА′ЦЦА *незак.* Расплюшчвацца. *Заплюснуліса очы да не росплюскáліса.* Хачэнь.

РОСПНУ′ЦЬ *зак.* Расправіць, расцягнуць. *Хай роспіне́ плашч, то вусохне.* Сямурадцы.

РОСПОГО′ДЗІЦЦА *зак.* Распагодзіцца, праясніцца. *Там ужэ ясно, ужэ роспогóдзілос.* Кароцічы.

РОСПОЗНА′ЦЬ *зак.* Навучыцца, даведацца. *Роспознолі кашу біць на хрысцінах да б'юць кýму.* М. Малешава.

РОСПОЛА′ХАНЫ *дзеепрым.* Растрапаны, раскудлачаны. *Росполаханы ідзе нейкі, непрычэсаны.* Луткі.

РОСПОЛА′ХАЦЬ *зак.* Растрапаць, ускудлачыць. *Да*

*некіе косы, о такіе росполахае, а шыя немутая.* Цераблічы.

РОСПОЛОВІ′НІЦЬ *зак.* Разрэзаць папалам. *Коб і ў мацеры було, то росполовініла.* В. Малешава.

РОСПОЛО′Х *м.* Перапалох. *Война, росполох, мы ж не зналі, шо будзе.* Дварэц.

РОСПОЛО′ХАЦЦА *зак.* Перапалохацца, спужацца. *Росполохаласа зусім.* Аздамічы.

РОСПОНЯ′ЦЬ *зак.* Зразумець. *Я так добрэ і не роспоняў, шчо вона сказала.* В. Малешава.

РОСПО′РА *ж.* Распорка. *Дзелалі такіе роспоры ў этых стоўпоў.* Сямігосцічы.

РОСПОРО′ЦЬ *зак.* Распароць, успароць. *Распорола рубашку, зносіласа ужэ.* Пагост. *Корова здуласа, то роспороў жывот ножэм да от жыва́.* Там жа.

РОСПОРЭ′Х *м.*, РОСПОРЭ′ХА *ж.* Разрэз, прарэх. *Роспорэх у сподніцы збоку, у мужчынскіх штанах і под рукою у сподней сороццы полотняной.* М. Малешава. *Роспорэха на грудзях у сорочцы.* Аздамічы. *Памянш.* р о с п о р э́ ш к а. *Са́чэчкі чорненькіе с корту з роспорэшкамі шылі.* Запясочча.

РОСПОТРО′НЬВАЦЬ *незак.* Раскладваць, разбіраць. *Шчэ ўсе роспотроньваю свое торбы.* В. Малешава.

РОСПО′ЎЗВАЦЦА *незак.* Распаўзацца, разрастацца. *Дзерэза роспо́ўзваецца убок.* Луткі.

РОСПОЧЫНА′ЦЦА *незак.* Распачынаць, пачынаць. *Так страшно роспочынацца тынковаць.* Сямурадцы.

РОСПРАНА′ЦЦА *незак.* Распранацца, скідаць верхнюю вопратку. *А божэ мой, вумок, змерз, роспранайса хутчэй, да на печ лезь!* Пагост.

РОСПРАНУ′ЦЦА *зак.* Распрануцца, зняць верхнюю вопратку. *Роспраніса, скінь кухайку.* М. Малешава.

РОСПРОШЧА′ЦЦА *зак.* Развітацца. *Я з бацюхном роспрошчаласа і поехала.* Сямігосцічы.

РОСПРЫХНУ′ЦЦА *зак.* Разарвацца, аддзяліцца. *Рвала сітнік, то вон як бырзды́кнуў, быстро вон роспрыхнуўса.* Сямурадцы.

РОСПРЭДЗЕЛІ′ЦЬ *зак.* Адрозніць, распазнаць. *У мене е два блізнюкі хло́пцы, я іх ніяк не роспрэдзелю.* В. Малешава.

РОСПУ′ДЗІЦЬ *зак.* Распужаць. *Роспудзілі овечо́к, побегла котора куда.* Запясочча.

РОСПУКА′ЦЦА *незак.* Распускацца. *Ужэ роспука́еццa.* Бярэжцы.

РОСПУ'КВАЦЦА *незак.* Тое ж. *Грымело ранней весною, шчэ добро й не роспуквалосо.* Сямурадцы. *Уге роспукваецца багон, почынае цвісці.* В. Малешава. *Лён роспукваецца і цвіце рано, а днём вон заплюшчэны.* Лут널і. *Як роспукваецца берэзнік, да тых пу́пушок напарыць да ў бочку, то веліко лечэнье.* Дварэц.

РОСПУ'КНУЦЬ *зак.* Распусціцца. *Онно гэто роспу́кло, як пошла у лес.* Цераблічы.

РОСПУ'КШЫ *дзеепрым.* Які распусціўся. *Гэты цвет па́хне, которы роспукшы — вон больш пахне.* Луткі.

РО'СПУСК, РО'СПУСТ *м.* Роспуск, вясенняе бездарожжа. *Роспуск.* Альпень. *Саму розліў воды, ек роспуст буў.* М. Малешава.

РОСПУСКА'ЦЬ *незак.* Адпускаць (пра мароз), адтаваць (пра зямлю). *Тоды роспуска́ло, цёпло було.* Хачэнь.

РОСПУСКНЫ' *прым.* Які распускаецца, разводзіцца. *Роспускным возом лес возіць добрэ.* Луткі.

РОСПУ'СТА *ж.* 1. Непрыстойныя паводзіны, уседазволенасць, раздуранасць. *Одна себе ў роспусту пусціць з мало́е, а друга́ до самого весельярда берэжэцца.* М. Малешава. 2 *м.* і *ж.* Хлопец ці дзяўчына непрыстойных паводзін; распуснік, распусніца. *Вон, кажуць, роспуста, ужэ п'яны буў.* В. Малешава. Неслух, свавольнік. Пагост. Балаўнік, песта. *Роспусты коткі, гуляюц.* Запясочча. *Целушка така роспуста, не есць.* Луткі. 3. Кофта. Хачэнь.

РОСПУСЦІ'ЦЬ *зак.* 1. Расцягнуць, рассунуць. *Трэба роспусціць воза, поедзем у лес.* Сямігосцічы. 2. Распілаваць калоду ўдоўж. *А я п'яць дзерэвін роспусціў наполам.* Аздамічы. △ Р о с п у с ц і ц ь е з ы к а́. Пра непрыстойныя размовы. *Роспу́сціць езыка да плешчэ, шчо попало.* Старажоўцы.

РО'СПУСЦЬ *ж.* △ Н а р о с п у с ц і (р о с п у с ц я́ х). Ранняй вясной, у час раставання снегу. *Мы ехалі з Іваном на роспусці, то попоцега́лі ту машыну.* Луткі. *У пост ужэ на роспусці було.* Там жа. *На роспусце это робіцца, як роспускае зіма да наступае ўжэ весна.* Хачэнь. *Ужэ на роспусцях повезлі сено.* М. Малешава.

РОСПУТА'ЦЬ *зак.* Распытаць. *Тые роспуталі ёго: да куды ты, да шо ты йдзеш, да як ты?* Бярэжцы.

РОСПУ'ТВАЦЬ *незак.* Распытваць. *Хо́рошэ так роспутваю: дзе ты грошы берэш, скуль воны?* Верасніца.

РОСПУ'ТНІ *прым.* △ Р о с п у т н і е д о р о г і. Раздарожжа, развілка дарог. Альпень.

РОСПУ'ХАНЫ *дзеепрым.* Поўны. паўнатвары. *Когда чоловек роспуханы, то вон здоровы.* Тураў.

РОСПУ'ЦІЦА *ж.* 1. Вясенняе бездарожжа. *Роспуціца — ек снег тае, ні по верху, ні посподы́ не проехаць.* В. Малешава. 2 *перан.* Распуснік. *І дзіця бувае роспуціца.* В. Малешава. △ Н а р о с п у́ ц і ц ы. Ранняй вясной, у час раставання снегу. *Прышлі геологі на роспуціцы.* Хачэнь.

РОСПУ'ЦЬЕ *н.* Раздарожжа. *Роспутье.* Альпень.

РОСПУ'ШЧЭНКА *ж.* Разбалаванае, распешчанае дзіця. *Роспушчэнка вона, шо коно́зіцца.* Запясочча.

РОСПУ'ШЧЭНЫ *дзеепрым.* 1. Распушчаны, непрыбраны (пра валасы). *У русайкі косы роспушчэны.* Тураў. 2. Непрыстойных паводзін. *Тые роспушчэные жонкі.* В. Малешава. Разбалаваны. *Роспушчэне дзіця, конозіцца, конозу́н.* Запясочча.

РОСПУШЫ'ЦЦА *зак.* Раскрыцца, расцвісці (пра кветку). *Во́дзік як роспу́шыцца белым цветом, а ў макоўцы зерне там, як з конопэ́ль.* Мачуль.

РОСП'Я'НЫ прым. △ П'я́ н ы-р о с п'я́ н ы. Вельмі п'яны. *Ідзе, валяецца, п'яны-росп'яны.* М. Малешава.

РОСП'Я'ЦЬ *зак.* Распасцерці, нацягнуць. *Колісь у полога́х спалі, пологі розопном да спімо́.* Запясочча.

РОССЕ'КЦІ *зак.* Рассячы, разбіць. *Дзед, доўго не думаючы, жэлезнеком посерэд головы чвокнуў да россёк го́лову.* Луткі.

РОССЕ'СЦІСА *зак.* Рассесціся. *Росселіса тут да седзяць.* Мачуль. *Дзяку богу наёліса, хоця б бог даў не росселіса* (прыказка). Старажоўцы.

РОССЛЕДЗІ'ЦЬ *зак.* Убачыць, заўважыць. *Думае, тольні б вон там не росследзіў, шо я жонку прыв'язаў свою* (з казкі). Кароцічы.

РОССЛІ'ЗІЦЬ зак. Раскоўзаць, раскатаць. *Россліжаць коўзало слізко.* Аздамічы.

РОССМАКОВА'ЦЬ *зак.* Адчуць смак, рассмакаваць. *Россмаковаў грушы?* Луткі. *Нагодовалі гусей да россмоковалі іх.* Дварэц.

РОССОКОТА'ЦЦА *зак.* Пачаць сакатаць, рассакатацца. *Моя кура россокоталаса, наверно з ейцэм.* М. Малешава.

РОССТА'ВІЦЬ *зак.* Расставіць, распасцерці. *Росставіў свое крынджо́ла, не пройці.* Аздамічы.

РОССТОГНА'ЦЦА *зак.* Пачаць стагнаць, расста-

гнацца. *Ек росстогнýса, то мацер і знáе, што боліць.* М. Малешава.

РОССТО'ІЦЦА *зак.* Спыніцца, застаяцца. *Пошла ў хлёў, шо росстóіласа!* Верасніца.

РОССТРО'ІЦЦА *зак.* 1. Раздзецца, зняць адзенне. *Чоловек росстроіўса і лёг у ложок.* Запясочча. *Я росстроіўса і лёг спаць.* Цераблічы. 2. Разадзецца, выстраіцца. *Ты некі як жэніх росстроіўса.* Мачуль.

РОССТРЭ'ЦЦА *зак.* Размінуцца, разысціся. *Вон шляхом пошоў, а вона лоткою, так воны й росстрэліса.* М. Малешава.

РОССУ'НУЦЦА *зак.* Разлезціся, распаўзціся. *Лёд весною бу снег россунецца.* Бярэжцы. *Чóботы рыбацкіе ужэ россунуліса.* В. Малешава.

РОССУПО'НІЦЬ *зак.* Рассупоніць. *Россупонь хомут.* Аздамічы.

РОССЦІЛА'ЦЦА *незак.* Рассцілацца, слацца па паверхні. *Горпá рáламі росце, россцілаецца.* Луткі. *Косцерэўка красная, россцілаецца по земле, не йдзе ўгору.* Бярэжцы. *Еслі дым йдзе просто ўверх, то погода, а еслі россцілаецца на зéмлю, то дождж будзе* (прыкмета). Сямігосцічы.

РОССЦІЛА'ЦЬ *зак.* Рассцілаць, падкладваць. *Дубовы ліст россцілае да саджае у печ.* Верасніца.

РОССЦІЛА'ШЧЫ *дзеепрым.* Які сцелецца. *Подорожнік — мурожóк бу хвоечка і е такі россцілашчы.* Бярэжцы.

РОССЫ'ПАЦЦА *зак.* Рассыпацца, раскрышыцца. *Струхла дзерэвіна да россыпаласа на порохно.* Луткі.

РОССЫПА'ЦЦА *незак.* Рассыпацца, раскрышвацца. *Россыпаецца млінец, от ек грэчаны.* Луткі.

РОССЫ'ПАЦЬ *зак.* Рассыпаць. △ Х о ц ь к á ш у р о с с ы́ п. Пра роўную, чыстую паверхню. *Так вукосіць, хот ты кашу россып.* Старажоўцы.

РОССЫ'ПНЫ *прым.* Рассыпны, рассыпісты, *перан.* звонкі (?). *Россыпны Галін голос.* Бярэжцы.

РОСТ *м.* 1. Рост, вышыня. *На рост вона за нас усіх бóльшая, а на годы вона меншая.* Луткі. 2. Прырост. *Кодло — потомство ўрóдзе, рост людзей.* Запясочча.

РОСТАБА'РВАЦЬ *незак. экспр.* Весці пустыя размовы, доўга і падрабязна разважаць. *Седзіць у хаці і растабарвае.* Цераблічы.

РОСТАВА'ЦЬ *незак.* Раставаць (пра снег), адтаваць

(пра зямлю). *На роставáнні тое було, колі снег роставаў.* Бярэжцы.

РОСТА'ЎШЫ *дзеепрым.* Які растаў, распусціўся. *Улілá ростаўшы сахар у сок.* Хачэнь.

РОСТА'ЦЬ зак. Растаць, распусціцца. *Як ростало, то талінá называецца.* Буразі. *Хлякоць, як снег ростане да іці нельга.* Цераблічы. *Жара — да ростало масло.* Запясочча. Адтаяць. *Тые чоботы поставіў, шоб росталі.* Бярэжцы.

РОСТВА'НІЦЬ *зак.* Развезці, размачыць. *Заўсёгда негода коло Ільі: шчэ ростваніць, шо гразь.* Пагост.

РО'СТВАНЬ ж. Непраходная гразь, бездарожжа. *У сáму ростваль, шо не вувезці, не вулезці.* Пагост.

РОСТВО'Р *м.* Тое ж. *Сáмо ростволр буў осеню, ні пройці, ні проехаць не можно.* М. Малешава.

РОСТО'К *м.* Расток. *У картоплі одзін росток.* Сямігосцічы. *У ём нема і одного зéрнета цэлого, одные росткі пошлі.* Бярэжцы. *Памянш.* р о с т ó ч о к. *Одного возьмі росточка отломі.* Хотамель.

РОСТОЛКОВА'ЦЬ *зак.* Растлумачыць, расталкаваць. Пагост.

РОСТО'ПВАЦЬ *незак.* Растапляць. *Перэтоп ростопвала оп'яць.* Запясочча.

РОСТОПУ'РВАЦЬ *незак.* Растапырваць. *Этой рýкі ростопурвае.* Верасніца.

РОСТОПУ'РЫЦЦА *зак.* Растапырыцца, распасцерціся. *Ростопурыласа коло етой печы, шо не подходзі.* Запясочча. *Орэх росце, дале ж вон ростопурыцца.* Хачэнь.

РОСТОПУ'РЫЦЬ *зак.* Растапырыць, расставіць. *Ростопураць на спіне колюкі окунькі, ек зловіш.* М. Малешава. Раскрыць, разявіць. *Рота ростопурыц і стоіц.* Запясочча. Распусціць, наставіць. *Косы ростопóрыла і ўцекае.* Хачэнь. *Ростопы́рыла носа.* Бярэжцы.

РОСТОПУ'РЭНЫ *дзеепрым.* Растапыраны, расстаўлены. *Гускі ростопурэны як кры́лца.* Хачэнь.

Паводле тлумачэння мясцовых людзей, вадзяная лілея названа *гуской,* бо яна падобная да белай гусі з растапыранымі крыламі.

РОСТОРБУШЫ'ЦЬ *зак.* Растрыбушыць. *Росторбушыла подýшку.* Запясочча.

РОСТОЎЧЫ' *зак. экспр.* Разбіць. *Чочотка така берэза, шо не можно розбіць, як гроза уды́рыць, то не ростоўчэ.* Запясочча.

РОСТОЎШЧЭ'ЦЬ *зак.* Растаўсцець. *З гора не ростоў-*

*шчэ́еш!* М. Малешава. *Як стала дзеці водзіць, то ростоўшчэла.* В. Малешава.

РОСТО′ЧКА *ж.* Устаўка. *Ростóчкі на коўнерóх сподніцы поробілі.* Луткі.

РОСТОЧЫ′ЦЬ *зак.* 1. Згрызці, паесці, патачыць. *Мухі росточаць рыбу ў рэццы, ек вона зальецца.* М. Малешава. 2. Растраціць, праматаць. *Вон усе імéнье росточыў, облýдны сын.* В. Малешава.

РОСТРО′ХАНЫ *дзеепрым.* Разгублены (?). *А раз бежыць такая вона рострохана, розволнована — грошы загубіла.* Старажоўцы.

РОСТРОШЧЫ′ЦЬ *зак.* Раздушыць, раструшчыць. *Ее озьмі да рострошчы, то смердзіць, воняе моцно.* Цераблічы. *Рострошчыла, ростоптала под ногою.* Кароцічы.

РОСТРУ′МКАЦЦА *зак.* Разрумзацца, расхныкацца. *Ек балалайка рострумкаўса — плачэ, плачэ.* М. Малешава.

РОСТРУСІ′ЦЬ *зак.* Раструсіць, раскідаць. *Віхор подхваціць копу сена дай рострýсіць по одной сеніне.* Дварэц.

РОСТРЫВО′ЖЫЦЬ *зак.* Растрывожыць, расхваляваць. *Моцно его ростырвожылі, не спіць.* Луткі.

РОСТРЭ′ПА *ж. экспр.* Неахайная і бесклапотная жанчына. *Рострэпу ўзяў таку, і п'яцеро дзецей ужэ е.* М. Малешава.

РОСТРЭПА′ЦЦА *зак.* Разбалбатацца. *От ужэ рострэпаласа, як та трэпашка, не помоўчыць.* Старажоўцы.

РОСТРЭПА′ЦЬ *зак.* Разбалбатаць. *Усе по целефону рострэпле.* В. Малешава.

РОСТРЭПЕСТА′ЦЦА *зак.* Разбалбатацца, распусціць язык. *Ой, та тожэ рострэпесталаса.* Хачэнь.

РО′СХАП *м.* △ Н а р о с х а п. Нарасхват. *Ну, конечно, ее на росхап беруць.* Дварэц.

РОСХА′ЎКАЦЦА *незак.* Распазяхацца. *Мо екі дождж будзе — нешчо я росхаўкаласа.* Верасніца.

РОСХВЕРЭ′СТАНЫ *дзеепрым. экспр.* Расчынены. *Шкаф росхверэстаны, да ўсе открыто.* Старажоўцы.

РОСХЕ′ЎРЫС *м. экспр.* Разыходжанне. *С сестрой росхеўрыс получыўса.* М. Малешава.

РОСХІ′ЛІСТЫ *прым.* З шырокай кронай. *Росхіліста яблоня.* Луткі.

РОСХІ′ЛЬВАЦЬ *незак.* Расхіляць, разгортваць. *Сошнік — шчо росхільвае зéмлю.* Аздамічы.

РОСХІЛЯ'ЦЦА *незак.* Расхіляцца, адыходзіць у бакі. *Гвоздзікі порժавелі да росхіляліса.* Сямурадцы.

РОСХІНА'ЦЬ *незак.* Расхінаць, разгортваць. *Росхінаю пелёнку, беру дзіця да ў ночоўкі да мую.* Пагост.

РОСХО'Д *м.* △ П о й ц і у р о с х о д. Раз'ехацца, разбрысціся. *Усе дзеці пошлі ў росход.* Любавічы. У р о с х о д з і. Пра адсутнасць на месцы, у раз'ездах. *Усе ў праўлены ў росходзі цепер.* Сямігосцічы. *То людзі комерчэскіе, воны ў росходзі, воны ў зароботках.* В. Малешава.

РОСХО'ДЗІЦЦА *незак.* Расходзіцца, расплывацца. *Беруць пальцамі, шоб не росходзіўса по лопаце хлеб.* Верасніца. *Чуць полежало — ек каша росходзіцца яблоко.* Луткі.

РОСХОДЗІ'ЦЦА *зак.* Разысціся, расхадзіцца. *Ек дзед росходзіцца, то спевае хорошэ.* Луткі.

РОСХОДЗІ'ЦЬ *зак.* Растраціць. *Росходзіў грошы.* Пагост.

РОСХО'ДКА *ж.* Расход, расходы. *Е двацацць рублей і будзе на росходку нам.* М. Малешава.

РОСХО'ДНІК *м.* Расходнік (расліна). *Той росходнік с салом несолоным націраюць. От у мене нога боліць, то я ім націраю.* Хачэнь.

РОСХО'ДНЫ, РОСХО'ДНІ *прым.* 1. Развілісты. Аздамічы. 2. Бывалы, хаджалы. *А воны і паметлівые і росходные людзі.* Дварэц. △ Р о с х о д н ы е д о р о г і. Раздарожжа, развілка дарог. Аздамічы.

РОСХО'ДОВАЦЬ *зак.* Патраціць. *А ты поехала да грошы росходовала да ўрэм'е.* Сямурадцы.

РОСХОПІ'ЦЬ *зак.* Расхапаць, пахапаць. *По хлеб ідзі.— Не росхопілі шчэ?* Сямігосцічы. △ Р о с х о п і ц е б е (в а с і г. д.). Каб цябе (нязлосная лаянка). *Росхопі цебе, не хочэш, то не надо.* Запясочча. *Я думаю, росхопі вас, усе роўно, абы заробіц.* Там жа.

РОСХЭ'ЙДУС *м. іран.* Развод. Бярэжцы.

РОСЦВЕЛІ'ЦЬ *зак.* Раздражніць, развярэдзіць. *Росцвеліў рану.* Луткі.

РОСЦВЕРЭ'ЖВАЦЦА *незак.* Выцвярэжвацца. *Седзіць тут і росцверэжваецца.* Сямігосцічы.

РОСЦВІВА'ЦЬ *незак.* Расцвітаць. *Гускі у добру погоду росцвіваюць.* Сямігосцічы.

РОСЦЕГА'ЦЬ *незак.* 1. Расцягваць, распінаць. *Росцегалі рыбу на лёсточкі.* Луткі. 2. Працягваць, зацяг-

ваць. *У Лутках, у Толмачэве і ў Короцічах одна мова, а ў Церэблічах трохі росцегаюць словá.* Луткі.

РОСЦЕГНУ'ЦЦА *зак.* Расцягнуцца, працягнуцца. *Одзін зо дным ключэм лецяць, доўго росцягнуцца.* Бярэжцы.

РОСЦЕГЦІ' *зак.* Расцягнуць, расправіць. *Можно росцегці ўнізе тую козачіну, як сарафан.* Бярэжцы. Расслабіць. *Его можно росцягці, той вузел.* Цераблічы.

РОСЦЕГЦІ'СА *зак.* Развалачыся, пачаць цягацца. *Онэ ж і росцегліса.* В. Малешава.

РОСЦЕЖНЫ' *прым.* △ Р о с ц е ж н ы́ б е з м é н ч ы к. Пружынная вага, дынамометр. Дварэц.

РОСЦЕЛІ'ЦЦА *зак.* Ацяліцца. *Богато було короў, шчо росцéліцца, да целя цыцкі не берэ.* Хачэнь. *Росцеліласа корова, і буцок хорошы вурос.* М. Малешава.

РОСЦЕ'ПАЦЬ *зак.* Разбіць, раструсіць. *Росцепаць трэбо сено.* Хотамель.

РОСЦЕ'РЦІСА *зак.* △ Р о с ц е р л а с а з ó р к а. Пра знічку. *От росцерласа зорка дай нема.* Сямігосцічы.

РОСЦЕРЭБІ'ЦЬ *зак.* Расцерабіць, выкарчаваць. *Там лоза була, росцерэбілі і прозвалі Церэблічы* (легенда). Цераблічы.

РОСЦІ' *незак.* 1. Расці, павялічвацца ў памерах. *Язі тóнкіе ростýць, як дрóва.* Дварэц. *Кóлісь казалі: не перэступай дзіця, бо не будзе росці* (павер'е). Старажоўцы. 2. Расці, вегетаваць. *У нас усе росцэ.* Д.-Гарадок. *Тры годы нічого не росло.* Дварэц. *У нас мурог на шляхý росце.* Цераблічы. *Онно гнецецца, ніяк не росце ў городзе.* Тураў. 3. Вырастаць, нарастаць. *Як добрэе зелье, то его багато не росце.* Хачэнь. *На дурной голове і косы не ростуць* (прымаўка). Старажоўцы. Разрастацца. *Дуб так буйно не росце, як хвоїна, менш голін.* Цераблічы. 4. Гадавацца. *У мене негожые дзеці булі, то як малы́е, як рослі— колькі гора перэнеслá.* Сямурадцы. *Дзе ты рос, дзе я рос, да нас чорт до кýпы знёс* (прыказка). Старажоўцы. 5. Выходзіць з зямлі, з'яўляцца. *У нас камень не росце, нічого такого, хлеб росце дай годзе.* Дварэц. *Чáсом крáменчыкі ростуць.* Бярэжцы. *Я цепер побачыла, дзе грыбы ростуць — по мохý таком ростуць воны.* Хачэнь. △ Х а й в е л і к і р о с ц е; ш ч о б в е л і к і р о с. Пажаданні нованароджанаму. *Хай векікі росце! Да хай бог дае, шчоб велікі рос, да шчасце бог даў.* Дварэц.

РОСЦІ'МОСЦЬ *н.* Расліннасць. Бярэжцы.

РОСЦІ'НА *ж.* Расліна. *Шо росце, усе тэ росціна, і дзерэво тожэ.* Знаменка.

РОСЦІРА'ЦЬ *незак.* Расціраць, церці. *Росціралі ее то соломою, то сукóнкамі.* Луткі.

РОСЦІ'ЦЦА *незак.* Расці, гадавацца. *З трох год з намі росціўса той хлóпец.* В. Малешава.

РОСЦІ'ЦЬ *незак.* Вырошчваць. *У кого шчэ росціць трэба, а тут готовы огурок, купіў да еж.* Бярэжцы.

РОСЦЬ *ж.* 1. Рост. *Засушыло, печурыцы росці нема.* В. Малешава. 2. Расток, парастак. *Росці ў бураках, ек пророшчваюць, а ў картоплях росці церэбімо.* Цераблічы. *Такіе росці поростуць у жыці, во лне, як занегодзіцца.* Сямігосцічы.

РОСЦЯ'БЛЕНЫ *дзеепрым.* Незашпілены, расхрыстаны. *Расцяблене пальто.* Запясочча. *Ходзіць росцяблены, ек дзіця малое.* Дварэц.

РОСЦЯ'К *м.* Парастак. Аздамічы.

РОСЦЯ'ПА *м.* і *ж.* Расцяпа, нездагадлівы чалавек. *Як нецямучы чоловек, то кажуць росцяпа.* Аздамічы.

РОСЧА'ЎКА *ж.* Расціcканне, раздушванне. *Рошчаўка.* Запясочча.

РОСЧАХНУ'ЦЬ *зак.* 1. Расхапаць, хутка разабраць, расцягнуць. *Росчахнулі ўсю муку ў лаўцы.* Верасніца. *Воны б у нас росчахлі ўсе, тые п'яніцы.* Там жа. *Екіх бу хустóк не прывезлі, то рошчохнулі бу.* Луткі. 2 *экспр.* Разарваць. *Здаецца, росчахніў бу ідола, розорваў бу його.* Верасніца. *Воўкі рошчэхлі ўсе да з'елі.* Цераблічы.

РОСЧО'МАЦЦА *зак.* Ачухацца, ачомацца. *Я ўжэ росчомаласа, глежу, дзе свет, коб запаліць.* Цераблічы. Разгледзецца, зразумець. *Стаў вон, рошчомаўса, шчо кругом дуба ходзіў.* Там жа. *Далей росчомаліса, бо то ж нас стрэляць будуць.* Пагост.

РОСЧО'Т *м.* Разлік, сэнс. *Ці есць рошчот пісаць кніжку, шоб ее давалі ў нагрузку ў магазіні?* Талмачава.

РОСЧО'ХРЫЦЬ *зак.* Разбіць на градках камякі зямлі, пабаранаваць градку граблямі. Альшаны.

РОСЧУ'ХАЦЦА *зак.* Ачухацца, агледзецца. *Пока росчухаліса, то і шапка пропала.* Дварэц.

РОСЧУ'ЦЬ *зак.* Паслухаць, даведацца. *Ідзеце, росчуйце добро — як на сено, то я не пойду.* Кароцічы.

РОСЧЫНА'ЦЦА *незак.* Пачынацца. *Рошчынацца.* Запясочча.

РОСЧЫНІ'ЦЬ *зак.* Расчыніць. *От цепер рошчыніла, а заўтра замешу да будзе хлеб свой.* М. Малешава.

РОСЧЫНЯ'ЦЬ *незак.* Расчыняць. *Росчыняюць хлеб вечэром.* Пагост. *Хросна маці вуходзіць, налівае ў місу воды і говорыць: благословеце, оцец, маці, уся родзіна ў хаці, первый раз, другі раз, трэці раз, коровай росчыняць.* В. Малешава.

РОСЧЫ'ТВАЦЦА *незак.* Разбірацца, унікаць. *От жырны, подбірае усё, не росчытваецца — смашнэ, не смашнэ.* Альпень.

РОСЧЫ'СЦІЦЬ *зак.* Расчысціць. *Вон ту дорогу рошчышчыў і поехалі тые тры полкі солдат.* Хільчыцы.

РОСЧЭ'САЦЦА *незак.* Расчэсвацца. *Пріказвалі старіе, шчо будзеш росчэ́сацца, то не кідай нідзе гэтые косы, бо возьме птушка на кубло да будуць коўтуны́ на голове ў цебе* (павер'е). Хачэнь.

РОСЧЭ'САЦЬ *незак.* Расчэсваць. *Рошчэ́саць косы трэбо грэб'ёнкою.* Луткі.

РОСЧЭ'СВАЦЦА *незак.* Расчэсвацца. *Росчэсваліса грэблёнкою і мучкі мукалі ею.* Дварэц.

РОСШМОРГНУ'ЦЬ *зак.* Развязаць вузел, завязаны зашмаргай. Пагост.

РОСШЧУ'ПАЦЬ *зак.* Разведаць, даведацца. *Не рошчупае, екі вон, да бежыць замуж скорэй.* Хачэнь.

РОСШЧЫТА'ЦЦА *зак.* Разлічыцца. *Трохі грошэй було, рошчытаўса, цёлку продаў.* М. Малешава.

РОСШЧЭНІ'ЦЦА *зак.* Ашчаніцца. *Росшчэнілас сука, то прывезлі гэтого собачку.* Запясочча.

РОСШЧЭ'ПАЦЦА *незак.* Разыходзіцца, раздзяляцца. *Гузы́ сла́бые, рошшчэ́паюцца, а ка́рок тоўсты́.* Кароцічы. *Воўкі ужэ рошчэ́паюцца ў опошні дзень с'ят роздзяны́х.* Там жа.

РОСШЧЭПІ'ЦЦА *зак.* 1. Расшпіліцца. *Крычу: рошшчэпіса, а вон зноў зашчэпіў сорочку.* Цераблічы. 2. Разарвацца, разлезціся. *Рошшчэпіласа кошуля на плечах.* Бярэжцы. 3. Расхлябіцца, расчыніцца. *Небо рошчэпілосо.* Хачэнь.

РОСШЧЭПІ'ЦЬ *зак.* Расшпіліць. *Рошшчэпіла сорочку і вувернула коўнер.* Цераблічы.

РОСШЧЭ'ПЛЕНЫ *дзеепрым.* Разбіты, расколаты. *Голова рошчэплена.* Хачэнь.

РОСШЧЭПУ'ШКІ *мн.* Традыцыйнае свята пасля каляд (14 студзеня). *Светы́е вечоры́ кончаюцца, то рошчыпушкі.* Аздамічы. *Рэшчэпу́шкі на трэ́ці дзень хрышчэння, два дні пройдуць да можно ўжэ прасці. Казалі: на рэшчэпушкі рэшчэ́пяцца пушкі* (прымаўка). Любавічы.

*На рошчэпушкі воўкі рошчэп'яцца, ато горылёю хо́дзяць, а гуртў́юцца на Варвары воны.* Цераблічы.

РОСШЧЭПУ'ШЭЧКІ *мн.* 1. Тое ж. *Опо́шні дзень сьят роздзяны́х рошчэпушэчкі зовом, бо воўкі ужэ рошчэпаюцца.* Кароцічы. 2. Сашчэпленыя напаўсагнутыя пальцы рук. *Рукі ў рошчэпушэчкі і кружацца.* М. Малешава.

РОСШЫВА'НЬЕ *н.* 1. Пляценне, выплятанне, мярэжанне (як працэс). *Рошшыванье робяць.* Луткі. 2. Прошва. *Росшыванье ў сороццы робіць: плеце, плеце да вуплеце, коб шыроко було ступаць.* Цераблічы. *Рошшыванье робілі ў соро́чках і го́рыном ёго обкідалі.* В. Малешава. *Росшыванні ушываемо ў скацерць.* Там жа.

РОСШЫ'РЫЦЦА *зак.* Пашырыцца, распаўсюдзіцца. *Робота росшырыласа і на дворэ.* В. Малешава.

РОСШЫ'ЦЬ *зак.* Ушыць карункі, злучыць выплятаннем дзве полкі, два бакі чаго-небудзь. *Рошшыла сорочку. Рошшыла на́волку.* Кароцічы.

РОСШЭ'ВА *ж.* Прошва. *Рошшэвы ў рушніку бувающь.* Луткі.

РОСШЭ'НДЗІЦЬ, РОСШЭ'НДРЫЦЬ, РОСШЭНДЗЕ'РЫЦЬ *зак. экспр.* Растраціць, разматаць. *За дорогу росшэндзіла тые грошы.* Запясочча. *То і вон рошшэндрыў бы, но только дай.* М. Малешава. *Росшэндерыў грошы, нічого не купіў.* Альпень. Распрадаць. *Прывезлі ў лаўку муку, то ее вельмі быстро росшэндрылі.* М. Малешава.

РОСШЭПТА'ЦЦА *зак.* Падняцца, падысці (пра цеста). *Росшэпчэцца цесто, подойдзе.* Верасніца. *Хлеб шэпчэцца, було поўдзежкі, а цепер рошшэптаўса, шо поўна дзежка, дажэ веко подняў хлеб.* М. Малешава.

РОСШЭРЭ'ПЛЕНЫ *дзеепрым.* Растапыраны, раскідзісты. *Гольё рошшорэплене, роскладзістэ.* Дварэц.

РОСШЭ'ЎКА *ж.* Прошва. *На́волочка з рошшэўкою кра́мна, хороша така була.* Цераблічы. *Ушыта рошшэўка ў скацерць.* М. Малешава.

РОСЯНЫ' *прым.* Росны. *Само росяна́ трава косіцца.* Пагост. *Покі росянэ́ поле, то не поло́цімо.* Там жа.

РОТ *м.* 1. Рот. *Кідай у рот да хамёўкай.* Запясочча. *Шчо ў рот, а шчо поўз рот.* Луткі. *Не есць ніякого сена, у рот не берэ.* Хачэнь. *У чорнокала рот под сподом.* Сямігосцічы. 2. Паз у кароткіх бярвеннях, што кладуцца ў прасценкі. *У цуніках е рот, туды загоняецца спіца.* Аздамічы. Выраз, адтуліна ў вялікім *вороціле,* куды закладваецца кіёчак, што прыціскае пражу. *У вороціле боль-*

*шэм е колёса, голоўка, рот і пруток.* Цераблічы. 3. Зеў, прамежак паміж верхнімі і ніжнімі ніткамі асновы. Хотамель. *Памянш.* р о т о́ к, р о т о́ ч о к. *Роток.* М. Малешава. *Даў бог роточок, то дасць і хлеба кусочок* (прымаўка). Старажоўцы.

РОТА′ТЫ *прым.* З вялікім ротам. *Такée ротáтэ, неўдалэ дзіця.* Сямурадцы. Крыклівы, гарласты. Тураў.

РОЎ *м.* Роў, канава. *Вода ў рове том вусохне.* Луткі.

РОЎНЁВА′ЦЦА, РОЎНОВА′ЦЦА *незак.* Раўнавацца, прыраўноўваць сябе да каго-небудзь. *Шо роўнёвацца к тым молодым.* М. Малешава. *Шчэ й твоя маці роўнуецца з імі?* Старажоўцы.

РОЎНЁВА′ЦЬ, РОЎНОВА′ЦЬ *незак.* 1. Выраўноўваць, рабіць роўным. *Роўнёвалі окопы.* Дварэц. *О такі кусок дошкі роўневаць ток.* Хачэнь. *Дорогу роўнёваць трэ.* Кароцічы. 2. Параўноваць, раўнаваць. В. Малешава. △ Н е  р о ў н у́ ю ч ы. Засцерагальная формула, калі адзначаецца падабенства з нечым дрэнным, непрыемным. *Не роўнуючы, ек Хведор летося, чоловек утопіўса.* В. Малешава.

РОЎНІНА′ *ж.* 1. Нешта выключна роўнае. *Роўніна, хороство буў мост у Турове.* Старажоўцы. *У нас роўніна була на болоньі.* В. Малешава. *Да такіе дубу́, роўніна, страхотá.* Хачэнь. 2. Роўная мясцовасць, раўніна. *Колькі месносці этое з зáрослямі і колькі плóшчадзі роўніны, мералі это.* Пагост. *Кругом роўніна.* Запясочча.

РО′ЎНО *прысл.* Роўна, гладка. *Рóўно выгеблеваў подлогу.* Аздамічы. Без нахілу. *Палец зарэзваюць роўно ў вушак.* Мачуль. На ўзроўні. *Роўно насыпаў з краямі рáжку.* Аздамічы. *Стрэлялі роўно с подлогою.* Запясочча. △ У с е  р о́ ў н о. Усё ж. *Но ўсе роўно до іх пыдыйті важко, до веселцоў.* Рубель.

РО′ЎНЫ *прым.* Роўны, гладкі. *Шчо не заросло, то тэ поле хорошэ, як долóнь, рóўнэ.* Аздамічы. *Ежэлі коса роўна, то і зіма будзе роўна* (пры вызначэнні характару зімы па касе забітай свінні). В. Малешава. *Хороша пшэніца, як воск, роўна, як пострыжэна росце.* Буразі. Стройны, выносны. *Ой булі дубы! Роўные да такіе тóўстые, тоўстые, мо по метры, по поўторы метры булі тоўшчіны тые дубы.* Хачэнь.

РОЎНЯ′ *ж.* Раўня. *Людзі, мне роўні нема ў таком пінджаку* (жартам). Сямігосцічы.

РОЎНЯ'К *м.* Слуп, за які замацоўваецца канат на барліне. Запясочча.

РОЎЧА'К, РО'ЎЧЫК *м.* 1. Раўчак, канаўка. *Тутока роўчаком вода бежыць.* Луткі. *Прорвала рэка роўчыка.* Там жа. *А вон тым роўчаком цяг тую лодку.* Дварэц. *Запесоч'е, место таке, а далей зайці, там ешчэ роўчак е.* Чэрнічы. *У возеро е роўчык.* Мачуль. *Роўчак такі е, де вода течэ.* Альпень. 2. Раўчук, паглыбленне. *Насекае роўчыкі на каменцы.* Луткі. *Роўчікі ў дне колоды продоўбваюць.* Хотамель. 3. Прабор, радок. *Маці зробіць правенько роўчэка проці носа.* М. Малешава.

РОХІ'-РОХІ' *выкл.* Выгукі, якімі перадаецца рохканне. *Чую свіня зарохкала рохі-рохі, а я гледжу, а то воўк.* Луткі.

РО'ХКАЦЬ *незак.* Рохкаць. *Прожэні ту свіньо, шоб не рохкала.* Верасніца.

РО'ХЛЯ *ж. экспр.* Тоўстая непаваротлівая жанчына. *Шо ты корпаешса, ек рохля?* Верасніца.

РО'ХНУЦЬ *зак.* Рохнуць. *Убачыць чоловека свіньо і рохне, бу добры дзень скажэ.* Бярэжцы.

РО'ХОТ *м.* Рохканне. *Почула рохот свіньі, вона рохкала, проці поросят одзываласа.* М. Малешава.

РОЦІ'ШЧЭ *н.* Вялікі рот. *Розявіў роцішчэ на ўвесь від.* Пагост. *Сом, а ў его роцішча нагле.* Бярэжцы.

РОШТ *м.* Рыштаванне. *Там стоіць рошт коло одрыны, хозяін стрэху перэкрывае.* Луткі. Вышкі, насціл. *Над мекінніцэй уродзі рошт, там кладуць граблі, вілкі, усе.* Запясочча. Рашотка, часовая падлога. *У мене грыб з'еў падлогу, так я рошты зробіў да ходзіў так.* Дварэц. Кладкі на высокіх калках, калодках, па якіх ходзяць у паводку. М. Малешава. Памост на дрэве для борці. Запясочча. Падмосткі з яловых галінак для спання на зямлі. *Поклалі рошт собе, подроштоваліса, шоб бок не мок.* Хачэнь.

РОШТОВА'ЦЬ *незак.* Падымаць на падмосткі, падмошчваць. *Роштуюць свіней, худобу у хлеве, ек вода.* М. Малешава.

РО'ШЧА *ж.* Рост, развіццё. *Нема сонца, нема і рошчы.* Верасніца. *Одна рошча у береста і в'яза, одноково ростуць.* Альшаны. *Не ростуць добрэ картоплі, нема рошчы.* Запясочча. *Ему бог і рошчы не даў, ужэ трыццаць год по войне, а вон такі остаўса.* Хачэнь.

РО'ШЧЫНА *ж.* Рошчына, рэдкае цеста. *У квас сып-*

*лемо муку і получаецца рошчына.* Цераблічы. *Оладкі на рошчыне.* Бярэжцы.

РОШЧЭ'НЬЕ *н.* Вырошчванне. *Сонечнік свого рошчэнья.* Луткі.

РУБ *м.* 1. Кант, брыж, край. *Об руба головой удэрылас.* Луткі. *Урэзаўса об этого руба, шо і чэрняк сеў.* М. Малешава. *Руб стола гостры.* Альшаны. 2. Зарубка, выступ. *Кочалка з рубамі.* Луткі. 3. Шво, рубец. Альшаны. *Памянш.* рубо́чок. Хотамель. △ До ру́ба. Дашчэнту, да ніткі. *Мокрэ́зны, вумок до руба.* Цераблічы. Ру́ба (рубочка) сухо́го нема (не осталóсо). Пра вельмі мокрага. *Змок, руба сухого нема.* Альпень. *Рубочка нема сухого.* Хотамель. *Вумок і руба не осталóсо сухого.* Луткі. Руб да перэ́пірка (осталíса). Да апошняй сарочкі. *Так обобралі, шо только руб да перэпірка.* Хотамель.

РУ'БАНЕЦ *м.* Сорт моцнага самасаду. Аздамічы.

РУ'БАНКА *ж.* Сорт прывазнога тытуню. Запясочча.

РУБА'ХА *ж.* Сарочка, кашуля. *Рубаху продадзім, а масленіцу проводзім* (прымаўка). Крэмна.

РУБА'ЦЦА *незак.* Біцца сякерай. *Свой сечы, рубайса, а чужы не мешайса* (прымаўка). В. Малешава.

РУБА'ЦЬ *незак.* Сячы, ссякаць. *Прамо там, у сенях, рубае дрова і складае.* Луткі. *У нас берозы рубаюц да на двор становяц.* Запясочча.

РУБА'ШКА *ж.* 1. Кашуля (новае?). Тураў. *З міру по ніццэ да голому рубашка* (прымаўка). М. Малешава. 2. Менструацыя. Сямігосцічы.

РУБЕ'ЛЬ *м.* 1. Рубель, жэрдка для прыціскання снапоў ці сена на возе. *Поперэк воза рубля ложэш.* Запясочча. *Раншэ поперочны буў рубель, а цепер продольны.* Там жа. *Поперэчны рубель лепш.* Аздамічы. 2. Тоўстая рухомая жардзіна, на якой стаяць, крыючы страху саломай. *Прыўяжэ рубель, подцягае ёго вушэй, вушэй да ходзіць, ек по екой лаві.* Хачэнь. 3. Кладзь, якая адгароджвае застаронкі ў *станку* (курэні). *Не положы рубля ў станку, то загорыцца посцель.* Мачуль. 4. Рубель (грашовая адзінка). *Ужэ плоцілі рубель на дзень.* Буразі. *Рубель срэброны положылі на дорозі, і ехаў бістрэнько на коні, і схопіў.* В. Малешава. △ У рублёх. Аж ільсніцца (пра каня). *Конь у рублёх, рублёваты, упа́шчоны.* Любавічы.

Згодна з успамінамі, папярок воза лажылі рубель пры

перавозцы сена, а пры перавозцы снапоў — уздоўж воза. Запясочча.

РУБЕ′Ц *м.* 1. Выступ, край. *За каждым рубцэ́м ворохáмі блошчыцы седзелі.* Луткі. 2. Шво, рубец. *Неро́ўный і нагле тоўстый рубец у цебе вуйшоў.* Тураў.

РУБІ′НА *ж.* △ Р у б і н ы (р у б і н о ч к і) н е м а (н е с т á л о) с у х ó й. Пра вельмі мокрага. *Лівень ліў і рубіны не стало сухое.* Хачэнь. *Ні рубіночкі нема сухой.* Луткі.

РУБІ′ЦЬ *незак.* Падрубліваць, зарубліваць. *Шоўком шыла, золотом рубіла — гэто тому ковалеру, шо верно любіла* (з песні). Хачэнь.

РУБЛЕ′ *н. зб.* Тонкія жэрдкі. *Рубля́ да голья́ накладзе.* Бярэжцы.

РУБЛЕ′Й *м. экспр.* Ненажэрны чалавек. *Такі рублей, шо зараз кіло цыбулі з'есць.* Дварэц.

РУБЛЁВА′ТЫ *прым.* Які ільсніцца, адкормлены. *Цэлы конь рублёваты, упашчоны, у кружкі.* Любавічы.

РУ′БЛІК *м.* Папярочка на плыце, да якой прывязваюцца калоды. Запясочча.

РУБНУ′ЦЬ *зак.* Секануць. *Рубне дуба да тая месцінка заросце, то тая кора луччэй для лечэнья лёгкіх.* Сямурадцы.

РУБОВА′ТЫ *прым.* Зубчаты, з выступамі. *Рубовата кочалка.* Луткі.

РУБЧА′СТЫ *прым.* Тое ж. *У нас былі такіе кочалкі рубчастые.* Сямігосцічы.

РУГА′НЬЕ *н.* Лаянка, непрыстойны выраз. *За руганье можэ оштраповаць участковы.* Цераблічы.

РУГЕНУ′ЦЬ *зак.* Аблаяць. *Нічого і не ругенуў мене.* М. Малешава.

РУГНУ′ЦЦА *зак.* Вылаяцца. *Я не буду говорыць, шо я такі спасённы, я й ругнуцца могу.* Старажоўцы. *Хай ругнецца, колі шо не так.* Хачэнь.

РУДА′ *ж.* Іржа, іржавы налёт. *Дай зноў мочаём полотно ў воду, шоб мокрэ було, шоб руда злезла.* Запясочча.

РУДЗЯ′ГА *ж. экспр.* Парыжэлае ад дажджу сена. *Ні ў кóго сена доброго нема, одна рудзяга.* Верасніца.

РУДНІКІ′ *мн.* Жыхары вёскі Рудня. Бярэжцы.

РУ′ДНЯ *ж.* Месца выплаўкі жалеза. Запясочча.

РУДОВА′ТЫ *прым.* Карычневаты, рыжаваты. *Жоўнá — такі бы рудоваты дзяцёл.* Хотамель.

РУДЫ′ *прым.* Руды, рыжа-карычневы. *Гліна бувае*

*жоўта і рудá.* Запясочча. *С полотна сцекае руда вода.* Там жа. *Руды песок, шчо на гэтой пешчузé поросце?* Луткі. *Коб рудой воды напіўса з болота, то і поздоровеў бы, болотняя вода — здороўе.* Там жа. *Коб ты мне купіла рудых ніток.* Цераблічы. *Вугінулі б усе бу рудые мушы* (прыказка). В. Малешава. *Рудэе полотно, шчэ не замочэнэе.* Хотамель. Рыжы. *Косы, ек у собакі рудого.* Луткі. *Ох, да рудая вона, косы рудые.* М. Малешава. *Бачыла вода, шчо бегла руда* (пра нешта няпэўнае, прымаўка). Цераблічы.

РУ'ЖА *ж.* Садовая кветка на высокім сцябле. Д.-Гарадок.

РУЖ'Е' *н.* Стрэльба, ружжо. *Руж'е ў охотнікоў з Цэрэбліч, много ў кого е воно.* Цераблічы. *Дзядзько з руж'ем.* Луткі.

РУЖО'ВІ *прым.* Ружовы. *От мак цвіце ружові хóрошэ.* В. Малешава.

РУІ'НА *ж.* Руя, гайня. *Воўча руіна ў пиліпоўку бывае.* Альшаны. *Воўкоў руіна, ревуць.* Там жа.

РУІ'ЦЦА *незак.* Табуніцца, збірацца ў зграі ў перыяд цечкі. *У піліпоўку руяцца воўкі.* Бярэжцы. *Руяцца і лосі у спасоўку.* Аздамічы.

РУІ'ЦЬ *незак.* Кішэць, гудзець. *Толькі людзей на рэццэ, шо аж руіць,* Верасніца. *Пчолы руяць коло вулья.* Там жа.

РУ'ЙКА *ж.* Гон, цечка. *Руйка лосей осенéй, як просо жнуць.* Хотамель.

РУКА' *ж.* Рука. *На руцэ зробіцца балабушка, то росце грызь.* Старажоўцы. *Бацькова рука не браха, а даха* (прыказка). В. Малешава. *Рука руку мує, шоб обедзьве белы булі* (прымаўка). Сямурадцы. △ Р у к á  м н е  (т о б е  і  г. д.). У самы раз, спадручна. *Вот, дзядзько Трохім, рука вам узяць тую дзеўку.* Цераблічы. *Рука тобе ехаць з імі.* Хотамель. Д а ц ь  р ý к у. Паздароўкацца. *Вон подходзіць, я даў руку, а вон біцца.* М. Малешава. З  р у к. Ручнога вырабу. *То цепер ужэ з заводоў ідзе онэ, а тоды усе з рук, усе з рук було.* Пагост. З  р у к  в о н. Дрэнны, дрэннай якасці. *Вона така нехороша, шо з рук вон.* Хачэнь. Н а  р у к і  з д з é л ь н і ц а. Пра ўмелую, здольную да ручной работы. *Вона і на рукі здзельніца, ніхто не вуробіць так, як вона.* Старажоўцы. У  о д н ý  р ý к у. У адзін бок. *Шэсць рэйсоў зробіў у одну руку.* Хачэнь. М о і м і  (т в о і м і  і  г. д.). р у к á м і  в о н я́ е. Пра тое, што зроблена сваімі рукамі. *Гэто ўсе моімі рукамі воняе.* Старажоўцы.

Ходзіць под рукой. Знаходзіцца з правага боку ў час ворыва (пра каня, вала). *Которы конь ходзіць под рукой? О гэты?* В. Малешава. Пойсці рукою. Удацца. *Одна тая целушка, шчо дзядзько подарыў, пошла рукою — побегае, оцеліцца дай хорошэ годуецца.* Мачуль. Бо́жой ма́цер рука́. Нейкая дэкаратыўная расліна. Хачэнь.

РУКА'ТЫ *прым.* Здольны, майстэрскі. *То хло́пец рукаты, спецыяліст на ўсе рукі.* Верасніца.

РУКА'Ў *м.* Рукаў. *Прышыць руказа трэбо, оторваўса.* Луткі. *Закачать рукаў.* Альпень.

РУКА'ЎЧЫК *м.* Невялікая торбачка. *Ніяк не найду, дзе той рукаўчык дзеўса, хоцела хлеба ўзяць на роботу.* Кароцічы.

РУКОЎЯ'НКА *ж.* Камбінаваная сарочка. *Сорочка полотня́на, а рукавы паркалёвые, то казалі рукоўянка.* Кароцічы.

РУКОВЕ'Ц *м.* Нарукаўнік. Аздамічы.

РУКОВІ'ЦА *ж.* Рукавіца. *Е руковіцы с кожуха, воўняные руковіцы.* Аздамічы. *Памянш.* руковіцка. *Прылецелі крычкі, скідай руковіцкі* (прымаўка). Кароцічы.

РУКО'ПАШ *прысл.* Уручную. *Рукопаш коліся сеелі жыто на загоні.* Цераблічы.

РУКО'ПАШНЫ *прым.* Ручной работы, самаробны. *У мене шчэ рукопашна верэўка.* Цераблічы.

РУЛЕ'Я *ж.* Ліра (музычны інструмент). *У той рулеі по клапанах б'е, а рукою круціць, оно і гудзе.* Запясочча.

РУЛІ' *мн.* Цура. *Як нема шчо есці, то рулёў наробімо.* Пагост. *Беруць сахарыну і ў дзерэўляной місцы робяць рулі.* Чэрнічы. *Хлеб да ў горачу воду да посоляць, то гэто руле.* Луткі. *Рулі, рулі, бохон згулі* (прыказка). Бярэжцы.

РУЛЬ *м.* Крывулька, кіёчак з сучком, на які вешаюць пасудзіну над агнём. *У кожной жонкі свой руль, поставяць поўз о́гнішчэ да вараць.* Запясочча.

РУ'ЛЬКА *ж.* Руля. *Дзве ру́лькі і дзерэво — вот і стрэльба́.* Мачуль.

РУМ *м.* Ніжні склад на рацэ, куды звозяць лес для сплаву. *Му лес возілі на берэг, то звалі рум.* Мачуль. *Дзерэво в'язалі на румі.* Луткі.

РУ'МАЛО *н.* Румза. Запясочча.

РУ'МАЦЬ *незак.* Румзаць. Запясочча.

РУ'МЗАЦЬ *незак.* Тое ж. *Што ты румзаеш? Мо ты*

*нешчо хочеш, то скажы*. Бярэжцы. *Румзае дэй годзі, спасу нема на мою доньку*. Верасніца.

РУ'МНУЦЬ *зак*. Нечакана ўвайсці, ускочыць. *А воны рум у хату*. Мачуль.

РУМ'Я'НОК *м*. Рамонак. Мачуль.

РУМ'Я'НЫ *прым*. Румяны, чырвоны. *Рум'яны бувае з морозу, з па́ру, з со́рому, а которы і от ста грам*. Пагост. *Рум'я́нэ, ек сонейко раненько, дзіця́тко*. Там жа.

РУНІ'ЦЦА *незак*. Усходзіць, зелянець. *От хорошэ жыто руніцца, ро́ўненьке, густэ́*. Верасніца.

РУНО' *м*. 1. Неразабраная воўна, састрыжаная з адной авечкі. *Руно здоймецца*. Хільчыцы. 2. Пух у качкі. *Руно, той пушок у ву́твы на жывоце, по́ўнэ кубло́ напускала*. Аздамічы. 3. Густая рунь. *Руно добрэ́ннэ, вельмо будзе пшэніца хороша*. Аздамічы. △ У з я́ ц ц а ў р у н о́. Сплесціся, збіцца. *Узеліс у руно картоплі ў сту́сі, трэ церэбіць росці*. Цераблічы. *Воны й цепер у руно узеліса, картоплі, шо й не розорваць*. Там жа. Н і р у н а́, н і м о л о к а́. Ніякай карысці. *Як е ека розява, то з ее ні руна́, ні молока*. Старажоўцы. *З мене, як с козла, ні руна, ні молока*. Там жа.

РУСА'ЛКА, РУСА'ЎКА *ж*. 1. Русалка. *Русалкі по жыту хояць*. Альшаны. *Русалка — така бі баба з роспушчэною косянкою, воны седзяць, колу́шуць дзеці, дзе пушчы былі*. Сямігосцічы. *До Купалного Івана не купаліс, бо русаўка была ў водзе, а после Купалного Івана пойдзе ў жыто*. Луткі. *Той русаўкой пужалі дзецей, шчоб не ходзілі по жыці: у ее жэлезна цыцка і можэ залоскотаць*. Пагост. *Не лезь у город, бо там русаўка ў розоры*. Дварэц. *У русаўкі жэлезные цыцкі і косы роспушчэны, гэтымі цыцка́мі ско́ле цебе*. Тураў. *Як на троецком тыдні помрэ хто запіты, то русаўка будзе*. Цераблічы. *Говорылі, шчо русаўкі булі тые, шчо поміраюць дзе́ўкі, ек запіла́са, заручы́ласа, а замуж не пошла. І дзіця, которэ не хры́шчэнэ, умрэ*. Луткі. 2 *перан*. Жанчына, што ходзіць з непрыбранымі валасамі. Аздамічы.

Згодна з мясцовымі ўяўленнямі, русалкі хадзілі голымі, мелі вялікія грудзі, жалезныя або каменныя (*Каме́нные цыцкі ў руса́вок*. Пагост), доўгія чорныя валасы (Запясочча). Любілі гойдацца на маладых гнуткіх бярозках, пры гэтым прыгожа спявалі. Звычайна з'яўляліся пасля сёмухі, калі наліваецца зерне (Бярэжцы).

РУСА'ЛНЫ *прым*. △ Р у с а́ л н ы т ы́ ж д з е н ь (т ы́ з д з е н ь). Першы тыдзень пасля сёмухі, калі спраў-

ялі русальныя абрады. *Русалны тыздзень бывае после тройцы.* Мачуль. *Русалны тыждзень.* Сямігосцічы.

РУСА'ЎЧЫН *прым.* Русалчын. Хачэнь.

РУ'СКІ *прым.* △ Р у́ с к і м е́ с е ц. Пра нешта вельмі доўгае ў часе. *Нема чого поро́цца, ты его будзеш робіць рускі месец.* Луткі.

РУСОКО'СЫ *прым.* З русымі валасамі. *Дзеўка русокоса.* В. Малешава.

РУ'СЫ *прым.* Русы, шатэн. Запясочча.

РУСЯ'ВУ *прым.* Светла-русы, бялявы. *Два чэрня́вух і одзін русяву.* М. Малешава. *Такі русявы чоловек, молоды.* Луткі.

РУ'СЯЎКА *ж.* Русявая дзяўчына, бялянка. *Ой, моя русяўка ненаглядная!* Верасніца.

РУ'ТА *ж.* Рута. Д.-Гарадок. Піжма (?). *Рута от такая росце; як отцвітае, то цветочкі, як каліна, жоўтые такіе, воно шыпахо́м росце.* Пагост. Нешта вельмі зялёнае (у параўнанні). *Зелёна, як рута, а шчо рута — не знаем.* Альшаны. *Зелена цыбуля, ек рута.* М. Малешава.

РУХ *м.* Рух. *Скоро на сено, пойдзе рух, шо дзержыс.* В. Малешава. *У его руху не було, а вупусці з дому, то не схочэ назад.* М. Малешава.

РУХА'ВУ, РУХО'ВУ *прым.* Рухавы, жвавы. *Вон рухавы, гарачы до роботы.* Альпень. *Трэбо, шоб булі руховуе, а не як бабу старые.* М. Малешава.

РУ'ХА'ЦЦА *незак.* Рухацца, ісці. *Трэбо ўжэ ру́хацца.* М. Малешава. *Ні сюд, ні туд не руха́ласа.* Бярэжцы.

РУ'ХКАЦЬ *незак.* Рохкаць. *Свінья рухкае.* Аздамічы. *Лежыць порося да не рухкае.* Старажоўцы.

РУХНУ'ЦЦА *зак.* Рушыцца, крануцца. *Онэ рухнулосо бе́гці і воўк за ім.* Пагост.

РУ'ХНУ'ЦЬ *зак.* 1. Крануць, зрушыць. *Було рухну́лі воза — як рухнулі, то тая гразь і розлё́гласа.* М. Малешава. 2. Хутка пайсці, рынуцца. *Усе ру́хнулі ў хату.* Крэмна. *Рухну́ў товар додому.* Луткі. *Коровы ек рухну́лі, ек пошлі, то й не відно́ іх у лозе́.* Там жа. 3. Сапсавацца, распусціцца (пра зімовую дарогу). *Ру́хнуть.* Альпень.

РУХО'МУ *прым.* Жывы, дзелавы. *Рухомы у мене зяць.* Хотамель.

РУЧА'Й *м.* Ручай. *Чэчэ́ ў рэку да ўпадае, то ручай.* В. Малешава.

РУЧА'ЙКА *ж.* Верацяно з пражай. *Шчэ й цепер е коробка з соло́му ў мене, му моталі ручайкі з ее.* М. Малешава. *З руча́ек поссукваеш на почынок.* Аздамічы. *Со-*

*бра́лосо ўжэ некулько ручаёк — трэбо звіць іх на клубок.* Тураў. Поўнае верацяно пражы, як мера напрадзенага. *Я за цеперэшні дзень тры ручайкі напрала.* Кароцічы. *Два отру́чнікі да й ручайка будзе.* Запясочча. *Ручайка — это тры мучкі з грэбеня.* Пагост. *Дзве однóручкі — ручайка.* Сямігосцічы.

РУ'ЧКА *ж.* 1. *Памянш.* да р у к á. *На руццэ ў Ленкі вайка.* В. Малешава. 2. Дзяржанне (у піле, гэблі, плузе і інш.). *Зробіў ручкі ў пілцы доўгіе.* М. Малешава. *Баран з двума ручкамі.* Цераблічы. *Бойка, і ручка ў ей е.* Кароцічы. *У плузе рýчкі е.* Там жа. Стаяк, ножка, падпорка. *Ручкі у сукайле, бі стоўбцэ́, на котором кóлесо круціцца.* Сямігосцічы. *Ручкі ў возе.* Альшаны. *Ручка жэлезна коло печы.* Запясочча.

РУЧНІ'К, РУШНІ'К *м.* Ручнік. *Ручнік, бывало, згорне маці ў дзве сталі да дзіцяці й положыць.* Мачуль. *Да такіе було два ручнікі ў мене вушытые, дала того ручніка вуцерціса.* Сямурадцы. *А нашчо ты такого берэш, беры чысцейшого рушніка.* Хачэнь. *Рушнік на сцене вісіць, о, бачыце?* Луткі.

РУЧНІ'ЦА, РУШНІ'ЦА *ж.* Стрэльба, ружжо. *У охотніка ручніца е, шчо вон на полеванье коліся ходзіў з гончым собакою.* Луткі. *Ручніца — любое руж'е. Пошоў, на плечах дзержыць ручніцу.* Цераблічы. *Булі рушніцы с краменем.* Аздамічы.

РУ'ЧНО *прысл.* Уручную. *Як зробілі колхоз, той тогды шчэ ручно жалі і косілі.* Дварэц.

РУЧНЫ' *прым.* Удалы, добры. *Ручна ў мене невестка: і слово добрэ скажэ, і покорміць.* Пагост.

РУ'ЧЫЦА *ж.* Ручка. *Бóйка з рýчыцэю подбіваць солому, ек крыеш стрэху.* М. Малешава.

РУША'ЦЬ *незак.* Зварочваць з поўні, пачынаць змяншацца (пра месяц). *Як рушае молодзік, тогды гнілое ўрэм'е.* Хачэнь. *Пóўнэ крýгленьке, с пóўны рушáе, надпáдвае на гнілэ́е.* Бярэжцы.

РУ'ШЫЦЬ *зак.* 1. Рушыць, крануцца з месца. *Чую, ужэ подняў собака зверá, рушыў.* Мачуль. 2. Звярнуць з поўні, пачаць змяншацца (пра месяц). *Як рýшыло, то ўжэ гэто гнілэ ўрэм'е.* Любавічы. *А з поўні ўжо рушыло.* Мачуль.

РУЯ' *ж.* 1. Воўчая зграя; гайня сабак. *Первого месяца зімы було. Ужэ не можно ў лес ісці — руя ходзіць.* Хачэнь. *Гледзі, коб руя не напала ў пиліпоўку на чоловека.* Цераблічы. *От Ворвар до роздва воўкі ходзяць*

*руею, а после розбегаюцца.* Кароцічы. *Мо то штук двананцаць воўкоў роя йшла.* Дварэц. *Цэла руя воўкоў, полююць.* Луткі. *Собакі руей беглі.* Там жа. 2 *перан.* Натоўп, зграя (дзяцей і інш.). *А дзеці руею за ею.* Верасніца.

РЫ'БА *ж.* Рыба. *Раншэй лóзы булі — рыба годоваласа.* Сямігосцічы. *От конóплі рыба чадзее, як мочаць.* Цераблічы. *Рыба ходзіць, ек товар, по той канаве.* Луткі. *І ў вухý нада добіраць рыбу жырну: окунцэ́, ліны́.* Дварэц. *Ой, там рібу бралі, бралі!* Старажоўцы. *Не то рыба, шо ў водзе, а то рыба, шо ў руцэ* (прымаўка). *Рыба рыбака бачыць здалека* (прымаўка). Хачэнь. △ Наловіць ры́бу ў посце́лі. Намачыцца ў сне (пра малых дзяцей). *Вурос ек бáйбус, а рыбу наловіў у посцелі.* М. Малешава.

РЫБА'К *м.* 1. Рыбак, рыбалоў. *Вон свой век буў рыбак.* Верасніца. *У рыбака голые бока, а обед паньскі* (прымаўка). Хачэнь. 2. Рачная чайка. *Рібак к водзе падае, заре рібку ухопіць.* Пагост.

РЫБАКОВА'ЦЬ *незак.* Займацца рыбнай лоўляй, рыбачыць. *Ёго бацько рыбаковаў, то я купляла рыбы колько ў іх.* М. Малешава. *Поехалі рыбаковаць, а нас цоп багорчыком за лотку: ві куда едзеце?* Сямігосцічы. *У нас кажы́нны чоловек рыбаковаў.* Цераблічы.

РЫ'Б'І *прым.* Рыбін. *Сало рыб'е добрэ помазаць от мóшок нóздры і шыю, і подкурваюць салом.* Хотамель.

РЫ'БІНА *ж.* Рыба, рыбіна. *Рыбіна ж жоўцéю гóрка.* Луткі. *Зарэ ек нема хозяіна, ек побачыш рыбіну, то чорць ведае, колько з'еў бы.* Чэрнічы. *З'ездзі, мо б рыбіну зловіў.* Сямурадцы. *Памянш.* ры́бінка. *Рыбінку споймаю, хороша рыбінка.* В. Малешава.

РЫ'БНЫ *прым.* Багаты рыбай. *А шчэ хваліўса, шо место рыбнэ ведаеш, дзе ж твоя рыба?* Запясочча. *Я не рыбна, не налóўваю рыбы, а мáю тогды, ек хто дасць.* М. Малешава.

РЫБОЕ'Д *м.* Жук-рыбаед. Аздамічы.

РЫБОЛО'Ў *м.* Рыбалка, рыбная лоўля. *От, кажэ, добры рыболоў у мене.* Рыбнае месца (?). *Рыбак нашоў добры рыболоў да наловіў рыбу.* Цераблічы.

РЫБОЛО'ЎЛЯ *ж.* Рыбалка, рыбная лоўля. *Такому — то своя рыболоўля: уюны́.* Цераблічы.

РЫ'БОНЬКА *ж. экспр.* Рыбка, рыбачка (ласкавы зварот, звычайна да дзіцяці). *Рыбонька моя спогадлівая, она ж шкодуе мене.* Верасніца.

РЫ'Б'ЯЧЫ *прым.* Рыбін. *Рыб'ячы жыр піла.* Запясочча. *Хвост рыб'ячы.* Бярэжцы.

РЫ'ГАЦЬ *незак.* Рыпець, скрыпець. *Скрыпае дзерэво, рыгае, а думаю — гэто та русаўка.* Хачэнь. *Нішком, дзверыма не стукаем, трапкі заклалі, шчоб вороты не рыгалі.* Дварэц. *Рыгае на гармошцы.* Бярэжцы. Мурлыкаць, муркаць. *Кот рыгае.* Луткі. *Нешчо чую мукае, рыгае ў сумцы, а воно твое радзіво.* Запясочча.

РЫ'ГНУЦЬ *зак.* Скрыпнуць, рыпнуць. *У дровотні дзверы рыг.* Сямурадцы.

РЫ'ДЗЕЛЬ *м.* Рыдлёўка, лапата. *Дай рыделя.* Рамель.

РЫДЛЁЎКА *ж.* Тое ж. Бярэжцы.

РЫЖО'К *м.* Рыжык (грыб). *Рыжкі соляць да под камень, да пусцяць воны з себе квас.* Хачэнь. *Нарослі рыжкі, не будзе грыбоў* (баравікоў, прыкмета). Луткі.

РЫ'ЖЫ *прым.* Рыжы, светла-карычневы. *Рыжая вода ў болоце.* Бярэжцы. *Ек погода, то лён рыжы, а ек е погода і дождж, то лён сіненькі, а ек дождж, то вон чорны.* Дварэц. З рабаціннем на твары. *Чым рыжэ́й, тым дорожэй* (прымаўка). Верасніца.

РЫЗЫКА'НТ *м.* Адчайны, рызыкоўны чалавек. *Різыкант, шо любіць різыку.* Пагост. Знаходлівы, дасціпны чалавек. *Нанімаем му́зыку з скрыпкою, ідзе вон, такі рызыкант, можэ хорошо проздравіць, проздраўляе і пытае, ці можно коледоваць.* Дварэц. Задзіра, забіяка. *Гэты рэзыкант усіх поб'е.* Кароцічы.

РЫКА'ЦЬ *незак.* Рыкаць. *Коровы рыка́юць — весну чуюць.* Аздамічы. *Шо там целя рыкае, мо есці хочэ?* Буразі. *Як товар рыкае на воду, то вода прыбудзе* (прыкмета). Кароцічы.

РЫКЕ'ЛЯ *ж. метаф.* Карова (ласкавы зварот). *Рыкеле, о рыкеле, ходзі домоў.* М. Малешава.

РЫ'КНУЦЬ *зак.* Рыкнуць, зараўці. *Ой, рыкну́ла коро́вонька да з пашы йдучы* (з песні). Сямурадцы. *Рыкнуў вол на сто сёл, на сто рэчок, на сто печэк, на сто городоў* (загадка). *Гром* (адгадка). Старажоўцы. *Прыдзе покрова, то рыкне корова* (прымаўка). Хачэнь.

РЫЛА'Н *м. экспр.* Чалавек з поўным чырвоным тварам. *Рілан.* Пагост.

РЫЛЕ'Й *м.* Тое ж. *А дзяк такі рылей!* Запясочча.

РЫ'ЛО *н.* 1. Рыла, морда. *Тож е рыло там таке ў воўка.* Запясочча. *Прынесла́, ек свіньня на рылі* (пра атрыманае без намаганняў, прыказка). Сямурадцы. 2. Горла

бутэлькі ці іншай пасудзіны. *З рыла піў.* Аздамічы. *У гладышкі е рыло шыршэ і вузейшэ.* Верасніца. *Барыло дзерэўяно, а збоку рыло для затыканья.* Сямігосцічы. Вузкі праход у жаку. *Рыла роб'яць у жаку.* Талмачава. *Паманш.* р ы́ л ц э. *Бутэлька була, як горшок, полівана, тольки вузенькe рылцэ.* Чэрнічы.

РЫ'МАР *м.* Рымар. *Рымар хамута́ шые.* Мачуль.

РЫ'МАЦЬ *незак.* Румзаць, канозіцца. Берэжцы.

РЫ'НУЦЬ *зак.* Паляцець, кінуцца. *Я оттуля як рынуў.* Кароцічы. *Рынулі ў магазін, шо там есцека.* Любавічы. *Рынулі с хаты.* Рыдча. △ К і н у ц ь-р ы́ н у ц ь. Рашуча пакінуць. *Буваюць розные людзі: е такіе, шо кінуў-рынуў і пошоў.* Старажоўцы. *Кінула-рынула — нідзе нікого.* Верасніца.

РЫ'ПАЦЦА *незак.* Рыпець, выдаваць гукі пры трэнні. *Лес рыпаецца на водзе.* Запясочча.

РЫ'ПАЦЬ *незак.* Рыпець, скрыпець, скрыгаць. *Одна поўз одну труцца, рыпаюц.* Запясочча. *Ось і цепер рыпае чо́бот.* Сямігосцічы. *Аж зубы рыпаюць.* Аздамічы. *Мука з ершоў, озьмі ў пучкі, то рыпае.* Мачуль. Дрэнна іграць. *От так рыпае, вучыцца.* Бярэжцы. Поркацца, кешкацца. *Коб не помогла, рыпаў бі до вечора.* В. Малешава.

РЫПЕ'ЦЬ *незак.* Рыпець, скрыпець, скрыгітаць. *Ек мороз, то рыпяць тые лапці.* М. Малешава. *Вот рыпіц снег.* Запясочча. *Дзерэво так рыпіць, ек та жоўна.* Старажоўцы. *Рып'яць колёса, аж вішчаць, так есці хочуць* (г. зн. падмазвання). Верасніца. *То шчэ ў Сторожоўцах, то ўжэ чутно, шо воны едуць: рыпіць этэ ўсе. Вот такіе колоды возілі. Страшно.* Хачэнь. *Наверэдзіш руку, то вона будзе рыпець, рыпець і грызь вуросце.* Там жа.

РЫ'ПНУЦЬ *зак.* Рыпнуць, скрыпнуць. *Рыпнулі дзверы, і маці ідзе коро́ву доіць.* В. Малешава. Зайграць на гармоніку. *Або рыпні, то вон почуе.* Сямігосцічы.

РЫ'ПОЦЕНЬ *м. экспр.* Моцны, пякучы мароз. *От рыпоцень, як едзеш саньмі, то ўсё рыпіць.* Сямігосцічы.

РЫПУ'ЧЫ *дзеепрым.* Рыпучы, скрыпучы. Запясочча.

РЫСА'ЦЬ *незак.* Рыскаць, не ляжаць на месцы пры перавозцы. *Гледзі, коб не так рысаў дуб.* Дварэц.

РЫСКНУ'ЦЬ *зак.* Рызыкнуць. *Ну, кажэ, рыскну: хіц вуграў, хіц програў, або сяк, або так.* Луткі.

РЫ'СОМ *прысл.* Рыссю. Альшаны.

РЫСЬ *ж.* Рысь (драпежнік). *Рысь перэднімі лапамі хапае за шыю, а заднімі роздзірае жывот.* Хачэнь.

РЫ'ТКІ *мн.* Прыстасаванне для выроўнівання асновы

пры навіванні яе на навой (дзве драўляныя планкі з дубцамі). Запясочча.

РЫЎНУ'ЦЦА *зак.* Кінуцца. *Рыўнуласа корова ў шкоду і побегла.* В. Малешава.

РЫХ *прысл.* Дакладна. *У мене рых такая печатка.* Лутксі.

РЫ'ХВА *ж.* Жалезнае колца, рэхва. *Рыхва на колодкі, шоб не роскоўваліса.* Аздамічы. *Рыхва ў долоце.* Альшаны.

РЫХТОВА'ЦЬ *незак.* Парадкаваць, раўняць канцы калод у плыце. Запясочча.

РЫ'ХЦІК, РЫ'ХЦІГ *прысл.* Дакладна, якраз. *Ріхціґ о гэтака.* Запясочча. *Шчоўкае, ну рыхцік, ек сом по водзе.* Луткі. *Рыхцік похожы на бацьку, не на маці.* В. Малешава. Падобна, зусім. *Ріхцік шчо чоловек плямкае целушка.* Пагост. *Рыхціґ моя палка.* Аздамічы. *А геты хлопчык рыхцік бацько.* Кароцічы.

РЫЦЫ'НА *ж.* Рыцына, слабіцельнае. *Рыцына усёй жолудок просквозіць.* М. Малешава. *Боршч ек рыцына, мой хозяін не любіць сытого боршчу.* В. Малешава.

РЫЦЬ *незак.* Рыць, раскопваць. *Дротуюц свінью, шоб не рыла.* Запясочча. *Собака муш рыў.* Верасніца. *Од Івана вышла п'яна, од Гаўрыла носом рыла* (з песні). Хачэнь.

РЫЧА'ЦЬ *незак.* Гыркаць, рыкаць. *Собака рычыць, як чужы чоловек ідзе.* М. Малешава. *Чые б рычало, а твое б моўчало* (прымаўка). Сямурадцы.

РЫШТ *м.* Рыштаванне пры пабудове зруба вышэй вокнаў. Аздамічы. Памост, падмосткі. *Коб вода не мочыла, рышт роб'яць.* Там жа. Козлы для падоўжанай распілоўкі калод. Там жа. Р ы ш т ы *мн.* Вышкі. *Кошка іх у гумне на рыштах окоціла.* Альшаны.

РЫШТА'НТ *м.* Валацуга, злодзей. Запясочча.

РЫШТУ'НОК *м.* Рыштаванне. *Робім рыштунок і б'ем палі.* Кароцічы.

РЭБЕЗА' *ж.* Ірдзест (расліна). *З рэбезы бело сено да таке пахучэ, коровы едзяць добрэ. Его не зложыць, шамае воно.* Луткі.

РЭБЕ'ЗНІК *м.* Тое ж. *Ребезнік — така длінна трава ў водзе.* Цераблічы.

РЭБРО' *н.* 1. Рабро. *У сомў косцей нема, рэбра одные.* Старажоўцы. *Рэбра болягь после косовіцы.* Бярэжцы. 2. Кант, выступаючы вузкі край. *Паверні дошку на рэбро.* Аздамічы. Рабрына ў кашы. *У чашку чотыры рэбры ста-*

*новіць і плыце.* Там жа. Край борта ў лодцы. Верасніца. △ Скла́сці рёбра. Памерці. *Складзеш рёбра, то й вороціло не потрэбнэ будзе.* В. Малешава.

РЭБРЫКО′М *прысл.* Рабром, на рабро. *Трэбо ложыць тэ полено рэбрыком под колесо́.* Луткі.

РЭБРЭ′Й *м.* Балотная расліна з вузкімі лістамі і чатырохкутнай разеткай іх унізе. *Рэбрэй такі, як лучай, рогожы з іх бралі.* Луткі. *Колісь рогожы ткалі із рэбрэя, да спалі на ёй.* М. Малешава. *Ребрей.* Альшаны.

РЭВІ′ЛО *н.* 1. Усеагульны роў, бойка. *Бумкае бык, зарэ рэвіло будзе.* Аздамічы. 2. Плакса. Аздамічы.

РЭ′ВОМ *прысл.* Роўма. *Плакалі мацёркі рэвом.* Сямігосцічы.

РЭ′ВОТ *м.* 1. Страшны роў, рыканне, шум. *Як коровы кроў знойдуць, то рэвот подымуць.* Кароцічы. *Рэвот у лесі, усе дрыжыць.* Цераблічы. *Пчолы за кобылой, гум, рэвот за ею.* Альпень. *Рэвот машын у Городку буў.* Луткі. 2. Крык, плач. *Ена ў рэвот, сліпала, сліпала да оддала грошы.* М. Малешава.

РЭ′ВОХ *м.* Роў, плач. Мачуль.

РЭ′ВОЦЕНЬ *м.* Плакса. *От ревоцень, реве і реве дый годзе.* Кароцічы.

РЭВУ′Н *м.* Крыкун. *То рэвун, ек раўкне, то зразу прыціхне ўсе ў хаці.* Верасніца.

РЭ′ГАЦЬ *незак.* Рыпаць, брымкаць. *Нітку колісь робілі, шо рэгае под вокном.* Запясочча.

Забава подросткаў з доўгай навошчанай ніткай, якую прывязалі да акна звонку хаты, нацягвалі і праводзілі па ёй рукой, у выніку чаго ў хаце чуліся даволі моцныя таямнічыя гукі.

РЭГЕ′ЛЯ *ж.* Від кломлі. *Рэґелею ловяць бродзіком.* Луткі. *Раґеля така з полозамі була.* Запясочча.

РЭДЗЬ *ж.* Рэдкае сеткавае палатно. *Зверху рэдзь, а у серэ́дзіне гушча.* Кароцічы.

РЭ′ДЗЬКА *ж.* Рэдзька. *Рэдзька горка, да едзяць, замужэм плохо, да ўсе ідуць* (прыказка). Старажоўцы. *Смачный мед і без рэдзькі* (прымаўка). Там жа.

РЭДЗЮ′ГА *ж.* Дзяруга, радно. *Редзюга.* Альшаны.

РЭ′ДКІ *прым.* 1. Рэдкі, вадзяністы. *Вару ґруцу дзецям рэдку, коб поелі.* Запясочча. *Не рэдкіе, густые картоплі нашы, смачные.* Дварэц. Нятлусты, слабой кансістэнцыі. *Колі рэдке молоко, то нема ні сыру, ні верха.* В. Малешава. 2. Лёгкі, няшчыльны, няцвёрды. *Рэдка ў іх зямля, нізковата.* Чэрнічы. Цестападобны. *Земля ста-*

*ла рэдкая, то стоўб упаў.* Сямігосцічы. 3. Не густы, з вялікімі прамежкамі. *Рэшэто рэджэйшо за сіто.* Аздамічы. *Рэдкі плот да куры лезуць у огород.* Луткі. *Рэдкэ полотно.* Хотамель. 4. Рэдкі, нячасты. *Рэдкім случаем вуп'е, а так то не.* Цераблічы. *Памянш.* р э́ д з е н ь к і. *Мед чысценькі, рэдзенькі.* Аздамічы.

РЭ′ДКО *прысл.* Рэдка, нячаста, мала. *Вон рэдко курыць.* Аздамічы. *Там ужэ рэдзей ходзіў вон грацi.* Цераблічы. *Белой рыбі стало ужэ редко.* В. Малешава.

РЭ′ДКОЕ *н.* Вадкае, юшка (у страве). *Раз хлеба укусеце, а рэдкого тры раз коўтнеце.* Сямігосцічы.

РЭДКОЗУ′БЫ *прым.* Рэдказубы (пра чалавека). *Редкозубы.* Кароцічы.

РЭ′ДКОСЦЬ *ж.* Рэдкасць, рэдкі выпадак, з'ява. *У рэдкосці найдзецца та стрэла* (грамавая). Сямурадцы.

РЭЖО′ЎКА *ж.* Стаўная сетка з двума палотнамі (рэдкім і густым). Запясочча.

РЭЖУ′ХА *ж.* Тое ж. Запясочча.

РЭЗ *м.* 1. Даўняя мера зямельнай плошчы, надзел (8 дзесяцін, 10 га). *Уся погосцька земля была розрезана на трыццаць два рéзы.* Пагост. *У мого бацька рэз буў.* М. Малешава. *Рэз — то чотыры чвэрткі.* Аздамічы. 2. Рэз, адзін праход пілой. *Шчэ хопіць на чотыры рэ́зы.* Аздамічы.

РЭЗА′К *м.* 1. Разак у плузе, прыплужнік. *Резак.* Альшаны. 2. Вузкалістая асака, разуха. *Е таке рэзучэ зелье, як поцягнеш руку, то порэжэ, то называем рэзак.* Сямігосцічы. *У болоце рэзак — трава така.* Мачуль.

РЭЗА′НІКІ *мн.*, рэдка р э́ з а н і к *м.* Зваранaя неабіраная бульба, парэзаная напалам. *Резанікі заре зварацца да повечэраём усе разом.* Пагост.

РЭ′ЗАНКА *ж.* 1. Парэзаная пры выворванні бульба. *Усе побороноуюць і рэзанку позбіраюць, а було свет картопляў.* Дварэц. 2 *мн.* Скрылікі бульбы і страва са скрылікаў. *Рэзанкі зварыла і зажарыла салом.* Луткі. Звараныя неабіраныя палавінкі бульбы. *Рэзанкі наварыла — такіх картопляў рэзаных з лупайкамі, посоляць і лупяць.* М. Малешава.

РЭЗА′НКА *ж.* Адрэзаны кавалак сала. *Шо ты велікімі рэза́нкамі сало порэзала на сковороду?* М. Малешава. Кавалак сала ў торбу. Бярэжцы.

РЭЗАНУ′ЦЬ *зак.* Адрэзаць, рэзнуць. *Рэзануў добрэ.* Запясочча.

РЭЗА′НЧЫК *м.* Скрылёк сала. *Рэзанчык на одзін раз*

*у рот. Укусі хлеба раз да рэзанчык сала укінь у рот.* М. Малешава.

РЭЗАНЫ′ *мн.* Звараная і пасоленая, перарэзаная напалам бульба (абіраная ці ў мундзірах). *Наварыла рэзаной, то не едзяць.* Верасніца. *Наберуць картоплей,налупець, да поперэрэзваюць наполам, зварaць — і гето рэзаны.* М. Малешава.

РЭ′ЗАЦЬ *незак.* 1. Рэзаць, забіваць чым-небудзь вострым. *Бандзюга кажэ: «Я цебе зарэжу». — «А зашчо ты мене рэзацімеш?»* В. Малешава. *На доха вам рыба, куры рэзце да езце.* Тураў. Крышыць. *Трэ будзе яблука рэзаць.* Хачэнь. Кроіць, наразаць. *Хлеб рэжуць, а цыбулю крышаць.* В. Малешава. *Хозяін трэ коб рэзаў хлеб.* Руткі. *Буў бедны, бацько ніткой хлеб рэзаў, а сын — жыве.* Сямігосцічы. *На ноч не почыналі хлеба рэзаць, крайчыка покладуць да ўсе.* Дварэц. *Будзьце хозеямі, рэжце хлеб.* Хотамель. 2. Пілаваць, разразаць на часткі (пілой). *Дрова рэжуць, а доскі піляць.* Аздамічы. *Трэба дрову рэзаць да колоць. Онно лес пілім на хату, ато ўсе рэжом.* Кароцічы. *Умелі строіць пілу, то добро рэзалі колоды.* Цераблічы. Наразаць (касой, сячкарняй і інш.). *То́локу робілі — сечку рэзалі, пралі.* Старажоўцы. 3 *перан.* Кусаць, моцна грызці. *Собака стаў його рэзаць за рукі.* В. Малешава. 4 *метаф.* Есці, жэрці. *Труцень богато рэжэ меду.* Цераблічы. 5 *экспр.* Бойка іграць (на музычным інструменце). *У кого это рэжуць польку?* Запясочча.

РЭЗА′ЧКА *ж.* Дызентэрыя, крывавы панос. *Як понос кроўяны, то зовемо резачка.* Бярэжцы. *Як з'есі зелень, то нападае рэзачка.* Альпень. *Чорніцы добрэ останоўляюць рэзачку.* М. Малешава. Рэзкі боль у жываце. *Шчоб цебе рэзала рэзачка по кішках* (праклён). Сямігосцічы. △ К р ы в а́ в а р е з а́ ч к а. Крывавы панос. *Крывава резачка напала на мене і на Ніку, помéр, а я росолу вупіла да жывá осталáса.* Пагост. Р е з а́ ч к а ё г о́ (і х і г. д.) в е́ д а е. Пра поўнае няведанне і нежаданне ведаць. *Як ето дзеці надумаліса рекý на кóнях переплоўваць, резачка іх ведае.* Пагост. Е к о́ е р е з а́ ч к і. Пра поўнае неразуменне. *Екое резачкі тобе заре по дрóву ехаць? Блі́скае, грыміць.* Пагост.

РЭ′ЗВОСЦЬ *ж.* Бойкасць, смеласць. *Трэбо подпоіць, шоб рэ́звосць брáла, ато хочэце, шоб спевалі на гóлу гóлоў.* Запясочча.

РЭ′ЗВУ *прым.* Бойкі, смелы. *Я молодá була рэ́зва.* Аздамічы.

РЭЗЕ'Ц *м.* Разец. *Рэзцэ́м робілі лóжкі, вырэзвалі з берэ́зніку.* Цераблічы. *Рэзцэ́м робіш ровéц, шоб упусціць дно.* М. Малешава.

РЭ'ЗКА *ж.* 1. Паласа, загон. *Колісь у кажного своя рэзка, у кажного свое коні.* Старажоўцы. *По полю ходзяць з рэзкі на рэзку з корогодом.* Хачэнь. *У нас лежаць дзве рэзкі сена скошэные.* Там жа. *Резка проса, резка пшэніцы.* Пагост. 2. Адрэзаная галінка. Аздамічы. *Памянш.* р э́ з о ч к а. *Рэзочкі колісь по усіх полёх булі.* Там жа.

РЭ'ЗКІ *прым.* 1. Рэзкі, востры. *Лучай рэзчэйшы, вон і вусохне, то рэзкі.* М. Малешава. 2. Шорсткі, шурпаты. *Точыло не рéзкэе.* Бярэжцы. *Рэзка проківа, як бач одмуецца посуда.* М. Малешава. Калючы, з вострымі гранямі. *Ешчэ трэбо, коб рэзкі песок буў, ек косы мéнцяць.* Луткі. Чысты, буйназярністы. *Рэзкі песок за гліноватой землёй ідзе, ек копаеш колодзезя.* В. Малешава. 3. Жорсткі (аб вадзе). *Тут рэзка вода, прыятна.* Дварэц. *У нас м'якка вода, не рэзкая.* Хачэнь. 4. Каварны. *Ціхая вода ў рэчцы, але рэзкая.* Кароцічы. 5. Ядраны. *Іншы ранок рэзкі, то ходзяць у чобоцях.* Любавічы. 6. Дзёрзкі. *Як була молода, то була рэзка, а як постарэла — як жаба облезла* (прыпеўка). М. Малешава.

РЭЗКІ' *мн.* Булён, суп з бульбы. *Му на снéданье навек рэзкі варым з грыбамі.* Кароцічы. *«Параска, дай рязóк»,— так цвеляць ольшанцоў.* В. Малешава.

РЭЗНІ'К *м.* Разнік, мяснік. *Колісь у нас рэзнік у Турове буў.* Луткі.

РЭ'ЗНІ'ЦА *ж.* Бойня, разніца. *Стоя́ць мужчыны коло магазіна, ек собакі под рéзніцэю.* Пагост. *Воны его прывучылі, ек собаку к рэзніцы.* Хачэнь.

РЭ'ЗНУ'ЦЬ *зак.* 1. Разануць. *Ножэм по горлу рэзну́ць можэ.* Аздамічы. 2 *экспр.* Стукнуць, ляснуць. Аздамічы.

РЭЗО'К *м.* Бондарская прылада. Запясочча.

РЭЗУ'ХА *ж.* 1. Разуха, вострalістая асака. *Сено робілі да ўсе рукі пообрэзвала той рэзухой.* Альпень. *Е ў нас і осокá, а то рэзуха.* Хотамель. 2. Рэзкі боль у жываце, дызентэрыя. *Шоб шчэ ее рэзуха зарэзала.* Хачэнь.

РЭЗУ'ЧЫ *прым.* 1. Рэзкі, востры. *Рэзуча та осокá, розрэжэ до косці.* Луткі. *Лучэ́й шырокі і рэзучы, вон у лозé росце.* Там жа. *Рэзучы, ек нож.* Цераблічы. 2. Чысты, перамыты (пра пясок). *Намóчыць ментушку да посыпле рэзучым песком з рэчкі, дай менціць кóсу, а бру-*

*со́м попраўляе жало́.* М. Малешава. *Трэбо, шоб песочэк буў гостры, рэзучы.* Альгомель.

РЭ′ЗЧЫК *м.* Хто пілуе дровы. Пагост.

РЭКА′ *ж.* Рака (часцей за ўсё Прыпяць). *Вон од лёду до лёду на рэцэ́, а ўжэ як закуе́цца рэка́, то на столюгах рэзаў.* Тураў. *Река Горы́ньская у мене поўз хату ідзе.* Д.-Гарадок. *Рыба ў рэццэ́, да не ў руццэ́* (прыказка). Аздамічы.

РЭМЕ′З *м.*, РЭМЕ′ЗА *ж.* Рэмез (птушка). *У рэмеза́ кубло сплеценэ.* Запясочча. *Рэме́за.* Бярэжцы.

РЭМЕЗО′ *н.* Гняздо рэмеза. *Нехто поглуміў рэмезо, то перэвіла́ птаха і жыве.* Пагост.

РЭМЕЗО′К *м.* Рэмез. *У рэмезка́ кубельцэ таке, шо дзівіса: рукавічка на зіму.* Запясочча. *Рэмезок зробіць кубло на ве́рбі, на ду́бі і повесіць на голінцы.* Сямігосцічы. *Кубло рэмезок-солове́йко зоўе́ коло людзей.* М. Малешава.

РЭМЕ′ННІК *м.* 1. Нейкая вадзяная расліна. *Зелье е ў водзе рэменнік.* Дварэц. 2 *мн.* Раменныя лапці. *Рэменнікі шылі з шкуры целячэй на подошве́, і воло́камі поддзе́ржываліса — ззаду там езычо́к буў.* Цераблічы.

РЭМЕ′ННЫ *прым.* Раменны, зроблены са скуры. Хачэнь.

РЭМЕ′НЬ *м.* Рэмень, вузкая палоска са скуры. *Рэме́нём прыв’язваецца біч к цыпоўну́.* М. Малешава. Раменная частка пугі. *На рэме́нь понавешвае ўсякіх шышо́к.* Верасніца. Папруга. *Спражка е ў рэмені́.* Цераблічы. *Памянш.* р э м е́ н ь ч ы к. М. Малешава.

РЭМЕНЯ′ЧКА *ж.* Раменьчык. *Рэменячка така, гужык у цэ́пе.* Любавічы.

РЭМЕ′СЛІВУ *прым.* Злаславы, непрыхільны, злапамятлівы. Бярэжцы.

РЭМЕСЛО′ *н.* Рамяство. *Кожу́хі шые, вот і рэмесло ў чоловека.* Запясочча.

РЭМЕ′ХА *ж.* Грубае самаробнае палатно, зрэб’е. *Са́ме тоўстэ́ полотно — рэмеха, з клоч’я. З рэме́хі мешкі, дзеругу, под ногі дорогі роб’яц.* Запясочча.

РЭ′МЖА 1 *м.* і *ж.* Плакса. *Чого, рэ́мжа, рэмжэш, докуль будзеш роўці?* Лутскі. 2 *мн.* Махры, абтрапаныя краі адзежы. *От зносіў світку, шчо рэмжы попуска́ла.* Луткі.

РЭ′МЖАЦЬ *незак.* Плакаць усхліпваючы; раўці. Аздамічы.

РЭ′МЗА *м.* і *ж.* Плакса. Луткі.

РЭ′МЗАЦЬ *незак.* Плакаць, румзаць. *Рэмзай ты не рэмзай, а на воз я цебе усе роўно́ не возьму.* Луткі. Крычаць (пра малое дзіця). *Рэмжэ дзіця.* Кароцічы. Раўці, рыкаць. *Рэмзае мое целя — хочэ бурака.* М. Малешава. Выдаваць гук, падобны на плач. *Пэ́кун рэмжэ, рэмжэ дай уніз.* Хотамель.

РЭ′МСТВОВАЦЬ *незак.* Злоснічаць, абгаворваць, ганіць. *Стала рэмствовасі на сестру.* Хотамель. *Зяць начаў рэмствоваць, шо ты много есі.* Мачуль.

РЭМУШО′К *м.* Раменьчык. Аздамічы.

РЭ′ПА *ж.* Рэпа. *Рэпу неку сеялі, два чугуны напарым да емо дзень, звалі паро́нкі.* Дварэц. *Коліся рэпу елі, а картохлі мало.* Хачэнь. *Памянш.* р э́ п к а. *Посей рэпку— ні густу, ні рэдку. Як посееш рэдко, то будзе з ее рэпка, а як посееш густо, то будзе з ее пусто* (даўняя прыгаворка, калі сеялі многа рэпы). Верасніца.

РЭ′ПАНКА *ж.* 1. Нешта парэпанае, патрэсканае. *Як якая неўмеха спечэ пірога, то вон росколецца, як рэпанка.* Старажоўцы. Сорт груш сярэдняй велічыны. *Рэпанкі — дулі лоўкіе.* М. Малешава. Сорт бульбы. *У картоплі рэпанкі е́мкі глыбокіе.* Дварэц. 2. Земляная жаба, рапуха. *Жаба-рэпанка така́ махіна.* Кароцічы.

РЭ′ПАНЫ, РЭ′ЙПАНЫ *прым.* △ Р э́ п а н а (р э́ й п а н а я) ж а́ б а. Земляная жаба, рапуха. *Рэйпаные жабы седзяць у трове.* Кароцічы.

РЭ′ПІНА *ж.* Рэпа. *Будзе век уро́знак, ек му грыбоў набралі под радка́мі, здоро́вуе, ек рэпіна.* Цераблічы.

РЭ′ПТУХ *м.* 1. Вялікая торба на корм каню ў дарозе. *Берэ́ рэ́птуха, як едзе ў дро́ва чоловек.* Запясочча. *У рэптух сыпалі ко́ням оўёс, як у лесе ночовалі.* Там жа. *Рэптух екраз ек кольбель з полотна, коню прыўяжуць да насыплюць сена з оўсом.* Дварэц. 2. Вялікі мяшок (для бульбы і інш.). Верасніца. 3 *перан.* Чалавек або жывёліна з вялікім жыватом. *Онё рэптух поўзс, скоро розваліцца.* Верасніца.

РЭПТУШЫ′ЛО *н. экспр.* Чалавек з вялікім жыватом, тоўсты. *От ты бахматэ рэптушыло!* Запясочча.

РЭ′СМУС *м.* Рэйсмус. Запясочча.

РЭТОВА′ЦЦА *незак.* Ратавацца, шукаць ратунку. Луткі.

РЭТОВА′ЦЬ *незак.* Ратаваць, даваць паратунак. *Ніхто нічым коліся не ратоваў дзіця, ек хворэ.* Верасніца.

РЭТУ′НОК *м.* Ратунак, паратунак. *Бувае без рэтунку умрэ.* Хачэнь.

РЭ'ЎЗА *м.* і *ж.* Плакса, крыкун. *Гэта рэўза навек рэве.* Аздамічы. *Рэўза така Надзя, плачэ, плачэ. Дайце такой рэўзе, шоб не рэўла.* Цераблічы.

РЭ'ЎЗАЦЬ *незак.* Плакаць, румзаць. Аздамічы.

РЭЎНІ'ВУ *прым.* Раўнівы. *То не рэўніву, то маловумны чоловек, розумны то не будзе рэўніву.* Запясочча.

РЭ'ЎНОСЦЬ *ж.* Рэўнасць, *перан.* зайздрасць, цяга. *Яка-то була ў мене рэўносць до груш.* В. Малешава.

РЭЎНУ'ЦЬ *зак.* Раўнуць, рыкнуць. *Корова реўнула ў хлеве.* Пагост. Моцна крыкнуць, закрычаць. *Ек рэўнуў п'яны на ўсе веселье.* Цераблічы. *Рэўнуў быў да подскочыў вышэй коня.* Аздамічы.

РЭЎЦІ' *незак.* Раўці, выдаваць працяглы і моцны гук. *Бук рэве.* М. Малешава. *Ек вуйду на двор, рэвуць мое целята.* Верасніца. Моцна выць. *Воўкі рэвуць, шо спасу нет.* Любавічы. Моцна крычаць, вішчаць. *Хай собе рэвуць свінья.* Сямігосцічы. Моцна пішчаць, скрыпець. *Зімою рэве под полозом.* Кароцічы. Моцна бурлець, шумець. *Ідзе вода, рэве, шум.* В. Малешава. *Як рэве вода з болота, то нам і рыба плуве.* Тураў. Моцна гусці. *Рэвуть пчолы, аж неможно.* Альпень. Моцна бурчаць. *Нешчо ў жывоце рэве і булькае.* Луткі. Моцна плакаць. *Дзень рэўла, покуль бацька не зробіў чоботы-дзерэўшкі, то ўжэ ўлескоўвала, шо подлога гнуласа.* М. Малешава. *Роў, роў дай плакаць стаў* (прымаўка). Луткі. △ Р о́ в о м р о ў ц і. Пра настойлівыя дамаганні. *Ро́вом роўлі, коб і ім купіла кра́мну сподніцу.* Хачэнь.

РЭ'ХВО *н.* Рэха. *Спевае, шо однэ рэхво далеко чуваць.* В. Малешава.

РЭ'ХТ *прыназ.* Накшталт, якраз. *Оводы́ там рэхт бі шэршні.* Сямігосцічы.

РЭ'ХТА *ж.* Канец, гатова. *Я не віджу, шо ўжэ рэхта.* Мачуль.

РЭЧ *ж.* 1. Мова, маўленне. *Отобрало рэч, ані пік.* Аздамічы. *От огазла, нема рэчы.* Там жа. Гаворка, размова, выказванне. *Нема тое рэчы, шчо раней була.* Сямігосцічы. *Тое рэчы нема, шо трэба.* Аздамічы. 2. Рэч. *Клопот, это набутна рэч.* Бярэжцы. *Печ — добра рэч* (прымаўка). Хотамель.

РЭ'Ч'Е *н.* Мова, маўленне, гаворка. *Яке рэч'е хоро́шэ ў тое дзевочкі, бач, яка мова.* Талмачава.

РЭ'ЧКА *ж.* Рэчка, доўгая пратока, роў з вадой. *Тут гора була обкопана речкой.* Д.-Гарадок. Старарэчышча,

запоўненая вадой даліна. *Малы́е озерца́ на болоці, то зовом віркі або рэ́чкі.* Аздамічы.

РЭЧНЫ′ *прым.* 1. Рачны, які расце каля ракі. *Рэчная ве́тла не хру́пкая, го́лейко то́ненькое.* М. Малешава. 2. Фанабэрысты, ганарлівы. *Вона пры Кірылу була надто рэчная — шчо-то я!* Лутکі. *Ек поставілі ее чоловека брыгадзером, то така речна́ стала, шо й не подступіцца.* Пагост.

РЭШО′ТА *ж.*, РЭШО′ТО *н.* 1. Стаўная рыбалоўная пастка. *Рэшота на ўюноў.* Хотамель. *Рэшота стаўля́ў у казенном лесі.* Кароцічы. 2. Рэшата. *Рэдко рэшото муку сеяць, а частое сіто зовэ́цца.* Мачуль.

РЭШО′ТКА *ж.* Рашотка ў пліце (Бярэжцы), у *посве́це* (Кароцічы), у лямпе (Верасніца), палатно у рэшаце (Бярэжцы).

РЭ′ШТА *ж.* Астатак, рэшта. *Дзень елі, а решту покінулі.* Пагост. *Этэ тут, а рэшта гусенят бегае за гусаком.* Цераблічы. *Пошлі рэшты зваць ко мне.* Аздамічы. *Возьмі рэшту з рубля.* Там жа. *Я тобе рэшту грошэй оддам.* Луткі.

РЭШЫ′ЦЦА *зак.* Рашыцца, прыняць рашэнне. *Я то не могу решыцца переехаць, ужэ гэтак седзе́ціму, нема ўжэ сілы.* Пагост. Намерыцца. *Я ўжэ рэшы́ласа спаць до обеда.* Хачэнь.

РЭШЫ′ЦЬ *зак.* 1. Рашыць. *Вон рэшыць любую задачу.* Бярэжцы. 2. Вырашыць, надумаць. *Рэшылі купіць корову.* Хачэнь. 3. Прыкончыць, ліквідаваць. *Дзеўкі іх рэшаць, тые яблука. Ты мене довела, я свое ўсе рэшыў і поехаў з села.* Хачэнь.

РЭШЭМЕ′ТА *ж.*, РЭШЭМЕТО *н.* Стаўная рыбалоўная пастка з уваходам у цэнтры. *Рэшэмета — таке рэшэто з дзірочкой, на ўюны ста́ўляць.* Луткі. *Рэшэметою ловяць рыбу, ека заходзіць з глы́ба.* Сямігосцічы. *Рэшэмета з хво́росту плецена, зімою лоўяць.* Аздамічы. *Решэме́то.* Альшаны.

РЭ′ШЭТО′ *н.* 1. Рэшата. *Рэшэто рэ́дке, а сіто густэе.* Запясочча. *Одваліў хлеба круглу лусту, ек рэ́шэто.* Стражоўцы. *Я казала — купі сіто, а вон купіў рэшэто́* (з песні). Сямігосцічы. *У его праўды, ек у рэ́шэце воды* (прыказка). Кароцічы. 2. Стаўная рыбалоўная пастка. *Круць, верць — под прыпечком смерць* (загадка). *Рэ́шэто на ўюны́* (адгадка). В. Малешава. *Нам учора ў рэ́шэто по́йно в'юноў налезло.* Кароцічы. *Такіе рэшо́та робілі ў полонку стаўля́ць.* Луткі. 3. Рашэтнік, падрашэтнік (?).

*Не беры гетэ рэ́шэто: вонэ не сма́чнэе.* Кароцічы. 4. Гульня, падобная да гульні ў класы. Велямічы.

РЭШЭТУ'Н *м.* Рашэтнік. *Ба́бкі е велізные, белые, тые рэшэтуны́.* Дварэц. *Рэшэтун такі жоўты грыб з дзірочка́мі.* Хачэнь.

РЭШЭЦІ'ЦЬ *незак.* Прыбіваць жэрдкі да крокваў. *Рэшэця́ць хату да ужэ по ётому рэшэце́нню крыюць ґо́нтою.* Пагост.

РЮ'МЫ *мн.* △ Рю́мы попусціць. Пачаць плакаць. *Шчо ты рюмы попусціў, ка́ге, як зазліцца здо́рово.* Альшаны.

# ТЭКСТЫ

## ВЯСЕЛЛЕ

### *У нядзелю-вянчальніцу*

У недзелю ўпарану прыедзе молоды ік молодой. Маршалок, сват... Прыедуць по молоду к венцу ехаць. І ужэ кладуць хлеб на стол. Не пірог, хлеб. Его ў молодое пеклі. Чырвоны такі, круглы. Старшы маршалок ці хто, шоб з ёго рукі мужчына,— церэз усю боханку. зрэжэ ножэм корку ету зверху, вурэжэ дзірку. Да свечкі ўставіць — ёго, ее, тоўстые, іх на коровае мужчыны ссучылі. Дружка горыном обоўяжэ, шоб не россоўваліса. Звяжэ старша сваха от ее свечкі полотном унізу, да нарадзяць етымі бумагамі да свецёлцы даюць. На рукі ёй перкаль, а на перкаль хлеб... У молодое ў косе лента. Одзежу вона сама шыла да на венец одзевала. А платок мацерын. Венок на ее голове з цветамі да лентамі, багато лентоў... Даўно колісь венка не було. Хустку заўязвалі — два рогі на шыі і два — на лоб, гўзом. Да ўжэ йдуць молодые на возы садзіцца, вона на свой, а вон на свой. Покром едуць ік венцу. Дружкі поўхорошваюць дугі кветкамі, шамшэлі коням на шыі повесяць. Да едуць у село, дзе цэркоў. А ек у своём селе цэркоў, то, бувало, й не ехалі, шлі. На веньчанне ёго і ее мацерэ не едуць. І бацькі не едуць. Едуць маршалкі, дружкі, цёткі, дзядзькі которые. Хросные мо й ехалі, але ў цэркоў не шлі. Прыедуць у село, дзе цэркоў, постаўяць коні ў екого хозяіна да пешкі ў цэркоў. Молоды под руку молоду да ў цэркоў да там розыйдуцца, вон у одзін бок, вона ў другі. А то маршалкі молодого ведуць, а дружкі молоду. Людзей чужых у цэркві — поўно. Стануць. Поп свечкі паліць, дае ім у рукі. Просцілку перэд прэстолом просцілаюць, полотно на просцілку. Бувало, дну наметку просцілалі. Свахі ці то дружкі. Маршалкі копейкі клалі. Постануць молодые на подножніку. Наметка ее, копейкі ёго. Маршалок над ім венца дзержыць, дружка над ею. Венцэ колерыстые булі, а на версі крэшчыкі позолочаные. Ек одным днем венчаліса, то на кажну пару свое венцэ. Поп знімае з палцоў кольца, ложыць на прэстол, почытае, поспевае, берэ тые кольца да ўжэ путае: «Не обешчаўса другой?» — «Не». — «Не обешчаласа другому?» — «Не». Мо й обешчаліса, але ж так казалі. Дай ёй ёго кольцо дае, ёму ее, подзержаць еку мінюту на своіх палцах іх да ўжэ назад меняюцца. Тры раз меняліса. Пітнуць віна даваў: ёму — ёй, ёму — ёй, ёму — ёй. Одным боком шоб пілі. Звяжуць молодым рукі платочком, поп рызою рукі накрывае да кругом прэстола водзіць, по сонцу, тры раз обуходзяць. Ззаду свецёлка хлеб з свечкамі несе. Да ўжэ к царскім вороцям молодые йдуць, вон кланяецца тры раз тым вороцям да цолуе іх, а дале вона. Свецёлка не шла к вороцям. От вуходзяць з цэркву да молода тэ полотно поцягла - а ногою ў порог, до звонніцы, а котора той на двор — шоб ето дзеўкі замуж хутко шлі. А котора і к прэстолу полотно тэ ці рушнік ногою грэбене — шоб не йшлі дзеўкі хутко замуж. Смехом. Дзеці хапаюць копейкі, да перву тую, на екуй молода стояла. Старос-

та тэе полотно собе, а просцілку свахі на воз, на ёй молодые садзіліса. Вуводзіць молоды молоду под руку з цэркву. Ек з цэркву вуходзяць, то свахі подойдуць к цэркві, спеваюць, мо то й дружкі з імі:

Да мецёна ёлонька дзеркачэм,
Да звеньчона наша дзевонька з панічэм,
Да з тым панічэм, шо ўчора буў
Да нашую дзевоньку полюбіў,
Да з правое ручэнькі персня зняў
Да занёс матухні показаў:
— Ето тобе, матухно, подаркі,
От мое Галі-коханкі.

Пешкі йдуць до воза, а воз на дворэ стояў чыём-то. Спеваюць.

Му ў цэркві бувалі,
Трое зеллёў відалі.
Однэ зелле — рута,
А другее — м'ята,
А трэйцяя — кветкі,
Звенчоные дзеткі.

На его воз сядуць да к ёй поехалі. На еты воз шчэ маршалок, дружка і свецёлка садзіліса, а на ее остатніе. Гуляюць, ек од венца. Спевалі:

Подзякуймо богу,
Погосцкому попу,
Шо двое дзеток звеньчаў,
Небагато за венец узяў.
Двое молодзенькіх
За чотыры золоценькіх.

Спевалі й таке:

Од венца, од венца,
От божого слоўца,
От божого краю
Да ў недзелечку рано.

А шчэ так:

Ішло дзіця од венца,
Не промовіш слоўца,
Руса коса до пояса,
Коснічок до долу,
Не говорыш зо мною.
Поясок жывоток ломіць,
Слоўца не промовіць.

І етак спевалі:

Од венца ідучы,
Загубіў Іванко онучы,
А Галочка збірала
Да Іванку оддавала.

І музыка, ек од венца. Колісь не гармонь, да смук. Хорошэ граў. І барабан буў. Танцуюць. До самое хаты гуляюць. На покуці посадзяць молодых. Поедзяць, шо на венцэ булі, да ўжэ вон зобіраецца до себе — з роднею, маршалком, свецёлкою. Едзе по свой воз, за короваём.

